ББК 84Бел7
К53
УДК 882.6-3+281.9:235.3

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1991 г.

Укладанне, прадмова і каментарыі
*Аляксея Мельнікава*

Навуковы рэдактар
царкоўнаславянскіх тэкстаў і іх перакладаў —
кандыдат філалагічных навук *Вячаслаў Чамярыцкі*

К $\frac{4702120101-009}{М 302(03)-94}$ 118—92

ISBN 5-340-00760-X

**Святы на малітве (вокладка)**

**Галава святой (франтыспіс)**

**Святы**

**Васіль Вялікі (?)**

**Святая. (На думку некаторых даследчыкаў— фрэскавы партрэт Еўфрасінні Полацкай)**

**Галава святой**



# Кнігі цудаў і вандраванняў

Будзь жа ўзорам для верных у слове, у жыцці, у любові, у духу, у веры, у чысціні.

*I. Цім. 4:12*

...шмат разоў я быў у падарожжах, у небяспецы на рэках, у небяспецы ад ліхадзеяў, у небяспецы ад супляменнікаў, у небяспецы ад паганаў, у небяспецы ў горадзе, у небяспецы ў пустэльні, у небяспецы на моры, у небяспецы сярод ілжэбрацціяў...

*I. Кар. 11:26*

...Умаўклівай зале рукапіснага аддзела бібліятэкі павольна гартаю пухлявы том каталога старажытных славянскіх манускрыптаў. «Кніга жыцій святых», «Пролаг», «Паломнік», «Кніга хаджэнняў» — такія і аналагічныя назвы вока спатыкае ледзь не на кожнай старонцы. І спакушаюць яны разгарнуць пажоўклыя аркушы і, углядаючыся ў выцвілыя рудаватыя літары плыннага паўустава ці вычварнага скарапісу, паглыбіцца ў паўзмрочны свет незвычайных прыгодаў і цудоўных праяваў, дзівосных паданняў, апісанняў невядомых краін...

«Кнігай жыцій і хаджэнняў» названа гэтае выданне, бо мае на мэце даць аматарам прыгожага пісьменства больш поўнае ўяўленне пра тую літаратуру цудаў і падарожжаў, якая задавальняла прагу кніжнага слова на працягу многіх стагоддзяў.

Творы, што ўвайшлі ў склад гэтай кнігі, розняцца між сабою не толькі часам напісання (паміж першым з іх і апошнім ляжыць пяць стагоддзяў), але і задачамі, стылем, характарам матэрыялу, аўтарскім бачаннем

свету. Сапраўды, хаджэнні і жыціі — жанры розныя, хоць чытач і знойдзе ў іх шмат агульнага, і нярэдка яны суіснавалі нават у межах адной аповесці. Аднак жа ёсць вельмі моцная сувязь не толькі паміж гэтымі жанрамі, а і паміж усімі помнікамі старой кніжнасці, і завецца яна: *свет старадаўняй славеснасці.*

* * *

Свет гэты бачыцца, нібы ў вячэрнім святле, «скрозь цьмянае шкло» стагоддзяў, што былі да нас. Устойлівая традыцыя арыентацыі больш як дзесяці пакаленняў на заходнееўрапейскі тып літаратуры і мастацтва прывяла да таго, што вытокі нацыянальнай культуры ўжо здаюцца нам экзатычнымі болей, чым, скажам, паэзія суфіяў ці мінезінгераў. Усходнеславянскае ж літаратурнае Сярэднявечча збольшага вядомае нам па «Слове пра Ігаравы паход» — творы хай сабе і геніяльным, але ж не адзіным і, апрача таго, зусім у рускай славеснасці не тыповым (ды і спрэчкі пра яго аўтэнтычнасць вядуцца не першы тузін гадоў). Прычына таму — няведанне спецыфікі даўняй літаратуры і марныя спробы адшукаць у ёй тое, чаго яна не мела і мець не магла. Адсюль і расчараванне, і памылковая ўпэўненасць, быццам кніжнасць славянскага Сярэднявечча можа быць сферай цікавасці толькі вузкага кола прафесіяналаў-медыявістаў. Гэта не зусім так: чытанне большасці твораў старога пісьменства не патрабуе адмысловае падрыхтоўкі, апрача, бадай, лінгвістычнай. Але, зрэшты, чытачу, які не часта звяртаецца да старажытнай літаратуры, трэба быць гатовым і да таго, што чытанне гэтае кнігі, магчыма, не будзе лёгкім. На пачатку свайго станаўлення, калі кніжнае, напісанае *слова* не стала будзённым, не згубіла адцення сакральнасці, чытанне (і тым больш — напісанне) таксама яшчэ не страціла значэння рытуалу, акта, асабліва калі казаць пра рэлігійныя тэксты, якіх была большасць. Успрыманне зместу не знаходзілася яшчэ, як цяпер, у межах падсвядома-вобразнага, а было разумовым. Слова, а не вобраз ці калізія, заставалася асноўнай інфармацыйнай адзінкаю, і вось цяпер, чытаючы старажытную аповесць, мы мусім стрымліваць паспешлівае сваё вока, што прывыкла ледзь датыкацца да паверхні фразы, раз-пораз вяртацца да ўжо «прачытанага», бо яго змест будзе штохвілінна выслізгваць з нашае свядомасці.

У старажытнасці ў кнізе шукалі не асалоды, а найперш — мудрасці. Дакладней, само чытанне ўжо было мудрасцю, і тагачасны вучоны з'яўляўся іменна кніжнікам. Старажытная літаратура мела інфарматыўны характар і была нешматслоўная, апрача жанраў, ад якіх чакалі якраз

красамоўства. Аднак лапідарная і надзвычай выразная, заснаваная на вельмі ўважлівых адносінах да сакральна-містычнага *слова* манера пісьма старадаўняга літаратара — не адзіная адметнасць пісьменства Сярэднявечча. Другая, не менш яркая асаблівасць,— яго рэлігійна-хрысціянскі змест і характар. Безумоўную большасць помнікаў даўняй літаратуры, асабліва часу яе станаўлення, складаюць творы гімнаграфіі, патрыстыкі, агіяграфіі, пісанні легендарна-хрысціянскага і службова-дыдактычнага характару. Прычына не толькі ў тым, што перапісваліся ўсе гэтыя кнігі найчасцей у манастырскіх скрыпторыях, але і ў поўнай іх адпаведнасці густам і запатрабаванням тагачаснага чытача і заказчыка.

Такім чынам, мяркуючы па колькасці твораў царкоўна-рэлігійнай літаратуры, змест гэтых твораў у асноўным задавальняў сярэднявечнага аматара прыгожага пісьменства. Ды толькі чаго шукаў у іх старадаўні чытач? Што так неадольна цягнула яго да тлумачэння біблейскіх прыповесцяў, да казаняў ці да жыцій святых?

Перш чым даць адказ, звернемся да гісторыі жыційнай літаратуры.

Імпульс да пачатку кніжнай справы на землях усходніх славян — Русі (Кіеўскай, Полацкай, Тураўскай і г. д.) быў дадзены візантыйскай культураю разам з прыняццем русічамі хрысціянства. Можна бясконца спрачацца ў ацэнках гэтай падзеі, але ж несумненна, што трансплантацыя літаратуры і філасофіі візантыйскага кшталту стала якасна новаю з'явай, якая на стагоддзі наперад вызначыла асноўныя тэндэнцыі развіцця нацыянальнай культуры ўсходнеславянскіх народаў. Візантыйская эстэтыка не адмовілася яшчэ ад набыткаў эпохі элінізму, хоць у параўнанні з ёю яна, можа, і здасца якасна ніжэйшаю. Але немэтазгодна само такое супастаўленне, бо адыход ад эліністычных традыцый у філасофіі, поглядах на чалавека і навакольны свет быў занадта катэгарычны, таму і не дзіўна, што павінны былі знайсціся новыя формы выяўлення ўсіх гэтых зменаў. Рэлігійныя, а часцей — дагматычныя (бо яны не здзіўлялі глыбінёй рэлігійнае думкі) спрэчкі замянілі вольную філасофію, а на змену прыгодніцкаму антычнаму раману прыйшоў хрысціянска-агіяграфічны, які потым і трансфармаваўся ў «жыціе». Такая схема, вядома, вельмі ўмоўная і, па сутнасці, не гаворыць ні пра гісторыю ўзнікнення жанру агіяграфіі, ці агіябіяграфіі* (гэты, больш дакладны, тэрмін выйшаў з ужытку на пачатку нашага стагоддзя), ні пра ягоныя прынцыпы.

---

* *Агіяграфія* — святапісанне; агіябіяграфія — святажыццепісанне, жыццяпіс (жыціе) святога.

Час узнікнення агіяграфічнай літаратуры цяжка вызначыць дакладна. Першыя «пасіёны» («страсці»), мартырыі* апавядалі пра пакутніцкую смерць тых вернікаў, якія пад час пераследу хрысціян вызнавалі, усведчвалі адзінага Бога — Хрыста. Іх запісваў у сваёй «Гісторыі» і імі карыстаўся пры яе напісанні Яўсевій Кесарыйскі, пісьменнік пачатку IV стагоддзя. Калі ж не лічыць агіяграфічным апавяданне пра смерць першапакутніка Стафана (Дзеі Апосталаў, 6—8), дык першы твор гэтага жанру пісаўся на самым пачатку III стагоддзя (203 ці 204—210 гг.) — у час антыхрысціянскіх рэпрэсій Септымія Севера; праўда, гэты пасіён Перапятуі і Феліцыты нясе на сабе адзнакі больш позняй эпохі — часу імператара Дэцыя. Адзначым між іншым, што першым усходнеславянскім арыгінальным (неперакладным) агіяграфічным творам быў таксама пасіён — летапіснае апавяданне пра забойства 12 ліпеня 983 г. варагаў Фядара і Іаана ў Кіеве. Тыповым мартырыем з'яўляецца і змешчаная ў гэтым зборніку аповесць пра трох пакутнікаў віленскіх. Напісана яна згодна з усімі законамі жанру: ёсць тут і адмаўленне выканаць паганскі абрад, і адкрытае спавяданне веры, і катаванне няломных неафітаў і іх смерць,— усё, што вызначае першыя рымскія жыціі.

Магчыма, першыя аповесці пра пакутнікаў і грунтаваліся на рэальных пратаколах допытаў хрысціян. Пасля ж, аздобленыя легендарнымі падрабязнасцямі, яны самі рабіліся легендаю, кшталтам хрысціянскай аповесці. У гэтым напрамку агіяграфія працягвала традыцыі элліністычнага рамана, які аформіўся ў асобны жанр да сярэдзіны другога стагоддзя новай эры. Пра сувязь жыція з антычнаю белетрыстыкай красамоўна і сімвалічна сведчыць тое, што галоўны персанаж аднаго з візантыйскіх жыцій (Галактыёна і Эпістыміі) быў сынам Леўкіпы і Клітафонта — герояў вядомага «прыгодніцкага» рамана Ахіла Тацыя (II ст.). Аўтар «пакутніцтва» Галактыёна і Эпістыміі, запрашаючы чытачоў паслухаць «дзіўнае і цудоўнае апавяданне», нібы вызначае, такім чынам, і мэту сваёй аповесці: даць не толькі павучальнае, але і займальнае чытанне.

З цягам часу элемент займальнасці, белетрыстычнасці ў агіяграфіі знікае, саступаючы месца прагматызму і схематычнасці апавядання, а вобразы персанажаў усё больш пазбаўляюцца індывідуальнасці, ідэалізуюцца, мадэлююцца з вядомага набору станоўчых якасцяў, аддаляюцца ад рэальнасці. Кожны з аўтараў запазычвае ў свайго папярэдніка

---

* *Мартырый* — сведчанне; адсюль — мартыралог.

вобразныя і кампазіцыйныя знаходкі, якія, пераходзячы з аднаго твора ў другі, робяцца традыцыйнымі, а потым асвячаюцца часам. Нават і не схільны да аналізу чытач пасля знаёмства хоць бы з нямногімі жыційнымі творамі заўважыць іх аднатыпнасць і рэгламентаванасць у будове, манеры апавядання, у адборы фактычнага матэрыялу і характарыстыцы дзейных асобаў. Ён убачыць, як у большасці жыцій пасля рытарычнага ўступу (дзе часцей за ўсё будзе формула самапрыніжэння) распавядаецца пра нараджэнне святога дзіцяці, у час якога нярэдка адбываюцца дзівосныя праявы і цуды (так было з Аўраамієм* Смаленскім). Аўтар абавязкова хоць колькі словаў ды скажа пра дабрачыннасць бацькоў святога, іх набожнасць і міласэрнасць, але наўрад ці назаве іх імёны.

Звычайна герой жыція яшчэ ў дзяцінстве выяўляе любоў да кніжнай навукі і веры Хрыстовае. Рэдка гуляе ён з іншымі дзецьмі, аддаючы перавагу малітве і спевам царкоўным. Калі гаворка вядзецца пра святога-манаха, дык яшчэ дзіцем ён прагне адзінокага жыцця дзеля Бога, і пасля смерці бацькоў (ці пры іхнім жыцці, але часта супраць бацькоўскае волі), раздаўшы, паводле вучэння Ісусава, майно ўдовам і жабракам, герой ідзе ў манастыр, дзе і прымае пострыг. У манастырскай келлі святы паказвае прыклад у пакоранасці, уміранасці і цярпення. Ён працуе дзеля Бога, праводзячы дні свайго жыцця ў посце, малітве, чуванні, чым дабіваецца прызнання і любові брацііі, ігумена і міран (часам — пасля шматлікіх выпрабаванняў, дэманавых спакусаў і нават ганенняў, як смаленскі архімандрыт Аўраамій). Азначаны Духам Святым, ён бачыць праявы, здзяйсняе дзівосныя цуды, гаворыць з ангеламі і шмат карысці духоўнай прыносіць усім, хто чуе ягоную казань, бачыць лад яго жыцця. Чытач даведаецца пра агульны змест і характар вучэння падзвіжніка, ягоны подзвіг, а ў канцы апавядання знойдзе пахвалу святому — мудрагеліста-шматслоўную, але найчасцей досыць невыразную. У ёй будзе і параўнанне героя са старадаўнімі святымі, і просьба маліцца за тых, хто шануе ягоную памяць, і рытарычныя заклікі да святога, яго бацькоў і яго роднага горада.

Адхіляцца ад гэтай агульнай схемы можа апавяданне пра святога пакутніка ці страстацерпца. Тут найбольшая ўвага засяродзіцца на апісанні пакутаў святога і яго пакарання. Герой, падтрыманы нябеснымі сіламі,

---

* Імёны падаюцца згодна з праваслаўнай традыцыяй: Аўраамій, Еўфрасіння, Кірыл і г. д.

з годнасцю вынясе ўсе катаванні, цвёрда будзе трымацца веры святой (рэдкі прыклад адваротнага — часовае адступніцтва Іаана ў жыціі літоўскіх пакутнікаў). Асноўнае ж ідэйнае адрозненне мартырыя ад уласна жыція-«біяса» трапна акрэсліў Пётр Безабразаў: «у першым выпадку — ідэальны момант, у другім — ідэальнае жыццё» («Византийские сказания». Ч. 1. — Юрьев, 1917).

Заўважыўшы гэтакі схематызм вобразаў і падзеяў, чытач запытае сябе: ці можна з даверам ставіцца да агіяграфіі, ці можна разглядаць жыціе як гістарычную крыніцу, наколькі яно адпавядае гістарычнай сапраўднасці? Марк Блок, французскі гісторык, прызнаючы, што шмат якія жыціі не даюць грунтоўных звестак пра тых асоб, чыё жыццё павінны яны паказаць, раіў, аднак, «пашукаць указанняў на асаблівы лад жыцця і мыслення ў тую эпоху, калі яны былі напісаны... і гэтыя жыціі зробяцца неацэннымі» («Апология истории».— М., 1986. С. 38). Сапраўды, рэгламентаванасць структуры, зместу, аўтарскай пазіцыі кніжніка-агіёграфа не выцеснілі з містычнага свету жыцій павеваў рэальнасці. Жыціі святых даюць унікальны сваім багаццем матэрыял пра ўмовы жыцця, светапогляд, асяроддзе, у якім жывуць іх персанажы, разгортваюць перад чытачом панарамную карціну найперш духоўнага жыцця эпох. Летапісам духу можна было б без асаблівага перабольшання назваць агіяграфічную літаратуру Сярэднявечча.

Хрысціянскага падзвіжніка характарызуе не проста жыццё пабожнае і ўміранае, але і свядомае, «гнастычнае», заснаванае на веданні Свяшчэннага Пісання выкананне запавету апостала Паўла: «Наследуйце Богу» (Эфес. 5:1; Філ. 3:17). Вось жа і паводле вучэння Клімента Александрыйскага шчасны той, хто выяўляе гнастычнае пакутніцтва, бо толькі такі чалавек дзейнічае згодна з евангельскімі прадпісаннямі. Таму не павінна здзіўляць, што пафас усяго жыцця і дзейнасці падзвіжніка заснаваны на пераймашні ідэальнага ўзору паводзін: старажытнага святога, пакутніка, апостала і, урэшце,— Хрыста. Аўтар-агіёграф таксама свядома пераймае літаратурны «ідэальны» ўзор — сказанне пра святога: біяс ці мартырый, а ў канчатковым выніку — Свяшчэннае Пісанне; у гэтым заключаны пафас жанру агіяграфіі. Таму ўжо ў адным з найстаражытнейшых мартырыяў — лісце Смірнскай Царквы — пакутніцтва Палікарпа выкладаецца ў поўнай адпаведнасці з пакутніцтвам самога Хрыста: арышт святога адбываецца ў вялікую суботу, ноччу, з дапамогаю ўзброенага натоўпу; у апавяданні фігуруе і здраднік-раб; ёсць і водгалас Ісусава малення аб

чашы («Хай жа спраўдзіцца Божая воля»); святога пакутніка вязуць на асляці (гэтак жа і Хрыстос уязджаў у Іерусалім у нядзелю кветную), а консул ускладае віну за смерць Палікарпа на народ (паралель: сімвалічнае мыццё рук Пілатам) і г. д.

Прыкладна тое ж мы бачым і ва ўсходнеславянскіх жыціях. Святая полацкая князёўна Еўфрасіння пераймае жыціе Еўфрасінні Александрыйскай, а ў самім тэксце яе жыція мы заўважым мноства алюзій на жыціе Еўфрасінні-Ізмарагда. Вось і святы Яфрэм, які напісаў жыціе Аўраамія Смаленскага, відавочна пераймае манеру Яфрэма Сірына, што апісаў жыццё Іаана Залатавуснага, а аўтар аповесці пра Меркурыя Смаленскага спасылаецца на жыціе Меркурыя Кесарыйскага (і ўвогуле, акалічнасці подзвігу двух гэтых святых настолькі падобныя, што шэраг даследчыкаў лічаць смаленскага пакутніка хутчэй народнай легендай, чым гістарычнай асобаю, а само сказанне пра яго — вынікам «перасадкі» на ўсходнеславянскую глебу апавяданняў пра велікамучаніка Меркурыя Кесарыйскага). Дарэчы будзе адзначыць, што і дні шанавання памяці гэтых святых (ці выпадкова?) прыпадаюць на адзін час — 7 снежня.

Падобная аднатыпнасць жыцій — гэта не столькі адметнасць жанру, колькі асаблівасць тых з'яў, якія яны адлюстроўваюць. Таму і варта весці размову не пра «кананічнасць» жанру агіяграфіі, а пра «кананічнасць» саміх жыццёвых сітуацый; жыційны канон другасны ў адносінах да рэгламентаванай схемы самога жыцця персанажа. Аўтар жыція святога зусім не выдумляў апавядання, напрыклад, пра пабожнае дзяцінства свайго героя, нават калі і не меў неабходных звестак пра гэта, і не проста ўстаўляў у тэкст адпаведную падрыхтаваную папярэднікамі формулу. Ён упэўнены, што святы *павінен* быў паводзіць сябе такім чынам у той ці іншай сітуацыі (бо інакш не стаў бы святым!). Падобная «ўстаўка» з'яўляецца, такім чынам, не прыдумкаю, а хутчэй «біяграфічнай гіпотэзаю» (Ключэўскі).

Мноства гэткіх «біяграфічных гіпотэз», якімі насычаны ўсе творы агіяграфіі, чытач зможа знайсці і ў жыціях, апублікаваных у гэтым зборніку. Ён пазнае іх у паведамленні пра «сватанне» Еўфрасінні і ў размове яе з княгіняй Раманавай; у ціхмянай пакорлівасці страснага і энергічнага смаленскага архімандрыта Аўраамія, у плачы перад абразом мужнага ваёўніка Меркурыя, у апісанні апошніх гадзін Антонія Віленскага — усе гэтыя згадкі прадыктаваны аўтару пэўным агіяграфічным «этыкетам» і падпарадкаваны адзінай асноўнай ідэі жыційнага жанру: сцверджанню хрысціянскага этычнага ідэалу на прыкладзе ўшанаваных у творы асобаў. Менавіта таму аўтар апісвае толькі кульмінацыйныя моманты з жыцця

свайго героя, выключаючы з твора ўсё, што, на ягоную думку, магло б пашкодзіць успрыманню гэтай задумы. Менавіта таму іншыя, «другарадныя» персанажы пададзены так эскізна: акружэнне галоўнага героя — толькі антураж, дэкарацыя, патрэбная не сама па сабе, а як аб'ект дзейнасці святога. Бадай, выключэннем з гэтага правіла з'яўляецца ў жыціі Еўфрасінні Полацкай эпізод падарожжа не «слугі» Міхаіла па абраз Багародзіцы,— эпізод, які ператварыўся ледзь не ва ўстаўную мікранавэлу. У асноўным жа герой агіяграфіі «эгацэнтрычны», як ніякі іншы герой любога іншага літаратурнага жанру. І таму цалкам зразумела, чаму ў розных тэкстах аднаго і таго ж жыція можа быць нават розная колькасць дзейных асобаў.

Аповесць пра Меркурыя Смаленскага дае гэтаму надзвычай красамоўны прыклад. У некаторых тэкстах аповесці апавядаецца пра такі выпадак: калі Меркурый, ужо са спятаю галавою, вяртаўся ў горад, яго спаткала дзяўчына, што ішла ў гэты час па ваду; убачыўшы абезгалоўленага ратаборца, яна пачала насміхацца з героя. Эпізод не звязаны з папярэднім апавяданнем. Ён не мае працягу; магчыма, гэта своеасаблівае водгулле мікрасюжэта, які чытаўся ў больш ранніх рэдакцыях аповесці (мы ўжо не будзем казаць, што і шмат якія іншыя эпізоды гэтага помніка ў розных яго рэдакцыях чытаюцца па-рознаму, напрыклад, забойства героя і смерць Батыя «в Уграх»). Але, нягледзячы на адрозненні, нязменнымі нават у дэталях застаюцца сюжэты пра самае значнае: дзіва ад абраза Багародзіцы, подзвіг героя ў яе імя ды «ідэальная» характарыстыка самога Меркурыя.

Усё гэта заканамерна. Агіяграфія — жанр рэлігійна-хрысціянскага мастацтва, таму і адносіны аўтара да адбору і афармлення фактычнага матэрыялу спецыфічныя. Дзеянне ў жыціі разгортваецца нібы па-за зямной прасторай і часам, а дакладней — над прасторай і часам. Кніжнік-жыццепісальнік можа ў асобных выпадках замарудзіць апавяданне: апісанне якой-небудзь нязначнай, на нашую думку, з'явы, падзеі выкладаецца ледзь не па хвілінах, у дыялогу фіксуецца кожнае слова і г. д. (прыгадаем размову Еўфрасінні Полацкай з епіскапам Ільёю). І наадварот: побач у жыціі могуць стаяць эпізоды, якія ў рэальным жыцці былі раздзеленыя гадамі і нават дзесяцігоддзямі: «І так пачала тая (Звеніслава Барысаўна) жыць у манастыры ў малітвах, з адзінаю думкай пра Бога (каля 1128 г.). І былі яны, як адна душа ў двух целах. І пасля заснавала Еўфрасіння царкву каменную святога Спаса, і збудавалі тую царкву за 30 тыдняў» (каля 1155 г.). Такая часавая ўмоўнасць тлумачыцца тым, што

кніжнік-агіёграф і не ставіў перад сабою задачу строгай фіксацыі ўчынняў героя, не меў на мэце напісаць яго біяграфію. Жыціе — не жыццяпіс; адлегласць між біясам і біяграфіяй такая ж, як між абразом і партрэтам.

Аўтарства параўнання жыція з абразом належыць В. Ключэўскаму, і яно настолькі трапнае, шматграннае, што можна было б сказаць: абраз — гэта статычная выява героя ў ягоным жыціі, а жыціе святога — яго дынамічны абраз. Тут заўважым, што некаторыя абразы, напрыклад Віленскіх пакутнікаў, маюць «клеймы», дзе адлюстраваныя найбольш значныя моманты з жыцця святых. І наадварот: некаторыя аўтары спрабуюць абмаляваць знешнасць свайго персанажа ў яго статыцы, узгадніўшы жыційны партрэт з іканапісным «подлинником» (так называліся зборнікі настаўленняў «багамазам» — як пісаць аблічча і постаць тога ці іншага святога). Яфрэм, аўтар жыція Аўраамія Смаленскага, так апісвае знешні воблік настаўніка: «А абліччам падобны быў да Васілія Вялікага: меў такую ж чорную бараду, хіба толькі плех быў на галаве». Пры гэтым ён быў упэўнены, што кожны ведае, як выглядаў Васілій Вялікі. Спроба наіўная (і гэта ўсведамляе сам аўтар), аднак жа адна з першых у айчыннай літаратуры і, бадай што, першая ў агіяграфіі.

Іканапісцы і агіёграфы карыстаюцца (кожны сродкамі свайго майстэрства) аднолькавымі прыёмамі апісання герояў і антуражу. Умоўная залатая асноведзь, ляшчадныя горкі і выявы будынкаў у іканапісе адпавядаюць умоўнаму, поўнаму «агульных месцаў», традыцыйных формул апісанню персанажаў жыція. Статычныя, выкананыя ў адной плоскасці, нібы павіслыя ў паветры, аддаленыя ад зямной паверхні выявы святых на славянскіх абразах аналагічныя статычным апісанням і характарыстыцы герояў агіяграфіі. І агія-, і іканаграфія аднолькава прасякнуты пафасам пераймання і ідэалізацыі; іканапісцы і кніжнікі аднолькава рэдка выходзяць за межы традыцыі. Нават стылі ў іканапісе і жыціях змяняюцца амаль сінхронна і ў аднолькавых накірунках.

Старажытны перапісчык, калі ён меў хоць мінімальны літаратурны талент ці нават не меў ніякага, рэдка проста «тыражаваў» той ці іншы твор. Ён ставіўся да тэксту досыць вольна: мог змяняць яго, кіруючыся сваім густам альбо густам замоўцы, мог па-свойму расставіць акцэнты, скараціць ці, наадварот, дапоўніць пэўныя эпізоды і г. д. Згодна з патрабаваннямі часу, кніжнік-рэдактар змяняў стыль аповесці: аздабляў яе рытарычнымі прыўкрасамі ці, наадварот, пазбаўляў ад іх. Падлягаць «рэвізіі» магла, нарэшце, і фактаграфія твора. Такая практыка вынікала з надзвычай слаба выяўленага аўтарскага пачатку і прыводзіла да ўзнік-

нення новых рэдакцый таго ці іншага помніка: стылёвых, фактычных, ідэалагічных. Зазвычай аповесці, што мелі хоць нейкую папулярнасць, дайшлі да нас не меней, чым у дзвюх, найчасцей — трох і болей рэдакцыях. Што да жыцій святых, дык яны, апрача трох пералічаных, маюць і яшчэ адзін тып рэдакцый — пролагавы.

Яшчэ раннехрысціянскія абшчыны, паводле наказу святога апостала Паўла «згадваць настаўнікаў, што неслі нам слова Божае» (Яўр. 13:7), пачалі збіраць звесткі пра жыццё падзвіжнікаў новае веры, дакладней, пра іхнюю смерць. Спачатку проста пералічваліся імёны пакутнікаў, якія змяшчаліся ў адпаведнасці з днямі іх памінання і складалі «календары», або «дыптыхі». Але з цягам часу ўзнікла патрэба ў канкрэтызацыі звестак пра таго ці іншага святога, бо павялічылася іх колькасць (афрыканскі мартырый IV стагоддзя налічваў, напрыклад, 60 імёнаў). Апрача таго, святыя часта мелі аднолькавыя імёны, ды і празелітам быў патрэбны своеасаблівы «наглядны дапаможнік» па новай веры. Так і ствараліся зборнікі падрабязных аповесцяў пра жыццё і подзвігі святых — міналогі для чытання («Чэцці Мінеі») ці зборнікі кароткіх апавяданняў, што мелі на мэце проста ўшанаваць памяць святога ды ў самых агульных рысах распавесці пра ягоную дзейнасць,— «сінаксары», або «пролагі».

Уласна, «пролагі» (названыя так у выніку памылкі не дужа вучонага перакладчыка) змяшчалі ў сабе творы самых розных жанраў: рэлігійныя і дыдактычныя прыпавесці, звесткі пра царкоўныя святы і інш. Але пачэснае месца займалі там скарочаныя жыції святых. Магчыма, «скарочаныя» — гэта не зусім трапнае вызначэнне, бо пролагавыя жыції маглі апярэджваць стварэнне пашыранах рэдакцый альбо ўвогуле заставацца адзінымі. Нягледзячы на шэраг спецыфічных рысаў, пролагавае жыціе будуецца паводле тых самых законаў, што і пашыранае (параўнайце з пашыранымі пролагавае жыціе Кірыла Тураўскага і аповесць пра віленскіх пакутнікаў, змешчаныя ў гэтым зборніку).

Пролагавыя жыції, калі яны не з'яўляюцца скарочанымі формамі пашыраных, часцей за ўсё маюць толькі адну рэдакцыю. Сказанне пра Іаана, Антонія і Яўстафія — выключэнне, прычына якога ў незвычайнай гісторыі стварэння аповесці. Наадварот, калі «пролагавае» жыціе ўзнікла шляхам скарачэння пашыранага тэксту, яно можа мець некалькі рэдакцый. Так, захаваліся дзве пролагавыя рэдакцыі жыція Еўфрасінні Полацкай, створаныя ў розны час рознымі аўтарамі, якія карысталіся рознымі прынцыпамі скарачэння пашыранага тэксту. Увогуле ж, існуе яшчэ чатыры рэдакцыі жыція полацкай князёўны-манашкі, у асноўным стылё-

выя з прыкметамі ідэалагічных зменаў. Так, у тэкстах жыція, што змешчаныя ў «Кнізе Ступеннай царскага радаслоўя», рэдактар адмыслова падкрэслівае, што генеалогія Еўфрасінні пачынаецца з Уладзіміра Кіеўскага («Быў у Полацку князь Усяслаў, сын Брачыслава, унук Ізяслава, праўнук вялікага і роўнаапостальнага Уладзіміра. Той Усяслаў меў многіх сыноў, і быў у яго меншы сын імем Георгій, ад якога і нарадзілася шчаснае тое дзяўчо»). Гэтая звестка выклікана самім накірункам Ступеннае кнігі — ідэалагічнага «сцягу» тэорыі «Масква — трэці Рым». Асоба ж полацкай асветніцы Еўфрасінні, прапраўнучкі Уладзіміра Хрысціцеля, у пэўнай ступені нібыта магла апраўдаць імперскія амбіцыі маскоўскіх цароў.

Значная колькасць (шэсць) рэдакцый жыція Еўфрасінні Полацкай — не выключэнне: па некалькі (ад трох да пяці) вядомых сёння рэдакцый маюць і жыціі Меркурыя і Аўраамія Смаленскіх, ды і ўвогуле большасць старажытных усходнеславянскіх жыцій. Перад чытачом, які цікавіцца гісторыяй нацыянальнай культуры, непазбежна паўстане яшчэ адно пытанне: дзе ствараліся жыціі, змешчаныя ў гэтай кнізе?

У перыяд феадальнай раздробленасці і аж да Макар'еўскіх сабораў 1547 і 1549 гг. святога шанавалі звычайна ў той мясцовасці, дзе ягоная рэпутацыя вызначыла сам кананізацыйны акт: «каяждо убо страна и град блажит, и славит, и похваляет своих чудотворцев». Функцыі святога як «стража, и хранителя, и заступника» абмяжоўваюцца тэрытарыяльнымі межамі горада, манастыра: нагадаем пасмяротнае дзіва Меркурыя Смаленскага, калі святы наказаў гараджанам павесіць над ягонай трунолю шчыт і кап'ё, каб у часіну небяспекі даў «Госпад Бог перамогу ад гэтае зброі». Вось чаму можна з упэўненасцю меркаваць, што жыціі ствараліся там, дзе жылі і ўшаноўваліся галоўныя іх персанажы: у Полацку, Тураве, Смаленску.

* * *

Людзі Старога Часу падарожнічалі няшмат. Кожная такая, поўная небяспекі вандроўка цягнулася вельмі доўга; добра,як хуткасць складала 40 кіламетраў у суткі. Але затое падарожнік мог больш уважліва агледзецца вакол. З прычыны сваёй незвычайнасці і нават выключнасці падарожжа было падзеяй, вартаю апісання. Даўні чытач таксама цікавіўся такімі творамі (пра іх папулярнасць сведчаць паўтары сотні спісаў, што дайшлі да нашых дзён), бо яны давалі рэдкую магчымасць даведацца пра іншыя землі і норавы, пагатоў апавядальнік, не заўсёды спрактыкаваны ў прыгожым пісьменстве, непасрэдна і проста, без дыдактызму і краса-

моўных прыўкрасаў, спрабаваў дакладна, а часам залішне дакладна, апісаць падзеі, сведкам ці ўдзельнікам якіх быў ён сам. Такім чынам, па жанравай сваёй сутнасці падобныя эпічна-апавядальныя творы былі падарожнымі нарысамі (апрача некаторых, найчасцей перакладных, легендарна-апакрыфічных апавяданняў). У залежнасці ад таго, якую мэту ставіў перад сабой вандроўнік — а падарожнічалі пераважна гандляры, як Афанасій Нікіціч, чыноўнікі, духавенства, як Ігнацій Смалянін, дыпламаты, а пазней і адукаваная моладзь у пошуках ведаў, як Францыск Скарына Тэадор Білевіч ці проста заможныя аматары прыгодаў або авантурысты,— у залежнасці ад гэтага і самі нарысы называліся «хожением», або «путником», «странником», «паломником» ці «посольством».

Асобным жанрам «хаджэнне» стала на самым пачатку XII стагоддзя, хоць дарожныя запісы, пэўна, вяліся і раней. Ужо ў хаджэнні ігумена Данііла (каля 1104—1107 гг.) вызначыўся асноўны накірунак жанру: больш-менш дакладнае апісанне прыроды і эканомікі і асабліва — помнікаў хрысціянскай культуры Бліжняга Усходу, а разам з тым і пераказы падзей стара- і новазапаветнай гісторыі, звязаныя з пэўнай убачанай рэліквіяй ці мясцінай. Богуспадобнае паломніцтва ў Іерусалім, учыненае, каб амыць пыл са стомленых падарожжам ног у Іардане, датыкнуцца вуснамі да Госпадава гроба (тут ізноў нагадаем жыціе Еўфрасінні Полацкай) і наведаць іншыя святыя мясціны, магчыма, і было асноўнаю мэтай паломнікаў. Аднак з XIV стагоддзя, пачынаючы з Ігнація Смаляніна, гэтым падзеям надаецца ўжо значна меншая ўвага, а яшчэ праз два стагоддзі іх апісанні і ўвогуле амаль што знікаюць. Гэта цалкам вытлумачальна, бо, як і любы іншы жанр, «хаджэнне» нясе на сабе палітычныя, этычныя і ідэалагічныя адзнакі свайго часу.

Жанр хаджэнняў нібы стаіць паміж царкоўнай і свецкай літаратурaю, і з развіццём грамадства рухаецца ў напрамку ад першае да другой. Ігнацій Смалянін хоць і аддае перавагу аповяду пра рытуал каранавання ці пра тую непрыемнасць, што здарылася з падарожнікамі ў Азове, не можа адмовіцца не толькі ад апісання хрысціянскіх святыняў, але і ад вымярэння часу па царкоўным календары. Ды што Ігнацій! Праз сто гадоў цвярскі гандляр Афанасій час вымяраў, калі мог, па царкоўных святах ды наракаў больш за ўсё на тое, што пад час падарожжа грашыў, не шануючы (бо не меў календара) ні посту, ні Вялікадня, ні Нараджэння Хрыстовага!

Увогуле ж, у хаджэннях можна выдзеліць два асноўныя прынцыпы пабудовы апавядання — часавы і прасторавы. Не заўсёды можна пага-

дзіцца з меркаваннем, што першы з іх больш уласцівы творам «свецкага» накірунку, а другі — «рэлігійнага», бо свецкая «перэгрынацыя» (паломніцтва) М.-К. Радзівіла пабудаваная якраз на прасторавым прынцыпе, ды і часавы прынцып не абмяжоўваецца адным датаваннем той ці іншай падзеі. Калі глядзець на праблему шырэй, дык часавы прынцып прасочваецца ў шматлікіх «экскурсах» у гісторыю пэўнай рэліквіі ці святой мясціны. Аўтару хаджэння мала проста распавесці пра наведанне святыні — трэба хоць колькі словаў сказаць, чым яна славутая: «І пайшлі ў манастыр святога Афанасія патрыярха, якому дала посах на патрыярства святая Багародзіца...» Ды і ўвогуле, неабходным элементам паломніцкіх хаджэнняў стала біблейская або апакрыфічная легенда, якая, зліўшыся з тапаграфічнай нататкаю, і вызначыла адметнасці жанру.

Задачы жанру абумовілі і выпрацоўку сістэмы пэўных стылёвых прыёмаў, якія выкарыстоўвалі аўтары хаджэнняў. Гаворачы пра гэтыя прыёмы, неабходна найперш адказаць на пытанне: ці меў аўтар на мэце далейшае пашырэнне свайго твора сярод чытачоў. Адказаць часам бывае надзвычай проста. Напрыклад, М.-К. Радзівіл спрабаваў даказаць, быццам ягоны твор — гэта проста дзённік у форме лістоў да сябра, аднак задуму аўтара адразу выдае штучнасць канструкцыі, вытанчаны стыль у духу рэнесансных традыцый, прадуманая стройная кампазіцыя. І наадварот: запісы Білевіча — гэта якраз дарожныя нататкі, дзе аўтар проста і непасрэдна, не хаваючы сваіх прыхільнасцяў і антыпатый, будзённаю моваю з прэтэнзіяй на адукаванасць (з'ява ў XVII стагоддзі звычайная), не дбаючы пра стройнасць кампазіцыі, выкладае свае ўражанні. Зрэшты, некаторыя недакладнасці выдаюць у Білевічу не надта педантычнага падарожніка.

Больш цікавы лёс напаткаў апісанне паломніцтва Ігнація Смаляніна. Захавалася дзве рэдакцыі гэтага хаджэння, аналіз якіх дае падставы сцвярджаць, што тэкст першай з іх і быў падарожным дзённікам святара-вандроўніка; тэкст жа другой, пазнейшай, з'яўляецца перапрацоўкаю пачатковага тэксту, зробленай, каб унесці яго ў хранограф. Гэтая рэдакцыя хаджэння мае ўсе прыкметы ідэалагічнай карэкціроўкі: у ёй, напрыклад, няма эпізоду пра дварцовы пераварот 1393 г. у Візантыі, пісаць пра які пад час каравання Іаана Грознага (якраз тады стваралася гэтая рэдакцыя) было б неразумна.

Урэшце, нават аўтары твораў, не прызначаных для далейшага пашырэння, часам маглі даць узоры вельмі зграбнага, вытанчанага стылю, поўнага рытарычных упрыгожанняў, з ускладненым сінтаксісам, з рытмічна

арганізаванаю моваю. Але падобныя прыклады досыць рэдкія: аўтар не разлічваў на тое, што хто-небудзь некалі ацэніць яго красамоўства. Усё зусім іначай, калі падарожнік меркаваў пасля абнародаваць свой твор. Мы маем добрую магчымасць праілюстраваць гэтае правіла прыкладам з хаджэння Ігнація Смаляніна ў розных яго рэдакцыях (першаю падаецца больш ранняя):

И стояху на два лика, имеяху на себе ягаты багряна бархата, а друзии вишневого бархата. И един лик имеяше знамя на персех женчюгжен, а друзии свое знамя имешя на всех равно.

И стоаху на два лика, кождо своеа земля знамя имеаху на себе и одеаниа: овии багряны бархаты, а друзии вишневы бархаты, а инии темносини бархаты, а инии черни бархаты, вся же старческим чином, не щаплива; сице же и знамяна имеаху, кайждо лик свое знамя имеаше, на персех ношаху: овии жемчюжен, овии обручь злат на шии, овии чепь злату на шии и на персех, а друзии свое знамя, а инии свое знамя; кайждо, лик, вси равно свое знамя имеаху.

Мова хаджэнняў, якая мае безліч іншамоўных словаў і выразаў, разам з тым пазбаўленая абстракцый і мудрагелістай аздобы, дакладная і не надта насычаная выяўленчымі сродкамі. Толькі зрэдку сустракаюцца тут трапныя метафары; пераважаюць усё ж традыцыйныя канструкцыі. Затое аўтары могуць дакладна паказаць шлях свайго падарожжа, вымерыць адлегласці паміж гарадамі («14 міляў, якія складаюць сем нашых» у Білевіча) альбо нават памеры будынкаў (напрыклад, педантычнае паведамленне Ігнація Смаляніна: «Хадзілі мы на вярхі святой Сафіі і бачылі сорак акон шыйных і змерылі акно са слупам, і аказалася два сажані без дзвюх пядзей»). Аўтары хаджэнняў шчыра і непасрэдна здзіўляюцца заморскім дзівосам: Білевіч апісвае «фіглі» ўпершыню пабачанага слана, Радзівіл — «марскога каня» (гіпапатама)... Яны ахвотна распавядаюць пра пышныя цырыманіялы іншаземных двароў: змену каравула ў каралеўскай рэзідэнцыі або каранаванне імператара Мануіла. Не пакідаюць вандроўнікі па-за ўвагаю ні палітычныя падзеі ў чужой краіне, ні адзенне яе жыхароў, ні іхнія звычаі, характары, забабоны (прыгода М.-К. Радзіві-

ла з муміяй). Яны ўштукоўваюць у свае запісы цэлыя мікранавелы (пра суддзю і чарнакніжніка, што шукаў скарб), легенды, у тым ліку і біблейскія (у Радзівілавай «перэгрынацыі» ў такіх выпадках даюцца дакладныя спасылкі на Свяшчэннае Пісанне), анекдатычныя выпадкі (пра кухара, якога па адзенні прынялі за святара). Аўтары могуць падрабязна, да драбніц перадаць якую-небудзь другарадную размову (Ігнація з мітрапалітам у Азове), але пры апісанні землятруса альбо шторму абмежавацца параю агульных фраз. Часам у творы змешчаны дакументы (Радзівіл падае лісты рымскага папы Грыгорыя XIII ці нават надпісы на надмагіллях) або разважанні доследнага характару.

Такая «мазаічнасць» хаджэнняў магла б здацца чыстай эклектыкаю, калі б апавяданне не было сцэментавана асобаю самога аўтара-вандроўніка — мужнага, цікаўнага, надзвычай назіральнага, не абдзеленага літаратурным талентам і вельмі абаяльнага.

* * *

Восемсот гадоў аддзяляе нас ад часу стварэння найбольш ранняга са змешчаных у гэтым выданні твораў. Восем стагоддзяў. Сорак пакаленняў. Большасць нашых сучаснікаў ужо не верыць ні ў азнакі дзівосныя, ні ў цудадзейныя абразы. Яны толькі іранічна ўсміхнуцца «вялікаму доказу, што піраміды яўрэі будавалі», а «шлях Донам-ракою да мора, а морам да Цараграда» займае цяпер не тыдні — гадзіны.

Вось жа і запытаюцца яны ў саміх сябе: ці варта марнаваць хуткаплынны час, перагортваючы старонкі гэтае кнігі. Што новага могуць даць сэрцу і розуму містычныя праявы святога Меркурыя, дыдактычная казань полацкай Еўфрасінні?

Можа, і нічога... акрамя магчымасці зведаць, што думалі, чым захапляліся нашы далёкія і не вельмі далёкія продкі, у што верылі, чым ганарыліся, што любілі, чым грэбавалі. А гэта, далібог, не так і мала!

Нашы продкі жывуць, пакуль раскрываюцца драўляныя, у падрапанай скуры кніжныя пераплёты, пакуль хоць чыёсьці вока ўглядаецца ў бляклыя літары, у якіх — думы, і мары, і спадзяванні. Кнігі гэтыя даюць нам апошні і з кожным годам усё меншы шанц аб'яднаць нашы пачуцці з пачуццямі тых, хто быў у вяках да нас, аб'яднаць — і ў здзіўленні прамовіць словам апостала: «Вы — святло свету! Хай жа свеціць святло ваша перад людзьмі!»

*Аляксей Мельнікаў*

Месяца маия в 24 день

Повесть жития и преставления святыя и блаженныя и преподобныя Еуфросинии, игумении манастыря Святаго Спаса и Пречистыя Его Матере, иже в Полотьсце граде

Благослови, Отче!

Благословен Господь Бог Израильв, Бог Авраамов, Бог Исааков, Бог Иаковль, несть Бог мертвых, но живых. Праведнии бо и по смерци живи суть, якоже Соломон в притчах глаголет: «Праведници в веки живит, и от Господа мзда их, и строение их от Вышнего, сего ради приимут венци из руки Господня», яко и бысть. Еже на предпошедша скажем, о сих же сице есть: «Снидетеся, сущии в пустынях и в горах, житиа аггельскаа имуще: старии немощь отложьше, унии, яко елени, скачюще,— все снидетеся». Хощу бо вы представити трапезу от брашен сих, да ядше възвеселитеся душами вашими. Се бо есть трапеза нетлеющих брашен, не иже гортань услажает и чрево насыщает, но душа веселяща и ум укрепляющи на подвиги добрых дел. Сия бо яди, братие, аще кто насытится, не вжадает паки, якоже речено есть в Писаньи: «Не заморит Господь гладом душа праведных». Паки же на предлежащее наидем, о нем же начахом повесть сию. Вы же, блазии послушници, князи и боляре, и церковници, и честнии собори святых, сущии в манастырех, и простии люди, снидетеся на новое сие слышание и послушайте прилежно, отврьзше ушаса своя и умякчивши нивы сердец ваших, приимете семена многоспасенаго житья послушанием жены сея преподобныя, святыя подвиги ея и труд, и любовь, яже к Богу. Яже предоидуще скажем, како родися и каго въспитася, или како възрасте, в кою ли меру потече в след жениха своего Христа, о сих сице есть.

Бысть князь в граде Полотсце именем Всеслав, той имея сыновы многы. И беше у него меньший сын именем Георгий, от него же родися сии блаженнаа отроковица.

---

Святая Еўфрасіння Полацкая. З гравюры XIX ст. (паводле старажытнага абраза).

Родителя же ея възрадовастася о рожестве ея со всеми домашними своими. И по днех неколицех повелеста крестити ю, и крестиста ю во имя Отца и Сына и Святаго Духа. И питома бяше доилицею ея, дне от дне растяше отроковица, тело млеком растяше, а душа Святаго Духа наполняшеся. Лучи же ся *девици десчаго** естества и молитвы плод, и толма бысть любящи учение, якоже чудитися отцу ея о толице любви учениа ея. Вести же разшедшейся по всем градом о мудрости ея и о блазем учении ея и о телесней утвари, бяше бо лепа лицем. Красота же ея многы славныа князя на любление приведе ко отцу ея, кождо их тщашеся, дабы пояти ю в жену сыну своему, и всем часто присылающимся к отцу ея. Он же отвещеваше: «Воля Господня да будет».

Един же, преодолеваше славным своим княжением и богатством, прислав к отцу ея, испроси дщерь его за сын свой. И пришедши ей в возраст 12 лет, и нача отец ея глаголати княини своей: «Нама уже лепо дати Предслава за князь»,— тако бо нарекоста ей имя прежде крещениа еа. Она же глагола ему: «Да каго Бог хощет и твоя, княже, воля, тако да будет». Тогда слышавши Предслава, размышляше в собе, глаголющи, паче же, реку, от Святаго Духа наплъняшеся мысль ея, и рече в собе: «Како се будет, оже отец мой мыслит припрячи мя мужеви? То аще тако будет, то печали мира сего никакоже лзе гоньзнути». Пакы в собе рече: «Что бо успеша преже нас бывшии родове наши? И женишася, посягаша и княжиша, нъ не вечноваша; житие их мимо тече и слава их погибе, яко прах и хуже паучины. А иже прежния жены, въземше мужскую крепость, поидоша в след Христа, жениха своего, предаша

---

* У рукапісах гэтае групы зроблена памылка. Адзначаную мясціну трэба чытаць, напэўна, наступным чынам: «Девици сей учение быти книжному писанию, еще не достигше ей в совершен возраст телеснаго...»

телеса своя на раны, и главы своя мечеви, а другыя аще железу выя своя не преклониша, нъ духовным мечем отсекоша от себе плотскыя сласти, предавше телеса своя на пост и на бдение и коленное покланяние и на земли легание, то тии суть памятни на земли, и имена их написана на небесех, и тамо с аггелы безпрестани славят Бога. А си слава есть прах и пепел, и яко дым разходится, и яко пара водная погыбает». И тако ей размышляющи в сердци своем, а ум ея больма на Божию любовь подвизашеся. И единою положися на сердци ея таково помышление, рече бо в себе: «Не се ли бы луче всего жития сего было, да бых ся постригла и чрьници, и была подо игуменьею, повинующися сестрам и учащися, како страх Божий утвердити в сердци своем и како течение скончати». Сия на уме своем положивши, и утаившися отца своего и матери и всех домашних, и иде в монастырь.

В та же лета бяше княини Романоваа игуменьею. Прииде к той, просящи прияти аггельскаго образа и причтатися ту сущим инокиням, и быти подо игом Христовым. Видевши же она блаженная жена юность и возраст цветущий оней, и смятеся, и нача телом утерьпати и сердцем ужасатися, и лицем на землю преклоньши, и восклоньшися, и возревши на юность ея, воздохну и прослезившися, глагола ей: «Чадо мое! Како могу се сотворити? Отец твой, уведев, со всяким гневом возложит вред на главу мою. И еще же юна еси возрастом, не можеши понести тяготы мнишескаго жытиа. И како можеши оставити княжение и славу мира сего?» Отвещавши же блаженнаа отроковица: «Госпоже и мати! Вся видимаа мира сего красна суть и славна, но въскоре минуют, яко сон, или цвет увядает; вечнаа же и невидимая в веки пребывают, якоже Писание глаголет: Око не виде, ни ухо слыша, ни на сердце человеку взыде, еже уготова Бог любящим Его. Или отца моего ради не хощеши мене острищи? Не бойся, госпоже моя; убойся

Господа, владеющаго всею тварию, и не отлучи мене от аггельскаго чина». Блаженная же княини удивившеся разуму отроковица и любви еа, яже к Богу, повеле воли ея быти. И огласив ю иерей, и остриже ю, и нарече имя ей Еуфросиния, и облече ю в черныя ризы, и благослови ю игумениа благословением святых отец, и рече ей: «Буди, чадо, последствующи преже тебе бывшим женам Февронии и Еупраксии и инех множество, иже Христа ради пострадаша, и Господь Бог даст ти победу и силу на супротивника нашего диявола». И тако ей рекши, отпусти ю в келию свою.

Уведев же сиа отец ея, скоро иде в манастырь, и жалостно терзаше власы главы своея, и любезно целоваше ю, глаголя: «Горе мне, чадо мое! Почто ми сице сотворила еси, и печаль души моей принесе? Почто ми преже сего мысли сея не явила еси? Люте мне, чадо мое сладкое, жалости сердца моего! О горе мне, чадо мое милое! Како гоньзнет доброта твоя вражые пронырьство? Уже достоит ми плакатися оструплению душею к Господу Богу моему, да внидеши в чрьтог Царствия Его». Жалость же бысть всем в дому его о ней. Преподобная же Еуфросиниа сего всего небрежаша жалости отца своего, но яко доблий храбор, въоружившеся на супротивника своего диявола, пребываше в манастыри, повинующися игумении и сестрам всем, и всех преспевающи постом и молитвами и бдении нощными. И оттоле паче подвижнейши нача быти, собирающи мысли благыя в сердци своем, яко пчела сот. И пребывши неколико время в манастыри, и потом проси у епископа сущаго тогда, нарицаемаго Илью, правящаго стол святое Софеи в Полотьсце, дабы ей велел ту пребыти в церкви святей Софеи в гольбци камене. И повеле ей, да пребывает ту. Вшедши же, начат подвижнейши подвиг постнический восприимати, и начат книги писати своима рукама, и наемлющи, требующим даяше.

Пребывающи же ей ту неколико время. В едину нощь возлеже, опочивати хотящи от многаго стояниа в молитвах, яже к Богу, виде видение: поим ю Аггел, и веде ю, идеже бе церковьца Святаго Спаса, метохия святыя Софии, яже зовется от людей Селце. И ту показа ей аггел Господень, глаголя: «Еуфросиние! Зде ти подобает быти». Она же, убуждьшися, дивляшеся в собе, глаголящи: «Что хощет ми се быти?» Тоя же нощи виде трищи. И възбудившися от сна, со страхом вста, славословяще Бога и глаголющи: «Слава Тобе, Боже, слава Тобе, яко сподоби мя и нынешнюю нощь видети свитое лице аггельское!» И по сем нача псалом глаголати: «Готово сердце мое, Боже, готово сердце мое! И пакы к Тобе привергохся от ютробы матере моея. Бог мой еси Ты, яко восхоте, тако и сотвори на мне, рабе Твоей!» И кончеваше утренюю.

Тоя же нощи явися епископу Илии тъй же аггел, глаголя: «Въведи ю, рабу Божию Ефросинью, в церквьцу Святаго Спаса, на рекомое Сельце место, бо то свято есть, яко достойна есть Царству Небесному, яко миро благовонно, въсходит мольтва ея к Господу, и яко венец на главе цареве, тако почивает Дух Святый на ней, и яко солнце сияет по всей земли, тако житие ея просияет предо аггелы Божии». Епископ же въста въскоре со страхом и трепетом, прииде к ней. Еуфросиниа же, видевши его, поклонися ему и рече: «Благослови, владыко святый!» Он же глагола: «Бог да благословит тя, чадо, и даст ти терпение и силу на всех вразех видимых и невидимых». Она же, поклонившися, рече: «Аминь. Буди мне по глаголу твоему, владыко святый». И седоста.

Отверз же блаженный епископ уста своя, начат беседовати о спасении души. Блаженная же Еуфросиниа приимаше словеса его, яко семена в житницу душа своея, и плодящи ово 30, ово 60 или 100. Много же побеседовав с нею, и се прирече ей, глаголя: «Дщи! Хощу ти рещи слово, ты

же с любовию приими е». Она же рече: «Рада, отче преподобный, приму слово твое, яко дар многоценен». И глагола ей епископ: «Веси ли, чадо, се церковь есть соборная, идеже сидиши, ту вси человеци собираются, и тобе не лепо зде пребывати. То се есть церковьца Святаго Спаса в Селци, идеже братья наша лежат, преже нас бывшии епископи. Негли Бог поспешит молитвами их и твоим трудом, и возградит место то велико».

Еуфросиния же, слышавши от епископа, яко тако изглагола ей, и возрадовася душею, и возвеселися сердцем, и, явлению аггелову веру имши, еже виде и слыша от Него, глагола епископу: «Бог да поспешит ми, отче, молитвами твоими святыми». Призвав же епископ князя Бориса, стрыя ея, и отца еа Георьгия, и преподобную Еуфросинию, и честныя мужа, и постави я сам послухы, рек: «Се отдаваю Еуфросинии место Святаго Спаса при вас, да по моем животе никтоже не посудит моего даниа». Се слышавше князи оба и боляре все от епископа, поклонистася ему, глаголюще тако: «Ей, владыко святый, се ти есть Бог положил на сердци твоем, еже сице еси умыслил отроковици сей попечение о ней». Еуфросинии же реша: «Ты же иди и послушай епископа, еже ти велит, тако створи, то есть отец всем нам, того подобает слушати». Еуфрасиниа же, возревши на ня осклабленым лицем, и рече им: «Рада иду, яко Бог повелит ми, тако и будет; воля Господня да будет о мне». Князи же и боляре все, слышавше от преподобныя Еуфросинии глагол сий, возрадовашася и, приемше благословение от епископа и поклонившеся преподобной Еуфросинии и целовавше ю любезным целованием, ехаша в домы своя. Еуфросиниа же, поклонившися в святей Софеи и благословившися от епископа, и тоя нощи въставши, поимши с собою едину черноризицу, прииде на место, зовомое Селце, идеже есть церковьца Святаго Спаса. И вшедши в церковь, и, поклонившися, возгласи сице: «Ты, Господи,

заповеда святым Своим Апостолом, рек: Не носите с собою ничесоже, токмо жезл. Се аз, Твоему словеси последствующи, изыдох на место сие, ничтоже носящи, но точию Твое слово и собе имущи, еже рещи: Господи, помилуй. Еще же се за все имение имею книги сиа, имиже утешает ми ся душа и сердце веселит. Лише же сих триех хлеб не имам ничтоже, но токмо Тебе помощника и кръмителя. Ты бо еси отец убогим, нагим одѐние, обидимым помощник, ненадеющимъся надеяние, и буди имя Твое благословено на рабе Твоей Еуфросинии отселе и до века. Аминь». Сице рекши, и изшедши из церкви, нача подвижьнеши быти на молитву, яже к Богу.

И ту ей пребывающей неколико время. И тако посла ко отцу своему, глаголящим: «Пусти ко мне сестру мою Городиславу,— тако ей беста имя нарекла родителя,— да научится,— рече,— грамоте». Он же пусти ю к ней. Она же с прилежанием учаше ея спасению души. Сия же со прилежанием приимаше, яко нива плодовита, умягчнивши сердце свое, и глаголаше: «Господь Бог да устроит ми на спасение души моей твоими святыми, госпоже, молитвами». Сие рекши ей. Преподобная же Еуфросиния, введши ю в церковь, и повеле иерееви, огласивши, облещи и черьнеческия ризы, и нарече имя ей Евдокия. И по малех днех присла отец к ней, глаголя: «Пусти уже сестру свою ко мне!» Она же отвеща: «Еще не извыче всей грамоте». Уведев же отец яе, яко утаивши его, постриже ю, и възъярися на преподобную Еуфросинию, сердцем горя, приехав к манастыреви, и глагола: «Чадо мое, что створи? Приложими сетование к сетованию и души моей печаль к печали». И сия ему глаголющу от горести сердца своего, реками слез часто изливаше от оочию своею, любезно дрьжа Евдокею и глаголя: «Чада моя, на се ли вас родих, или на се вас мати воспита? ужели ваю брак уготовах? Ужели чертог и брачныя ризы ваю на сетование положих

собе? Чада моя милая, что ми воздаста, в радости место горькиа печали сердце мое наполниста!» Вси же бояре его, слышавше жалость князя своего, горко плакахуся о напрасней печали князя своего. Блаженая же Еуфросиния отвещеваше ко отцу своему: «Что ради печалуешися на мя? Имееве печальника и помощника единого — Бога». Отец же ея малу утеху приим от словеси преподобныя Еуфросинии, еха в дом свой. И Евдокия же пребываше в манастыри, повинующися сестре своей. Блаженая же Еуфросиниа трудом многим моляшеся к Богу о месте том, дабы е устроил Бог

Бяше же во граде княжна Борисовна именем Звенислава. И принесе всю свою утварь златую и ризы многоценны ко Еуфросинии, и рече ей: «Госпоже и сестро! Вся красная мира сего ни во чтоже ми ся мнит. Сия вся даю святому Спасу, а сама хощу поклонити главу свою поидо иго Христово». Она же прият ю с радостию, и повеле иереви постригщи ю, и нарече имя ей Еупраксия. И тако начаста пребывати в манастыри в едину мысль в молитвах, яже к Богу. И тако бяше видети, яко едина душа в дву телесу. И по сем блаженная Еуфросиниа заложи церковь камену Святаго Спаса, и от начатка доспе за 30 недель.

И се хощу вам, братие, чюдо сказати. Бе муж именем Иван, приставник над делатели церковными; к нему же прихожаше многажды глас свитающу дни, глагола: «О Иване! Востани и пойди на дело Вседрьжителя Спаса!» И во един от дний въстав, прииде ко блаженной Еуфросинии и рече ей: «Ты ли, госпоже, присылаеш понужати мене на дело?» Она же рече: «Ни». И паки расмотривши, премудрая жена рече ему: «Аще и не аз тя возбужаю, а кто тя ни позывает на таковое дело, того послушай прилежно с потщанием». И паки другое чудо скажу вам, добрии послушници: уже сконьчаней бывши церкви, и мало не доставшим плитам, нечим бяше верха скончати. И поискав-

нашага ўратавання. І згадваў ён месцы святыя і пустэльні богуспадобных айцоў, дзе здзейснілі працу і подзвіг: дзіўны начальнік усім, што праззяў падобна ангелам — моцны і храбры Антоній, і былы вучань ягоны Іларыён, які перамог сілай хроснаю духаў варожых, а пасля — цудатворца светлы поснік Яўфімій, потым — Сава і архімандрыт Феадосій, найстарэйшы настаўнік усіх чарнарызцаў у ваколіцах Іерусаліма. Але найбольш любіў Аўраамій чытаць павучэнне найпадобнейшага Яфрэма, а таксама вялікага ўсяленскага настаўніка Іаана Залатавуснага і Феадосія Пячэрскага, былога архімандрыта ўсяе Русі, казанні і жыціі якіх знаходзіў у святых боганатхнёных кнігах, і прыходзіў іх слухаць, і сам чытаў удзень і ўноч, і Богу маліўся нястомна, прасвятляючы душу і розум, жывячыся словам Божым. Як руплівая ў працы пчала, што аблятае ўсе кветкі і салодкі наедак прыносіць сабе і гатуе, так і шчасны Аўраамій, адусюль выбіраючы, сваёю рукой або з дапамогаю пісараў перапісваў гэтыя кнігі. Быў ён, як добры пастух, які ведае ўсё пра свой статак — дзе і калі яго пасвіць, а не як невук, пастух неразумны, які прымае святарскі сан, але паствы не ведае, і тая ці то ад голаду загіне, ці па гарах, блукаючы, разыдзецца, ці трапіць у пашчу да дзікіх звяроў. Так і ўмелыя стырнавыя, што вядуць караблі да прыстанішча, не ідуць супраць ветру і буры, а чакаюць спрыяльнага ветру, каб з дапамогаю Божай дасягнуць патрэбнага места без перашкоды і патаплення. І мы, калі хочам пайсці ў горад далёкі, пытаемся спярша ў людзей дасведчаных, каб не трапіць на іншы шлях ці ў месцы разбойнікаў, і баімся ўсяго, і молімся Богу, каб дайсці без бяды.

Але вернемся да таго, адкуль пачалі, скажам пра дар слова Божага, дадзены найпадобнейшаму Аўраамію. Як той, хто жадае стаць у цара ваяводам, збірае адважных ваёўнікаў, каб усёй сілаю выступіць на праціўніка і з Бо-

жай успамогаю напасці і перамагчы, так і Аўраамій дзеля названага дару і працы рупна чытаў пісанне Госпадава, каб карабель душы сваёй з дапамогаю Божай ахаваць ад хваляў і бураў, інакш кажучы,— бесавых і чалавечых насланняў, і не патануць, спадзеючыся на Бога, ад гэтых нягодаў, і дасягнуць выратавальнае прыстані — супакою нябеснага ў Божым Іерусаліме. Пішуць бо ў святых кнігах, што жыццё нашае — смерць, змуста і змаганне, і нельга прайсці яго без напасцяў. Бо і Сам Уладар Спас Госпад. Творца ўсяго і ўсіх, Які нарадзіўся для нашага ўратавання ад Найчысцейшай Дзевы Багародзіцы, не ўчыніўшы ніякага грэху, прыняў шмат пакутаў ад Сваіх стварэнняў, і многія святыя, што пацярпелі, але дасягнулі праз гэта Нябеснага Царства, дзеля атрымання якога і мы молімся.

І жыў шчасны Аўраамій у названым манастыры ў працы, у няспанні і прагненні дзённым і начным. І нават сам ігумен, бачачы такое жыццё, радаваўся, і ўся брація славіла Бога, і шмат свецкіх людзей прыходзіла да Аўраамія, каб атрымаць з вуснаў ягоных уцеху ад святых кніг. І ва ўсім падпарадкоўваўся шчасны ігумену, слухаўся брацію і ўсім пакараўся, маючы ўміранасць і любоў дзеля Бога. І зведаў ігумен, што ва ўсім слухаецца яго Аўраамій. А ігумен добра ведаў боскія кнігі, усе іх перачытаў і так зведаў, што, паводле сведчання многіх людзей, усе баяліся тлумачыць Пісанне пры ім; таму і шчаснага Аўраамія пераканаў ён прыняць сан святарскі.

І стаў Аўраамій спачатку дыяканам, а пасля — іерэем. Было ж гэта ў час княжэння вялікага і хрысталюбнага князя Мсціслава Смаленскага. Прыняўшы святарскі сан, стаў той шчасны святы яшчэ болей уміраны, бо добрасць такую Хрыстос яму дараваў. Боскую ж літургію, якую Хрыстос запаведаў учыняць, вельмі дбайна служыў ён і, як многія сведчаць, не прапускаў ніводнага дня, і да самае смерці не парушаў ён ніколі царкоўнага ладу і боскае лі-

тургіі і свайго подзвіга. А галечу і нястачу, якія ён выцярпеў, і знявагі ад д'ябла, і тугу, і выпрабаванні ад ігумена і брацii ўсёй — хто, апрача яго, сказаць можа!

Пяць год цярпеў Аўраамій, зганьбаваны і зняважаны, нібы злачынец, змусты ад тых, хто яго ненавідзеў! Бо д'ябал, адчуваючы, што святым пераможаны ён, навёў на яго крамолу сваімі парадамі, прагнучы выгнання ягонага, як і здарылася пасля. Бачыў бо д'ябал, што прыходзяць да Аўраамія многія месцічы і ўзбагачаюцца духоўным вучэннем яго, ідучы да яго дзеля пакаяння ў грахах. А гэтага ж і хоча Бог, бо нядобра, калі ззяе свяцільня пад покрывам, і нельга схавацца гораду, што стаіць на гары. Напісана ж пра вялікае свяціла і настаўніка свету Іаана Залатавуснага, што калі прыйшоў той у пустэльню, дык, жывучы пэўны час там, цярпеў пакуты цялесныя і нястачы дзеля працы вялікай, устрымання і прагнення. Але было Божае наканаванне, каб настаўнік не аддаляўся ад горада, і тады ўвайшоў у горад ён, наказваючы і павучаючы ўсіх жыць у страху Божым. Так было і з Аўраамiем.

Але некаторыя з іерэяў, і чарняцоў, і месцічаў, змушчаныя д'яблам, паўсталі супраць святога. І хацелі адны яго мучыць і катаваць, але іншыя стварылі спіру* і заступіліся за Аўраамія, кажучы, што няма ў чым абвінаваціць яго. І першыя, зняслаўленыя, з сорамам адступілі, але не спынілі крамолы, кажучы ў самім горадзе і ў іншых месцах: «Вось ужо ўвесь горад схіліў да сябе!» Але тут, братове, скажу вам не суцяшэнне: ён усё роўна Хрыстовою міласцю даваў уцеху ўсім тым, што прыходзілі да яго, і так прываблiваў іхнія душы і розум, што, калі б можна было, тыя б яго і не пакідалі ніколі. Тут не сцярпеў сам ігумен і, бачачы, як шмат людзей прыходзіць да Аўраамія, хацеў яго ад іх аддаліць, кажучы: «Я за цябе адказваю перад Богам

* Пэўная колькасць людзей вайсковага чыну.

і хачу, каб перастаў ты вучыць». І вельмі гневаўся на яго. Тады Аўраамій пайшоў з горада і пасяліўся ў манастыры Святога Крыжа, і яшчэ больш людзей прыходзіла да яго, і ўзвялічвалася вучэнне яго. Вораг жа на гэтае наракаў, а Госпад раба Свайго ўслаўляў і ахоўваў заўжды, даючы моц і добрасць.

Так прайшоў нейкі час. І шмат ад каго атрымліваў Аўраамій уцеху, і падавалі яму ўсё патрэбнае, і нават болей патрэбнага, але ён адразу ж аддаваў амаль усё ўдовам і жабракам, а не тое, што сабе пакідаў, аздобіў царкву абразамі, завесамі і свечкамі. І многія месцічы пачалі прыходзіць туды паслухаць царкоўныя спевы і чытанне боскіх кніг, бо шчасны надзвычай добра чытаў іх, і, дзякуючы міласці Божай, не толькі чытаў, але і тлумачыў, і шмат хто з недасведчаных пасля яго тлумачэння пачынаў разумець. Слухачам жа сваім казаў Аўраамій па памяці, бо нішто ад яго не стаілася з боскіх пісанняў. І ніколі вусны яго не змаўкалі ні перад малымі, ні перад вялікімі, ні перад рабамі, ці вольнымі, ці спрацаванымі, што прыходзілі да яго — хто на малітву, хто на царкоўныя спевы, хто дзеля суцяшэння. Ноччу ж спаў ён мала надзвычай, і кленчыў, праліваючы слёзы з вачэй і б'ючы сябе ў грудзі, і, галосячы, Бога маліў, каб зміласціўся Той над Сваім людам, адхіліў гнеў Свой, паслаў Сваю міласць, бедаў пазбавіў, даў мір і спакой малітвамі Найсвяцейшае Дзевы Багародзіцы і ўсіх святых.

Напісаў жа ён два абразы: адзін — Страшны суд другога прышэсця, а другі — іспыты нябесных мытараў, якіх не пазбегнуць нікому. Вялікі Іаан Залатавусны вучыць і згадвае люты той дзень, і Сам Госпад і ўсе святыя Яго прапаведуюць, што дня таго не пазбегнуць і ад яго не схавацца. І цячэ перад судзішчам вогненная рака, і разгортваюцца кнігі, і сядае Суддзя, і выяўляюцца ўчынні ўсіх. Тады слава, і гонар, і радасць усім дабрадзейнікам, грэшным жа —

пакута вечная, якой сам сатана баіцца і ад жаху трымціць. І калі, братове, нават чуць страшна пра гэтае ўсё, дык наколькі страшней будзе зведаць!

Але, тое пакінуўшы, вернемся зноў да шчаснага Аўраамія. Безупынна згадваў ён Страшны суд і не пакідаў Бога рупна маліць удзень і ўночы, і ўсім, хто прыходзіў, не стамляўся пра страшны той дзень распавядаць. І чытаў вялікага ўсяленскага настаўніка Іаана Залатавуснага, і найпадобнейшага Яфрэма, і ўсіх святых, да якіх прамаўляў Дух Святы; сам ён меў паслушэнства да іх і прапаведаваў іншым. І памяркоўны быў шчасны ў піцці, а п'янства і пагатоў ненавідзеў, апранаў дзеля сваёй сціпласці строі недарагія, быў заўжды ўміраны, на трапезы і бяседы ніколі не ішоў, бо не любіў сварак за месца пачэснейшае ці за іншае што, вялікага п'янства і марных размоваў.

Аблічча ж і цела шчаснага Аўраамія былі спакутаваныя, а косці яго і суставы, як мошчы, можна было пералічыць, і светлы твар яго бледны быў ад цяжкае працы, устрымання, бяссоння, ад доўгіх спеваў, чытанняў і малітваў, што ён узносіў да Бога. Да ахвярніка ж Божага падыходзіў ён са страхам Божым, з увагаю на Боскае прынашэнне, ад Госпада перададзенае апосталам на вячэры (а апосталы нам перадалі Яго запавет дзеля адпучшэння грахоў). І ў царкве Аўраамій забараніў размаўляць, асабліва пад час літургіі, але павучаў і наказваў усе думкі, усе сілы душы звярнуць да Бога. А калі апранаўся ў святарскія ризы, дык паводзіў сябе дабрачынна, прыстойна. Абліччам жа быў ён падобны да Васілія Вялікага: меў такую ж чорную бараду, хіба толькі плех меў на галаве. Але не папракайце, братове, мяне за грубасць маю, бо не лгу я, хоць і кажу няхітра, без мудрасці; распавядаю ж тым, хто не бачыў яго і не чуў, бо згадваю словы Госпада: «Рабе ліхі і лянотны, належала даць табе срэбра маё купцам, каб ад іх атрымаў я прыбытак». Я ж баюся асуды такой і пішу гэта

ўсё, каб, паслухаўшы, славілі Госпада, Які міласць такую выявіў і ўспамогу Смаленску — шчаснага Аўраамія. І яшчэ хачу вам сказаць: «Успамажыце малітвамі вашымі мне, каб даў Госпад скончыць мне апавяданне дзеля тых, хто захоча прачытаць і наследаваць жыццю найпадобнейшага, або перапісаць жыціе, атрымаўшы за гэта міласць Бога цяпер і ў будучы дзень Хрыстова суда». Але вернемся да ранейшага і пойдзем далей.

Угледзеў сатана, што праз сілу Хрыстову святы перамог яго, і стаў яўляцца яму ўдзень і ўночы, запалохваў і шкодзіў. То ўначы (але калі не ўсе яшчэ спалі) яўляўся, як страшны агонь, то няславіў святога, то, упарта прыходзячы ў праявах, ільвом кідаўся на яго, страшыў зверам лютым ці ў выглядзе вояў прыходзіў, што нападалі і саклі Аўраамія, а то скідваў з ложка. І абуджаўся шчасны пасля кароткага сну, зведаўшы акаянных бесавых мрояў. А ўдзень яшчэ болей абражаў яго сатана: яўляўся то ва ўласным абліччы, то ў выглядзе бессаромнай жанчыны. У жыціі вялікага Антонія напісана, што Госпад бачыць варожую моц і ягоную злосць і не дапушчае ўсёй волі яго-най, а кожнаму з нас адмярае па нашае сіле, каб процістаяць мы маглі сатане. У Евангеллі ж Госпад гаворыць, што без Божага папушчэння нават над свіннямі сатана ўлады не мае, хіба толькі дзеля таго, каб выявіліся сапраўдныя рабы Божыя. Гэтаму ж вучыць і Іаан Залатавусны, гаворачы: «Госпадзе, калі папусціш адзінаму ворагу — увесь свет яго не адолее; як жа здолею я, гной і гразь!» Але Той, Хто даў моцы Антонію, явіўшыся да яго і наказаўшы: «Мацуйся, не бойся: успамагу Я табе»,— даў Сваю сілу і міласць Аўраамію і ўратаваў імі шчаснага. І не адолеў яго змустай сваёй сатана, бо ўспамагаў яму Бог.

Тады сатана іншую крамолу ўзвёў на шчаснага, як і раней на Самога Госпада, калі ўвайшоў у сэрцы іудзеяў, якія сабралі супраць яго зборню і няславілі, і на смерць аддалі

Госпада славы. Так было і з Аўраамієм: як раней выгнаў яго сатана з папярэдняга манастыра, так тое самае ўчыніў і цяпер. Бо не здолеў трываць акаянны міласці Божай і ўспамогі Яго верным хрысталюбным хрысціянам, пераможаны сілай Хрыстоваю.

Але заўжды душы пастыраў церпяць нягоды. І ўвайшоў сатана ў сэрцы бясчыннікаў, і паўсталі яны на Аўраамія, і пачалі адныя няславіць яго перад епіскапам, другія — ганіць і назаляць. Адны называлі яго ерэтыком, а іншыя казалі, што чытае глыбінныя кнігі ці бавіць з жанчынамі час. Папы ж разявілі на яго свае пашчы, гаворачы: «Ужо ўсіх дзяцей нашых завабіў да сябе!» Іншыя ж называлі прарокам яго, і яшчэ шмат чаго нагаворвалі на шчаснага, чаго ў сапраўднасці і не было ніколі. Праўдзіва кажу: хто б і месцічаў ні нагаворваў на шчаснага Аўраамія, усяму тому д'ябал радаваўся, а шчасны ўсё тое цярпеў дзеля Госпада з радасцю.

І вось увесь горад ад малога і да вялікага паўстаў на яго. Адныя раілі зняволіць яго, іншыя — да зруба прыбіць і спаліць, а іншыя — пабіць і правесці праз горад. І калі сабраліся на двары ўладыкі, і ігумены, і папы, і манахі, князі і баяры, дыяканы і ўсе царкоўнікі, то паслалі яны слуг па шчаснага Аўраамія. І тыя яго валаклі, нібы ліхадзея, лаючы і няславячы. І так правялі яго праз увесь горад, па рынку, па вуліцах, поўных народу: мужчын, жанчын і дзяцей, і цяжка было бачыць гэтую ганьбу.

Шчасны ж, як птушка, што трапіла ў рукі, не мог ні прамовіць нічога, ні адказаць. Адзінае толькі меў ён спадзяванне на Бога і маліўся, каб пазбавіцца гэтай бяды і маркоты, і згадваў пакуты Госпада нашага Ісуса Хрыста, якія Той пацярпеў дзеля нашага ўратавання. І маліўся шчасны за катаў сваіх: «Госпадзе, не палічы ім за грэх, не дай трапіць у іхнія рукі рабу Твайму, але сціш іх, забарані, як перад Сваімі вучнямі забараніў Ты ветру на мо-

ры!» Так пасля і ўчынілася. Князю і ўладарам памякчыў сэрцы Бог. Затое ігумены і іерэі, каб прымелі, з'елі б жыўцом шчаснага.

У той самы час, як вялі на суд Аўраамія, Госпад явіўся найпадобнейшаму Луцэ Прусіну, калі той стаяў на малітве дзевятай гадзіны ў царкве Святога архангела Міхаіла. І пачуў голас ён, які прамовіў: «Вось, узводзяць шчаснага Майго ўгодніка з двума вучнямі ягонымі на суд і хочуць яго катаваць. Але ты яго не выракайся!» І прамовіў шчасны Лука тым, хто судзіў шчаснага Аўраамія і здзекаваўся з яго: «Шмат ганьбяць няправедна і зневажаюць яго, але хай бы я быў такі грэшны, як ён! Чулі вы, што хацелі ўчыніць з ім раней тыя вар'яты, не маючы Божага страху! За такую загану ліхую, за ганьбу і кляцьбу будзе на вас Божы гнеў трыццаць гадоў, калі зараз жа не пакаецеся!» Але вернемся да таго, з чаго пачалі мы аповяд.

Прывялі шчаснага Аўраамія на судзішча і не знайшлі на ім ніякай віны, але, усё разгледзеўшы, убачылі, што няма на Аўраамії ніякай няпраўды, а ўсе, хто яго вінаваціў,— ілгары. Тады прамовілі ўсе ў адзін голас: «Даруй нам, уладару, што перад усімі такую крамолу ўзвялі на яго, што абгаварылі яго і радзілі забіць невінаватага. Багаславі, ойча, і даруй, Аўраамію!» І з тым разышліся. І ўгледзелі царкоўнікі, што ўсе разышліся, але не скончылі абвінавачанняў і загадалі епіскапавым вартаўнікам сцерагчы і ахоўваць Аўраамія з двума лепшымі ягонымі вучнямі. А зранку сабраліся ігумены і іерэі і зноў пачалі згадваць ранейшыя правіны, дакараючы злосна яго. Тады вярнуўся шчасны ў той манастыр, дзе спачатку пастрыгся, каб не ўчынілі яму ніякае шкоды. Бо з таго часу шмат ліхога ўчынілі яму, нават тыя, хто быў ім навучаны — звярнулі ўчынні свае на ліхія аблуды. Але слава Богу, Які церпіць усіх тых!

І быў там іерэй, шчасны Лазар, які стаў епіскапам пас-

ля Ігнація. Ён сапраўдны быў абаронца і пастыр славесных авечак Хрыстовай Царквы. Дзеля Бога пакінуў ён пасад епіскапавы праз тое, што ўладары крыўдзілі цэрквы, адбіралі чужую маёмасць і крыўдзілі ўдоў і сірот. Ён пачуў і пабачыў, што няправедна ўзнялі на святога шчаснага Аўраамія крамолу, бо была на гэтае Божая воля. І прыйшоў ён, гаворачы епіскапу Ігнацію: «Будзе гораду гэтаму вялікая епітым'я, калі ты аб справядлівасці не паклапоцішся». Так і здарылася пасля.

Шчасны Ігнацій, тое пачуўшы, паслаў па ігуменаў і папоў, наказваючы і забараняючы ім гаварыць ліхое што пра шчаснага Аўраамія. І так мовіў ім: «Паслухаўшы вас, назаўсёды прыняў на сябе я епітым'ю. Вы ж, дзеці мае, пакайцеся, бо самі ведаеце, што атрымалі ад Бога тыя, хто паўстаў на вялікага Іаана Залатавуснага; калі хто з вас не пакаецца, тое ж самае атрымае». А шчасны наследаваў святому, з якім яго параўналі. Як і Іаан, шмат пакутаваў ён, але маліўся Богу за катаў і звяртаў іх да Бога, ратуючы. А тыя забаранілі ўсім прыходзіць да шчаснага і, узброіўшыся, сцераглі шляхі, што вялі да яго, а тых, хто ішоў, рабавалі.

Але Бог, жадаючы ўсім паратунку, часам міласць Сваю выяўляе і чалавекалюбства, часам кары і беды насылае: голад, і смерць, і бездажджоўе, і суш, хмары цяжкія, і нашэсці паганцаў, і гарадоў паланенне,— усё гэта прыходзіць ад Бога. Ён наварочвае і прыводзіць нас да Сябе, каб былі мы бязгрэшныя. І, церпячы ўсё гэтае, зразумеем і згадаем, колькі ліхога ўчынілі мы, а потым забыліся, бо грашылі ўдзень і ўначы. Некаторыя ж ганьбяць і асуджаюць іерэя святога і чарнарызца, быццам бы самі бязгрэшныя. А ці чулі вы Госпада, Які казаў: «Паважайце святароў і чарнарызцаў Маіх, каб самім не атрымаць горкую асуду»? І не забывайце Госпадава запавету: «За кожнае марнае слова заплачана будзе вам словам у дзень Судны». А Павел апо-

стал, настаўнік сусвету, гаворыць: «Хто вы, каб судзіць чужога раба? Перад сваім гаспадаром стаіць ён ці падае, і ўстаіць, бо ўзняць яго можа Госпад». І зноў праз іх Божы гнеў сыходзіць на сыноў непакорлівых. Так і мы: кожны сам за сябе адкажа ў Судны дзень.

Дарэчы тут нагадаць словы з жыція найпадобнейшага Савы — пра патрыярха Іерусалімскага Ілью, якога цар Анастасій загадаў з пасаду сагнаць і на ягонае месца паставіць іншага. Месцічы ж Іерусаліма пачулі, што выгнаны патрыярх, і надта гэтаму ўзрадаваліся. І сышоў на іх Божы гнеў, і быў голад пяць гадоў, каб зарakліся радавацца чужому гору. Тады прыйшлі да найпадобнейшага Савы і сказалі яму, што не ела брацiя ўжо цэлы тыдзень і што нельга ўжо ўдарыць у звон да трапезы. Найпадобнейшы ж Сава іх суцяшаў, кажучы, што Бог не пакіне рабоў Сваіх. І сталася так, як казаў найпадобнейшы: адзін хрысталюбца прыслаў да шчаснага ў лаўру трыццаць вярблюдаў, нагружаных розным наедкам. І паклікаў аканома Сава, і сказаў: «Што ж, ці можна званіць да трапезы?» Аканом жа моцна сябе дакараў за няверʼе. Што ж да цара Анастасія, які сагнаў з пасаду патрыярха Ілью, дык гнеў Божы за гэта яго напаткаў. Вось што распавядаюць пра смерць яго: зʼявілася хмара,і маланка разбіла ягоны палац, і, гнаны маланкай, забіты быў ён гневам Госпадавым.

Дарэчы тут будзе сказаць і пра свяціла вялікае сусвету — Іаана Залатавуснага: як паўсталі на яго ворагі і гналі святога. Тады прыйшлі да яго вялікія апосталы Пётр і Павел і сказалі: «Мацуйся, Божы страстацерпча, Госпад з табою, мір будзе табе; трымайся, бадзёрся, бо атрымаеш ты ўзнагароду — Нябеснае Царства і светлы ад Бога вянец. А хто паўстаў на цябе — будзе пакараны смерцю Богам тут і на будучым Страшным судзе». Калі ж шчасны памёр, збылося прароцтва святых апосталаў тым, хто ганіў і выгнаў святога: адны ад епіскапаў прынялі гвалтоўную

смерць, а іншым прышчы сінія ногі пабілі, на адных сышоў раптоўны агонь, пасушыўшы ім рукі і ногі, а ў іншых азызла нага і пачала гніць, а калі датыкалася да здаровай — тое самае рабілася і з ёю, і праз тры гады чалавек паміраў; а ў іншых язык апухаў і быў у вуснах, нібы заткала, і яны, спавядаючы грэх свой, пісалі на дошках, што ганьбілі святога Іаана Залатавуснага. Еўдаксію ж разбіла лютая немач: з нутра ў яе ішла кроў, і пачало смярдзець, і распладзіліся чэрві, і гвалтоўная страшная смерць напаткала яе. Так гнеў Божы сыходзіць раптоўна і насылае шмат цяжкіх пакутаў і смерць. Але вернемся да папярэдняга аповяду пра шчаснага Аўраамія.

Неўзабаве некаторых ігуменаў і папоў напаткала раптоўная смерць. Завадатары ж зборні супраць шчаснага Аўраамія бедавалі і падалі да яго ног, просячы даравання, а хто не ўдзельнічаў у змове — радаваўся. Бо напісана ў Залатым Ланцугу ўсяленскіх святых айцоў: быў нейкі богуспадобны айцец, які шмат каму прыносіў карысць славам і жыццём. Але некаторыя, д'ябла паслухаўшы, яго абылгалі і многіх адсеклі ад яго, пазбавіўшы іх той карысці. Але зразумелі пасля д'яблаў падман, і пакаяліся, і даравў шчасны ім. А пасля адны звар'яцелі, а іншыя трапілі ў розныя беды за грахі свае. Гаворыць бо Спас: «Той, хто вас спакушае, сам будзе асуджаны ўсімі».

Тут варта згадаць прыповесць нейкага айца духоўнага да сына духоўнага: мы — карабель, а стырнавы наш — Бог усяго свету, Які кіруе і ратуе нас рабамі Сваімі: прарокамі і апосталамі, свяціцелямі і ўсімі настаўнікамі Божымі аж да сканчэння веку. І калі пачнём мы асуджаць каго ці выганяць, справядліва ці несправядліва, ужо адным гэтым акрадаем карабель Божы ў Бога і аддаём яго супраціўніку-д'яблу. Цяпер жа не ведаем, дзе мы, бо нясе нас варожая бура, а калі пачне нас тапіць, тады ўспомнім, але будзе позна, што ніхто з нас не дбаў і не плакаў дзеля грахоў

сваіх, затое іншых ганьбілі і асуджалі. А Госпад гаворыць: «Узялі чалавекі Мой суд на сябе. Ужо асудзіўшы іх, Я іх не суджу». Таму не судзіце і не будзеце асуджаныя Богам. А калі атрымае хто Божую міласць і дар вучэння Яго, то нават свет цэлы не здолее зняважыць таго, бо яму Бог успамагае. Так кажа Госпад: «Калі Я з вамі, хто супраць вас?» Але вернемся да ранейшага.

У часіну нядобрую настала бездажджоўе вялікае ў горадзе, і пасохла зямля, і сады, і нівы, і ўвесь ураджай. І люд затужыў, і стаў Богу маліцца, і сам шчасны епіскап Ігнацій з чэсным клірасам і з усімі месцічамі — мужчынамі, жанчынамі і дзецьмі — вакол горада хадзіў са святым крыжам і з абразом Госпада, і з чэснымі мошчамі святых, з вялікім замілаваннем, са слязамі, молячы Бога змілажаліцца над Сваім людам, паслаць міласць Сваю на зямлю і гнеў Свой адхіліць: «Молім Цябе, Святы Госпадзе: пусці, Госпадзе, дождж і напой аблічча зямлі!» І скончылі службу, асвяціўшы крыжам і мошчамі святых ваду, і разышліся. Але Божым наканаваннем не праліўся дождж на зямлю, і агарнуў усіх смутак вялікі. І пажадаў Бог вылучыць шчаснага Аўраамія, і ўклаў у сэрца нейкаму іерэю, каб пайшоў той і нагадаў хрысталюбнаму епіскапу Ігнацію пра шчаснага Аўраамія, прамовіўшы так: «Усе мы маліліся, але Бог не пачуў нас, бо вінаватыя мы перад найпадобнейшым Аўраамієм у тым, што пазбавілі яго Боскай Літургіі. Дзеля таго і сышла на нас Божая кара». Тады шчасны Ігнацій хутка паслаў па шчаснага Аўраамія. І, паклікаўшы яго, упэўніўся, што таго абылгалі і абгаварылі ад зайздрасці і па злосці д'яблавай, і сказаў: «Даруй і багаславі, святы ойча. Па няведанні сваім учыніў так! Даруй усяму гораду, што паслухаў ілжывых паклёпнікаў і зняважцаў, і багаславі яго!» І багаславіў Аўраамія зноў служыць найчысцейшую чэсную Літургію, каб той Бога маліў аб горадзе і аб усіх людзях, каб змілажаліўся Госпад і даслаў шчодры

дождж на зямлю. І сказаў шчасны свяціцелю: «Хто я, грэшны? Тое, што просіш, вышэй сілы маёй! Але хай будзе Божая воля на ўсіх нас! І спярша ты пра ўсіх памаліся, чэсны свяціцелю,— пра ўвесь свой Богам даручаны статак абраных славесных авечак». І пайшоў шчасны, і маліўся Богу, і казаў: «Пачуй, Божа, Уладару Уседзяржыцелю, малітвамі Твайго свяціцеля, і ўсіх Тваіх іерэяў, і ўсяго люду Твайго, пазбаў гневу Свайго рабоў Сваіх, зміласціўся з горада гэтага і з усяго люду Твайго, прымі міласціва іх уздыханне і слёзныя малітвы, і дай дождж, і напой аблічча зямлі, парадуй людзей і жывёлу! Пачуй, Госпадзе, і зміласціўся!» І не паспеў шчасны дайсці да келлі сваёй, як увільготніў дажджом Бог зямлю. І ўсе ўславілі Бога, і казалі: «Слава Табе, Госпадзе, што паслухаў раба Свайго!» І была гораду вялікая радасць. І з таго часу пачалі ўсе прыходзіць у горад і казаць: «Зміласціўся Бог, пазбавіўшы нас ад усіх бедаў тваімі малітвамі, ойча!» І тады яшчэ больш прасвятліўся Аўраамій Хрыстоваю міласцю.

Тут дарэчы будзе згадаць пра жыццё найпадобнейшага айца ўсяе Русі Феадосія Пячэрскага. Пажадаў Бог вылучыць Свайго раба і перасяліў яго на іншае месца. Там узвёў той найсвятлейшую і найпрасторнейшую царкву. І калі памножылася брацця, паказаў Бог дзіва ўначы: кажуць, з'явілася нібы дуга ад верху царквы да суседняга ўзгорка, і па ёй ішоў найпадобнейшы айцец Феадосій з абразом Найсвяцейшае Багародзіцы, а следам за ім ішла, спяваючы, брацця. Так і адбылося пасля.

Такое ж дзіва, нагадаем тут, было і з найпадобнейшым Аўраамієм: ішоў ён з малітваю да Найсвяцейшае Багародзіцы, а за ім ішла, спяваючы, брацця. Так і здарылася пасля. І паказанае было месца, дзе шчасны і шмат іншых з ім маюць жыць, каб уратавацца. Найпадобнейшы ж дабрачэсны Ігнацій надумаў паставіць царкву мураваную ў імя святога Ігнація, у памяць пра сябе. А паблізу горада было

роўнае месца, зручнае, каб будаваць царкву і размясціць манастыр. І скупіў тады епіскап навакольныя агароды, і паставіў храм Святога Ігнація Баганосца; а пасля разбурыў яе і перанёс на новае месца. Замест жа яго заснаваў яшчэ большую царкву ў імя чэснага пакладання рызы і паса святое Уладаркі нашае Багародзіцы. І было там колькі манахаў, якія жылі на ўтрыманні шчаснага епіскапа Ігнація. А некаторыя дзёрзкія і неразумныя здзекаваліся, кажучы: «Назавіце імя таго, хто хоча быць тут ігуменам!» І найпадобнейшы епіскап шмат каму казаў, што пабачыў ён вачыма духоўнымі, як Бог уславіць гэтае месца, і шмат людзей малітвамі Найсвяцейшае Багародзіцы ўратуюцца ў ім міласцю Хрыстовай, жывучы ў Бозе, і што збяруцца ў ім хрысталюбцы.

Праз колькі часу па боскім наканаванні затужыў шчасны Аўраамій, што далёка трэба ісці да яго месцічам з горада. І згадаў шчасны епіскап з Божае волі, што смуткуе шчасны Аўраамій далёка ад горада, і загадаў аднаму з кліра — найстарэйшаму пратапопу Георгію — паклікаць хутчэй Аўраамія. І прыйшоў Аўраамій па наказе епіскапа, і, увайшоўшы, пакланіўся са словамі: «Багаславі, святы ўладыка, раба свайго!» Епіскап жа, усцешваючы Аўраамія, кажа: «Як, ойча, жывеш у Госпадзе?» Той адказвае: «Добра, уладыка святы, праведнымі тваімі малітвамі». І гаворыць епіскап: «Хачу даць табе багаславенне, калі прымеш яго». Адказвае шчасны: «Чэснае багаславенне — як дар». І кажа епіскап: «Вось багаславенне маё: даручаю табе і аддаю дом Найсвяцейшае Багародзіцы. Ідзі, усхваляючы і славячы Бога, маліся за ўсіх!»

І радаваўся шчасны, усхваляючы Бога за тое, што даў міласць такую Свайму рабу малітвамі святой Багародзіцы. І калі ён ішоў праз манастырскую браму, заззяла святло Божае ў яго сэрцы, асвятляючы радасцю розум ягоны і душу. І сказаў ён усім, што, як раней Іакаў угледзеў у сне

лесвіцу, што дасягала нябёсаў, і сказаў: «Ёсць у гэтым месцы Госпад!» — так і Аўраамію адкрылася, што і тут Госпад явіўся, і збыўся Давідаў псалом: «Узвядзе людзей на нашыя галовы і, калі пройдзем агонь і ваду, прывядзе нас у спакой».

Як цар пасля шматлікіх перамог узводзіць воя свайго ў сан вышэйшы і шануе яго, так і Госпад Бог суцяшае раба Свайго за тое, што ён працаваў, каб навярнуць сваёй добрасцю сэрцы далёкіх і блізкіх, прасвятляючы душы.

З той пары пачаў жыць Аўраамій у першым подзвігу. І прыходзілі да яго з вялікаю радасцю, бо ўзнагароджвала ўсіх Божая міласць, прасвятляючы і ўзвесяляючы, ахоўваючы і пазбаўляючы нягодаў, пасылаючы ўсім спакой, мір і даброты ўсялякія на многія гады, не даючы збяднець малітвамі святой Багародзіцы, найпадобнейшага Аўраамія і ўсіх святых. І з таго часу яшчэ болей вылучыў Госпад Аўраамія, а хто раней зняважаў шчаснага — тыя сталі вяртацца да яго і, падаючы да яго ног, даравання прасілі. І ён, каго ўсе зняважалі раней, жыў цяпер, акружаны ўсеагульнай любоўю. А хто баяўся раней прыйсці да яго,— пачалі прыходзіць нябоязна з радасцю. І ішлі гараджане з жонкамі і дзецьмі, а таксама князі і вяльможы, ішлі вольныя і рабы, спавядаючы свае грахі, і дадому вярталіся з радасцю.

Калі ж прыняў шчасны дом святой Багародзіцы, то аздобіў яго, бы нявесту, як ужо мы казалі раней: абразамі, завесамі і свечкамі. І дагэтуль можна бачыць усё гэта, калі прыйсці туды па міласць і абарону Багародзіцы, славячы Бога і Яго ўгодніка. І многія прагнулі стаць чарнарызцамі там, але Аўраамій не пастрыгаў іх адразу, бо ведаў манаскую працу і змусты вялікія ад агульнага нашага ворага. І было там 17 манахаў, абраных шчасным Хрыстоваю міласцю, бо Госпад навучыў яго разумець: калі хто прыходзіў да яго паслухмяны і ўмірраны, тады запрашаў яго часцей да яго прыходзіць, а калі хто ішоў дзеля залаталюб-

ства, з нядобрым — ад тых ён аддаляўся, бо даволі было яму і сваіх нягодаў, і змустаў чарнарызцаў, якія прымаў ён блізка да сэрца. Таму і іншых не пастрыгаў ён адразу ж, спачатку даведваючыся аб тым, хто як ведае кнігі святыя. І наследаваў ігумену, у якога было 12 манахаў, з якіх двое выконвалі подзвіг; калі хто хацеў там пастрыгчыся, дык спачатку глядзеў, да каго з братоў той падыдзе спярша: калі ішоў да падзвіжніка, то, узняўшы рукі, славіў Бога ігумен, калі ж не да такога — смуткаваў. Добра ведаў бо шчасны, як патрэбны подзвіг чарнарызцам гультаяватым. Бо тым, хто ў подзвігу, кажа Госпад: «Ускладзіце ярмо Маё на сябе і навучыцеся ад Мяне, бо лагодны і ціхі Я сэрцам,— тады знойдзеце душам сваім спакой і ўцеху, бо ярмо Маё любаснае і лёгкі цяжар Мой!»

Ад усіх, хто прыходзіў з добрым сэрцам, меў шчасны любоў вялікую. Епіскап жа радаваўся, што падарыў яму Бог такога святога і дабрачыннага мужа. І радаваўся Аўраамій, што яму Бог падараваў такога святога і шчаснага епіскапа і што прыняў ад яго такі дар Божай міласці. Але ў любові такой нядоўга епіскап пражыў і адышоў да Бога.

Справядліва ж сказаць пра яго, што быў сапраўды ён святы і богуспадобны і ў подзвігу працаваў з юнацтва, да сівізны ў вялікага святарства. І адышоў ён да Бога так, што пасля пра ягоную смерць казалі: «Як вялікае святло, сышоў ён з нябёсаў да нас, і страх Божы апанаваў усіх. І ўзышоў ён з радасцю на нябёсы, скончыўшы шлях свой у Госпадзе Бозе. Папросім жа міласці ў Бога, каб зміласціўся з нас у любові Сваёй і даў месту нашаму такога самага свяціцеля!»

З таго часу стаў Аўраамій жыць у яшчэ большым подзвігу, у вялікай уміранасці, у плачы ад самага сэрца, стогнучы і ўздыхаючы, бо часта ён згадваў разлуку з богуспадобным Ігнаціем і будучую разлуку цела з душою: як возь-

муць душу ангелы і якія іспыты ўчыняць у небе мытары сатаны, як прыйдзецца стаць перад Госпадам і адказаць за ўсе свае ўчынні, і куды яго павядуць, і як у часіну Другога прышэсця трэба будзе паўстаць на Страшным боскім судзе, і які будзе прысуд, і як паплыве рака вогненная, палячы ўсіх, і што дапамогуць душы толькі міласціна і пакаянне, і малітвы бесперапынныя, і любоў да ўсіх, і іншыя дабрачынныя дзеі. А мы ж гэтага не памятаем, і ні за што словам ніводным апраўдацца не зможам прад Богам.

У такім подзвігу жыў шчасны Аўраамій усе дні і гады жыцця свайго, пра ўсё гэтае дбаў і маліўся, уздыхаючы. І шмат каго навучыў і накіраваў жыць у добраснай працы, у няспанні, у малітве, у пакоры і цярпенні, у міласціне і любові, і шмат каго ўмацаваў са слязамі ніколі гэтага не забываць, і казаў: «Не забывайце ж і мяне, пакорлівага, у вашых малітвах да Уладара Бога і Найчысцейшае Маці Яго і святых Яго!»

І пасля занядужаў шчасны Аўраамій, і памёр, аддаўшы Госпаду шчасную і святую душу сваю, і атрымаў жаданае Царства Нябеснае. А жыў шчасны Аўраамій у подзвігу 50 год ад юнацтва свайго да скančэння жыцця дзеля Ісуса Хрыста, Госпада нашага, Якому слава з Айцом і Духам Святым цяпер і заўжды і ў бясконцыя вякі. Амін.

### ТУТ КАНЕЦ ЖЫЦІЯ ШЧАСНАГА І НАЙПАДОБНЕЙШАГА АЙЦА НАШАГА АЎРААМІЯ, І ПАХВАЛА, І ГЭТАМУ МЕСТУ ЗАСТУПНІЦТВА, І НАЙЧЫСЦЕЙШАЕ ВЕЧНАДЗЕВАЕ БАГАРОДЗІЦЫ ПАХВАЛА

Я, грэшны і нягодны Яфрэм, жывучы ў вялікай лянoце, заўжды бяздзейны, цураўся ўсіх добрых дзеяў, дарма толькі прыняў гэты ангельскі чын чарнарызца, бо ад яго я далёкі дзеля няправедных учынняў сваіх. Як сказаць пра

сябе, калі нават апошнім назваць мяне нельга, бо суджаюць мяне і сарамацяць мае злыя дзеі. Пры жыцці шчаснага я быў у яго вучнем найгоршым, не наследаваў яго жыццю і цярплівасці, уміранасці і любові, і малітве, і ўсім яго звычаям дабрачынным. Кожны дзень быў я п'яны, весяліўся і глуміўся ў непатрэбных учынках. Я бяздзейны быў у праўдзе — а ён плакаў расчулена; мудраваў я і весяліўся — ён маліўся і чытаў кнігі Божыя, і ў царкве славіў Бога; я драмаў і спаў шмат — ён працаваў у няспанні, калі я ў ляноце бяздзейнай хадзіў. Ён не быў марнаслоўны і нікога не асуджаў, я ж судзіў і марнасловіў. Ён згадваў дзень страшны Судзішча Божага — я ж на трапезы і гасціны вялікія ішоў. Ён памятаў пра смерць і развітанне цела з душою, і пра іспыты нябесных мытараў — я ж толькі пра бубны, жалейкі ды скокі. Ён наследаваў жыццям святых айцоў, чытаючы іх жыціі і казанні — я ж пераймаў і любіў марныя і нікчэмныя звычаі грэшнікаў. Ён змаляў сябе і прыніжаў — я ж весяліўся і ганарыўся. Ён любіў нястачу і беднасць, аддаючы ўсё сіротам і бедным, а я што атрымліваў — не аддаваў, пераможаны сквапнасцю і неміласэрдзем. Ён адзенне насіў сціплае, я ж — аздобнае і дарагое. Ён меў келлю малую і ложак жорсткі, я ж — ложак мяккі і цёплы, ды і тым быў незадаволены. Ён сцюжу і холад цярпеў, я ж цешыўся ў лазні. Ён жаліўся і цярпеў дзеля жабракоў, прагнучы і галадаючы, я жабракоў ненавідзеў і пагарджаў імі. Ён, калі бачыў голых і неапранутых і на марозе змерзлых, іх апранаў, я ж і не думаў, што тыя таксама ад улоння жанчыны нарадзіліся і што шмат іх, нябачных, вандруе дзеля Госпада. Ці, як кажа Павел апостал, настаўнік сусвету: «Тых і ўвесь свет не варты, хто хадзіў у авечых і казіных шкурах — хадзіў, хаваючыся, па свеце, не маючы дому, бадзяўся па шчылінах і пячорах зямлі дзеля Госпада».

Сапраўды, айцы і братове: не здольны я дзівоснага і

боскага аблічча і твару найпадобнейшага Аўраамія належна ўсхваліць, бо я неразумны і грубы, а аблічча ягонае светлае, радаснае і пахвальнае, маё ж — цёмнае, ілжывае, і мярзотнае, і бессаромнае, і не здольны таму я, нягледзячы на жаданне, усхваліць Аўраамія. Прашу міласці і ўспамогі ад Госпада, і ўскладаю свае спадзяванні і надзею аб дапамозе на Найчысцейшую Дзеву Багародзіцу Марыю, бо яна больш за ўсіх да свайго Сына, а нашага Бога моліцца з усімі бесцялеснымі сіламі і з усімі святымі, і можа яна мяне ратаваць і пазбавіць усіх бедаў. Яна ж мне ўспаможніца і наручніца жыццю і ратунку тут і ў будучы дзень. Яна бо можа пазбавіць нягодаў і ўспамагчы рабам сваім, калі тыя клічуць яе на ўспамогу. Дома, у дарозе і ў моры, сярод бураў і хваляў, у час бітваў і ва ўсіх бедах прыходзіць яна на ўспамогу пасля малітвы, ноччу і днём і а кожнай часіне нас пазбаўляючы і ахоўваючы ад учынняў сатаны і яго бесаў, ад усялякай крамолы, нашэсця паганаў, адвяргаючы рады ўсе і ўсе зборні ліхія. За святароў і манахаў, за ўвесь чын царкоўны, і за сонм князёў, і за ўсіх хрысціянаў малі, Найсвяцейшая Панна Вечная Дзева Марыя, Сына свайго, і нашага Бога! Маліся рупліва за даручаную табе чараду новых людзей, што абраў Сын твой, Бог наш Ісус Хрыстос, Які сышоў на зямлю, і нарадзіўся ад найчысцейшага ўлоння твайго, і быў Сынам, Богам і чалавекам, і пакутаваў, і памёр па волі Сваёй, і ўваскрос з гроба, і зруйнаваў пякельнае царства, і ўзышоў на нябёсы да Айца, і знішчыў варожую сілу. Дык жа знішчы цяпер народы ізмаільцянаў, раскідай і рассып, нібы пыл ад гумна па ветры малітвамі Найчысцейшае Маці Тваёй, узвесялі абраную чараду новых людзей! Гнеў Свой сціш, дай збавенне і міласць, каб жылі, Усеўладаржыцелю Госпадзе, у Тваёй міласці, каб народы другія не мовілі: «Дзе іх Бог?» Дык пачуй і прымі малітву ўсіх, хто моліць Цябе, бо ніадкуль дапамогі не маем, апрача як ад Цябе!

І маё, грэшнага і нягоднага Яфрэма, худое і сціплае маленне, Госпадзе Ісусе Хрысце, прымі і памілуй, не адхілі мяне ад ліку богуспадобных. Бо хоць шмат я грашыў і Цябе ўгнявіў больш за ўсіх, але не ведаю іншага Бога, апрача Цябе, Які словам Сваім учыніў тое, што пажадаў; Ты загадаў — і стварылася. І дыханне ўсялякае славіць Цябе, Госпада і Уладара, Які ўсё стварыў і ўчыніў. Накіруй жа і навучы мяне, Госпадзе, выконваць волю Тваю, дай Сваю міласць на ўспамогу рабу Твайму, каб пазбавіўся я ўсіх нападаў варожых, кіраваны Табою і Табой абаронены. Дык падай усяму месту і рабу Твайму руку Тваёй успамогі, бо заўсёды я па́даю, саграшаючы цяжка. І не патрабуй, Уладару, узяць ад грэшнага цела душу непакаянную, а прымі ты малое маё пакаянне, як дараваў ты любадзеіцы і блуднаму сыну, і разбойніку, і, хоць у шматлікіх грахах я жыву, уваскрасі мяне і ажыві малітвамі Святой і Найчысцейшае Тваёй Маці-Дзевы і ўсіх сілаў нябесных і ўсіх святых, што спрадвеку Табе паслужылі ў працы вялікай, як найпадобнейшы і шчасны Аўраамій, дзень смерці якога сёння святкуем, радуемся і весялімся.

Радуйся, горадзе, бо цвёрда цябе ахоўвае і ратуе правіца Уседзяржыцеля! Радуйся, Найчысцейшая Дзева, Маці Божая, бо горад Смаленск заўжды радуецца аб Табе і Цябе славіць, бо збаўляеш Ты бедаў яго! Радуйся, горадзе Смаленску, бо збаўлены ты ўсіх блізкіх бедаў малітвамі Найсвяцейшае Багародзіцы і ўсіх сілаў нябесных, і ўсіх Божых святых! Радуйцеся, апосталы і прарокі, пакутнікі і свяціцелі, найпадобнейшыя і праведныя, і ўсе святыя ў памяць дня смерці святой найпадобнейшага айца Аўраамія! Радуйцеся, пастыры і настаўнікі статку Хрыстова: патрыярхі, епіскапы, архімандрыты, ігумены, іерэі, дыяканы і ўвесь манаскі чын святых чарнарызцаў, і тыя, хто ў Бозе спачыў, і тыя, хто ў Бозе жыве ў веры хрыстаіменнай,— светла радуйцеся і весяліцеся ў памяць спачыну найпа-

добнейшага Аўраамія! Любасныя богаахоўныя цары, і князі, і суддзі багатыя і слаўныя, і жабракі, што ў Бозе спачылі дзеля Хрыста, і тыя, хто жыве яшчэ дзеля Госпада, і ўвесь узрост, мужчынскі пол і жаночы, юнакі і старыя,— радуйцеся дзеля Хрыста ў дзень смерці святой шчаснага айца Аўраамія! Радуйцеся дзеля Госпада, усе жабракі і ўбогія, сляпыя, кульгавыя і нядужыя, і ўсе просьбіты, хто не мае дзе прыхіліць галаву, хто церпіць голад, галоту і сцюжу, хто зведаў шмат смутку і напасцяў на моры і сушы, азлабенне, выгнанне, рабункі няправедныя ад несправядлівых вяльмож і суддзяў, бо ўсё гэта паспыталі вы і перацярпелі, дзякуючы і ўсхваляючы Хрыста Ісуса, Госпада нашага! Сёння радуйцеся і вы, хто памёр, адышоў з гэтага свету, і хто з цярпеннем у Бозе жыве,— весяліцеся, радуйцеся ў дзень святой смерці баганоснага айца нашага Аўраамія! Радуйся, Царква Госпада нашага Ісуса Хрыста, маці ўсіх цэркваў; і Сіёне, і Ерусаліме, дзе Хрыстос па волі Сваёй прыняў і працярпеў крыж і смерць і ўваскрос дзеля нашага ўратавання і збавення! Радуйцеся, святыя чэсныя месцы ў ваколіцах Ерусаліма і пустэльня богуспадобных айцоў, бо ёсць у ёй прыстанішча, дзе святыя, дабрачынна пажыўшы, весяляцца ў Госпадзе! Радуйцеся, цэрквы Хрыстовы і дамы святых ва ўсім свеце, дзе свяцічелі ўсе, ігумены і іерэі, дыяканы, чарнарызцы і ўсе багаверныя і хрысталюбныя хрысціяне дары нясуць і маленні на ахвярнік святы дзеля даравання грэху! Хай жа дагледзіць Уседзяржыцель Уладар Госпад Саваоф, і прыме, і з міласцю наведае ўсіх іерэяў, што моляцца і ўзносяць Яму прынашэнні, і стаяць са страхам і ўвагай вялікаю, слухаючы святое Евангелле і салодкія павучанні святых, і маюць да ўсіх любоў і цярплівасць, і не помсцяць за зло, і працуюць усё болей з кожным днём дзеля добрых дзеяў, пазбягаючы ўчынкаў ліхіх, у паслушэнстве да дабрачынняў, радуюцца і весяляцца дапамозе і міласці Госпада Бога! Няхай жа Ён

міласць даруе Сваю і ратуе нас ад ліхога, і пазбавіць нас вечных пакутаў! Бо ўваход у пракаветнае Царства Госпада нашага Ісуса Хрыста з усімі абранымі Ім, хто слухмяна спраўджваў волю Яго — то вялікі дарунак Ягонай любові!

Вось жа пяём мы і молімся Таму, Каго славяць нябесныя сілы і людзі, бо навечна Ягоная міласць на тых, хто праўдзіць волю Яго. Яму слава, чэсць, і дзяржава, і пакланенне — Айцу, Сыну і Святому Духу цяпер, і заўжды, і давеку! Амін.

Месяца ноября в 24 день
О проявлении чюдесе от
иконы Пресвятей Бого
родицы святому муче
нику Меркурию, иже
во граде Смоленски,
и о нахожении без
божнаго царя
Батыя

Благослови, Отче!

Великое чюдо хощет ныне повести предложитися, аще бо преже забвению и нерадению предложено бысть или пакы чисмение держимо бысть, но некими изгублено беяше в забытии ума и славу и достойную память. Ныне, господие и братие, богатии и маломощнии, вельможи и во властех сущии, просто рещи, не гордяся никтоже от сановитых, но всенародное множество людцкое града нашего, дивное сие чюдо да воспомянем паки дивней нашей заступницы и милостивой помощницы нашей Царицы Госпожи Богородицы, яко невидимою Божественою Своею силою и святым омфором осеняет и покрывает град наш от всякие лсти и язык тайно находящих, бед и зол. И воспоминается о сем чюдеси и тое дивнейшим заступлением, еже от нея непорочныя граду нашему даровася и угодником ея — святым Меркурием яве Богопособие и тверду победу граду нашему дарова. Вы же сих нелестно послушайте пободрено кто и молитвою прилепитися, да и ныне она поможет нам своим угодником чюдодействовати, яко праведник и по смерти жив есть, да граду нашему пособие дарует и люди от бед вся града того спасает, токмо незабытливы будем, тоя неисчетно насыщающия святых дарований постиже уже сих сказание чюдес Ея.

В лето оное, егда прииде лютейшее нахождение злых варвар попущением Божим на вся християньския пределы, на святый град, преже еже речем матере градовом — богоспасаемый Киев попущением и прещением великим и праведным гневом Божим, зане умножися беззаконие велие и лютии греси и мерзская нечистота блудная. От всего всетворительныя Его десница посла на нас сия беда и разорение градцское, яко бо не токмо о нем пред помянем — не на един Киев град сие злое пленение и лютое, но на вся страны и пределы православных християн Российския земля. По градом же и весем бысть великое пленение от злых онех варвар. Бысть тогда такова беда зла, яко ве-

ликым святым церквам оскудение и опустение люто, яко в них и дивии зверие плодишася, яко оскудеша людие, и монастыри честныя — тако же и ти разоряемы без пощадения. Градовом же и весем великое запустение, священником же всем сановитым тяжки южи на выя и люты раны на хрептех и нужныя смерти, честнейшим же иноком и инокиням лютое и немилостивное посечение; всем же православным людем тяжко иго ярема имущи поганьска на выях своих.

Тогда бо восплакася земля, якоже некая чадолюбивая мати, зрящи ону беду, бывающу на странах всех християнских предел. Яко тогда исполниша лютии тии варварии землю Рускую сквара ядыма злобожнаго и нечестивого их закона. Не токмо сие едино, но и младенца ссущая отторгаху от пазуху недр матерних и о земля ударяху, а иныя оружием прободаху, оскверниша честные девьства, растлеваху юнных дев и брачных жен зряху мужие разлучаемых от себе, и честнейшая невесты Христовы — иноки — оскверняху блудом. Мнози бо тогда от православных сами резаху ся и смерти приимаху, дабы не осквернитися от поганых. Тогда велие пленение бысть на православных, яко безчеловечно на них показаху немилостивии ратницы, власы главными вместо вязаху и гнаху, аки скот, остьны бодущи.

Сих бо не можаху зрети общая наша мати земля, жерелом стонаше, глаголющи: «Сынове, сынове рустии! Аз зрю оставающих вас, чадолюбивых бывших мне! Чаде мои, чаде мои! Прогневавшеи Господа своего и моего Творца — Христа Бога, вижу вас от пазухи моея отторгаемы и в поганьския руки немилостивно впадша вас праведным судом Божим, иго работно имущих на плещах ваших. Ктому аз, бедная вдова бых, что первое сетую мужа ли или любимых моих чад; вдовство же менити запустение монастырей и святых церквей и градов многих. Ктому же не терплю жалости моея лютыя сея беды, возопию ко Творцу общему

Господу Богу: Боже, сотворивый вся и Содетелю всех, не презри на беззаконие людей своих, но помилуй их милосерде и утоли праведный Свой гнев и возврати их, да мя вторицею наследуют повелением Твоим, Господи, яко Ты еси един Бог, милуя грешных!» Слышасте ли, како ону беду видевше земля и не стерпе, и возопи жерелом ко Творцу, моляся! Кольми паче стократное и милостивное на нас показася дивное заступление Царици Госпожи Богородицы; еще не бы о нас Пресвятая умолила Сына своего Господа и Спаса нашего и праведный Его гнев прещением отолила, кто ли бы нас избавил от толикия беды и от злого мучительства, да паки от сих чюдес ныне истинну увесте.

Бысть нахожение велика пленения на страны православных от безбожного и зловерного царя Батыя, варвара злаго, от негоже пострада за Христа великий князь Михаил Черниговский блаженноименитый, и Феодор, болярин его. В лето 6745. Бысть нахожение злобожнаго того варвара и христоборца. Пришед же к Киеву и преодолети ему; зане бо от Бога послася на ня рана та зла, и изыде оттуду и проиде пленующе во вся грады христоносных, доиде же и до самыя Москвы града и тамо поплени и преодоле. От того же пленения и злаго мучительства, яже преже рече, въспять возвращается, якоже глаголахом, от приятия градов и разорение святых церквей, яко бо сих несть мощно подробну изглаголати, якоже бо великия жалости исполняется утроба о еже тогда бывающих бедах, яже содеяшеся на христолюбивых людей от злаго и немилостиваго мучителя, растерзание велие, разсыпание святых Божих церк вей: оцепеневает язык и пресыхает гортань. Уже бо ктому не может всего изрещи чисто, мы же начнем касати беседе, о нейже главизна. Да не паче нечто мало о подвизе и побеждении великом святаго Меркурия воспомянем, еже бе точию то дивное чюдо.

В та лета и в то злое пленение одного мучителя умысли

бо несытый он злый кровопролийца или рещи сыроядец той, ино кзитие сотвориша на богоспасаемый град Смоленск. С ним же бяше исполин с сыном своим, егоже уби святый Меркурие. Теплейша же и некосная наша заступница Госпожа Богородица крепкая держава и нератная помощница, непобедимый воевода града нашего, и ту ищет угодника своего святого Меркурия, иже есть во граде Смоленьски.

Зрите же, людие, скорое и милостивное граду поможение! Явися в ту нощь во святей своей церкви сама Госпожа Богородица, глаголющи от святыя своея иконы: «Иди,— рекла пономарю, сиречь стражу, глаголющи ему,— иди к рабу моему Меркурию въскоре на Подолие на оно место (и двор сказа ему, бе бо во граде), рцы же ему, яко Госпожа зовет тя. Тамо же шед, не просто к двору приходи, а не толцы во врата, но егоже обрящеши мужа среди двора стояща, рцы тому тихо, како того зовущи: Меркурие, изыди скоро отсюду, яко Госпожа зовет тя, во всем твоем в воиньском подобии». Пономарь, сиречь церковный страж, паде на помост церковный пред святою иконою Божия Матере нашия помощници и плакася, и помоча слезами помост, востав и скоро изыде, и иде на посланное оно место, и прииде ко двору оному, идеже показа ему сама Пречистая Богородица, и обрете тако, якоже реченно ему бысть преже, святого, среди двора стояща, воздевающа руце на небо, опоясану же ему сущу и вооружену во всем воинском подобии. Бе бо в том часе моляся ко Господу Богу и Того рожьшей Богоматери, бе ему уже явлено свыше о посланней победе преже пришествия пономарева. Святый же Меркурие смутен очютив пономаря того, флягмуа постона легко, яко обьявляше себе ему, бе бо глубоко в нощи пришествие пономарево. Пономарь же ста пред враты, тако тихо изрек, якоже научен бысть: «Святче Божий Меркурие! Изыди скоро, яко Госпожа Богородица зовет тя, яко преже ныне моего прихода возвещено тебе есть от Госпожи нашея Бо-

городицы». Меркурий же отверз врата и изыде, и идяше на гору с пономарем, и приидоша во церковь Богородичну и обретоша свещу горящу пред самою тою святою иконою, от неяже глас изыде пономарю. Падши же Меркурий, в себе молящеся святей Богородици с великим захлипанием слезным, и паки сама вторицею святею Богородицы икона, от неяже и пономарю глас бысть: «Угодниче мой Меркурие! Аз посылаю тя огрозити дом мой. Аз бо на се призвах тя, раба Моего, от римских пазух».

Бяше бо сей святый Меркурий от рода славнаго, или се рещи, княженецкаго; бе бо родиною земля Римьския, ту бе заехал юн в возрасте, службу дея и служаше самодержцу града того Смоленска, или паче се истиннейши рещи, яко званием и посланием от Госпожи Богородицы на чюдотворение и великую помощь своему граду и превелицей своей церкви. Да якоже рекохом, родом римлянин, верою же благочестив, бе бо святыя веры греческия и по благочестии велий поборник и ревнитель истинен, соблюдаше бо ся в девьстве, яко чистотою телесною честь бысть. Глаголаше бо ему о сих сама Пречистая Богородица, яко идет безбожный мучитель втайне, в сию бо нощь хощет напасти на град мой ратию своею всею со исполином и сыном его, хотя опустити град мой; аз же не презрех града моего и возненавидех велеречие льстиваго того мучителя, еже възносяся суетно и охуждает Православие. Аз бо о сих умолих Сына и Бога моего о граде моем, да не предаст мя в плен и в работу злых варвар. Гражане же тех никих не ведяху, ни старейшина их града того, державца, ни святитель превеликия тоя церкви, но бяху пребывающе во граде безвестно в ту нощь и в ту годину не ведяще, где есть ратник той злый. Ты же, изшед, иди на место оно, тако реченный Долгий Мост, ту бо рати уготовал бесу и рою злый богоборец на град Мой. Возвещаю бо ти о сих, юже хотят убити тебе; ту помощию и силою Христа Бога победиши исполина.

Аз бо сама бех сущи тамо с тобою, помогающи тебе, рабу моему, да о сих явити ми ся. Яко тебе, раба моего, самого воспять тя на сие место оно пред град, и ту венчаешися своею кровию и победе венец от Христа приимеши, яко идеже знамение на крове Его». И ныне есть на поли пред вне градом место то, сие же дивнейшее заступление бысть на нас от славныя Пречистыя Богородица. Якоже древле в Кесарийстем граде тако же тогда посылаем самою Госпожею Богородицею, заступающи и помогающи граду Кесарию, тако же и другаго Меркурия мученика угодника своего древнейшаго посылает, да яве биет внезапу мучителя законопреступника царя Иулияна, тако же избавлен бысть град он.

Сия же слышав сам святый Меркурие от самыя тоя иконы святыя Богородица победу и одоление на варвары, наипаче же произвещение венца нетленнаго и жизни вечныя обещание, радостию себе святый оградив, и тако святый Меркурий поклонися до земля пред образом святыя иконы Богородицы, и изыде из церкви, и прииде на то место, идеже сказа ему сама Госпожа Богородица, проиде же врата градныя, яко и стражу градцкому не чювшу, прииде же на Долгий Мост и знамена себе святым знамением честнаго креста, в молитве призывающи Матерь Христа Бога нашего, глаголюще: «О пресвятая Госпоже Богородице! Помози ми на противника сего!» И взем свой меч под конец, и вшед в полк злобожных варвар, и уби исполина того силнаго, немощию обложена, и иных от полку поганых много множество посечено мечем. Тако уже зари бывшем воставьше, ратницы ти, и обретоша о себе велико чюдо, яко исполин сильный убиен бысть и иных многое множество телес мертвых полков своих, ини тако осташа они зломыслия своего несытьства злаго, или болма прославляющу угодника своего, поидоша ко граду ратницы; святому же в то время отшедшу на оно место, идеже прият непобеди-

мый венец. И ту стояше, моляшеся святей Богородицы о победе и о своей смерти, глаголя в молитве своей сие: «Царице и Владычице всех тварей, Госпоже Богородице, Приснодево Мария! Молитвою своею покрый град и церковь свою навеки невреждену ни от коих ратник, безбедну, а о мне самем, рабе твоем, умоли Сына своего Христа Бога нашего, да покоит мя мирно от временных сих и учинит мя с лики святых Своих мученик. Аз бо хощу пострадати за святую церковь твою.» И рек: Аминь. Абие по молитве глас бысть к нему: «Рабе мой, дерзай; будет ти егоже просил еси. И град свой соблюду до конца невредим во веки. Тебе же самого, раба моего, положат мощи в церкви моей во граде».

Святый же стояше в велицем дерзновении противу ратник. И тако приидоша ратницы злии на то место, идеже стояше святый, на нихже прищед святый Меркурий, победи всех. «О горе,— глаголюща,— люто бо есть братися, яко зрим молнии носящи великих мужей и поборяющих, нас же немилостивно посекающи. Болма же того видехом ту стоящу жену красну превелику солнцеобразну сущу, яко й мертвых на помощь воставляющи и противу нас посылающи!»

Видесте ли дивное тое заступление граду нашему!

Святый Меркурие поклони главу свою по суду Божию: по соделавшейся от него победе пришед един варвар лют или сын того исполина, уби святого Меркурия мечем. Ту же блаженный прият кончину о Господе. Сам же варвар устрамився и побеже въспять, бе страх велий на них. А злобожный царь Батый виде, яко исполина убита и много множество иных, тако ко граду не смеяше приближитися и побеже то Долгаго Мосту посрамлен от Госпожи Богородицы, дивнейшее заступницы нашея.

Егда же отсекоша главу святому Меркурию, сам ю святый восприат и ко граду принесе пред всеми и проглагола

главою своего отсеченою, поведающе победу и заступление царици Госпожи Богородицы. Гражане же стекошася на сие чюдо, слышаще бо дивное заступление Богородицы о граде своем. Святого же Меркурия тело с великою честию и со псалмы и песньми098 вземше и положиша во церкви Святыя Богородица на преди крилоса, шуяго на единой стране от Красных врат.

Да и сего не забудем сказати. По малех днех тому же пономарю церковному явися святый Меркурий на иконе, яко жив, во всем воинском подобии, глаголя ему: «Поведай гражаном, да обесят оружие мое — копие и щит — над гробом моим, да егда будет кое притужение граду, тогда износят, прославляюще Бога и Того рождьшую Матерь и мене, смиренаго раба Божия Меркурия поминающе, да подаст им Господь Бог победу от оружия сего и враги града посрамит». И тако обесиша, якоже сам заповеда Меркурие, и до ныне же присно всеми видимо есть. И тако шедше гражане узреша вся тая, яже святаго победу, и бысть радость велика. И о сем ублажиша святаго, возсылающе славу Содетелю Богу Отцу и Сыну и Святому Духу и ныне и присно и во веки веков. Аминь.

Зборнік ГПБ Пагод. № 653. Л. 267—280.

# Аповесць пра дзіва, якое ўчынілася ад абраза Найсвяцейшае Багародзіцы са святым пакутнікам Меркурыем у горадзе Смаленску, і пра на шэсце бязбожна га цара Батыя

Багаславі, Ойча!

Хачу расказаць сёння аповесць пра вялікае дзіва, задаўненае і занядбанае, а нават калі і запісанае, дык потым пазбаўленае належнае славы і памяці. Зараз жа, паны і братове, багатыя і ўбогія, вяльможы і ўладары,— словам, і саноўныя, адкінуўшы ганарыстасць, і простыя месцічы,— згадайма дзівосны цуд найдзіўнейшай заступніцы нашай і міласцівай успаможніцы — царыцы ўладаркі Багародзіцы, якая нябачнай сваёю боскаю сілай і святым амафорам ахінае, ахоўвае горад наш ад усялякае пошасці, нечаканых варожых нашэсцяў, ад нягод і няшчасцяў. Прыгадаем гэтае дзіва і тое цудоўнае заступніцтва, даранае Найчысцейшаю Багародзіцай гораду нашаму, і боскую дапамогу, і перамогу надзейную месту нашаму, атрыманую праз яе ўгодніка, святога Меркурыя. Вы ж паслухайце ўважліва і прыйдзіце з малітваю да Багародзіцы, каб і цяпер яна ўспамагла нам праз цудадзейнасць свайго ўгодніка (бо праведныя і пасля смерці жывуць), даравала гораду сваё заступніцтва, а месцічаў ратавала ад бедаў. Мы ж, атрымаўшы незлічонае мноства святых дарункаў яе, не забудзем ніколі паданняў пра гэтыя дзівы.

Паводле Божае волі, прыйшлі лютыя злыя варвары на ўсе хрысціянскія землі і на святы Богам ратаваны Кіеў, што называўся раней «маці гарадоў». А было на гэтае Божае наканаванне, быў звернуты вялікі праведны гнеў Яго, бо памножыліся нашыя беззаконні, і грахі лютыя, і распуста мярзотная. Вось за што наслала на нас усятворная Божая правіца такую бяду, якая спустошыла нашыя гарады (бо не толькі адзін Кіеў, але і ўсе гарады і краі Рускай зямлі былі запалонены). Усе месты і вёскі трапілі ў палон да ліхіх гэтых варвараў, і было вялікае гора цэрквам святым — разбурэнне і спусташэнне, і завяліся ў іх дзікія звяры, і зганелі службіты царкоўныя, а святыя манастыры рабавалі бязлітасна ворагі, і руйнавалі вёскі і гарады. Святарам жа і людзям саноўным цяжкія калодкі ўскладалі на

шыі, і ранілі іх да крыві, а шмат каго забівалі да смерці. А святых чарнарызнікаў і чарнарызіц seклі люта і неміласэрна. І ўвесь люд праваслаўны нёс на шыях сваіх ярмо прыгнёту паганскага.

Тады, угледзеўшы гэткае гора, што сышло на краіны хрысціянскія, заплакала, нібы дзеталюбная маці, зямля. Бо напоўнілі лютыя варвары зямлю Рускую полымем і дымам бязбожнага і паганага свайго закону. Яны ж і дзетак-немаўлятаў адрывалі ад грудзей матчыных і білі іх аб зямлю, а іншых зброяю працінаді; яны ж апаганьвалі цнатлівасць, гвалцілі маладых дзяўчат, разлучалі жонак з мужамі, а святых Хрыстовых нявест — манашак — апаганьвалі юрліва. Тады многія праваслаўныя і самі сябе забівалі, каб толькі варвары іх не апаганілі. І паланілі людзей праваслаўных бесчалавечныя лютыя ваеўнікі: гналі іх неміласэрна, нібы жывёлу, звязаўшы ім валасы і падганяючы джыгаламі.

Не магла бачыць гэтага наша маці-зямля і стагнала: «Сыны, сыны рускія! Бачу вас, лю́бых дзетак маіх, пакінутымі! Дзеці мае, дзеці! Угнявілі вы Бога вашага і Творцу майго Хрыста! Бачу, што адрываюць вас ад грудзей маіх, і праведным Божым судом трапляеце вы ў неміласэрныя рукі паганаў, і носіце на раменах сваіх ярмо рабскае! Смуткую я, удава бедная, дзеля мужа і лю́бых дзетак сваіх! Удоўства ж маё — гэта спусташэнне манастыроў, і цэркваў святых, і гарадоў. Не магу я цярпець ужо смутку ад гэткае лютай бяды, і галашу я да Творцы ўсіх — Госпада Бога, Які стварыў усё і ўсіх: «Не зважай на беззаконні люду Свайго, але з мілажалем памілуй яго, сціш праведны гнеў Свой, вярні яго мне, каб другі раз учыняў па наказах Тваіх, Госпадзе, бо Ты — Бог адзіны, Які мілуе грэшных!» І калі б, угледзячы і не церпячы такое бяды, не застагнала нават зямля, молячыся да Творцы, і не выявіла Царыца Панна Багародзіца невымернага, дзіўнага і міласцівага

свайго заступніцтва, і не ўмаліла б Найчысцейшая Сына свайго, Хрыста Бога і Спаса нашага, і не сцішыла б сваім заступніцтвам праведны гнеў Яго,— хто б пазбавіў нас гэткай бяды, злой пакуты, і як зведалі б мы ісцінныя гэтыя цуды!

І вось, прычынілася тое нашэсце бязбожных, падступных, ліхіх варвараў, і трапілі праваслаўныя землі ў палон да цара Батыя, ад якога пацярпеў дзеля Хрыста слаўнаіменны вялікі князь Міхаіл Чарнігаўскі і баярын яго Феодар. У 1237 годзе прыйшоў бязбожны варвар і хрыстаборца Батый да Кіева і захапіў яго. Паколькі ж гэткую цяжкую рану паслаў усім нам Бог, дык выйшаў Батый з Кіева і пайшоў, палонячы гарады хрыстаносныя, і дайшоў да самой Масквы, і паланіў яе. А пасля ліхога яе палanення і катавання вярнуўся назад, беручы гарады і цэрквы святыя рабуючы. Немагчыма і расказаць падрабязна пра ўсе беды, што ўчыніў хрысталюбцам люты і неміласэрны кат, і пра вялікія руйнаванні і нішчэнні святых Божых цэркваў, бо ад вялікага жалю дранцвее язык і перасыхае горла. Не могучы пра ўсё гэтае распавесці, пачнём нашае апавяданне ды згадаем пра дзівосны подзвіг і перамогу святога Меркурыя.

У год таго паланення ліхога задумаў кат ненажэрны, ліхі крывасмок, ці, лепей сказаць,— людажэр, напасці на ратаваны Богам горад Смаленск, і ўчыніў гэта разам з адным волатам і сынам ягоным, якога пасля забіў святы Меркурый. Бо найцяплейшая і бязгрэшная наша заступніца Уладарка Багародзіца, моцная дзяржава і непераможны ваявода, неадольная ўспаможніца места нашага знайшла ў Смаленску свайго ўгодніка — святога Меркурыя.

Угледзьце ж, людзі, хуткую і міласцівую дапамогу гораду нашаму! Явілася ўначы ў святой сваёй царкве сама Уладарка Багародзіца, мовячы праз свой абраз панамару, гэта значыць царкоўнаму вартаўніку: «Ідзі зараз да раба

майго Меркурыя на Падолле (і назвала яму месца і двор у горадзе), скажы яму, што кліча Панна яго. І не заходзь у той двор, і не стукай у браму, а калі ўбачыш, што стаіць сярод двара муж, пакліч яго ціха: Меркурыю, ідзі неадкладна, з усёй зброяй, бо кліча Уладарка цябе!» Панамар жа ўпаў на царкоўны памост перад святым абразом Божай Маці, памочніцы нашай, і, плачучы, арасіў слязамі сваімі падлогу, і ўзняўся, і хутка прыйшоў на прызначанае месца — да двара, што паказала яму найчысцейшая Багародзіца, і ўгледзеў усё, як тая казала: стаіць святы пасярод двара з узнятымі да неба рукамі, аперазаны і ўзброены, з усім вайсковым рыштункам, молячыся Госпаду Богу і Божай Маці (бо яшчэ перад прыходам панамара было ўжо сказана яму з неба, што здабудзе ён перамогу). Заўважыўшы панамара, узрушыўся святы Меркурый, а калі панамар назваў сябе, супакоіўся і з палёгкаю прастагнаў, бо было гэта сярод ночы. Панамар жа стаў перад брамай і ціха сказаў, як яго навучылі: «Святы Божы Меркурыю! Зараз жа ідзі, бо кліча цябе Уладарка Багародзіца, як яна ўжо сама спавясціла табе перад прыходам маім». І расчыніў браму Меркурый, і пайшоў за панамаром на гару, дзе стаяла царква Багародзіцы, і, зайшоўшы туды, убачыў свечку, запаленую перад абразом, ад якога пачуў голас панамар. І ўкленчыў Меркурый, молячыся да святой Багародзіцы са слязамі і ўсхліпамі, пакуль другі раз не прамовіў яму, як раней панамару, абраз святой Багародзіцы: «Угодніча мой Меркурыю! Пасылаю цябе абараніць дом мой, дзеля чаго і заклікала цябе, раба майго, ад рымскіх пенатаў!» (А паходзіў жа гэты святы Меркурый са славутага княскага роду, і радзімай яму была зямля Рымская, адкуль ён у маладыя гады выехаў на службу і служыў самадзержцу Смаленскаму. Ці, праўдзівей сказаць, быў ён заклікаңы і пасланы самою Уладаркаю Багародзіцай на цудоўную моцную дапамогу яе гораду і яе найвялікшай царкве. Бо, рымлянін

родам, вераю быў ён пабожны хрысціянін грэцкага абраду, прыхільнік і змагар за веру ісцінную, а цела сваё захаваў у цноце і чысціні). І прамовіла яму святая Багародзіца: «Хоча бязбожны кат з волатам сваім, і сынам яго, і з усім сваім войскам напасці гэтае ночы на горад мой і зрабаваць яго. Але не пакінула я горад свой і зненавідзела напышлівасць ілжывага гэтага ка́та, які, марна ўзнёсшыся, прыніжае Праваслаўе. І ўмаліла я Сына і Бога майго, каб не аддаў Ён мой горад у палон і ў рабства злым варварам. Але ні месцічы, ні галава гарадскі, ні ўладар, ні святар найвялікшае гэтай царквы не ведаюць, дзе гэтае ночы і ў гэтую часіну стаяць ліхія ваёўнікі тыя. Ты ж ідзі на месца, што завецца Доўгі Мост, бо якраз там сабралася д'яблава войска лютага багаборцы, каб напасці на мой горад. І скажу табе, што схочуць знішчыць цябе, але ты ўспамогай і сілаю Хрыста Бога адолееш волата. Я і сама буду з табою, дапамагаючы табе, майму рабу, і яўлюся перад супастатамі. І потым вернешся ты, рабе мой, на тое самае месца прад горадам, дзе і ўвянчаешся сваёю крывёй і атрымаеш вянец перамогі ад Хрыста на памятку аб Ягонай крыві». І дасюль на полі перад горадам ёсць тое месца, дзе здарылася найдзіўнейшае заступніцтва святой і найчысцейшай Багародзіцы. Гэтаксама і раней была ўратаваная Кесарыя, на ўспамогу і заступніцтва якой паслала Уладарка Багародзіца іншага ўгодніка свайго — пакутніка Меркурыя, каб той забіў законаадступнага ка́та — цара Юліана.

Пачуў святы Меркурый словы святой Багародзіцы ад яе абраза, што атрымае ён перамогу і прагоніць ворагаў і, найперш, што прыме вянец нятленны і жыццё вечнае атрымае, і апанавала радасць яго. І ўкленчыў святы Меркурый перад святым абразом Багародзіцы, і пайшоў з царквы, і прыйшоў на месца, якое назвала яму Багародзіца, і прайшоў праз гарадскую браму, не заўважаны вартаю, і прыйшоў на Доўгі Мост, і асяніў сябе знакам крыжа свя-

тога, так заклікаючы ў малітве Маці Хрыста, Бога нашага: «О Найсвяцейшая Уладарка Багародзіца, дапамажы мне адолець майго супрацiўніка!» I пасля ўзяў свой меч і ўвайшоў у войска бязбожных варвараў, і забіў іх магутнага волата, якога раптам апанавала немач, а разам з ім і вялікае мноства іншых язычнікаў пасек мечам.

Прачнулася на зары войска паганаў і ўгледзела дзіва: што забіты волат магутны і многія іншыя воі. Тады перапоўніла іх лютая ненажэрнасць і зласэрнасць, і пайшлі на горад яны. Святы ж тым часам прыйшоў на месца, дзе атрымаў вянец перамогі і, стоячы там, маліў святую Багародзіцу аб перамозе сваёй і аб смерці, кажучы: «Царыца і Уладарка ўсяго жывога, Багародзіца Панна, Вечнадзева Марыя! Малітвай сваёй агарні горад свой і царкву, пакінь іх на вякі недатыкальнымі ворагу, пазбаў усіх бедаў. I за мяне, раба твайго, памалі Сына свайго, Хрыста Бога нашага, каб Ён супакоіў мяне ў міры, забраў мяне з тленнага гэтага свету і далучыў да Сваіх святых пакутнікаў, бо хачу пацярпець я дзеля Хрыста і праліць сваю кроў за святую тваю царкву! Амін». I адразу пасля малітвы пачуў ён голас: «Рабе мой! Мацуйся; атрымаеш ты ўсё, што прасіў. Ахаваю я горад свой непарушным на векі вечныя. А твае, рабе мой, мошчы будуць ляжаць у гэтым горадзе, у маёй царкве!»

I ўзняўся святы з вялікаю мужнасцю супраць вояў варожых. I калі прыйшлі ліхія ваёўнікі на месца, дзе стаяў святы, узняў свой меч на іх святы Меркурый і перамог іх усіх. Яны ж галасілі: «О гора! Як нам змагацца, калі ідуць супраць нас ваяры, узброеныя бліскавіцамі, якімі б'юць нас без жалю! I бачым апрача таго: стаіць жанчына цудоўная, вялікая, сонцападобная і мёртвых узнімае на дапамогу і пасылае іх супраць нас!»

Вось якое дзівоснае было заступніцтва гораду нашаму!

Пасля ж перамогі склаў святы Меркурый галаву сваю

паводле суду Божага пад мячом лютага варвара, сына сынтога волата, які быў забіты Меркурыем. Тут жа і прыняў смерць шчасны дзеля Госпада. Сам жа варвар жахнуўся і пабег, бо жах моцны яго агарнуў. А Батый, цар бязбожны, угледзеўшы волата, забітага разам з мноствам вояў сваіх, не наважыўся наблізіцца да горада і пабег ад Доўгага Маста, зняслаўлены Уладаркаю Багародзіцай, найцудоўнейшаю заступніцай.

Калі адсеклі галаву святому Меркурыю, ён сам узяў яе і прынёс у горад і сказаў усім галавою сваёю адцятай пра перамогу сваю і пра заступніцтва Царыцы Уладаркі Багародзіцы. Месцічы ж, сабраўшыся на гэты цуд, пачулі пра дзівоснае заступніцтва Багародзіцы за горад яе, і з вялікай пашанаю, са спевамі псалмаў паклалі цела святога Меркурыя ў царкве святой Багародзіцы, перад клірасам, злева, з боку Аздобнае Брамы.

І яшчэ не забудзем сказаць: праз колькі дзён той самы царкоўны вартаўнік убачыў святога Меркурыя на абразе, нібы жывога, ва ўсім вайсковым рыштунку. І той прамовіў яму: «Скажы месцічам, каб павесілі зброю маю — кап'ё і шчыт — над труною маёй. А калі здарыцца гораду якое ліха, хай вынесуць іх, славячы Бога і Ягоную Маці, згадваючы мяне, раба Божага Меркурыя, і дасць вам Госпад Бог перамогу ад гэтае зброі, і будуць зняслаўлены ворагі вашы!» І павесілі зброю так, як наказаў святы Меркурый, і можна яе там пабачыць цяпер і заўсёды. І была вялікая радасць месцічам, што бачылі перамогу святога, і ўсхвалілі яны святога, славячы Творцу Бога — Айца, Сына і Святога Духа цяпер, і заўжды, і давеку. Амін.

# Память святых новоявленных мученик Антония, Иоанна, Еустафия

Стих же: УМЕРШИХ ТРИ ДРУГИ ЛИТВЫ РОДОМ,
НЫНЕ МЫСЛЕНЫЯ УМЕРШВЯЮТ ТРИСТАТЫИ.

Тии бяху от места Литовьскаго, огню и тии служаще, подобно другым съплеменным своим, ибо Антоний и Иоан братия беаху, от душа християньству, еже о нас благочестие възлюбльше. И пришедше к священнику некоему достоинством, именем Нестеру, от негоже Божественому сподобляются крещением. Иоан убо възрастом старей, а иже по нем Антоний именуется. И подобляющеся християном, показующе житие, пребывающе, служаще князю Литовьскому, обаче крыюще, яко беху християне. И понеже не мощно бе утаити неизменнаго устава и прочаго всего пребывания, иже не иным подобитися, главы же стригомым и брадам. Въспрошени быша от князя. христи-

яне собе споведаша с дръзновением. И нудими благочестия отврещися и предлежащих мяс трапезе вкусити. Ибо случися день постный, понеже не восхотеша, в темнице мрачной Иродове затворяются глубоце, радующеся и веселящеся, яко о Христове имени таковым сподобишася страдати, мняху бо ся, паче на царствие, а не во темницю отводими.

Лету же мимоходящю, малодушьствовав Иоанн, и усумневъся мук, посылает к князю, от темница изяту быти моляся, готов быти всяусердно повеленая исполнити, еже убо и бысть явьствено убо, яко единславен тем бе и вероподобен, и себе же християньство имяше, страхом же мук не хотя собе объявити. Тогда же и Антоний изят от темници бывает. И пребываху свободно обои, ни единой нужи тем наносимой, не убо иже то Иоанну христианьство крыяще, но являше благочестие и брату запрещаше.

И некогда велику имяше силу, и сего ждаше, предстояше князю обычно. Иоанн убо предлежащих мяса вкушаше. Антонию же повелено бысть вкусити, и не восхоте, явлено христианина собе исповедаше. Темже во темницю пакы влагается, еже есть глубокый ров. Иоанн же от христианьства отвращаем и от нечестивых досаждаем, яко праведную веру съблюд, иже последе изволив и съхранив. Приступль прежереченому прозвитеру Нестеру, моляше его ходатая быти к братнему пременению, яко прощену быти от него. Да якоже слыша от него, не хотяше сия брат никакоже, и иже бо не едино имети общение с ним, аще не исповест явленно благочестие. Вся абие преложена бывают, и время подобно искаше, яко обьявити. И некогда князю предстояше обычно, тому в бани служа, дерзновенно християна собе исповеда. И абие же биен от обретшихся руками и палицами и влачим, и в темницю отводится с радостью неизреченною. И благодушья исполнив брата. Пребы-

ваху убо оба ■ темници и благодаряше Бога, оних же пострада Его ради. По прехождению же реченных дней причащающеся животворящим Христовым тайнам от речена иерея.

Лету же некоему минувшу, Антоний убо осужается смерти. И сказану бывшю тому, ответ бодръствуя всю нощь преиде с братом купно, укрепляя его и ко страданию подвижа и перваго падениа въспоминая, предглаголя, яко не по его множех днех и той подобную подимет смерть. Та же и Божественным таинам причащаются оба. Дни же бывшю, удавлением представляет душу Богови ■ 14 день имущю априлю месяцю. Таже Иоан по проходжению прежереченных дней от Антония подобной тъи осужается удавлению в 24 апреля месяца. Честныя же их мощи неции от верных вземше, честно погребоша.

Еустафий же юн беаше възрастом, еще възраст цветущ имея, мужествен и красен и доблествен якоже душею, такоже и телом. Душею же християньство възлюбив, крещается от прежереченнаго иерея Нестера, и пребываше оттоле, яко християн, подобающее житие добре и к Богови любовию приходя, постяся до конца. И ину всяку добродетель делая начальством же и властию князя. Некогда тому последуя о ловитвах пребыванию творящу, и виден бысть от него и возрастающа брады его и власы носяй уже на главе, ниже мало что от сих вредив. Сим огнь обычай служитель есть, отцу их доброненавистному и лукавому бесу узаконоположившему постризати убо яже на главе в долготу яже протяженыя власы, браду же аки бритвою отрезати. Он же яко нечювьствие телу сице злочестная и безумная всякого обычая плотная отложив и сия целы сохранив. Сице убо князь имуща видев, аще християнин есть, въпрашаше. Тому же с дрьзновением християна собе исповедавшю, на ярость велику и бесование подвиже князя. И преложити сего честные веры в тщание положи, и прежде убо

нудит того ясти мяса. Понеже пяток беаше и пост преже Рожества Христова, и не всхоте оттуду сего скусити, якоже видя убо его князь, яже очима сие видети хотяше, ярость въспалив, первие убо жезлы немилостивно сего повеле бити. Ему же стоящю, и слугам немилостивно биющим. Мученик не токмо слезу или стенание показа, но благодаряше паче человека, явльшагося и сподобльшаго обещнику святым Его быти, яже паче на ярость и больший гнев князя подвиже. Повелевает пакы воду студенейшю принести и ▪ того вливати уста, да якоже сему бывшю, и плотью от лютыя студени посиневьши, и не въсхоте отнюдь мясу коснутися. И муку на того тяжьчайшю уготова, и кости ногу его скрушиша и строша от глезне до самых колен. По сем же главы того власы купно с кожею повеле отрезати, такоже нос и уши повеле отрезати. Сими убо казньми три дни терпя, они же ощющати мняше и глаголаше любимым тому християном, таковыя раны и болезни плачющим о нем и рыдающим, сице умирающю.

И повесити сего мучитель обеща. Он же такожде и скрушены же отнюдь естественныя обнося бедры и лыста, яко ничтоже пострада печально, водящим не возбрани, но паче предваряше течаше. Иже дуб обретьше, тако того повешают, ужа на выю възложивше. И тако душу Богови предаде ▪ 13 имущю декаврию месяцю. И тамо вися три дни, неприступен зверю, съблюден бысть; от благочестивых же неции оттуду вземше и погрести сподобиша, благодаряще Бога.

Бывает же некое чюдо Богови мученику представляющуся: по тех бо смерти и не един от осуженник на оном месте осужден бысть умрети.

Но събравшеся християне и просиша у князя преклонитися к прошению тех и дати тем место, яко да воздвигнут церковь священну. Он же реченое место тем даде, тамо же церковь въдрузивше, Богови славословие въссыють, и

принесоша же ся части некыя от священных мощий, и тех в святейшую великую вселеньскую церковь, и прияты быша честно в славу и хвалу великого самого Бога и Спаса нашего Иисус Христа. Емуже слава, честь, покланяние с Отцем и Святым Духом. В векы веком аминь.

Рукапіс ДПБ, ОЛДП. О778, лл. 319—324. XVI ст.

# Памяць святых навяўленых пакутнікаў Антонія, Іаана, Яўстафія

Верш: УТРОХ ПАМЕРЛІ СЯБРЫ-ЛІЦВІНЫ,
І СЁННЯ МЫСЛЕННА ГІНУЦЬ ГЭТЫЯ ВАЯВОДЫ

Антоній і Іаан былі браты з літоўскага горада Вільні і пакланяліся агню, як і іншыя іх супляменнікі. Палюбіўшы ж усёю душой хрысціянскую дабрачыннасць, прыйшлі яны да святара Нестара, ад якога і атрымалі хрост боскі. І быў названы старэйшы брат Іаанам, а малодшы — Антоніем. І жылі яны па-хрысціянску. Слугавалі ж браты літоўскаму князю Альгерду. І не казалі нікому, што яны хрысціяне, але не маглі ўтаіцца, бо змянілі свае звычаі і лад жыццёвы і розніліся з астатнімі, што стрыглі галовы і бароды. І спытаў тады князь, ці не хрысціяне яны, і тыя смела прызналіся ў тым. Тады пачалі іх змушаць адрачыся ад добрай веры і з'есці на трапезе ахвярнага мяса. Але дзень быў посны, і тыя адмовіліся, і за гэтае трапілі ў змрочную вязніцу Ірадаву, але так радаваліся і весяліліся, што даў ім Хрыстос пацярпець за

імя Яго, быццам не ў вязніцу іх адвялі, а на царства.

Мінуў год. І Іаан адступіўся, пакутаў збаяўшыся, і паслаў слугачоў да князя, молячы вызваліць яго з вязніцы і абяцаючы рупна выконваць усё, што яму загадаюць. І здавалася, быццам стаў ён адзінаверны астатнім паганам, але патаемна, бо баяўся пакутаў, застаўся ён хрысціянінам. І з ім разам быў вызвалены і Антоній. Так жылі на волі яны, і ніхто не чыніў ім абодвум ніякага зла, хоць Антоній, у адрозненне ад Іаана, не таіўся, што ён хрысціянін, адкрыта вызнаваў праваслаўную веру сваю, і брату наказваў гэтак учыняць, спадзеючыся перакканаць яго.

Аднойчы сталі яны перад князем, як звычайна, узмоцненыя ў сваёй веры. І еў Іаан ахвярнае мяса. Антонію ж гэтаксама было загадана есці, але ён адмовіўся, абвясціўшы адкрыта сябе хрысціянінам. Тады яго зноў кінулі ў яму-вязніцу. Іаана ж пагане схілялі адмовіцца ад хрысціянства і дапякалі за тое, што ён захаваў веру ісцінную, якую пасля ўмацаваў ён. І прыйшоў тады Іаан да згаданага прэсвітэра Нестара, просячы дапамагчы прымірыцца з братам, каб той дараваў яму. Але, пачуўшы пра гэта, Антоній сказаў: «Не буду з ім нават і размаўляць, пакуль не прызнае адкрыта сябе спавядальнікам ісціннай веры!» І пачуў Іаан, і стаў чакаць зручнай часіны, каб абвясціць сябе хрысціянінам. І аднойчы ён, як звычайна, слугаваў князю ў лазні і прызнаўся адкрыта, што застаўся хрысціянінам. І загадаў князь схапіць яго, біць рукамі і кіямі, а пасля кінуць у вязніцу. І радаваўся Іаан, і ўсцешылася душа ягонага брата. І сядзелі абодва ў вязніцы, усхваляючы Бога, што Ён даў ім пакутаваць дзеля Яго. І прымалі Антоній і Іаан прычасць боскіх тайнотаў жыватворных ад згаданага іерэя.

Прамінула колькі гадоў, і быў Антоній асуджаны смерці. Даведаўшыся пра гэта, ён не спаў усю ноч, а ўмацоўваў брата і, прыгадваючы падзенне ягонае, рыхтаваў да пакуты

яго і прадказваў, што праз колькі дзён і ён прыме такую самую смерць. І прычасціліся абодва боскіх тайнотаў. А ўдзень быў Антоній задушаны і аддаў душу Богу 14 красавіка. Праз некалькі дзён пасля пакарання Антонія, 24 красавіка, быў асуджаны і Іаан такой самае смерці. А святыя іхнія мошчы пахавалі чэсна вернікі.

Яўстафій жа быў юнак у шчаслівых гадах, мужны, прыгожы і доблесны духам і целам. Захацеўшы ад усёй душы стаць хрысціянінам, ён хрысціўся ў згаданага іерэя Нестара. І з той часіны пачаў ён праўдзіць рупліва запаветы Хрыстовы, узрастаючы ў Божай любові, посцячыся і навучаючыся іншым дабрачынням. А быў ён ушанаваны князем,начальствам і ўладаю. Аднойчы, калі ён быў з князем на ловах, угледзеў князь, што ні барада яго, ні валасы на галаве не абстрыжаныя. Айцец жа вогнепаклоннікаў, ненавіснік дабра д'ябал, даў звычай паганам валасы на галаве стрыгчы і абразаць бароды. Яўстафій жа не зважаў на цела, і ўсе злачынныя і неразумныя звычаі плоцевыя адхіліў, і валасоў не абрэзаў. І ўгледзеў гэтае князь, і запытаўся, ці не хрысціянін Яўстафій. А ён абвясціў сябе смела хрысціянінам, чым прывёў князя ў гнеў і шаленства. І спрабаваў князь адвесці яго ад веры святой, і спярша прымушаць стаў яго з'есці мяса, але была якраз пятніца і пост перад нараджэннем Хрыстовым, і Яўстафій адмовіўся. Князь жа, убачыўшы, што не хоча той нават зірнуць на мяса, раз'юшыўся і загадаў біць Яўстафія кіямі бязлітасна. І Яўстафій стаяў, а слугачы білі яго неміласэрна. Пакутнік жа не праліў ні слязіны, не застагнаў, але дзякаваў Богу як чалавек, што далучаецца да святых. Гэта князя яшчэ больш раз'юшыла і ўгнявіла, і загадаў ён прынесці сцюдзёнай вады і ўліваць яе ў рот Яўстафію. І хоць пасінела ад холаду цела яго, не схацеў ён усё роўна нават і дакрануцца да мяса. Тады прыгатавалі яму яшчэ больш цяжкую пакуту: перабілі косці на ягоных нагах ад пят і да

самых каленяў, і зрэзалі валасы з галавы са скураю разам, і адрэзалі вушы і нос. І трываў ён такія пакуты тры дні, і яшчэ павучаў іншых любасных хрысціянаў, што плакалі і рыдалі дзеля яго як па чалавеку, што памірае.

Тады загадаў кат павесіць яго. І, нягледзячы на перабітыя бёдры і галёнкі, Яўстафій ішоў як звычайна, нібы і не пакутаваў горка. Тых жа, хто вёў яго, нават і апярэджваў. Так падышлі да дуба яны і там павесілі яго на вяроўцы за шыю. Так 13 снежня аддаў Госпаду душу Яўстафій. І вісеў там тры дні, і не кранулі ягонае цела звяры. А потым нейкія пабожныя хрысціяне знялі цела яго і пахавалі, славячы Бога.

І вось дзіва, якім уславіў Бог Сваіх пакутнікаў: пасля іхняе смерці на тым месцы ніводны асуджаны ўжо не быў пакараны.

І сабраліся хрысціяне, і сталі прасіць князя аддаць ім гэтае месца, каб паставіць святую царкву. Той пагадзіўся і аддаў ім названае месца. І збудавалі тыя царкву ў Божую славу. І прынеслі часткі ад мошчаў свяшчэнных названых святых у найсвяцейшую вялікую ўсяленскую царкву, і чэсна паклалі іх там дзеля славы і пахвалы вялікага Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, Якому належыць слава, чэсць, пакланенне з Айцом і Духам Святым. Давеку — амін.

# Хаджэнне Ігнація Смаляніна ў Царград

## ПУТЬ ДОНОМ-РЕКОЮ ДО МОРЯ, А МОРЕМ ДО ЦАРЯГРАДА

В неделю Фомину провадиша с нами три стругы да насад на колесах, в четвертом же спустиша суды на реку на Дон. И в 2 день приидохом до Чюр Михайловых, тако нарицаемо место, некогда бо и град бяше был. И ту утешение вземшей, о Господе целование створше, и с жалостию и с умилением проводиша ны, и от того места възвратишася въсвояси. В неделю же святых Мироносиц жен оттуда же с митрополитом все влезъше в суды, поидохом рекою Доном, тужаще и скорбяще о путном шестьвии. Бяше бо пустыня зело, небе бо видети ни села, ни человека, токмо звери: лоси же и медведи и прочая зверя. В 2 же день речнаго плаваниа минухом две реце — Мечю и Сосну, а в 3 день — Острую Луку, а в 4 день — Кривый бор. В 6 день приспехом до устьа Воронажа. На утриа же, в неделю на святаго Николы памет прииде к нам князь Юрьи Елецкий с бояры и со многими людьми и сотвори радость велию. Оттуду же приехахом к Тихой Сосне и видехом столпы камены белы, красно же стоят рядом, яко стози мали, над рекою над Сосною. И минухом Черле-

ный Яр, и Бетюк, и Похор. В неделю же Самарянын минухом реку Медведицю и горы высокиа, и Белый Яр; в понедельник — горы камены красны, вторник — Теркли и городище и перевоз, и ту обретохом первие татар. В среду минухом Великую Луку и Сарыхочзин влус, и оттоле нача ны страх одерьжати, яко внидохом в землю языка Исмальтского. В четвертак минухом Бекъбулатов влус, и пяток минухом Черленыи горы, в неделю Слепаго минухом Акбусин влус. В понедельник проидохом Бузук реку, канун Възнесения Христова приспехом до моря.

Неделю святых отец въкладшеся в корабль на устьи Дону под Оваком. И отступихом в море, и бысть о полунощи кораблю стоящю на якоре, и некотории оклеветаша ны и граде. И догнаша ны фрагове и сандалцех, и наскакаша корабль, и бысть топот велик на мосту корабля, и бывающих неведущу ми. Изшед же на мост, и видехом мятеж велик. И рече ми владыка: «Игнатие, что бо ради сице стоишь, ничтоже печали не имый?» Мне же рекшу: «Что есть, владыко?» И рече ми: «Сии убо фрязи от града пришедше, нашего святителя митрополита имше и сковаша, и Германа, и диакона его, должен бо им есть. Мы же с ним без вины погибаем». И въпросиша старейшину их, что им хотят створити. Он же отвеща: «Не боитеся, что же вашего есть, и вы своа возмете». По мале же утолени быша митрополитом и, доволну мзду вземше, вся ны отпустиша. И дню мимошедшю, и в 2 день поидохом оттоле. Ветру же добру и пособну бывшю, и в 3 день тяжек ветер въпреки бяше, и прияхом истому велику потоплениа ради корабленаго. Но и сами корабленици стояти не могуще, но паче валяхуся, якоже пияни, и избивахуся; и проидохом устие Озачьскаго моря. И взидохом на великое море. В 6 день минухом Кафинский лимен и Сурож. И проидоша 4 дни. В 5 день, в черверток, възвея ветер съпротивен и поведе ны в левую сторону, к Синопу, и впадохом в лимен близ града Синопа,

и ту пребыхом 2 дни. И възвея добр и покосен ветр, и поплыхом близ брега. Бяху же ту горы высоки, и впол тех гор стирахуся облаци. И противу града Амастра заговехом к Петруву дни.

Вторник минухом Понтораклию. В среду възвея ветр съпротивен, и възвратихомся в Пандораклию, и пребыхом 9 дний. Ту есть церковь святаго Феодора Тирина; ту мучени его бысть, в ней же и гроб его. И оттоле поидохом в сандалиах к Царюграду на Рожество Иоана Предтечи. И наутриа и пяток минухом Диополь град. В суботу обедахом на устьи реки Сахара. В неделю минухом град Дафнусию и Корфию и приидохом в град Австравию. И ту постоа митрополит, пытая вести о Амарате. Бяше бо Амарат пошел ругаться на сербьскаго князя Лазаря, и бысть весть: убиша бо на суиме обою: и Амората, и Лазаря. И, убоявшесь мятежа, занеже бехом в Турьской державе, и отпусти митрополит черньца Михаила, а владыко Михаил мене, Игнатья, а Сергий Азаков своего черньца. И поидохом от Австравии в неделю перед Петровым днем. На утрия поидохом от Фили и минухом Риву. И приидохом к устью, и минухом Фонарь. Ветру же добру сущу велми, и приспехом в Царьград с радостию неизреченною.

В понедельник, канон Петрову дни, в год вечерни, приидоша к нам Руси, живущеи ту, и бысть обоим радость велиа. И ту нощь пребыхом в корабли, наутреа же в самый праздник святых Апостол, благодаряще Бога, внидохом в град. В утрии поидохом к святей Софии, еже есть Премудрости Божия. И, дошедше великых врат, поклонихомся чюдотворней иконе Пречистыя Богородица, от нейже изыде глас Марии Египетской, възбраняя ей входа в святую церковь в Иерусалиме. Та же поклонихомся образу Господню внутрь святыя а церкви и честных святым иконам, и целовахом трапезу, на нейже покладают святыа страсти Христовы, и потом святаго Арсениа патриарха, и трапезу

Авраамлю, на нейже гости Христа и Троици авльшася, и одр железный, на немже Христови мученици жьжени быша. И пребыхом все утро в церкви, покланяющеся и дивящеся чюдесем святых и величеству и красоте церковней. И отслушавше Святу Литоргию, и идохом на двор Костянтинов, и видехом тамо здание царьского; ту есть игрище царьско, еже именуется Подромио. И стоит тамо столп медян, аки в три опряти свит, верху разведены, а на коемьждо конци по змиеве главе. В том же столпе заклепан яд змиев; бяхут же ту и инии столпи мнози камены.

Месяца иулия в 1 поидохом в манастырь святаго Иоана Продрому и ту поклонихомся. И упокоиша ны добре ту живущеи русь. В утрии шедше в Лахерьну и целовахом раку, в нейже лежит риза и пояс пречистыа Богородица. И оттоле идохом к Апостольстей церкви и, поклоньшеся, целовахом святый столп, на немже биен бысть Господь нашь Иисус Христос. Ту есть и Петров камень, на немже плакася горко о отметании. И поклонихомся образу пресвятыя Богородица, иже явися святу старьцю в пустыни. И бяше ту гробове царьстии: великаго Коньстянтина и Феодосиа Малого и инии мнози. В той же стране есть церковь мала, в нейже образ Спасов великий, от негоже изыде глас прощениа на одре лежащому человеку, и верою кающуся своих согрешений. Ту есть в приделе святый Спиридон и Полиект, оба в теле суть, и мощи святаго Иоана Златаустаго, и мощи святаго Григория Богослова в каменных ковчезех запечатаны.

В 3 день идохом к святому Антонию патриарху и благословение от него прияхом. В 4 день поклонихомся образу великаго архаггела Михаила, иже явися отроку, стрегущему снасть здательную церковную. В 6 поидохом к пресвятей Богородици Одигитриа и, поклоншеся, целовахом и взяхом помиризмо и помазахомся радосто мою. И идохом в великий честный манастырь Пандократор и целовахом

святую дъску Господню, на нейже, со креста снемше, тело Христово положиша. И пречистые слезы на том въобразишась. И ту есть корчага в самородном камени сделана, в нейже Христос воду и вино претвори, и держат в ней воду богоявлении; ту лежат главы святых Сергеа и Вакха и Якова Перьскаго.

В 8 день поклонихомся святому образу Христову, створшему чюдо о купци Феодоре. В 16 прииде Михаил владыка в Царьград. В 24 идохом в манастырь святаго Иоана Продрома и целовахом руку святаго Иоана Постника. В 30 прият благословение от патриарха владыка Михаил, и идохом в манастырь святаго Афонасия патриарха, емуже вдала посох на патриарьшество святая Богородица, и целовахом мощи его в теле. И оттоле идохом в Перивлепто, и целовахом мощей много и священномученика Григория в теле; и рука есть ту святаго Иоана Предтечи, крестившая Господа.

В 31 ходихом верху церкве святыя Софиия, и видехом 40 окон шийных и мерих окно с столпом: 2 сажени без дву пядей. Августа 1 ходихом в церковь при Констянтинове дворе, ижи зовома есть 9 чинов, в нейже суть столпи чюдни: зрети бо есть сущих при них, аки в зерцале. А оттуду ходихом въскрай моря, идеже есть целебный песок, и над ним церковь святый Спас, в нейже есть чюдотворный образ Господень и святый Аверкие в теле. В 2 целовахом мощи святаго Стефана первомученика в манастыри его. В 5 ходихом к Пигии; поклоншеся святей Богородици и пихом воду целебную и мыхомся ею. 8 ходихом в Перивлепто и целовахом руку Предтечеву, и главу Григория Богослова, и лоб Стефана Новаго, и икону Господню, от нияже изыде глас царю Маврикию; в нейже вковано святых мощей много. И ту есть потир топазион, камени многоценна и иных святых мощей много. В 8 ходихом в Пандократорьскую церковь и в судохраниле, видехом святое Евангелие, писано

все златом рукою Феодосиа, царя Малаго. И ту целовахом кровь Господню, истекшую от ребр Его на кресте.

Месяца септемвриа 10 день преставися Пимин митрополит в Халкидоне. И привезше тело его, положиша вне Царяграда на краи моря, против Галаты, в церкве Предтечеве.

В его место отпустивше в Русию митрополита Киприана. И поиде оттуда месяца октября 1, а с ним владыка Михаил, Иоан, владыка Волыньский, и с ним два митрополита греческих и Феодор Симановьский. По отшествии же их прииде весть: един корабль, рекоша, с митрополиты, спасен бысть, а иже со владыками — тъй безвестен есть. Некотории глаголаху: истопоша, а инии рекоша: в Кафу присташа, друзии же реша: в Амастрии суть, а инии — в Дафнусии, сказуют. И не по коликих днех прииде грамота от митрополита, сказующи, колика беда им на мори бысть страшна и неисповедима, и каков бысть гром и треск от сражениа волн. И паки от того развеяни быша, друг друга не видеша. И бури преставши, и вси спасени быша. И к Белуграду приплывше, и вси здрави в Русью отидоша. Мы же, сия слышавше, радостни зело быхом.

Месяца декабря 17 видех гроб великаго пророка Даниила и, поклоншеся, целовахом. Ту есть церковь святаа Богородица, таже чюдодействует в пяток Страшной преславно. Есть бо в ней икона святая Богородица, писание Луки евангелиста. В неделю перед Рождеством Христовым видех в святой Софии, како рядят в пещь святых 3-ю отрок. И служившу патриарху святую литургию честно во всем сану святительском. В 22 целовах мощи святыя Анастасия и главу святаго Игнатиа Богоноснаго.

В лето 6898 Андроников сын Калоан нача искати в Цариграде царства с турьскою помощию. И прия грады и пирги, и прииде к Царюграду. Близ святыя Пасхы начаша битися, и в велики четверг прииде Мануил, старого царя

сын Калоанов, от Лимноса в катаргах на помощь Царюграду. В великую суботу обличиша кромолников до пятидесят; овых ослепиша, а овем носы срезаша, и заздаша вся врата граду от поля, а оставиша едины врата близ Продрома, и повелеша блюсти запас на два года.

В 2-ю неделю Пасхы, в среду ополунощи долнейшая люди отвориша врата градная Калоану Андрониковичу и пустиша его с греции, а без турков, и ничтоже зла не створиша. Мануил же в катаргах убеже и с имением в остров Лимнос; от Царяграда до Лимноса острова триста миль, и от Лимноса до Святыя горы 60 миль близ Святые горы. Старый же царь Калоан затворися в своих полатах, а бояре их ускочиша в церковь святые Софии. Звон же бысть по всему граду, ратнии же осветиша весь град фонарьми, ганяюще по всему граду и на конех, и пеши толпами, голы, оружиа държаще в руках своих и стрелы готовы в луки положены, кличуще сице: «Полатаите Андронику». И отвещаша вси гражане, вопиюще: «Полатаине Андронику». Идеже сице не възглаголют въскоре, ту навертывают яро оружии. И бе чюдно видети и слышати кипение граду. Овии со страхом трепетаху, а овии радовахуся, и не бе видети убиенаго нигдеже, толико страх подаваху, оружиа възносяще. Дню же приспевшю, полъутра мало помятошась и мало некоих ураниша. До вечера же поклонишась вси царю младому Андрониковичу, и утишися град, и преложися печаль на радость. Царь же Мануил того лета приводил двожды фрязскую рать ко Царюграду в катаргах, и не успе ничтоже. А Калване подья истому велику, наряжая пороки и рати наимуя, бьяся у полат все лето пушками с старым царем, и не може ему одолети. И пришед Мануил третее ко Царюграду с римляны, тии же крепко ополчаются на противных, знамя же их — на персех крест бел нашит. И вниде в лимень, сиречь пристанище, и воиде в полаты к отцу. Бяху бо с краа моря стена камена и пиргове

высоци, не мощно бо есть никакоже приити к нему ни по морю супостатным, ни по суху. Андроникович же стояше на поли, бияся с старым царем. Бысть же месяца септемвриа 17 день во время обеда, царь Мануил вышед ис кастеля с всеми своими и удари невестно на Андрониковича, обедающу бо ему невъоружену, и не възмог стати, побеже. Сродник же его Калатуз бияся, и не възмог, такоже бегу ятся. И приа Мануил Царьград, и поплени Андрониковича множество около Царяграда. И поиде Мануил с поклоном к турьскому царю, и удержа его турчанин, присла к отцу Мануилову, рече: «Допдеже не разоришь полат своих, Мануил от руку моих не изыдет». И повеле неволею полаты разорити, а сам изыде ■ ветхий царьский двор и от скорби преставись. И турци Мануила отпустиша, и бысть царь и доныне.

В лето 6899 августа 15 земля треснулася.

## О ЦАРЬСКОМ ВЕНЧАНИИ

В лето 6900 месяца февраля 11, в неделю о Блудном венчан бысть царь Мануил на царство и со царицею святым Антонием патриархом. И бысть венчание его чюдно видети. Той нощи бысть всебдение нощное в святей Софии. Восиавшу дни, приидох и аз тамо. И беаше народа множество, мужскыя внутрь святыя церкви, а женьскыи на полатах. И толико хитро есть: все иже бяху женьска полу, стояху за шидными запонами, а лиц их украшениа никомуже от народа видети, им же вся зримая видети есть. Певци же стояху украшени чюдно, ризы имяху, аки стихари широци и долзи, и все опоясани; рукава же риз их широции а долзи, ови камчати, овии шидны; наплечки с златом и с круживом; на главах их оскрилци с круживом. И множество их собрани. Старейший их бе красен, аки снег, бел. Беяху

же ту и фрязове от Галаты, а инии Цареградци, а инии зеньвидцы, и инии венедикы. И тех бяше чин видети чюден. И стояху на два лика, имеяху на себе ягаты багряна бархата, и друзии вишнего бархата. И един лик имеяше знамя на персех женчюгжен, а друзии свое знамя имешя на всех равно. И бяше под полатами по правой руце чертог 12 степени, шириною две сажени, а облечен весь черленым черьвцем, на немже два столпа златы.

Нощи тоя царь на полатах был, и егда приспе 1 час дни, и сниде царь с полат, и вниде в святую церковь предними великими дверми, иже зовется Царьская. А певци пояху пения странна и несказанна. И бысть шествие царево толико тихо 3 час от предних врат до чертога. Обапол царя 12 оружника, от глав их и до ногу все железно, а пред ним идут два стяжка: власы черны, а древа их и ризы и шапкы черлены. А пред двема стяжки идут подвойскии; посохи их сребром закованы.

Царь же, вшед в чертог, облечеся в багреницю и диамиду и венец кесарьскый около главы с столпъчики. Изшед из чертога, взыде на верх и приведоша царицю, и седоша на столех. И начаша литургию. А царь седит и царица. И егда хотяше быти выход, и пришедша два велика диакона ко царю, и створиша поклон мал до персей. И въста царь, поиде к олтарю, а стяжки пред ним и оружници обапол его. И вшедшу царю в олтарь, сташа стяжки и оруженици пред олтарем на обе стране святых дверец, и облекоша царя в фелонец мал, до пояса багрян, и иде царь на выход, свеща в руце держа. И створяя патриарх вход, взыде на омбон, и царь с ним. И принесоша царьский венец на блюде, покровен, такоже и царицын. Шедша два великая диакона и створиша поклон мал царици, и прииде царица до амбона. И положи патриарх венец на царя и даде ему крест в руку. И сшед царь доле, и положи венец на царицю, и поидоша на свое место, и седоша на столех. А па

триарх вход створи и прочее. И егда хервимьская песнь доспе, и сшедша велика диакона, и створиша царю поклон, якоже и прежде. И въстав царь, поиде в олтарь. И одеша фелонец, и предшествова пред святыми даръми и пренос, свещу възжену в руце держа.

Кому есть мощно поведати красоты тоя! Елико долго бе шествие святым даром, колико херувимьское песни есть. И по входе святых даров кадит царь около престола. И пребысть в олтари до святаго причащениа. И егда бысть час святому причащению, и шедша велика диякона, створиша поклон царици. И егда сниде от престола доле, и ту стоящий народ, и раздраша всю опону чертожную, колико кто въсхити себе. И вниде царица южьными враты и крило олтаря, и даша ей святое причастие; царь же от патриарха с священникы причастись у престола Христова. Изшедшу же ему из церкви, осыпаша его стовратами; народ же похваташа коиждо руками своими.

Рукапіс БАН, 16.8.13, лл.90–105 адв. XV ст.

# Хаджэнне Ігнацыя Смаляніна ў Царград

## ШЛЯХ ДОНАМ-РАКОЮ ДА МОРА, А МОРАМ ДА ЦАРГРАДА

...У нядзелю святога Фамы праводзілі з намі тры стругі і насад на колах, якія ў чацвер мы спусцілі ў раку Дон. А на другі дзень прыйшлі мы да Чур Міхайлавых — так завецца месца, дзе раней быў горад. Тут месцічы прынялі нас ласкава, і прывіталі нас дзеля Госпада, і, праводзіўшы нас з жалем і замілаваннем, вярнуліся дамоў. У нядзелю ж святых Жанок-міраносіц селі ўсе мы з мітрапалітам на караблі і пайшлі Донам-ракою, тужачы і сумуючы аб пешым падарожжы, бо мясціны былі вельмі пустэльныя, і не было ні сяла, ні чалавека, толькі звяры — ласі, мядзведзі і іншыя. На другі ж дзень плавання па рацэ мінулі мы дзве ракі — Мечу і Сасну, а на трэці дзень — Вострую Луку, а на чацвёрты — Крывы Бор. На шосты ж дзень дасягнулі мы вусця Варонежа. Раніцою ў нядзелю памяці святога Міколы прыехаў да нас князь Юрый Ялецкі з баярамі і мноствам людзей і вельмі нас усцешыў. Адтуль мы прыплылі да Ціхай Сасны і бачылі белыя слупы, што гожа стаяць побач адзін другога, нібы малыя стажкі над ракою Сасной. І мінулі Чырвоны Яр,

Бяцюк і Похар. А ў нядзелю Самарыцянкі прайшлі раку Мядзведзіцу, і высокія горы, і Белы Яр; у панядзелак жа — Чырвоныя горы каменныя, у аўторак — Тэрклі, і гарадзішча, і перавоз, дзе ўпершыню сустрэлі татараў. У сераду прайшлі Вялікую Луку і Сырахочзін улус. І тут пачаў нас ахопліваць страх, бо ўвайшлі мы ў зямлю народа Ізмаільцянаў. У чацвер мінулі мы Бекбулатаў улус, у пятніцу — Чырвоныя горы, у нядзелю Сляпога — Акбусін улус. У панядзелак прайшлі раку Бузун, а напярэдадні Узнясення Хрыстова дасягнулі мы мора.

У нядзелю Святых айцоў пагрузіліся мы на карабель у вусці Дона пад Азовам. І, адышоўшы ў мора, апоўначы сталі на якар. Але нехта з горада ўзвёў на нас паклёп, і падплылі да нас на чаўнах фрагі, і ўскочылі на карабель, і быў моцны тупат на апастрэшшы. Я ж, не ведаючы, што здарылася, выйшаў туды і ўгледзеў вялікую смуту. І кажа мне ўладыка: «Ігнацію, што ты стаіш і нічога не чыніш?» Я адказваю: «Што робіцца тут, уладыка?» Той жа мовіць: «Прыйшлі фрагі з горада, узялі і закавалі нашага свяціцеля мітрапаліта з яго дыяканам Германам, бо ён аказаўся ім вінаваты, а мы праз яго невінаватыя гінем». І спытаў я старэйшага з фрагаў, што тыя хочуць з імі рабіць. А ён адказаў: «Не бойцеся, вашае мы вам аддамо». І хутка задаволіў іх мітрапаліт, і, атрымаўшы добрую ўзнагароду, яны адпусцілі ўсіх нас. А праз дзень адплылі мы адтуль. Быў жа добры спадарожны вецер, але на трэці дзень пачаў дзьмуць моцны сустрэчны, і мы моцна стаміліся, бо карабель ледзь не патануў, ды і самі карабельнікі не маглі ўжо стаяць, а валіліся, нібы п'яныя, і раніліся. Так прыйшлі мы ў вусце Азоўскага мора, і ўвайшлі ў вялікае мора, і на шосты дзень мінулі Кафінскі заліў і Сураж. Так прайшло чатыры дні. На пяты ж дзень, у чацвер, падзьмуў сустрэчны вецер і пагнаў нас у левы бок, да Сінопа. І ўвайшлі мы ў затоку каля Сінопа, і прабылі там два дні. І падзьмуў

добры касы вецер, і паплылі мы ўздоўж берага. Там былі такія высокія горы, што аблокі цёрліся аб іх сярэдзіны. І супраць места Амастра загавеліся мы да Пятровага дня.

У аўторак мінулі Понтараклію, а ў сераду падзьмуў супраціўны вецер, і мы вярнуліся ў Понтараклію, дзе і прабылі дзевяць дзён. Там ёсць царква святога Феодара Цірона, што стаіць на месцы ягоных пакутаў, а ў ёй ёсць труна святога. І адтуль пайшлі мы на чаўнах да Царграда ў дзень Нараджэння Іаана Папярэдніка. У пятніцу ж раніцою мінулі горад Дыяпаль. У суботу палуднавалі ў вусці ракі Сахары. У нядзелю ж мінулі места Дафнусію і Карыфію і прыйшлі ў горад Астравію. І тут спыніўся мітрапаліт, распытваючы навін пра Амарата. Бо Амарат пайшоў вайною на сербскага князя Лазара, і была чутка, што ў бітве загінулі абодва — і Амарат, і Лазар. І паколькі былі мы ў турэцкай дзяржаве, дык, збаяўшыся смуты, адпусцілі: мітрапаліт — інака Міхаіла, а ўладыка Міхаіл — мяне, Ігнація, а Сергій Азакаў — свайго інака. І адышлі мы ад Астравіі ў нядзелю перад Пятровым днём. Раніцою ж пайшлі ад Філі і мінулі Рыву і падышлі да вусця і мінулі Фанар. І вецер быў надта добры, і прыйшлі мы ў Царград з радасцю невыслаўвёнай.

У панядзелак, напярэдадні Пятровага дня, увечары прыйшлі да нас русы, што жылі тут, і была ўсім нам радасць вялікая. Тую ноч бавілі мы на караблі, а раніцою, на самае свята Святых апосталаў, дзякуючы Богу, увайшлі ў горад. І той жа раніцай пайшлі да Святой Сафіі — Мудрасці Божай. І, дайшоўшы да Вялікае брамы, пакланіліся цудатворнаму абразу Найчысцейшай Багародзіцы, які забараніў Марыі Егіпецкай увайсці ў святую царкву ў Іерусаліме. Пакланіліся мы таксама і абразу Госпада ў святой царкве і чэсным святым абразам і цалавалі трапезу, на якую ўскладаюць святыя страсці Хрыстовыя, і святога патрыярха Арсенія, і трапезу Аўраамаву, на якую паслан-

цы Хрыстовы явіліся ў Троіцы, і ложак жалезны, на якім спальвалі Хрыстовых пакутнікаў. І ўсю раніцу бавілі мы ў царкве, пакланяючыся і дзівячыся цудам святых, велічы і гожасці царквы. І, праслухаўшы Літургію Святую, пайшлі мы на двор Канстанцінаў, і бачылі там царскі будынак, дзе ёсць гульбішча царава, што завецца Іпадромам. Там стаіць слуп мядзяны, звіты з трох столак, якія разведзены ўгары, а на кожным канцы — па галаве змяінай. У гэтым слупе закляпаны яд змяіны. Там жа стаяць і шматлікія іншыя слупы каменныя.

1 ліпеня пайшлі мы ў манастыр святога Іаана Папярэдніка і пакланіліся там. І русы, што там жывуць, добра нас прынялі. Раніцою пайшлі мы ва Улахерну і цалавалі руку, у якой пакладзена рыза і пас Найчысцейшае Багародзіцы, а адтуль пайшлі да Апостальскай царквы і, пакланіўшыся, цалавалі святы слуп, на якім білі Госпада нашага Ісуса Хрыста. Тут жа захоўваюць і Пятроў камень, на якім той аплакваў горка сваё адрачэнне. І памаліліся мы абразу Найчысцейшае Багародзіцы, якая явілася старцу святому ў пустэльні. Ёсць тут таксама дамавіны цароў Канстанціна Вялікага, Феадосія Малога і шмат якіх іншых. Там жа ёсць і маленькая царква, а ў ёй абраз Вялікага Спаса, ад якога сышоў голас даравання чалавеку, што ляжаў на пасцелі і каяўся з вераю за аблуды свае. Тут жа ў прыдзеле ляжаць целы святых Спірыдона і Паліеўкта, і мошчы святога Іаана Залатавуснага, і мошчы святога Грыгорыя Багаслова, захаваныя ў каменных каўчэгах.

3 ліпеня пайшлі мы да святога патрыярха Антонія і атрымалі яго багаславенне. 4 ліпеня пакланіліся мы абразу вялікага архангела Міхаіла, які явіўся да хлопца, што вартаваў прылады царкоўных будаўнікоў. 6 ліпеня пайшлі мы да абраза Найсвяцейшае Багародзіцы Адзігітрыі і, пакланіўшыся, цалавалі яго і з радасцю памазаліся мірам. І пайшлі ў вялікі святы манастыр Пантакратара, і цалавалі свя-

тую дошку Госпадаву, на якую было пакладзена знятае з крыжа цела Хрыстова і на якой засталіся Яго найчысцейшыя слёзы. Тут жа ёсць і збан з самароднага каменю, у якім Хрыстос ператварыў ваду ў віно; у ім захоўваюць ваду Багаяўлення. Тут жа ляжаць галовы святых Сергія і Вакха і Іакава Перскага.

8 ліпеня пакланіліся мы святому абразу Хрыста, што ўчыніў цуд з купцом Феодарам. 16 ліпеня ў Царград прыйшоў уладыка Міхаіл. 24 ліпеня мы пайшлі ў манастыр святога Іаана Прадцечы і цалавалі руку святога Іаана Посніка. 30 ліпеня атрымалі мы багаславенне ад уладыкі патрыярха Міхаіла і пайшлі ў манастыр святога патрыярха Афанасія, якому ўручыла посах на патрыярства святая Багародзіца, і цалавалі мошчы ягоныя. І адтуль пайшлі да манастыра Перыўлепта і цалавалі шмат мошчаў і цела святога пакутніка Грыгорыя; там жа ёсць і рука святога Іаана Прадцечы, што хрысціла Госпада.

31 ліпеня хадзілі мы на вярхі царквы Святой Сафіі і бачылі сорак акон шыйных і змерылі акно са слупам, і аказалася два сажані без дзвюх пядзей. 1 жніўня хадзілі ў царкву пры двары Канстацінавым, якая завецца Дзевяць чыноў і мае дзіўныя слупы: у іх можна бачыць усіх, нібы ў люстры. Адтуль хадзілі на бераг мора, дзе ёсць пясок лекавы, а на ім стаіць царква святога Спаса, у якой — цудатворны абраз Госпада і мошчы святога Аверкія. 2 жніўня цалавалі мы мошчы святога першапакутніка Стафана ў яго манастыры. 5 жніўня хадзілі да Пігіі, дзе пакланіліся святой Багародзіцы і пілі святую ваду гаючую і мыліся ёю. 8 жніўня хадзілі ў Перылепту і цалавалі руку Іаана Прадцечы галаву святога Грыгорыя Багаслова, і лоб Стафана Новага, і абраз Госпада, ад якога быў чуты голас да цара Маўрыкія. Тут замуравана мноства мошчаў святых; тут жа — пацір з тапаза, каменя каштоўнага, і мноства іншых мошчаў святых. 8 жніўня хадзілі ў царкву Пантак-

ратара і ў рызніцу; бачылі святое Евангелле, напісанае рукою цара Феадосія Малога. Тут жа цалавалі кроў Гаспадаву, што выцекла з рэбраў Яго на крыжы.

10 верасня ў Халкідоне памёр мітрапаліт Пімен. Цела ж яго прывезлі і пахавалі за Царградам, на беразе мора, насупраць Галаты, у царкве Іаана Прадцечы. На яго ж месца мітрапалітам на Русь паслалі Кіпрыяна. І той паехаў 1 кастрычніка, а з ім — уладыка Міхаіл, Валынскі ўладыка Іаан, два грэцкія мітрапаліты і Феодар Сіманоўскі. Пасля ж іх адыходу прыйшла вестка, што адзін карабель, на якім плыў мітрапаліт, ўратаваўся, а той, дзе былі ўладыкі,— загінуў без вестак, прычым адныя казалі, што ён патануў, другія — быццам прыплыў да Кафы, а іншыя — што ён у Амастрыі або ў Дафнусіі. І праз колькі дзён прыйшла грамата ад мітрапаліта, дзе апавядалася, якую невыслаўлёную страшную буру давялося ім вытрымаць на моры, які быў гром і трэск ад біцця хваляў, і што раскідала іх так, што не бачылі адзін аднаго. А калі сунялася бура, усе яны ўратаваліся, і прыплылі да Белграда, і шчасліва пайшлі на Русь. І мы, тое пачуўшы, надта ўсцешыліся.

17 снежня бачыў я труну вялікага прарока Даніїла і, пакланіўшыся, яе цалаваў. Тут жа стаіць царква святой Багародзіцы, у якой здараюцца дзівы ў пятніцу Перадвелікоднага тыдня. Тут ёсць абраз святой Багародзіцы, пісаны евангелістам Лукою. У нядзелю перад Нараджэннем Хрыстовым бачыў я ў Сафіі Святой, як кідаюць у печ трох святых хлапцоў, і патрыярха, які служыў чэсную Святую Літургію ва ўсім сане святарскім. 22 снежня я цалаваў мошчы святога Анастасія і галаву святога Ігнація Баганосца.

У 1390 годзе сын Андроніка Калаян пачаў шукаць у Царградзе царства з дапамогаю туркаў. І захапіў ён гарады і вежы, і прыйшоў да Царграда, і якраз перад Вялікаднем пачаў біцца. А ў вялікі чацвер прыйшоў Мануіл, сын старога князя Калаяна, з Лімнаса ў катаргах на дапамогу

Царграду. У вялікую суботу ён асудзіў каля 50 крамольнікаў, і адных асляпіў, а іншым адрэзаў насы, і, зачыніўшы ўсе гарадскія брамы з боку поля, пакінуў адчыненыя адны каля Іпадрома, і наказаў ашчаджаць прыпасы на два гады.

На другі тыдзень Вялікадня, у сераду, апоўначы простыя людзі адчынілі брамы гарадскія Калаяну Андронікавічу і пусцілі яго з грэкамі, але без туркаў, і не ўчынілі ніякага зла. Мануіл жа на катаргах уцёк з майном на востраў Лімнас (ад Царграда да Лімнаса 300 міль, а ад Лімнаса да Святой Гары бліжэй — 60 міль). Стары ж цар Калаян зачыніўся ў сваім палацы, а баяры яго схаваліся ў царкве Святой Сафіі. І стаяў звон па ўсім месце, і ваяры асвятлялі ўвесь горад ліхтарамі, і ганяліся па ўсім горадзе верхаўцы і натоўпы пешыя, з аголенай зброяй у руках і з падрыхтаванымі стрэламі, ускладзенымі ўжо на лукі, і крычалі: «Слава Андроніку!» Месцічы ж адказвалі: «Слава Андроніку», а калі хто хутка не крыкне таго,— на тых уздымалі з лютасцю зброю. І было дзіўна бачыць і чуць, як кіпіць горад. Адны ў жаху трымцелі, а іншыя радаваліся, прычым нідзе не было бачна забітых: людзі зброю ўзнімалі, толькі каб нагнаць жаху. Толькі раніцою наступнага дня, крыху пабунтаваўшы, некаторых паранілі. Да вечара ўсе пакланіліся маладому цару Андронікавічу, і ўгамавалася места, і смутак стаў радасцю. Цар жа Мануіл у той год яшчэ двойчы прыводзіў фражскую раць да Царграда ў катаргах, але не дамогся нічога. А Калаян сердаваў, і, сабраўшы камнямёты і наёмную раць, аб'яднаўся са старым царом, і цэлы год абстрэльваў горад гарматамі, але не дабіўся нічога.

Трэці ж раз прыйшоў Мануіл да Царграда з рымлянамі, бо тыя ўмела ваююць з праціўнікамі; знак жа іхні — нашыты на грудзях белы крыж. І ўвайшлі яны ў ліман (так завецца там гавань), і прыйшоў Мануіл у палац да бацькі. Бо з боку мора былі муры і высокія вежы, і нельга было

падысці да горада ворагу ні морам, ні сухазем'ем. Андронікавіч жа біўся са старым царом на полі. 17 верасня апоўдні цар Мануіл выйшаў з замка з усімі сваімі ваёўнікамі і раптам ударыў на Андронікавіча, калі той палуднаваў і быў бяззбройны. І не мог той устаяць і пабег, родзіч жа яго Калатуз біўся і, не адолеўшы ворага, таксама пабег. І ўзяў Мануіл Царград, і шмат якіх прыхільнікаў Андронікавіча паланіў ля Царграда. Тады пайшоў Мануіл да турэцкага цара з паклонам, і турак затрымаў яго ў сябе, і паслаў да бацькі Мануіла, мовячы так: «Пакуль не зруйнуеш палацы свае, Мануіл не выйдзе адсюль». І той наказаў супраць свае волі зруйнаваць палацы, а сам пайшоў жыць у стары царскі двор і ад жалю памёр. І адпусцілі туркі Мануіла, і той царуе і дагэтуль.

15 жніўся 1391 года здарыўся моцны землятрус.

## АБ ЦАРСКІМ КАРАНАВАННІ

11 лютага 1392 года, у нядзелю Блуднага сына, цар Мануіл з царыцаю быў каранаваны на царства святым патрыярхам Антоніем. І дзіўна было назіраць яго каранаванне. У тую ноч была ўсяночная ў Святой Сафіі. Калі ж раздненела, прыйшоў разам з усімі і я туды. І сабралася там безліч народу: мужчыны ў самой царкве, а жанчыны — на хорах. І ўсё было адмыслова: жанчыны стаялі за ядвабнымі заслонамі, і твараў іх з размаітай аздобаю ніхто з народу не бачыў, а яны бачылі ўсё. Пеўчыя ж стаялі, незвычайна ўпрыгожаныя, і мелі шаты шырокія і доўгія, нібы сціхары, аперазаныя; рукавы ж у рызаў былі шырокія і доўгія — адны адамашкавыя, другія — ядвабныя; наплечнікі з золатам і карункамі; на галовах — шапкі з карункамі. І сабралі іх мноства вялікае. Старэйшы з іх быў прыгожы і белы, як снег. Былі тут і фрагі з Галаты, і з Царграда,

а іншыя — генуэзцы і венецыянцы. І дзіўна было бачыць іх. І стаялі яны ў два рады, і мелі на сабе адны — ягаты з барвовага аксаміту, а другія — з вішнёвага аксаміту, адзін рад пеўчых меў на грудзях знак жамчужны, а ў іншых — знакі свае. Пад хорамі праваруч — палац з дванаццаццю прыступкамі, шырынёю на два сажані, абабіты пурпурам, а на ім — два слупы залатыя.

Тую ноч цар бавіў на хорах, а калі надышла першая гадзіна дня, ён сышоў адтуль і ўвайшоў у святую царкву праз пярэднюю вялікую браму, якая завецца Царскаю. А пеўчыя ў гэты час спявалі цудоўна, невыславёна. І пачаўся ход царавы а трэцяй гадзіне ад пярэдніх дзвярэй да палаца. Вакол цара ішлі дванаццаць вояў, закутых у жалеза з галавы да ног, а перад ім — два чарнавалосыя сцяганосцы; дзяржанні ж сцягоў, іхнія шаты і шапкі былі чырвоныя. А перад двума сцяганосцамі ішлі вяшчальнікі з акутымі срэбрам кіямі.

Цар жа, зайшоўшы у палац, апрануў парфіру, надзеў дыядэму і цэсарскую карону са слупкамі вакол галавы. Выйшаўшы з палаца, ён пайшоў угору і царыцу прывёў, і яны селі ў крэслы, і пачалася літургія. Цар жа з царыцай сядзяць. І калі павінен быў адбыцца выхад, падышлі да цара два старэйшыя дыяканы і ўчынілі малы паклон да грудзей. Цар жа ўстаў і падышоў да алтара, а перад ім ішлі сцяганосцы, а вакол яго — воі. І ўвайшоў цар у алтар, а сцяганосцы і воі спыніліся перад алтаром па абодва бакі ад святой брамы. І апранулі цара ў малую фелонь барвовую да пояса. І пайшоў цар да выхаду, трымаючы свечку ў руцэ. Тут уваходзіць патрыярх, і яны з царом разам узыходзяць на амбон. Затым прыносяць на сподзе накрытыя цараву і царыцыну кароны. І падыходзяць два старэйшыя дыяканы да царыцы і робяць ёй малы паклон. І падыходзіць царыца да амбона. І ўсклаў патрыярх карону на цара і даў яму ў рукі крыж. І сышоў цар долу і ўсклаў каро-

ну на царыцу, і пайшлі яны на свае месцы і селі ў крэслы, а патрыярх стварыў уваход і іншае. І калі скончыўся спеў херувімскі, пайшлі вялікія дыяканы і пакланіліся цару, як і раней. Цар узняўся, падышоў да алтара, апрануў фелонец і ішоў перад святымі дарамі ў прэнас, трымаючы ў руцэ запаленую свечку.

Хто перадаць можа словамі прыгажосць тую! Шэсце святых дароў доўжылася столькі, колькі спявалі спеў херувімскі. І пасля ўвахода святых дароў пакадзіў цар каля прастола. І быў ён у алтары да святое прычасці. Калі ж надышоў час святое прычасці, пайшлі старэйшыя дыяканы і пакланіліся царыцы. І калі яны сышлі долу з прастола, народ, што стаяў там, разарваў усю заслону з палаца, колькі хто паспеў сабе захапіць. І ўвайшла царыца праз паўднёвую браму ў крыло алтара, і далі ёй святую прычасць. Цар жа са святарамі прычасціўся ад патрыярха каля прастола Хрыстовага. І калі цар ішоў з царквы, асыпалі яго манетамі, і народ хапаў іх сабе.

# Пэрэгрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага Князя Ягамосці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю

У ІМЯ ТВАЕ, ГОСПАДЗЕ ХРЫСЦЕ

## ЛІСТ ПЕРШЫ

Ты прагнеш ад мяне вестак не толькі пра тое, якім спосабам, але і з якіх меркаванняў я спадняўся на падарожжа (ужо ў імя Госпадняе распачатае), падарожжа гэтак далёкае, а як шмат каму здаецца і небяспечнае, маючы здароўе надсаджанае і надта аслаблае (пра што некаторыя добра ведаюць, а ты найлепей). Што ж да небяспечнасці, дык я заўсёды іначай лічыў і лічу, бо наканаванне і правід Божы адным у далёкіх дарогах памысную і шчаслівую ўдачу дарує, а іншым і дома, пры бацькоўскіх сценах, да сумлеўнага шчасця цяжкія і няпэўныя нагоды адкрывае. Таму ж я, каб жаданню твайму дагадзіць, дасылаю табе гэтага майго падарожжа (наколькі здолею прыгадаць) спісаны пачатак, хочучы, каб ты зразумеў, што пісалася гэта табе аднаму. Гісторыкі, папраўдзе, звычайна ў далёкія падарожжы выпраўляюцца, каб апісаць правінцыі, звычаі народаў і іншыя рэчы, але ж я (чый стан і заняткі ты добра ведаеш, а таму пра ўсё лёгка здагадаешся) паломніцтва маё з іншых прычын распачынаю, што высветліцца ніжэй, і таму на манер гісторыкаў пісаць да цябе не буду. Бо калі б мяне такая ахвота на падарожжа гэтае натхніла, тады б, дома седзячы, ад памёрлых майстроў (то значыць з кніжак, як Альфонс, кароль арагонскі, іх называў) пра ўсё хутка мог бы даведацца. Дык жа і

**Сяброўскае паведамленне, а не гістарычнае апісанне.**

---

Партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла.
Гравюра Тамаша Макоўскага. 1601 г.

будзеш, дзеля свае ўцехі, чытаць лісты мае, якія я, калі надарыцца нагода і будзе лёгка пісаць, табе пасылаць буду. Праўда ж, што стомленаму чалавеку болей спакой спрыяе, чым пісанне, што я і цяпер (хоць яшчэ толькі да Крыта дабраўшыся) на сабе аж залішне адчуваю.

**Што кароль Сцяпан яму пра тое падарожжа раіў.**

Мяркую, што дайшоў да цябе ліст, які выслаў я па ад'ездзе маім з Горадна ад Караля Я. М., які мне досыць значную ласку сваю каралеўскую выказаў з пэўным жаляваннем, што я ў такія далёкія краіны выпраўляюся. Напісаў быў я табе і тое таксама, як Кароль Я. М. раіў мне, каб я дзеля выпадкаў розных на моры ды дзеля разбойстваў сухазем'ем ішоў да Канстанцінопаля, а адтуль да Алепа (узяўшы сабе чаўша і янычараў з Турэцкае брамы, якія за ўсіх іншых найболей важаць). Багабоязны Кароль рупіўся і аб тым, каб я ніякім чынам згубіцца не мог, калі б мне паважная небяспека пагражала, дзеля чаго лепей з ведама імператара турэцкага дзеяць і, узяўшы ў яго пашпарт, ехаць. Абяцаў ён пры тым таму імператару як найпільней напісаць і ганца свайго выслаць, які б у гэтай справе прычыніўся. Я ж з другога боку Каралю Я. М. свае рацыі выклаў, паказаўшы Я. К. М., чаму бяспечней было б падарожжа тое на ўзор іншых учыніць, а найболей таму, што я не бачыў, як, рушыўшы з Канстантынопаля, мог бы я сухазем'ем ехаць; калі ж наадварот, як я перад тым шмат ад каго чуў, морам і карацей, і лягчэй, і бяспечней магу вандраваць. Але якая была найгалоўнейшая прычына майго паломніцтва ў Палестыну, цяпер каротка паслухай.

**Божыя рады да збавення нашага.**

Ведаеш добра без ніякага сумлеву, бо ты католік, як рознымі спосабамі Госпад Бог людзей аблудных на шлях збавення настаўляе, і ўсё гэтае Ён не дзеля сябе чыніць, бо хоць бы чалавек добрае рабіў, нічога Бог не набудзе, а хоць бы злое, дык нічога не страціць; але як нам святапраўдна паабяцаў, што жыцця, а не смерці грэшнікаў прагне, то дзеля таго гэтак з намі абыходзіцца. Найгалоўнейшы спосаб, якім людзей ад грэху ратуе, ёсць бясконцая ласка. Ягоная, невыказныя дабрадзействы Ягоныя. Бо як Ён найдабрэйшы, і сам ёсць найвялікшая і найдасканалейшая дабрыня, дык нічога іншага выявіць не можа, як толькі бясконцую ласку; якую калі на чалавека шчодра вылівае, а той, аднак, няўдзячны ёй, нібы конь вольны да ўсялякага грэху імкнецца, хоць і мог бы яго справядліва адрынуць і праклясці, бо яму тое можна і ні перад кім Ён у гэтым не адказвае; аднак жа міласэрнасцю бясконцай суворасць справядлівага гневу паскрамляе, а Бацькоўскім стараннем дачасныя фрасункі, утрапенні і клопаты на яго спасылае, каб, калі яго ласкавасць і любоў Божая ад злога не магла адвесці, прынамсі, пакаранне паўстрымала і да памяці вярнула. І гэта ёсць прычына, дзеля якое розным нягодам, асабліва ж хваробам, чалавека мучыць дазваляе, каб хоць такім чынам той лягчэй зразумеў, да чаго той асёл, якога ў такіх роскошах корміць і даглядае, мае некалі прыйсці, і чаму тыя дачасныя багацці прамінальнаму ценю слушна прыраўноўваюцца. Хай жа блаславіцца Найсвяцейшае Госпада нашага імя, які тым лёгкім і кароткім напамінкам стрымлівае нас, каб мы пасля на

**Чаму дапускае часам хваробы.**



Святая Еўфрасіння Полацкая (?).
Фрэска Спасаўскай царквы
Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра
ў Полацку. XIIст.



Святыя Аўраамій і Меркурый Смаленскія.
З абраза XIX ст.



HIEROSOLYMITANA
PEREGRINATIO
ILLVSTRISSIMI
DOMINI NICOLAI
CHRISTOPHORI RADZIVILI,
Ducis in Olika & Nyeſwieſz, Comitis
in Szydlowiec & Myr. &c.
IV. Epiſtolis compræhenſa,
*Ex idiomate Polonico in Latinam*
*linguam tranſlata & nunc*
*primum edita.*
*THOMA TRETERO*
*CVSTODE VARMIENSI*
*INTERPRETE.*

Cum Priuilegio S. R. M.

BRVNSBERGÆ,
*Apud Georgium Schönfels.*
clɔ. Iɔ. CI.

Тытульны аркуш першага выдання
«Пэрэгрынацыі»
Мікалая Крыштофа Радзівіла.
Брунзберг. 1601 г.





# IESV IN NOMINE TVO.

Psal. 131.

*Introiuimus in tabernaculum eius: adorauimus in locis vbi steterunt pedes eius.*

Psal. 38.

*Aduena ego sum apud te: & peregrinus sicut omnes Patres mei.*

## EPISTOLA I.

POSTVLAS A ME, TIBI PERSCRIBI, non solum itineris huius mei, quod in Dei nomine sum ingressus, modum ac rationẽ; sed etiam caussam, quæ me ad suscipiendam tam longinquam, & prout multis videtur, etiam periculosam (quanquam ego diuersæ fui semper & sum sententiæ: cum ipsa prouidentia & prædestinatio Diuina, sicut non nullis qui peregre versantur, vias expeditas & faciles, ita aliis qui in patrio solo domesticam vitam ducunt, easdem perplexas & difficiles reddere soleat) peregrinationem impulerit: idq; debili cum primis & attrita, quod multis, maxime vero tibi obscu-



Першы аркуш «Пэрэгрынацыі»



План Ерусалімскага храма.
Гравюра Тамаша Макоўскага. 1601 г.




Афрыканскія жывёліны і спосабы палявання
на нільскіх кракадзілаў.
Пражскі гравёр Хілер. XVIII ст.




Расліны, якія могуць бачыць падарожнікі
ў Святую зямлю.
Пражскі гравёр Хілер. XVIII ст.




План Канстанцінопаля.
Гравюра XVII ст.




Порт і горад Александрыя.
Гравюра XVII ст.



Караван падарожнікаў,
якія суправаджаюць знанага паломніка
ў Святую зямлю. Гравюра XVII ст.



Марскія падарожнікі бачаць лятучых рыбін.
Гравюра XVII ст.



Падарожнікі пераадольваюць
узгорыстую пустэльню. Гравюра XVII ст.




Назарэт. Гравюра XVII ст.




План Ерусалімскай царквы
Прачыстай Дзевы Марыі. Гравюра XVII ст.



Знаныя турак і турчанка —
жыхары Смірны.
Гравюра пачатку XVII ст.

вечныя пакуты аддадзеныя не былі. Дапраўды кажу табе, гэтак ён і са мною абышоўся. Бо калі Ён мне незлічоныя і невыславёныя дабрадзействы і ласкі свае паказаў, я Яму не толькі, ад грахоў адступіўшы, удзячнасць не выказаў, але ў маладосці гадоў маіх, з дабрадзействаў Ягоных не скарыстаў, грахі да грахоў дадаўшы, і што з іншымі грэшнікамі бывае, калі здароўе ад прыроды цэлае і добрае ўзяўшы, распустай яго загубляюць і час смерці сваёй набліжаюць (паводле словаў Мудраца: «Не ўзялі мы, але самі сабе скарацілі жыццё, не ўбогія ў ім, але марнатраўцы былі мы»), тое і са мною сталася. Бо цяжкая хвароба з акрутнымі болямі ў галаве і розных іншых немачаў поўная напаткала мяне года Гасподняга 1575, месяца жніўня (у якім другога дня 26 гадоў майго жыцця споўнілася). А як, калі чалавек целам хварэе, дарма пра яго старанна дбае, калі пакідае душу без увагі, такcама ж і я, пабачыўшы, што лекары нічога справіць не могуць, усім сэрцам сваім праз споведзь Святую і прыняцце Найсвяцейшага таемства звярнуўся да Госпада Бога, пакорліва просячы, каб, грахі маладосці маёй дараваўшы, падказаў бы сэрцу майму, што з Яго Найсвяцейшае велічы хвалаю вечнай было б. І так, калі ўсё часцей палымяна да Госпада Бога заклікаў, аднойчы ў месяцы верасні, будучы пры ахвяры Гасподняй, даў зарок (пра што я пасля спавядальніку свайму сказаў), што як толькі мяне міласэрны Госпад Бог да ранейшага здароўя верне, магілу Збаўцы Госпада майго ў Ерусаліме наведаю. Але гэтаму пачынанню майму пэўнага часу я не прызначыў. Тым часам не пера-

ставаў я ўжываць і лекаў, якія, аднак, на марна ішлі.

Года Гасподняга 1576 быў я ў цяпліцах Яваўскіх у Польшчы.

Года Гасподняга 1577 таксама з лекарамі час марнаваў. Аж пакуль не ўсчалася вайна нашая Літоўская за Інфлянты, на якой з іншымі і я сам быў, калі князь маскоўскі тую правінцыю плюндраваў, а кароль Сцяпан пад Гданьскам стаяў абозам.

Года Гасподняга 1578 паведаміў я Святому Айцу папу Рыгору XIII, што дзеля папраўлення лекамі і цяпліцамі здароўя майго ў Нямеччыну еду, а калі б мяне Госпад Бог уздаравіў, абяцаў падарожжа ў Ерусалім да магілы Збаўцы. Што мне на тое Айцец адпісаў, пабачыш з гэтага ліста.

Улюбёнаму сыну
шляхетнаму мужу
Мікалаю Крыштофу Радзівілу
Князю Алыцкаму
Папа Рыгор XIII

Улюбёны сыне, шляхетны мужу, прывітанне і Апостальскае блаславенне. Багабоязна і мудра зацнасцю тваёй чыніш, калі лекамі так здароўя шукаеш, што ўсе надзеі ў міласэрнасці Гасподняй пакладаеш. Ухваляем і ўжыванне цяпліцаў, і задуму тваю падарожжа Ерусалімскага да магілы Збаўцы, маючы ў яго міласэрнасці надзею, што цябе ранейшым здароўем уцешыць. Блаславенне Апостальскага пасаду нашага, якога просіш, даём табе тым лістом нашым, і павяртання здароўя, і ўсяго найшчаслі-

вейшага, і вясёлае ўдачлівасці, а таксама ласкавасці ад самога Госпада Нашага зычым. Дадзена ў Рыме, пры Св. Пятры, пад пячаткаю Рыбака. Дня апошн. красавіка 1578, пантыфікату нашага года сёмага.

*Антон. Букападуліюс.*

Калі здароўе маё крыху палепшылася, вырашыў я вярнуцца дадому з тае прычыны, што ў Нямеччыне не мог я знайсці нікога, з кім можна было б пра тое падарожжа пагаварыць. І так адразу ўвосень на айчыну вярнуўся і вырашыў наступнага года ў Італію, а адтуль у Палестыну выправіцца. Але як тае ж зімы кароль Сцяпан, у В. К. Літоўскае прыехаўшы, на лета ў годзе Госпадзнім 1579 вайну Маскоўскую абвясціў быў, то ж стан мой рыцарскі патрабаваў ад мяне, каб я Каралю Пану майму проці супольнага айчыны непрыяцеля дапамог. Так што год той разам з іншым рыцарствам В. К. Літоўскага прабавіў я на вайне Полацкай, дзе, з паўгаку ў галаву паранены, як толькі ачуняў, новым тым дабрадзействам Госпадзнім узрушаны, да абяцання майго вярнуўся.

**Вайна Маскоўская.**

Вось жа, года Госпадняга 1580 паехаў я ў Італію з тым намерам, каб трохі цяплiцамі падмацаваўшыся і лекамі падтрымаўшыся, скончыць распачатае падарожжа, але там, за справай і распараджэннем лекараў то адных, то другіх цяпліц ужываючы, прабавіўся да жніўня, і так мне тое лета мінулася. Тады я ўжо хацеў быў да зімы ў Венецыі на карабель сесці, але тым часам прыплылі з тых краёў іншыя, паведаміўшы, што ў цяперашнім

**Як пошасць у Егіпце і Палесціне пануе.**

1580 годзе пошасць, у Грэцыі, Сірыі, Палестыне і Егіпце надта вялікая пануе, якая да трох разоў сунімацца і зноў выбухаць можа. Бо ў першым годзе невыказальна лютуе, у другім не так моцна, у трэцім яшчэ меней, і бясконцую дабрыню Гасподнюю кожны пры тым бачыць можа, бо Ён не так хрысціянаў, як паганцаў карае. Навіну тую пачуўшы, амаль усе, каб я відавочнай небяспецы сябе не падставіў, ад таго падарожжа мяне адмаўлялі; дый караблі, што на лета збіраліся ў тыя краіны, не так пільна рыхтаваліся да дарогі. Тым часам прыйшла таксама навіна, што кароль Сцяпан у наступным годзе зноў на Маскву з войскам едзе. І так, хоць і не да канца паправілася здароўе, зіму года 1581 перажыўшы, вярнуўся я на айчыну і ўсё лета з каралём пад Псковам у абозе сядзеў. Узімку паехаў дадому, дзе ўсе пра маё падарожжа Палестынскае ведалі, дый сам я таго не хаваў, дык і яны мяне нямала адрайвалі; і сам я крыху слабець пачаў, зарок мой так сабе выкладаючы, што павінен быў яго выканаць толькі цалкам акрыяўшы, бо цяпер разам з гадамі і слабасць надыходзіць. І як думкі такія часта мяне займалі, а я ўсё Госпаду Богу паводле звычаю ў малітвах маіх давяраў, вырашыў я праз споведзь і праз прыняцце Найсвяцейшага таемства Боскага ратунку шукаць. І сапраўды, адразу прыйшло мне на памяць, што я без патрэбы здароўе марную, і калі ўжо хадзіць і ўсё рабіць і на вайну ездзіць, дык і ў далёкае падарожжа выправіцца магу. То ж калі ўсё тое дзеля зямнога караля, або прыяцеля, або з патрэбы якое раблю, дык чаму

**Дзіўныя развагі.**

ж бы цяжкасцяў таго падарожжа меўся сцерагчыся, якое самому Богу, каралю над каралямі, даўцу ўсіх багаццяў святапраўдна паабяцаў. I так усім сэрцам усяго сябе Госпаду Богу аддаў, і стала а цвёрда пастанавіў, не зважаючы на здароўе, намер свой выканаць, надзею ў Ім пакладаючы, што мне дапаможа, і што з удзячнасцю прыняў бы з рук Ягоных смерць, калі б давялося там памерці, абы толькі мясціны Святыя пабачыць і зарок мой дарэшты споўніць.

I так года Гасподняга 1582 распарадкаваўшы мой дом і склаўшы тэстамент (бо вярнуцца на айчыну я болей не спадзяваўся), у жніўні паехаў я ў Горадзен да караля Сцяпана, каб яму пра падарожжа паведаміць і адразу з ім развітацца. Ён усяляк адгаворваў мяне ад таго, раючы, каб я лепей у Рым ехаў, чым з такім слабым здароўем у такую небяспечную дарогу пускаўся. Але калі я адказаў, што ўжо гэтак я канечна ўчыніць пастанавіў, і ад таго адмовіўшыся гнеў Гасподні наклікаў бы на сябе, і людскім языкам даў бы нагоду, і рэпутацыі сваёй мог бы пашкодзіць; дык ён як мог намаўляў мяне, каб я хоць праз Канстантынопаль ехаў, абяцаючы ўсяляк старацца пра тое, каб я бяспечна мог намер свой выканаць. Атрымаўшы ў караля дазвол, вярнуўся я ў Нясвіж, дзе было ўжо ўсё гатова, і, Найсвяцейшыя таемствы прыняўшы, у імя Гасподняе 19 дня верасня года Гасподняга 1582 выправіўся ў дарогу; а як на той самы год направа календара прыпала, то ў лістападзе быў я ўжо на мяжы італійскай і крыху забавіўся, спраўляючы набажэнства ў некаторых мясцінах Лам-

бардыі, пасля ж, восьмага дня снежня ў самое свята пачацця Найсвяцейшае Дзевы (колькі дзён перад тым выслаўшы чэлядзь у Верону), прыехаў у Венецыю. Там адразу пайшоў да князя венецкага Мікалая дэ Понтэ з лістамі каралеўскімі, у якіх кароль настойліва яго прасіў, каб мяне капітанам сваім у Грэцыі і на памор'і пільна адрэкамендаваў, што тым з меншай цяжкасцю атрымалася, што і я перад тым, і род мой, і фамілія венецыянам знаёмыя і вядомыя былі. Гаварыў п і з пракуратарам Святой Зямлі, які заўсёды ў кляштары Св. Францішка дэля Віньяперабывае, а на той час быў на гэтай пасадзе айцец Ян з Кандрыі. Быў я таксама і ў айца Ярэміі дэ Боэса, гвардыяна, які двойчы быў у Святой Зямлі над братамі пастаўлены і там дванаццаць гадоў пражыў. Узяўшы ў іх інструкцыю, як я меўся сябе паводзіць, пачаў я рупіцца пра тое, каб з першым караблём выправіцца (які па Трох Каралях выязджае, калі, паводле звычаю Св. царквы, блаславенне мора спраўляецца), і спяшаўся вельмі, хочучы святкаваць Вялікдзень ужо ў Ерусаліме. Раілі мне сябры, каб я сеў на карабель, які Галеон Тарнэляў завецца, ад імя гандляра Тарнэля, уласніка ягонага. Не быў ён, што праўда, вялікі, бо толькі шэсцьсот бочак змяшчаў, і да таго ж стараваты, бо яшчэ трынаццаць гадоў таму збудаваны, але і дзеля хуткасці, і дзеля добрае ўдачы вялікія меў перавагі; да таго ж патронам на ім быў вельмі дасведчаны Аўгустын дэ Якомо, з якім я пачаў чыніць торг, бо ён па Трох Каралях выязджаў. І тады ж я вялікую Боскую ласку спазнаў, калі, хочучы хутчэй ад'ехаць, іншыя караб-

лі мінаў, а якраз пра гэты стараўся. Бо адзін галоўны карабель, Руджына званы, у канцы студзеня года Гасподняга 1583 з порта выйшаў, і, адплыўшы недалёка, буры вялікія пры рове Клаўдыйскім цярпеў, і, катвігі ўсе спусціўшы і зрубіўшы шчоглу, ледзь ад смяротнае небяспекі ўратаваўся; так, што з незвычайнай цяжкасцю да Істрыі некалькі міляў ад Венецыі праплыў, і там стаяў усю зіму, а хто на ім ехаў, мусіў у Венецыю вярнуцца. У сярэдзіне лютага два меншыя караблі ў Александрыю выправіліся. Тады я, знудзіўшыся ад чакання, хоць праз Егіпет і далейшая дарога да Ерусаліма, вырашыў на адным з іх плысці; але дзеля таго, што былі яны малыя дый да таго капітанаў (патронамі званых) мелі недасведчаных, сябры мяне адгаварылі. І добра, што так сталася, спазнаў я міласэрнасць Божую. Бо адзін з іх недалёка ад Рагузы патануў, а другі пад выспай Карцыра бураю і хвалямі шарпаны так рассыпаўся, што адзіны толькі чалавек ледзьве выплыў. Напісаў я пасля Св. Айцу, паведаміўшы яму, што ліст яго першы атрымаўшы, дзеля розных прычын і перашкодаў не мог выправіцца ў падарожжа, і цяпер, абладзіўшы ўсе свае справы, прашу, каб мне зноў дазвол на тое падарожжа выслаў. Такі ж бо звычай ёсць і распараджэнне, што хто ў Ерусалім едзе, ад Св. Айца пісьмовы дазвол або ад ураду на тое ўсталяванага ўзяць мае; інакш бо католікі яго сцерагуцца, і чалавек такі ў тамтэйшых законнікаў трапляе пад падазрэнне, што да сыноў царквы не належыць. Звычайна ж так бывае, што тыя, хто толькі каб свет пабачыць (хоць ім і рэдка тое ўдаецца, бо нечакана памі-

раюць або дзіўныя выпадкі з імі здараюцца), а не дзеля набажэнства на падарожжа тое спаднімаюцца, шмат клопатаў католікам дзеля непрыстойных і нясціплых звычаяў сваіх чыняць, і таму не толькі шкоду, але і небяспеку прыносяць. Бо калі нешта непрыстойнае зробяць, католікі за іх церпяць, а калі грошай на выкуп не маюць, тады ўбогія законнікі іх, каб у няволю турэцкую забраныя не былі, выкупіць мусяць. І хоць з прычыны добрага знаёмства і з віднейшымі італійскімі панамі, і з законнікамі я мог ніякіх лістоў з сабою не браць, аднак жа не хацеў пахвальнага звычаю св. царквы абмінуць, і каб, паломнікам будучы, мець права законы паломнікаў ужываць, вырашыў я найперш атрымаць ад Св. Айца блаславенне. Св. Айцец ліст мой праз Юрыя Тыцынія, схаластыка віленскага, агента караля польскага ў Рыме, атрымаўшы, спытаўся, ці я ўжо сапраўды (здароўя яшчэ няпэўнага дый у часе тым, калі найболей разбойніцтва на моры пануе) вырашыў падарожжа Ерусалімскае справіць. І досыць адкрыта выказваўся, што калі б я ў Рым прыбыў, ён, зарок мой на нейкія іншыя багабоязныя ўчынкі замяніўшы, рады быў бы мяне ад яго вызваліць. Але пачуўшы, што я настойліва пры тым стаяў, і пашпарт, які мне там паклаў, з бацькоўскаю амаль што любоўю, і пацеркі з адпустамі вялікімі мне выслаў, дадаўшы, каб я на яго ў малітвах сваіх ніколі не забываўся, бо і ён падарожжа маё на кожны дзень Госпаду Богу даручае.

Улюбёнаму Сыну, Шляхетнаму Мужу
Мікалаю Радвівілу,
Князю ў Алыцы і Нясвіжы,
Маршалку Вялікаму Літоўскаму

Папа Рыгор XIII.

Улюбёны сыне, шляхетны мужу, прывітанне і Апостальскае блаславенне. Паведаміў ты нядаўна нам, што дзеля набажэнства і з любові да Госпада Бога хочаш Гроб Гасподні ў Ерусаліме, а пэўна, і іншыя за морам Святыя мясціны наведаць, калі табе Святая Апостальская сталіца дазволіць. І пра тое, каб нам пакорна тую просьбу тваю абвясцілі, і каб мы тую волю тваю пабожную з ласкі Апостальскай задаволілі, стараўся. Вось жа, мы, жаданне і ласку нашую (не кожнаму прызнаваную) хочучы табе паказаць, такімі тваімі просьбамі намоўленыя, каб ты Гроб Гасподні і іншыя за морам Святыя мясціны сам сваёю асобай мог наведаць, толькі б ты рэчаў забароненых да паганцаў не вывозіў, дастатковы і вольны дазвол Апостальскай сілаю даём у гэтым нашым лісце. Дадзена ў Рыме пры Св. Пятры, пад пячаткаю Рыбака. Дня 22 студзеня, 1583, пантыфікату нашага года адзінаццатага.

*Цэз. Гларыерыюс,*

Папа Рыгор XIII.

Усім увогуле і кожнаму паасобна, Каралям, Князям, Гетманам, Маркграфам, Графам, Баронам, Дзяржавам і іх Падуладным, Капітанам над войскамі марскімі і над караблямі, і іншым Панам свецкім, і Нам, і Святой Царкве ўласна або нейкім правам падпарадкаваным, прывітан-

не і Апостальскае блаславенне. Дзеля таго, што муж шляхетны Мікалай Крыштоф Радзівіл, Князь на Алыцы і Нясвіжы, Найвышэйшы Маршалак В. К. Літоўскага нядаўна паведаміў нам, што гроб Ерусалімскі Госпада Нашага тымі часамі хоча наведаць; Мы з асаблівае да таго Князя Бацькоўскае любові дарогі яму паўсюль бяспечнае зычым і жадаем, і Вам, якія нам не падданыя, пільна напамінаем і дамагаемся, а падданым нашым загадваем, каб, калі той Князь да Вас або да Нашых земляў прыбудзе, гэтак яго, як і чэлядзь, і таварыства яго, ласкава і шчодра прынялі, і так яго высакароднасці, як і жаданню і волі Нашай дагаджаючы, з любоўю з ім абышліся. Калі б ён абароны якое або вольнага праезду патрабаваў, каб вы ахвотна тое дазволілі, дбаючы, каб мы Вас з прыхільнасці да памянёнага Князя выяўленай, слушна мелі адрэкамендаванымі і за такою жа нагодаю такую самую ласку Апостальскую паказалі. Дадзена ў Рыме пры Св. Пятры пад пячаткаю Рыбака. Дня 22 студзеня, 1583, пантыфікату нашага года адзінаццатага.

*Цэз. Глярыерыюс.*

Калі мы такім чынам збіраліся ў дарогу і заставалася толькі сесці на карабель, Боскае прызваленне і наканаванне пэўныя цяжкасці надсылала, каб мы ад берага не адплывалі. І выявілася пасля, што добра сталася, што мы не так хутка, як хацелі, з места вырушылі. З гэтае прычыны мы ўвесь Вялікі Пост і Вялікдзень заставаліся ў Венецыі, пільнуючы набажэнства, паводле волі Гасподняе і з Ягонай падтрымкаю.

Відаць, рука Гасподняя была з ім.

І толькі ў суботу на Светлым тыдні года Гасподняга 1583 дня 16 красавіка, каля 22 гадзіны, у бацік сеўшы ў Венецыі, да кляштара Св. Марыі della Gratia закону Св. Ераніма на выспе прыплылі (калі я ўранні, ужо паломніцкія шаты ўздзеўшы і Найсвяцейшым таемствам забяспечыўшыся, гэтае маё падарожжа Госпаду Богу майму даручыў), а адтуль, у порце Маламока пасля заходу сонца на карабель сеўшы, а трэцяй гадзіне ўночы, паднялі мы катвігу, на світанні дня таго (было 17 красавіка) адплыўшы; ды праз дзень і ноч, а другі дзень лёгкі ветрык павяваў, затоку Тэргестынскую прамінулі. А калі вецер зусім сціх, стаў карабель недалёка ад Парэнцыя, старога мястэчка Істрыйскага, якое хоць не надта вялікае, але ў прыгожай мясцовасці размешчанае і мае на сабе адбітак даўніны. Некаторыя мяркуюць, што пасля выкрадзення Алены збудаваў яго Парыс, і звалі яго перад тым Парыдын, або Парыдыній, ад яго імя. Сюды караблі прыстаць не могуць, таму і наш за чвэрць мілі ад берага стаяў. Я ў барліне да касцёла Францішканскага дабраўся і, св. імшы паслухаўшы, агледзеў места, а пасля вярнуўся на карабель. Надвячоркам усхадзіўся ветрык, мы таксама вырушылі і на світанку прыплылі ў пусты порт у Далмацыі, званы ў наваколлі Тарэта, і там дзеля супраціўнага ветру (дзьмуў між усходам і поўднем, італійцы завуць яго сірока) мусілі тры дні стаяць. А як адтуль было да места Зары пяць міляў, дык, кінуўшы катвігі, батам даплылі мы да выспы Сала, і пехатою да вёскі з той самаю назвай паўмілі прайшоўшы, апоўдні ўвайшлі ў карчму, дзе п'яных мужыкоў

**Парыс Траянін места заснаваў.**

**Далмацыя.**

знайшлі, якія, пабачыўшы нас у шатах паломніцкіх, а да таго ж чуючы, што ґаворым па-польску (разумелі, бо славяне самі), а пра карабель наш не ведаючы, палічылі нас за шпегаў, тым болей там недалёка ёсць колькі замкаў турэцкіх, адзін Бокаль ад іх толькі мілі за паўтары. Дык хацелі нас злавіць, і ўжо былі па вяроўкі паслалі таварышаў сваіх, якім я ліста венецкага князя (як падданым) паказаць не хацеў, каб яго людзі п'яныя не падралі, але прасіў, каб нас да свайго пана правялі, што яны і ўчынілі. І калі мы там ішлі, спаткалі іх суседзі, сказаўшы, што нашых у касцёле болей, чым яны спадзяваліся.

**Езуіты не лайдачаць, свет наварочваюць.**

А прыехаў быў Войцех, біскуп Сідонскі з двума святарамі таварыства Езуса, Леанардам Сіцылійцам і Ігнатам Гішпанам, якіх Рыгор XIII для прышчаплення веры ў Сірыю быў паслаў, і таму яны разам з намі ў тым самым караблі ў Трыполь Сірыйскі плылі. І так калі нашых болей, а асабліва пісара карабельнага Ераніма Варнана, ім ужо знаёмага, пабачылі, ніякіх нам пасля клопатаў не чынілі, і нават калі мы ў плябана абедалі, перапрашалі мяне, каб я іх перад урадам Заранскім не абвінавачваў, вельмі таго баючыся. Па абедзе я, наняўшы сабе барку, у Зару,

**Зара, места ў Далмацыі.**

места венецкае ў Далмацыі, надзейна ўмацаванае, па гадзіне 21-й выправіўся і, даплыўшы, сустрэў каля порта прэтара венецкага Вінцэнта Маразіна, які там прахаджаўся і спытаўся ў мяне, ці спрыяла нам надвор'е. Пісар наш, з баркі выйшаўшы, паказаў яму пашпарт, і той, прачытаўшы яго, казаў нам на зямлю ссесці і, прывітаўшы нас, да места правёў, равы і муры фартэцы паказаў і з сапраўднай пашано-

таю ў палацы сваім прытулак нам даў. Назаўтра (то быў дзень Св. Марка) пайшлі мы ў царкву, і быў я там на шэсці, якое па ўсёй Венецкай дзяржаве з вялікай урачыстасцю абыходзяць. Наведаў я таксама некаторыя касцёлы, а менавіта Св. Сымеона касцёл, старца таго, пра якога ў Евангеллі напісана, што ён Хрыста Госпада трымаў на руках сваіх, там цела яго Святое пад вялікім алтаром ляжыць амаль зусім цэлае, ані не парушанае, бачылі мы яго і дакраналіся самі. Паабедаўшы, пайшлі мы з палаца на барку, і пасля да нашых даплылі. Калі былі мы ў Зары, скаргу разбіралі на сто дваццаць чалавек жаўнераў, якіх сенат венецкі ў тым самым караблі нашым на выспу Крыт пасылаў, дзе прэтар загадаў таксама, каб за шкоду кожнаму заплацілі.

Венецкая дзяржава дзень Св. Марка святкуе.

Св. Сымеона цела дагэтуль цэлае.

Раніцай адплылі мы ад таго порта; цэлы дзень пасля і ноч вецер паўночны, што паміж поўначчу і ўсходам, недалёка да Балёны, места турэцкага, надзвычай гвалтоўна нам шкодзіў.

Балёна, места турэцкае.

## Травень

З Адрыяцкага мора выплылі мы ў мора Міжземнае, якое Афрыку ад Еўропы дзеліць.

Мінулі мы пад вечар выспу Карцыра, а ўночы Цэфалонію.

Карцыра, Цэфалонія.

Прыплылі мы каля гадзіны 18-й у Зацынт. Там я адразу пайшоў у кляштар Бернардынаў Шчаснай Марыі, дзе на той час айцец Баніфацы з Бергама быў гвардыянам. У тым самым кляштары паказваюць стары камень магілы Цыцэронавай, з надпісам літарамі грэцкімі і кажуць,

Выспа Зацынт.

што пад ім у каменным збане попел таго Цыцэрона, пры пахаванні, паводле звычаю паганскага, (якім ён сам і быў) спаленага. Назаўтра Марк Антоні Вэнарэй, прэтар венецкі, запрасіўшы мяне да сябе, шчодра частаваў у замку, які на высокай гары, па-старасвецку, кругам змураваны. На другі дзень слухалі мы Святую імшу ў кляштары Францішканскім Св. Гальяша, што стаіць на пекным пагорку, над самым местам. Сад пры ім, што праўда, не надта вялікі, але надзвычай прыгожы. Нідзе ва ўсёй Грэцкай дзяржаве (як самі грэкі сведчаць) няма большых апельсінаў, цытрын і лімонаў за тыя, што растуць тут на гэтай выспе, дзе штогод двойчы па сто тысяч кашоў разынак меншых, а віна чырвонага і белага каля трыццаці тысячаў бочак выходзіць, што і Марк Сэкурый венецыянін, на той час мытнік, і іншыя гандляры як рэч пэўную сцвярджалі. Па абедзе паехаў я ў грэцкую царкву Св. Марыі Піскапскае, якая на гары вельмі высокай, адкуль Аркадыю відаць, за мілю ад места размешчаная. Трымаюць там венецыяне дзеля туркаў варту.

**Апельсінаў, лімонаў і цытрын ураджай.**

Церпіць тая выспа ад частых землятрусаў, з якое прычыны дамы нізкія будуюць, вось жа і пры маім тут побыце ўночы зямля, праўда крыху і нядоўга, трэслася.

**Землятрус.**

А 23 гадзіне пакінуўшы Зацынт, мінулі мы з левага боку замак турэцкі Тарнэзэ ў Пелапанэсе, які за паўтары мілі ад Зацынта ляжыць у моры.

Мінулі мы таксама і выспы Страфады, на адной з якіх манастыр ёсць грэцкі закону Св. Васіля, дзе манахі Калаерамі званыя жывуць. Мінулі таксама выспу Сапіенцыя. А такса-

**Манахі Калаеры бываюць у Польшчы.**

ма і гару Мэтапаін, што далёка ў мора заходзіць. Вецер рэзкі дзьмуў і небяспечны.

А 21-й гадзіне паміж выспаю Цытэрэяй і Манлійскай гарою, што ў мора заходзіць, выйшлі мы ў мора Эгейскае, з моцным, але шчаслівым ветрам Каўрэнам, які паміж захадам і поўначчу дзьме.

**Выспа Крыт.**

Недзе каля поўдня пры мысе выспы Крыт, Фраскія званым, а перад тым Палео Кастро, кінулі мы катвігу, і, сеўшы ў бат, а 22-й гадзіне ў Кандыю (старажытныя яе Кандар называлі) прыплылі. І, не могучы дзеля вятроў увайсці ў порт, высадзіліся мы на бераг, дзе крыху мусілі пачакаць, пакуль з пашпарта нашага не пабачаць, што мы з здаровага месца едзем. Прыбыўшы ў места, я пайшоў у кляштар Св. Францішка. Назаўтра князь кандыйскі Мікалай Данат у палацы мяне частаваў.

**Лабірынт на Крыце.**

Паехаў я сухазем'ем па краях гары Іда ў лабірынт Тэзэеў, які і сёння гэтак завецца. Я пагаджаюся з тымі, хто месца тое не за лабірынт, але за гэткую капальню, дзе каменне ламалі, лічаць, чаго сведкамі і крушні камення і дарогі, якімі каменне тое вазілі. Есць тут шмат лёхаў, кудыісці можна хіба што запаліўшы паходню; дый тады надта асцярожным трэба быць дзеля кажаноў, каб свечкі не загасілі лётаючы, а пасля ў той цемрадзі не заблыталі. І тое там яшчэ дзіўнае, што калі з поўначы хто на поўдзень ідзе праз горы, пабачыць, што каля Картыны ўжо тыдзень, як жніво скончылася, а каля Кандыі яшчэ ўсё на полі; там ужо спелая садавіна, а тут на поўначы далёка яшчэ да таго. Дзеля позняга часу не мог я вярнуцца ў Кандыю, і з тае пры-

**Дзіўная перамена паветра.**

Смутны выпадак.

чыны ў невялічкім адным кляштары ў Бернардынаў начаваў, дзе толькі трох было законнікаў, якія мне распавялі, што за тры тыдні да майго прыезду пайшлі нейкія людзі з Кандыі ў лабірынт, каб агледзець яго. Законнік, які разам з імі пайшоў, неяк у лёху адным (бо іх там безліч) заблудзіў і застаўся; а мы, кажа, таксама падумалі, што з імі разам у Кандыю паехаў. Аж на трэці дзень праз выпадак шчаслівы госці нейкія, туды ж увайшоўшы, на манаха таго натрапілі, які, голадам зmoраны, быў непрытомны, амаль ужо розум страціў і, седзячы, смерці чакаў. Дык, пазнаўшы яго, прывялі ў кляштар, там ён хварэў доўга, бо ад розуму быў адышоў, пільнасць вялікая вакол яго была, і так ледзьве ачуняў.

Гартына, места славутае.

Агледзеў я надзіва вялікія руіны места Гартыны, якое цар Таўрус Еўропу, дачку Агенараву, выкраўшы, збудаваў і імем маці сваёй назваў. Мясцілася места тое ніжэй пад самым лабірынтам, і гэта ясна паказвае, што з тых камянёў мураванае было, якія з таго ўяўнага лабірынта выломвалі і вазілі. Вялікае і прыгожае было места, як апоры і калоны некалі цудоўныя сведчаць, якія дзеля гушчыні іхняе лесам нейкім здалёк здаюцца. Ёсць тут таксама і сляды разваленага касцёла, вялікім коштам некалі збудаванага. Але найдзіўнейшы тут мост праз маленькую рэчку, з вялізных квадратных камянёў, якія ні волавам, ні вапнаю не злучаныя, аднак гэтак моцна трымаюцца, што бяспечна па іх ездзіць можна.

Мост каменны

Таго самага дня ўвечары вярнуліся мы ў Кандыю.

Князь кандыйскі і Францішак Барбарыг капітан, Віктарын Бунон, Ян Марк Молін сакратары, узяўшы мяне з сабою, пайшлі ў касцёл, дзе мы слухалі Святую імшу. Тамсама пасярод касцёла каля другога алтара імша па-грэцку адпраўлялася. Бо ж даўнімі дэкрэтамі айцоў Святых папаў тое прадугледжана і загадана, каб у некаторыя святы ўрачыстыя ўрад і кіраўніцтва гэтае выспы на літургіі Грэцкай прысутнічалі, што і іншым католікам бяспечна чыніць і ў Грэцкія храмы хадзіць належыць, калі няма касцёлаў паводле нашага абраду. Было таксама шэсце ў фарны касцёл Св. Ціта, дзе яго галаву Святую ўсю з вялікай пабожнасцю людзям паказвалі. Паабедаўшы, прывітаў я арцыбіскупа, які з дазволу Апостальскага пасаду ўборы кардынальскія тут у Кандыі носіць, і гэтак убраны, у касцёл прыехаў і Святыя рэліквіі нам паказаў, якіх тут вельмі шмат.

**Католікі, калі трэба, у грэцкіх касцёлах каталіцкіх бываюць; касцёл і галава Св. Ціта.**

Абедалі мы ў Барбарыга капітана, а адтуль выправіліся на карабель. Тым часам дзеля гвалтоўнага ветру былі мы ў небяспецы, снасці рваліся, катвіга патанула, іншыя мы выкінулі, і калі б вецер не сціхнуў, карабель бы разламаўся.

А другой гадзіне ўночы выехалі мы каля выспы Стандыі з пагодным ветрам.

Прамінулі мы турэцкія выспы Карпаты і Род, але з-за цемры цяжка іх было ўбачыць.

Увайшлі мы ў мора Ліцыйскае, а ўначы ў Памфілійскае.

А дзевятнаццатай гадзіне ўбачылі мы Кіпр, а надвячоркам мінулі Паф.

**Кіпр Паф.**

Дакладна на світанні прыплылі мы ў Леміс. Туды за адзін дзень перад намі прыплылі былі

неспадзявана чатыры галеры князя фларэнцкага, места сплюндравалі, туркаў паланілі, а каля трыццаці забілі. На беразе вежа стаіць, частка яе пад час землятрусу за колькі гадоў перад тым абвалілася, пры тым некалі туркаў прываліла. Калі я з карабля дзеля агляду мясцовасці выйшаў, заступіў нам дарогу нейкі шаленец, такіх звычайна называюць маслочнікамі, у руках нож шырокі, да брытвы падобны, трымаючы, і, вызначыўшы, што мы паломнікі (а нас было чацвёра), падышоў і спытаўся, маўляў, што мне дасцё, а я за здароўе імператара пана майго зарэжуся. Хацеў за тое манету, якую туркі называюць майдын. Мы, каб дарма грошы не марнаваць, сказалі, што майдынаў маем не замнога, дый тыя нібыта з цяжкасцю пазычылі мы ў гандляра нейкага валоха, які там на Кіпры і жыў і быў тым часам з намі, і далі яму, пераказаўшы праз тлумача, што ніякага рэзання бачыць не хочам. Але ён, узяўшы майдын, два разы сябе па грудзях досыць глыбока парэзаў, і страшна было кроў, што так густа ліецца, бачыць. Не быў, відаць, пры розуме, як і тыя, што маслок у порах расцершы, п'юць. Лечацца вадою, зёлак нейкіх дадаўшы, і гояцца раны хутка, што і з гэтым сталася. Не далі б мы яму нічога, але нас той гандляр папярэджваў, кажучы, што звычайна тыя нягоднікі хрысціянаў абражаюць, удаючы шаленства.

*Бачыш сляпога басурманіна.*

*Маслок.*

Агледзеў я места і пабачыў яго вельмі занядбаным. У Святочную нядзелю біскуп Сідонскі Найсвяцейшую імшу ў храме грэцкім адпраўляў, на якой амаль усе з нашага карабля прынялі прычасце.

Уначы вырушылі мы з тае мясціны. Прыплылі мы туды, дзе, як вялікія маразы ваду ў лёд ператвараюць, так сонца сваёй моцай і гарачынёю соль скоўвае, так што можна па ёй хадзіць, хоць пад ёю ёсць вада пітная і добрага смаку. Адразу ж на пачатку восені соль тая дзеля вільготнасці растае, пра што, як шмат хто пісаў, дык я прапускаю. Адтуль недалёка ёсць места Лерніка, якое амаль тысячу дамоў мае, але мінулаю Турэцкаю вайною блізка што спустошанае. А як мы ў гэтай мясціне крыху адпачыць сабе пастанавілі, дык я вырашыў табе той пачатак падарожжа майго выпісаць і паслаць, а болей пасля, як надарыцца нагода, напішу. Пісана ў мясцінах сольных выспы Кіпр апошняга дня траўня года Гасподняга 1583.

**Ад сонца соль цвярдзее, як ад марозу лёд.**

## ЛІСТ ДРУГІ

### Чэрвень

Пра плаванне маё і як прыбыў я на Кіпр ужо табе з той выспы я лістоўна паведаміў. Назаўтра па тым, як адправіў я ліст, гэта значыць першага дня месяца чэрвеня, наняў я карабель невялікі, які ў гэтых краях называюць карамужан, дзе патронам быў араб хрысціянін. Пра што калі староста турэцкі гэтага места (называюць яго кады) даведаўся, з намовы грэка аднаго (які быў колькі гадоў перад тым у веру мусульманскую абрэзаўся, хоць і добрага роду на Кіпры

чалавек, і які пры здабыцці Нікозіі вельмі мужна сябе паказаў, рукою сваёю багата туркаў забіўшы), дык ветразі і снасці карабельныя адразу ў нас забраў, каб мы не адплылі, пакуль што-кольвек яму не дамо. Бо з чаго туркі ў гэтым краі сродкі на жыццё сабе збіраюць: з паклёпу на хрысціянаў і гандляроў. І так таго здрайцу грэка, калі на карабель наш прыйшоў, па-людску і прыязна прынялі мы, і тое-сёе яму падаравалі, калі ён у кады тое, што ў нас было забранае, атрымаў.

Прыстойнасць турэцкая.

А другой гадзіне ўночы селі мы на наш карамужан і да Святой Зямлі павярнулі. Быў на тым самым караблі араб мараніт (так арабы хрысціянаў называюць), які пад Лемісам з карамужанам быў схоплены, калі жаўнеры князя фларэнцкага, напаўшы на места, плюндравалі яго. Ён падрабязна нам расказваў, як мужна хрысціяне з туркамі біліся. Валохі, бачачы, што ён хрысціянін, вольна яго пусцілі, аднак ён мусіў морам за адну мілю валошскую адплыць, а адтуль сухазем'ем другую мілю прайсці, бо галеры не хацелі блізка да Трыполя стаць.

Як толькі мы вежу (што над портам стаіць пры Яфе) убачылі, вецер афрык (дзьме паміж поўднем і захадам) гвалтоўна пачаў мацнець, да берага нас не пускаў, ветразі падраў, снасці пабрываў. А калі спраўца і кіраўнік карабля, не ведаючы рады, на Кіпр вярнуцца і пад Караманіяй да берага прыстаць думаў, адкуль бы цяжкая і небяспечная была дарога; пытаўся ў нас, што б мы хацелі ўчыніць, і казаў, што калі б мы падвысілі плату, можна было б гэткім ветрам бяспечна ў Трыполь заплыць. Тады мы, бачачы

Небяспека.

нерашучасць гэнага патрона, падвысілі плату аж да ста залатых. Прычына ж таго новага торгу была тая, што карамужан ён быў наняў у аднаго араба, і, адвёзшы нас у Яфу, каго іншага ўзяць меўся, і таму за ўчыненую затрымку, бо мусіў да Трыполя плыць, хацеў даплаты. І так, падняўшы ветразі, плылі мы са спорым ветрам і мінулі Алабдану Казатуру, званую раней Цэзарэя Атартула Атэліт; а пасля, за мысам Кармэль, недалёка Пталемаіды, цалкам разваленую Сарэпту Сідонскую, пра якую гаворыцца ў Пісанні (3 кн. Цароў, 17, Лк., 14). Места гэтае ляжыць пры гары Кармэль, на вяршыні якой месца паказваюць, дзе Ілля прарок збудаваў быў алтар, у 3 кн. Царстваў, 18, апісаны. Мінулі мы таксама Тыр і Сідон, на прыгожай раўніне тыя месты, адно ад аднаго за чатыры мілі польскія. Кажуць, што недалёка тут на гары ёсць Цэзарэя Кападоцкая, дзе Св. Дарота, шматпакутная панна, шчасліва карону атрымала. Адтуль дзесяць міляў толькі да Трыполя ад Берыта і Анэсы местаў, дзе гара Ліван узвышаецца. Ляжаць тыя месты ў Сірыі, і амаль усе там хрысціяне жывуць, друзіянамі званыя, якім дазволена на манер туркаў у белых турбанах хадзіць. Паходзяць яны ад тых французаў, якія некалі зямлю Абяцаную ў сарацынаў адабралі; але жыццё і справы іхныя гэткія благія і за паганскія горшыя, што болей пра іх пісаць, вушы цнатлівыя шкадуючы, не хачу.

**Гара Кармэль. Сідон.**

**Берыт.**

Праплыўшы за 18 гадзін шэсцьдзесят міляў з ветрам, злым, непагодным і гвалтоўным, прыплылі мы а 22-й гадзіне ў Трыполь; дзе, кінуўшы нарэшце катвігу, не засталіся б мы жы-

Трыполь.

выя, калі б туркі, з карабля александрыйскага, сеўшы ў бат вялікі, на ратунак нам не прыйшлі. Выйшаўшы на бераг, ішлі мы паўмілі да места і прыбылі ў Фонтэк Карвасэры, або Венецкае жытло. Места гэтае шмат хто апісвае, таму я тое прапускаю. Ляжыць яно ў мясціне прыгожай, палова яго на гару паднімаецца, садамі надзвычай прыгожымі абкружанае, шмат крыніцаў мае, паветра, асабліва ўлетку, не вельмі здаровае. Як ісці ад мора да места, блізка брамы, з левага боку, за адзін кідок каменя стаіць палац мураваны трохкутны, пра які распавядаюць тое, што за жыццё бацькоў нашых здарылася пад час панавання Салімана імператара турэцкага. Чарнакніжнік адзін, дайшоўшы сваёй навукаю, што там скарб быў закапаны, купіў тое месца, дом там збудаваў і мурам высокім абнёс, і як мага патаемней (бо такія рэчы да імператара забіраюць) шукаў у зямлі. Але ўсе прыхаваныя месцы перакапаўшы, нічога не знайшоў. Даведаліся пра тое іншыя людзі, дачуўся і санджак (гэта начальнік такой правінцыі, як у нас ваявода), які на той час там жыў (бо толькі нядаўна, колькі гадоў таму, паша ў Трыполю пасяліўся), паклікаў таго чарнакніжніка і пільна пра ўсё распытаўся. Той, не могучы адмовіцца, прызнаўся, што быў ашуканы, ніякага скарбу не знайшоўшы. Але суддзя, золата хціва прагнучы, склікаў іншых чарнакніжнікаў ды загадаў, каб яны ўсю навуку сваю на шуканне таго скарбу скарысталі; тыя ж усе аднолькава вызначылі, што або ў тым месцы, або недалёка закапаны скарб. Тады санджак паўсюль навокал зямлю пільна капаць загадаў, і тады за дваццаць

Скарб знойдзены.

локцяў ад тае будыніны, пад малым пагоркам (палова яго і цяпер яшчэ стаіць), на локаць у зямлі знайшлі скрыню, поўную золата літага, якога было там да трыццаці тысяч дукатаў. І ўсё тое паслаў санджак у Канстантынопаль.

Які быў скарб.

Што было вартае ўвагі ў тым месце, тое мы ўсё ўважна агледзелі. Раніцай былі мы ў леміра, які пастаўлены над мытняй і мае пад сваёй рукою колькі жаўнераў. На той час, пакліканы імператарам, прыехаў быў ён з Ерусаліма (дзе таксама быў мытнікам) у Трыполь, каб правіць правінцыяй пад час адсутнасці пашы́, на Персідскую вайну адасланага. А як той лемір гайдукоў сваіх у Ерусалім пасылаў праз Дамашак, дзе меў брата Балюха, дык мы стараліся, каб ён гэным янычарам дзеля аховы (вельмі там патрэбнай) загадаў нас правесці; то ж ён, падарунак атрымаўшы, без цяжкасцяў тое ўчыніў. І гэтак пад вечар, двух конных і двух пешых узяўшы і паўтары мілі прайшоўшы, у полі пад Ліванам мы заначавалі.

Перад полуднем сталі мы ў Эхды, вёсцы арабаў маранітаў, пасля, прайшоўшы мілю, прыйшлі ў кляштар Шчаснай Марыі Канабійскае на гары Ліване змураваны, дзе патрыярх ёсць пад паслушэнствам айца Св. папы, які на той час высвячаў аднаго законніка на святарства пры ахвяры Найсвяцейшай. Убранне яго, у якім пры алтары стаяў, не рознілася ад убрання нашых арцыбіскупаў, былі на ім арнат, туніка, сандалі. Гостыя, або аплатка, як і ў католікаў, гэткай жа формы. Як толькі патрыярх скончыў, Леанард Пацыфік, святар таварыства Ісуса, які быў са мною, з дазволу генерала ягонага ў Рыме,

Гара Ліван. Патрыярх.

узяўшы блаславенне ў патрыярха, паводле абраду Рымскага, імшу Святую там чытаў, у альбе і арнаце патрыяршым. Шаты царкоўныя зняўшы, патрыярх надзеў чорнае ўбранне, шапку брунатную, як там законнікі ходзяць. Частаваў нас абедам малочным і аліўнымі пладамі, бо яны мяса ніколі не ядуць. Пасля нешпара вярнуліся мы ў Эхды.

Кедравыя дрэвы.

Раніцаю ў дарозе недалёка ад гасцінца бачылі мы дваццаць чатыры кедравыя дрэвы, якіх не сякуць, бо ў краі гэтым іх болей няма. Дрэва гэтае досыць прыгожае і досыць высокае, з разложыстымі галінамі, падобнае да таго, што палякі называюць мадрэвам. Верхам гары Лівану, дзе ніколі снягі не растаюць, хоць і значна большая гарачыня тут бывае, чым у Валошчыне, прыйшлі мы ў места Баальбэк, дзе цар Саламон збудаваў быў палац, калі цароўну егіпецкую, дачку фараонаву, узяў (3 кн. Царстваў, 7). Пазнейшыя аўтары рознае пра гэта пішуць; я ж як рэч пэўную сцвярджаю, бо вельмі пільна прыгледзеўся; той палац уласна гэтаксама ў кнігах Царстваў апісваецца, як яго цяпер бачым у Баальбэку; да чаго лёгка кожны дойдзе, бо з падмурку развалены і даўнасцю папсаваны, па кавалках падае і валіцца. Ідучы з гары, перайшлі мы зараснікі пагорка, Антыліванам званага, дзе Цэлесірыя пачынаецца. Янычары і туркі, на чыіх конях ехалі мы ў Ерусалім, з навакольных вёсак нанялі за грошы нашыя да сарака арабаў маранітаў з паўгакамі і лукамі, дзеля абароны ад арабаў і сарацынаў, бо днём раней тыя гандляроў турэцкіх разбілі і пятнаццаць з іх забілі насмерць, што тут часта здараецца.

Палац Саламонаў.

Ёсць тут восем харугваў арабаў, дзве чырвоныя хрысціянаў і шэсць белых сарацынаў, якія між сабою варагуюць і часта з сабою сутычкі маюць, а не толькі з тымі хрысціянамі.

Арабы нязгодныя між сабою.

Арабы, якія белыя харугвы маюць, амаль заўсёды разбойніцтвам у сваёй зямлі, у Егіпце і ў Святой Зямлі прабаўляюцца. Ёсць іх крыху і ў Галілеі, дзе яны вялікія статкі авечак і вярблюдаў гадуюць, у намётах жывуць, добрых папасаў і водаў здаровых шукаючы. Калі ім у адным месцы папасаў не стае, яны, жонак і дзяцей на вярблюдаў пасадзіўшы, гоняць авечак далей; спаткалі мы іх два гурты вялікія ў Галілеі, каля гары Табор. Але арабы хрысціяне ў вёсках жывуць, сады даглядаюць, гэтак на гары Лівane, як і ў Сірыі, асабліва ў Дамашку і ў Святой Зямлі, хоць не так густа.

Арабы хрысціяне.

Пётра Бэлоній Цэнаман пра места Баальбэк мяркуе, што гэта Цэзарэя Філіпава, але ніякіх доказаў не падае. Пэўна, што памыляецца, бо іншая ёсць Цэзарэя Філіпава на моры, якая і да сёння гэтак называецца, адкуль Св. Павал у Рым выплыў (Дзеі, раздз. 28).

Выехаўшы з Баальбэку, як ні заезду ні карчмы не было, дык мусілі мы ў полі начаваць, не без вялікае небяспекі, на якую, аднак, янычары нашыя знайшлі хутка раду. Бо ўбачыўшы, што турак адзін, маючы каля сябе колькі дзесяткаў жаўнераў, з якімі на вайну Персідскую ехаў, на тым самым полі намёт свой паставіў, загадалі нам між недалёкіх пагоркаў схавацца, а самі да турка паехалі і сказалі, што яны некалькіх убогіх паломнікаў з далёкіх земляў праводзяць, і прасілі, каб дазволіў нам у тым самым полі спы-

**Турэцкая міласэрнасць.**

ніцца і заначаваць, дзе і ён спыніўся; і (бо туркі знешне міласэрнымі здавацца любяць) без цяжкасцяў гэтага дазволу ад яго дамагліся. I так недалёка ад яго сталі, а іначай, калі б мы так неспадзявана прыбылі, ён, мяркуючы, што мы ім пагарджаем, узяў бы тое сабе за крыўду і ўчыніў бы нам які клопат. Бо і раней колькі туркаў нас ні спатыкала, заўсёды абрабаваць нас хацелі, як здарылася пры спатканні з жаўнерамі нейкага санджака, які з Егіпта ішоў. Аднаго майго слугу скінулі з мула разам з рэчамі і тое, што нёс, гвалтам забралі, а калі мурын нукер (у якога мы былі нанялі коней) мула схапіў, булавою яго стаўклі, пакуль янычары нашыя не пад'ехалі і яго не адбілі, а таксама і мула; далі мы тым пару талераў, каб нам прыкрасцяў не чынілі, што яны прынялі задаволеныя. Аднак тамсама (што нам тлумач пераказаў) свята прысягнулі паводле звычаю свайго, што каго б цяпер ні спаткалі, абрабуюць і возьмуць усё, што ім спадабаецца, з тае прычыны, што здалёк ехалі. Бо кожны раз, як іх імператар на вайну пасылае, той самай вольнасцю, якую чаўшы маюць, коней і ўсё, што б ім ні спадабалася, паўсюль беспакарана браць і прыўлашчаць ім дазволена. На другую ноч прыйшлі мы ў Тыкей, дзе шпіталь турэцкі, які, хоць не так аздобна вымураваны, але багата і дастаткова забяспечаны адным дамашскім пашою. Спаткалі мы ў дарозе караван, што з Дамашка ў Трыполь ехаў, дзвесце конных меў каля сябе. Бачыў я ў тым шпіталі, як адзін турак, маючы пяць птушак зялёных, па адной на волю пускаў, пры тым нешта пад нос мармычучы. А калі я праз тлума-

**Вольнасць жаўнераў турэцкіх.**

**Шпіталь турэцкі.**

ча прычыны ўчынку таго даведваўся, адказаў мне: гэтак раблю я дзеля душаў бацькоў маіх памёрлых і веру, што тым маім добрым учынкам крыху памагчы ім здолею.

Турні вераць у чысцец, але ж гэта смешны добры ўчынак.

Вырушылі мы адтуль раніцай і пабачылі гару справа ад дарогі, на якой, як кажуць, Каін забіў Авеля. Там на самым версе ёсць два пагоркі; цвердзяць, што на іх тыя браты Госпаду Богу ахвяры складалі, а пры краі аднаго з іх паказваюць месца, на якім Авель быў забіты, а пасля пахаваны. Апавядалі нам туркі (бо, спяшаючыся, не маглі мы пайсці на тую гару, дый надта высокая яна), што на сведчанне забітага брата і на памяць бязвіннасці Авелевай быў пад зямлёю нейкі розрух добра чутны; таму месца гэтае вельмі шанаванае, і лічыцца за рэч пэўную, што калі б хто цяжка хварэў, там голы паляжаўшы, адразу б ачуняў. Крыху пазней, як мы набліжаліся да Дамашка, прайшлі міма нас мамелюкі, якіх там вельмі шмат. Народ той паходзіць ад арабаў і мурынаў, яны мужныя, спрытныя вельмі, дый да таго ж умелыя коннікі. Адзенне ў іх з палатна белага і такое шырокае, што ім усяго каня накрываюць, апроч галавы, якую махрою і званочкамі аздабляюць. Носяць турбаны, шаблі персідскія, шчыты, дзіды з тоўстага трыснягу, завостраныя на канцы. На верхняе адзенне, званае альбарнос, ззаду вешаюць шкуру якога-небудзь звера, а сподняе, што завецца марлота, з вельмі шырокімі рукавамі носяць. Коней маюць выдатных, цуглі з кольцам, сёдлы і страмёны персідскія. Найболей сярод іх маўраў. Узышлі мы пасля на гару вельмі высокую, якая яшчэ і цяпер завецца Хрызароа,

Авель.

Цуды каля яго магілы.

Мамелюкі, хто такія.

на якой з левага боку стаіць каплічка: septem fratrum dormientium, або Сямёх-братоў-заснулых, як мараніты цвердзяць. З тае гары добра відзён Дамашак, бо ля яе падножжа места тое далёка разлеглася на пекнай, прыемнай і багатай пладамі ўсялякімі раўніне. І таму шмат хто лічыць, што Адам, першы бацька роду чалавечага, тут у месцы гэтым быў створаны, бо і зямля тут жоўтая, якая толькі ў Дамашку бывае, і сам Адам быў жоўты. З тае самае гары дзве ракі пачатак свой бяруць, і цякуць праз Дамашак, Абана і Фарфар, надта хуткія, плыць па іх немагчыма, але рыбныя. Падрабязна тое места апісаць — вялікая праца, шмат хто да мяне гэта зрабіў, дык я прапускаю. Калі мы ля брамы места самога былі, сселі з коней, бо ў вялікіх турэцкіх местах не належыць хрысціянам на конях ездзіць, а асабліва ў Дамашку, куды з Еўропы не шмат хрысціянаў прыбывае. Мы тут толькі двух гандляроў валошскіх знайшлі, якія вялі тут справы гандляроў апамейскіх бо алепскіх, у іх мы і прытулак знайшлі. А хоць Дамашак места вельмі люднае і чыстае і разлеглае (бо на паўтары мілі), аднак дзеля таго, што далёка ад мора ляжыць, гандляры еўрапейскія рэдка да яго ездзяць, дый людзі паспалітыя тут вельмі хрысціянам непрыязныя. Так што янычары конныя абступілі нас і гэтак праводзілі; але ж як толькі народ нас угледзеў, віскам агідным і крыкамі, асабліва ж хлапчукі, нас віталі, з усіх вуліц да нас беглі і, калі мы да месца, дзе купцы гандлююць, прыйшлі, каменнем у нас кідалі і плявалі, і калі б нас янычары не баранілі, пэўна б нас раздзерлі. Ад'язджаючы з Трыполя,

Ада́м калі створаны.

Народ бязбожны.

на першым начлезе наважыліся мы пазнаёміцца з двума туркамі (адзін стары, другі малады), тыя ж да нас далучыліся і ехалі з намі аж да Дамашка. Вярталіся яны з Персідскае вайны, маючы з сабою трыццаць коней, і святапраўдна нам прысягалі, што былі першыя, хто з таго абозу вырушыў, купіўшы вольны ад'езд свой у пашы за дзве тысячы цэкінаў, бо ў Дамашку справы надта пільныя мелі. Шмат нам пра тую вайну праз тлумача распавядалі, колькі кожнага дня не менш ад голаду, як ад мяча, туркаў гіне, калі за ракой Еўфратам праз доўгі час між пяскамі і глухімі скаламі ваду ў абоз насіць мусяць, а таксама і ад пошасці шмат іх памірае. Цвердзілі як рэч пэўную, што ад пачатку тае вайны да іх ад'езду туркаў тры разы па сто тысячаў загінула і што, хоць бы і памерці давялося, назад бы ўжо не вярнуліся, бо на перамогу не было і спадзявання. Імператар кажа турэцкі: яны там забаваў і прысмакаў шукаюць, і не верыць таму, што там дзеецца і як шмат іх дарэмна гіне. Слугі тых туркаў (бо ехалі мы разам), калі нас у Дамашку дзе сустракалі, праводзілі нас, людскасць выяўляючы. І хоць і былі пры нас янычары, усё ж у такім тлуме людзей цяжка было дагледзець, каб, прынамсі, хлапчукі ў нас каменнем не кідалі.

*Туркі як у Персіі ваюють.*

За тры месяцы да нашага прыезду ў Дамашак, перад тым, як паша на вайну Персідскую выправіўся (быў то сын Магамета, пашы таго, які быў везірам і якога акрутна імператар забіў, а гэты сын ягоны стаяў на чале дзвюх тысячаў коннікаў і васьмісот пехуроў), прыехала была сюды нейкая татарка, якую царыцай Азійскаю

Пабожнасць жанчыны татарскае.

називалі, маючы пры сабе чатыры тысячы татараў. То ж яна спачатку ў Бетлеем, а пасля і ў Мекку, дзе магіла Магаметава, на набажэнства ездзіла, хочучы тыя мясціны наведаць, з якіх у адной Прарок вялікі нарадзіўся ад Панны, а ў другой таксама Прарок вялікі пахаваны ляжыць. Частаваў яе паша з усімі яе людзьмі, на загад імператараў, вельмі багата, цэлыя восем дзён, і, як ад'язджала, санджака ёй за праваднiка з параю соцень жаўнераў даў.

Св. Павел хрышчоны.

Бачылі мы дом Юдаў. Была тут крыніца, у якой Св. Паўла хрысцілі, а цяпер уся вуліца ёй карыстаецца. Відаць было таксама таго дома нутраны праход. Як выйшлі мы за места, паказалі нам мясціну, дзе Св. Паўла спусцілі ў кашы, акенца там ёсць у вежы. Там таксама недалёка ёсць пячора ў зямлі, куды той Апостал блаславёны, спусціўшыся, схаваўся, і дзе шмат Святых хавалася за часоў праследаў. На лучны стрэл адтуль, пры капліцы маранітаў паказваюць камень, з якога Св. Юрый садзіўся на каня,

Св. Юрый.

калі ехаў бэрыцкага смока біць, недалёка ад Дамашка.

Агледзелі мы шпіталь, які Саліман, імператар турэцкі, вялікім коштам ад падмурку амаль збудаваў, дзе паломнікі, што ў Мекку ідуць і адтуль вяртаюцца, тры дні задарам адпачываюць.

Наведалі мы ўсе тыя мясціны, пра якія чытаем у Апостальскіх дзеях, раздз. 9. Там жа і дом Ананіяў, у які па прыступках трэба ўваходзіць. Там таксама і дом Св. Яна Евангеліста, дзе ён нарадзіўся, як цвердзяць невядома з якіх прычын мараніты. Былі мы і ў бажніцы тых маранітаў, даволі маленькай. Даюць яны

пашы дзве тысячы цэкінаў штогод, каб бяспечна магчы набажэнства спраўляць. Маюць рыштунак царкоўны ад Святога Айца Рыгора XIII, якія прынёс ім і аддаў айцец Ян Батыста, святар таварыства Ісуса. Бачылі мы здалёк царкву Св. Яна Хрысціцеля, даўно некалі хрысціянамі змураваную: відаць, што тут нешта калісьці было, вялікасцю да егіпецкіх падобная, няма ў ёй вольнага ўваходу хрысціянам, як і ў замак, які на стары манер з камянёў квадратных змураваны, вежы таксама вакол чатырохкутныя мае.

Сустракаюцца тут таксама людзі, якія з сябе пабожных удаюць і зімою, як і летам, голыя без ніякага зусім акрыцця ходзяць, галаву і бараду згаліўшы. Натрапіў я ў Дамашку на аднаго, і падумаў, што шалёны, але калі спытаўся я, адказалі, што то чалавек святы і жыцця цнатлівага, які светам і дачасным шчасцем пагарджаючы, жыццём анёльскім жыве.

*Дзіўны звычай.*

Тым самым часам бачыў я двух мурынаў гандляроў з Усходняе Індыі, твары ў якіх нязвыкла свяціліся. Калі я, прыступіўшыся, спытаўся, хто яны такія былі, адказалі мне, што гэта гандляры, якія дарагія камяні прадаюць; і сапраўды ж, на знак таго камяні нейкія чырвоныя велічынёю з лясны арэх, што вельмі ясна свяціліся, у лоб і абедзве шчакі ўштукаваныя мелі, і з імі так хадзілі, нібы нейкія машкарнікі. Дзіўна, як яны тыя камяні ўпраўляюць у скуру на твары, што так моцна трымацца могуць. Тады ж таксама першы раз бачыў я нейкага чалавека ў зялёным турбане, бо іншыя туркі белыя носяць, і сказалі мне, што паходзіць ён з лініі Магаметавай, а таму і той колер ужывае, які

*Чым розняцца родзічы Магаметавы ад іншых туркаў.*

быў уласным Магаметавым, і нельга яго нікому, апроч родзічаў ягоных, ужываць. Але ж некаторыя сантоны або людзі цнатлівыя і святыя, турбаны, нібы князі турэцкія, носяць. Уборы зялёныя насіць можна ўсім, турбаны ж толькі родзічам Магаметавым, якіх я пасля нямала бачыў, а менавіта аднаго ў Дамашку, вельмі падрапанага; у кухні мястовай быў кухарам і стравы прадаваў; з гэтага відаць, што не ўсе Магаметавы родзічы паны або хлеб маюць. Па абедзе нанялі мы Балука, да якога з Трыполя ад брата ягонага Леміра мелі мы лісты, каб з намі ехаў у Ерусалім; і ён з пяццю коннымі янычарамі і з пяццю пешымі да нас далучыўся. Пра ўрадлівасць палёў дамашскіх і разнастайнасць пладоў было б што напісаць, але тое ўжо іншыя ўчынілі. Дзіўлюся я, аднак, што адной рэчы яны не згадалі. Ёсць у Сірыі, у Трыполі і ў Баальбэку, а асабліва тут у Дамашку плод адзін шмат якім народам знаёмы, завуць яго звычайна маўза. Да агуркоў нашых трохі падобны, толькі што даўжэйшы, таўсцейшы і расце крыва. Разам расце часам да 50 тых агуркоў, як і лясных арэхаў, дзеля чаго перш чым паспеюць, бяруць іх дадому, дзе паволі і лягчэй дасканаласці набіраюць. Пах і смак зусім як ва ўрыянтовак, ігрушак нашых. Але хутка імі насычаешся, і болей за два з хлебам або сырам зараз з'есці немагчыма. Хрысціяне, што ў гэтым краі жывуць, мяркуюць звычайна, што Адам і Ева ў раі гэты плод елі, што гэткімі рацыямі пацвярджаюць. Найперш, што тут яблыкаў няма і што Святы Еранім, Біблію перакладаючы, калі слова маўза па-лацінску выкласці не мог, дык так папросту і пакінуў: плод з дрэ-

**Плод маўза.**

ва. Але хай яны самі таму верацць. Бо не падобна на тое, каб Св. Еранім, натхнёны Духам Святым Пісанне перакладаючы і да таго на мовах дастаткова знаючыся, таго б не ўмеў і выкласці не мог. Другая іх рацыя, што маўзу на скрылёчкі пакроіўшы, адразу ўбачыш жылкі накшталт літары «Т» (Таў), гэта значыць накшталт крыжа, леку на іх грэх і парушэнне наказу Божага, праз смерць Збаўцы. Але ж і ў агурках нашых штосьці падобнае ўбачыць кожны можа. Трэцяя рацыя, што той плод не на дрэве, а на нізкім кусце расце, амаль на пядзю таўшчынёю, які, аднак, не можа такога цяжару трымаць і да зямлі прылягае, а таму прабацькі нашыя лёгка яго сарваць маглі. Чацвёртая ж, што маўза лісце на локаць шырокае і на два доўгае мае, і з лістоў такіх пасля грэху зручна было целу акрыццё ўчыніць. Аднак Пісанне кажа, што тое акрыццё з фігавага лісця было ўчыненае; з гэтых усіх прычын, наколькі надзейнае іхнае меркаванне, хай самі разважаюць. Маюць яны і іншыя рацыі, але слабыя. Возяць той плод у Канстантынопаль праз мора, але, як ён нетрывалы, дык яго яшчэ недаспелы рвуць і, пяском засыпаўшы, вязуць, а пасля ў Канстантынопалі на сонца кладуць, і так даспявае. Апоўдні, ад'ехаўшы ад Дамашка ладную мілю, прыбылі мы да месца conversionis S. Pauli Apostoli, гэта значыць, дзе Св. Апостал Паўла навярнуўся да Госпада Бога, з каня ўпаўшы; адтуль Дамашак прыгожа выглядае. Недалёка ёсць камень вельмі вялікі, пры якім Апостал Святы з каня ўпаў і на зямлі ляжаў. Збудавала тут была Св. Алена капліцу, але ўжо амаль і няма знаку, што яна калісь была

**Відаць, што люд там просты.**

**Месца, дзе Госпад Св. Паўла да веры сваёй схіляў.**

ў гэтым месцы. Адтуль, прайшоўшы паўмілі, напалі мы на статак авечак арабаў маранітаў, з якіх калі адну Балук схапіў, мараніты, што былі там на полі, пачалі збірацца ў гурт, каб яе забраць. Туркі хапіліся страляць, але мараніты з прастак каменнем у іх шпурлялі, дык і паўцякалі туркі, авечку, аднак, прыхапіўшы; даганялі іх мараніты, але дарма. Начлег быў наш у карвасэрыі Саса, пяць міляў ад Дамашка, цячэ там рэчка празрыстая, а надта хуткая.

**Чаму туркі арабаў караць не могуць.**

Часта тут арабы прыгадваюцца і яшчэ прыгадвацца будуць, і таму мог бы хто здзівіцца, чаму, калі яны так дарогі разбойніцтвам напоўнілі, туркі іх церпяць. Дык жа трэба ведаць, што хоць шэсць харугваў арабаў ёсць у турэцкай дзяржаве, нідзе пэўнага аседлішча не маюць, на дарогі заязджаюць і туркаў і каго толькі напаткаць могуць, рабуюць і абдзіраюць; а калі б яны і між сабою жылі згодна, былі б страшныя туркам. Бо кажуць, што ёсць іх два разы па сто тысячаў і што немалую між сабою нязгоду нібыта ад прыроды маюць, з дапушчэння Божага.

**Абурыс, славуты разбойнік.**

Кожная харугва мае свайго гетмана, якога слухае, а ўсіх іх нейкі Абурыс магутнасцю далёка перавышае, вельмі славуты ў тым краі разбойнік. Мае пад сваёй рукою сорак тысяч арабаў, і тым часам, калі я са Святое Зямлі вяртаўся ў Трыполь, Сірыю ўсю пустошыў, так што я толькі праз яго аднаго Апамеі, або Алепа (чаго вельмі прагнуў), наведаць не мог бяспечна. Пад той самы час, як я ў Трыполь ехаў, напаў ён і, забіўшы трыццаць туркаў, вярблюдаў з усімі таварамі пабраў, але хрысціянам не шкодзіў, тавары іхнія вольна пусціць абяцаў і пажадаў,

каб ад агентаў гандлёвых, што ў Трыполі жывуць, віно і харчы яму паслалі. А чаму той край так жорстка плюндраваў, гэткая была прычына. Паша дамашскі незадоўга перад прыездам нашым пляменніка ягонага, які таксама ў блізкіх мясцінах разбой чыніў, усмерціць загадаў, наступным чынам яго абкруціўшы. Прыдумаў, нібыта мір з ім учыніць хоча, і на тую трансакцыю ў адно месца пяцьсот арабаў з маладзейшым тым Абурысам і гэтулькі ж туркаў з капітанам пашавым з'ехаліся. Пакуль арабы на конях сядзелі, нічога туркі ім не наважваліся зрабіць, колькі сотняў коней сваіх мелі; але як толькі Абурыс і большасць арабаў з коней пассядалі, каб дарункі, што паша ім паслаў, атрымаць, зараз жа напалі на іх туркі, якім таксама і тыя, што ў засадзе сядзелі, на дапамогу прыбеглі, таго маладзёна злавілі і ўсіх іншых пабілі. Тады ж той дзядзька Абурыс, за крыўду і смерць пляменніка свайго помсцячы, розныя шкоды туркам чыніць пачаў. Хадзілі чуткі, калі я яшчэ ў Трыполі перабываў, што імператар турэцкі з дарункамі і нейкімі ўмовамі да яго паслаў, каб яго нейкім чынам улагодзіць, бо баяўся, каб ён з лемірам Магаметам, царком сірыйскім вельмі магутным, не злучыўся і так бы туркам страшнейшы не быў, асабліва ж падчас вайны Персідскай. Што пасля сталася, не ведаю, бо арабаў, галодную зграю, няцяжка дарункамі ўлагодзіць.

**Чаму туркаў б'е.**

**Сам імператар яго баіцца.**

Той Абурыс трох меў дарослых сыноў, аднаго Магамета ад першай жонкі, а двух, Хавета і Сэфета, ад другой (бо толькі дзве меў, хоць у арабаў можна і болей трымаць), якія таксама на той час з войскам сваім пры ім стаялі, хоць

Арабы за туркаў мацнейшыя.

кожны часам сам сабе здабычу ловіць і рабуе; і туркі, хоць бы і войскі сабраўшы, супрацьстаяць ім не могуць, бо іх па скалах і мясцінах непраходных шукаць трэба. Арабы ж і коні іх на працу і голад надта трывалыя, і так туркам страшныя, што дзе іх толькі дзесяцёра са сваімі дзідамі доўгімі і ў кашулях (і тое да паўдня, бо пасля дзеля празмернае гарачыні, галаву і турбан разам кашуляю агарнуўшы, голыя на кані сядзяць) стануць, там трыццаць туркаў збройных і з мушкетамі падысці да іх не наважацца. Нам у Ерусаліме шмат як пра рэч пэўную апавядалі, што санджак ерусалімскі неўзабаве перад выездам на вайну Персідскую выбраўся быў прагуляцца ў мястэчка Бэтлеем. Там на восем толькі арабаў у дарозе натрапіў, якія гэтак вялікі яму клопат учынілі, што ён, хоць і меў вакол сябе пяцьдзесят коней, мусіў, аднак, у Ерусалім вярнуцца. Баяцца іх вельмі туркі, так што вакол мора Салёнага або возера Asfaltites дый увогуле ва ўсёй Святой Зямлі ўсе вёскі турэцкія, спакой адкупляючы, гадавую даніну ім плацяць, тыя ж, аднак, усё адно рабуюць. І праўда, колькі караванаў з Дамашка, Алепа і Каіра ў Мекку ні едзе (а гэта штогод у месяцы кастрычніку бывае), пашы тых трох местаў праз паслоў сваіх дарункі ім пасылаюць, каб гандляроў і паломнікаў не рабавалі, хоць кожны караван свайго санджака мае з трыма сотнямі гусараў і з трыма сотнямі янычараў з паўгакамі, якія часам і палявыя гарматы з сабою возяць. Бяруць, што праўда, арабы падарункі і выконваюць, што абяцаюць, але як ёсць іх незлічоная колькасць, дык, як надарыцца нагода, і туркаў б'юць, і тавары забіра-

Глядзі на гэты прыклад.

юць, і ў мясціны недасяжныя ўцякаюць. Хто ж іх пасля там шукаць будзе.

Як караваны з'язджаюцца.

Караваны прыгаданых местаў кожны паасобку, як полк на бітву, едзе, пакуль усе ў месце Тур каля мора Чырвонага не з'едуцца, у павеце Сінай (бо не толькі гару, але і цэлы павет там так называюць), адкуль пасля супольна ў Мекку ідуць, і там на кірмашы дзён дваццаць прабыўшы, тым самым спосабам дадому вяртаюцца. Адным толькі магаметанам тая дарога адкрытая, хрысціянаў і іудзеяў туды не прапускаюць.

Магіла Магаметава.

Калі быў я ў Каіры, пытаўся я ў туркаў, што з Меккі прыязджалі, ці праўда тое, што пра труну Магаметаву апавядаюць, што яна з жалеза зробленая, а камень магнэс, да сябе яе прыцягнуўшы, трымае, і яна гэтак нібы ў паветры вісіць; засведчылі мне, што такога там няма, але труну самую, вышэй прыўзнятую, калоны або слупы даволі тонкія на сабе трымаюць, а як там цесна і цёмна і святла ніякага, апроч лямпаў, быць не можа, дык тым, хто здалёк глядзіць, здаецца, нібы труна ў паветры вісіць, падступіўшыся, аднак, бліжэй, кожны ўбачыць, што яе калоны трымаюць.

Каля паўдня прыйшлі мы ў малы замак Танаітэра, дзе знайшлі польнага пісара турэцкага, які ў Дамашак з трыццаццю коннымі вяртаўся, запіс люду на вайну Персідскую ў Палестыне і Егіпце справіўшы. Ледзьве толькі мы з коней сселі, прыбег чаўш, сайдак пры сабе маючы, з трыма слугамі, пасланы да санджака Газанскага і да іншых у Егіпце, каб нават вызваленыя ад вайны адразу ж у Персію вярнуліся. Узяў быў у нас двух коней лепшых, кажучы, што яму як

пасланцу ад імператара можна не толькі ў нас (каго ён сабакамі называў) што спадабаецца браць, але і ў вялікага пана турэцкага, хоць бы і пехатою меў ісці. І сапраўды, па ўсёй дзяржаве турэцкай закон той шырока абвешчаны. А калі тапукер той, у якога мы коней нанялі, шэсць талераў яму даў і янычары нашыя таксама ўмяшаліся, вярнуў іх нам, а замест гэтага ўзяў у двух турэцкіх гандляроў.

Мост Якуба патрыярха.

Раніцай прыйшлі мы да моста, які самі туркі мостам Якуба патрыярха называюць. Ён досыць шырокі і моцна змураваны на Ярдане, дзе рака гэтая з правага боку два рукавы мае, адзін Ер, другі Дан завецца, і злучаюцца яны вышэй моста, крыху далей, адну раку і адну назву Ярдан творачы, які недалёка адтуль у гарах свой пачатак мае. З левага боку ля берага стаіць дамок, у якім той патрыярх жыў, сцены яшчэ цэлыя відаць, што будынак быў нізкі. Недалёка адтуль відаць возера Тыверыядскае, або Генісарэт, удоўжкі мае, як я мог меркаваць, дзесяць міляў нашых, ушыркі не ўсюды аднолькавае, ледзьве дзвюх міляў дасягае. Пушчу вялікую на гарах за тым возерам відаць, дзе Госпад Хрыстос сямю хлябамі і дзвюма рыбамі накарміў чатыры тысячы чалавек (Марк, 8). Як перайсці мост, з правага боку месца паказваюць на раўніне пад скалою пры беразе, дзе Якуб з анёлам біўся, як у Кнізе Быцця чытаем у раздз. 32. Ідучы ўлева вышэй таго возера, за два лучныя стрэлы было места Харазін, цяпер пустое, ледзьве пяцьдзесят дамкоў налічвае. Ад таго моста пачынаецца ўжо Галілея. Зямля тут спачатку камяністая, і скалаў, як і ў Сірыі, багата, але праз дзве мілі

Ярдан назва нібыта з дзвюх рэк: Яр і Дан.

Возера Генісарэт.

Галілея і яе ўраджайнасць.

такія раскошныя палі пачынаюцца, што цяжка апісаць або распавесці. Пра багацце палёў з таго меркаваць лёгка, што, хоць іх дзеля набегаў арабскіх не аруць, аднак каштоўных раслін даюць у дастатку, асабліва ж размарыну, якога густое кустоўе паўсюль зелянее. Шмат дзе тут арабы жывуць, якія дзеля выпасу сваіх авечак і вярблюдаў пры рэках асядаюць і дзеля таго ж папасу месца мяняюць, як ужо казалася раней. Дый размарын горкі авечкі вельмі любяць, які таксама статак ад хвароб нямала аберагае. Земляробствам арабы не займаюцца ніякім, з малочнае гаспадаркі толькі жывуць. А гледзячы на руіны досыць частыя местаў і мястэчак, пагаджаюся я з Язэпам, які ў кн. 3 раздз. 2 «Іудзейскае вайны», апісваючы Галілею, сцвярджае, што не толькі расліннасцю, але і местамі і вёскамі так была багатая, што нават найменшая з вёсак да пятнаццаці тысячаў земляробаў мела, асабліва ж вакол гары Табор, пад якою даліна ёсць вельмі шырокая і прыгожая, дзе, як некаторыя кажуць, Мельхіседэк Абраму пасля таго, як той, цароў перамогшы, дадому вяртаўся, заехаў і, блаславіўшы, хлеб і віно яму ахвяраваў, хоць іншыя сцвярджаюць, што гэта на гары Кальварыі адбылося, дзе Госпад быў укрыжаваны, што я багасловам выРашаць пакіну. Апоўдні прыехалі мы ў карвасэрыю, дзе ёсць калодзеж стары, куды браты былі апусцілі Язэпа (кн. Быцця, 37). Завуць яго туркі калодзеж Язэпаў, а арабы Эльбір Ёзэф, ёсць у ім цяпер вада. Ёсць тут і турэцкая машэя, перад дзвярыма якое той калодзеж, можна з яго і хрысціянам ваду браць, вада ў ім добрая і халодная. На ноч прыйшлі мы

**Гэта дзіўна.**

**Быццё, 14.**

**Калодзеж Язэпаў.**

Бэтсаіда. ў Бэтсаіду, радзіму Св. Пятра, дзе ў яго быў дом. Можна тут бачыць вялікія руіны царквы, якую вялікім коштам і дастаткам Св. Алена была змуравала, цяпер там вёска, у ёй пятнаццаць дамоў, туркі ў іх жывуць, а стаіць яна якраз на самым беразе возера Тыверыядскага, якое Евангелле морам Галілейскім называе. Вада ў ім прэсная, мы пілі яе і мыліся ў ёй. Ёсць там і рыба вельмі добрая, амаль як ляшчы нашыя, толькі што меншыя.

Гара Табор. Раніцаю былі мы пад гарой Табор, якую Язэп у «Старажытнасцях» (кн. 5, раздз. 1 і ў кн. 4 раздз. 2 «Іудзейскае вайны») Ітубірый, або Ітабірык, называе. Гара гэтая надта высокая, надзвычай прыгожа акругленая, так што здаецца, быццам рукой чалавечаю насыпаная і ўфармаваная была, а не прыродаю створаная. Бо на нізе вакол шэрая скала вянком, за ёй таксама вянком вакол гары розных зялёных дрэваў дастатак, так што знізу дагары гледзячы, усярэдзіне нібы вянок наўмысна некім здаецца звіты. На самым яе версе царква ёсць не надта вялікая, паміж дзвюма капліцамі Св. Аленай змураваная, дзе Госпад наш перамяніўся. Пакінуўшы гару Табор, бачылі мы здалёк з правага

Места Сэфэр. боку места Сэфэр (Тоб., 1) на гары вельмі высокай, дзе царыца Эстэр нарадзілася. Жывуць там гэбраі, і кажуць, што іх там незлічонае мноства. Крыху далей прайшоўшы, бачны таксама на гары развалены замак Махеронт, які грэкі называюць Сэ-

Дзе Св. Ян сцяты. бастэ, дзе Св. Ян Хрысціцель быў сцяты, было і места тут вялікае пад гарою, але цяпер зусім спустошанае. Паказваюць за тым замкам

невялікую брамку, праз якую Св. Яна вялі на смерць. Адтуль прыйшлі мы на начлег у вялікі замак Зынін, што меў свайго санджака, які на той час на вайну выпраўляўся. Пад тым замкам ёсць места, дзе гэбраі жывуць. Хоць туркам зара іхняя віно піць забараняе, але яны датуль законы свае захоўваюць, пакуль ім якая нагода таго напою не падасць, што і мы ў замку тым пабачылі, калі да нас адзін санджакоў не апошні таварыш і прыяцель, а янычара нашага добры знаёмы, прыйшоў. Спыніліся мы спачатку ў стайні смуроднай і таму пра іншы прытулак стараліся, дык і дапамог нам знайсці яго той знаёмы янычара нашага. А як аплату за працу сваю мушкатэлю (якой дзеля янычароў нашых я заўсёды меў пры сабе барылку дый другую нагатове) заўзята піў, рукі складаў, вочы да неба ўздымаў і ніколі (як мне здаецца) пабожней не маліўся.

Тады папярэдзілі нас янычары, бачачы, што надта быў п'яны, каб яго са стайні не выпускалі, бо іначай п'янства ягонае выявіцца магло. Бо як там такога пітва не прадаюць, лёгка можна было выкрыць месца, дзе ён быў упіўся, і тады б і грашмі і зняволеннем за тое мы заплаціць мусілі. І так, хоць мы і ў іншы дом перайсці маглі або ў задні пакой вышэй (бо ў тым краі ніякага даху або страхі ў будынкаў няма), дзе толькі гасцей размяшчаюць, мусілі мы чатыры гадзіны чакаць, пакуль ён не працверазее, і нават адзеннем нашым накрылі яго былі, каб туркі, што міма праязджалі, п'яным яго не ўбачылі. Ачомаўся пасля і агонь той мушкатэльны вадою тушыў, ды галава яму цяжкая была.

Самарыя.

Раніцаю, на світанні, каля Сіхара спаткалі мы санджака пры самай мяжы Самарыі, ехаў ён з трымастамі коннымі ў Персію на вайну. Сядзеў на кані гнедым ці нават вараным, у чырвоным адамашку, на турбане меў стравусава пяро шэрае і чытаў кнігі. Вёў таксама сто конных мамелюкаў, людзей мужных і бітных. Мы, за звычаем паломнікаў, сселі з коней і, нізка галовы схіліўшы, прывіталі яго. Казалі самі туркі, што пашанцавала нам, як ён нас у Сіхары не спаткаў, бо ён да паломнікаў вельмі суровы і нядаўна некалькіх доўга ў вязніцы трымаў, пакуль іх гандляры апамейскія і трыпольскія за трыста цэкінаў не выкупілі. І ледзьве мы яго прамінулі, адразу паслаў за намі, каб мы яму мыта заплацілі. І так кожны мусіў даць два цэкіны, прычым нашы янычары ўратавалі нас, каб мы болей не аддалі. Тое мыта на полі бралі ў нас двое самарытанаў, якія ў чырвоных турбанах ходзяць і, хоць абразаюцца, веру ад гэбраяў адрозную маюць.

Дабрачыннасць турэцкая.

Сіхар.

Сіхар адно з важнейшых местаў у Самарыі, пра якое ў Св. Яна ў раздз. 4 гаворыцца, ляжыць паміж гарамі Гарызім і Гэбал, туркі завуць яго Неапалем. Пад гарою места шырока разлеглае, людное, розных пладоў у дастатку мае, ніводнага гэбрая там не жыве і нават не спыняюцца, праязджаючы, так яны між сабою не ладзяць.

Раніцаю, прайшоўшы паўмілі, ад дарогі ўлева, за адзін лучны стрэл, бачылі мы калодзеж, пры якім Госпад наш з самарытанкаю гаварыў. Закіданы, праўда, цяпер каменнем, але ж добра вядома, дый самі туркі да яго пачцівасць маюць,

Калодзеж самарытанкі.

што вялікі Прарок (як яны Госпада Хрыста называюць) браў з яго ваду. Хрысціяне там, паводле звычаю ўкленчыўшы, адгаворваюць пацеры і зямлю цалуюць. Ад таго калодзежа ехалі мы адным полем нізкім, вельмі прыгожым і плодным, якое некалі Якуб Язэпу дадаў да спадчыны (Быццё, раздз. 48). З правага боку ёсць вёска досыць людная, якая і цяпер Язэпавай вёскаю называецца. Прайшоўшы за ёю яшчэ тры мілі, апоўдні ўвайшлі мы ў карвасэрыю, дзе ўжо зямля Іудзейская пачынаецца.

Гэбрайская зямля.

Хоць у абяцаннях Боскіх ніякіх сумненняў няма і быць не можа, аднак у гэтым куточку света, які гэбраям як дастатны і плодны быў абяцаны, кожны можа тое пабачыць. Галілея збожжам і ўсялякімі вырабамі багатая, мае палі прыгожыя, хоць і гарамі падзеленыя. Самарыя не надта высокія мае скалы, і садоў даволі, а таксама круглыя і роўныя, вельмі плодныя даліны. Вінніцы таксама тут ёсць густыя і вельмі добрыя, то ж вельмі плодны край гэты і з тае прычыны вельмі людны. Але Іудзейская зямля хоць не гэтак хлебная, бо камяністая, і скалаў надзіва вялікіх багата мае, аднак жа алеем, садавінаю і асабліва віна надзвычайным дастаткам недахват той дапоўніць можа. Бо ад межаў яе пачынаючы і да самага Ерусаліма (што 7 міляў складае), муры, якімі вінніцы агароджаныя, да нейкіх приступак падобныя, што ад падэшвы гары аж да самага верху ідуць, таму ж гэтымі гадамі тут і густыя вінніцы, і віна ў дастатку. Каля Ерыхона таксама багата чаго расце, і пладоў (асабліва дактыляў і да іх падобных, таксама лякарскіх рэчаў, якім цёплы край спрыяе),

Гэта дзіўна.

і віна тут вялікае мноства, то ж і нездарма сам Госпад Бог кажа, што зямля тая мёдам і малаком цячэ. Прайшоўшы па зямлі той тры мілі, пабачылі мы крыніцу, пры якой Найсвяцейшая Дзева (з Ерусаліма вяртаючыся) села адпачыць і ўгледзела, што дзіцятка Ісуса разам з імі не было (Лука, 2). На гары відаць руіны царквы і кляштара Божае Маці, якія была Св. Алена змуравала.

Крыніца Божай Маці.

Адтуль прайшлі мы дзве мілі і па дваццаць першай гадзіне ўбачылі здалёк места Святое Ерусалім і Госпаду Богу, за тое, што даў нам яго пабачыць, падзякавалі. Кожны з нас адгаварыў «Ойча наш» і «Вітай, Марыя» дзеля атрымання поўнага адпушчэння грахоў, на якое Апостальская сталіца тым, хто першы раз тое места Святое бачыць, дазваляе. За нейкую мілю ад места, недалёка гасцінца, стаіць замак Саўлаў Габаа, пра які ў Пісанні (1 Царстваў, 10) гаворыцца, ужо зусім развалены і пусты, аднак толькі вежа, амаль цэлая, засталася. Паўмілі прайшоўшы, спаткалі мы арабаў-разбойнікаў, было іх дваццаць пяць конных, і адзін з нашых янычараў, таксама конны, паехаў да іх і гаварыў з імі, а пасля, калі яны раз'ехаліся, тыя праз тлумача сказалі нам, каб мы таму янычару дзякавалі, бо на яго просьбу нам было падаравана жыццё. Казаў тое і сам янычар, бо іх ведаў добра, немалы час разам з імі разбоем прабаўляючыся, і распавядаў пра страшную іх жорсткасць. У тую хвіліну бачылі мы ў балука нашага пэўныя і несумленныя знакі трывогі і боязі, твар меў белы і дрыжаў, так што нават гаварыць не мог. Бо ж арабы, як ужо пісалася, да туркаў

Саўлаў замак.

літасці не маюць і лягчэй Хрысціянаў, чым іх, вольна адпускаюць.

Ерусалім. Якім звычаем чужыя ў яго заходзяць.

За паўтары гадзіны да заходу сонца прыйшлі мы ў Ерусалім і паводле звычаю спыніліся пры браме Рыбнай. Тым часам некаторыя нашы янычары, брамаю Дамашскай увайшоўшы, паведамілі пра наш прыход, а мы таксама пешага янычара паслалі, каб сказаў пра нас, і, даведаўшыся аб тым, айцы бернардыны прыйшлі да нас. Айцец Крыштоф з Трыдэнта родам, вікары (бо айцец гвардыян Анджэло Стэлла ў Канстантынопаль дзеля спраў царкоўных быў паехаў і, вяртаючыся дадому, памёр у Армянскай зямлі), і айцец Ян Фларэнтыец, якія, прывітаўшыся з намі, пачакалі, пакуль не прыйдуць туркі агледзець нашыя пакункі і спраўдзіць, ці мы з сабой якіх тавараў або закупаў не вязём. Забраўшы ў нас зброю (якую толькі ў дарозе насіць можна), тыя самыя туркі нас да кляштара Святога Збаўцы, аж да самай ягб брамы, правялі. Увайшоўшы ў царкву і разам з законнікамі ўкленчыўшы, заспявалі мы «Te Deum Laudamus», дзякуючы Госпаду Богу за такое вялікае дабрадзейства, што ён нас здарова і шчасліва давёў да тых мясцін Святых, дзе яго Найсвяцейшыя ногі ступалі, калі ён збавенне нашае споўніў. Пасля кожнаму паломніку стайню звычайную прызначылі і вячэру прынеслі.

Заезд у кляштары.

Раніцаю выслухалі мы Святую імшу, а па абедзе паводле звычаю пайшлі мы ў дом кады, дзе пісар запісаў імёны нашыя і бацькоў нашых. Справіўшы тое, вышэйпамянёныя законнікі з кожнага між нас адлічылі па адзінаццаць цэкінаў (што складае дваццаць два злотыя), на

кожнага два цэкіны за ўваход у места, а дзевяць за вольны пропуск да Св. Гроба. Дукаты залатыя ўзважылі, а простую манету, калі хто залатых не меў (саін яе называюць), узялі без вагі, бо знаёмая ім. Кухара майго палічылі за законніка і толькі пяць цэкінаў у яго ўзялі, бо законнікі плаціць не мусяць, хіба толькі ляікі, якія, аднак, пяць цэкінаў мусяць адлічыць, вось жа і гэтаму майму, бачачы яго ў шатах, казалі прысягнуць, што ён законнік, але ён, не могучы таго зрабіць, узняў руку да неба і сказаў, што не законнік ён, што, аднак, туркі зразумелі як станоўчы адказ і прысягу і таму болей яго не чапалі, а так ён, іх ашукаўшы, пяць цэкінаў, што мусіў ім даць, сабе пакінуў. Меў я з сабою двух тлумачоў, аднаго Якуба старога, якога я быў узяў у мясцінах Сольных на Кіпры, паклікаўшы яго ў Фамаўгусце, а другога маладога Гіердзі, сірыйца з Трыполя, абодвух іх паводле звычаю прапусцілі без даніны. Вяртаючыся з дома кады, ідучы недалёка ад царквы, перад брамаю, мы аддалі хвалу Госпаду Богу, а пасля, узяўшы ў кляштары начныя патрэбы, пайшлі на нешпар. Пры самых дзвярах святыні зноў тым, што нам адчынялі, мусілі мы даць некалькі майдынаў, кожны з іх нашаму грошу роўны. Увайшоўшы ў царкву, скіраваліся мы ў капліцу Гроба Гасподняга і, справіўшы ў хуткім часе набажэнства, увайшлі ў капліцу З'яўлення (бо ў тым месцы Госпад Хрыстос пасля ўваскрасення Маці сваёй найперш з'явіўся). Тут законнікі (было шэсць святароў і іншых восем) нешпар спраўлялі, а пасля шэсце было з харугвамі, за якім мы, паломнікі, парамі ішлі, свечкі ў руках тры-

**Першае наведанне Гроба Гасподняга. Капліца З'яўлення.**

маючы. Першая стацыя каля малога алтара, з правага боку ад дзвярэй, дзе выява слупа (з каменя чырвонага парфіру, кавалачак яго я прывёз у Нясвіжскі касцёл), пры якім Госпада Нашага бічавалі. Гімн першы ўласны гэтае мясціны спявалі з антыфонаю і малітваю. Пасля было казанне, у якім казнадзей дабрадзействы на гэтым месцы праяўленыя пералічаў і да ўдзячнасці за іх пільна і горача заклікаў. Гэткі самы парадак і пры іншых стацыях захоўваўся, і айцец Ян Фларэнтыец, прамоўца і чалавек вучоны, на той час тыя напаміны чыніў. А як кожны народ у той царкве свае капліцы або малельні мáе, пра што ніжэй будзе, тая капліца З'яўлення католікам належыць і мае поўную прошчу, як і алтар у ёй, дзе там той слуп памянёны стаіць. Адтуль пайшло шэсце да капліцы Увязнення, дзе білі Госпада і дзе ён сядзеў, пакуль яму крыж не зрыхтавалі. Памяшканне гэтае малое, цеснае, цёмнае, святла ніадкуль няма, у скале высечанае. Відаць, была тут або вязніца для злачынцаў, бо іх у гэтым месцы Кальвары смерцю каралі, або таксама жытло садоўніка ці вартаўніка саду, які меў недалёка стуль Язэп з Арыматэі, пра што згадвае Евангелле. Тая малельня, або капліччка людзям народу грэцкага дадзеная, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Пасля яе ідзе алтар Св. Лонгіна, які Госпаду Ісусу бок дзідаю прабіў, але стацыі каля яго няма, бо ніводнаму народу ён не прызначаны. Пасля мы пайшлі да алтара, на месцы якога жаўнеры за адзенне Гасподнае жэрабя кідалі, і была там стацыя, што належыць армянам, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Ад-

**Кожны народ у той царкве мае капліцу.**

**Св. Лонгін.**

туль шэсце пайшло да капліцы на тым месцы, дзе Святая Алена знайшла Святы Крыж. Вяло туды болей за трыццаць прыступак, і ў палове дарогі з левага боку ёсць там малельня або каплічка Св. Алены. У капліцы Знайдзення Крыжа Святога ёсць вялікі каталіцкі алтар, што поўную прошчу мае, а справа ад яго меншы, які грэкам належыць. Вяртаючыся з правага боку, зайшлі мы ў малельню Св. Алены, якую царква Ерусалімская ў вялікай пашане мае і сюды да яе капліцы шэсці справуе, тут таксама поўныя прошчы ёсць. І запраўды, хто толькі быў у Святой Зямлі, прызнае за гэтаю імператрыцай вялікую святасць і ўсялякую патрэбную пачцівасць ёй аддае, бо ў адной толькі Палесціне яна амаль трыста цэркваў змуравала, частка якіх цяпер развалілася, і сцены іх, з такім дастаткам мураваныя, часткова ацалелі, шчодрасць і раскошу збудавання выяўляюць. Тая ж Святая Алена, Святы Крыж знайшоўшы і вяртаючыся назад, калі ад аднаго места да другога нічога не было відаць, на мясцінах высокіх і на выступах скальных, што ў мора заходзяць, вежы стаўляла высокія, на якіх агні, радасці і весялосці знакі, паліць казала, і вежаў тых па Сірыі Фініцкай вельмі шмат засталося. Гэтак вялікую радасць мела тая найдзівоснейшая Святая, знайшоўшы дрэва Крыжа Святога, на якім Госпад збаўленне нашае і адкупленне справіў. Малельня яе належыць армянам. Калі мы ўвайшлі ў царкву, спынілася шэсце каля алтара, пад якім ёсць слуп Глуму і Здзеку (з шэрага мармуру, тоўсты і нізкі), на які Госпада Нашага пасадзілі перад Пілатавым пакоем судовым і там укаранавалі і

*Дзіўнае набажэнства.*

*Слуп Глуму і Здзеку.*

здзекаваліся вельмі. Перанесла яго сюды Св. Алена, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Трымаюць тую капліцу абісінцы або мурыны, якія Яна Прэсвітэра або цара Папіяна маюць і якім тут дзеля надзвычайнае ўбогасці іх і патрэбаў міласціну даюць. Ходзяць у зрэб'і, дзіўна мучаць сваё цела, моляцца заўсёды ўкленчыўшы і гэтак Святое Пісанне (дзеля большай пачцівасці) чытаюць. Мяса ніколі не ядуць, рыбу рэдка, бо яе тут няма, а калі трапляецца, тады яе ў нядзелю, у аўторак і ў чацвер, дый тое калі няма посту, ужываюць. За сваім прыродным звычаем без шапак ходзяць, валасы даўгія, што аж на плечы ім кладуцца, носяць. Паставы высокай і кволай, галовы нібы хлопцы малыя маюць, твар дабрыню і шчырасць выяўляе.

Адтуль падняўшыся па дзесятку прыступак на самы верх Кальварыі, мінаем месца, дзе быў пастаўлены Крыж Гасподні, але спачатку ідзём туды, дзе Госпада ўкрыжавалі. На месцы тым два алтары (з поўнаю прошчай), большы і злева меншы, абодва католікам належаць, а паміж імі пліта мармуровая розных колераў, якая месца ўкрыжавання паказвае. За некалькі крокаў адтуль Збаўцу на крыжы паднялі, крыж у скалу ўставілі, месца тое выдаецца над зямлёю на паўтара локця, дзіра ў скале на локаць углыбкі праároблена, шырынёю паўтары пядзі, краі тае дзіры масянджоваю бляхай абкладзеныя, на якой выбіты нейкі надпіс грэцкі, дзеля даўнасці цяжка яго прачытаць. Абапал дзіры, дзе стаяў крыж Гасподні, ёсць дзве іншыя, у якіх крыжы злачынцаў стаялі, падобна, што меншыя былі, бо

**Дзе Госпад укрыжаваны.**

**Падняты. Апісваецца месца.**

Злачынцы.

і не такія глыбокія, цяпер у іх простыя дрэўцы ўстаўленыя. Укрыжаваныя былі злачынцы і віселі на крыжах сваіх ад Госпада за чатыры локці, цяпер жа месца левага злачынцы за пяць локцяў, бо праз землятрус і падзенне скалаў (як Евангелле сведчыць) на локаць далей адсунулася. Глыбіню расколіны ў той скале не можа чалавек уведаць, шырыню мае тры чвэрці локця. Геаргіяне, што пры моры Эўксінскім жывуць, тое месца Святое даглядаюць і набажэнства саё тут спраўляюць, якое поўную прошчу мае. Пра іх жа саміх некаторыя кажуць, што яны пяцігорцы, я ж тое, з гісторыкамі не параіўшыся, сцвярджаць не хачу.

На сцяне вісіць нейкае палатнянае абіццё старасвецкае работы, выгафтаванае на ім распяцце. А за крыжамі стаіць сцяна царкоўная, ззаду яе каплічка абісінцаў (мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў), дзе, як кажуць, Абрам сына Ісака меўся ахвяраваць: там, дзе Ісак укленчыў, мармур каляровы на паўтары локці ўшыркі і ўдоўжкі пакладзены, не залічаюць таго месца да святыняў. Жывуць тут абісінцы звычайна па тры гады, а пасля замест іх іншых прысылаюць, што ў тыя часы бывае, калі яны з туркамі мір маюць (хоць і рэдка гэта надараецца). Не заходзіць у тую капліцу шэсце, дык і мы адно на трэці дзень яе наведалі.

Дзе Ісак ахвяраваны.

Ідучы з гары Кальварыі, падыходзім да каменя Памазання (ляжыць ён якраз насупраць брамы вялікай царкоўнай пры самым уваходзе), на якім, як кажуць, Язэп з Арыматэі Госпада, з крыжа зняўшы, масцямі пахучымі памазаў. Даўжынёю чатыры локці, шырынёю паўтара,

католікі тут набажэнства спраўляюць, прошча поўная.

Гроба Гасподняга апісанне.

А адтуль ужо да каплічкі Святога Гроба падыходзім, вакол якой шэсце тройчы абыходзіць, перад дзвярыма ўсе апускаюцца на калені, святар законнік адзін (бо цесна там) уваходзіць, кажа казанне, і за ім паломнікі, таксама па адным, праз дзверцы вельмі нізкія па чарзе заходзяць, там унутры з правага боку ёсць месца вышынёю на паўтара локця, плоскае, як лава, дзе Найсвяцейшае цела Гасподняе пакладзенае было. Належыць католікам, мае поўную прошчу. Перад тым гробам Гасподнім ёсць круглая каплічка, у ёй камень нізкі, на якім Анёл сядзеў, што жанчынам абвясціў пра Уваскрасенне. За Гробам Святым таксама каплічка малая коптаў або халдэяў. І тады, малітву каля Гроба Святога адчытаўшы і Святое месца пацалаваўшы, канчаецца шэсце і ідзе да капліцы З'яўлення. Па дарозе відны два круглыя камяні на паўтара локця, адзін ад аднаго за шэсць локцяў; на бліжэйшым да гроба стаяў Госпад, а на другім Марыя Магдаліна, калі гаварыла з ім, думаючы, што гэта садоўнік. Недалёка стаіць алтар Пасвячэння, які католікам належыць, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. І скончыўшыся тут, шэсце вяртаецца ў капліцу З'яўлення, дзе законнікі водпуст спяваюць, а паломнікі споведзь чыняць, рыхтуючыся да Найсвяцейшага таемства на наступны дзень.

Месца Анёльскае.

Тую ж ноч, што наступіць, паломнікі (кожны, як катораму Госпад Бог дасць) на набажэнстве трываюць; каго б, аднак, сон змарыў, той можа крыху каля Гроба Гасподняга або на гары

За памёрлых ахвяра Святая ў Ерусаліме.

Кальварыі або дзе ў іншым месцы адпачыць; бо перад поўначчу кожны народ абрадам сваім у сваіх малельнях звычайную службу спраўляе, каталікі ў капліцы З'яўлення ютрань спяваюць, адправіўшы якую, святары Найсвяцейшыя імшы чытаюць. На ранняй імшы часта каля Гроба Господняга паломнікі бываюць, што таксама і мы ўчынілі, пасля кожны ідзе, куды яму болей падабаецца, на набажэнства. А як тут у гэтых мясцінах Святых адпраўляюцца таксама імшы за памёрлых родных і сваякоў, дык некаторыя просяць святароў, каб тыя іх на гары Кальварыі або дзе ў іншым месцы пры іх чыталі. Калі час вялікай імшы надыходзіць (айцец вікары служыў яе пры нас), святары, як на ўрачыстае Свята, шаты царкоўныя найлепшыя на сябе ўздзеўшы, да Гроба Господняга ідуць. Той, які мае спраўляць імшу, сам да алтара падыходзіць, іншыя ж святары перад капліцаю ў царкве спяваюць. Бо тая каплічка перад Святым Гробам вельмі маленькая, і толькі ў ёй паломнікі на калені стаюць, праз дзверцы нізкія там на Святы Гроб глядзяць, пры імшы набажэнства сваё спраўляюць, тамсама і прычашчаюцца, што і мы зрабіць не абмінулі. Святар якраз на тым месцы, дзе цела Збаўцы ляжала (падобнае яно да лавы, у скале выбітай), Найсвяцейшую ахвяру спраўляе, даволі зручна стоячы; бо ад зямлі тая лава далей чым за два локці, а шырыня яе там, дзе само Цела ляжала, большая за локаць.

Пры сцяне ёсць абраз вельмі стары Уваскрасення Гасподняга паміж двума Анёламі, што стаяць на каленях. Пасля імшы законнікі гадзіны ў капліцы З'яўлення скончылі, а мы сваё

набажэнства. Чакаючы, пакуль туркі адчыняць царкву, аглядалі мы іншыя мясціны, як, напрыклад, сямейную магільню Язэпа з Арыматэі, месца, якое належыць сірыянам або якубітам. Ляжаць тыя магілы за Гробам Гасподнім пад вышэйшаю галерэяй царквы. Бачылі мы таксама магілы Бальдвіна, караля, і Годфрыда Булонія, брата ягонага, якія зямлю гэтую Святую з рук паганскіх вырвалі і места само Ерусалім на трыццаты дзень аблогі, у годзе Гасподнім 1098 (або, як іншыя сцвярджаюць, у годзе 1099, 15 ліпеня), здабылі. Ёсць іншых пяць або шэсць магіл аднолькавым кшталтам змураваных, чытаць надпісы на іх дзеля даўнасці цяжка, відаць, што людзі народу грэцкага. Толькі адно надмагілле здолелі мы прачытаць, напісаў яго хрысціянін Адрыхом у кнігах сваіх, і я таксама з магілы выпісаў.

**Магіла Язэпа з Арыматэі.**

**Магілы каралеўскія.**

**Надмагіллі іхныя.**

Кароль Бальдвін,
другі то быў Юда Макавей.
Надзея Айчыны, трываласць Царквы,
Моц і Сіла іх.
Баяліся яго і давалі яму даніну
Іудзейская зямля, Егіпецкая,
род Дана і Дамашак.
Авох, у магіле гэтай ліхой
ляжыць пахаваны.

На другім надмагіллі не ўсе словы ацалелі.

Тут ляжыць слаўны Князь Годфрыд з
Булона, які ўсёй гэтай зямлі здабыў...
таму... ты... хрысціяніну... душа ягоная
няхай пануе з Хрыстом.
Амін.

Пра іншыя магілы піша П. Стэфан Рагузін, што яны належаць каралеўскім жонкам і іх нашчадкам, Адрыхом жа цвердзіць, што шасці каралям, якія ў той зямлі Святой панавалі, што больш падобна да праўды. То ж бо з якое прыгоды па так далёкіх і небяспечных дарогах каралі тыя з жонкамі сваімі і дзецьмі цягацца мелі. І хоць я пільна прыглядаўся да надпісу, але ж болей нічога вычытаць не мог. Бо літары там старыя і ўжо сцёртыя, пліты магільныя таксама зламаныя і пашкоджаныя. Апоўдні прыйшлі туркі і адчынілі царкву, дзеля чаго, як мы былі ўвайшлі, гэтак разам з законнікамі і некаторымі іншымі выйшлі; а тыя былі хрысціяне розных народаў, што ў Ерусаліме жывуць, і кожны раз, як прыходзяць паломнікі, разам з імі нейкім чынам вольны ўваход сабе забяспечваюць. Іншым жа часам не ходзяць, хіба толькі на вялікія Святы, калі ім адчыняюць царкву. Пры паломніках яны нічога плаціць не мусяць і таму вельмі ім дзякуюць, як і нам дзякавалі. Пускаюць туды таксама і рамеснікаў або гандляроў ерусалімскіх, якія патрэбныя для набажэнства рэчы прадаюць, як алівы з зямлі, з якой, як кажуць, Адам быў створаны (прывозяць іх з Дамашка), пацеркі з камянёў розных, крыжы з рэліквіямі месцаў Святой зямлі, меры Гроба Гасподняга і іншае гэткае. Тады выйшлі мы ўсе, ніхто там не застаўся, за чым туркі пільна прасачылі, усіх пералічыўшы. Была там таксама на той час жанчына полька, нейкая Дарота Секярэцкая, якая ў Ерусаліме ўжо некалькі гадоў жыла, самой жа ёй было нібыта пяцьдзесят. Лічылі некаторыя, што была яна недалёкага розуму, пра

што аднаму толькі Госпаду Богу было вядома. Бо адкрылася ў ёй вялікая і дзіўная пабожнасць, ніводнае нагоды ўвайсці ў царкву тую Гасподнюю не абмінала. А як была каталічка, з тае прычыны ў Ерусаліме прытулку мець не магла, бо ў кляштары ёй быць не гадзілася, кулды яна толькі на споведзь хадзіла; і таму, калі яна па месце бадзялася, туркі часта яе дражнілі, а аднойчы так збілі, што дзіўна, як яна жывая засталася. Бо ў кволым целе рэбры амаль усе біццём паламаныя былі; калі ж мы трэці раз да Гроба Гасподняга прыходзілі, ледзь яе ад свавольных хлопцаў турэцкіх абараніць здолелі. І з тых прычын дзеля звадаў, што тут вакол яе вялікія чыніліся, Рыгор XIII пад клятвай забараніў, каб ніводная жанчына ў Ерусалім паломнічаць болей не важылася.

Хадзіў я да кады, просячы, што без яго дазволу не магло стацца, бо яна сама не хацела, каб гвалтам яе адтуль узялі і вывезлі прэч. Сказаў я яму, што яна полька, як і я, а як у яе розум псуецца, дык ён лёгка тое дазволіў. Пакінуўшы тады грошай столькі, колькі на праезд да Трыполя было трэба, я сам раней з места Святога вырушыў.

Выйшаўшы з царквы, вярнуліся мы ў наш кляштар, дзе нас законнікі ў рэфекторый свой, засапраўднай велікадушнасцю, на абед свой запрасілі і частавалі, бо мы перад тым у паломніцкім заездзе звычайна харчаваліся. Пасля павялі нас агледзець іншыя Святыя мясціны. А найперш бачылі мы царкву армянскую вялікую, там змураваную, дзе Ірад загадаў быў сцяць Св. Якуба старэйшага (Дзеі, 12). Ад увахода

**Месца, дзе Св. Якуб сцяты.**

ў царкву з левага боку, нібы ў палове сцяны, ёсць алтар на тым месцы, дзе той блаславёны Апостал Гасподні быў сцяты, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Бачылі мы і дом Анны біскупа, куды найперш Госпад Наш быў прыведзены, цяпер там стаіць малая царква тых самых армянаў, мае сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Пасля выйшлі мы праз браму, якая і да гэтых часоў завецца брамаю Давідавай, або брамаю Сіёнскай, бо перад ёю пачынаецца гара Сіён, якая цяпер за мястовым мурам застаецца. Недалёка быў дом Каяфаў, цяпер там царква армянская, даволі вялікая, а ў ёй з правага боку ад вялікага алтара ёсць вязніца, у якім Госпад перабыў ноч і там вялікі здзек ад гэбраяў цярпеў, пра што ў Евангеллі. Цёмнае гэта месца, удоўжкі мае каля васьмі локцяў, ушыркі вузейшае. На вялікім алтары ляжыць камень вялікі, якім быў Гроб Гасподні завалены, вялікі надта, амаль на чатыры локці ўдоўжкі, ушыркі ж каля двух, таўшчынёю больш за паўлокцця, то ж слушна тыя жанчыны Святыя казалі: хто нам камень адваліць. Бо яго дзесяць мужыкоў ледзьве падняло б. У тым самым месцы перад Каяфам праклятый слуга па Найсвяцейшым твары Госпада пашчоку даў. І тут ёсць поўная прошча. Перад царквою пасярэдзіне пляцу расце дрэва аліўнае, дзе, як кажуць, Святы Пётра пры агні выракся Госпада, а побач дрэва апельсінавае, на якім певень закрычаў. Адтуль, за кідок каменя, ёсць Святая Вячэрня, дзе Госпад Хрыстос апошнюю вячэру справіў з Апосталамі. Не пускаюць туды хрысціянаў і іудзеяў, бо туркі там сваю машэю маюць, а таму

Двор Анны.

Камень ад Гроба Гасподняга.

Дзе грэўся Св. Пётра і певень закрычаў. Вячэрня.

паломнікі, толькі да месца таго павярнуўшыся і ўкленчыўшы, «Ойча наш» і «Вітай, Марыя» кажуць, поўную прошчу бяруць, нібы якраз там і былі ў самой Вячэрні. Я, аднак, з двума іншымі пасля там быў, пра што ніжэй будзе; на той жа час, хоць і вагаўся, разам з іншымі ўсімі набажэнства справіў. Тыя тры мясціны, як сказана, армянам належаць, дзе яны і жывуць, і кляштары свае маюць. Адтуль крыху налева за гару прайшоўшы, увайшлі мы ў малую пячору, дзе Св. Пётра грэх свой горка аплакаў. Ніводнаму народу тое месца не належыць, сем гадоў прошчы мае і гэтулькі ж квадрагенаў.

З правага боку дома Каяфавага ёсць могільнік, здаўна каталікам на пахаванні аддадзены. Бо ў месце нікога не хаваюць, дый самі туркі за местам могільнікі свае маюць, хіба толькі заможнейшыя дзеля таго сабе машэю ў месце будуюць. Вярнуліся пасля праз тую самую браму ў места, а ідучы ўлева іншаю вуліцаю да кляштара, прамінулі мы браму Жалезную, праз якую Анёл Святога Пятра з вязення вывеў (дзеі, 12). Дзвярэй тут няма ніякіх і месца амаль пустое.

Пахаванні турэцкія.

Жалезная брама.

Раніцаю з кляштара выйшаўшы, праз места ідучы недалёка брамы на левым баку, зайшлі мы ў дом Якімаў, дзе на доле ёсць колькі покояў, а сярод іх паказваюць адзін Найсвяцейшае Дзевы і месца яе нараджэння, хоць некаторыя кажуць, што яна ў Ерусаліме нарадзілася. Сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў.

Дом Св. Якіма.

На гары ёсць царква Святой Ганны і кляштар жаночы, Святой Аленаю змураваны, цяпер ужо жытло турэцкае і бажніца іхняя, куды могуць і хрысціяне заходзіць, бо туркі рэдка там

Брама Св. Сцяпана.

набажэнства сваё спраўляюць. Пасля выйшлі мы з места праз браму Святога Сцяпана, так названую, бо таго блаславёнага Пакутніка тудою на смерць вялі. Пасярод гары на роўнай скале там ёсць нібы невялічкая хатка, дзе яго каменнем пабілі, здаўна там была малельня, цяпер ад яе і знаку не засталося.

Дзе яго каменнем пабілі.

Крыху ніжэй да Саду, дзе Госпада схапілі, паказваюць месца, дзе Найсвяцейшая Дзева стаяла, молячыся за Святога Сцяпана, калі яго білі каменнем. Мае тое месца сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў.

Спусціліся мы пасля ў даліну Ясафатаву, дзе проста ў зямлі скала выкапаная і мурам абнесеная. Мае сорак прыступак, па якіх спуск на дол да маленькае каплічкі, дзе была пахаваная Найсвяцейная Дзева Марыя. Ёсць там алтар, каля якога пры нас служыў Святую імшу айцец Ян Фларэнтыец, мясціна гэтая католікам належыць, мае поўную прошчу. Вісіць там дванаццаць свяцільняў, якія ніколі не запаляюць, хіба што пры Святой ахвяры. З бакоў ёсць капліцы, два алтары, а ў сярэдзіне сходаў, паабапал таксама ёсць капліцы, у якіх перад тым былі пахаванні сям'і Якімавай; цяпер тыя мясціны розным народам належаць. Ідучы адтуль, справа ёсць капліца Святога Язэпа, улюбёнца Найсвяцейшае Маці Божае, а насупраць злева — яе бацькоў, Святых Якіма і Ганны. У абодвух месцах сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Ідучы адтуль да гары Аліўнае, мінаем з правага боку ў мясціне вельмі нізкай вёску Гефсіманія, ад якой цяпер і руінаў не засталося. Ёсць толькі раўніна, а на ёй колькі дубоў, што некалі, ві-

Магіла Божай Маці.

даць, жыхарам вёскі належалі. Адразу ж направа ёсць тут таксама і сад, у якім Госпада Нашага схапілі, і проста адтуль прыходзім да каменя, каменем Апостальскім званага, дзе зняможаных сном Госпад чуйнаваць заклікаў. За кідок каменя адтуль месца Малітвы Госпада Хрыста. Тут пячора падземная, уваход мае вузкі, дзіра зверху замест вакна, праз якую камяні, высечаныя ўнутры, лёгка было выцягваць. Спакойнае гэта месца, бо няма да яго ніякае сцежкі. Адразу ля ўвахода ёсць алтар, дзе Госпад, на малітве ўпаўшы, ляжаў, за чатыры локці ад яго слуп, у скале высечаны, столь пячоры падпірае; на ім Анёл Святы, з'явіўшыся, Госпада суцяшаў. Пячора тая светлая і чыстая, не аддадзеная нікому, поўную прошчу мае. Вярнуўшыся на адлегласць кідку каменя, калі звярнуць да Саду, праз чатыры прыступкі, нібы ў нейкую вулку, трапляеш на тое месца, дзе Юда Госпада пацалаваў, даўшы знак гэбраям, каб яго схапілі, пра што кажа Евангелле. Тое месца таксама нікому не аддадзенае, шмат там дрэваў аліўных, прошча поўная. Адтуль улева ідучы, можна пабачыць магілу Авесаломаву (2 Царстваў, 18), з каменя жывога ў выглядзе піраміды (а не простага слупа, як апісвае Адрыхом), вышынёю на дзесяць локцяў. Другая ж там магіла — Захарыі, сына Варахіявага, пра якога чытаем у Евангеллі (Мац. 23), над ёю піраміда, праўда, меншая і ніжэйшая. Недалёка ад тых магіл у скалах ёсць схоплелёхі, у якіх Апосталы хаваліся, калі быў схоплены Збаўца; месца таксама ў скале накшталт каплічкі, пра якое Святы Еранім піша, што Святы Якуб, схаваўшыся там, адмаўляўся есці, пакуль

**Магіла Авесаломава.**

**Магіла Захарыі.**

уваскрэслага Госпада не пабачыць. І праўда, з'явіўся яму і, падаючы хлеб, сказаў: Якубе, еш, бо Сын Чалавечы ўваскрос. У месцах тых памянёных прошчы па сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

**Кедрон.**

Праз даліну Ясафатаву, якая пачынаецца ля магілы Найсвяцейшае Дзевы, цячэ Кедрон, ад памянёнае магілы выцякае, напаўняецца вадою пасля дажджоў восеньскіх, улетку цалкам высыхае, але дзеля прыбыцця вады ёсць недалёка малы масток цагляны. З правага боку таго мастка на скале плоскай і роўнай і досыць шырокай ёсць знакі рук Гасподніх, каленяў і пальцаў ног, там, дзе ўпаў ён, калі гэбраі былі яго з таго моста скінулі. Цалуюць тое месца паломнікі, мае яно сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў.

**Знакі падзення Гасподняга.**

Знакі тыя, хоць і на вольным паветры, а не ў памяшканні або пад якім дахам, дагэтуль не зніклі, а цэлыя і зусім непарушаныя трываюць, а не трывалі б, калі б тое праўдаю было, што ератыкі кажуць, нібыта яны прадуманыя і рамеснікам гэтак выраблены. Выяўляецца гэта таксама з каменя медыяланскага, у сцяну за вялікім алтаром у царкве катэдральнай упраўленага, на якім выява ступні Гасподняй выбітая. Бо хоць яна і пад прыкрыццём, хоць не так даўно выстаўленая, аднак жа датыкаючыся і цалуючы яе, ледзьве ўжо распазнаеш, што гэта ёсць, а на скале той ерусалімскай ужо болей за тысячу пяцьсот гадоў Святыя знакі тыя цэлыя застаюцца і нібы цяпер адбітыя. А калі б хто сказаў таксама, што іх долатам аднаўляюць, дык гэтага быць ніяк не можа. Бо ж скала тая зусім навідавоку стаіць, і таму калі б хто з хрысціянаў на тое наважыў-

ся, зараз бы яму забаранілі, бо хрысціянам у тых Святых мясцінах нічога аднаўляць не дазваляецца, пакуль санджак ад самога імператара спярша дазвол або загад не атрымае. Да таго ж і самі туркі называюць места тое Святым Мес-там і надта пільна сочаць за тым, каб якая старасветчына не загінула. Дык калі б долатам хто аднаўляў, хіба ж на скале не было б відаць, хіба ж за столькі гадоў знакі тыя не паглыбіліся б: сапраўды ж, цяпер тыя знакі так на паверхні адбітыя, як бы хто ў мокрую гліну толькі што рукі і ногі ўляпіў. Кожны, хто толькі пільна прыгледзіцца, пазнае, што не рука чалавечая, але Божая, знакі тыя Святыя ў цэласці захоўвае. Перайшоўшы мост, амаль праз трыццаць прыступак, апускаемся да мясціны глыбокае, якую крыніцаю Смокавай называюць, дзе Найсвяцейшая Дзева ваду чэрпала і хусты свае прала. Бо хоць і з роду царскага паходзіла, аднак пакорлівасць любіла, як Святое пісанне сцвярджае. З левага боку паказваюць паміж дрэвамі аліўнымі месца, дзе на загад Манасіі цара прарок Ісая напалам пілою быў перарэзаны. А побач з тым месцам ёсць пад гарою купальня Сілоэ (Ян, 9), якая ўсім садам, што ў даліне Ясафатавай, ваду дае. Недалёка адтуль відаць руіны той вежы, якая яшчэ за Госпада Нашага абвалілася і васемнаццаць чалавек раздушыла (Лук. 13). У гэтым месцы прошча сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Ваду з гэтае купальні туркі за Свячоную лічаць, і вельмі шмат іх амаль кожнага дня ў ёй мыецца. Бо хоць яны і пра кожную ваду думаюць, што грахі змывае, але пра гэтую мяркуюць, што яна і целы ўздараўляе. То ж мы,

**Крыніца Найсвяцейшае Дзевы.**

**Ісая прарок.**

**Купальня Сілоэ.**

прыйшоўшы туды, наверсе (бо да яе па приступках, у скале выбітых, спускацца трэба) мусілі чакаць, пакуль яны сваё мыццё скончаць і ўбораў паласканне, што яны дзеля большага будучага шчасця чыняць.

Ідучы направа вакол места да гары Сіён, з левага боку на скале ёсць поле Акелдама, купленае за трыццаць срэбнікаў, вернутых Юдаю гэбраям пасля выдання Госпада. Цяпер там армянскія могілкі. Зямля на тым полі такая, што, паклаўшы на ёй труп (нават не прысыпаўшы), цела (што мы самі бачылі) за 24 гадзіны распадаецца і гіне, і нічога іншага апроч голых костак не застаецца. Поле гэтае мурам абнесенае, каб ад туркаў косці хрысціянскія ў пакоі захаваць, бо там армяне і іншым народам хаваць не забараняюць за малую заплату. За рагом святыні Саламонавай ёсць невялікая Смеццевая брама, праз якую смецце з места вывозілася і праз якую гэбраі, Госпада схапіўшы, да Анны прывялі, баючыся народу. Прыйшлі мы пасля пад гару Сіён, на вяршыні якой быў некалі замак Давідаў, засталіся знакі па ім і руіны; а прамінуўшы купальню Вірсавіі, праз Рыбную браму вярнуліся мы ў кляштар.

Вельмі дзіўная рэч.

Справіўшы абед, увайшлі мы зноў у царкву і шэсце, як вышэй апавядалася, адбылі. Пасля нешпару рыхтаваліся мы праз споведзь да Найсвяцейшага таемства; было гэта напярэдадні дня Святых Апосталаў Пятра і Паўла, дык там і ноч на набажэнстве прабылі. Пасля паўночы спявалася ютрань, ранняя імша была каля Гроба Гасподняга, а вялікая на гары Кальвары, айцец вікары пры алтары католікаў на тым мес-

Другі раз да Гроба Гасподняга.

цы, дзе Госпада да крыжа прыбілі, спяваў і, даўшы нам Найсвяцейшае таемства, да Гроба Святога ў шэсці нас правёў, дзе ўнутры за звычаем хвалебным хрысціянскім у рыцары Гроба Гасподняга нас пасвяціў. Айцец гвардыян, які там ёсць, паводле даўняга прывілею Апостальскае сталіцы, тую цырымонію спраўляе. Які яе акт, спосаб і парадак, на канцы апошняга ліста напішу.

А імёны тых, хто са мною ў Ерусаліме быў і такімі рыцарамі пасвячоныя, пералічаю: Абрам Баро дэ Дона сілезец, Юры Кос і Міхал Канарскі прусакі, Андрэй Скарульскі літвін, Пятро Быліна паляк. Былі і іншыя, як П. Леанард Пацыфік святар Таварыства Ісусавага, з братам Кіпрыётам, Ян Шульц цырульнік з Уроцлава, Ярэма Гермак кухар літвін.

**Скарб царквы Ерусалімскай.**

Калі мы чакалі, пакуль туркі нам царкву адчыняць, некаторыя пачалі гаварыць пра скарб царкоўны, які калісьці быў напэўна надзвычай вялікі, багабойнасцю гаспадароў хрысціянскіх узбагачоны. Але калі Ерусалім у рукі непрыяцелевы адышоў, невядома куды той скарб падзеўся. Селім першы, плюндруючы Егіпет, хацеў таксама і гэты скарб забраць, але яго законнікі былі закапалі, і, нідзе яго не знайшоўшы, усіх, колькі іх было ў замку ерусалімскім, у вязніцу кінуць загадаў, дзе іх дваццаць сем месяцаў толькі хлебам і вадою кармілі. Была, аднак, у іх такая багабойнасць і годнасць, што ніякіх звестак ад іх ні біццём, ні катаваннем атрымаць не здолелі. Памерла іх нямала, астатніх тыран, у Егіпце пасяліўшыся, загадаў адпусціць. А з царквы апоўдні выйшаўшы, прыйшлі мы ў кляш-

тар, дзе па абедзе нам прывілеі рыцарства Гроба Божага на пергаміне раздалі. Сакратаром царкоўным, які нам іх выпісваў, быў айцец Дэадат неапалітанец. Мой прывілей быў такі.

Усім увогуле і кожнаму паасобку
хто гэты прывілей праглядаць будзе
вечнае збавенне ў Госпадзе.

У імя Найпакорлівейшага Госпада нашага Ісуса Хрыста. Амін.

Ведама няхай будзе, што нядаўна, каб пабожна Святое Зямлі мясціны Святыя наведаць, выправіўшыся ў дарогу, Яснавяльможны Мікалай Крыштоф Радзівіл, Князь з Алыкі і Нясвіжа, Граф на Шыдлоўцу і Міры, Вялікі Сенатар Дзяржавы Рымскае, Галоўны Маршалак Вялікага Княства Літоўскага, каля Святога Гроба Збаўцы Госпада Нашага Ісуса Хрыста, з якога на трэці дзень у вялікай Славе ўваскрос, з вялікай пабожнасцю спавядаўшыся і Найсвяцейшае Таемства прыняўшы, быў і з пачцівасцю яго пацалаваў і абняў; таксама тут Святое месца гары Кальварыі, дзе за род чалавечы Госпад Наш акрутную смерць на крыжы прыняў, наведаў. Быў ён і на гары Сіён, дзе найдзівоснейшая тая Вячэра з Апосталамі спраўленая была, ногі іх пакорліва ўмытыя і Дух Святы ў языках агністых на іх сышоў. Таксама і ў Бэтлееме, месце Давідавым, быў, дзе ад Найсвяцейшае Дзевы Марыі Госпад Наш нарадзіўся, паміж жывёламі пакладзены, на восьмы дзень абрэзаны, пасля каралямі наведаны і Божаю славай ушанаваны. Так і Іудзейскае ўзгор'е, куды Маці Божая да Св.

Альжбеты хадзіла, дзе Св. Ян Хрысціцель нарадзіўся, і Пустэльню — месца і сведку яго пакутаў — наведаў; не абмінуў Бэтаніі, дзе Лазар на чацвёрты дзень пасля скону быў уваскрэсены, ні гары Аліўнае, дзе ў час Пакуты маліўся Госпад, жаўнерамі Пілатавымі схоплены і звязаны быў, і адкуль таксама праз моц сваю дзівосна ўзышоў на Нябёсы; аглядаў магілу Найсвяцейшае Маці Божае ў даліне Ясафатавай, адкуль з Душою і Целам на Неба Анёламі была ўзятая, і шмат іншых Святых мясцінаў, так у Святым Месце Ерусаліме, як і ў іншых месцах паблізу, дзе Госпад Наш Ісус Хрыстос з невыказнае дабрыні сваёй збаўленне нашае справіў; цяжкасці вялікія і небяспекі адолеўшы, выдаткі значныя з любові да Госпада Бога ахвяруючы, сам асобаю сваёю наведаў і ўшанаваў. А так мы, Фр. Анджэло Стэлла, Меншых Павучальны Даглядчык Правінцыі Св. Антонія, Святога Кляштара Святога Збаўцы Гвардыян і Камісар, і іншых месцаў Святое Зямлі Апостальскаю ўладаю Генеральны Зверхнік і Кіраўнік, заўважыўшы вялікую пабожнасць памянёнага Яснавяльможнага Мікалая Крыштофа да Святых мясцін гэтых і сэрца запаленае да пашырэння Веры Святой Хрысціянскай, вырашылі мы яго ў Рыцары Божага Гроба пасвяціць. А так на моц Апостальскае сталіцы, нам даверанаую, таму вышэйпамянёнаму Яснавяльможнаму Мікалаю Крыштофу тую Рыцарскую годнасць, гонар і права надаём, і ўсім тым, хто гэты Ліст Наш чытаць будзе, што гэтак намі ўшанаваны, паведамляем, да таго ж ухваляючы а таму Яснавяльможнаму Мікалаю Крыштофу, Рыцару Божага Гроба, дазваляючы,

каб надалей Гербы Гроба Гасподняга, Крыжа Святога і Святога Юрыя адкрыта або патаемна, як яму належным здасца, насіў і вольнасцямі ўсімі, правамі, прывілеямі і перавагамі, якімі іншыя рыцары Божага Гроба карыстаюцца, таксама карыстаўся. Да таго ж абвяшчаем і прызначаем таго Яснавяльможнага Мікалая Крыштофа, дзеля значнага яго старання і міласці ў захаванні і побыце ў гэтых мясцінах Закону Св. Францішка, Генеральным Правізарам памянёных месцаў Святое Зямлі. А дзеля лепшае веры, важнасці і сведоцтва Прывілей гэты загадалі мы напісаць, пячаткаю Гроба Святога запячатаць, і самі мы рукою Нашай падпісаліся. У Ерусаліме з кляштара нашага Св. Збаўцы Г. Г. 1583. Дня 29, Мес. Чэрвеня.

*Фр. Анджэло Стэлла,*
*вышэйназваны, уласнаю рукою.*

А так мясціны тыя Святыя наведаўшы, хацеў таксама і я тут грэшны нейкую памятку пакінуць, то ж напісаў айцам законнікам такі ліст:

У ІМЯ АДЗІНАЕ А НЕПАДЗЕЛЬНАЕ ТРОЙЦЫ,
АЙЦА І СЫНА І СВЯТОГА ДУХА.
АМІН.

Мікалай Крыштоф Радзівіл, Князь з Алыкі і Нясвіжа, Граф на Шыдлоўцы і Міры, Св. Гроба Рыцар і г. д. Не чым іншым, але адною невыказнаю Госпада Бога Нашага ласкаю натхнёны, найперш з увагі на зарок мною ўчынены дзеля здароўя майго нядужага, а пасля і з пабожнасці і ад пакутаў за грахі ўсяго жыцця майго; спадняўся я на падарожжа да Гроба Гасподняга і ін-

шых мясцін Святое Зямлі. Калі ж тое хутчэй Господняю міласэрнасцю і ратункам, чым уласнымі заслугамі, да эфекту і выніку памыснага шчасліва давёў, прыбыў я года Госпадняга 1583, дня 25, месяца чэрвеня ў Ерусалім, праз Галілею і Самарыю прайшоўшы. То ж на тую памятку прыходу майго і ў падзяку за ўсе іншыя Госпаднія дабрадзействы (якія, незлічоныя, дзівосныя і шчодрыя, заўсёды мне ўдзеленыя былі) прызначаю і дарую, часамі вечнымі (большага памнажэння славы Божае ва ўсім шукаючы) ахвярую не так, папраўдзе, як бы мусіў, але як магу сэрцам ахвотным і шчырым, найперш да Гроба Госпадняга келіх з чыстага золата і такую самую патыну, з вырытым імем і гербамі маімі на абаіх. Апрача таго, келіх другі срэбны, залачоны, і такую самую патыну з імем і гербамі маімі на абаіх вырытымі даю, дарую, ахвярую сэрцам прыніжаным у Бэтлеем, месца Святога Нараджэння Госпада Нашага Ісуса Хрыста. Дзеля таго пастанаўляю і так мець хачу, каб на кожны год сілаю гэтага дару нашага надалей, як доўг пэўны, на Гроб Госпадні сто дваццаць пяць дукатаў (што складае дзвесце пяцьдзесят залатых манетаў Вялікага княства Літоўскага) з Княскага скарбу Нашага Нясвіжскага даваць: самых сябе і Спадкаемцаў нашых вечнымі часамі ў тым абавязваючы, паводле закону і звычаяў нашых. З тых грошай найперш сто дукатаў на патрэбы кляштара Св. Збаўцы Айцоў Бернардынаў паводле ўпадабання і волі іхнае, якія там на той час будуць, прызначаю; а дваццаць пяць іншых памянёных дукатаў на лампаду штогадовую, каб кожны дзень часамі вечнымі гарэла

ў Гробе Госпада Нашага Ісуса Хрыста, аддаю. Тыя грошы Айцы Ерусалімскія сто дваццаць пяць дукатаў на дзень Св. Апосталаў Пятра і Паўла кожны год у Правізара Св. Зямлі, які будзе на той час у Венецыі, браць маюць. А з тым найперш Святым Божым у Небе, а пасля і Вашым малітвам, Шаноўныя Айцы, саміх сябе жывых і памёрлых пакорна даручаем. Дадзена ў Ерусаліме года Гасподняга 1583, дня Святых Пятра і Паўла Апосталаў, каторага нас у Рыцары Божага Гроба пасвяцілі.

А як айцы таго кляштара Ерусалімскага шмат са мною пра патрэбы Святое мясціны гэтае гаварылі, нямала і сам я пабачыў уціску іх і нястачы, як яны, сярод народу акрутнага жывучы, штогадзіны небяспеку здароўю свайму церпяць, біццё і глум сціпла і цярпліва трываюць, і, аднак, праз асаблівы правід Божы на ганьбу паганцам і ерэтыкам мясціны тыя Святыя, што пра Божую дабрыню і міласэрнасць нам памяць абуджаюць, у цэласці і поўнасці захоўваюць; і кожнага дня тут ахвяру Найсвяцейшую спраўляючы, за ўсё Хрысціянства моляцца, так што малітва тая, нябёсаў дасягнуўшы, тое спрычыняе, што туркі без цяжкасцяў на тое, што славе Гасподняй належыць, дазваляюць, за што хрысціяне Госпада Бога хваліць і слушна яму дзякаваць павінны; пажыву сабе міласцінаю ад каралёў, паноў і іншых багабойных, гэтак духоўных, як і свецкіх, забяспечваюць; дый да таго ж, як я, пільна прыгледзеўшыся, царкву тую Святую ў некаторых месцах блізкаю да разбурэння ўбачыў, асабліва ж сярэдзіну скляпення

над самай капліцаю Св. Гроба (адкуль некаторыя туркі нядаўна былі колькі бляхаў узялі, за што іх смерцю пакаралі), так што калі б тая частка царквы з-за сапсаваных бэлек і крокваў упала, сапраўды невылічоных выдаткаў аднаўленне будынку вымагала б, а іншыя народы, бо царква католікам належыць, нічога не дбаюць: дык вось ш (кажу), на ўсё гэта зважаючы, спадняўся на тое, каб у тым краі нашым людзей багабойных да ўратавання тае царквы заклікаць і дапамогі на тое ад іх прасіць. Сведчанне айцоў Ерусалімскіх, што прасілі аб гэтым, такое:

Фр. Анджэло Стэлла, Гвардыян і Камісар Апостальскі, мясцін Зямлі Святое Служэбнік, усім цэлага Каралеўства Польскага, В. Кн. Літоўскага, Вялебным у Хрысце Айцам, Найяснейшым Князям, а таксама Высакародным Графам і Панам Шляхце, у чые рукі ліст гэты патрапіць, Бласлаўленне нашае і збаўленне вечнае ў Госпадзе.

Дзеля таго, што пра ўсе патрэбы нашыя кожнаму асобна, асабліва ж у такім кароткім часе, пісаць надта цяжка, мы гэтага не робім, а таму, ад Яснавяльможнага Пана Мікалая Крыштофа Радзівіла, Рыцара і Правізара Генеральнага Св. Гроба, поўныя, праўдзівыя і дастатковыя звесткі атрымаўшы пра іншых Народаў на тыя часы гарачую і святую пабожнасць да гэтага Месца Святога, а таксама пра дабратлівую шчодрасць да ўбогіх законнікаў (аб чым ён нам падрабязна да аздобы Вашых Ласкаў дэкляраваў); вырашылі мы, будучы гэтак натхнёныя, а прычыны блізкага вельмі Царквы тае Святое ўпадку

і небяспекаў, што нам кожнага дня аж да загубы пагражаюць, праз таго ж памянёнага Яснавяльможнага Мікалая Крыштофа (хоць тае ласкі Ягонае і чуласці мы не заслужылі) да Ласкаў Вашых як да ратунку па міласціну звярнуцца, бо пакінутыя мы хрысціянамі ў краі гэтым: ані не сумняваючыся ў багабойнасці Ласкаў Вашых, як нам пра яе той Яснавяльможны Мікалай Крыштоф, на якога спасылаемся, дастаткова і падрабязна апавядаў. А за тыя дзеля Хрыста Ісуса на яго Святы Гроб і Варту ўчыненыя выдаткі самога Госпада Хрыста найшчадрэйшага плату кожнаму з Ласкаў Вашых ахвяруем і гэтак нашыя, як і спадкаемцаў нашых (колькі магчы будзем), на часы вечныя малітвы абяцаем. Дзеля лепшае веры гэты ліст наш рукою нашай падпісваем і пячаткаю Кляштара нашага Св. Збаўцы ў Ерусаліме запячатваем, года Гасподняга 1583, дня 5 ліпеня.

Раніцаю выйшаўшы з кляштара, скіраваліся мы да брамы Сіёнскай, адкуль, узяўшы з сабою двух конных янычараў, спусціліся мы ў даліну Ясафатаву і ля падножжа гары Аліўнае з правага боку каля самай дарогі бачылі месца, дзе здраднік Юда засіліўся: ёсць там і цяпер невялікі склеп, увесь патрэсканы, гэбраямі змураваны, дзе яны цяпер памерлых хаваюць.

*Сапраўднае пахаванне гэбрайскае.*

Праехаўшы паўмілі, прыбылі мы ў Бэтанію. Там пры самым уваходзе з левага боку ёсць дом Сымона пракажонага (Мацв. 26), цэлы і непашкоджаны. У ім цесны прысенак, ніжнія сенцы ўздоўж і ўпоперак восем локцяў, даволі цёмныя, адтуль яшчэ ўваход па прыступках у задні па-

*Бэтанія.*

*Дом Сымонаў.*

кой без даху, бо ў гэтых краях будынкі ніякіх дахаў або крыцця не маюць. Ніякаму народу не прызначаны, мае сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў прошчы. Адтуль за лучны стрэл цэлы гроб Лазараў у скале выкапаны, да якога па васьмёх прыступках паднімацца трэба, ёсць там і алтар невялічкі, на ім камень ляжыць, якім гроб быў завалены, і які Збаўца, хочучы Лазара ўваскрасіць, загадаў быў адваліць (Ян, 11). Бывае там Св. імша на кожны год. А з тае чячоры праз чатыры прыступкі тое месца, дзе Лазар памёрлы ляжаў, мае ўшыркі два локці, удоўжкі чатыры, належыць католікам. Тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Недалёка ад таго гроба туркі маюць сваю машэю, бо яны таксама ў тое вераць, што Лазар Госпадам Ісусам быў уваскрэсены. Тая Бэтанія мае да трыццаці дамоў, у якіх жывуць туркі. Відаць там і два дамы, недалёка адзін ад аднаго, кажуць, што адзін належаў Магдаліне, а другі Марце, абодва ўжо амаль разваліліся, асабліва ж Ма́рцін, якога і падмурак ужо ледзьве заўважны, у абодвух прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Ідучы да памянёных дамоў, побач з гасцінцам, ляжыць камень вялікі, называюць яго здаўна камень Размовы, на якім Госпад Хрыстос, седзячы з Магдалінай, пра смерць Лазараву гаварыў. Туркі не меней за хрысціянаў яго шануюць, і цалуюць яго мусульмане, сцвярджаючы як рэч пэўную, што казалі ім продкі іхнія, што хоць ад яго паломнікі (і мы тое ўчынілі) немалыя кавалкі сабе адколваюць, аднак жа ён ні з якага боку не меншае. І праўда, вельмі на тое падобна. Бо цяпер ён гэткі ж вялікі, як і за Госпада быў,

**Гроб Лазараў.**

**Дамы Марты і Магдаліны.**

што з сядзення на ім лёгка меркаваць можна, бо ж ён не вышэйшы і не ніжэйшы, а якраз гэткі, як сесці зручна. Было там на той час колькі туркаў ужо немаладых пры нас, якія апавядалі нам, што за шэсцьдзесят гадоў іхніх камень ані не змяніўся, і прыгадвалі словы бацькоў іхніх: Хоць бы і тысяча людзей па кавалку ўзяла, усё адно камень той не паменшае і паменшаць не зможа. То ж дзеля таго цуду мае прошчу сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

**Гара Аліўная.**

**След нагі Гасподняе пасля Усшэсця.**

З Бэтаніі скіраваліся мы направа да гары Аліўнай вельмі высокай, пасярод якой ёсць рэшткі вёскі Бэтсагіі, штосьці малое там было. А пакінуўшы на нізе аслоў, пайшлі мы пехатою на самы верх гары, адкуль Госпад Хрыстос узышоў на Неба; змуравала тут некалі даўно Св. Алена царкву, але ўжо развалілася. Цяпер туркі маюць тут сваю машэю малую круглую, пасярод яе на камені ёсць знак нагі Збаўцы Госпада Нашага, які (узыходзячы на Неба) ён пакінуў. Надта ж яны яго шануюць і цалуюць. Другой нагі след туркі, камень рассекшы, перанеслі ў святыню Саламонаву. Нам у дзвярах тае машэі стаць дазволілі і здалёк на той след Святы глядзець, які ад дзвярэй за чатыры локці. Дазвалялі перад тым хрысціянам уваходзіць і тое месца Святое цалаваць, але цяперашні кады, пільна ахоўваючы веру сваю няверную і не могучы таго масцярпець, што хрысціяне крыжы па сценах малююць, два гады перад тым пад пагрозаю смерці забараніў ім туды ўваходзіць. Вось жа яны, у дзвярах малітву адгаварыўшы, поўную прошчу атрымліваюць. Часта той кады гэтае месца Святое наведваў і вялікім набажэнствам сваім яго

**Але года Гасподняга 1596 знеслі той знак, і ўвайшоў багабойны святар, які сказаў, што на самым верху каменя вельмі цвёрдага добра відзён след левай нагі, да якой ніякая іншая ніколі не дадасца.**

ўшаноўваў, бо туркі Бэтлеем, дзе, як верацы, Збаўца ад Дзевы нарадзіўся, і тую гару Аліўную, дзе яго ўсшэсце на Неба прызнаюць, у вялікай пашаноце маюць; але тыя мясціны, дзе ён што-кольвек цярпеў, яны зусім не шануюць, і наадварот, калі гэткім мясцінам хрысціяне нейкую пачцівасць выказваюць, тыя насміхаюцца і кажуць, што Хрыстос як Дух Божы ўзышоў на Неба, а гэбраям замест сябе (бо ненавідзелі яго) нейкі прывід або ўяўна жывую істоту падставіў, якую яны, схапіўшы, звязалі і ўкрыжавалі, і яна нібыта ўваскрэсла і пасля паказвалася людзям. І тую аблуднасць сваю нейкаю байкай, а не разумнымі словамі пацвярджаюць. Мы, кажуць, калі толькі хочам, б'ём гэбраяў кіямі без літасці, бо гэта нікчэмны народ, а Прарок такі вялікі, сам Дух Божы, як жа ён ад тых плюгавых і мізэрных рук чалавечых не адбараніўся? На той самай гары з правага боку ёсць яшчэ рэшткі разваленай царквы, дзе (як некаторыя сцвярджаюць) два мужы пасля Усшэсця Гасподняга з'явіліся Апосталам, кажучы: «Мужы галілейскія, чаго дзівіцеся?» (Дзеі, 1.) Але як Святы Лука апісвае ясна, што яны на тым самым месцы Усшэсця з'явіліся, не ведаю, нашто месца гэтае далей пераносіць. Спусціўшыся з гары, сталі мы там, дзе Госпад над горадам плакаў (Лука, 19). Тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Відаць адтуль вельмі добра ўсё места і святыню Саламонаву таксама, але яна толькі імя святыні Саламонавае носіць, а хутчэй за ўсё гэта нейкая іншая царква, васьмікантовая (як я магу меркаваць, большая за рымскі Пантэон), бляхаю крытая алавянаю, пасярод двары-

**Мужы галілейскія.**

**Святыня Саламонава.**

шча (якое болей удоўжкі, чым ушыркі разлягаецца і фігавымі дрэвамі ды ляснымі алівамі абсаджанае) змураваная. Кажуць, што яе Святая Алена збудавала. На тым самым дворышчы злева пры сцяне ёсць таксама іншая царква, прыгожая і выцягнутая, таксама бляхаю крытая, дзе, як цвердзяць, Найсвяцейшая Дзева Хрыста Госпада ў царкве Богу ахвяравала. Відаць адтуль таксама Залатую браму, праз якую ўваход быў на дворышча святыні Саламонавай, і кудою Госпад Хрыстос на асляняці ўехаў у Ерусалім (Мацв., 21). Цяпер жа яна праз нязведаную таямніцу Божую замураваная, і адчыняць яе, як цвердзяць туркі, нельга; кажуць, што сама яна расчыніцца аднаму вялікаму і наймагутнейшаму каралю, які праз яе ў места Святое ўвойдзе і станецца ўладаром усяго свету. Пыталіся мы, чаму ж імператар іхні праз тую браму не едзе, каб лягчэй і хутчэй уладаром свету стацца; але яны маўчалі, дый нам з імі далей быць не выпадала. Бо хто пра імператара або пра веру хоча спрачацца, той на загад Магаметавы мусіць быць пакараны. Як спусціцца з гары, злева паказваюць месца, дзе Госпад Апосталаў вучыў малітвам (Мацв., 6). Была там некалі капліца, цяпер ужо разваліласся, толькі адзін слуп стаіць цэлы. Мае прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

*Залатая брама.*

*Глядзі.*

*Малітва Гасподняя.*

Спусціўшыся адтуль, зноў наведалі мы месца, дзе Госпад Хрыстос маліўся і дзе яго гэбраі схапілі. Пасля праз месца каменавання Св. Сцяпана брамаю Яфрэмавай у места ўвайшоўшы, злева бачылі мы Быдлячую купальню, якая недалёка дворышча святыні Саламонавай, была

*Брама Яфрэмава.*

даволі шырокая і глыбокая. Захаваліся пры ёй яшчэ і сходы. На дне яе расце трыснёг, відаць з таго, што месца там вільготнае. Дазволеная тут прошча сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

Вяртаючыся той самаю вуліцай да брамы Святога Сцяпана, дайшлі мы да другой вуліцы, па якой праходзілі перад тым да даліны Ясафатавай і якая ад самае брамы да палаца Пілатавага даволі шырокага і вялікага вядзе. Над прысенкам таго палаца сцяна ўзносіцца, у ёй два вакны ёсць, слупам раздзеленыя мармуровым, у адным з іх Пілат, а ў другім Госпад Наш цярновым вянком укаранаваны, стаяў калі той Пілат, паказваючы на яго гэбраям, сказаў: Вось чалавек. А цяпер месца тое пасярод шырокай і вялікай вуліцы, дзе натоўпам вялікім туркі ходзяць; з тае прычыны паломнікі, не могучы ўкленчыць, прамінаючы «Ойча наш» і «Вітай, Марыя», адгаворваюць, каб поўнае прошчы ўдзельнікамі стацца. Піша Адрыхом, што было там напісана. «Вазьмі, Вазьмі, Укрыжуй»,— але дзеля даўнасці нічога гэткага здалёк не мог я бачыць, а калі б бліжэй падысці можна было, дык, як я мяркую, можа, што й пабачыў бы.

**Палац Пілатаў.**

**Вось чалавек.**

**Піша.**

Пакуль мы да палаца Пілатавага ішлі, як туркі густым натоўпам (як у палове места) хадзілі, дык мы за звычаем паломнікаў па дарозе ішлі пад сонцам распаленым, паганцам зацененыя падстрэшшы пакідаючы. Але Міхал Канарскі, слуга мой, крыху тлусцейшы будучы, наводдалі ішоў за намі і,бaронячыся ад спёкі сонечнай,да падстрэшша звярнуў; і калі там яму тры туркі спаткаліся, а ён на агульную дарогу не саступіў і аднаго з іх лёгенька зачапіў, дык

гнеў у ім абудзіў, так што той турак яму кулаком даў, кінуўся па каменне і ў яго кідаць пачаў. Тое самае іншыя туркі, асабліва маладзёны, рабіць пачалі, і пэўна б да чаго нядобрага дайшло, калі б іх нашыя янычары (двух конных было і двух пешых) не ўлагодзілі. З усіх навакольных вулак пачалі людзі збірацца, і няма сумневу, што пабілі б нас, як колькі гадоў перад тым (пра што нам законнікі апавядалі) сталася, калі туркі дзеля таго, што паломнікі саступіць з дарогі не хацелі, некалькі іх забілі.

Дарога Смутку.

Ад палаца Пілатавага, пра будову якога ніжэй будзе гаварыцца, пачынаецца дарога Смутку, па якой Госпада з крыжам на спіне вялі на смерць. Выйшаўшы з брамы, ▪ правага боку відаць невялікі скалісты пагорак, на якім Найсвяцейшая Дзева Марыя стаяла і тужліва глядзела, што з яе Найдаражэйшым сынам рабіцца будзе; і калі яго, цернем укаранаванага, крывёю акропленага, з тварам сінім і непазнавальным, са страшным дрэвам крыжовым на плячах, нібы злачынцу якога лютага, што на смерць ідзе, убачыла, то, як з найдаўнейшага падання вучоныя каталікі багабойна сцвярджаюць, ахопленая нясцерпнаю немаччу, знепрытомнела і на зямлю ўпала, што вельмі да праўды падобна. Бо і як іначай тае Дзевы сэрца свайго ўлюбёнага Сына ў суворых пакутах і з невыказнаю ганьбай крыжам прыгнечанага бачыць магло? Месца тое аж да сённяшняга дня месцам Самлення Найсвяцейшае Дзевы называюць.

Адтуль пяцьдзесят крокаў прайшоўшы, пабачылі мы доўгую вуліцу, што да брамы Дамашскай ідзе, там злева ёсць цяжкі праход да

скалы. Бо места Ерусалімскае ўсё на скалах ляжыць, і шмат немалых пагоркаў мае, а большых гор, якіх цяпер у ім чатыры, а перад збурэннем, калі жыло шчасліва, тры вельмі славутыя мела; ніжэй пра іх падрабязна, калі пра палац Ірадавы і пра багатыя і прыгожыя вуліцы пісаць будзем.

Вось жа ў памянёнай дарозе вельмі цяжкай Збаўца наш, цяжарам крыжа змардаваны, упаў на скалісты дол; а калі дзеля млосці і слабасці далей ісці не мог, прымусілі гэбраі Сымона Кіранейца з ім разам крыж несці. Паломнікі тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў маюць. На той самай вуліцы Мястовай злева ёсць дом вялікі таго багатага любаярніка, які Лазара міласэрнасцю надарыць не схацеў. Не маглі мы туды ўвайсці, бо жыў там адзін турак, хрысціянаў вялікі вораг, але дзверы адчыненыя былі, і з вялікасці падворку было відаць, што дом той вялікі і заможны. Прайшоўшы стуль трыццаць крокаў, відаць справа ўваход у іншую доўгую вуліцу, якая проста да гары Кальварыі вядзе. Злева, амаль у палове вуліцы, на гару падымаючыся (бо ўся тая вуліца на гару ідзе), ёсць дом Св. Веранікі, з якога выйшаўшы, яна Найсвяцейшы твар Госпадні, крывёю акроплены, ручніком абцерла. Недалёка таксама відаць невысокі пагорак, на якім стаялі жанчыны, калі Госпад казаў да іх: «Дочкі Ерусалімскія, не плачце нада мною» і г. д. Адтуль за паўтары кідкі каменя стаяць два вялікія і высокія каменныя слупы, была паміж імі перад тым Судовая брама, праз якую прысуджаных да смерці вялі на Кальварыю. Католікі сцвярджаюць багабойна, што тут

Судовая брама.

другі раз Госпад пад крыжам упаў, на памяць чаго ў кожнай браме крыжы малююць. Дадзена тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

Ад тае брамы Судовае адышоўшы, трохі далей, чым за адзін кідок каменя, відаць царкву Божага Гроба, якая ў сабе гару Кальварыйскую мае. А недалёка ад брамы, праз якую ў царкву ўваходзяць, на цвінтары камень ляжыць надта вялікі, дзе ўжо пад самай гарою трэці раз Госпад Наш на зямлю з крыжам упаў. Ёсць там сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. А адсюль ужо на гару ўзышоў ён за нас на смерць.

Мінаючы царкву, адгаварылі мы «Ойча наш» і «Вітай, Марыя» і пайшлі ў кляштар, дзе па абедзе нанялі фурманаў, каб ехаць у Бэтлеем.

### Ліпень

Дзеля беспячнейшае дарогі ў Бэтлеем узялі мы з сабою янычараў двух конных і двух пешых.

Выйшаўшы раніцай з кляштара, выбраліся мы праз Рыбную браму з места і пабачылі з левага боку замак, які і цяпер называюць замак Пізонаў і пра які, калі ўжо ён тут часта прыгадваецца, трэба ведаць, што розныя людзі рознае пра яго гавораць. Адныя сцвярджаюць, што гэта быў замак Давідаў, дзе ён сам жыў; іншыя ж пярэчаць і кажуць, што быў ён на гары Сіён, дзе надзіва вялікія руіны старадаўніх муроў ляжаць ад купальні Вірсавіі, што пад гарою Сіёнскай; бо тут лёгка жанчыну гэтую з альтанкі або

ганка царскага можна было ўбачыць, калі яна насупраць мылася (2 Царстваў, 11). І хоць недалёка ад замка Пізонавага таксама купальня ёсць, аднак з яго ніякім чынам жанчыны, якая б мылася, добра бачыць нельга было б. І таму лепей другія мяркуюць і слушнейшымі выснова́мі даводзяць, што замак той, які цяпер Пізонавым называюць, даўней Макабеі збудавалі, як згадваюць пра тое кнігі Макабейскія і Язэп Іудзей. Але чый бы ён ні быў, відаць, што добра быў умацаваны, хоць цяпер ужо і надта стары. На чатыры бакі мураваны, вежы меў высокія чатырохкантовыя, з каменю часанага, роў вельмі глыбокі, унутры быў каменем часаным выкладзены. Калі мы з кляштара да брамы Сіёнскай ішлі, замак той быў з правага боку, і брама у ім расчыненая была, дык, з боку гледзячы, бо наўпрост глядзець было нельга дый небяспечна, бачылі мы, што падворак унутры невялікі быў, як і сам замак невялікі; ляжала там гармат колькі срэбных на зямлі без колаў і ложаў, а каля брамы некалькі яньічараў на варце сядзела.

Выйшаўшы з места і на аслоў сеўшы, з'язджаючы з гары, пакінулі мы з левага ад нас боку руіны палаца Давідавага, пра які нядаўна згадвалася, а з правага боку купальню Вірсавіі, бо там дарога ў Бэтлеем. Купальня ўздоўж мае каля ста локцяў, але не надта шырокая, вакол квадратнымі камянямі абкладзеная, з усіх бакоў прыступкі, па якіх некалі ў ваду ступалі; глыбіня яе, калі была ў поўні, амаль васьмі локцяў дасягала, цяпер вады няма, але недалёка ад брамы ручаінка цячэ, з якой места ваду бярэ. Прамінуўшы купальню Вірсавіі і ўзышоўшы на вя-

лікі пагорак, з правага боку за стрэл лучны ад гасцінца пабачылі мы палац, да разбурэння блізкі, у якім зверхнікі святарскія і старшыні свецкія пра затрыманне і смерць Госпада Збаўцы нашага раіліся, таму і завуць яго цяпер домам Злое Рады. За ім трохі далей направа стаіць дом пусты з дзвюх старых сцен, добра відаць, што некалі высокі быў, належаў ён таму Сымону старцу, які ў Духу будучы, у святыню прыйшоў, Дзіцятка Ісуса на рукі свае ўзяў і Госпада Бога блаславіў. Далей адтуль ідучы, недалёка ад дарогі злева стаіць фісташкавае дрэва досыць вялікае, пад якім, як апавядаюць, Найсвяцейшая Дзева адпачывала, калі ішла з Ерусаліма ў Бэтлеем, каб Дзіцятка ў святыні ахвяраваць. Ёсць тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў.

**Дом Злое Рады.**

**Калодзеж Трох Каралёў.**

Не вельмі далёка адтуль паказваюць калодзеж, прыгожым мурам абнесены, але вада ў ім дрэнная і ўжываць яе нельга. Называюць яго калодзежам Трох Каралёў і расказваюць, што ў гэтым месцы зноў паказалася ім зорка. У палове дарогі пагорак ёсць не надта высокі, з якога і Ерусалім, і Бэтлеем відаць, бо толькі паўтары мілі паміж сабою маюць. Дрэўцаў тут ядлоўцавых досыць, а з правага боку пры дарозе камень ляжыць, на якім Прарок Ілля адпачываў (3 Царстваў, 19) і на якім так уся постаць Святога Прарока адбілася, нібы на мокрай гліне якой цела яго ляжала. Бо галавы, боку, рукі і нагі правай Святога Прарока адбітак застаўся відочны, што слушна Божаму цуду прыпісваюць. Злева ёсць кляштар маленькі грэцкі, называюць яго кляштарам Св. Іллі. Справа ад каменя, спінаю да Ерусаліма павярнуўшыся, паба-

**Гэта дзіўна.**

чыць можна дом развалены, які адну сцяну цэлую мае; апавядаюць, што ён Прароку Абакуму належаў, які, з яго выйшаўшы (калі жанцам сваім абед нёс), Анёлам быў узяты і ў Халдэю занесены, каб абед той згатаваны Данілу Прароку, што між ільвоў сядзеў, аддаць. За чвэрць мілі ад каменя Іллі справа ёсць дамок, яшчэ досыць цэлы, дзе, як кажуць, Рахіль Веніяміна нарадзіла; а недалёка адтуль, амаль на самым гасцінцы, стаіць магіла той Рахілі, амаль зусім цэлая, у выглядзе пірамiды, з каменя жывога выцятая, пра магілу гэтую ёсць згадка ў Пісанні. Недалёка ад Бэтлеема, злева ад гасцінца за лучны стрэл, ёсць калодзеж, які ў сабе свежую і жывую ваду мае, па якую не толькі з Бэтлеема, але і з блізкіх вёсак шмат людзей прыходзіць, завуць яго калодзежам Давідавым і да гэтых часоў; пра які ёсць у Пісанні (2 Царстваў, 2). Адтуль краем вёскі, якая каля пяцідзесяці дамкоў мае, ідзём мы ў Бэтлеем і налева зварочваем да царквы, ад вёскі за стрэл лучны змураванай. Зайшоўшы ў яе, заспелі мы там Болуха і колькі янычараў, якія былі нас з Дамашка праводзілі, сядзелі тым часам у царкве адпачываючы. Мелі там з сабою і коней. Бо як царква заўсёды бывае расчыненая, туркі, калі ім падабаецца, і з канямі туды ўязджаюць. Якая прыгажосць цудоўна аздобленай царквы той і велічнасць, цяжка словамі апісаць. Бо ўся яна з надзвычай прыгожага мармуру збудаваная, два рады вялікіх калонаў мае; унутры ж можна ў ёй, як у люстэрку, на сябе паглядзець, бо верх бляхаю выкладзены. Св. Алена імператрыца яе змуравала, і перад тым законнікі ордэну Св. Ераніма яе трымалі;

**Магіла Рахілі.**

**Калодзеж Давідаў.**

**Дзіўная царква.**

цяпер жа айцы Бернардыны там свой кляштар маюць, якіх айцец гвардыян з Ерусаліма кожныя шэсць месяцаў змяняе дзеля пераследаў, якія яны ад туркаў церпяць. На той час пры нас было іх там восем, чатыры святары і чатыры лаікі. І так увайшоўшы ў царкву, якая католікам належыць, прайшлі мы налева ў кляштар, а адтуль у капліцу Св. Катарыны, у якой службу Гасподнюю законнікі спраўлялі. Тая капліца поўную прошчу мае, і атрымліваюць яе паломнікі тут, нібыта самі сваёй асобаю былі ў царкве Св. Катарыны на гары Сінай, куды праз небяспеку і далёкую дарогу не кожны даходзіць. З памянёнай капліцы шэсце выходзіць, за якім паломнікі, як і ў Ерусаліме, парамі ідуць аж да месца Нараджэння Сына Божага. Выйшаўшы з капліцы, саступаюць у сутарэнне і, мінаючы іншыя мясціны, пра якія ніжэй будзе гаварыцца, прыходзяць у каплічку, якая ўдоўжкі васемнаццаць, ушыркі дзевяць або дзесяць локцяў мае. Там насупраць дзвярэй ёсць алтар, пад якім месца, плітой мармуроваю накрытае, паказваюць, дзе Госпад Наш нарадзіўся, а на камені тым, што на алтары ляжыць, стаіць такі надпіс:

**Месца Нараджэння Гасподняга.**

*«Тут з Дзевы Марыі Ісус Хрыстос Нарадзіўся»*.

На самім алтары пры сцяне пліта старая з выяваю Нараджэння Гасподняга. Слухалі мы тут Св. імшу, якую а. Ян Фларэнтыец, што з намі як старэйшы з Ерусаліма прыехаў, спраўляў. Не даходзячы таго алтара, на шэсць локцяў з правага боку ёсць яслі ў скале высечаныя, у

**Яслі.**

якіх Госпад Наш, як нарадзіўся, быў пакладзены, а як былі яны надта вялікія і шырокія, дык меншыя драўляныя ў іх былі ўштукаваныя, паводле звычаю таго краю. Насупраць іх амаль за тры локці, дзе Тры каралі, упаўшы, хвалу Госпаду аддалі і ахвяравалі дарункі свае, ёсць другі алтар. Паўсюль тут прошча поўная. Капліца Ясляў Гасподніх католікам цалкам належыць, вісяць тут, што праўда, розных народаў свяцільні, як і ў Св. Гробе (пра што пасля падрабязней), але запаляюць іх толькі на Божае Нараджэнне, калі можна ўсім тым народам (і толькі ў той час) увайсці з шэсцем у гэтае месца. Вельмі цёмная капліца гэтая, бо пад вялікім алтаром царквы размешчаная і ніадкуль святла не мае, хіба толькі праз краты абедзвюх брам бакавых, пры якіх ёсць сходы, каб увайсці ў царкву, хоць і шэсці тут ходзяць. Як увайсці ў царкву праз сходы з левага боку, тут жа адразу ёсць алтар, дзе Тры каралі, да Госпада прыехаўшы, з коней ссселі; калі ўвайсці сходамі з правага боку, дык, макрыху прайшоўшы, падыдзеш да алтара, дзе маленькая была бажніца, у якой Госпада на восьмы дзень пасля Нараджэння абразалі. Алтар той католікам належыць, але як туркі ў царкву заўсёды вольны доступ маюць, так стаіць без усялякіх аздобаў. Грэкі ў хоры сваё набажэнства спраўляюць. І кожны раз, як мае быць Найсвяцейшая ахвяра, у санджака заўсёды янычараў бяруць, якія б іх ад туркаў баранілі, бо ім можна сюды, калі хочуць, уваходзіць. Капліца ж Нараджэння Гасподняга стараннямі католікаў стаіць замкнёная, і ніадкуль у яе ўвайсці немагчыма, толькі з кляштара падземным склепам. Той

Пахаванне Немаўлятак.

Магіла Св. Eраніма.

самаю дарогай з капліцы Ясляў выйшаўшы, якою мы былі ўвайшлі, з правага боку за шэсць локцяў ад яе паказалі нам пячору ў скале высечаную, на шэсць локцяў даўжынёю, не вельмі шырокую, але глыбокую, дзе Немаўляткі, Ірадам забітыя, пахаваныя. Прошчы тут сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Злева таксама другая ёсць пячора, у якой тры магілы, першая адразу ад увахода справа — Св. Аўсея, другая злева — Св. Паўлы Рымлянкі, якое таксама кляштар, дзе яна, змураваўшы яго дастаткам вялікім і аздабленнем, сама жыла, далей чым за паўмілі ад Бэтлеема стаіць, зусім развалены і пусты; трэцяя магіла — Св. Ераніма. А адтуль лёхам падземным прайсці можна ў жытло гэтага Святога доктара, дзе ён Біблію Святую пераклаў. Яно цёмнае, бо пад царквою, куды на малітву па сходах (яшчэ і сёння цэлых) той Святы ўзыходзіў, выйшаўшы з брамы, якая ўжо замураваная; крыху мае святла з кляштара праз вакно. У кожнага з тых пахаванняў сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Адтуль вярнуліся мы ў кляштар; а па абедзе і нешпары, у капліцы Св. Катарыны выслуханым, сеўшы на аслоў, накіраваліся мы да вежы Статку, за добрыя паўмілі ад Бэтлеема, дзе патрыярх Якуб пасвіў свой статак. Ад вежы той паваленай вялікая крушня засталася, і на тым месцы Св. Анёл пастухам радасць вялікую абвяшчаў ад нараджэння Сына Божага. Была тая вежа ў даліне плоднай і прыгожай пабудаваная. А адтуль вяртаючыся іншай дарогаю, з левага боку бачылі мы каплічку (змуравала яе Св. Алена), дзе ў сне Анёл Язэпа намовіў, каб,Маці і Дзіцятка ўзяўшы, у Егіпет

уцякаў. Яшчэ стаяць сцены таго дома, пры якіх тая каплічка была і з ім злучалася. Ёсць там сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. З правага боку крыху далей застаўся за намі кляштар развалены Св. Паўла, а з левага боку падышлі мы да невялікае вёскі, якую вёскаю Пастуховай называюць; ёсць у ёй калодзеж глыбокі, і вада халодная, і вельмі добрая, хадзіла сюды часта па яе Найсвяцейшая Дзева. Сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Нават і самі магаметане ў пашане вялікай той калодзеж маюць і Святым яго называюць, ды нават яго (чаго дзе ў іншым месцы рабіць не звыклі) каменнай плітою накрываюць (хоць нешырокаю), каб заўсёды быў накрыты. Ад той вёскі вяртаемся мы ў Бэтлеем, а там, недалёка ад царквы, злева ёсць пад зямлёю пячора, на колькі локцяў ушыркі і ўдоўжкі, з цесным уваходам, дзе Найсвяцейшая Дзева з Дзіцяткам была схавалася, калі на Ірадаў загад нявінных дзетак забівалі; цуду Гасподняга знакі там захоўваюцца пэўныя. Бо ўзяўшы адтуль зямлі і тым жанчынам, у якіх малако знікла, з піццём даўшы, з дастаткам тое малако вярнуць можна. Сем гадоў прошчы і гэтулькі ж квадрагенаў. Пад вечар вярнуліся мы ў кляштар і, узлезшы на самы верх царквы, бачылі з левага боку гару Энгады, якую часта Пісанне згадвае, стаіць яна недалёка ад Бэтлеема. А як Лот, уцякаючы з Садома, тую гару Энгады прамінаў, дык некаторыя мяркуюць, што ў ёй ёсць пячора, дзе ён з дачкамі зносіўся, аднак жа пэўнага месца не паказваюць. З правага боку відаць сад, у якім багата дрэваў бальзамавых за панавання Саламонавага было як нека-

**Кляштар Св. Паўла.**

**Дзе хавалася Божая Маці.**

**Дзіўная рэч.**

**Гара Энгады.**

Хэброн.

торыя гісторыкі апісваюць. Відаць адтуль таксама горы, што да даліны Хэбронскай прылягаюць. Меў я жаданне датуль дабрацца, бо ад Бэтлеема толькі пяць міляў, каб і магілы Патрыярхаў, і месца, дзе Абрагам трох Анёлаў бачыў, і дзе Ісак абрэзаны быў, пабачыць; але небяспечна было, бо арабы за два дні да таго войскі сабраўшы, між сабою біліся, дык таму я і не паехаў. Законнікі, аднак, якія там бывалі, апавядаюць, што Хэброн мясціна малая, адныя гэбраі ў ёй жывуць. Дык я, туды паехаць не здолеўшы, вырашыў назаўтра ўзгор'е Іудзейскае наведаць, асабліва ж таму, што і царква таго Свята пра яго згадвае.

Вельмі рана Найсвяцейшую імшу выслухаўшы і Найхвалебнейшае таемства прыняўшы, выехалі мы з вёскі Бэтлеем і праз чвэрць мілі прыбылі ў іншую і большую вёску маранітаў, называную Бэтагіль. Ляжыць яна там, дзе Анёл Гасподні войска Асірыйскага цара знішчыў; і да сённяшняга дня варта надзвычайнага здзіўлення тое, што ніводзін абрэзаны тут да трох дзён заставацца не можа і на трэцюю ноч абавязкова мусіць памерці. Двое арабаў, што былі нам аслоў нанялі, настойліва цвердзілі, што самі ў тым пераканаліся. Бо (кажуць) першае ночы ад страшнага болю галавы цярпелі, другое ж ночы цела нашае так апухла, што, баючыся блізкай смерці, мусілі нас адтуль прэч адвесці, дый так адзін з нас праз чатыры, а другі праз шэсць месяцаў да былога здароўя вярнуўся. І калі мы, каб скараціць дарогу, краем той вёскі ехалі, ніводзін з усіх тых абразанцаў не хацеў з намі ехаць, а вакол (мінаючы сваю не-

Дзе Св. Анёл зваяваў войска Сэнахерыба.

Гэта сапраўды дзіўна.

бяспеку) абабеглі. За тры тысячы крокаў ад Дамашка штось падобнае бачылі мы злева на высокай гары: ёсць там кляштар мнішак маранітак, у якім таксама да трэцяга дня ніводзін абразанец выжыць не можа. Прыпісваюць гэта людзі дабрыні Госпада Бога Нашага, які таму месцу такую абарону даў, каб ад паганцаў свавольных чыстасць Дзевы захаваная была. Ад'ехаўшы ад той вёскі мілі з дзве, прыбылі мы да малой крынічкі, недалёка ад гасцінца справа, вадою з якой Св. Філіп Апостал лягчанца царыцы Кандакіі ахрысціў (Дзеі, 8). Звыклі новахрышчэнцы рабіць з гэтага выснову, сцвярджаючы, што абодва яны, і Піліп і лягчанец, у ваду ўступілі, але хто тут быў, інакш і не скажа, як толькі тое, што крыніца з вузкай скалы выцякае і так скупа, што абодвум ног не было б чым абліць, і таму хутчэй можна меркаваць, што Св. Апостал толькі галаву яму паліў і гэтак яго ахрысціў. Сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў процічы.

*І гэта не менш дзіўна.*

*Крыніца Св. Піліпа.*

Адтуль дзве вялікія мілі праехаўшы дарогаю вельмі цяжкай, апынуліся мы ў пустэльні, дзе Св. Ян Хрысціцель жыў, як Св. Лука згадвае ў раздз. 1. Ёсць тут у гары (сама прырода гэтак справіла) невялікая пячора, да якой Св. Алена цагляную сцяну прымуравала. Доступ туды небяспечны. Бо і знізу страшная прорва, і сцежка да той пячоры пахілая, вузкая і слізкая. Самі ж горы, як і даліна, і тыя глухія скалы, вельмі страшаць чалавека. З жарала пячоры выцякае крынічка на паўпядзі ўшыркі, адкуль благаславёны Хрысціцель піў, іншае вады там няма. Што ён тут еў, рознае апавядаюць. Некаторыя ка-

*Пустэльня Яна Хрысціцеля.*

Які хлеб Св. Яна.

жуць, што зелле, якое мы і цяпер называем хлебам Св. Яна (Пліній, 1, 13 р. 8 ceraunia), іншыя ж цэрацыю, або салодкі плод з дрэва сіліквы сірыйскай, называюць, багата яго было каля места Юдзінага, радзімы ягонае (адсюль дзве мілі), як і цяпер на Кіпры, адкуль пасля ў розныя краіны, таксама і да нас, яго прывозяць. Вакол пячоры ёсць толькі голыя скалы, кустоўе мала дзе відаць дый тое ўбогае. Ёсць тут поўная прошча.

Места Юдзіна.

Пасля дзве мілі вялікія прайшоўшы праз вяршаліны гор цяжкапраходныя, прыбылі мы ў места Юдзіна, якое цяпер ледзьве дваццаць дамкоў мае, відаць, аднак жа, што было яно вельмі разлеглае і вялікае. Як увайсці ў места, з правага боку руіны царквы на тым месцы, дзе Найсвяцейшая Дзева Альжбету наведвала і магніфікат прамовіла. Ёсць і рэшткі царквы, на пляцы дома Захарыявага збудаванай, дзе прамовіў ён: «Блаславёны Госпад Бог Ізраілеў» (Лука, 1). Жывуць тут туркі, якім, каб нас прапусцілі, мусілі мы што-небудзь даць. Адтуль за два стрэлы лучныя злева ёсць царква цэлая, Св. Яну Хрысціцелю прысвечаная, а ў ёй з левага боку ад вялікага алтара паказваюць месца, дзе той Св. Хрысціцель нарадзіўся: мае поўную прошчу. Праз паўтары мілі адтуль, таксама вельмі цяжкай дарогаю, прыехалі мы ў кляштар Св. Крыжа; стаіць ён злева ад дарогі, грэкі называюць яго кляштарам Св. Арханёла, належыць ён геаргіянам, закон мае той самы, што і ў кляштары Св. Савы, цяпер тут іх біскуп жыве. Традыцыя і паданне ёсць ад даўніх продкаў, што адтуль было ўзятае адно дрэва аліўнае на

Магніфікат.

Кляштар Св. Арханёла.

Дзіўна.

крыж Госпаду Нашаму, паказваюць нават дзіру пад вялікім алтаром, адкуль яно было выкапанае. Каталікі і ўсе ўсходнія народы вельмі шануюць гэтае месца. Частаваў нас тутэйшы біскуп аліўкамі і сухім хлебам, бо мяса тут не ядуць. Ідучы адтуль праз гару вельмі высокую і стромую, за мілю ад Ерусаліма злева бачылі мы гару выцягнутую, не вельмі высокую, Гіён, дзе прыгожыя руіны палаца Саламонавага з часанага каменю ляжаць, які ён сабе трынаццаць гадоў будаваў (3 Царстваў, 7). Там яго Сатаксама яшчэ за жыцця Давідавага святар Садок на царства памазаў (3 Царстваў, 1). Пакінуўшы з правага боку за намі купальню Вірсавіі, сселі мы з аслоў нашых і прыйшлі да Рыбнае брамы, а за гадзіну да вечара стаялі мы ўжо ў кляштары, дзе айцец вікары паведаміў мне, што ў субашы (якога мы на гарах Іудзейскіх бачылі) знайшоў нам (як я яму быў даручыў) праваднікa араба, якога назаўтра мелі мы ўзяць з сабою ў дарогу да Мёртвага мора і Ярдана.

**Гара Гіён. Палац Саламонаў.**

І так каля поўдня пайшлі мы да таго субашы, а жыў ён у Пілатавым доме, дзе яшчэ ёсць Літостратас (у Евангеллі гаворыцца пра гэта), або месца мармуровымі пліткамі выкладзенае, якое зверху самога муравання відаць, бо страхі няма. Падсенне ідзе з абодвух бакоў. Там, дзе Пілат на судзе сядзеў, стаяць тры калоны з парфіру, чырвонага каменю, каля адной з іх на рагу Госпада Нашага бічавалі; ёсць яе выява ў капліцы З'яўлення, як гаварылася вышэй. Пад тым падсеннем (адкуль відаць падвор'е святыні Саламонавай) сядзеў той субаша на зямлі (дыван яму быў падкладзены і ўзгалоўе дарагое) турэц-

**Палац Пілатаў. Літостратас.**

**Бічаванне Гасподняе.**

кім звычаем. Сядзеў з ім з правага боку нейкі турак, быў і араб, які дзеля бяспекі меўся нас за адпаведную плату праводзіць. То ж рэдка паломнікі да Ярдана хадзіць звыклі і дзеля выдаткаў вялікіх, і дзеля небяспекі; адно што як іх на Вялікдзень немалая грамада назбіраецца, дык тады складаюцца і, санджаку падарунак даўшы, якога араба сабе наймаюць, каб іх, маючы з сабою туркаў з паўгакамі, праводзіў. Я, бо абавязкова вырашыў тыя мясціны наведаць, з субашою пра бяспечную дарогу вёў перамовы; урэшце ён, сто чырвоных залатых ад мяне ўзяўшы, наняў для нас араба і, аддаўшы яму толькі пяць цэкінаў (што дзесяць залатых складае) і прыклаўшы кашулю, рэшту сабе ўзяў, бо без ягонага дазволу наняць сабе араба нельга. І пры нас да араба праз тлумача гэтак казаў: «Тыя паломнікі хочуць да Мёртвага мора (так яго называюць, бо па ім плаваць нельга дзеля празмернае гушчыні солі, так што, каб нават і чалавека ўкінуць, не патануў бы), і да Ярдана, і да Ерыхона ехаць, ці абяцаеш ты іх здаровымі назад сюды на гэтае месца прывесці?» Адказаў: «Абяцаю, бо буду мець пятнаццаць таварышаў арабаў з лукамі, найлепшым стральцоў; да таго ж арабаў, якія ў тым месцы разбой чыняць, ведаю добра і з імі вялікую прыязнасць маю. І калі б неяк здарылася на незнаёмых натрапіць, першы сам нападу на ворага і хутчэй дам сябе забіць, чым веры не стрымаю, а тады паломнікі няхай самі сабе радзяць. Яны, аднак, мусяць даваць мне харчоў, якія пакуль буду мець ад іх, паўсюль, куды толькі захочуць, іх правяду». Прысягу пасля за звычаем сваім учыніў, правай рукою да

Умова з арабам праваднікам.

Абавязак ягоны.

Прысяга.

лоба свайго дакрануўшыся і да неба вочы падняўшы; тады пайшлі мы ад субашы, які нам таксама трох янычараў з паўгакамі даў. Той араб пайшоў за намі ў кляштар, дзе на пацверджанне тае прысягі хлеб з соллю ахвотна з'еў. Бо хоць арабы разбойніцтвам займаюцца, аднак жа з прызвалення Божага шчырасць і простасць такую захоўваюць, што, калі прысягаюць і прысягу тую выканаць хочуць, на знак таго хлеб з соллю ядуць; і калі тое з ахвотаю робяць, можна ім верыць, а калі ядуць скрывіўшыся, дык у нечым даверу не маюць, як і ў гэтым нашым выявілася, бо ахвотна еў і веры нам датрымаў у часе вялікай небяспекі, пра што ніжэй гаварыцца будзе. Так, выйшаўшы за Рыбную браму і сеўшы на аслоў, выправіліся мы ў дарогу, а было з намі шэсць законнікаў. Ад'ехаўшы тры мілі вялікія дарогай цяжкаю і камяністаю, перад заходам сонца прыбылі мы ў грэцкі кляштар Св. Савы, не вельмі разбудаваны і невялікі, бо навокал так шмат ёсць у скале высечаных пячорак, што ў іх даўнымі часамі пяць тысяч манахаў жыло. Удзячна нас прынялі і вячэраю ў сваёй ядальні частавалі; калі ж я са слугамі сваімі роднаю мовай гаварыў, Дыянісій Дамаскін манах, родам з Македоніі, мову зразумеўшы, пачаў са мною па-славянску гаварыць і апавядаў, як ён у Літве бываў, і ведаў усіх амаль вяднейшых сенатараў, пытаўся і пра мяне самога, уласным маім імем мяне называючы. Згадваў і пра тое, як пасля смерці Караля Аўгуста (калі мяне Сенат выбраў разам са святое памяці біскупам кс. Валерыянам дзеля захавання грамадскага спакою), лісты пераходныя або пашпарт

**Неабходнае яе пацверджанне.**

**Пустэльнікі.**

**Быў ён пасля ў Ягамосці Пана Ваяводы года Гасподняга 1588 19 сакавіка ў Чарнаўчыцах, ідучы з таварыствам з Масквы; казаў, што той араб цяпер вялікі пан, мае пад сабою чатыры тысячы арабаў, разбойнічае. Ужо двух санджакаў ерусалімскіх забіў пасля ад'езду Ягамосці.**

у мяне ўзяў, ідучы ў Маскву па міласціну. Госпаду Богу дагодна было, каб ён мяне не пазнаў. Бо як часта грэкі да католікаў не надта прыязна ставяцца, то калі б ён мяне перад сваімі адкрыў, я мог бы мець пэўныя цяжкасці, асабліва ж не маючы ў руках пашпарта турэцкага імператара. Бо туркі не звыклі прапускаць нагоды пажывіцца, калі гэткая надараецца, што нядаўна прыдалося некаторым. У тым самым месцы апавядалі нам манахі (што мы перад тым і ў Ерусаліме чулі, бо тое ўсім вядома), як за панаванне Селіма II, імператара турэцкага, было ў тым самым кляштары тысяча манахаў і як акрутна амаль усе былі забітыя няшчасным прыпадкам. Санджак новы ў Ерусаліме на свой урад заступаў, і тыя законнікі, каб яго прывітаць і разам з тым у вачах ягоных ласку знайсці, сабраўшыся, пайшлі да яго, несучы кожны на прывітанне жывога пеўня. Калі ж той у адной грамадзе такую вялікую колькасць людзей (была іх тысяча) у аднолькавых шатах (што было вельмі прыгожа аглядаць) пабачыў, праз тлумача спытаўся, хто яны былі і чаго хацелі. Адказалі, што мы пустэльнікі Св. Савы і прыйшлі нашага новага гаспадара прывітаць, усялякага шчасця яму на тым яго новым урадзе зычачы; а як дзеля ўбоства нашага, бо прысягалі мы багаццяў ніякіх не мець, падарункаў дарагіх прынесці не маглі, дык просім прыняць хоць бы тое, што маем, і літасцівым гаспадаром над намі быць. На што той паганін кажа: «З удзячнасцю гэты падарунак прымаю, але, каб мне было прыемна на гэтулькіх гавураў (гэтак туркі хрысціянаў называюць) у адной купе глядзець, дык не магу сябе

Турэцкая жорсткасць.

да таго прымусіць, баюся я, каб за часы майго ўрадавання (бо ж іх гэтак шмат) яны на што злое не спадняліся, і з тае прычыны своечасова мушу прыняць захады і таго люду гавураў паменшыць. І выбраўшы з усіх дваццаць чалавек, якія яму спадабаліся, іншых усіх да аднаго перад ім загадаў янычарам рассякаць; а калі пра тое ў лісце да імператара свайго Селіма паведаміў, пахвалу атрымаў, што на ўрадзе сваім выяўляе сябе пільным, чулым і асцярожным. Цяпер тут пры мне да трыццаці толькі манахаў было.

Жорсткае сэрца.

Пасля вячэры мы крыху адпачылі, а калі апоўначы пачалі біць на ютрань у пліту (бо ў гаспадарстве турэцкім званы ўжываць забаронена), выйшлі мы з кляштара і пайшлі дарогаю гарыстай, паміж скаламі і камяністымі равамі, дзе, калі б нам месяц не свяціў, ніякім чынам прайсці б не здолелі. І, аднак, за тую ноч прайшлі мы тры тысячы крокаў і на світанні ўбачылі Мёртвае мора, на беразе якога спыніліся мы а другой гадзіне ўдзень.

Званы ў Турэччыне забароненыя.

Мёртвае мора.

Мора тое, або папраўдзе возера (бо толькі дваццаць міляў удоўжкі, а дзе найшырэйшае, там толькі шэсць або сем міляў мае), у тым размешчанае месцы, дзе на сведчанне справядлівасці Гасподняй за грэх распусты агонь з неба пяць местаў спаліў, называліся яны Садом, Гамора, Сахот, Амона і Сэбіён. Некаторыя (асабліва ж Георгій Цэдрэн у гісторыі) сцвярджаюць, што месты тыя праваліліся, а гэты апошні называе тры астатнія месты — Сэгор, Адама і Сэбаім. Гэтае возера амаль усё салонае, мае каменне на беразе, якое, запаленае, як дрэва будзе га-

Быццё. Садом.

рэць, крыху яго я з сабою прывёз, каб паказваць доследы. Язэп Іудзей у гісторыі пра вайну Іудзейскую і добра, і праўдзіва тое месца апісаў, асабліва ж тое, што тут тройчы на дзень мяняецца колер таго возера, бо я сам тое бачыў. Раніцаю вада чарнела, апоўдні, калі сонца паліць (бо надта тут горача), нібы сіняе сукно была; перад заходам, пасля спёкі, перамяшаная з гразёю, трохі чырванела, або хутчэй жаўцела. Пладоў з дрэваў берага таго (як той самы Іудзей піша ў кн. 5, што яблыкі здаюцца прыгожымі, а як іх сарвеш і сціснеш, унутры поўна попелу пабачыш) я тут не бачыў. Болей іх тут ужо няма ані дрэваў, ані салянога стодзіва ў постаці Лотавай жонкі, якое, хоць і так і гэтак штурхане і бітае, цэлым яму здавалася і было. Пытаўся я надта пільна і ў таго араба нашага, і ў асобаў у тых мясцінах сведамых і абазнаных, і ўсе яны цвердзілі аднастайна, што тут нідзе нічога падобнага няма. Апавядаў і Анджэла-законнік, які ў Ерусалімскім кляштары пяцьдзесят гадоў пражыў, што хрысціяне з Еўропы за яго часоў пыталіся заўсёды пра тое стодзіва і пільна яго шукалі, але нічога не знайшлі. Возера тое страшнае з аднаго толькі погляду. Бо адусюль яго акружаюць горы і скалы глухія, ваду з адметным колерам мáе вельмі густую і смярдзючую, якая, калі кроплю толькі на язык узяць (як мы тое ўчынілі), моцна яго пячэ і галаву цяжкім і заразлівым смуродам напаўняе.

Кн. 5, раздз. 5.

Яблыкі.

Лотава жонка.

Мурын.

Заспелі мы на беразе голага і надта чорнага мурына, які соль збіраў (бо возера тое соль родзіць, хоць і горкую, нібы з жоўцю змяшáную), страшны меў твар і скакаў прудка і хіжа, і вісеў

на ім сагайдак з лукам; ведаў яго наш араб, апавядаючы, што гэта славуты разбойнік, які на той час адзін тут быў, таварышаў сваіх за Ярданам пакінуўшы.

Рака Ярдан у тое возера ўпадае з таго боку, як да кляштара Св. Савы ісці. Пасля ішлі мы паўтары мілі праз глыбокі пясок да месца, дзе Госпада Нашага Св. Ян хрысціў. З правага боку ад рэчкі (якая часам вельмі пакручаста плыве) пры тым месцы, дзе Збаўца хрышчаны быў, ёсць невялікі гай цёмны, на паўмілі ўдоўжкі, а ўшыркі на стрэл лучны, усцяж над берагам ідзе. Мае дрэвы, лісце якіх да вербы падобнае, але ўсё ж інакшае, як з галінак пабачыць можна, якія я з сабою прывёз. І гэта якраз той гай, пра які Мацвей у раздз. 3, а Марк у раздз. 1 згадваюць, дзе Св. Ян хрысціў і прапаведаваў пакаянне. Тое ж, што Св. Ян еў (конікі палявыя або саранча і дзікі мёд), усё ўжо ў мясцінах гэтых пазнікала, не знайсці нідзе. Аднак падобна да праўды тое, што рака, у якой дно не гразкае, а камяністае, і якая паміж скалаў цячэ, слімакоў, якіх і так сырымі есці можна (такія і ў некаторых мара́х пладзяцца), на бераг выкідае. Але ўсяго гэтага няма. Мёд таксама ў гаі тым быць мог, цяпер жа няма нічога, адно пустэльня, што нічога не родзіць. Ярдан ваду надта мутную мае, але здаровую, калі яе ў пляшку ўзяць, захоўваецца і ніколі не псуецца, чаго я з пэўнасцю дасведчыў на той, якую з сабою прывёз. Мыліся ў ёй нашыя, калі мы на беразе елі. Ушыркі рака трыццаць локцяў наўрад ці мае, хіба што там, дзе ўпадае ў Мёртвае мора, дзе шырэй разліваецца. На другім баку відаць руі-

**Хрост Гасподні.**

**Пажыва Св. Яна.**

**Вада ярданская не псуецца.**

ны моста, які некалі Св. Алена з камення змураваць згадала. За ракою таксама, з правага боку ад возера, пачынаецца Арабская зямля, завуць яе пустою і слушна, бо, апроч пяскоў і скалаў, болей на ёй нічога няма, што кожны пацвердзіць, адзін раз глянуўшы. На паўмілі вышэй ідучы — тое месца, дзе гэбраі Ярдан пасуху перайшлі (Ісус Н., 3). Ад Ярдана да возера накіраваўшыся (крыху болей, чым за паўтары мілі), пабачылі мы царкву амаль цэлую, Св. Аленаю на хвалу Госпаду і на пашану Св. Яну збудаваную, а таксама і тую, што на месцы Хросту Гасподняга стаіць. Поўная прошча тут. З левага боку размяшчаецца Галгала (Ісус Н., 4), але камянёў, якія гэбраі былі з ракі вынеслі і тут паклалі, нідзе цяпер не відаць. З мясцінаў тых пясчаных і сухіх і неўрадлівых прыйшлі мы ў прыгожую, славутую сваёй урадлівасцю, круглую і роўную даліну, у якой места Ерыхон ляжала. За паўмілі ад места з правага боку ёсць пагорак, на якім Ісус Навін бачыў мужа, што стаяў насупраць яго з паднятым мечам (Ісус Н., 5). Дастаткова добра было адтуль відно ўсё места, і адтуль Ісус, вялікі ваявода, мог добра дзеля штурмаў і здабывання адпаведна ваколіцам прыгледзецца.

*Арабія пустая.*

*Царква Св. Яна.*

Пасля прыехалі мы ў само места Ерыхон, якое на прыгожай і ўсялякімі пажыткамі і пладамі багатай і шчодра ўрадлівай раўніне ляжала, вось жа і цяпер, дзеля вялікае цеплыні, ужо дактылі спелыя збіралі. Відаць з места, што было яно круглае; дзе ішлі муры, там быў цяпер нібы вал насыпаны, а на месцы вежаў, якіх было нямала, нібы якія пагоркі круглыя ляжаць.

*Места Ерыхон.*

Праклён той Ісусаў, у раздз. 6 апісаны, меў свой вынік, бо цяпер тут ніхто, апроч разбойнікаў-арабаў, не жыве, якія тут па чаротавых буданах пахаваліся. У канцы места засталася толькі адна вежа чатырохкантовая, і тое не цэлая, а толькі да паловы. Адны цвердзяць, што быў гэта дом тае распусніцы Рааў, бо пры муры мястовым жыла, якая, вывесіўшы вяроўку з вакна, ад разбурэння ваеннага і шкодаў усялякіх уратавалася, чаго яна папярэдне для сябе ў гэбраяў выпрасіла (Ісус Н., 2). Іншыя кажуць, што гэта жытло Захеева, якога Госпад наведаў; і так кажуць, што на памяць ці то пра Рааў, ці то пра Захея тая палова яшчэ стаіць, тым часам як ва ўсім астатнім месце ледзьве дзе на локаць цэлага муру знайсці можна.

**Дом Рааў распусніцы.**

**Дом Захееў.**

Калі я выспу Крыт апісваў, дык згадваў там крыху пра тое, якая там розніца неба і паветра, калі толькі праз горы з поўначы на поўдзень перайсці; тое ж і тут кожны, прыехаўшы з Ерусаліма ў Ерыхон, лёгка пабачыць. Бо хоць, едучы напрасткі, толькі шэсць міляў ад Ерыхона да Ерусаліма, вакол якога вельмі багата ёсць дрэваў дактыльных, аднак плод гэты там не даспявае, а тут як мае быць да сваёй дасканаласці даходзіць. Расце тут дрэва спалат, якое дорага цэняць; вялікае гарачыні патрабуе (як і ружа з Ерыхона) ды жанчынам для спародаў лягчэйшых карыснае вельмі.

**Дрэва спалат.**

**Ружа Ерыхонская.**

Плады ўсе і збожжа на два тыдні раней, чым у Ерусаліме, збіраюць, што не дзіўна. Бо тут стае гарачыні, якой у Ерусаліме амаль не адчуеш, надвор'е там здаравейшае і ночы прахалодныя.

*Крыніца Елісеева.*

Больш чым за паўмілі ад Ерыхона прыехалі мы да крыніцы, ваду ў якой Елісей соллю аздаравіў і з няпітнае вельмі добраю ўчыніў. Усю даліну вада гэтая наталяе і праз каналы, здавён яшчэ збудаваныя, у сады цячэ, глыбокая, чалавеку да плеч, шмат у ёй рыбак малых. Відны тут вялікія вельмі каналы, якімі ваду ў пустэльню і ў кляштар Св. Ераніма скіроўвалі, цяпер ад кляштара таго амаль і знакаў няма. Падсілкаваўшыся каля тае крыніцы, а пасля чвэрць мілі праехаўшы, прыбылі мы да падножжа гары,

*Гара посту Господняга.*

Квадрантэна званай, дзе Госпада Нашага сатана спакушаў; і пакінуўшы аслоў і пехатою паўмілі сцежкаю вузкай і слізкаю прайшоўшы, пад якою прорва надта вялікая, што шмат хто дзеля закруту галавы ісці туды не хацеў, дайшлі мы да паловы гары (бо далей ісці было ўжо немагчыма), дзе раўніна ёсць на шэсць локцяў даўжынёю, вельмі вузкая. Тут Збаўца Госпад наш сорак дзён і гэтулькі ж начэй пасціў (Мацв., 4). Св. Алена сцяну адну цагляную змуравала, пры якой алтар ёсць невялікі, мае поўную прошчу.

*Дам табе ўсё гэтае, калі і г. д.*

Вельмі шмат тут камянёў, пра якія сатана казаў: «Скажы, каб камяні гэтыя зрабіліся хлебам». Бачылі мы адтуль Мёртвае мора, якое, як ужо гаварылася, пад вечар чырвоную ваду мела, з гразёю перамяшаную, а таксама Ярдан і Ерыхон, дакуль, калі б хто напрасткі хацеў пайсці, было б не больш за мілю дарогі. На самым верху тае гары (але з таго боку, дзе на Ерусалім дарога) ёсць каплічка на тым месцы, дзе сатана, Госпада ўзяўшы, паказаў яму ўсе царствы гэтага свету, пра што гаворыць Евангелле. Уся тая гара поўная пячораў, у якіх калісьці пустэльнікі

жылі, цяпер жа праз жорсткіх тых паганаў няма нікога. Адтуль вярнуліся мы зноў да крыніцы Елісеевай, насупраць якой недалёка ёсць густы хмызняк, дзе мы хацелі заначаваць, бо ўжо толькі гадзіна заставалася да заходу сонца. Але калі мы вячэру гатавалі, напала на нас каля трыццаці арабаў, нашаму арабу амаль незнаёмых, якія адразу хлеб, куры і гусі (што мы з сабою ўзялі) у нас забралі. Праваднік наш араб, пабачыўшы, што пра здароўе і жыццё нашае гавораць і нешта замысляюць, хітрасць супраць іх ужыў, намовіўшы, каб нам цяпер з дарогі спакой далі, ноч, кажа, лепшая на тое будзе, бо начаваць тут хочуць; рабіў жа гэта дзеля таго, каб адразу нас не забілі. Тыя ж і сапраўды лёгка далі сябе намовіць, блізкую і зручную ноч бачачы, і памяркоўна з намі абышліся. Але араб наш асобна мяне ўзяўшы, як тлумач недзе там з іншымі быў, не могучы сказаць мне, што хацеў, руку сваю да шыі прыкладаў, паказваючы, што заб'юць нас, калі тут начаваць застанемся. Тлумач, прыйшоўшы, тое самае сказаў; дзеля чаго абвесціў я ўсім, каб у дарогу збіраліся, а ён да іх пайшоў і намовіў, што ад'ехалі ад нас. Законнікі дарогаю мінулае ночы і дзённаю спёкай вельмі змардаваныя, вядома, хацелі застацца, што і я быў бы рады ўчыніць, але як праваднік настойваў на ад'ездзе, я адказаў ім, што і сам бы застаўся, але як араб кажа, што ад разбойнікаў тых абараніцца немагчыма, дык я са сваімі мушу спяшацца, а яны, калі б хацелі застацца, дык толькі зважаючы на тое, што самі небяспецы сябе падстаўляюць, бо і араб і янычары са мною пойдуць, і ніхто з імі не за-

**Глядзі, як Госпад Бог сваіх бароніць.**

станецца. Пабачыўшы, што і араб спалохаваны быў і засмучоны, пакункі свае збіраць пачалі, тым ахвотней, што распавялі ім, як тыя самыя разбойнікі тры дні перад тым аднаго ўрадніка падстараставага, які даніну з вёсак да Ярдана прылеглых збіраў і меў з сабою шэсць туркаў, забілі разам з імі. І так, а першай гадзіне ўночы, ціха, як загадаў праваднік, рушылі мы і, пакінуўшы справа за сабою Квадрантэну, тры мілі вялікія прайшлі спешна і заехалі на высокую скалу, дзе на самым версе араб дазволіў нам паўтары гадзіны паспаць, а сам тым часам са сваімі вартаваў. Пасля, калі яму той, каго ён быў на начлезе пакінуў, паведаміў, што разбойнікі-арабы ўночы да крыніцы Елісеевай, дзе мы меліся начаваць, прыбеглі, абудзіў нас і загадаў сядаць на аслоў, што мы, бачачы, што дарога добрая, паспяшаліся зрабіць і, як развіднела, за дзве мілі ад Ерусаліма спыніліся, убачыўшы гару Аліўную, высокую і шырокую вельмі: удаўжыню на дзве мілі расцягнулася ў бок дарогі нашай ерыхонскай, а наўкола яна значна большая. Але з боку Ерусаліма прыгажэйшы спазор мае, фігавых і аліўных дрэваў на ёй багата, і тут, калі нас сон змарыў, трохі паспаць нам араб дазволіў, а сам са сваімі чуйнаваў і праз дзве гадзіны нас абудзіў.

**Гара Аліўная.**

**Бэтанія.**

Адтуль праз Бэтанію і вышэйпамянёныя мясціны вярнуліся мы ў Ерусалім і, пакінуўшы аслоў каля Рыбнай брамы, апоўдні прыйшлі ў кляштар. Тут адпусціў я араба, падараваўшы яму колькі залатых, далі яму таксама і хлеба, і мяса, і віна, што ён вельмі ўдзячна прыняў, дакляруючы і на іншы раз паслугі свае, калі

б нам якая патрэба выйшла. Аддзячыў я такса-ма і слугам ягоным, чым тыя ўсцешаныя былі. А як мы нямала стомленыя былі, дык рэшту дня адпачывалі.

**Араб адпушчаны.**

Тым часам ужо Сабадын Маўр у Ерусалім прыехаў, які з карамужанам сваім прыплыў пад Яфу, як мы з ім, выязджаючы з Трыполя, былі дамовіліся. Айцец вікары, які быў у кляштары застаўся, тым часам пра тое стараўся, каб мы Вячэрню Гасподнюю пабачыць і ўвайсці ў яе маглі. Бо хоць у туркаў грошы шмат што могуць, аднак жа і зручная нагода нямала да таго прычынілася, каб нам гэта ўдалося, а менавіта — адзін сантон сярод іншых зацнейшы, які там у Вячэрні той жыў, на той час хварэў. А як у той памянёнай Вячэрні туркі сваю машэю маюць, у якую хрысціянам нельга заходзіць, хіба толькі ў турэцкую веру перайшоўшы або за правіну тую шэсць тысяч цэкінаў даўшы; з тае прычыны гэты сантон прасіў зверхнікаў, каб манахаў ерусалімскіх, дзеля таго, што аптэкара ў сябе мелі, які яго лячыў, можна было пусціць, аднак жа ніводнага паломніка не пускаюць. І так я з двума слугамі маімі з Юрым Косам і Андрэем Скарульскім і з двума законнікамі туды ўвайшоў.

**Вячэрня Гасподняя.**

І так дня шостага ліпеня, шапачкі манаскія толькі ўзяўшы, у адзенні паломніцкім, якое вельмі да манаскага падобнае, брамаю Сіёнскай мы выйшлі з места і, на могільніку за пахаваных там католікаў крыху памаліўшыся, прыйшлі ў Вячэрню, куды нас туркі без ніякіх перашкодаў пусцілі, маючы нас за манахаў. Сені ўнутры цудоўныя, ушыркі і ўдоўжкі амаль

Апісанне Вячэрні.

трыццаць локцяў. З левага боку машэя, дзе, як кажуць некаторыя (як і айцец Стэфан Рагузін), Госпад умыў Апосталам ногі. Толькі ўвайшоўшы, мусілі мы зняць чаравікі; цырымоніі той і туркі трымаюцца, у свае машэі ўваходзячы. Нагадалі нам таксама, каб мы на дол не плявалі, бо туркі ў вялікай пашане тое месца маюць;

Глядзі на тых туркаў

цвердзяць, што там у Вячэрні Хрыстос з Апосталамі нейкае вялікае дзейства спраўляў, і яны пасля асаблівым цудам запаленыя языкі агністыя на галовах насілі і верацць, што там быў ім Дух Святы з неба спасланы (Дзеі, 2). З той ніжэйшае машэі ёсць праход у адну капліцу досыць шырокую, дзе паказваюць магілу Давідаву

Магіла Давідава.

з надмагіллем белага мармуру, які ў сабе сінія жылы мае, крыты чырвоным адамашкам з жоўтымі ядвабнымі махрамі вакол, побач з ёю другая ёсць магіла, як кажуць, цара Саламона, але

Саламонава.

ніякага акрыцця не мае. Шмат тут свяцільняў вісіць. Пасля ішлі мы вышэй, дзе над далінаю стаіць на гары другая машэя, дзе Госпад апошнюю вячэру даў Апосталам сваім. Удоўжкі да дваццаці локцяў мае, менш ці больш тая Вячэрня, прыгожая, светлая, засклярёная, з таго боку, што на падворак выходзіць, тры вакны вялікія мае, пасярэдзіне тры прыгожыя мармуровыя калоны ў рад пастаўленыя, на якіх скляпенне трымаецца. Там мы, укленчыўшы, Госпаду Богу падзякавалі, ды а. Ян кароткае казанне нам адгаварыў. Тут поўная прошча. Адтуль ідучы, праваруч ёсць выхад да месца, пакінутага без ніякага над ім акрыцця, а з яго дарога да іншага памяшкання, крыху цямнейшага, з Вячэрняю злучанага, у якім на Абраннікаў Дух Святы

сышоў. Побач такое самае другое ёсць памяшканне, у якім Госпад пасля ўваскрасення, калі дзверы былі замкнёныя, Святым Апосталам з'явіўся. Тут прошчы сем гадоў і гэтулькі ж квадрагенаў. Таямніцы, што тут адбываліся, у Апостальскіх дзеях (раздз. 1 і 2) падрабязней апісваюцца, а Вячэрня тая ад месца, на якім палац Давідаў быў змураваны (то значыць на самым версе гары Сіён), за адзін лучны стрэл. Пасля мы вярнуліся ў кляштар, дзе, справіўшы абед, выйшлі Рыбнаю брамай з места направа, і, абышоўшы амаль палову места, прыйшлі да магільні цароў Іудзейскіх. Былі раней тыя магільні ў месце, цяпер далёка ад брамы знаходзяцца, на дарозе ў Дамашак. Сапраўды дзіўная рэч, якім вялікім коштам і ўмельствам яны спрацаваныя. Бо ў самой скале, у жывым камені, там нібы нейкія каморы чатырохкутныя высечаныя, скляпенне паўкруглае маюць, у кожнай сцяне двое дзвярэй, праз кожныя ўваход у каплічкі, а ў кожнай з іх двух памёрлых пакладзена. Дык да каплічак тых з таго самага каменю высечаныя дзверы, а з рагоў кругла абчасанае каменне, і гэтак на іх завешанае, што проста нібы на завесах, і зачыніць і расчыніць іх лёгка можна. Сапраўды дзіўна, як гэта з аднаго каменю высечы можна. У Тарчаленскай катэдры, недалёка ад Венецыі, таксама ёсць вялікія пліты каменныя, якімі вокны зачыняюцца, але ў вушакі з іншага матэрыялу ўстаўленыя; тут жа з аднаго каменю ўсё вычасанае, і вушакі, што дзверы трымаюць, і дзверы, што ў вушакі ўстаўленыя, лёгка зачыняцца могуць. І тое там таксама вялікага подзіву варта, што ў капліцах тых труны каменныя

**Магільня цароў Іудзейскіх.**

**Надта дзіўная рэч.**

значна большыя, чым можна было б праз дзверы ўнесці. Пэўна відаць, што не нейкай чалавечай навукаю або рамесніцкім умельствам з двара занесеныя, але там жа з той скалы ўнутры выкаваныя і штукарствам рамеснікаў уфармаваныя. Прыгажосць у той працы вялікая, бо і на дзвярах, і на трунах розная расліннасць выбітая, дзіўным умельствам кветкі і лісце паўсюль высечаныя. Магло там больш за сорак целаў пахавана быць, і да гэтага часу ячшэ захаваліся некаторыя і бачыць іх можна, але чые яны, ніхто не ведае. Месца, як у пячоры, цёмнае; нічога, апроч свечак, там быць не можа. Пры самым уваходзе, які надта нізкі і поўны камянёў, паставілі мы варту, каб туркі дзверы не завалілі, што яны звычайна рабілі, каб загубіць хрысціянаў. Адтуль вярнуліся мы ў места праз браму Дамашскую і з правага боку ўвайшлі ў Ірадаў палац, дзе жыве цяпер адзін турак мешчанін і за падарункі аглядаць яго дазваляе. На доле ёсць нейкае малое збудаванне, дзе, як кажуць, Госпада Нашага ў белыя шаты выстраілі, і там жа яго Ірад зганьбаваў. Быў той палац на гары збудаваны. Бо апісваюць гісторыкі, што ў месце Ерусаліме тры гары выдатнейшыя былі, якія і цяпер пабачыць можна. Першая сярод іх Сіён, большая і вышэйшая за іншыя, на якой Давід быў збудаваў сабе палац, цяпер большая частка яе (як і Вячэрня) за местам. Бо ўсе аўтары пагаджаюцца на тым, што цяперашні Ерусалім значна меншы за той даўні, які не толькі іудзейскія, але і ўсе месты ўсходнія памерамі і багаццем і прыгажосцю перавышаў, як пішуць Пліній (кн. 5) і Тацыт у «Аўгусталіях». Бо той

*А з усяго таго відаць багацце цароў Іудзейскіх.*

*Палац Ірадаў.*

*Горы ерусалімскія.*

*Гара Сіён.*

стары меў дваццаць чатыры плошчы, і з кожнай дваццаць чатыры вуліцы выходзіла,а на кожнай вуліцы дваццаць чатыры завулкі было. Апроч таго Менетон, адзін рабін гэбрайскі, піша, што адных толькі бажніц, у якія з усяго гэбрайства на пэўны час сыходзіліся людзі, было чатырыста восемдзесят. Дык і тыя руіны і магілы, што цяпер за местам ляжаць, паказваюць, што за места было, бо перад тым былі за мястовым мурам. Урэшце, палац Давідаў, Саламонаў, Ірадаў, цароў і іх жонак, сады доўгія і шырокія, звярынцы, усё тое пасля супакоення вольнага валадарства ў месце мурам з часанага каменю абведзенае і замкнёнае было. Другая гара звалася Царскаю гарою. Была яна не вельмі высокая, але разлеглая і шырокая, а на ёй надта вялікі і раскошны палац збудаваў сабе Ірад Аскалонік, цар гэбрайскі і забойца Немаўлят. Пасярэдзіне быў двор царскі невыказным коштам і пышнасцю змураваны, куды Госпада да Ірада Антыпы, чацвераўладніка Галілеі, прывялі, да таго, хто і Св. Яна Хрысціцеля загадаў забіць. Трэцяя гара называлася Марыят, на ёй была святыня Саламонава, цяпер туркі там машэю маюць ды дворышча там ёсць вельмі вялікае. Гара гэтая, што праўда, ніжэйшая за дзве першыя там, дзе ідзе да места, але ад даліны Ясафатавай, якая яе і само места ад гары аліўнай аддзяляе, значна вышэйшая, і па ёй цяперашняе места ўздоўж разлеглася. Чацвёртая гара, Кальварыяй называная, раней была за местам, а цяпер у месце (на ёй Госпад Наш смерцю сваёй род чалавечы адкупіў, тут і крыж Святы быў знойдзены) і царкоўнымі будаваннямі занятая. Як ісці да яе

Завулкаў шмат было ў Ерусаліме.

Царская гара.

Гара Марыят.

Гара Кальварыя.

з места, высокаю не здаецца з прычыны забудовы, хоць увесь час трэба ісці ўгору, а з другога боку глыбокая прорва пад ёй ляжыць. Але даволі пра чатыры гары ерусалімскія, якія і цяпер відны; ёсць яшчэ пятая — Гіён, гаварылася ўжо пра яе, што, пэўна, за местам была.

**Гара Гіён.**

Як мы ўжо выбіраліся з Ерусаліма, то дзеля нетаго па абедзе трэці раз пайшлі паслухаць нешпару да Гроба Гасподняга, дзе мы і з шэсцем звыклым чынам прайшлі, і да Найсвяцейшага таемства падрыхтаваліся праз споведзь. А назаўтра раніцаю а. Ян Фларэнтыец Святую імшу каля Гроба Гасподняга спяваў (бо а. вікары выйшаў быў з царквы рэчы для дарогі неабходныя рыхтаваць) і Найхвалебнейшы сакрамант нам раздаваў. Восьмага дня ліпеня выйшлі мы з царквы, а быў дзень Святых Апосталаў Пятра і Паўла паводле старога календара, калі бачылі мы праз ноч цэлую, як розныя народы ў сваіх месцах абрады і набажэнствы свае спраўлялі. А калі мы выходзілі, дзякавалі нам усе, хто праз нас меў нагоду ў гэты Святы дзень у царкву ўвайсці, бо іначай дзеля іх саміх туркі б ім не адчынілі. Было ў тую ноч там людзей народаў розных да двухсот, а якія не адразу прыйшлі, чакалі каля брамы царкоўнае, каб, як адчыняць, убегчы ў царкву і хоць так каротка набажэнства свае Госпаду Богу справіць; каму ж і гэтага не ўдалося, той да шатаў нашых дакранаўся і цалаваў, якія там у Святых мясцінах на нас былі. Такая палкасць і пабожнасць у тутэйшых хрысціянаў, якія хоць і адступнікі, аднак Святыя мясціны ў вялікай пашане маюць, чаго ў ерэтыкоў не бывае, якія наадварот мясціны гэтыя га

**Трэці раз пры Гробе Гасподнім.**

**Набажэнства тых людзей.**

няць. А як вышэй гаварылася, што мы тройчы ў царкву гэтую заходзілі, дык трэба растлумачыць, якім чынам паломніку, што даў дзевяць цэкінаў, павінны туркі тройчы адчыніць царкву Св. Гроба, куды ён, увайшоўшы, можа перабываць, пакуль хоча, хоць бы і год, і гэта за адзін раз лічыцца, тое самае, што другога і трэцяга разоў датычна, бо кожнага разу, як хто ўваходзіць, перад замкнёнаю царквою дае грошы, за выключэннем дзён урачыстых, пад час якіх законнікі, нічога не даючы, вольны ўваход маюць, але просячы дазволу ў санджака і кады штонебудзь ім ахвяруюць. А як туркам, якія адчыняюць, таксама трэба заўсёды нешта даць, дык з тае прычыны бяднейшыя хрысціяне, раз туды зайшоўшы, жывуць там колькі хочуць, а ежу ім кляштары іхняга народу (бо ў кляштарах і паломнікі спыняюцца) праз круглае царкоўнае ваконца падаюць. Ужо звычай той патройнага адчынення за даўнасцю быў загінуў, дык мы за радаю айцоў і кады дамагліся, каб нам паводле даўняга пастанаўлення адчынялі, а на другі дзень выпускалі нас у тым самым часе. На большыя Святы амаль з усяго свету паломнікі прыбываюць сюды грамадамі, якія, увайшоўшы, пакуль цягнецца набажэнства, не выходзяць. Але не ўсе аднолькава плацяць. Тыя бо, хто недалёка ад Ерусаліма жыве, меней даюць, а хто далей, тыя — болей; хто з Дамашка і з Кілісірыі прыходзіць — тры цэкіны, хто з Сірыі Фінікійскай з-за Лівана — чатыры, хто з Апамеі і месцаў да Еўропы бліжэйшых — пяць, хто з Азіі — шэсць, хто з далейшых дзяржаў — сем або восем, хто з Еўропы —

**Як пускаюць і ўваходзяць да Гроба Гасподняга.**

**Шмат хто дае.**

Шмат тое за год складае.

дзевяць цэкінаў дае. Сцвярджаюць як рэч пэўную, што да скарбу імператара турэцкага за кожнае паломніцтва паступае ад паломнікаў да трыццаці тысячы цэкінаў, што шэсцьдзесят тысяч залатых складае. Якім парадкам і абрадам кожны народ тут у гэтым Святым месцы сваё набажэнства спраўляе, а. Стэфан Рагузін ў кніжачках сваіх, якія пра набажэнства Святой зямлі склаў і выдаў, падрабязна апісвае. Дадам тое, што каталіцкія сэрцы дзіўнымі ўцехамі Госпад Бог развесяляе, бо мясціны тыя, дзе збаўленне нашае справіў, цэлыя да гэтага часу захаваліся, асабліва ж у скалах або на каменні пакінутыя знакі. Мноства іх цэлых і праўдзіва захаваных, і з даўняга падання верацъ багабойна, што нічога не абвяргае Гасподняга выслоўя: «Камень на камені ў табе не пакінуць» — бо ён сабе ніякага крэсу ўсемагутнасці сваёй не пазначаў, і сюды людзі з далёкіх вельмі земляў, здароўя і выдаткаў не шкадуючы, прыходзяць і яму дзякуюць. Народы, што сваё набажэнства тут спраўляюць, розныя і абрады розныя маюць. У спраўленні Найсвяцейшае імшы мараніты, абісінцы і геаргіяне вельмі блізкія да каталіцкіх абрадаў, іншыя ж народы ахвяру хлеба і віна пакінулі ў сваім звычаі. Ерэтыкоў тут няма, хіба толькі які дзеля спазору прыйдзе (такія з Францыі і Нямеччыны трапляюцца); пастара ж новага Евангелля сапраўды тут не ўбачыш. Калі я трэці раз у царкву ўвайшоў з законнікамі, седзячы з сынам адным нейкага біскупа армянскага, гаварыў з ім праз тлумача, дык той, пачуўшы, што мы з далёкіх краін прыйшлі, шмат са мною пра набажэнствы розных на-

Размова.

родаў у гэтых мясцінах гаварыў і пытаўся, як мне тое падабалася. Адказваў я, што падабаецца. Бо хоць рознымі мовамі і абрадамі, але ж аднаго Госпада Бога хваляць. У той нашай размове спытаўся я ў яго, ці чуў ён таксама пра ерэтыкоў, якіх мы ў нашых краях з дапушчэння Божага за грахі нашыя між сабою маем (і пералічыў іх: лютэране, цвінгліяне, арыяне, новахрышчэнцы і іншыя). Пытаўся ён, ці яны хрысціяне. Адказаў я, што хрысціяне і за хрысціянаў сябе выдаюць. Ён жа адказаў, што не можа ніяк паверыць, каб яны хрысціянамі былі, бо яны ў тыя мясціны, дзе Бог, у смяротнае цела ўвасобіўшыся, збаўленне нашае справіў, не прыходзяць і ніякага святара, ніякага алтара для спраўлення Найсвяцейшай ахвяры тут не маюць. Бо хоць мясціны тыя ў рукі паганскія перайшлі, аднак жа хрысціяне, да якога б вызнання ні належалі, прыходзяць на глум і здзек свой, пачцівасць выяўляюць і сваё набажэнства Госпаду Богу аддаюць. І з такой шчырасцю і запалам ён тое гаварыў, што лёгка мог бы кожны пабачыць, што ад поўнасці сэрца свайго, а не ад хітрасці гаварыў. А тым часам грэк той пустэльнік, якога я ў Святога Савы бачыў і які ў нас у Польшчы некалі таксама бываў, падышоў. Зразумеўшы, пра што ішла гаворка, сказаў, што ў Польшчы ерэтыкоў часта бачыў і звычаі іхнія добра ведае. Тыя людзі (кажа) горшыя за гэбраяў. Гэтыя ж бо Хрыста ўкрыжавалі, у якога, што ён Богам ёсць, не верылі і не ведалі яго; але ж ерэтыкі, хоць і ведаюць яго і словы вызнаюць, зноў яго ўкрыжоўваюць, усемагутнасць і Боскасць у яго забіраючы. Вялікая сапраўды ў тым

уцеха, што пра пошасць гэтую тут нічога не чуваць. Пасля ў ядальным пакоі ў кляштары, калі былі там розныя народы, у тым ліку халдэі і мараніты, а нам надарылася нешта пісаць, надта дзівіліся, што мы так хутка пісаць і літары злучаць маглі, і не верылі, каб мы лёгка пасля тое прачытаць здолелі, бо ж яны занадта лёгка і ў адваротны бок, справа налева пішучы, вядуць па паперы рукою, і перш чым адну літару напішуць, часта паперу тую і сям і там паварочваюць і паднімаюць, прыглядаючыся, ці добра літара тая напісалася і паклалася. А маюць тое ў пісанні сваім, што адною літарай пэўным звычаем напісанай некалькі складоў ахапіць могуць, што б нам прыйшлося ў некалькіх словах выкладаць. Вось жа, пабачыўшы, што словы іх запісаўшы, хутка і без цяжкасцяў ніякіх чыталі мы, яны дзівіліся і хвалілі спосаб наш як хутчэйшы і лягчэйшы.

**Мараніты як пішуць.**

Трэба тут дадаць і тое, якім парадкам народы сваё набажэнства ў капліцах (пра якія гаварылася) спраўляюць. Хоць і вольна кожнаму ў капліцу іншага народа ўвайсці і там малітвы чытаць, але так, каб абрадам і цырымоніям, якія там чыняцца, ніяк не перашкаджаць. І праўда, тады толькі шэсце ідзе, калі па капліцах усе свае спевы або ахвяры справілі. Імшу ж або літургію ў іншым месцы, а не ў сваёй капліцы спраўляць забараняецца пад пагрозаю кары на тысячу цэкінаў, якія гэтулькі разоў мусіш даць, колькі б ты на тое наважыўся. Свяцільні можна ў чужой капліцы вешаць, аднак іх ужо тут так багата ёсць, што няма болей месца, куды можна было б яшчэ павесіць, з тае прычыны не заўсёды

**Парадак набажэнства.**

**Свяцільні розныя.**

тое дазваляюць, асабліва ж у Гробе Святым, дзе майго часу сорак дзве віселі, а з іх гарэла толькі дваццаць адна (бо фундатары іхнія алею не падлівалі), а з тых каталіцкіх было пятнаццаць. Святога Айца адна заўсёды гарыць, другая — кардыналаў усіх, трэцяя — імператара Рымскага, чатыры — караля іспанскага, дзве — каралеўства іспанскага, дзве — караля партугальскага, караля французскага таксама дзве, але гэтых з нагоды вайны і рыцарскіх закалотаў не запальваюць. Манахі, аднак, на гербы караля французскага гледзячы, за адною, паводле ўбоства свайго, даглядаюць, дык гарыць. Рэспубліка Венецкая мае адну, князі і паны і іншыя багабойныя людзі таксама свае запальваюць. Адна свяцільня на год, што датычыць алею, дваццаць пяць цэкінаў каштуе, што нашых пяцьдзесят залатых складае. Калі ж хто міласціны на дагляд свяцільні сваёй не пасылае, дык хоць яе (дзеля нястачы алею) не запаляюць, але ж і не здымаюць, бо раз павесіўшы, здымаць ужо болей не гадзіцца. Перад Гробам Гасподнім у Круглай капліцы чатырнаццаць свяцільняў, з якіх дванаццаць гараць заўсёды, каталіцкіх — дзевяць. У дзвярах той капліцы адна, а перад ёю, каля Гроба Гасподняга, шэсць заўсёды гараць. На гары Кальварыйскай, як там месца дастаткова, каталіцкіх князёў і паноў трыццаць тры свяцільні, усе вісяць запаленыя. Геаргіяне перад тым месцам, дзе крыж Гасподні стаяў, трыццаць тры павесілі, але з іх толькі пяць запаляюць. Перад каменем Памазання восем запаленых каталіцкіх. Перад алтаром Св. Марыі Магдалены тры каталіцкія гараць, у Вязніцы дзве грэцкія, каля

**Адна свяцільня на год колькі каштуе.**

алтара Дзяльбы шатаў Гасподніх адна, у капліцы Знайдзення крыжа Святога адна каталіцкая запалена, грэцкія дзве ля малога алтарыка, які там праваруч стаіць. У капліцы Святой Алены дзве, у капліцы абісінцаў (дзе частку слупа, пры якім Госпад быў каранаваны і зганьбаваны, захоўваюць) адна вісіць. Але тыя свяцільні, што розным народам належаць, у святы толькі або калі паломнікі шэсце спраўляюць, запальваюць, пасля ж адразу гасяць.

**Святары зачыняюцца ў царкве Св. Гроба.**

Быў заўсёды гэткі звычай і цяпер ёсць у гэтай царкве, што розных народаў святары на колькі месяцаў, паводле пастановы зверхнікаў іхных, унутры зачыняюцца. З нашых законнікаў заўсёды бываюць два святары і два лaікі (майго часу быў над імі пастаўлены бр. Мікалай Нані Друзіец), якіх праз два або тры месяцы замяняюць, хіба толькі калі хто захварэе, дык тады, узяўшы яго ў кляштар, другога на яго месца пасылаюць. Тое самае і іншыя народы звычайна робяць. А парадак у спраўленні Божай хвалы вытакі ёсць паміж імі. Тыднёвы ўрад і службу выконвае кожны, гэта значыць адзін святар на цэлы тыдзень, і ў нядзелю пры Гробе Гасподнім,

**Парадак набажэнства.**

у пятніцу на гары Кальварыі, у суботу ў капліцы З'яўлення Найсвяцейшае Дзевы імшу чытае з кадзеннем алтара; у іншыя дні, гэта значыць у панядзелак, аўторак, сераду і чацвер, таксама пры Святым Гробе, але без кадзення, Найсвяцейшую ахвяру спраўляе; кожны іншы, калі не ягоны цяпер тыдзень, дзе яму падабаецца чытае.

Хоць розныя людзі, доўга тут жывучы, царкву тую і збудаванне яе падрабязна і дастаткова

апісалі, я, аднак, што я сам пабачыў, наколькі мне кароткасць побыту майго тут дазваляла, тут прыгадаю, хоць шмат пра што ўжо вышэй пісалася. Праміну́ўшы тое, якім коштам і заможнасцю царква тая памянёная з прылеглымі пабудовамі была пастаўленая, у якой не толькі значная колькасць святароў, але і амаль усё войска рыцараў Божага Гроба (калі Ерусалім у руках хрысціянскіх быў) змясціцца маглі; заначыць трэба, што ўвесь яе гмах з прыгожых і вялікіх квадратных камянёў, з вежаю на званы, высока ў выглядзе крыжа збудаваны. Абкладзеная царква часаным каменем, сцены ў чатырох рагах сыходзяцца, гэта значыць на чатыры бакі змураваныя, хіба толькі на ўсход і захад сонца паўкругам сталі. Калоны чатырохкантовыя навокал стаяць, паводле якіх шэсце ідзе, а над імі толькі з заходняга боку галерэя. Над самым Гробам Гасподнім купал царкоўны, скляпенне круглае, да паловы пукатае, а рэшту адтрамы фугаваныя закрываюць. Зверху ёсць забясно вакно круглае, якое дастатак святла забяспечвае, накшталт таго рымскага ў царкве Св. Марыі Ратундзе. Дождж у гэтых краях рэдка бывае, дзеля чаго менш небяспекі там пабудовам, асабліва ж капліцы Св. Гроба, бо верх мае мармурам выкладзены; таксама і сцены, не знутры, а як выйсці вонкі, паўсюль плітамі з шэрага мармуру, што слупы парфірныя раздзяляюць, пакрытыя. Купал (як і ўся царква) бляхаю падбіты.

**Царквы Ерусалімскай апісанне.**

Уваход у царкву з сярэдзіны к поўдню. З правага боку магілы каралёў французскіх у капліцы грэцкай. Насупраць дзвярэй царкоў-

ных ляжыць камень, на якім Госпада, з крыжа знятага, масцямі пахучымі памазалі. Крыху далей пры дзвюх калонах ёсць дзве магілы, іншыя таксама каля сцяны капліцы рускай (пра што ніжэй) сыноў або родзічаў якіх тым памянёным каралям; надгробкі даўнасцю сцёртыя, прачытаць немагчыма. З левага боку ад увахода на доле пад ганкам паміж дзвюма калонамі абісінцы сваю маленькую малельню маюць, дошкамі ад царквы аддзеленую. Мае бо кожны народ, апроч сяцілішча на месцы, дзе Госпад нейкую пакуту прыняў, таксама малельню асобную, дзе набажэнства сваім абрадам спраўляе. Недалёка ад абісінцаў тамсама на доле маюць месца сірыяне або мараніты (гэта хрышчоныя арабы), дзе таксама і магілы сям'і Язэпа з Арыматэі відаць. Рэшта долу належыць католікам, у якіх і той верхні ганак увесь быў здаўна.

Кафеі, або халдэі, свайго сяцілішча і малельні не маючы, за капліцаю Божага Гроба насупраць сірыянаў, што пад галерэяй, змуравалі сабе маленькую каплічку, прылеглую да Св. Гроба, дзе набажэнства сваё спраўляюць. Як даўно і якім чынам месца тое атрымалі, я не мог з пэўнасцю даведацца. З паўночнага боку стаіць капліца католікаў, званая капліцаю З'яўлення (пра яе ўжо часта гаварылася), да якой здаўна нейкія памяшканні каля самай царквы прылучаныя. Ёсць у іх пакояў нямала і жытла прыдатнага, ёсць і кухня невялікая, пры ёй ядальня, дзе мы елі, ёсць і месца невялічкае пасярэдзіне, якое над сабою з верху акрыцця не мае. Недалёка ад ядальні ёсць прыступкі, па якіх ход у верхнюю царкоўную галерэю. А пры

**Розныя пабудовы пры царкве.**

выхадзе з той капліцы З'яўлення недалёка ад дзвярэй ёсць алтар (як было сказана, Св. Марыі Магдалены), адтуль далей праход да свяцілішчаў (пра якія таксама часта пісалася) і да сходаў, па якіх да капліцы Св. Алены спускаюцца, а за ёй да месца Знайдзення Святога Крыжа. Пасля ідзём у свяцілішча абісінцаў, дзе захоўваюць выяву таго каменя, пры якім Госпада цернем укаранавалі, адтуль па прыступках узыходзім на Кальварыйскую гару, якая з поўдня да сцяны царкоўнай прылягае, маюць тут грэкі сваю малельню пасярод царквы, паміж калонамі нізкім мурам абведзеную, большую за ўсе іншыя; з усходу дзверы царкоўныя мае, з захаду Гроб Гасподні, ад яго сюды ёсць уваход, а пры ім алтар маленькі тых самых грэкаў, просты, без аздаблення. Вакна ніякага ў царкве няма, апроч таго круглага і расчыненага ў капліцы Гроба Гасподняга ўгары, якое дастатак святла і іншым малельням забяспечвае, апроч таго, паўсюль свяцільні гараць. Ёсць, аднак, на гары Кальварыі на поўдзень вакно высокае, на вуліцу з яго спазор, абароненае яно досыць добра кратамі жалезнымі; у капліцы той нашай, гэта значыць католікаў, на ўсход ёсць вакно, кратамі жалезнымі заспасобленае, святла досыць. Падлога з каменю квадратнага прыгожага і вялікага; з чаго пабачыць няцяжка, якімі выдаткамі і пільнасцю Св. Алена імператрыца тыя мясціны Святыя на часы і гады далейшыя забяспечыла. Калі хто, чытаючы гэта, заўважыў, што я прапусціў нешта, хай мне слушна прабачыць і паправіць. Бо ані таго будынку да канца памятаць не мог, ані народаў усіх, што ў царкве бываюць,

дзеля кароткасці побыту пабачыць не мог, бо я толькі тры разы ў царкве быў, застаючыся кожнага разу ад нешпару да поўдня другога дня; а яшчэ месца гэтае Святое тую ўласцівасць ад Госпада Бога мае, што кожнага найвялікшага (якім я і сябе лічу) грэшніка дзівосным чынам да пабожнасці пабуджае і запаляе і пры ім трымае, каб ён гэтак невыказныя дабрадзействы і справы Гасподнія як найпільней адчуваў і заўважаў і за іх пакорлівым сэрцам Яго Найсвяцейшай Велічы дзякаваў.

Восьмага дня ліпеня, выйшаўшы з царквы, елі мы ў кляштары; а як назаўтра меліся мы выправіцца ў дарогу, то пайшлі найперш да кады развітацца і прасіць, каб даў нам у дарогу янычара; высыпалі мы перад ім два цэкіны манетамі, але ён толькі два саіны ўзяў, а рэшту нам вярнуў. Бо хоць той кады турак, але ж добры чалавек і не сквапны, што туркам ад натуры

**Аздобная брама.**

ўласціва. Даў нам янычара, і з ім пайшлі мы адразу да брамы Аздобнай, пра якую ў Дзеях Апостальскіх гаворыцца.

Брама тая вялікая і вельмі высокая, у якую па некалькіх прыступках падняцца трэба, дазволілі і нам падняцца, але за парог ісці забаранілі,

**У святыню Саламонаву хрысціянаў не пускаюць.**

бо там ужо дворышча святыні Саламонавай. Вельмі хацеў я зблізу дворышча тое пабачыць, то прайшлі мы направа праз весніцы на вулку, якая найбліжэй да святыні вядзе. Дворышча тое вузкае, ледзьве на сорак локцяў. Адтуль вельмі добры быў спазор на святыню Саламонаву, якая, відаць, прыгожая і светлая, унутры свяцільняў запаленых вельмі багата. Калі мы ля тае брамы стаялі і глядзелі, туркі, смеючыся,

праз тлумача казалі да нас, каб мы на дворышча ўвайшлі, даючы нам зразумець, што адразу законаў сваіх, супраць хрысціянаў скіраваных, ужывуць. Бо ўсюды ў машэі свае нам забараняюць уваходзіць, тут жа і на падвор'е ступіць не дазваляюць. І калі б хрысціяніну собіла ўвайсці ў якую машэю і калі б не схацеў туркам стацца, мог бы жыццё сваё адкупіць шасцю тысячамі цэкінаў; тут жа хто толькі на падвор'е ўвойдзе, або абрэзацца мусіць, або памерці неадменна. Бо туркі так разумеюць, што не толькі святыні Саламонавай, але і падворку яе прывілей Богам дадзены служыць, паводле якога кожнаму, што б ні прасіў, даць абяцаў. То ж і хрысціяне маглі б (кажуць туркі) сюды ўвайсці і ў Бога прасіць, каб туркаў адсюль выгнаў і зноў мясціны гэтыя святыя хрысціянам вярнуў, у чым бы Бог напэўна іх паслухаўся. Гэткаю слепатою тыя нягоднікі тут заражаныя. Пытаюцца ў іх таксама нашы, чаму ж вы, калі ўжо на гэтым прывілеяваным месцы моліцеся, не папросіце Бога, каб ён хрысціянаў загубіў. На што яны маўчаць або галовы сабе б'юць. Іншыя ж кажуць, што такіх рэчаў нельга ад Бога прасіць. Хто тут на ўспамін працы Гасподняй, за якую браўся ён, народ гэбрайскі навучаючы і шукаючы збаўлення ягонага, «Ойча наш» і «Вітай, Марыя» адгаворвае, поўную прошчу мае. Ідучы адтуль да палаца Пілатавага па дарозе Смутку, вярнуліся мы ў кляштар амаль пад вечар.

**Якая кара, калі хто ўвойдзе.**

**Чаму не пускаюць.**

І так мулаў і аслоў наняўшы, іншыя рэчы, неабходныя для дарогі заўтрашняй, рыхтавалі. А як я два тыдні ў Ерусаліме жыў, лічачы і тыя дні, калі мы на Ярдане і ў Бетлееме былі, а по-

**Якія доўгія дні і ночы ў Ерусаліме.**

быт мой трапіў на той час, калі дні бываюць найдаўжэйшыя; дык шмат хто пытаўся, ці ж так узімку, як улетку, заўсёды ў Ерусаліме роўныя па дванаццаць гадзін дні і ночы, як Госпад сказаў (Ян, 11). Але як ні ў месце, ні ў кляштары ніякага гадзінніка няма, цяжка было пра тое даведацца. Наколькі ж з сонечнага гадзінніка і вадзяного ў кляштары меркаваць можна, ноч, ад захаду да ўсходу, карацейшая за дзесяць з паловаю гадзін не была, што і манахі пацвердзілі. Далейшае даследаванне пакідаю багасловам.

**Хамелеон які.** Тут варта пра хамелеона звяра распавесці, бо мы іх тры ў кляштары бачылі, на дрэвах аліўных, дзе яны хаваліся. Постаццю і велічынёю роўныя яшчарцы, не кусае, бо роту няма, і не ежай якою або пітвом, але адным толькі паветрам жывіцца. Дзірку невялікую мае, як пярцовае зярнятка, праз якую паветра ўдыхае. Атруты ніякай у сабе не мае, ходзіць надта лянівa і павольна, так што за цэлы дзень ледзьве на адзін локаць адпаўзе, калі на руку яго пакладзеш (бо не такі ён брыдкі), ледзь варушыцца, пакуль зноў на зямлю не пасадзіш. З дрэва ніколі не злазіць, плямы на ім рэдкія чорныя, фарбу

**Як мяняецца.** і колер змяняе і такі робіцца, як тое, да чаго прытуляецца, апроч чырвонага і жоўтага, чаго мы часта сведкамі былі. Плямы ж ягоныя, што чорныя на ім, не мяняюцца, толькі сама скура. Вочы пукатыя, круглыя і прыязныя мае, адным угору, другім на дол глядзіць, а ў адным часе гэтак перад сабою, як і за сабою бачыць можа.

Калі яго на які колер пасадзіш, а над ім іншы падвесіш, на абодва адразу будзе глядзець, пасля да якога мацней прыгледзіцца, тым брац-

ца пачынае, пакуль увесь такі не зробіцца, апроч плямаў. Садзіў я яго на белым, зялёным, сінім, чорным сукне, усімі тымі колерамі брауся; а калі пасадзіў на чырвоным, застаўся ў сваёй нязменнай скуры. Жоўтага я пры сабе не меў, але кажуць, што і на ім не мяняецца. Ніколі не спаражняецца, бо нічога не есць, з аднаго паветра толькі жывы, таму замкнуты і цэлы.

**Дарога з Ерусаліма дадому.**

Дзевятага дня ліпеня, выслухаўшы найсвяцейшую імшу і справіўшы абед, развіталіся мы з законнікамі і выйшлі праз Рыбную браму, дзе сказалі нам зброю нашую прынесці, якую мы дзеля захавання ў кады былі пакінулі. І праўда, аддалі нам яе, але непашанаваную і з абламанымі канцамі. І так за чатыры гадзіны перад заходам сонца выехалі мы з Ерусаліма і праз чвэрць мілі з левага боку мелі мы гару, на якой руіны царквы відаць, дзе, як кажуць, была магіла Самуіла Прарока, дык і цяпер тое месца так называюць. Пасля, калі мы мілю вялікую праз гару праехалі, з правага боку паказалі нам за паўмілі другую гару, ля падэшвы якой мястэчка Эмаус ляжала, куды ніякім чынам не маглі мы праехаць дзеля арабаў, якіх туды пяцьсот конных было наехала, каб напаіць коней, бо яны дзеля вады і выпасаў месца часта мяняюць. Тыя, хто Эмаус набачыў, сцвярджаюць, што ўжо колькі гадоў набездамі арабскімі мястэчка гэтае дарэшты спустошанае, ледзьве дзесятак дамоў здалёку відаць. Спаткалася нам па дарозе колькі конных мурынаў, як відаць, разбойнікаў, якія, маючы з янычарам нашым знаёмства, вольна нас пусцілі; адзін, аднак, з іх торбу, што пры сядле каня

**Магіла Самуілава.**

**Эмаус.**

майго вісела, абмацаў, але колькі кашуль у ёй пабачыўшы, даў спакой і паехаў прэч.

Мілю ад'ехаўшы, сталі мы ў даліне Дуба, дзе Давід Галіяфа забіў; яна даволі доўгая і вузкая. Невялікі мост мае над патокам, якога за Давіда там не было, але цяпер, калі бывае (хоць і рэдка ў гэтых краях) дождж, патроху збіраецца. За тым мостам ляжыць нейкая вёска турэцкая. Паўмілі ад таго моста ад'ехаўшы, ужо на заходзе сонца, прыбылі мы ў царкву Св. Ярэмы, пры якой быў калісьці і кляштар, цяпер ужо разваліўся, а царква цэлая. Пад гарою, за кідок каменя, ёсць крыніца халодная і поўная, пра якую арабы хрысціяне апавядаюць, што яе першы Св. Еў знайшоў, чые таксама і дамы разваленыя з левага боку паказваюць; пра што хай багасловы спрачаюцца, бо некаторыя кажуць, што ў зямлі Абяцанай Святы Еў не жыў. Спаткалі мы тут дзвесце конных арабаў, якія былі ад тых пяцісот, што ў Эмаусе ляжалі, аддзяліліся, бо не пагадзіліся з туркамі, што там жывуць, якія ім даніны (што з вёсак турэцкіх арабы, як вышэй сагаварылася, збіраюць) даць не схацелі. Тае самае ночы забілі там былі колькі вяскоўцаў турэцкіх, таму і мы, як ноч надышла, мусілі там у царкве пустой адпачываць. Наш мурын Сабадын (які ў Ерусалім па нас прыехаў, каб нас цераз мора перавезці, як мы былі з ім раней дамовіліся), арабам не давяраючы, з адным іх таварышам, а нават верхаводам, чалавекам высокім і надзіва прыгожым, дамовіўся, каб ён усю ноч стаяў на варце. Доўгія і дзіўныя перамовы гэтыя двое між сабою вялі. Бо калі яму Сабадын даў колькі майдынаў, той, іх узяўшы, на зямлю

Дзе Давід волата забіў.

Крыніца Св. Ева і дом.

шпурнуў, Сабадын жа іх зноў з зямлі падняў і суваў яму ў руку, але той больш за дзесяць разоў кідаў, урэшце Сабадын бохан хлеба, пару яек вараных і печаную курыцу дадаў, дык той супакоіўся і пагадзіўся, хіба што яшчэ віна вельмі прасіў, ад якога народ той, хоць памрэ, устрымацца не можа. Але ж мы і самі на той час не вельмі ім былі заспасобленыя. І так ён з дваццаццю таварышамі нас вартаваў, і верна.

Справядлівы торг.

Раніцаю, як развіднела, дзесятага ліпеня рушылі мы адтуль і, паўтары мілі ад'ехаўшы, натрапілі на арабаў, якія гналі вялікі статак вярблюдаў. Быў адзін паміж імі, з якім наш мурын з Рамы (той, што нам быў мулаў наняў) варагаваў. І так, скочыўшы адзін да аднаго, спярша з лукаў стрэлілі, з чаго колькі людзей паранілі, і нашаму левая рука была пашкоджаная. З таго боку аднаму жывот прабілі, без сумнення мусіў памерці. Я спытаўся, ці не трэба яму цяпер санджака баяцца, але ён адказаў, што хоць бы і той памёр, нічога з таго. Бо забойцу кожны, хто толькі захоча, можа забіць, ніякага клопату або пакарання за гэта не будзе.

Дзіўны закон.

Пасля тых такіх высокіх гор прыехалі мы на вялікую і прыгожую раўніну, з якой за дзве мілі было відаць Раму. З левага боку на гары відаць руіны замка, называюць яго замкам добрага Лотра, у якім той Святы Лотр нарадзіўся. А на самой раўніне справа, недалёка ад гасцінца, стаіць царква амаль цэлая, называюць яе царквою Макавеяў, пра якіх кажуць, што там былі пахаваныя.

Радзіма Св. Лотра.

Пахаванне Макавеяў.

Пасля апоўдні прыехалі мы ў Раму, пра якую Стэфан Рагузскі піша, што не Рама, але

Рама.

Арыматэя радзіма Язэпа таго, які Госпада, з крыжа зняўшы, пахаваў. Відаць, што некалі места было і вялікае і прыгожае, цяпер усё ў руінах. Жывуць тут мурыны, ведамыя рабаўнікі, хрысціянам вялікія ворагі. Звярнулі мы да разваленага кляштара, дзе паломнікі спыняюцца. Тут чатыры капліцы, адна Нікадымава, які быў уночы да Госпада прыйшоў і пасля, разам з Язэпам, пахаваў, пахучымі масцямі памазаўшы. Кажуць, што калі пасля ў Госпада паверыў, дык тут жыў і распяцце з дрэва зрабіў (захоўваюць яго цяпер у Луцы, месце валошскім, у катэдры), пра што Стэфан Рагузін у кнігах сваіх падрабязна піша. Хацелі мурыны на нас уначы напасці, але калі пабачылі, што мы не спім, не наважыліся. Праход тут паломнікам небяспечны.

*Жытло Св. Нікадыма.*

Спаткалі мы тут колькі янычараў, і быў паміж іх нейкі Магамет, проста нягоднік і злы чалавек, які быў з намі прыехаў з Трыполя. Дык ён пайшоў да старасты і раіў яму нас затрымаць, кажучы, што мы не такія ўбогія, як сябе выдаем, але грошай у дастатку маем. І без усялякага сумнення не абмінулі б нас цяжкасці вялікія, калі б Сабадын мурын не ўратаваў. А так далі мы таму старасту дзесяць цэкінаў, і ён нам да таго ерусалімскага янычара другога дзеля небяспекі дадаў. Раніцаю, як мы ўжо ад'язджалі, той ерусалімскі далей з намі ехаць не захацеў, калі мы яму плату не падвысім.

*Турэцкае дабрадзейства.*

Бо хоць пры кады мы дамовіліся з ім да Яфы за чатыры цэкіны, аднак жа туркі звычай маюць ва ўсіх сваіх умовах падвышаць плату (чаго мы і на іншых дасведчылі), то ж і не хацеў далей ехаць, пакуль мы яму за тыя дзве мілі з Рамы да

*Дарога.*

Яфы два цэкіны не даплацім. Таксама рамскі янычар казаў, што калі той не паедзе, дык і ён застанецца. І так зноў мусілі мы яго задаволіць, а найбольш дзеля таго, што той янычар Магамет хацеў нас у дарозе забіць, як нас Сабадын папярэдзіў. І тады па доўгіх размовах далі мы ім грошы, якімі тут надта раскідвацца вельмі небяспечна. Бо хто іх шчодра раздае, таму туркі хутчэй пасткі ставяць.

Даволі добрай дарогаю прыехалі мы раніцай у Яфу. Места тое ў Дзеях Апостальскіх даволі важнае. Тут бо баслаўлёны Апостал Св. Павел Табіту памёрлую ўваскрасіў і тут быў па яго ротмістр Карнэлі з Цэзарэі, просячы, каб яго наведаў, сяброў сваіх паслаў. Места гэтае перад тым на гары стаяла, цяпер усё разваленае, апроч аднае вежы, у якой варта жыве. На беразе морскім ёсць колькі старадаўніх склепаў, да якіх мы павярнулі. І тут заспелі мы карамужан нашага Сабадына ў порце, які тут вузкі і цесны і стаць могуць у ім хіба толькі невялікія караблі. Адтуль, хоць быў вецер спадарожны, не маглі мы, аднак, у той дзень выехаць, бо ў Лідзе (пра якую ёсць у Дзеях Апостальскіх, едучы з Рамы мы бачылі яе з правага боку) туркі былі, якія рэчы паломнікаў вытрасаюць і глядзяць, каб якіх тавараў не вывозілі, з тае прычыны плаванне нашае адклалі мы да наступнага дня. А тым часам раніцаю два меншыя судзенцы прыплылі, якія з Каіра да Даміяты ракою Нілам, а з Даміяты праз мора сюды прыплылі. У адным былі тры валохі, а менавіта біскуп нейкі з двума слугамі ды двое законнікаў францішканскіх, якія ў Ерусалім ехалі. Біскуп тытул

Яфа.

свой хаваў перад намі, баючыся, каб іншыя не даведаліся, што перад тым ён быў у Ерусаліме, а адтуль выправіўшыся, Егіпет і Сінай бачыў. Наймаў ён мулаў да Рамы, дзе меўся каравана чакаць, які з Газы да Дамашка ехаў, а далей да Алепа або Апамеі, адтуль жа да Канстантынопаля пасуху. Калі ён выходзіў з судзенца, прыбылі туркі, якія рэчы нашыя меліся аглядаць. А як біскуп у Раму спяшаўся, дык туркі найперш ягоныя пакункі расчынілі, у якіх надта прыгожыя рэчы знайшлі (з Егіпта быў з сабою вывез), менавіта адну скрыначку або каламар з перламутру вельмі штукоўна зроблены; скрынкі меў з слановае косці, а шуфлядкі з розных камянёў усяляк вырабленыя. Усё тое туркі ў яго забралі, а як не меў ён нікога, хто б за яго заступіўся і бараніў яго неяк, сапраўды вельмі аб гэтым і іншых забраных рэчах бедаваў; калі ж я пабачыў, што няма ў яго ў гэтых краях паганскіх ніякага ратунку, загадаў сваім янычарам, каб яго неяк баранілі, і дамогся, каб мне тыя рэчы ягоныя прадалі, нібы для мяне самога. Але пасля вярнуў я ўсё яму патаемна, за што ён шчыра мне дзякаваў і качку егіпецкую жывую, зялёнымі і сінімі пёркамі шчодра прыродаю аздобленую, на высокіх нагах мне падараваў, і я з сабой яе ў Трыполь прывёз. Нагаварыў ён мне пра дзіўныя рэчы егіпецкія і нямала мне натхніў, каб я туды паехаў. Пасля туркі нашыя рэчы агледзелі і, нічога, апроч аліўных крыжоў і пацерак з Ерусаліма вывезеных, не знайшоўшы, дазволілі ўсё на карабель занесці, чаго хрысціянам без іх ведама рабіць нельга.

**Справядлівасць турэцкая.**

**Качка егіпецкая.**

Варта адзначыць яшчэ і тое, што Апостальскі пасад гэтаму месту Яфе ўсе прошчы даравау. Бо якія паломнікі сюды ні прыязджаюць (і праўда, з Кіпра і іншых краёў хрысціянскіх шмат іх плыве, дый мы былі вырашылі ехаць), нават калі іншых мясцін Святой зямлі як след не наведаюць, а толькі тут на беразе ў Яфе стануць, усе прошчы атрымаюць так, нібы самі сваёю асобай тыя мясціны наведалі. Дазволена тое дзеля таго: войны, арабскія напады, пошасці, хваробы, нястача шмат каго з паломнікаў затрымліваюць і далей ісці не дазваляюць.

**Сапраўды вялікая рэч.**

**Слушна.**

Калі мы ў карамужан рэчы занеслі, узняўся вецер вялікі, сярэдні паміж захадам і поўначчу, бліжэйшы, аднак, да поўначы, валохі называюць яго маэстра трамантана. І так чакалі мы баючыся, каб ён нас да гары, што ў мора выходзіць побач з Яфай, не прыбіў (за гарою гэтай Цэзарэя ляжыць, часта згадваецца яна ў Апостальскіх дзеях, там ротмістра Карнэлія Св. Пятро ахрысціў, туды Св. Павел часта прыбываў і там быў увязнены, а пасля на пакуты ў Рым на караблі адсюль плыў), калі б мы выплыць вырашылі. Надвячоркам вецер суняўся, а мы, укленчыўшы, падзякавалі Госпаду Богу, што ён нам тыя мясціны, дзе збаўленне роду чалавечага справіў, даў агледзець і што правадзіў нас і паўсюль да нас дабрыню сваю і апеку выяўляў, так што нам і волас з галавы не ўпаў. І так, пацалаваўшы Святую зямлю, ужо калі зайшло сонца, селі мы на наш карамужан, але дзеля ветру зноў мусілі стаяць на катвігах, пакуль нас дзве гадзіны бура сюды-туды насіла па моры. Пасля падзьмуў спадарожны, тады і вы-

рушылі мы і перад поўначчу прамінулі тую гару морскую, небяспечную вельмі. Падзьмуў таўрус, якога валохі маэстра называюць, ва ўсіх адносінах спрыяльны і нам патрэбны, і пакуль

Цэзарэя.

ён веяў, уночы мінулі мы Цэзарэю. Якраз на світанні пабачылі мы мыс Кармэль, што ад Яфы за дваццаць міляў. Пад вечар места ўдоўжкі

Сідон. Тыр.

разлеглае Сідон праплылі, а ў той самы вечар і Тыр. Стаіць Тыр нібы на круглай выспе, некалі ад зямлі на семсот крокаў аддзелены глыбокім морам, як сведчыць Пліній. Аляксандр Вялікі, калі яго здабываў, каменне ў ваду накідаў і першы з зямлёю яго злучыў, пра што і Язэп піша. На другую ноч таксама быў вецер пагодны, і так мінулі мы Берыт (дзесяць міляў ад Трыполя), а калі мацнейшы вецер падзьмуў, праз тры гадзіны, раніцаю ў Трыполь, места сірыйскае, другі ўжо раз прыбылі, краіны, што пад Кармэлем іЛіванам ляжаць, абмінаючы, каля якіх, як мы з Яфы плылі, бура нас насіла. Але першаю дарогай за васемнаццаць гадзін праплылі мы былі шэсцьдзесят міляў, цяпер жа дзве ночы і паўтары дні мусілі мы плыць, і тое ледзь паспелі. Спаткалі мы ў Трыполі той наш венецкі карабель, якім мы ў Кіпр выпраўляліся, з шмат кім іншым ён сюды толькі што з Венецыі прыплыў, а разам прыйшлі і да мяне лісты з Літвы. А як у Трыполі меў я шмат знаёмых, дык здалося мне, нібы я на адпачынак дадому прыехаў. Бо адзінаццатага дня чэрвеня з Трыполя выехаўшы і аж да чатырнаццатага дня ліпеня на кароткай сутане (якая ў паломнікаў замест плашча) спаць даводзілася, толькі што ў Ерусаліме матрацаў цвёрдых законнікі нам далі, была

і пасцель цвёрдая для паломнікаў, чаго мы ўсе патроху паспрабавалі. Калі, выйшаўшы на бераг, ішлі мы ўлева, у полі намёты Джафар-пашы (якому ўрады над Сірыяй былі часова дадзеныя) разбітыя бачылі. І таму ён (паводле звычаю) ляжаў у полі, што яшчэ пацвярджэння даніны не меў, і да Егіпта едучы, так я яго пакінуў. Было з ім колькі соцень конных, з якіх большасць мела на спінах рысіныя шкуры. Увайшоўшы ў места, скіраваліся мы ў карвасэрыю венецкую, дзе нас знаёмыя ўдзячна прывіталі і да сябе прынялі.

Няшчасны выпадак.

Здарыўся тут няшчасны выпадак, пра які, як мне бачыцца, трэба напісаць. Святар адзін, Антоні нейкі, з места Панорма, што на выспе Сіцылія (кажуць, што быў ён плябанам у адным месце біскупства Міланскага), у караблі венецкім (што зваўся Фалера) прыплыў у Трыполь. Паводле звычаю іншых паломнікаў, накіраваўся ён адразу да законнікаў францішканаў, дзе ранікай у суботу меў імшу. А па імшы адразу да айца гвардыяна пайшоў і сказаў яму, што калі меў імшу аб Святым Духу, натхніў яго Госпад Бог, каб ён, веру хрысціянскую пакінуўшы, у магаметанскую абрэзаўся. Чуючы тое, законнік вельмі засмуціўся і намаўляў яго, каб Госпада Бога перад вачмі сваімі меў, чыім слугою і святаром ён быў. Але той апантаны чалавек, перш чым ісці да імшы, тлумача сабе наняў і, імшу справіўшы, з кляштара пайшоў да кады. Заспеў у яго гандляроў валошскіх, што патрэбы свае вырашалі, і праз тлумача папрасіў сказаць яму, што ён хрысціянскі святар і што сёння, аб Духу Святым імшу спраўляючы, быў ім натхнёны ве-

ру турэцкую прыняць. Кады пытаўся, ці добра ён усё абдумаў. Той адказаў, што яшчэ і не еў і, добра разважыўшы, прыйшоў да таго. Загадаў тады кады, каб турбан турэцкі прынеслі, і на галаву яму надзеў, а калі тое дзеялася, гэты пярэхрыст гнюсны плакаў, а што на той час у сэрцы меў, адзін Госпад Бог ведае. Раніцай у нядзелю семнаццатага ліпеня з напышлівасцю і ўрачыстасцю (як звычайна, калі хрысціянін атурчыцца) правялі яго праз места. Неслі перад ім дзве харугвы Магаметавы зялёныя, на якіх (замест азнакаў сцяжных) два хвасты морскіх коней вісела. Сто янычараў паабапал з паўгакамі, з трубамі, і бубнамі ішло і праводзілі яго праз вуліцу нашу, каб і мы на няшчасны трыумф ягоны паглядзелі. Але мы наўмысна вокны пазачынялі і праз дзіры глядзелі на ўсё няшчасце ягонае. Малады быў чалавек, гадоў каля трыццаці, зарослы валасамі чорнымі. Ехаў на гнедым кані, на якім і сядзець не ўмеў, і не за вузду, а за сядло трымаўся. Каня пад ім два янычары вялі, чуга на ім была з чырвонага адамашку, стралу ў правай руцэ трымаў, пер'ем дагары, а вастрыём дадолу павернутую. І так па вуліцах мястовых трыумфуючы з ім ездзілі. Нарэшце паміж яткамі ў адной каморы абрэзалі яго, бо туркі не тымі абрадамі, як іудзеі, цырымонію гэтую спраўляюць. Гэтае абразанне вялікую хворасць яму прычыніла, так, што казалі, нібыта меўся з таго памерці. Дазналіся, аднак, нашыя, што ён штосьці быў у парафія напракудзіў, за што меўся быць кардыналам Баромім пакараны, баючыся чаго, найперш у Венецыю з'ехаў, а пасля, сеўшы на карабель, у Сі-

*Урачыстасць з атурчаным.*

*Абразанне ў ятках туркі спраўляюць.*

рыю ўцёк. Гэбрай тлумач наш апавядаў нам пасля, што бачыў яго ў стайні ў кады. Адразу ж бо пасля тае цырымоніі дарагія шаты з гэтага верніка здымаюць, пасля туркі яму там на нешта грошы збіраюць, а менавіта толькі сорак цэкінаў яму перадалі, з іх, аднак, палову янычарам і музыкам, якія вядуць яго, даць павінен, тады пасылаюць яго ў стайню, нарэшце вызначаць яму якую плату. Пабачыўшы гэбрая, пытаўся ён, што хрысціяне пра яго гавораць, дык адказваў гэбрай, што вельмі дзівяцца. А ён на тое, болей я сам (кажа) дзіўлюся, што са мною дзеецца (бо яшчэ хворы быў), толькі тым суцяшаюся, што брата маю ў Канстантынопалі, які таксама атурчыўся, мушу да яго ехаць і шчасце, і гора з ім дзяліць.

**Не на тое спадзяваўся.**

Увесь той час, што я ў Трыполі жыў, што было вартага пабачыць, уважліва я агледзеў. Места гэтае прыгожыя дамы і лазні мае. Прадмесці поўныя садоў, агародаў, крыніц і пладоў усялякіх. Ёсць тут і дрэвы моры, на якіх чарвячкі, што шоўк вырабляюць, гадуюцца і жывуць, з чаго мурыны і сірыйцы нязмерныя багацці збіраюць, вялікую колькасць шоўку па Еўропе рассылаючы. Ёсць у садах надзіва шмат пацукоў, якіх яны пацукамі фараонавымі называюць, асабліва ж у вёсках, дзе яны значную шкоду землеробам чыняць, курэй і гусей ядуць. Паўтары мілі ад места ехаў я да ўсходу сонца, дзе ўбачыў машэю пры беразе морскім, а побач з ёю сажалку вельмі вялікую мураваную, у якой прэсная вада і рознае рыбы ў дастатку. Вераць туркі (з глупства свайго), што рыбы тыя асвячоныя, дзеля чаго пад пагрозаю смерці нельга ла-

**Апісанне Трыполя.**

**Пацук фараонаў.**

**Святыя рыбы.**

віць іх нікому, хіба толькі (калі я добра памятаю) раз або два на год, князі іх могуць трохі ўзяць і есці пасля. Даюць ім заўсёды корму, ды варажбіты там нейкія чары спраўляюць.

Ёсць там таксама каля мора вежа з камянёў квадратных надта высокая, з гербамі аднаго шляхціца венецкага, які, праз тое, што з адной мурынкаю грэх цялесны ўчыніў (што там у хрысціянаў смерцю караецца), цяжкасці меў вялікія і такою вежаю, за грошы свае збудаванаю, ледзьве адкупіўся. А тым часам карамужан прыплыў, у якім і Секярэцкая, жанчына польская, была; загадаў я ў аднаго багатага гандляра наняць ёй прытулак, то ж яна, як не дазвалялі ёй з дома выходзіць адкрыта, у туркаў з вакна каменнем шпурляла і ў некалькіх трапіла; з таго гаспадар за малым вялікіх клопатаў не меў, што з дома ягонага ў туркаў каменнем шпурляюць. Прасіў пасля, каб я яе куды ў іншае месца звезці загадаў, але яна, без варты будучы, зараз з дома ўцякла, і з вялікаю цяжкасцю толькі на трэці дзень знайшлі яе ў царкве Св. Якуба, за паўтары мілі ад Трыполя. Царква тая папраўдзе грэцкая, спраўляюць у ёй, аднак, і каталікі набажэнства свае. Стараўся я пасля, каб ёй у караблі, у якім мае рэчы ў Венецыю везлі, хоць якое месца знайшлі. І вельмі яна смуткавала з таго, што болей ужо Святое зямлі не пабачыць, і тройчы ў мора кідалася ад смутку свайго, так што ледзьве ўратавалі яе, каб не патанула. Загадаў я тады, каб варта пры ёй была.

**Вялікая яе пабожнасць.**

У тым часе эмір Махмет, вельмі заможны ўладца з Сірыі Фінікійскай, белы мурын, сын Мензур Кандана, эмір з Лістры і Дэрвіі (ёсць

**Уся трагедыя пра эміра.**

пра тыя месты згадка ў Дзеях Апостальскіх), суддзя, уехаў у Трыполь з пяцюстамі коннымі і гэтулькімі ж пешымі мушкетнікамі. І хоць эмір той быў магаметанін, аднак меў пры сабе ерэтыкаў хрысціянаў, гэта значыць французаў, пра якіх вышэй гаварылася, якіх друзіянамі называюць, гэта рэшткі яшчэ тых, якія Святую зямлю з рук паганскіх былі вырвалі, але ж ад дабрачыннасці продкаў сваіх далёка адышлі; веку ён быў маладога, маючы дваццаць гадоў, твар меў тлусты, пагляд страшны. Гэта той эмір, пра якога раней пісалася, што туркі баяліся вельмі, каб ён з Абурысам супраць іх не злучыўся; імператар турэцкі вельмі быў на яго з тых прычын узлаваны. Нейкі суддзя атрымаў быў ліст ад імператара таго турэцкага, каб яму бацька таго эміра суддзёўства над местамі памянёнымі і партовых мытаў трыпольскіх саступіў; што невыказную крыўду эміраву выклікала, бо ён за ўрад той і мыта надзіва вялікую колькасць грошай даў быў імператару, так, каб не іначай, але законным парадкам здабытыя тыя дастойнасці ў доме ягоным і пры нашчадках ягоных вечна надалей трывалі. Вось жа, калі вельмі эмір састарэў, а на яго месца новага суддзю прыслалі, дык ён ці то ад смутку, ці то ад хваробы памёр. Тады сын ягоны, малады эмір (пра якога гаворка), такой непрыстойнасцю ўзрушаны, маладзён сардэчны і смелы, хоць толькі васемнаццаць гадоў маючы, восем тысяч стральцоў сабраў і, уехаўшы ў Лістру, суддзю, што ягонага бацьку выгнаў, і шмат туркаў з ім забіў, а Лістру, Дэрвію і мыты турэцкія забраў. Паклікалі яго пасля мандатам да імператара — ён не з'явіўся, зага-

далі яму на вайну ў Персію ехаць — ён не паехаў, але дванаццаць тысячаў войска сабраўшы, чакаў да канца, што ж далей імператар турэцкі рабіць будзе. Цяпер толькі тысячу чалавек з сабою ў Трыполь прывёў, тры тысячы ў замку сваім за дзве мілі ад Трыполя пакінуў, а ў іншым вельмі добра абароненым (называюць яго Газір, яго мы яшчэ з мора на гары вельмі высокай недалёка ад Берыта бачылі) чатыры або пяць тысячаў гатовых меў; усё тое дзеля таго, што Джафара-пашу, які ў Трыполі перабываў, нямала баяўся. Аднак жа назаўтра раніцаю, тысячу людзей з сабою ўзяўшы, ехаў прывітаць таго пашу, які са стану свайго выехаў крыху прагуляцца. Я, каб абодвух пабачыць разам, і сам у поле паехаў. А вяртаўся паша з чатырмастамі коннымі ў шатах з чырвонае парчы, на кані светла-гнедым; эмір жа выехаў перад ім і з аднаго боку са сваімі стаў, тады яны за звычаем народа свайго супольным галоў нахіленнем павіталіся. Пасля паша пад намётам ссеў з каня (народ збоку стаў); эмір таксама, у брунатным адамашку, перад намётам з свайго ваганца ссеў, жаўнеры ж яго конныя адразу расступным шыхтом сталі, а пяхоты ён меў і болей і мужоў лепшых, чым паша. Размова іхняя гадзіну цэлую трывала, у якой пытаўся ў яго паша, чаму ён імператару супрацівіцца, на што ён шматслоўна адказваў, нявіннасць сваю даводзячы. Пасля ж раз'ехаліся. Чаўш заўсёды праваруч эміра стаяў (бо гэты бок у туркаў слабейшы), які над мытам трыпольскім быў, частку яго ў скарб імператарскі паводле звычаю аддаючы. Эмір дзве жонкі меў, але з ніводнаю не жыў

добра, бо чалавек быў суровы і жорсткі і ва ўсіх адносінах благога жыцця. Ад'ехаўшы ад пашы, ігрышча, або цвічэнне, сваім маўрам наладзіў (на якім усяляк дзіды кідалі), і сам ён, спрытны і ўмелы вершнік, усіх заахвочваў. Слугі ягоныя вялікую прыязнь мелі з Францішкам Тэстаросам, агентам Венецкае рэспублікі ў гэтых краях, а прыязнь тая была паміж імі дзеля мыта з тавараў, якое агент гэты плаціў. Я ж, жывучы ў карвасэрыі венецкай, дзе старшы быў той самы Францішак, гэткім чынам пра ўсё, што там паміж імі дзеялася, даведаўся, бо хрысціяніну да намёту пашы бліжэй падысці нельга. Чакалі мы на полі, пакуль вернецца эмір, чые слугі аднаго разу правялі нас туды, дзе ён жыў, а там мурыны, запаліўшы свечкі, перад ім, мала чым прыкрыўшыся, брыдкія, а што страшней, распусныя танцы і скокі спраўлялі. Быў там таксама адзін турак, які па канаце хадзіў, што ў тым краі не навіна, і такія ігрышчы эмір што тры дні дома ладзіў, віднейшых паноў маўрытанскіх і туркаў з дастаткам і шчодрасцю вялікаю частуючы і забаўляючы, што пашу абражала вельмі, і гаварылася адкрыта і яўна ў Трыполі, што паша Ібрагім, уладца егіпецкі, ад імператара мае загад, каб, едучы адтуль, войска на Трыполь павярнуў, а эміра схапіў дзеля падазраванай яго магутнасці вялікай. Казалі таксама амаль усе, што эмір, калі законам абараніцца не здолее, шабляю спакою шукаць будзе, хай бы давялося і загінуць, што ён і сам выказваў, не хаваючыся, бо і замкі абаронныя, і спадчыну, і маёмасць набыў вялікую меў. Да персаў прыязны быў, і калі пра паразу туркаў навіны прыносілі, цешыў-

**Танцы мурынскія і скокі.**

ся. Мысліў, аднак, і з другога боку, шчасце ваеннае сумлеўным лічачы, як бы Ібрагім-пашу дарамі надзвычай каштоўнымі ўлагодзіць і ласку ў яго да сябе знайсці.

**Кірмашы.** Быў таксама тым часам нейкі ў Трыполі кірмаш, і з'ехалася было шмат туркаў і мурынаў, але толькі танцы і скокі (дый тое не было на што глядзець) па ўсіх вуліцах спраўлялі ды плады розныя, якіх тут вялікі дастатак, прадавалі.

**Друзіяне хто такія.** Часта тут згадваюцца хрысціяне друзіяне, пра якіх хоць і дастаткова гісторыкі пішуць, аднак дадам і я, што яны хутчэй як паганцы ва ўсялякім свавольстве жывуць і ад туркаў нічым іншым не розняцца, адно што не абразаюцца. Маюць таксама свайго ўласнага прарока, называюць яго Ізман, які забараніў абразанне, ды, накшталт Магамета, сваю веру вельмі непрыстойную і свавольную вымысліў і каб яе захоўвалі загадаў. Шмат іх у Дамашак і Трыполь прыходзіць, а як нашы шкоты ў корабах розныя дробныя рэчы для продажу носяць па вуліцах, так і яны на шыі скрынку нейкую скураную маюць, а ў ёй колькі алавяных кубкаў, колькі скураных пляшак з халоднаю вадою, два або тры грэбні, шчотку шатную і люстэрка носяць. Калі мы спаткалі іх у Галілеі, далі яны нам той вады напіцца. А як туркі галовы голяць, а бароды запускаюць, дык звыклі ім іх часаць; нам жа, бачачы, што і на барадзе валасы кароткія, грэбня не давалі, толькі сувалі ў руку люстэрка, каб мы ў яго паглядзеліся. І тое падаванне вады,

**Дарэчная міласціна.** грэбня ды люстэрка лічаць за міласціну, якую і туркам і хрысціянам, кожнаму без разбору,

хоць і не просіць ніхто, даюць. Пытаўся я ў іх: «Калі ваду, што прагу наталяе, яшчэ за міласціну можна мець, дык якая міласціна з люстэрка?» Не маглі на тое адказаць. Аднак жа адзін у Трыполі (а я ўжо быў з Ерусаліма вярнуўся), які ў нейкага егіпцяніна лекі гатаваў, апавядаў нам, што паказванне люстэрка яны ад егіпцянаў пераанялі. Бо на бяседах, банкетах і розных пасяджэннях ды там, дзе свае забавы і пацехі мелі егіпцяне, гэтак люстэркі паказвалі, каб кожны пра тое, што смяротным ёсць, не забываўся. І цяпер яшчэ, каторыя там старэйшыя і мудрэйшыя, косці чалавечыя ўсе парадкам на дроце навешаныя, або з дрэва ці з слановай косці, насіць і паказваць адзін аднаму звыклі, прыгадваючы адначасна, каб пра смерць памяталі, а аб прыгажосці, якую хваробы і смерць псуюць, не дбалі. То ж разумнейшыя друзіяне кажуць: калі прагнеш, вадою спатолішся, калі грэбнем чэшашся, упрыгожваеш сябе, калі ж у люстэрка глядзіш, нібыта сам сабою любуешся, але адразу падумаеш, што ўсё гэтае смерць пераменіць, дык і пакорнейшы робішся. Добрая ўвага да спраў чалавечых і канца іх, асабліва ж сярод простага люду, вартая, каб яе і хрысціяне часцей згадвалі. Але вернемся да нашага падарожжа.

**Глядзі на тое паганства.**

Пры тым, што не мог я ехаць у Апамею, або Алеп, дзеля Абурыса, які, як было сказана, караваны рабаваў, ды што дарога Канстантынопальская бяспечная не была дзеля войска турэцкага, што з Еўропы ў Персію цягнулася, а да таго ж караблі венецкія і тыя, што ў хрысціянскія краіны плылі, яшчэ нагружаныя не былі, а пра

мяне ўжо падрабязна, хто я такі, пытацца пачыналі, бо гэбраі былі мяне выкрылі; задумаў я падарожжа ў Егіпет здзейсніць. Дзеля таго наняў я сабе джэрму. Гэта судзіна для хуткай язды вельмі прыдатная, але калі бура надарыцца, хутка яе заліць можа, бо дошкамі не пакрытая, як караблі або карамужаны, і перад дажджом і вятрамі морскімі безабаронная. Вось жа дня дваццаць шостага ліпеня па абедзе пайшоў я да кады і, падарунак яму даўшы, прасіў, каб даў мне якога янычара; даў мне Ахмета, які ўмеў па-славянску і верна служыць мне абяцаў. Пасля рыхтаваўся я да падарожжа і, рэчы свае ў карабель венецкі, на якім мы былі прыплылі, занесці загадаўшы, пакінуў пры іх слугу аднаго, каб іх у нанятай каморы вартаваў і ў Валошчыну завёз, пакінуў з ім яшчэ а. Лаўрэнція Пацыфіка і брата ягонага; іншых жа, хто са мною ў Ерусаліме быў, узяў у Егіпет.

*Што такое джэрма.*

Першы ліст пісаў я да цябе з мясцінаў Сольных, цяпер табе другі даволі вялікі пасылаю. То, як сам можаш пабачыць, для пісання часу і месца прыдатнага я не меў, толькі ўжо ў Трыполі, адкуль у Егіпет выпраўляюся. Дадзена з Трыполя Сірыйскага, 29 ліпеня года Гасподняга 1583.

## ЛІСТ ТРЭЦІ

Напісаўшы і даслаўшы табе ліст мой, выехаў я з Трыполя дня трыццатага ліпеня а дваццаць трэцяй гадзіне бацікам да караблёў, каб рэчы на тое падарожжа егіпецкае патрэбныя прыгатаваць. Калі ж прыплыў я туды, такі моцны вецер

узняўся, што я вярнуцца не мог і мусіў там заначаваць. Як толькі паўночны вецер аціх, я, забраўшы патрэбнае, паплыў на джэрму, у якую селі мы на самым світанні. Але ў ёй люду вельмі шмат было, якога бяспечна ўтрымаць не магла, а яе толькі сабе я наняў, дык араб марак іх павыганяў, і, як развіднела, мы выплылі ў мора. Тым часам моцны вецер, сярэдні між заходнім і паўночным (валохі называюць яго панэнтэ маэстра), узняўся збоку, дзеля якога (бо інакш нельга было) скіраваліся мы да Кіпра і шэсць гадзін ніякай зямлі болей не бачылі. Узяў я быў з сабою з Трыполя маўра аднаго за тлумача ды наняў таксама аднаго янычара, дык было нас у судзіне каля сарака. Цяжкі то быў у нас дзень і дзеля ветру, і дзеля вяровак, з лазы дрэва дактыльнага кручаных, якія вадою морскай аблітыя смярдзелі нясцерпна, дзеля чаго мы і той і другі дзень мусілі хустку ў воцаце змочаную трымаць няспынна пры носе, нават калі спалі. Усю ноч вецер той дзьмуў, яшчэ і назаўтра цэлую раніцу.

Падарожжа ў Егіпет.

## Жнівень

Першага дня жніўня раніцай убачылі мы Кіпр, а каля поўдня мінулі Фамаўгусту, якое, аднак, дзеля далечыні не маглі мы добра бачыць. Пад вечар, як вецер суняўся, прысталі і мы да берага, дзе трохі пахадзіўшы, вярнуліся на джэрму. А як заўсёды, гэтак улетку як і ўзімку, ад выспы гэтае вецер гоніць караблі звычайна ўночы, то ж і мы нямала за ноч праплылі і прыбылі ў Ларніку, дзе соль (як ужо раней гава-

Ужо другі раз.

рылася) збіраюць. Небяспечна было тут высаджвацца дзеля кады, на той час маслочніка, і дзеля грэкаў магаметанаў, якія, калі мы першы раз тут былі, клопаты нам чынілі; то ж і сядзелі мы ў джэрме, а ўначы плылі з лёгкім ветрам. Назаўтра апоўдні спыніўся марак ля берага пры нейкай царкве грэцкай, амаль зруйнаванай, дзе мы і павячэралі, і на ноч засталіся. Але ўночы, як вецер быў спадарожны, плылі і раніцаю прыбылі ў Леміс, дзе вецер аціх, а мы, шмат гандляроў валошскіх знаёмых тут маючы, выйшлі і стаялі там цэлы дзень. У тым месце карабель карамужан з дваццаццю паломнікамі, што ў Ерусалім плылі, заспелі, за тры дні перад намі выправіліся яны з Трыполя. Быў сярод іх святар нейкі кс. Сымон Белагорскі — паляк, пра якога ніжэй будзе гаварыцца. Пасля заходу сонца марак наш зноў вырушыў. А як на Кіпры найболей пільнуюць, каб хто з выспы не з'ехаў, з тае прычыны сам падпаша прысутны быў на беразе. Пасля карамужан з паломнікамі пайшоў да Яфы, а мы плылі ўздоўж берага аж да мыса Феліс, які валохі capo delle Gatte, Кашэчым мысам, называюць. Тут я не прапушчу, як, калі карамужан а першае ўночы выйшаў у мора, мы пры беразе плылі ў джэрме. Марак наш, пасварыўшыся з таварышам сваім, далей з месца рушыць не хацеў, дык я загадаў янычару, каб напомніў яму, што хай часу спрыяльнага не марнуе і дарма не бавіцца. Але ён заўпарціўся і ехаць не хацеў, дайшло між імі да слоў грубых, пакуль той янычар яму кулаком у твар не ўдарыў, што ў таго турбан ўпаў на зямлю. Схапіліся тады за зброю і так былі разлютаваліся, што

Леміс.

Кс. Сымон-паляк.

Сварка.

мы ледзьве іх развялі. Марак (бо янычары тут свабоду вялікую маюць), бачачы сябе ніжэйшым, супакоіўся і вырушыў з месца. Але я, абодвух гэткіх раз'юшаных бачачы, спрабаваў неяк іх пагадзіць, у чым цяжкасць меў напачатку досыць вялікую, і толькі апоўначы дайшло да згоды. Як жа пекна было глядзець, як яны паводле звычаю па-рознаму прысягалі, што даруюць адзін аднаму ад шчырага сэрца. Дзіўна ў абодвух змяніліся твары, вочы, позіркі, калі прабачылі адзін аднаму. Перад ад'ездам маім з Кіпра бачыў там і тое, як бавоўну сеюць, з чаго штогоду надзіва вялікія прыбыткі ідуць. Бо караблі адтуль нічога іншага не вывозяць, як толькі соль (пра яе гаварылася) і бавоўну, як і той Тарнэліянаў карабель, на якім мы былі сюды прыплылі, пясок выкінуўшы, увесь бавоўнаю нагрузіўся, у Трыполі яе частку на пурпур выгандлявалі, частку прадалі, а пасля аксаміту і іншых заморскіх тавараў накупілі і паехалі. Як бавоўну сеюць і як яе збіраюць, ужо іншыя пісалі, я дадам толькі тое, што як яе пасеюць, дык толькі на трэці год радзіць пачынае, і тады збіраюць. Дзеецца гэтак з таго, што, калі збіраюць, насенне выпадае на зямлю і так родзіць, але з кожным годам меней, і гэтак да чацвёртага года: тады ўжо, калі хочаш збіраць, мусіш нанова сеяць.

**Бавоўну сеюць на Кіпры.**

**Раз на тры гады сеюць.**

І тое трэба ведаць, што на Кіпры няма белых вінаў, а ў Ерусаліме чырвоных, а што калі ў абодвух месцах іначай трапляецца, дык вельмі мала, і ягады хутчэй да ядзення, а не да віна прыдатныя бываюць. Віны чырвоныя кіпрыйскія, а белыя ерусалімскія добрыя, адно што так

прыкра даўкія, што хоць іх і вадою разводзяць, не такія бываюць прыемныя, чырвонае саладзейшае, але пярнейшае. А як на Кіпры склепаў няма, дык ніякім чынам нельга іх да наступнага ўраджаю захаваць (белыя на тое ад прыроды прыдатнейшыя), толькі вынаходлівасцю. Бо перш чым мушч наліваць бочкі гумаю або жывіцаю нейкай, якая смалісты пах мае, абкурваюць, дзеля чаго тыя віны заўсёды смалою тхнуць, як сцвярджаюць тутэйшыя жыхары, пах гэты галаве вельмі здаровы, бо і моцнасць віна паслабляе, і псавацца яму не дае. Мне і тым, хто там са мною быў, здаліся тыя віны надта смярдзючымі, а як пах той занадта востры, дык галаве хутчэй шкодзіць, а не дапамагае. Ягады вінныя на Родзе і большыя і смачнейшыя, але ці бочкі гэтаксама абкурваюць, не ведаю, бо вінаў там не каштаваў. На плады ўсялякія Кіпр багаты. Дыні на тры чвэрці локця (большых я нідзе не бачыў) надзвычай добрыя і прыемнага смаку.

**Прычына, з якое мальвазія гарэлым тхне.**

Цэлы дзень прабавілі мы, плывучы да мыса Кашэчага, вецер адусюль ловячы, што для джэрмы і не навіна, і хутчэй плыць дапамагае, хіба толькі, калі б шторм надарыўся, лёгка перакуліцца можа. Надвячоркам прамінулі мы тое месца, а другой гадзіне ўночы павярнулі да Егіпта, проста праз мора, да места Даміяты, ад таго мыса добрых восемдзесят міляў.

Раніцаю мы яшчэ ледзьве бачылі Кіпр, апоўдні яго ўжо болей не было відаць. Таго дня і ночы мелі мы вецер пагодны, але назаўтра настала банацыя, або супакаенне такое, і такая ціхасць на моры, што мы рухацца не маглі, дык мусілі

**Малацыя.**

стаяць. Адвячоркам, аднак, узняўся вецер, што паміж захадам і поўначчу вее, трымаўся ён да канца дня і ноч.

Дня восьмага жніўня апоўдні спадзяваліся мы ўбачыць Егіпет, але да берага было яшчэ занадта далёка. Пасля а другой гадзіне прыбыў вецер вельмі добры, і так каля дзевятнаццатае гадзіны ўбачылі мы здалёк зямлю, таксама і вада ў моры здалася мутная, бо тут Ніл упадае, які называецца ў пісанні: fluvium turbidum, qui irrigat Aegyptum.

Каля дваццаць другой гадзіны ўвайшлі мы ў браму Нільскую (гэта быццам апошняе яго рукаво ад усходу), маючы з левага боку ад мора і ракі да Даміяты прыналежны і дзеля абароны яе змураваны квадратам замак добра абаронены, было перад тым у ім каля двухсот чалавек, цяпер жа ледзьве дваццаць ёсць дзеля вайны Персідскай. Уваходзячы ў Ніл, бачылі мы з правага боку на моры колькі судзін невялікіх, бо тут вялікія караблі не ходзяць, таму што порта няма, а толькі прычал да часу, пакуль тыя невялікія разгрузяць і пасля дзеля бяспечнасці на Ніл выцягнуць. Стаялі пад самым местам тры карамужаны, невялікія судзіны, чаму іх так і называюць.

**Буслы.**

Плывучы па Ніле, вялікае мноства буслоў бачылі мы на берагах, бо сюды ад нас яны заўсёды адлятаюць гэтай парою, гэта значыць у жніўні, калі Ніл, наплываючы, з багнаў змеяў незлічоную колькасць на пажыву ім прыносіць.

**Качкі розныя.**

Качак зялёных і чырвоных на высокіх нагах (з якіх адну падараваў мне быў той біскуп у Яфе, як пра тое ўжо гаварылася) па берагах

таксама вельмі шмат хадзіла. З левага боку сады густыя з дастаткам пладоў растуць, асабліва ж рыс, які тут найболей сеюць пры берагах, дзе рукавамі той Ніл у мора ўваходзіць. За мілю ад места стаіць замак, за чатыры мілі адтуль бачылі мы ў рацэ чатырох морскіх коней. Да зуброў нашых паставаю, поўсцю і велічынёю вельмі падобныя, толькі што без рагоў; шкоду вялікую чыняць у рысе, дзеля чаго равы глыбокія вакол палёў выкопваюць, каб гэтыя звяры, ногі кароткія маючы, вылезці на бераг не маглі.

**Коні морскія якія.**

Калі чалавека ў полі заспеюць, кусаюць і заядаюць. Стрэлілі па іх з колькіх мушкетаў, але ці забілі, няведама, бо звяры тыя вялікія і дужыя, і іх толькі якой вялікаю куляю і раптоўным стрэлам зваліць можна. Мяркуюць некаторыя, што імя іх сапраўднае адонтатыраны, значыць зубныя тыраны. Грэкі называюць іх амфібія, гэта значыць звер, які і вадою і паветрам дыхае, які на зямлі і ў вадзе жыве. Піша Цэддрэн, што звер той такі вялікі, што слана зжэрці можа, але гэта мала да праўды падобна. Бо хоць таго краю жыхары (якія з намі ў джэрме былі) аднаго надта вялікага бачылі між тых чатырох і дзівіліся яму, той, аднак, за слана вялікшы не быў, удоўжкі яму роўны. Калі я быў у Каіры, аднаго такога каня, недалёка адтуль забітага, галаву прынеслі, сапраўды жахлівую і на спазор страшную, разяўленую пашчу мела на паўтары локці, адкуль і зубы дужа вялікія тырчалі.

**Дзіўны звер.**

**Даміята.**

А дваццаць трэцяй гадзіне прыплылі мы ў Даміяту, якую даўнімі часамі называлі Пэлюзій, або Геліопаль, завуць яе таксама брама Пэлюзійская. Гэта першае месца егіпецкае, над Нілам

у прыгожай мясціне разлеглася на паўмілі. А як позна было, то спыніліся мы каля мытні, дзе гэбраі мыта збіраюць, і там адразу да нас мытнік прыбег, думаючы, што мы гандляры (як мы таксама сябе і называлі дзеля бяспекі, якую людзі гандлярскага стану ў тым краі маюць), там жа і начаваў з намі на джэрме.

Раніцаю пайшлі яны да нашых рэчаў, і калі нічога не знайшлі, мы сказалі ім, што тавары нашыя ў Каіры, куды мы і едзем. І так вызваліўшыся, пайшлі мы (высадзіўшыся на бераг) да віцэконсула венецкага, якім быў на той час Тамаш Кандыёт Грэк. Цэлы дзень прабавілі мы ў месце, але не было чаго глядзець, асабліва старасветчыны. Пасля нанялі мы сабе меншую джэрму да Каіра і, сеўшы ў яе перад вечарам, там і заначавалі. Узяў я з сабою двух янычараў дзеля бяспечнейшае дарогі на Ніле.

Як узышло сонца, паволі рушылі мы супроць вады. А як у тым часе Каўр (валохі называюць яго маэстра) дзьмуў звычайна, а Ніл з поўдня цячэ, то, падняўшы ветразі, мелі мы добрую дарогу; а дзе набліжаліся да берага, там маракі вяроўкамі судзіну цягнулі. Перад поўднем прамінулі мы злева места Фэркін вельмі вялікае, а на ноч праплылі ў нейкае мястэчка (пакінуўшы справа вялікае места Сэрбін), і там, бо ўжо апускаўся змрок, заначавалі, там жа агледзелі мы печы, у якіх людзі куранят з яек без кур вялікай дасціпнасцю выводзяць. Зробленыя тыя печы круглыя з саломы, зверху адусюль залепленыя глінай, угары невялікае ваконца маюць, каб сонца, проста праменне пускаючы, яйкам не шкодзіла, якія б лёгка і зварыліся, бо

**Фэркін.**

**Сэрбін.**

**Печы выводзяць куранят.**

*Дзіўная спёка егіпецкая.* апоўдні зямля ад сонца такая гарачая бывае, што і ў чаравіках ледзь адзін пацер можна вытрываць агонь такі вялікі. Жыхары тутэйшыя босымі нагамі ходзяць, бо з дзяцінства прызвычаіліся, дый падэшвы ў ног маюць ад гарачыні ўжо такія ссохлыя і скамянелыя, што не болей *Глядзі.* удары молата адчуваюць, чым коні, калі іх падкоўваюць, што і мы засведчылі. Печы тыя дзверцы маюць з поўдня, а жарало з поўначы, праз якое гной валовы або буйвалавы закідаюць, якім уночы грэюць, каб холад яйкі не сапсаваў. Удзень сонца праз гліну дадае цяпла ў печы, дзе яйкі ў рад адно ад аднаго далёка раскладзеныя ляжаць, каб адно аднаго не датыкалася; і так значна лягчэй кураняты выводзяцца, чым калі на іх курыца сядзіць. Ва ўсіх местах і вёсках пры сваіх дамах будуюць такія печы, а часам і такія вялікія, што да трох тысячаў яек у іх кладуць.

А як пра гарачыню краю Егіпецкага ўжо гаварылася, дык з таго яшчэ можна пабачыць, якая яна моцная. З Даміяты едучы, прыглядаліся мы вельмі ўважліва да месцаў пясчаных (бо на дзесяць міляў і далей ад мора дый па ўсім Егіпце паміж садамі, вёскамі і ў вёсках увесь грунт пясчаны, у якім дактыльныя дрэвы добра растуць). Тыя здаліся нам нібы якой вадою кіпучаю, і так той пясок свяціўся, як тое шклянае рэчыва, калі ў печы гутнай мякне і бліскчыць. Падумалі мы спярша, што там возера нейкае дзівоснае гарыць, але пасля зразумелі, што вецер пясок той сонцам спалены і святлісты пераваў і ўздымаў угору, так што здалёк, у гушчыні сваёй бліскаючы, агнём нам здаваўся.

Стоячы ж пад тым местам, так як і ў Даміяце некаторыя дый сам марак наш раіў, усю ноч мусілі вартаваць. Бо егіпцяне не толькі на сушы крадуць, але і, дасканалымі нырцамі будучы, у рэках і моры хаваюцца, пад вадою да джэрмы падплываюць, бяруць, што могуць, і ў ваду цягнуць. Трапляецца, і часта, што чалавека ў джэрме на лаве заснулага бяруць і, з сабою ў ваду зацягнуўшы, жыццё і адзенне ў яго забіраюць. А калі назбіраюцца яны грамадою, у джэрмы з вады залазяць, людзей заснулых забіваюць і забіраюць здабычу, як і незадоўга перад нашым прыездам здарылася, калі чацвёра французаў гандляроў такім чынам загінула, якія з Каіра ў Александрыю плылі. Вось жа, каб і на нас якое ліха не навалілася, чуйнавалі мы ўсю ноч, мапаўгакі напагатове трымаючы, у чым нам і марак дапамагаў. Апоўначы мы выплылі, а апоўдні прамінулі места Талха, якое між равамі, дзіўна і разнастайна выкапанымі, стаіць, ніхто там добры не жыве, адныя толькі нягоднікі і злачынцы, якія і на вадзе і на сухазем'і сваволяць так, што тою дарогаю егіпецкай спакойна і бяспечна прайсці немагчыма. Бо па ўсіх Нілавых рукавах або затоках, з абодвух берагоў і на палях надзіва вялікае мноства людзей, статкаў, буйвалаў, валоў, авечак, коз, кароў паўсюль хобдзіць, і гэтак забяспечыўшыся, той, хто едзе, хутка ў пастку трапляе. Таго самага дня бачылі мы каля сотні рыбакоў, якія, скочыўшы ў ваду тую каламутную, рыбы хапалі і адных у руках, другіх у зубах з вады выносілі. Былі адныя з рыбаў тых лакотніцы, да ментузоў нашых падобныя, другія да ласасёў і розныя іншыя. Ры-

**Уважліва ўсё гэта чытай.**

**Талха, места разбойнікаў.**

**Спрытныя рыбакі.**

Рыбы нільскія. бы з Ніла тлустыя і смаку добрага, але нездаровыя, бо дно ў рацэ багністае; вада, аднак жа, бо здалёк і разнастайна плыве і ачышчаецца, здаровая. І хоць каламутная, як ужо гаварылася, аднак жа, у пачынні пастаяўшы, праз дзве гадзіны адстойваецца і стаецца празрыстая, а калі ўсю ноч пастаіць, дык як крышталь будзе, і да піцця смачная. Прыроду Ніла і дзівосы, што ў ім пабачыць можна, апісалі гісторыкі, я ж прыпомню толькі тое, што сам бачыў. Рыбакі, калі

Проста дзіўна. адпачыць хочуць, галовы з вады не высоўваюць, а толькі, рот раскрыўшы, дыхаюць. Пэўна, што дзень цэлы могуць трываць у вадзе і, на верх са дна ўсплыўшы, хоць галавы не паднімаюць, дыхаць, а калі мы іх у вадзе бачылі, загадаў марак стрэліць з мушкетаў, каб пад джэрму не падплылі і не перакулілі. Пад вечар праплылі мы каля места Абузін, вельмі прыгожага будовамі

Абузін. сваімі і размяшчэннем, і, кінуўшы катвігу пасярод ракі, спыніліся мы там на ноч. Бо пры беразе было небяспечна, дый тыя нырцы ўжо пра нас пачалі былі намысляць і да нас кіравацца, але, убачыўшы нас асцярожных і чынных, ні на што не наважыліся.

Удзень пасля ехалі мы шчасліва, але пасля заходу сонца разбойнікі ў лодцы на нас напалі і дзіду кінулі, якая каля янычара ўпала, калі

Небяспека. ж мы з мушкетаў стрэлілі, уцяклі. Папярэднюю ноччу хацелі напасці на нас нырцы, але, пабачыўшы мушкеты, якіх вельмі баяцца, ды чуйнасць нашую, не насмеліліся.

Мелі мы вецер пагодны, і таму а дваццатай гадзіне пабачылі піраміды Каірскія, якія хоць і за местам стаяць, аднак жа дзеля гор і дзеля іх

уласнае вышыні, заўсёды раней за само места відны. Было відаць таксама і замак на гары. І тут мы з рукава Нілавага ў сам Ніл выплылі, які гэтак шырокі, як два разы Дунай пад Лінцам, местам аўстрыйскім. Каля чатырох міляў ад Каіра адной плынню ідзе, пасля надвое падзяляецца і славуты трохкутнік утварае, то значыць, вакол аднае выспы такою формай цячэ і так яе трохкутнаю. Дэльтай называнаю, робіць. Пасля за пяць міляў ніжэй адна частка той дэльты дзеліцца на чатыры рукавы, другая на тры, праз якія ў мора ўпадае. А дваццаць трэцяй гадзіне прыплылі мы ў Булгах (за восемдзесят міляў ад Даміяты), дзе з джэрмы на бераг высаджваюцца. А як места тое каля Каіра ляжыць, дык напішу, якое яно вялікае. Не толькі туркі, але і еўрапейскія гандляры сцвярджаюць, што тут жывуць, нібыта штодня за дваццаць чатыры гадзіны тут у порце гэтым да двух дзесяткаў тысяч людзей праходзіць сюды і туды і што кожнага дня да трох тысяч джэрмаў праплывае, сярод якіх часта трапляюцца і такія вялікія, што шэсцьсот бочак змяшчаюць. Таксама і са старога Каіра (ляжыць вышэй, неўзабаве будзем пра яго гаварыць) такія судзіны прыходзяць вельмі густа, якія з краіны Саіт і з вялікіх дзяржаваў прэсвітэра Яна або Папіяна збожжа, кінацэфалаў, або людзей з сабачымі галовамі, малпаў, папугаяў, рознае іншае птаства, і звярыну, і тавары прывозяць. Тыя ж, што маюць на продаж мурынаў, з Барбарыі ў Расэт, а адтуль праз Ніл у Каір іх вязуць, пасля ў Булгаху выстаўляюць; мы ж туды позна прыплылі, дык і начавалі ў джэрме і за нейкія паўгадзі-

Славутая дэльта.

Булгах.

Дзіўна.

ны бачылі, як з дзесятак судзін адплыла і прыплыла.

Раніцай, калі я з двума маімі (бо іншых я пакінуў у джэрме, пакуль не знойдзецца прытулак) высеў на бераг, адразу схапілі двое туркаў нас, каб звязаць, ды пільна шукалі за пазухаю і ў іншых месцах, ці мы пры сабе якіх тавараў не маем, думаючы, што мы французы-гандляры, якія іх часта (як нам самі туркі апавядалі) ашукваюць. Але, пабачыўшы, што мы нічога такога не маем, адчапіліся. Мы ж тым часам гаварылі між сабою па-польску, а там гэбрай-мытнік (на загад якога туркі былі нас схапілі), мову разумеючы, казаў туркам адысці далей і па-польску да нас азваўся, кажучы, што з Холма ён, места рускага. Прасіў, каб мы яму прабачылі, што ён нас так незвычайна прывітаў, пасля паабяцаў, што надалей служыць нам будзе, і сапраўды, пакуль мы ў Каіры былі, часта нас наведваў. Тады, сеўшы на аслоў, паміж садамі паехалі мы ў места, у дом консула венецкага Юрыя Эма, у якога мы прасілі, каб параіў, дзе нам наняць прытулак. Удзячна ён нас прыняў, і слухалі мы з ім Найсвяцейшай імшы, але як і сам ён нядаўна быў туды прыехаў і яшчэ не быў там абазнаны, даў раду, каб мы да французскага консула звярнуліся, Паўла Марыяна, таксама венецыянца. Той, жывучы ў Каіры больш за дваццаць гадоў, пра ўсё ведаў дый яшчэ турэцкаю і арабскаю мовамі валодаў. Заспелі мы пры ім двух айцоў таварыства Ісусавага, Яна Батыста Эліяна, які (як вышэй гаварылася) царкоўныя ўборы прывёз быў маранітам у Дамашак і патрыярху, што на гары Ліване жыве, папам Рыгорам

Каір.

Гэбрай паляк.

людзей плач і енк і на султана вялікае наракан-
не, але ён на тое не зважаў; як толькі ён тое на-
бажэнства сваё справіў, усё загадаў спаліць,
надзіва вялікую суму золата і срэбра з таго са-
браўшы; што і па той машэі, так аздобна і пыш-
на збудаванай, відаць. Егіпецкія летапісцы і
егіпцяне вераць таму і пішуць. Sit fides penes
illos.

5

Пятая машэя Марасэн (пры якой ёсць шпі-
таль) таксама досыць вялікая, зверху чырвона
і бела пафарбаваная.

6

Шостая Гямалісон, вельмі вялікая і прыго-
жая.

7

Сёмая Гямахішон, за ўсе іншыя значна вы-
шэйшую і большую вежу мае.

Нязвыклае набажэнства.

Усе тыя машэі на вуліцу вокны маюць, кра-
тамі жалезнымі заспасобленыя; на кані або асле
едучы, добра бачыць можна, што там унутры
дзеецца. Часта бачылі мы, як сантоны з іншымі
там на зямлі абедалі, паводле звычаю турэцкага;
часам ядваб у тых даўжэйшых машэях круцілі
коламі, махру на шаты і галуны выраблялі, і ін-
шаю працай (якая без грукату) займаліся.

## Верасень

Ганус Шульц, выдатны цырульнік, якога я з сабою меў у тым падарожжы, захварэў, калі мы выязджалі з Дамашка, да той хваробы яшчэ і падагра звычайная была прымяшалася, бо не з такой пільнасцю, як было трэба, пра здароўе сваё рупіўся, і да таго яшчэ і дызентэрыя прыхапіла яго першага дня верасня, і каля семнаццатай гадзіны памёр. Ледзьве паспеў ён сканаць, як адразу прыбег гэбрай, патрабуючы даніны або мыта, каб мы за памерлага імператару заплацілі; што мы і ўчынілі, папярэдне даведаўшыся ў консула Марыяна, ці так мела быць. Хацеў гэбрай за яго як за чалавека гандлярскага стану шэсць цэкінаў, але як вядома было, што ён гандлем не займаўся, пагадзіўся на тры. Пахавалі яго за горадам у малой царкоўцы халдэйскай. Бо як не быў ён католікам, нельга было яго ў царкве Найсвяцейшае Дзевы ў старым Каіры пахаваць, да якой хоць і халдэі належаць, але католікі злева сваю капліцу маюць вялікую, дзе хаваюць і Святую імшу спраўляюць.

*Даніна з памерлых.*

То ж тут ёсць такі звычай, што за кожнага памерлага, асабліва еўрапейца, бяруць даніну паводле якога стану. Калі консул памрэ, даюць пятнаццаць цэкінаў, за гэбрая колькі грошаў, за халдэя таксама (тых тут вельмі багата, бо патрыярх іхні, які адначасна і абісінцаў патрыярх; цяпер тут жыве) нешта. І дзіўная рэч, што розную рэлігію маючы, аднаго патрыярха прызнаюць і яму падпарадкоўваюцца. Абодва народы гэтыя на восьмы дзень абразаюцца, на пяцідзесяты ж дзень ад нараджэння кожны хрыс-

*Як з каго.*

ціцца: абразання не абмінаюць, бо яго Бог гэбраям рабіць загадаў, хрост таксама бяруць, бо пасля ўваскрасення Гасподняга ў гэты дзень Св. Дух на Св. Апосталаў сышоў. Каротка кажучы, даніну з кожнага памерлага імператар бярэ, апроч туркаў, якія не даюць нічога; і, як кажуць, складае гэта вялікую суму грошай, што да праўды падобна, бо тут такое вялікае мноства людзей з усіх народаў.

Гэта слушна.

Быў я таксама і ў замку, што на гары стаіць досыць высокай, вакол сябе мур мае надта моцны з квадратнага каменю, а таксама круглыя вежы. Усярэдзіне ёсць фартэцыя злева на дворышчы невялікім, з рагоў чатыры вежы круглыя з часанага каменю, а навокал роў, абкладзены мурам. Трохі далей палац досыць прыгожы з шырокім дворышчам, дзе паша жыве; а з левага боку, як уваходзіш у замак, каля брамы ёсць галерэя доўгая пры зямлі на доле, якая ля сцяны лаву, з квадратнага каменю вычасаную, мае з прыступкаю пад ногі. На той лаве нельга нікому сядзець пад пагрозаю смерці, бо Селім Першы года Гасподняга 1517, дня 25 студзеня Каір захапіўшы і ў замак гэты з трыумфам уехаўшы, калі з каня злез, на гэтую вось лаву сеў і адпачываў. Дык на памятку пра тое забарона гэтая ўчыненая; аднак ніжэй, гэта значыць на прыступцы для ног, заўсёды людзі сядаюць. Ёсць таксама ў тым замку вельмі прыгожая машэя, якую нейкі Саліман-паша, калі тут урад займаў, змураваў; наступнікі ягоныя ў ёй свае чары набожныя спраўляюць. Замак той з фартэцаю такі вялікі, як места Дэрвіж in foro Julii, як самі валохі сцвярджаюць.

Замак у Каіры.

Калі Егіпет узяты.

Машэя.

Палац Язэпа патрыярха.

Быў я і другі раз у тым самым замку. Насупраць фартэцыі справа ёсць вельмі стары палац Язэпа, сына Якубавага, патрыярха, які ён змураваў, калі кіраваў Егіптам. Ніхто цяпер у ім не жыве, з яго ў іншыя гмахі праход ёсць. Стаіць ён на вялікіх калонах, з аднаго цэлага каменя вычасаных. Форма яго муравання дзіўная, розным маляваннем і ўпрыгожаннямі аздобленая, дагэтуль усё зусім цэлае. Усіх мураваных гмахаў егіпецкіх выгляд такі: маюць на самым версе вакно круглае або квадратнае, дзеля аховы ад сонечнага агню, ніжэй другое так размешчанае, каб вецер адусюль уваходзіць і выходзіць мог. Гэтак і той палац мае ўверсе круглае акно, амаль на трыццаць локцяў; а на скляпенні з рагоў розныя іншыя вокны, праз якія вецер вее і якія так умела рамеснік размясціў, што нават і ў найбольшую спёку там унутры халодна. Як паднімацца ўгору, з левага боку ад таго гмаху, каля палаца пашы ёсць калодзеж, які яшчэ той Язэп быў збудаваў, так дзівосна і цудоўна, што наўрад ці хто цяпер бы такі зрабіў. Чатырохкутны, кожная сцяна яго дваццаць локцяў мае. Глыбінёю ён да трохсот локцяў, але праз сто пяцьдзесят не толькі пехатою ісці, але і на кані бяспечна можа кожны ехаць. Бо як калодзеж увесь у скале выкаваны, дык адразу вакол яго ўглыб строма высечаныя і вычасаныя сходы ідуць, так што і бяспечна і лёгка можна на кані на дол з'ехаць; бо хоць тыя сходы, як я казаў, і стромыя, аднак жа зручныя і на чатыры локці шырокія, дый добра відаць там, бо ў бок калодзежа вокны высечаныя, і сам ён, бо гэткі шырокі, таксама святла ў дастатку дадае

Калодзеж яго вельмі дзівосны, дваісты.

тым, хто на дол сыходзіць або з'язджае. Вось жа і валы да паловы таго калодзежа сыходзяць і вёдрамі, на вяроўкі навязанымі, ваду выцягваюць. А сам калодзеж, з якога цягнуць, не чатырохкутны, як вышэй, а круглы, упоперак ад краю да краю дзесяць локцяў. Тую ваду, з таго ніжняга калодзежа выцягнутую, у купальню, што пры боку той самай скалы, вялікім коштам і накладам на пятнаццаць локцяў удоўжкі і ўшыркі выкаваную, выліваюць; адтуль ужо праз верх чатырохкутнага калодзежа, за сто пяцьдзесят локцяў, валы, што на самым версе стаяць, цягнуць і ў каналы каменныя выліваюць, якімі вада гэтая ў горні замак, дзе жыве паша, калі ёсць патрэба, цячэ вельмі лёгка. Валоў на тую працу праз увесь час сорак пар трымаюць, і яны ўдзень і ўначы папераменна цягнуць: дваццаць пар на дол зводзяць, дзе кожная пара чатыры гадзіны працуе; іншыя ж дваццаць наверсе стаяць і тым самым парадкам выцягваюць. Не кожнаму дазволена бачыць той калодзеж, бо туркі тут нейкае сваё чарадзейскае набажэнства маюць і баяцца, каб яго хрысціяне адным позіркам сваім не сурочылі, гэтак і каня, якога вельмі любяць, калі трэба яго хрысціяніну паказаць, спярша там немаведама чым абціраюць, думаючы, што гэта можа адагнаць урок. Я ж быў даў падарунак пастаўленаму над гэтым калодзежам, таму і меў дазвол і дайшоў да паловы гэтага дзіва, дзе валы цягаюць і выліваюць ваду ў купальню.

*Турэцкае глупства.*

Пасля, сеўшы ў лодку, ехалі мы праз галоўны вал, дзе паша расчыняў грэблю, што ў старым месце, як ужо гаварылася. Ёсць там на бе-

разе з левага боку вялікая круглая вежа з квадратнага каменю, не вельмі высокая, але тоўстая, у якой кола выцягвае ваду вёдрамі наверх, а там яе ў каналы, таксама з квадратнага каменю вычасаныя, ліе; каналы гэтыя ідуць на паўмілі і ваду да ніжняга замка вядуць, як з таго Язэпавага калодзежа да горняга, дзе жыве паша. Адтуль па Ніле (маючы вецер добры) праплылі мы чатыры мілі вялікія і каля дваццаць другой гадзіны прыбылі ў адну вёску вельмі людную, званую Мамымыр, а меў я з сабою чатырох янычараў. Як мне тут давялося заначаваць, наняў и двух арабаў знаёмых, каб яны ўсю ноч вартавалі, і, выйшаўшы, пахадзілі мы крыху па вёсцы, а пасля павячэралі на барцы; дзеля бяспекі і паводле звычаю на ваду яе за дваццаць сажняў пусціўшы, выкінуўшы катвігі і на беразе арабаў варту пакінуўшы. Калі ж мы пасля заснулі, абудзілі нас бубны і сурмы турэцкія, каля трэцяй гадзіны ўначы, пасля чаго амаль сто егіпцянаў з літымі свечкамі і дзідамі (якія на вайне звыклі ўжываць) ішло да нас. Янычары не ведалі, што гэта значыла, а таму кінуліся мы да зброі (а было ў нас дзевяць мушкетаў ды карацейшых рушніц дастатак), якую, калі мы па вёсцы прахаджаліся, бачылі ў нас егіпцяне і з таго пра гатовасць нашую здагадваліся; і праўда, праз тую варту нашую, на беразе пакінутую, паведамілі і прасілі нас, каб не стралялі ў іх, бо яны як прыяцелі да берага прыйшлі, каб нас сваім ігрышчам забавіць. Бо адзін з іх жэніцца, дзеля чаго паводле звычаю хуткасць і спрыт свой паказаць мусіць у скоках і танцах. Мы, тое пачуўшы, дазволілі, каб яны бліжэй да

Мамымыр.

Дзіўны звычай.

берага падышлі. Пачаў тады той пан малады скакаць у тахт за музыкай, дзіўна ў адзін і ў другі бок згінаючыся, накшталт скамарохаў маскоўскіх, часам таксама пры зямлі (як у нас некаторыя ''гайдука'') танцуючы. Дапамаглі яму і родзічы ягоныя гэтаксама танчыць, і ўсё гэта трывала амаль паўгадзіны. Паслалі мы ім з дзесятак грошаў, і яны, з удзячнасцю і падзякай узяўшы, пайшлі ў сваю вёску, дзе скакалі ўсю ноч, жонку, аднак, пану маладому не давалі аж да світання. Такі ж бо ў іх звычай, што чым спрытней скача, тым хутчэй жонку бярэ, чаго яны надта пільна прытрымліваюцца. Дзяўчаты ў іх у вёсцы ва ўсім Егіпце да дзесяці гадоў голыя ходзяць; пасля тых гадоў кашулі паркалёвыя носяць, твар такім самым паркалём закрыўшы, а ў ім дзіркі вачам зрабіўшы, але паркаль гэты лёгка вецер адхінае, таму і ўвесь твар відаць. Тое ж самае робяць і некаторыя жанчыны ў вёсках і з простага люду, а таксама некаторыя ў месце. А да тых дзесяці гадоў голыя ходзячы, ужываюць нейкай каразівы, цібо водкі, што на скуры па целе выядае і малюе кветкі і розныя ўзоры, пасля ж на іх розныя фарбы напускаюць, якія так моцна да цела прыстаюць, што ўжо ніяк іх пасля змыць немагчыма. Сапраўды дзіўная рэч, бачыць на целе стракатасць такіх розных прыгожых фарбаў.

**Што там за справы ў тых людзей.**

**Дзяўчаты егіпецкія.**

**Жанчыны.**

Калі тыя сваты і танцоры адышлі, спакушаліся на нас разбойнікі тутэйшыя, але варта чуйнавала дый мы стралялі, то й яны моўчкі разбегліся.

На самым світанку, сеўшы на аслоў за Каірам, куды мы іх былі заслалі, ехалі мы добрую

мілю да пірамід, што на поўдні, побач з якімі ёсць пячоры падземныя, у скале высечаныя, дзе перад тым або святыні, або розных радоў пахаванні былі; цяпер усё пяскамі засыпанае, якія, аднак, адгарнуўшы, людзі на вяроўках у тыя лёхі спускаюцца. А так і мы за прыкладам іншых і звычаем, каля адной піраміды вышэйшай спусціліся праз дзіру ўглыб на дзесятак локцяў, дзе ў скале знайшлі мы вельмі шмат іншых лёхаў, уздоўж далёка высечаных, дзе трупы чалавечыя надзіва ґуста пахаваныя ляжалі, у муміі папрыбіраныя. Сцвярджаюць, што целы былі бальсанам або рознымі іншымі масцямі намазаныя, а што то былі за масці, няхай дактары ў навуках лекарскіх дышкуруюць: відаць, што сапраўды было нешта надта асаблівае, бо тыя целы намазаныя тры тысячы гадоў цэлыя ляжаць, найменшай страты або змены ні ў воднай частцы і чэлесах не маючы, яшчэ і да сёння непашкоджаныя трываюць. І ўсе, колькі іх тут ёсць (а ёсць іх вельмі багата, як пабачыў я з арабамі, з якімі туды спусціўся і якія іх прадаваць звыклі), унутры (бо пустыя зусім) стодзівы нейкія маюць, таксама і вакол панастаўляныя. Стодзівы тыя з сіняй гліны або з брунатнай, даўжынёю на палец, некаторыя і меншыя, гэтак зробленыя, як дзяцей малых спавіваюць, егіпецкімі іерогліфамі папісаныя. А як тыя стодзівы, гэтак і целы прасцірадламі накрытыя; якія дзеля даўнасці такія збуцвелыя, што здаюцца нібы папера спаленая чорная, якая лёгка і хутка рассыпаецца. Кожны чалавек асобна ляжыць, палатном спавіты. Труны або каменныя, або драўляныя, у якіх, відаць, заможнейшых людзей хава

**Надта дзіўная рэч.**

**Стодзівы.**

**Труны.**

лі (бо простыя людзі ляжаць раскіданыя абыяк); і яны гэтаксама ўчыненыя, нейкія стодзівы пакладзеныя і целы спавітыя. Ёсць там і іншыя стодзівы вышэйшыя, некаторыя з іх на локаць вакол трупаў стаяць, каменныя або драўляныя, розныя; адны накшталт чалавека, другія як птушкі, кракадзілы або змеі, ды д'яблы гэткага аблічча, як іх у нас малююць. Целы, што ў трунах ляжаць, усе маюць на тварах маскі маляваныя або залачоныя; відаць, хацелі гэтак паказаць, што то быў за чалавек і постаць ягоную, вымалёўваючы. На палатне (у якое спавітыя) паўсюль з кольцаў малых шкляных колераў разнастайных зробленыя нібы нейкія брамы і паясы. Тады ідуць паясы з перлінак (не сапраўдных, але надта падобных), якімі тыя брамаваныя прасціраддлы зверху аперазаныя. Паміж трупамі мужчынскімі і жаночымі розніцы ніякай няма, з чаго відаць, што мужчыны барадаў не насілі, целы, аднак, у іх большыя і таўсцейшыя, і масцю іншую маюць, чым жанчыны, і акрыццё галавы таксама інакшае. Тут у гэтых лёхах і пячорах такое мноства тых трупаў, што калі б хто хацеў усе агледзець, мусіў бы ракам лезці, чаго мала хто вытрываць можа. З гэткіх вось целаў (як перад тым гаварылася) робяць муміі, якія зеллі і масці так спеклі, што свецяцца, як смала зацвярдзеўшы, асабліва ж мозг і плечы таўсцейшыя. Бо грудзі, рукі, ногі, шмат мяса не маючы, да гэтага не надаюцца. Смурод з тых трупаў не такі ўжо прыкры, каб быў нясцерпны, аднак жа востры дзеля масцяў; з паху ж распазнаць можна, што шмат міры да тых масцяў было дададзена, бо

Стодзівы, слушна.

Маскі на памерлых.

Адкуль муміі.

паўсюль па тых лёхах і пячорах моцны яе пах ідзе. Косці тых целаў цэлыя і надта белыя, бо тыя масці пахучыя і ад счарнення іх бароняць. Тады ж купіў я ў арабаў два целы, мужчыны і жанчыны, за два цэкіны; што з імі сталася, калі мы з Александрыі плылі, пра тое ніжэй.

**Невукаў размовы пра муміі.**

Тое, што я сам бачыў, хацеў я пра муміі напісаць, асабліва ж таму, што шмат хто іншы іначай тое падае. Бо яны гэтак сцвярджаюць, што муміяў з тых целаў вырабляюць, якія ў тых краінах пяскі праз які выпадак засыпаюць.

Аднак мумія не праз выпадак нейкі ўзнікае, а з целаў, ад дзён і часоў даўно забытых, масцямі нацёртых і ўнутры з імі амаль перамяшаных, як вышэй гаварылася. То ж гэта і байка, нібы пяскі мелі каго засыпаць і задушыць, хіба што калі б нехта сам таго захацеў, што і ў нас стацца б магло. Бо хоць праз тыя пяскі (якія нашы морам Пясчаным завуць), калі вецер вялікі, ехаць або ісці ніхто не можа, абавязкова спыніцца трэба, пакуль вецер не сціхне, але бо нікога, хто б стаяў, тыя пяскі не засыпаюць, за выняткам выпадку, калі хто памрэ і не пахаваны ляжаць застанецца, што ў тых краях часта бывае. І тое цела ягонае акрутны сонечны агонь так у пяску запякае, што чарнейшае бывае за вугаль, аднак жа з яго муміяў не робяць і нінавошта яно непрыдатнае. Вось жа, хто хоча там ехаць, мусіць чакаць, пакуль вецер не сціхне, бо і дарогі пагоркамі пясчанымі занесеныя, і вачам шкода вялікая, і ўсе прыкметы дарогі загубленыя; не відаць бо там ані дрэўца, ані скалы, дзён колькі праз пяскі ехаць трэба. Да таго ж і вярблюд ні-

водзін тых цяжкасцяў знесці не можа, таму і чакаць звыклі, і, аднак, нікога пяскі не засыпаюць.

Калі мы ў тыя лёхі падземныя з Янам Эмам венецыянцам спускаліся, дзе за праваднікоў мы былі арабаў нанялі, папераджалі нас, каб мы з сабою калі не шпагі, дык хоць бы штылеты ўзялі; бо часта здараецца, што там хрысціянаў забіваюць, дык каб мы мелі на ўсялякі прыпадак зброю пры сабе. Ды каб мы таксама не ўсе адразу спускаліся, а некаторых з зброяй наверсе вартаваць пакінулі.

Разбойнікі ля пячораў.

Апавядалі арабы, што некалі егіпцяне або арабы-разбойнікі, напаўшы, там тых хрысціянаў, што спусціліся да трупаў, зямлёю, каменнем і пяском закідалі, а рэчы іхнія, якія яны былі наверсе пакінулі (бо туды дзеля пылу і паветра замкнутага і душнасці толькі ў кашулі і ў адмысловым адзенні палатняным звыклі спускацца), пазабіралі. Калі мы да лёхаў тых падыходзілі, прыскакаў адзін араб конны, пра якога янычары падумалі, што шпег, ён жа, убачыўшы ў нас розную зброю і рушніцы, адразу ад'ехаў. Выйшаўшы пасля напаверх, вярталіся мы праз тыя мясціны, дзе быў Мемфіс, то ж ад места гэтага, апроч пірамідаў, зусім ніякіх знакаў не засталося, як я ўжо гаварыў. Праехалі мы таксама колькі вёсак, дзе праз расчыненыя грэблі Ніл вялікім напорам працякаў і палі, што над Каірам, вадою жывіў. Крыху за полудзень прыехалі мы да баркі і, адаслаўшы аслоў у Каір, прыплылі па рацэ за тры гадзіны ў стары Каір, да руінаў якога, ссеўшы, прыглядаліся; відаць, нямала было тут палацаў, некаторыя з іх (і

Каір стары які.

шмат) яшчэ стаяць, вялікім коштам некалі змураваныя. Былі мы таксама ў дзвюх цэрквах хрысціянскіх, якія там ёсць: адна Найсвяцейшае Дзевы, дзе манашкі халдэйскія жывуць, што аднолькавую з абісінцамі веру маюць, другая Святога Юр'і, якую таксама тыя манашкі трымаюць. Пры ёй ёсць вялікая капліца, належыць католікам, вышэй гаварылася пра яе. Пасля на заходзе сонца вярнуліся мы ў новы Каір.

*Манашкі халдэйскія.*

Трэці раз быў я ў замку, калі паша суды спраўляў. Меў побач дваццаць санджакаў і амаль дзвесце чаўшаў. Зала вельмі прасторная, там і з усялякага народу людзей багата было. Чуга на ім была з атласу цельнага колеру, з залатымі спражкамі, хлопец вялікім махалам павяваў над ім ад спёкі. Стаяла гэбраяў (што перад ім свае скаргі мелі) вельмі шмат. У дольніх сенях было шэсцьсот янычараў, а таксама колькідзесят страусаў хатніх утаймаваных хадзіла, між імі два незвычайна вялікія, так што нават і тыя, якім тых птушак бачыць не навіна, вельмі дзівіліся. Такі ёсць звычай, што паша, перш чым у сенат едзе або на суды засядзе, машэю наведвае; гэтак і той быў таго самага дня ў машэі, якую паша Саліман збудаваў, як пра яе пісалася. Калі вяртаўся з машэі, перанялі яго родзічы аднаго забітага, скардзячыся на забойцаў і кажучы, што дваццацёра іх, упіўшыся (хоць ён не быў вінаваты), чалавека няслушна забілі. На што паша адказаў: закон вучыць, каб таго, хто, упіўшыся, чалавека заб'е, кіем толькі каралі, бо ж не ён, але піццё, што розуму не мае, усё тое справіла і чалавека забіла. А як іх тут дваццаць было, а яшчэ і п'яных, і яны толькі аднаго забі-

*Паша як судзіць.*

*Чытай гэта ўсё.*

*Слушны дэкрэт.*




Егіпецкія жывёліны.
Гравюра пачатку XVIII ст.




Рыбы і істоты,
якіх бачаць падарожнікі ў моры.
Пражскі гравёр Хілер. XVIII ст.




Віды ўсходніх алфавітаў
(сірыйскі, фінікійскі, егіпецкі).
Гравюра пачатку XVIII ст.




Віды ўсходніх алфавітаў
(самарыцянскі, Саламонаў, халдзейскі).
Гравюра пачатку XVIII ст.




Віды ўсходніх алфавітаў
(копцкі, арамейскі, кітайскі).
Гравюра пачатку XVIII ст.



Муміфікацыя нябожчыкаў у Егіпце.
Гравюра пачатку XVIII ст.



Від Египта з пірамідамі і Нілам.
Гравюра пачатку XVIII ст.




Гара Табар у Палесціне. Гравюра XVIII ст.




План Ерусаліма. Гравюра XVIII ст.




Карта Палесціны. XVI ст.




Карта Блізкага Ўсходу
ў выглядзе Пегаса. XVII ст.




Кальварыя. Разрэз храма.
Гравюра XVIII ст.



Дзікі чалавек і дзікія жывёліны
з Афрыкі. Гравюра XV ст.




План вострава Кіпр,
на якім спыняліся падарожнікі ў Ерусалім.
Гравюра пачатку XVIII ст.




Від Ерусаліма. Гравюра XVII ст.



Егіпцяне. Гравюра пачатку XVIII ст.

лі, і невядома, на каго з іх віну скласці; то несправядліва было б дзеля аднаго забітага ўсіх кіем біць. І гэтак ён ужыў закон. Бо ж у целе забітага раны ніякае няма, толькі сінія месцы збіцця паказваюць, з чаго вынікае, што не іх воля злая забіла, а хутчэй п'янства і трунак, дый да таго дваццаць п'яных; дык і няслушна скаргу чыняць, бо невялікая бяда дваццаці забіць аднаго, а праз аднаго дваццаць п'яных пакараць і цяжка і несправядліва. І так адышлі з гэтым дэкрэтам. Аднак жа траіх там або чацвярых, за якімі віну прызналі, янычары добра кіямі адлупцавалі. Адыходзячы з замка, бачыў я, як у большым дворышчы з левага боку збіраўся караван у Мекку, бо дзеля празмернае гарачыні звычайна толькі ў кастрычніку ад'язджаў. Казалі, што мелася быць больш за дванаццаць тысяч людзей, бо ўсіх у рэгістр пашы запісваюць, хто туды ехаць збіраецца.

**Немалая справядлівасць.**

Раніцаю, выслухаўшы Святую імшу і Найсвяцейшае таемства прыняўшы, выправіліся мы з Каіра а пятнаццатай гадзіне ў джэрме па рацэ Ніле. Надыходзіў вялікі пост турэцкі, які яны чыніць звыклі, пабачыўшы вераснёўскі маладзік, і посцяць, пакуль новы месяц у кастрычніку не пабачаць. За восем дзён перад маім ад'ездам пачыналі яны ўжо свае цырымоніі, якія звычайна таму пасту папярэднічаюць. А так вежы большых машэяў з усіх бакоў аж да самага верху былі свяцільнямі абвешаныя, якія пасля заходу сонца запаляліся і гэтак усю ноч гарэлі; і там сапраўды, бо гэтак вялікае мноства машэяў у Каіры, было на што паглядзець. Увесь той дзень і ноч ехалі мы з такой асцярожнасцю,

**Пост турэцкі.**

**І тое таксама набажэнства.**

дзеля нырцоў і разбойнікаў, як і тады, калі плылі ў Каір.

Назаўтра супраціўны і непагодны быў вецер. Паказвалі нам кракадзіла, які праз Ніл перапływаў, але далёка, таму не маглі мы яго добра ўгледзець: часам, аднак, хрыбет ягоны было відаць, калі ён пялёхаўся, як дэльфін на моры. Відаць, што быў не вялікі, на мерны сажань. Няма іх тут асабліва шмат дзеля частых вёсак і люднага Каіра, але вышэй Каіра пад Саіт вельмі багата іх і немалых, ёсць і на тры сажні. Я бачыў аднаго (хоць і нежывога) на дзесяць локцяў. Увечары прыплылі мы ў места Фуа, якое ляжыць над Нілам, не вельмі вялікае, але прыгожае. Была і там у машэі вежа дзеля цырымоніі посту турэцкага адусюль свяцільнямі турэцкімі абвешаная і аздобленая. Гэтае месца з пладоў найлепшыя мае яблыкі гранаты, якія тут такія вялікія, што нідзе большых не знайсці, і родзяць з дастаткам. У тую ноч праплылі мы тры мілі, а пасля ўвайшлі ў канал або ў капаны роў нільскі, які вядзе аж да Александрыі, і лічаць яго восьмым рукавом, або пахаю нільскай.

Кракадзіл.

Цэлы той дзень плылі мы паміж вёсак па тым канале, які прыблізна трыццаць локцяў ушыркі мае, глыбокі паводле патрэбы большых джэрмаў, але высыхае да дна і вады не мае, калі Ніл не паднімаецца. Калі ж гэтая рака паднімаецца, да Александрыі ідзе праз яе вада і ўсе іх начынні напаўняе, бо там прэснае вады няма, нават з калодзежаў не дастаць, таму і гэты канал учынены. Александрыя бо ніжэй ляжыць і дзеля блізкасці мора добрай вады мець не можа, калі ж вада тая прыходзіць, з пільнасцю

Александрыя вады не мае.

захоўваюць яе цэлы год, аж да другога разводдзя нільскага. Гэткіх начынняў або купальняў, і мястовых і ўласных,ёсць там вельмі шмат, і калі так здараецца, што вады ў іх не стане, шмат мужыхароў з Александрыі прэч з'язджае, бо і мусяць ехаць, так патрэбнай рэчы не маючы.

Калі быў аднаго часу Ібрагім-паша (або ўладар Егіпта) болей чым трыццаццю галерамі ў Александрыю прыехаў, столькі вады быў змарнаваў, што хоць і долей меўся жыць, аднак шэсць дзён толькі прабавіўшы, у Расэт рушыць, а адтуль праз Ніл у Каір ехаць мусіў. Расэт ляжыць ад Каіра за восем міляў, там апошняе нільскае рукаво з боку Барбарыі цячэ і ў мора ўпадае, праз якое наладаваныя караблі да Расэта зручна ходзяць, вялікія ж судзіны праз той канал да Александрыі праплыць не могуць. Але ж сем рукавоў нільскіх джэрмы вялікія досыць добра прапускаюць, асабліва ж два — адзін да Даміяты, другі да Расэта, дзе і караблі ходзяць, бо шырока і глыбока. З Расэта да Александрыі морам налічваюць амаль дзесяць міляў. А як таго дня верасьнёўскі маладзік меўся туркам паказацца, янычары, якіх мы з сабою трох мелі, ды арабаў паезднікаў або маракоў дваццацёра, цэлы дзень не еўшы, прасілі нас: як самі яны ўбачыць не маглі, дык каб мы, як толькі заўважым, адразу ім паведамілі. То і сапраўды неўзабаве далі мы ім знак, за што яны нам з радасцю дзякавалі. А ўбачыўшы яго, пагляды да яго звярнулі і, рукі распасцершы, малітвы свае спраўлялі. Адразу ж пасля таго мяса, рыбу, і ўсё, што мы ім далі, елі і так ноч навылет сядзелі аж да світання, сцвярджаючы, што ўдзень есці грэх, але ўночы

Расэт.

Пост турэцкі які.

Дзіўны артыкул веры.

можна. Ведалі мы пра тое, што ў Александрыі багацейшыя і мажнейшыя людзі аж да паўдня спяць, а пасля ў машэю на пацеры ідуць; у той самы час адразу з вежы на самым версе харугву (у Александрыі бывае яна з брунатнай кітайкі) вывешваюць, ледзьве на чвэрць гадзіны, якую пасля малітваў тых адразу хаваюць. І так па дамах сваіх усе ідуць, дзе, як сонца зойдзе, есці садзяцца. Апавядалі нам хрысціяне нашыя (што ў Каіры жывуць), нібы калі есці гадзіна набліжаецца (незадоўга перад заходам сонца), тыя, хто да гэтае справы пастаўлены, з бубнамі па месту бегаюць ды крычаць, што ўжо можна есці, піць і гэтак далей што рабіць. Але я гэткага крычання з бубнам у Александрыі не чуў.

Праехаўшы пасля каля чатырох міляў нашых паміж руінамі надта вялікіх і аздобных палацаў, а таксама паміж пальмамі, што абапал ракі стаялі, ужо калі ўзыходзіла сонца, прыбылі мы да брамы места Александрыйскага, якую яшчэ да часоў Аляксандра Вялікага называлі

**Ракаста.** Ракаста, ад места яна за чвэрць мілі, дзе з канала на бераг высядаюць. Адразу паведаміў я пра мой прыезд тым, з кім быў у Каіры пазнаёміўся, а калі яны прыйшлі, селі мы на аслоў і паехалі

**Калона Пампеева.** ў места. Недалёка ад мястовае брамы стаіць Пампеева калона, вельмі прыгожая і вартая подзіву. Падмурак, які яе трымае, вышынёю шаснаццаць локцяў, чатырохкантовы, а кожны бок ягоны ўшыркі дзевяць локцяў. Сама ж калона круглая, з камення высечаная, вышынёю шэсцьдзесят локцяў і на чатыры сажні шырынёю. Наверсе таксама шар з чатырохкутнай плітою, дзесяць локцяў мае. Уся

калона, як яна ёсць, ад зямлі да верху восемдзесят шэсць локцяў. Мармур папялісты, але ў самой калоне нібы шэра-чырвоны, так што здаецца, нібыта падмурак з аднаго, а калона з другога гатунку выробленая. Сапраўды дзіўна, як такое неверагодна цяжкае каменне на такую вышыню падняць, а пасля паставіць можна. Спосаб той, якім Юлій Цэзар гэта справіў, а таксама, чаму калона тая Пампеевай завецца, апісалі гісторыкі.

У самой браме туркі глядзелі, ці мы з сабою якіх тавараў не маем, але як гэбрай (якога там консул венецкі трымаў) быў з намі, дык і сказаў ім, што нашыя рэчы за намі на аслах вязуць, і застаўся там з маімі слугамі, каб заплаціць мыта. Бо ў Александрыі не толькі за тавары, але і за найменшую рэч, а нават і за самі грошы трэба плаціць мыта. Пасля паехаў я ў венецкую карвасэрыю і там застаўся. Па абедзе пайшоў я агледзець порт з Еранімам Віталісам, гандляром венецкім, які меў знаёмства з турэцкім капітанам (незадоўга перада мною з Рода сюды ў Александрыю з дзесяццю галерамі быў прыплыў), а таму хацеў з ім пабачыцца. Дык я яго прасіў, каб мяне з сабою ўзяў, бо хацеў я галеру таго капітана (які першы быў пасля Ахіялі), жаўнерамі і зброяй заспасобленую, пабачыць, на яе ж бо нікому нельга заходзіць, адно толькі гандляру або таму, хто за гандляра сябе выдае. І так, сеўшы ў барку, прыплылі мы да галеры, але капітана там не заспелі, бо ад'ехаў быў у места, давялося нам чакаць больш за паўгадзіны. Галера тая надта прыгожая, уся залачоная, аднак жа меншая, чым тыя, што хрысціяне

Глядзі.

Галеры турэцкія.

ўжываюць. То ж і ўсе турэцкія меншыя. Нявольнікі ўсе былі хрысціяне, па пяцёра іх да аднаго вясла былі прыкутыя, ад паловы галеры далей — па чатыры. Бачыў я там людзей, ледзь да справы прыдатных, каля сарака, гарматаў шмат было. Тым часам прыехаў капітан і загадаў розных гатункаў сукна з Еўропы яму прывезці, кожнага шэсць паставаў. Пасля казаў нам даць радыйскага вінаграду ў гронках, якія былі гэтак вялікія, што да трох локцяў даходзілі, ягады на іх былі, як у нас слівы. Развітаўшыся з капітанам, вярнуліся мы на бераг, а пасля ўжо адвячоркам у места.

**Вінаград у гронках.**

Сярод вартых здзіўлення рэчаў, якія дагэтуль мае Александрыя, ёсць прасторны вельмі і вялікі пляц перад морскім портам, пра які гісторыкі пішуць, што рука чалавечая яго стварыла і насыпала (раней яго называлі выспа Фар), са на гэтым я затрымлівацца не буду. Відаць сапраўды тут і працу чалавечую, і кошт вялікі, і ўмельства рамесніка. Тут (бо ў месце, як ніжэй гаварылася, паветра нездаровае) ахвотней людзі будуюцца і жывуць, нават і санджак тут жыве, таму і места бязлюдзее, і чым далей, тым болей руйнуецца, бо здаравей і бяспечней па прадмесцях жыць.

**Фар.**

Прычына, дзеля якой тыя галеры у Александрыю прыплылі, была тая, што трох ураднікаў Асан-пашы (які перад тым у Каіры быў уладаром), а менавіта канцлера, пісара і сакратара з Канстантынопаля на Род, адтуль у Александрыю, а далей праз Ніл у Каір везлі, каб іх там смерцю пакараць, бо былі яны прычыніліся да таго, што Асан-паша падданых сваіх

**Слугаў Асана-пашы смерцю пакаралі.**

скварпна рабаваў і абдзіраў. Як гэта дзелася, каротка нагадаю. Той Асан-паша, еўнух або лягчанец, калі ў Каіры доўга быў уладаром, вельмі гандляроў абдзіраў і нішчых, знакі чаго і дагэтуль застаюцца, бо ні з Індыі, ні з Меккі сюды і да сёння тавараў не прывозяць. Каб яму з месца гэтак зыскоўнага і для збірання грошай зручнага не загадалі з'ехаць і ўрад свой аддаць, пасылаў ён патаемна дары надзіва вялікія маці і жонцы імператара Амурата; тыя ж, хто праз яго і скварпнасць ягоную руйнаваўся і гінуў, дзеля далёкасці дарогі і цяжкага да вушэй гаспадарскіх доступу (пра што Асан-паша пільна клапаціўся), не маглі ні скардзіцца, ні справядлівасці дамагацца. Той самы паша, даведаўшыся пра гэнага мурына, які вакол бальсану хадзіў і ўсяляк аб ім стараўся (як вышэй апавядалася), што ён немалыя скарбы мае, без усялякае прычыны ў вязніцу яго кінуў, а каб той пра грошы свае сказаў, загадаў яго катаваць, ды так моцна, што неўзабаве памёр, а пасля смерці ягонай бальсан, дагляду добрага і ўмелага не маючы, загінуў.

*Дзівосная гісторыя пра хціўца і пра канец ягоны.*

*Хітрасць.*

Быў таксама і другі мурын, гандляр вельмі багаты, якога я і сам бачыў. Таго, прыпісаўшы яму нейкую правіну, таксама ў вежу кінуў і так акрутна змучыў, што той таварамі сваімі, якія два разы па сто тысяч у золаце ацаняліся, мусіў, аддаўшы яму, жыццё сваё адкупіць. Мала падобным да праўды здаецца, каб такі нікчэмны чалавек, што толькі ў турбане і ў кашулі паркалёвай, босы, без чаравікаў ходзіць, мог такія вялікія грошы даць і адзін гэткую вялікую віну заплаціць; але хто пабачыць ягоны палац у Каі-

*Багаты гандляр.*

ры (я і сам яго бачыў і пераканаўся, што быў ён, пэўна, гэткі ж каштоўны, як і той першы, які я таксама бачыў і пісаў пра яго), ніякага сумнення мецъ не будзе, калі і ўсе навокал сцвярджаюць, што гэтак шмат пашы заплаціў. І так ён, часта і шмат перад кім на няшчасце сваё скардзячыся, натрапіў на аднаго добрага і мудрага чалавека, які параіў яму ў Канстантынопаль паехаць і там перад імператарам гэткую вялікую і важкую крыўду сваю выкласці. Але гандляра далёкая дарога і яе небяспечнасць страшылі, нарэшце, аднак, сказаў: «У Канстантынопаль ехаць я волі не маю, але не шкада мне і ўсю маёмасць сваю страціць, калі б толькі дамогся я таго, каб імператар Асан-пашу загадаў пакараць смерцю». На што прыяцель той кажа: «Дай мне грошай паводле патрэбы, а я табе ўсё тое, што жадаеш, лёгка і хутка спраўлю. То ж апавядаюць, што паслаў праз яго ў Канстантынопаль семдзесят тысяч цэкінаў, дзе за іх кляйноты імператару накупілі. Візір-пашы таксама дваццаць тысяч падараваў і, лёгкі сабе доступ да яго забяспечыўшы, пераказаў, што імператару кляйноты вялікія мае, ды, апроч таго, пакажа яму, як вялікія скарбы, калі захоча, лёгка да яго прыйсці могуць. Загадаў тады імператар да сябе яго паклікаць, і ён, прыйшоўшы, ахвяраваў яму камяні дарагія, а сярод іх дыямент за васемнаццаць тысячаў шкудаў, які я бачыў у Венецыі года Гасподняга 1580 у гандляра, які праз год яго ў Канстантынопаль быў паслаў, і казалі, што імператару быў куплены. Тады ж адразу склаў чалавек той скаргу на Асан-пашу, апавядаючы, як ужо даўно гандляроў багацейшых той

*Добрая рада.*

*Глядзі ж, якія багацці без вёсак і замкаў.*

*Скарга на Асан-пашу.*

абдзірае, з чаго незлічоныя скарбы сабраў; і прасіў імператара, каб той урэшце над крыўдамі і нягодамі падданых сваіх злітаваўся, гэтага хціўца пакараў, а грошы і золата ягонае ў свой скарб забраў. Спадабалася гэта імператару, і загадаў ён Ібрагім-пашы, каб той у Каір выпраўляўся, дачку яму ў жонкі паабяцаўшы. А да таго ліст Асану паслаў, загадаўшы, каб той яму, як толькі Ібрагім-паша туды прыедзе, галаву сваю прыслаў. Такія лісты імператар сваёй уласнаю рукою звычайна пісаў, і высылалі іх, у кітайку або атлас чорны загарнуўшы. І так Ібрагім-паша, загад імператарскі выконваючы, адразу выправіўся ў дарогу. Аднак маці і жонка імператарава, даведаўшыся, з якой прычыны Ібрагім едзе, і бачачы, што Асану смяротная небяспека пагражае, як найхутчэй паведамілі яму праз пошту аба ўсім і намаўлялі, каб ён, Ібрагіма не чакаючы, без адкладу, скарбы з сабою забраўшы, ехаў у Александрыю, а адтуль у Канстантынопаль прыбыў; паабяцалі яны пры тым старацца, каб імператара да літасці схіліць. І так, перш чым Ібрагім з трыццаццю шасцю ґалерамі прыплыў у Александрыю, Асан, папярэджаны, пачаў з дзвюма тысячамі збірацца ў дарогу, пра што калі Ібрагіму з Каіра паведамілі, пісаў яму, каб заставаўся на месцы, бо мае з ім пра рэчы важныя і справы імператарскія пагаварыць. Але Асан быў ужо ў дарозе, і так прыбыў Ібрагім у Каір (бо раней не мог) толькі на чацвёрты дзень пасля ягонага ад'езду; напісаў, аднак, з Александрыі імператару, што Асан з'ехаў і ў Каіры яго няма.

**Дэкрэт.**

**Жорсткасць.**

**Жанчыны пярэчаць і несправядлівасць бароняць.**

**Асан уцёк.**

Маці з жонкаю імператаравай усяляк яго

Які скарб. благалі, і казалі, што ўжо былі дамовіліся на тым, каб Асан свае скарбы, што на паўтара мільёна ацэньваліся, імператару аддаў, а сам на ласку і міласэрнасць яго паклаўся. Неўзабаве пасля таго пасадзілі яго ў замак і патаемна задушылі, каб з тых багаццяў не карыстаўся, якія сквапна і ■ нягодаў людскіх сабраў. А слугаў тых яго памянёных у Каір прывезці загадалі, каб там народ, на пакаранне іх справядлівае гледзячы, хоць нейкую ўцеху за крыўды свае атрымаў.

Асана задушылі.

Бачыў я ў месце слуп высокі чатырохкантовы, зверху спічасты, з чырвонага каменю парфіру, літары іерагліфічныя (пра якія вышэй гаварылася) паўсюль на ім выбітыя. Слуп той вельмі прыгожы, і хоць спод ягоны ўрос у зямлю, аднак увышыню мае ён яшчэ амаль сорак локцяў, ушыркі кожны бок ад споду шэсць або крыху болей локцяў мае. Недалёка ад яго, у бок мора, ёсць яшчэ знакі пад зямлёю нейкага прыгожага, вялікім коштам некалі з мармуру збудаванага палаца, сцены бо плітамі мармуровымі абкладзеныя стаяць на мармуровых калонах. Быў і другі наверсе палац, але ўжо абваліўся ўвесь; а той падземны хоць і поўны абваленых рэшткаў, аднак яшчэ добра відаць у ім пышнасць пабудовы. Пад самым мястовым мурам і пад адной яго круглаю вежай ёсць таксама прыгожыя мармуровыя памяшканні, пад якімі і іншыя пра́сторныя і цудоўныя збудаванні відны; там, як апавядаюць некаторыя, жыла Клеапатра, якая сама прычынаю сваёй смерці была.

Цудоўны слуп парфіравы.

Палац каштоўны.

Якая там была сваволя чалавечая.

Клеапатра.

Быў я таксама і на дзвюх горах высокіх, што ў самім месце. На адной стаіць вежа для варты

цэладзённае, не вельмі высокая, з якой столькі харугваў меншых варта вывешвае, колькі караблёў у порт уваходзіць. Другая гара вышэйшая з боку Расэта, з якой усё места добра відаць, разлягаецца яна аж да муроў мястовых, а пад ёю вялікіх і прыгожых палацаў руіны ляжаць, дзе цяпер цудоўнага мармуру багата знайсці можна. Таго дня, а пасля часцей, на доўгай і вялікай вуліцы мястовай бачыў я вязніцу, у якой Св. Катарына сядзела. Гэта склеп невялікі і нізкі, недалёка ад якога стаяць два слупы высокія і велізарныя, з чырвонага мармуру цэлага высечаныя, паміж якімі блаславёная Святая Катарына пакутніцкі вянок атрымала.

**Горы Александрыйскія.**

**Вязенне Св. Катарыны.**

Пасярэдзіне той самай вуліцы вялікай ляжыць камень чатырохкантовы, на якім Св. Марку Евангелісту, біскупу тутэйшаму александрыйскаму, галаву сцялі. Месца тое маюць у вялікай пашане самі туркі, каб хто, праходзячы, якой шкоды яму не ўчыніў; шырокім каменем яго зверху накрываюць, адмыслова на тое высечаным.

**Дзе Св. Марку галаву сцялі.**

**Глядзі.**

Наведаў я царкву Св. Марка, недалёка яна ад таго чатырохкантовага слупа, вышэй апісанага, малая і цёмная, халдэі яе даглядаюць. Як ісці да вялікага алтара, з правага боку ёсць цесны склепік пад адным алтаром, дзе доўга цела Святое пасля пакутаў ляжала, пакуль яго венеты, хітра і патаемна (пра што халдэі з немалым жалем згадваюць) узяўшы, у Венецыю завезлі з вялікаю пачцівасцю, пра што апавядае гісторыя.

**Як венеты здабылі цела Св. Марка.**

Санджак александрыйскі вярнуўся з Каіра, куды яго быў Ібрагім-паша паклікаў. Меў з са-

**Александрыя якое места.**

бою конных дваццацёра, гэтулькі ж пешых янычараў. Іншымі днямі аглядалі мы места, якое, бясспрэчна, вельмі прыгожае і надзіва цудоўнымі палацамі (яшчэ руіны ляжаць, іншыя ж пад зямлёю) некалі аздобленае было. Наколькі можна меркаваць, ледзьве пятую частку яго людзі засяляюць. Ёсць тут таксама лазня прасторная і прыгожая, якую Саліман імператар коштам вялікім збудаваў, часам і мы ў ёй мыліся. Лёгка пагодзіцца кожны, пабачыўшы падземныя палацы, што там у зямлі здаўна другое было места збудаванае, дзе людзі ўлетку дзеля гарачыні жылі, а ўзімку ў верхнія палацы перабіраліся. З мноства тых падземных гмахаў парабілі цяпер калодзежы або цыстэрны, у якіх нільскую ваду, па каналах у места прыведзеную, захоўваюць. А цыстэрны тыя адны мястовыя, другія ж прыватныя, для перахавання вады да наступнага года, як ужо гаварылася; калі ж яе не хапае, тады за дзевяць міляў праз мора возяць з Расэта.

**Места адно над адным; якія там людзі былі.**

Паветра ў Александрыі ад траўня аж да першых восеньскіх дажджоў (бо яны тут бываюць, і пры мне дваццаць сёмага верасня невялікі ішоў) нездаровае і амаль пошаснае; а таму багацейшыя мяшчане і гандляры выязджаюць у тыя дні, некаторыя на прадмесце перабіраюцца ў морскі порт; тыя ж, хто ў месце застаецца, заўсёды ходзяць з тварам бледным і жоўтым, да хворага надта падобным. Прычыну тае заразы некаторыя прыпісваюць падземным палацам, пустым і вільготным, дзе багата розных гадаў, змеяў і іншых звяроў атрутных плодзіцца; а так вільготнасць тая, са смуродам і атрутаю звяроў

**Паветра ў Александрыі нездаровае.**

**Прычына.**

розных змяшаўшыся (бо ў Егіпце звяры такія паўсюль плодзяцца), паветра заражае. Некаторыя вінавацяць возера Марэотыс, або Арэпотэн, што за паўтары мілі ад Александрыі, кажучы, што Ніл смецце і брыдоту ўсялякую з палёў, што па той бок ад Александрыі, а таксама звяроў атрутных шмат у возера тое нясе; адтуль ужо вятры этэзіі (валохі называюць іх каўрус, або маэстра) паветра, гніллём сапсаванае, у места нясуць, пакуль яго дажджы не аджывяць і вятры лепшыя не аздаровяць. Возера таго, або, хутчэй, балота, не прамінулі тыя, хто дзеі Вялікага Аляксандра караля апісаў. Але якая б ні была там прычына, досыць на тым, што паветра тут вельмі дрэннае, уночы асабліва, калі вокны дашчыльна зачыняюць ваканіцамі, бо інакш здароўю будзе небяспека, чаго і я колькі разоў дасведчыў. Бо як толькі хто ўночы з заезду выходзіў, адразу боль у галаве надзіва моцны і млявасць ва ўсім целе адчуваў. Вось жа людзі тутэйшыя ўначы хустамі нейкімі шчыльна накрываюцца (найболей галаву) і загортваюцца.

Можна і пра гэта тут напісаць, з чаго слепату паганскую пабачыць кожны можа. Маюць гэткае прадказанне туркі (бо чарнакніжніцтвам і чарамі шмат прабаўляюцца), што Святую зямлю хрысціяне маюць у пятніцу ў іх адваяваць, калі тыя будуць у машэях сваіх на набажэнстве. Вось жа ў Дамашку (адкуль Палесціна пачынаецца) у пятніцу вялікая варта на ноч выстаўляецца, і на гадзіну раней, чым у іншыя дні, зачыняецца места; таксама і ў замак ерусалімскі ніводнага хрысціяніна не пускаюць, а нават і глядзець на яго, хоць і здалёку, не вельмі бя-

**Прагностык турэцкі.**

спечна. А як там іх варажбіты таксама пагражаюць, што хрысціяне праз Александрыю на Зямлю Абяцаную пойдуць, дык у стары порт (які Антоні ад новага аддзяліў, закідаўшы зямлёю, як гаварылася і як гісторыкі пішуць) і найменшых суднаў хрысціянскіх не пускаюць, бо вераць, што праз яго хрысціяне напасці маюць, хоць там водныя камяні і скалы бароняць. Да таго ж, калі ў пятніцу ў машэі свае ідуць (што апоўдні бывае), карвасэрыі хрысціянскія (а іх тут дзве венецкія, адна французская, генуэзская, рагузійская і іншых народаў еўрапейскіх) з вуліцы на калодку моцна замыкаюць; маюць на тое і слугаў прызначаных, якія нас кожнае пятніцы на паўгадзіны (бо не долей там яны свае чары спраўляюць) замыкалі. Хрысціяне таксама ў той дзень і гадзіну ў месце не паказваюцца, але ў заезды свае, пакуль іх не замкнулі, спяшаюцца, каб пад якое падозранне не трапіць, з чаго б ім небяспека ўзнікла. То ж і на ноч таксама заезды нашыя замыкаюць, відаць, каб паклёпу якога на хрысціянаў хто не чыніў, што яны сходкі свае там ладзяць або здраду якую рыхтуюць. Урэшце, у саміх карвасэрыях заўсёды ёсць свая турэцкая варта, якая пільнуе, каб хрысціяне чаго-кольвек на замыслялі, з чаго падозранне магло ўзнікнуць і паклёп, а за ім і пакаранне, чаму яны былі б радыя дзеля якога хабару. Звычай той у Александрыі ад даўняга часу дзеля большай бяспекі гандляроў заведзены, і пільна яго захоўваюць.

*Гэта ўжо глупства.*

*Яшчэ большае.*

Шмат аўтараў славутых Александрыю як найгалаўнейшы порт усяго Усходу апісала; я ж дадам толькі тое, што тут з усіх народаў хрыс-

ціянскіх дзіўнае мноства людзей і караблёў разнастайных бывае. На той час, калі я там жыў, было пятнаццаць галеонаў сапраўды незвычайна вялікіх, з якіх адзін змяшчаў паўтары тысячы бочак, другі ж, да яго падобны, вёз сто тысячаў цэкінаў, і злавілі яго дзве галеры мальтыйскія недалёка ад Александрыі. Адзін таксама вялікі з ветрам пагодным ад іх уцёк, але гарматамі вельмі падзіраўлены, бо ўдарылі былі чатыры галеры мальтыйскія па тых двух галеонах.

**Галеоны вельмі вялікія.**

**Мальта б'е туркаў.**

Двойчы за лета караван тых галеонаў (якія часам і блізкія караблі збіраюць) з Канстантынопаля ў Александрыю ходзіць, а то галеоны гандляроў канстантынопальскіх, на якіх, што праўда, няшмат тавараў возяць, але грошы з сабою вялікія маюць: за іх рыс, цукар, пшаніцу, дактылі і іншыя тавары, з Меккі і Арабіі шчаслівай навезеныя, з дастаткам вялікім купляюць. Бо хоць Канстантынопаль ва ўрадлівым краі ляжыць, аднак харчовыя тавары ў большай частцы з Егіпта мае. Першы раз тыя галеоны з Канстантынопаля ў сакавіку выходзяць, а ў чэрвені вяртаюцца; другі раз у жніўні едуць, а ў канцы кастрычніка дадому прыбываюць. Дзеля бяспечнае дарогі турэцкіх галер або караблёў дваццаць шэсць вялікіх, з трыма радамі вёслаў, што заўсёды на вялікім моры, звычайна іх праводзяць. Калі я быў у Александрыі, адмірал Ахіялі меўся з тымі караблямі прыплыць, і чакалі яго, бо тыя галеоны ўжо таксама былі гатовыя выплыць, толькі іх будучыя буры затрымлівалі; аб тым, што яны на моры меліся быць, з нейкіх знакаў неўзадеведаліся, пра што і нам паведамілі, як неўзабаве будзе сказана. І так тыя два галеоны (з

**Дарога галеонаў.**

**Прычына яе.**

**Хто іх праводзіць.**

якіх адзін мальтыйцы захапілі), давяраючы сваёй зброі вялікай, паволі з Рода за іншымі, якія Ахіялі праводзіў, выправіліся; каб толькі мелі яны вецер пагодны, маглі б не баяцца мальтыйцаў, калі ж такога ветру няма, галеон хутка мусіць здацца, каб нават і невядома якою гарматаю быў заспасоблены.

За чатыры дні перад маім адтуль ад'ездам трыста джэрмаў з пшаніцаю прыплыло, якую ў галеоны, што ў порце стаялі, перанеслі.

**Пачцівы прывілей.**

Не абміну я і таго, што той порт александрыйскі мае такі прывілей (які сёння яшчэ і сціслей туркі захоўваюць), што і прыязнаму і варожаму караблю спыніцца ў ім і адплыць, калі захоча, можна. Гішпанцы, аднак, таму не давяраюць, і караблі іхнія тут не спыняюцца. Фларэнцыйскія бывалі і часта, але аднойчы не надта ім тое гасцяванне ўдалося. Бо як толькі вырушылі дадому і ўжо дваццаць міляў па самім моры праплылі, турэцкія галеры іх перанялі, захапілі адзін, астатнія ж два або тры ўцяклі. Прычынаю таму было тое, што і фларэнцыйскія караблі Св. Сцяпана, набегі чынячы, немалую шкоду туркам спрычынялі; што было і незадоўга перад прыездам маім на Кіпр здарылася, як у сваім месцы вышэй пісалася. А набегі тыя амаль такія самыя, якія нашы казакі звычайна на вёскі робяць, якім калі пашанцуе, дык добра, калі ж не, тады пагібель або шкоду за добрае лічаць.

**Гішпанія асцярожны.**

Порт александрыйскі вельмі прасторны і адкрыты, дзеля чаго ўзімку не надта бяспечныя становішчы мае. І гэтак турэцкія судзіны, як і памянёныя галеоны, пад большым замкам спыняюцца праваруч порта, бо там скалы стаяць,

**[illegible] кі гэта порт.**

што ў мора заходзяць, якія іх у зацішку хаваюць, ад ветру закрываючы. Ёсць адна з іх досыць высокая, якую, праз тое, што верх мае разведзены рагата, Гваздзіком завуць. Каля яе часта караблі разбіваюцца, калі іх вецер гоніць, бо да другога замка, што леваруч порта, праход дзеля скал небяспечны. Але ж і пасярэдзіне порта ёсць скалы, на якіх часам караблі гінуць; відаць іх зверху, калі пагоднае надвор'е і мора спакойнае. Абодва замкі не надта далёка адзін ад аднаго, у караблі, што ідуць пасярэдзіне, могуць біць з гармат, з чаго лёгка кожны меркаваць можа, якая шырыня порту пры самым уваходзе ў яго. Замак, што справа стаіць, досыць вялікі і добра абаронены; другі злева меншы, не так абаронены, бо навокал нямала скал мае. Пры старым порце, куды хрысціянам уваход забаронены, ёсць дзве вартавыя вежы невялікія, адна ад места, другая ад мора, недалёка ад цэкаўза, што над тым самым портам размешчаны. Стаяць тут галеры, то значыць караблі з трыма чалавекамі каманды, на той час пры мне толькі чатыры іх было дзеля варты порту александрыйскага, і тыя (бо часта мы іх бачылі) не да канца абсталяваныя.

**Скала Гваздзік.**

**Замкі александрыйскія.**

Быў у Каіры янычар нейкі, сівы ўжо, родам з Гэльвэцыі, які за трыццаць гадоў перад тым схоплены быў разбойнікамі марскімі каля нейкага берага валошскага і, прыгнечаны няволяю, абрэзаўся ў турэцкую веру. Ён вельмі ахвотна служыў мне ў Каіры, не так дбаючы пра грашовую плату, як пра тое, каб да стала меў штодня ладную долю віна, якога ён сабе ўвесь час спраўна падліваў. То ж бо ў такім вялікім мнос-

тве людзей не так было п'янства заўважнае, дый не так сурова яго тут каралі, як дзе ў іншым месцы. Бо ўсё гэта ад пашы залежыць, які, калі сам цвярозы, пільна распытвае пра п'яных і карае іх жорстка, а калі сам з ахвотаю п'е, дык і кожнаму іншаму дазваляецца, і нікога за тое не караюць. Вось жа янычар той, сумленнем прыгнечаны, патаемна прасіў, каб я яго з сабою ў Еўропу ўзяў, дзеля чаго ён з намі і ў Александрыю паехаў. За колькі дзён перад маім ад'ездам рупіўся я пра тое і пільна спосабаў шукаў, пытаючыся і дамаўляючыся з тымі, хто там на тых справах знаўся, якім чынам чалавека таго можна было б ўратаваць. Бо адкрыта за гэта брацца нельга было, а патаемна надта небяспечна дзеля шпегаў, якія з вялікай пільнасцю сочаць, ці тыя рэчы, што былі прывезеныя, на карабель заносяць; а і пры выездзе маюць яны права на карабель зайсці і ўсе рэчы пераправерочваць; і так, калі б турка знайшлі, што гэткае падарожжа задумаў, дык і карабель з усімі рэчамі ў скарб імператарскі забралі б, і людзі б без ніякага ратунку ў вечную няволю пайшлі, бо гэтак ім вера іхняя загадвае. А так ніхто мне не раіў, каб мы дзеля яго сябе на такую небяспеку выстаўлялі; калі ж яму пра гэта сказалі, горка плакаў ён, з намі развітваючыся, так што і сам я заплакаў, бо ж вельмі хацелася мне яго з той бяды ўратаваць. Былі там таксама і два іншыя валохі, адзін Аскані з Рымскага павета, таксама рабаўнікамі на беразе схоплены, у першы год пантыфікату папы Пія Пятага, які семнаццаць гадоў у аднаго санджака быў у няволі, а з іх пятнаццаць у моры на караблі плаваў, пасля хацеў

**Янычар.**

**Якая там пільнасць.**

**Відаць пабожнага пана.**

адкупіцца, а рэшты, якой яму не ставала, прасіў, каб я яму дадаў. Другі быў Андрэй Сікуль, рыбак, якога там жа ў Сіцыліі туркі з Барбарыі, у лодках хуткіх напаўшы, схапілі, больш за дзесяць гадоў у вязніцы праседзеў і з таго нават ссівеў. Адкупіў я яго болей, чым за сто шкудаў золатам, але як Аскані быў чалавек добры і багабойны, так гэты абы-які і блюзнер, бо, плаваючы на моры, заўсёды блюзнерыў і такі жорсткі быў чалавек, што часта гаварыў уголас: «Калі жонку заспею, а яна за час адсутнасці маёй за іншага выйшла (бо меў жонку і дзяцей), дык адразу заб'ю разам з дзецьмі», а калі мы яго ў тым дакаралі, нецярплівасць вялікую выяўляў і надта няўдзячна прымаў дакоры нашыя. Адкупіў я і двух іншых валохаў, маладзёнаў выдатных, і пакінуў іх у Каіры, каб іх консул Марыян выслаў у Валошчыну. Бо некаторыя раілі мне, каб не вазіў з сабою так шмат выкупленых, бо з таго могуць западозрыць, што мы багата грошай маем, а так магла б якая небяспека ўзнікнуць. Выкупіцца ніхто не можа без дазволу пашы, у якога сведчы ліст узяць мае, іначай бо яго з порту александрыйскага не выпусцяць; ды ў гаспадара таго нявольніка паша венейкі грош пасля выкупу бярэ. Таго ж, хто веру турэцкую прыняў, болей вывозіць не дазваляецца, гэтак і ад'язджаць, хіба што патаемна, але гэта небяспечна.

**Якім чынам выкупляюцца.**

За дзень перад выездам маім з Александрыі прыйшоў да мяне Ян Валох з двума таварышамі, якія ў гандляроў служылі, гаварыў па-гішпанску досыць добра. Упаў ён мне ў ногі, просячы, каб я яго выкупіў (а быў ён з тых караблёў вялі-

кіх, што ў порце стаялі дзеля варты), на нагах кайданы меў як нявольнік, пра вялікія нягоды свае апавядаў. Абяцаў верна мне служыць і казаў, што быў цырульнікам, у лекарскай навуцы і рэчах абазнаны, да таго абяцаў быць у мяне нявольнікам, каб толькі я яго з карабля выкупіў. Навука і ўмельства ягоныя не былі мне гэтак важныя (асабліва ж таму, што меў я замест майго першага, што памёр, валоха Антонія Генуэзуа, досыць добрага цырульніка), дый не збіраўся незнаёмаму здароўе сваё давяраць: убоства, якое цярпеў ён, так кранула мяне і ўзрушыла, што я яго выкупіў.

*Цырульнік нявольнік.*

Меў я з сабою жывых лямпартаў, казярогаў і іншых розных звяроў з далёкіх краінаў, то ж даручыў я яму даглядаць за імі на караблі. Паводзіў ён сябе добра па няволі — пакуль быў на моры. Але як толькі прыплыў на Крыт, два тыдні так жыў, а пасля ўцёк, рэчы пакраўшы, што мая чэлядзь толькі на чацвёрты дзень згледзела, а як адно дробязь згінула, дык і мне не адразу паведамілі. Я ж бо з трыма толькі ў палацы князкім стаяў, астатнія ж у кляштары Св. Францішка. І хоць я таго не дамагаўся і нічога не гаварыў, аднак жа яго шукалі і з таго боку гары, што з боку Барбарыі, знайшлі; дзіўна, чаму ён зайшоў туды, адкуль выйсці не мог, і што ён меўся рабіць. Мне ж было таго досыць, што я яго, ад туркаў збавіўшы, да хрысціянаў завёз. Хацелі пакараць яго смерцю, але зноў жа і ад смерці, і ад карабельнае няволі выбавіў я чалавека, чаго б ён не пазбег; а з таго падвойны меў бы я жаль, і са смерці ягонае, і з таго дзівоснага выпадку, што за сто чырвоных выкуплены

*Злодзей з яго.*

мною з няволі турэцкае, меўся б ён быць у хрысціянаў павешаны. Вярнуў ён тое, што быў у маёй чэлядзі забраў, хоць крыху быў патраціў грошай і хацеў мне зноў служыць, але я пусціў яго вольна; і так сеў ён на новы галеон, што ў Валошчыну плыў, а што там далей з ім сталася, не чуў я пра тое.

Гандляр нейкі венецкі, які доўгі час жыў у Каіры, сцвярджаў як рэч пэўную, што з тых выкупленых рэдка калі што добрае бывае. І нездарма ён гэтак казаў. Бо за ўвесь час, што ён у тым краі жыў, да дзвюх тысячаў іх было выкуплена, а з тых ледзьве пяцьдзесят або шэсцьдзесят на добры шлях сталі, астатнія ж або зладзействам, або разбоем, або забойствамі прабаўляліся, дзеля чаго іх і смерцю каралі. Іншыя ж, ужо вольнасць атрымаўшы, турэцкую веру прынялі; бо не маючы з чаго жыць, ні спосабу, як да Еўропы дабрацца, не бачачы, каб іх зноў у няволю не забралі, гэтак мусілі ўчыніць.

**Глядзі.**

Звяроў шмат разнастайных у Александрыі прадаюць; дык і я, некаторых купіўшы, з сабою ў Еўропу быў прывёз, а менавіта лямпартаў два, пацукоў фараонавых два; а падобных да іх, што па дамах у Александрыі бегалі і па палях, асабліва ў Сірыі, шмат нам трапілася пабачыць. Ката, які піжму, або мускус, вырабляе, будучы ў Трыполі, загадаў я сабе ў Апамеі купіць, кінацэфалаў двух, самца і самку, валасы ў іх былі нібы рудаватыя. Самка, калі падыходзіў хлопчык або жанчына, адразу кусала, дарасламу ж мужчыну не наважвалася нічога гэткага чыніць. Малых катоў морскіх розных таксама меў я каля дзесятка, але іх мне воды морскія залілі, калі пад

**Звяры разнастайныя.**

**Гэта людзі з сабачымі галовамі. Пліній. кн. 7. Людзі, кажа, якіх мы кінацэфаламі называем, жывяцца малаком.**

выспаю Карпат бура вялікая і непагадзь за малым нас не патапіла. Былі і папугаі вельмі прыгожыя, і тры казярогі, якія на моры здохлі. Звер гэты надзіва спрытны, і хоць вельмі тонкія ногі мае, аднак па скалах так хутка бегае, што кожны дзівіцца мусіць.

Ёсць таксама птушак вялікае мноства вакол Александрыі, падобных да нашых курапатак, якія хоць лётаць не могуць, аднак сабака ніяк не можа іх дагнаць дзеля надта хуткага іх па зямлі бегання, хіба што калі б куды ў пастку загнаў. Курапатка тая каменьчыкамі, з пяску здабытымі, жывіцца, птушка гэтая вельмі тлустая і смаку надзвычай добрага; але есці яе, асабліва свежую, вельмі небяспечна, бо калі хто яе колькі разоў з'есць, мусіць памерці. Тлумачаць гэта той прычынай, што птушка тая каменьчыкамі корміцца, і таму калі чалавек часта яе есць, пухліну сабе набывае і з таго памірае. Вось жа абскубаўшы яе, найперш добра соляць і трымаюць так у солі цэлую ноч, пасля пякуць і ў воцат кладуць, пасля такога размочвання мяса і смачным і здаровым робіцца. Тое самае робяць і з малымі птушкамі, падобнымі да нашых чыжоў, якія лётаюць, а пры тым і тлустыя, досыць іх і на Кіпры, але іх таксама ў воцаце размочваць трэба. Апавядаюць тыя, хто ў Арабіі шчаслівай бываў, што там таксама курапаткі трапляюцца; іншыя ж сцвярджаюць, што гэта тая птушка, якую Госпад Бог гэбраям у пустэльні даў, каб елі, Святое Пісанне называе яе перапёлкаю.

*Курапаткі.* *Чаму не здаровыя.* *Чыжы.*

Вакол гары Харэб, у павеце Сінайскім, расце манна, да калабрыйскай падобная, аднак не та-

*Манна.*

кая белая, а з чырвоным адценнем. Бачыў я яе ў Каіры, праносную моц яна ад прыроды мае, і апавядаюць некаторыя, што гэткую збіралі гэбраі ў пустэльні, але паважнага доказу ў гэтым не падаюць.

У той пясчанай пустэльні, што з боку Чырвонага мора, вельмі вялікае мноства стравусаў, якія часам арабы, здалёк абкружыўшы і да купы адной сагнаўшы, б'юць. Але як яны мяса не ядуць, дый пёры не так лёгка распрадаць могуць (хоць гандляры вельмі ахвотна іх купляюць), дык і радзей гэткімі ловамі бавяцца, з якіх малы пажытак маюць, а яшчэ і коней заўсёды змардуюць. Бо стравус, крыламі сабе дапамагаючы, надзвычай хутка бегаць можа, як і нашыя дропы, перш чым паднімуцца ўгору.

Стравусы.

Калі мы ў Каіры прыглядаліся да ігрышчаў і цвічэння жаўнерскага, якія штотыдзень туркі звычайна ладзілі ў пятніцу па абедзе, прыскакаў мурын адзін голы на вярблюдзе, драмадэрам называным. Гэта вярблюд такі спрытны ў хадзе, што конь, хоць і шпарчэй ідзе, ніколі з ім не параўнаецца. З Меккі той быў з поштаю прыбег, якая ў Каір пятнаццатага дня прыбывае такім чынам. Бяжыць мурын на драмадэры пяць дзён без супынку, другі пасля на іншага таксама драмадэра сядае і другія пяць дзён едзе, нарэшце трэці на трэцім у Каір зноў жа на пяты дзень прыбывае; гэтаксама пасля ў Мекку з Каіра едуць. Мурын, што едзе, есць гэтак шмат, каб на пяць дзён хапіла, і не бярэ з сабою харчу апроч дактыляў, дый тых мала. Хлеба таксама ў тым месцы пустым, скалістым і пясчаным няма, і вады няма аж да пятага дня. Драмадэр можа да

Драмадэр вярблюд.

Слушна.

шостага дня вытрымаць так без вады, па кавалку з пшаніцы нарobленых клёцак мурын яму падкідае, бо іх з сабою шмат узяць не можа. Вады тут дзеля патрэбы сваёй не возіць з сабою, бо калі б нават і меў яе дастаткова, нельга было б яе драмадэру даваць. Бо ён калі б толькі яе пачуў, адразу б засмягнуў і гэтак пяць дзён сваіх прабегчы не здолеў бы, як яны сцвярджаюць. Адпачывае мала. Бо за дваццаць чатыры гадзіны мурын толькі на момант дзеля патрэбы натуральнай спыняецца, а драмадэр, ідучы, ваду пускае. Калі хоча мурын з яго ссесці, кійком па нагах б'е, і так той кленчыць адразу на зямлі, а гэты тым часам злазіць.

Людзі, якія жывуць у пустой Арабіі, ніколі не ядуць ні хлеба, ні мяса, але толькі дактылямі жывяцца, а таксама малаком казіным вельмі здаровым ды ваду п'юць; дзеля чаго і жывуць доўга, і шмат хто з іх да ста гадоў дажывае, здароўе добрае маюць і постаць цела зграбную. Коням замест аўса казінае мяса даюць, якое спачатку на сонцы высушваюць, пасля на малыя кавалкі сякуць; з чаго і коні добрае памнажэнне цела маюць, і можна з імі лёгка па пустэльні хадзіць (у мех які невялікі тыя кавалкі кінуўшы і да лукі прывязаўшы); а калі толькі дзве жмені на аброк дадуць, дык каню на дваццаць чатыры гадзіны амаль што і досыць бывае. Да таго ж такое мяса каню смагі не наганяе і прыродны спрыт ягоны захоўвае. Калі ж ёсць яшчэ жарабятка, толькі да дзевятага дня кабылу ссаць яму дазваляюць, пасля ж вярблюджае малако даюць, каб з матчынага слабейшым не вырасла; а так і прыгажосць сваю прыродную за-

Дзіўная рэч.

Другая.

хоўвае, і дужасць вярблюдаў, малаком іхнім жывячыся, набывае. Калі апавядалі мы александрыйцам і каірцам, што мы ў Еўропе паўсюль ваду маем, казалі нам на тое: «Вы маглі б ніколі не паміраць, калі заўсёды ваду жывую і прэсную маеце». Паказалі мы ім у Каіры хлеб, які яны хопс называюць, і не хацелі яны яго есці, але загарнулі ў хустку, кажучы: «Занясём паказаць нашым, каб пабачылі, што́ вы там ясцё, бо калі б мы яшчэ і хлеб елі, хутка б паўміралі». Бачыў я і ў Александрыі аднаго драмадэра, на якім быў прыехаў адзін араб з Расэта: вельмі прыдатны звер да хуткай язды, можна на яго і сядло надзець, бо толькі адзін горб мае, а не два, як іншыя вярблюды, што да нашэння рэчаў прыстасаваныя.

Глядзі.

Рэшту верасня аглядалі мы рэчы, вартыя ўвагі, як у месце, так і па-за ім; не маглі раней выехаць і дзеля санджака, які з нашых чатырох караблёў, што разам меліся плыць, вялікую колькасць грошай выцягнуць спрабаваў. Аднак жа пагадзіліся з ім гандляры нашыя, хоць давялося аддаць немалую суму, бо чакалі мы дзеля ветру непагоднага аж да дзевятага дня кастрычніка, калі выйшлі ў мора.

## Кастрычнік

А так маючы судзіну (што называлася «Сагіцыя»), селі мы на яе дзевятага дня кастрычніка каля пятнаццатай гадзіны, і а шаснаццатай гадзіне выплылі мы з порта, і да вечара было відаць бераг Барбарыі. Назаўтра мы ўжо зямлі не

бачылі, аж пакуль не паказалася яна раніцаю семнаццатага дня таго ж месяца. Чатыры судзіны былі таго самага дня з порта выйшлі: адна нашая французская большая, якая спачатку ў Сіцылію, а пасля ў Масылію накіроўвалася. Тая судзіна раней, чым трэба, з таго порта вырушыла, ветразі ўзняўшы, калі вецер паміж Барэем і Сэптэнтрыёнам дзьмуў, які валохі Грэцкім Трамантанам называюць; і таму амаль пры самым выхадзе ледзь аб скалу Гваздзік не разбілася, ад якой за дзесяць локцяў была, прытым гоман і крыкі людзей, што ўжо нібыта танулі, чуваць было. Патрон бо тае судзіны быў на той час хворы, а тыя, хто на ягоным месцы быў, не так асцярожна пільнавалі і кіравалі. Другая называлася галеонам Пэраста, у якім і я меўся ехаць, але як патрон яе купіў быў іншую і на яе лепшых маракоў забраў, а гэтую надта цяжка нагрузіў, так што ступіць не было куды, дык іншыя адраілі мне на ёй плыць. А былі на ёй багатыя гандляры, то дарункамі капітана ўлагодзілі, і іх з порта дзве турэцкія галеры выцягнулі. Гэты галеон фартуна загнала на Кіпр. Трэцяя была якраз таго патрона, плыла яна ў Венецыю, яе таксама адна галера турэцкая цягнула. Чацвёртая, наша «Сагіцыя», французская невялікая, якую я наняў, мелася мяне на Крыце высадзіць, бо адтуль хацеў я да Еўропы галерамі плыць праз дзяржаву Венецкую, дзе я мог крыху адпачыць, з маёй першай дарогі шмат знаёмых там маючы, а да таго ж, калі б мора дзеля блізкае зімы не дазволіла плыць. Вырашыў я быў з патронам, што высадзіць мяне ў порце, які цяпер называюць Калаліміёні (згадвае

Дзеі, р. 27.

пра яго і Св. Лука), і дзеля добрага размяшчэння, і дзеля таго, што да Александрыі быў недалёка; да таго ж заплыць у Архіпелаг, каб мяне там высадзіць, дзеля блізкае зімы не наважваўся, бо і з мора Міжземнага небяспечна было тады заплываць, што, аднак, пасля ўсё пераблыталася. То ж бо пятнаццатага дня кастрычніка каля дваццаць другой гадзіны суворая бура ўзнялася і тыя чатыры судзіны, што адною дарогай плылі, сям і там паразганяла; асабліва ж нашу «Сагіцыю» шалёна кідалі вятры, пакуль апоўначы не паказаўся нам Св. Герман (якога мы за тую ноч шэсць разоў бачылі), і тады нарэшце непагадзь сціхла. Назаўтра адвячоркам таксама нас моцны вецер усю ноч страшнаю небяспекай палохаў, а семнаццатага дня перад дваццаць другой гадзінаю такія вялікія хвалі ўзняліся, што мы ўжо ніякай надзеі не мелі, бо два адваротныя ветры — афрык і аквілон (па-валошску гарбін і грэк) — самі з сабою змагаліся і такую віхуру з адмыслам чынілі, што круцілі судзіну на адным месцы, штурхаючы яе і нахіляючы, аж да шчоглы датыкаліся хвалі, і тады аблягчаліся мы трохі, каменне ў мора скідаючы, бо тавараў ніякіх з сабою не мелі; але дзеля моцнага ветру мала тое дапамагло, бо такія хвалі «Сагіцыю» залілі былі, што мы ледзь на патанулі. А хоць ноч была вельмі цёмная, да таго ж грымоты, і бляск, і навальніца страшная была — убачылі, аднак, маракі нашыя выспу з дзвюма спічастымі скаламі. Калі мы іх заўважылі, падумалі, што мы ўжо ў Архіпелагу, дзе дзве выспы недалёка адна ад адной ёсць, якія ўсе пустыя

Небяспека.

Дывоніі выспы.

Дывоніямі называюць; і як мы ўжо безвыходнасць сваю бачылі, а «Сагіцыя» малая была, дык, проста апусціўшы ўсе ветразі, пасярэдзіне праплыць хацелі, каб хоць неяк ад такой лютае буры ўратавацца, трымаючы судзіну паміж дзвюма выспамі, дзе вятры ўжо не маглі б ёй так шкодзіць. А калі мы ўжо недалёка ад іх былі,

Правід Божы.

праз асаблівы Божы правід і ласку адзін марак з самага верху шчоглы (бо тое бліскатанне не пераставала) убачыў, што там толькі адна выспа, якая дзеля дзвюх спічастых скалаў здавалася дзвюма выспамі, паміж якімі меліся мы праплыць; таму мы, адразу ўсе ветразі спусціўшы, толькі адзін (што завецца трынкет) так пакінулі, каб тую выспу прамінуць. Аднак жа «Сагіцыя» наша, страшнаю бурай ледзь не патопле-

Глядзі.

ная і вятрамі пашарпаная, так шмат дзір мела, што ўвесь час мусілі мы ваду выліваць; сам патрон казаў нам, што ўжо надзеі няма і неўзабаве ўсім загінуць давядзецца, дзеля чаго пачалі мы сябе Госпаду Богу даручаць, і кожны пра сваю душу думаў, апошняе хвілі чакаючы. Тым часам пасля паўночы пабачылі мы святло Св. Германа, а з тым адразу і аквілон трохі сціх, афрык жа мацней «Сагіцыю» пагнаў; і так прамінулі мы тыя скалы. Сем разоў на той час пабачылі мы Св. Германа, а з кожным разам слабеў аквілон, тым часам пачало ўжо брацца на дзень. Калі ж развіднела, убачылі мы, што была гэта выспа

Выспа Кас.

Кас, да якой мы прыбыць хацелі, пустая, поўная скалаў высокіх; і каб мы былі сюды паплылі, дык без ніякага сумнення загінулі б на тых камянях і скалах, у вадзе схаваных. Пасля васемнаццатага дня пабачылі мы выспу Род, ад-

нак цэлы дзень і частку ночы шалёныя вятры кідалі нас, але, калі Св. Герман з'явіўся, сціхлі, так што рэшта ночы была спакойная. Назаўтра цэлы дзень блукалі мы паміж Родам і Карпатам (валохі яго Скарпантам называюць), выспаю, дзе, як сцвярджаюць паэты, нарадзілася і гадавалася Мінерва. А як патрон мясцовасці гэтай не ведаў, дык, баючыся разбіцца, прыстаць да берага не наважваўся; аж пакуль увечары жыхары выспы на адным мысе, ці гары, што ў моры выступае, пачалі раскладаць вогнішчы (бо гэткі там звычай, што калі заблуканы карабель бачаць, раскладаюць вогнішчы дзеля маракоў, каб пра месца бяспечнае паведаміць і пра добрае становішча); убачыўшы іх, амаль усю ноч валачыліся мы вакол берагоў. А чацвертай гадзіне ўночы ўзнялася бура страшная без дажджу, паказаўся Св. Герман, пасля чаго і вецер сціх, і ноч пагодная была.

Агні на горах морскіх.

Сцвярджаюць некаторыя, што святло гэтае, натуральную бо прычыну мае, з'яўляецца толькі ў дождж; дзеля таго зазначыў я, што без дажджу з'явілася і настала пагода. Раніцаю дваццатага кастрычніка наблізіліся мы да выспы Малога порта (звалі яго перад тым порт Агата), які вялікіх караблёў не прымае і не ставіць. Там, закінуўшы катвігі, пачалі мы судзіну нашую затыкаць пакуллем і смаліць, бо пабітая была вельмі; казалі маракі, што калі б яна яшчэ гадзіны дзве ў такой калатнечы пабыла, то б рассыпалася; выйшаўшы на бераг, купілі мы ў грэкаў харчовых патрэбаў, бо нашых куранятаў нам хвалі ў «Сагіцы» залілі. І хоць выспу тую туркі трымаюць і капітана турка яна мае, аднак жа

Порт Агата.

грэкі, як і на іншых выспах Архіпелага, аруць палі і вінніцы даглядаюць; туркі ж, добра харчамі забяспечыўшыся, у замку сядзяць і нікуды не выходзяць, грэкаў баючыся; калі ж надыходзіць час сплочвання даніны, колькі галераў з янычарамі на тыя выспы прыплывае і яны даніну збіраюць. Бачылі мы на той выспе колькі малых мястэчак, да якіх, аднак, караблі не прыстаюць, бо партоў няма. Недалёка ад становішча нашага вёска была, што называлася Лара.

Туркі грэкаў баяцца.

Назаўтра раніцаю, як вецер аквілон (або грэк) дзьмуць пачаў, а заслоны мы з таго боку не мелі, то ж, выцягнуўшы катвігі, выйшлі ў мора, маючы надзею, што зможам ужо да Крыта даплыць; але ж вецер зноў змяніўся, і ўвесь дзень той і другі лавілі мы вецер вакол выспы Кас, аж да дня дваццаць трэцяга. Раніцаю прыплылі на выспу Крыт, да мыса Саламонавага (даўней называлі яго мысам Самоніем, згадвае пра яго Св. Лука ў Апостальскіх Дзеях); там недалёка на гары ёсць невялічкая вежа, дзе варта жыве, дзеля марскіх разбойнікаў. Як толькі кінулі мы катвігі, нам паведамілі, што толькі за дзень перад намі выехала адсюль тая «Сагіцыя», якая была з намі разам з Александрыі выйшла, а мелася плыць у Сіцылію, так яе Фартуна таксама туды загнала і вятры пашарпалі; а да таго патрон, які з Александрыі хворы выехаў, на моры памёр, і там на беразе яго і пахавалі. Тая ж «Сагіцыя», як недалёка была Сіцыя, места венецкае, дзе жыве рэктар, прыплыла туды і паведаміла, што я туды еду, і быў Антоніо Барочы, гандляр, дзеля таго ў губерна-

тара (якога яны рэктарам называюць), дзеля чаго там мяне ўжо чакалі.

Як ужо часта гаварылася, што судзіны «сагіцыі», пашарпаныя ветрам, ледзь не загінулі, дык няма чаго таму дзівіцца. Бо то рэч пэўная і засведчаная, што судзіны або праз старасць сваю, або праз нядбалую пабудову і працу рамесніцкую, хоць смела і звычайна ходзяць, вельмі часта хвалямі і ветрам разбіваюцца, і тады людзі ў небяспецы вялікай бываюць. То ж бо калі карабель або на пяску, або на якой скале воднай рассыплецца, з блізкага берага прыйдуць з ратункам, і шмат хто, за дошку схапіўшыся, выплывае; але на глыбіні і сярод мора разбіўшыся, ужо і надзеі на ратунак мець не можаш. Калі хто і схопіцца за дошку, дык вецер і хвалі адарвуць ад яе, і так або патоне, або ад холаду і голаду загіне.

**Як разаб'ецца карабель, што далей.**

**Антоніо.**

Антоніо, які тут прыгадваўся, быў чалавек бывалы; двойчы ўжо быў ва ўсходняй Індыі і добра там усё ведаў. Абодва разы выпраўляўся з Апамеі, або з Алепа, на раку Еўфрат, па ёй уніз да мора Персідскага, раней Элеатыф называнага, пасля да Армуза, нарэшце прыплываў у Гою; а назад вяртаўся ў Каір праз мора Чырвонае і высядаў пад местам Тур, якое на беразе таго ж мора стаіць на тым месцы, дзе гэбраі, ад Фараона ўцякаючы, пасуху яго перайшлі. Але другім разам схапіў яго паша, які тымі ваколіцамі мора Чырвонага (што далей за межамі Арабіі шчаслівей) кіруе; бо хрысціянам нельга там плаваць, чаго туркі вельмі пільнуюць, бо недалёка адтуль Мекка, і мора там гэтак вузкае, што рэдка дзе абодва берагі не відны, а звычай-

на караблі, што з Індыі ўсходняй ідуць, заходзяць у Мекку, Антоніеў, аднак, маючы вецер вельмі добры, прамінуў і не зайшоў. Апавядаў той самы гандляр, што ўзяў пры ім паша каля дзесяці тысяч цэкінаў у розных таварах, асабліва ж рознымі камянямі, якія там у дзічыне знаходзяць і якіх у нашых краінах яшчэ не бывала, таксама перламі асабліва дарагімі. І прывёз яго быў той паша ў Каір (бо то быў не які там важны паша), і аддаў яго ў вязніцу Ібрагіма-пашы, як найвышэйшага ўладцы Егіпта; пакуль яго консул венецкі, бо і Антоніо венетам быў, выручыў, і пасля ўжо толькі пры нас атрымаў ён дазвол выехаць у Еўропу. Накіроўваўся ён у Гішпанію, бо на загад караля гішпанскага (што ён і сам не адмаўляў) тое паломніцтва сваё справіў дзеля таго, каб і дарогу праз мора Чырвонае прагледзець, і ці мог бы з яе які пажытак быць, пабачыць. Быў мне чалавек гэты добра знаёмы, а як дзіўных і небывалых рэчаў там нагледзеўся, дык і мне апавядаў; але шмат ужо пра іх пісалася, дык я праміну. Калі я ўжо быў дома, атрымаў колькі лістоў ад яго, як з Гішпаніі, так і з Валошчыны, а ў апошнім лісце паведамляў ён, што спачатку ў Сірыю, а адтуль у Індыю ўсходнюю трэці раз выправіцца збіраўся.

Хцівасць турэцкая.

Асабліва ж нас яшчэ Госпад Бог асцярог, што мы, блукаючы вакол Родаса і там пры ўваходзе ў Архіпелаг, не натрапілі на армаду турэцкую (з якою ехаў Ахіялі, было там дваццаць пяць галер, плылі яны з Неграпонту на Род); бо каго такая армада спаткае, забірае ўсё, што толькі захоча. Была, што праўда, «Сагіцыя» наша французская, а з тым

Праўдівасць подні.

народам туркі ў прыязні жывуць, і дзеля таго мог бы непрыяцель з намі спагадна абысціся; аднак жа ўсё адно мусілі б мы або ў няволю пайсці, або выкуп заплаціць, чаго і самі французы нядаўна былі сведчылі, як нам патрон наш француз апавядаў; а то з ласкі Божай не трапілі мы ў рукі бязбожнаму Ахіялі, якога на той час венеты раззлавалі, бо не хацелі яму выдаць мальтыйцаў, якіх незадоўга перад тым з дзвюма галерамі былі захапілі і на Карцыру завезлі. Гнаўся за імі Ахіялі, і калі сем галер венецкіх вярталіся з Корфа на Крыт, дзе яны варту трымаюць, а над імі капітанам быў Пілін Паскуалі, дык Ахіялі чакаў іх у порце Наварыі, хочучы за тое на іх напасці; але як з Зацынта папярэдзілі венетаў, дык вярнуліся яны на Карцыру, бачачы, што з Ахіялі зраўнацца не здолеюць, які з дваццаці пяці сваіх звычайных галер васемнаццаць выбраў і надзвычай добра заспасобіў. І тады Ахіялі, бачачы, што яму намеры ягоныя наблыталі, проста звар'яцеў і ляцеў, разлютаваны, шукаючы здабычы на моры, і натрапіўшы неяк на колькі караблёў хрысціянскіх гандляроў, і людзей у няволю, і рэчы, і караблі забраў, імператара баючыся, што ён гэтак неасцярожна ўчыніў. І так Госпад Бог нас ад таго чалавека захаваў, які з Карпата на Род ехаў, а мы таксама з Рода плылі. Дзівіліся ўсе вельмі на гэтай выспе, як мы з ім не сустрэліся.

**Ахіялі, разбойнік морскі.**

Калі каму дзіўным або да праўды непадобным здавацца будзе, што я тут пра Св. Германа напісаў, дык той тады лёгка праўдаю напісанае прызнае, хто сам на моры калі бываў і штормаў ягоных спазнаў; няма ж бо нікога, хто б пры

**Св. Герман на моры што такое.**

смяротнай небяспецы ў моры разлютаваным таго не пабачыў. То ж або Св. Герман амаль загіблым ужо з'яўляецца, як шмат хто верыць; або святло тое з нейкай іншай прыроднай прычыны паходзіць, як іншыя апавядаюць: я ні з кім не спрачаюся, а толькі тое сцвярджаю, што тым, хто на моры, яно паказваецца, і я яго бачыў, і тыя, хто са мною быў (гэтулькі разоў, як вышэй пісалася), бачылі. Паказваецца яно як зорка ясная або літая свечка запаленая, часам ярчэйшая, часам тускнейшая. Садзіцца часта або пасярэдзіне шчоглы, або дзе ў іншым месцы, але заўсёды на высокім месцы, а калі хто хоча яго ўзяць, адхінаецца і ўцякае; часцей, аднак, сядае на самым версе шчоглы, на крыжы, і трымаецца там, як пацер адгаварыць, часам, аднак, паўчвэрці, часам нават і чвэрць гадзіны; а ў той буры шалёнай трымаўся паўгадзіны, нібы свечка якая, палаючы. Як толькі пакажацца, пэўны знак дае, што вецер сціхне, і заўсёды значна сціхае, і чым часцей паказваецца, тым болей вятры сунімаюцца; дзеля чаго людзі надзею маюць пэўную аб жыцці сваім на той час, што прыкладамі рознымі можна было б паказаць. Сцвярджалі маракі таксама і тое, што калі караблі разам плывуць, той, якому святы Герман пакажацца, цэлы будзе; які ж яго не бачыць, або патоне, або разаб'ецца. Апавядалі яшчэ, што калі два пакажуцца (што рэдка бывае), дык тады карабель напэўна загіне, і тое казалі, што калі два агні відаць, дык гэта прывіды або д'яблы, якія ніколі ў адной постаці не паказваюцца, а толькі ў розных; тыя людзі сцвярджалі, што былі такімі выпадкамі на караблях, якія тады разбіваліся.

Як яно паказваецца.

Глядзі.

Падалося мне неабходным дадаць яшчэ і тое, што самі маракі, на моры дасведчыўшы, сцвярджалі, нібыта на якім караблі ёсць мумія, дык карабель той або вялікай небяспекі, або пэўнай загубы не пазбегне; а таму пільна папярэджваюць тых, што на карабель рэчы заносяць, каб муміяў з сабою не бралі, даючы тую прычыну, што мумія — цела паганскае, разам з якім стодзіва хаваюць, а як няма сумлеву, што душы іхнія ў апецы, уладзе і старанні сатанінскім, гэтак і целы, дзе б іх хто ні вёз або праносіў. Калі я ў Каіры апускаўся ў пахавальні або пячоры, дзе гэткія целы ляжаць, купіў я і ўзяў два,— мужчыны і жанчыны (пра што вышэй гаварылася); і так з усім, як былі загарнутыя, кожнае на тры часткі падзяліўшы, загадаў пакласці ў скрыні, якіх атрымалася шэсць скрыняў вялікіх і сёмая са стодзівамі. Калі яшчэ на беразе пачуў я ад маракоў, раіўся з гандлярамі, што мне з тым рабіць, калі б тое праўдаю было. Некаторыя лічылі гэтаксама, як і маракі, іншыя ж казалі, што гэта ўсё плёткі, апавядаючы, што яны самі часта муміі праз мора ў Валошчыну возяць і цэлыя прыязджаюць; і так вырашыў я ўзяць з сабою тыя целы, каб у Еўропе паказаць, што там пра іх скажуць, бо я зусім ніколі не бачыў, каб іх да нас калі прывозілі. А так нічога не сказаўшы мараку, загадаў я з іншымі рэчамі сваімі і тыя скрыні пакласці, чым адразу ледзь не наклікаў на сябе вялікую небяспеку. Бо калі прыйшлі туркі ў Александрыі аглядаць мае рэчы, каб мыта за іх узяць, мелі з сабою гэбрая, які ў іх за пісара быў і за тлумача; а як да хрысціянаў прыхільны быў і паблажлівы (праз яго ⅄

*Мумія на моры.*

*Стодзівы.*

*Вялікі правід Божы.*

бо справы і закупы хрысціянскія ішлі, з чаго меў ён пажытак і заўсёды нейкі падарунак), то ж пабачыўшы мумію, загадаў адразу і абвязаць скрыні; а туркам, якіх мы віном частавалі, сказаў, што няма нічога ў тых скрынях, апроч панцыраў чарапашых, якія над морам збіраюць; і туркі паверылі яму як свайму чалавеку, дый не хацелася ім з другой каморы выходзіць, дзе мы іх частавалі. Прычына, з якой туркі гэта забараняюць, тая, што (бо і самі шмат чарамі займаюцца) лічаць яны, нібыта хрысціяне тыя целы паганскія на чарадзействы вывозяць, каб пасля праз іх туркам і дзяржавам іхнім шкодзіць; а таму і цяжка цэлую мумію вывезці, дык гандляры пакрыёма па частцы малой звыклі прывозіць. Аддзячыў я гэбраю, і добра, бо калі б туркі былі тое ўбачылі, мусіў бы я немалыя грошы прыплаціць, а да таго ж напэўна з небяспекаю вялікай. А так у першых тых бурах морскіх ніхто з нас зусім пра муміі не памятаў, але быў са мною святар адзін паляк, Сымон Белагорскі (які ад караля Сцяпана пашпарт меў, таксама ўжо Гроб Святы быў наведаў у Ерусаліме), які моцна аб тым шкадаваў. Бачыўся я з ім найперш у Трыполі, вярнуўшыся з Ерусаліма, а другі раз зноў на Кіпры, едучы ў Егіпет, спаткаліся мы, урэшце прыбыў ён у Александрыю ў суботу а дваццатай гадзіне, адкуль я назаўтра а пятнаццатай меўся ехаць; бачачы ж гэтага святара багабойнага і вельмі пабожнага, а да таго ж земляка майго, узяў я яго з сабою ў Еўропу. А так ён нічога зусім пра мумію не ведаў, бо ж за тры дні да прыезду ягонага ў Александрыю ўсе мае рэчы былі на «Сагіцыі», а сам я ў месце стаяў,

**Чаму туркі забараняюць муміі вывозіць.**

**Кс. Сымон паляк.**

ветру чакаючы. Але ў першых тых штормах і бурах, калі малітвы свае святарскія спраўляў, вялікія турботы меў ад нейкіх двух прывідаў, якія, калі толькі ён на караблі апынуўся, усюды за ім хадзілі. Спачатку, чуючы ад яго пра гэта, дзівіліся мы, а пасля (як гэта бывае) смяяліся і павярнулі ўсё на жарт, лічачы, што відзеж той ягоны быў ад боязі і трывогі на моры. Але пад час другой небяспекі яшчэ болей скардзіўся, сцвярджаючы, што паказваюцца яму двое, мужчына і жанчына, нейкія чорныя, у такім а такім убранні, якога і слугі мае не бачылі апроч дваіх, якія са мною ў пячорах каірскіх былі, але ж святару таму напэўна пра тое не апавядалі, дык тады ўжо і мы здзівіліся.

**Відзеж ягоны, глядзі, які страшны.**

**Мурынаў страшных бачыў.**

То ж бо пэўна было, што пра тыя целы ніхто, апроч слуг, не ведаў, якія без сумлеву нікому нічога не казалі, але і на той час яшчэ не ўспомнілі мы пра мумію. Аж пакуль нарэшце не прыбег ён да мяне дрыжучы, бледны і спалоханы, апавядаючы, што маліцца не можа праз тых прывідаў, якія яго нібыта ўжо тузаць пачалі. І толькі тады прыйшло мне ў галаву, што ён, напэўна, праз муміяў тых пакутуе, і паслаў я адразу да патрона, каб загадаў ён спод у «Сагіцыі» адчыніць, прычыны яму не кажучы, бо хацеў я патаемна тую мумію ў ваду скінуць. Але патрон адказаў, што дзеля хваляў вялікіх не можа ён таго зрабіць, хвалі ж тыя залівалі «Сагіцыю» так, што мы ўсе вымаклі, і сказаў ён: «Пачакайце трохі, можаце на дол не спяшацца, зараз усе на дне будзем, калі патонем». Бачылі мы і самі, што адчыняць было вельмі небяспечна, а з другога боку кс. Сымон на прывіды тыя вель-

**Да чаго дайшло.**

**Глядзі.**

мі наракаў і лямантаваў, дык і не ведалі мы, што далей учыніць.

З'явіўся нам тады Св. Герман, а ўжо і днела, і вецер сціх, тады загадаў я адчыніць і, хоць за тою Св. Германа свечкаю былі мы больш бяспечныя, аднак жа як кс. Сымон ад прывідаў пакутаваў, дык загадаў я муміі ў мора ўкінуць з сямю тымі скрынямі. Тады прыступіўся да мяне патрон, пытаючыся: «Што вы там выкінулі, ці не муміяў?» Прызнаўся я ў тым, што вельмі яго напалохала, але, супакоіўшыся, рады быў таму і абяцаў пэўна, што болей ужо мы гэткіх прыгодаў морскіх мець не будзем. І праўда. Бо хоць была ўзнялася ля выспы Карпат бура, але не вельмі вялікая, а пасля з'яўлення Св. Германа адразу сунялася. Апавядаў ён таксама, што калі я ўначы да яго пасылаў, каб ён «Сагіцыю» загадаў адчыніць, хоць бы і дзеля муміі, дык і тады б не зрабіў таго дзеля вялізных валаў морскіх і страшных хваляў, бо не меў ужо там ніякай надзеі ды чакаў толькі, ці хутка апусцімся на дно морскае. Пытаўся таксама і кс. Сымон, што мы выкінулі; калі ж сказаў я яму, як усё было, ён яшчэ болей узрушыўся і як святар дакараў мяне, што я насмеліўся трупы паганскія з сабою вазіць, дзеля якіх ён таксама нямала пацярпеў. Прыняў я з удзячнасцю ягоныя папрокі, як і належала, пра сябе, аднак, сказаўшы, каб ён на мяне ніякага падозрання не складаў, бо ж я мумію, якую ў лекарскіх справах часта ўжываюць, дзеля ратавання хворых з сабою ўзяў, чаго і царква не забараняе; калі ж я сам пра тое на Крыце ў багасловаў пытаўся, што́ яны на гэты конт думаюць, адказалі мне, што няма да гэтага

*Іншага патрактавання паганства было нявартае.*

*Вольнасць стану святарскага.*

*Але і зямля шляхетная.*

ніякай у царкве забароны; то ж і палічыў ён, што дастаткова я настаўлены і папярэджаны. Відаць, не ведаў ён пра мумію на той час, бо нагадаў бы мне тады як святар, каб мы дзеля яе не гінулі; бо мы ўсе ўжо да смерці рыхтаваліся, а ён малітвы нам пачынаў (якія ў гэткай небяспецы адгаворваюць), і маліліся мы разам. Госпаду Богу давяраючыся.

Усё гэта я не дзеля таго падаў, каб сцвердзіць, што дзеля муміі (як шмат хто апавядае) караблі разбіваюцца, але каб апісаць, што са мною на моры дзеялася. Святар той сапраўды жыцця быў пабожнага і вельмі прыкладнага: бо аж да Карцыры са мною ехаў, а калі выправіўся я ў Валошчыну і ссеў у Тарэнце з карабля, ён з слугою маім пры рэчах маіх на галеры ў Венецыю паехаў і майго прыезду там чакаў; пасля ж у Кампастэла (каб зарок свой споўніць) выправіўся, меўся адтуль у Рым вярнуцца, а нарэшце ў Польшчу, як быў задумаў, ісці. Дзе ён толькі са мною ні быў, як толькі да зямлі хрысціянскай даязджаў, кожнага дня Святую імшу з вялікай пабожнасцю і плачам адпраўляў, у доме ж прыслугоўваў, спраўляючы ўсе найцяжэйшыя паслугі, нібы хлопец які, пакуль мы не папрасілі яго, каб суняўся, бо і на кухні збаны і катлы мыў, і падмятаў, а гэткая пакора ягоная і пачцівасць усім на здзіўленне была.

*Якое цудоўнае сведчанне.*

*І цяпер не іначай.*

Вельмі патрэбным мне здаецца напісаць пра тое, які відзеж той святар багабойны меў па суворых тых (ля выспы Карпат) бурах, калі нам адзін толькі раз быў Св. Герман з'явіўся, тады ён мне гэта адразу (бо я быў яму самы блізкі) сказаў а пасля і астатнім усім каб Госпаду Бо-

*Яго нябесны відзеж.*

гу дзякавалі, паведаміў. Бо калі малітвы свае спраўляў, бачыў, нібы «Сагіцыя» наша разбітая была, и мы ўсе, ужо нібыта па моры плывучы, танулі. Тым часам Найсвяцейшая Дзева, акрыўшы нас шатамі сваімі, зноў «Сагіцыю» нашу сабрала, склала і сказала: «Глядзіце, у якой вы былі небяспецы». І ён тады нібы ад сну прачнуўся, што і мы добра бачылі, бо ён нават на ногі ўстаў і глядзеў, што карабель цэлы і мы ўсе на ім, а ён ужо думаў, што мы патанулі. Каротка я пра тое нагадаў, пры чым я сам быў і на што сам глядзеў: пэўна і непазбежна, што калі б тая бура яшчэ гадзіны дзве трывала, наша «Сагіцыя» ніколі б не вытрымала; яшчэ і ў тым выявілася, што каля выспы Карпат няспынна дваццаць чатыры гадзіны мусілі мы то латаць яе, то заліваць смалою, бо яе так былі хвалі пашарпалі, што маракі наперамену гадзіну за гадзінаю ваду вылівалі.

Як толькі прыплылі мы да памянёнага мыса, што сталася на світанні, дык патрон туды «Сагіцыю» дзеля скал не наважваўся ўночы падводзіць, кінулі катвігі і да скалы «Сагіцыю» канатамі прывязалі (бо тут грунт слабы, як толькі вецер павее, вагаюцца і выцягваюцца катвігі, і часам няўмелы марак з караблём гіне); выправіў и адразу слугу майго ў Сіцыю, да якой тры мілі было, каб ён рэктару Канстанту Рынэру пра мой прыезд паведаміў. Той, як ужо ведаў і чакаў мяне, дык адразу і коней і каля дзесятка

Страдыёты.

коннікаў, нібы капейнікаў (страдыётамі іх называюць), насустрач мне выслаў, якія разам са слугою маім толькі пад вечар прыехалі, дзеля чаго мусіў я яшчэ і гэтую ноч на «караблі»

спаць. Калі прыбылі і, у барках да мяне прыплыўшы, павіталіся са мною ды, што ім рэктар загадаў, пераказалі, тады толькі патрон наш, пабачыўшы і даведаўшыся напэўна, хто я такі, страшэнна шкадаваць пачаў, што пра тое ў Александрыі не ведаў. Тады ж іначай (хто яго ведае як) са мною абыходзіўся б. А так падумалі мы (ці меў ён жаданне такое, сам Госпад Бог ведае), што калі б нас не было гэтак шмат на «Сагіцы» (бо і колькі страдыётаў пры мне было засталося), то ўночы б зноў завёз нас у мора, каб выкуп з нас запатрабаваць; або якім іншым спосабам шукаў бы сабе пажытку, як тут іншыя ўмеюць і рабіць звыклі. І так засцярогшыся, цэлую ноч вартавалі мы, ні на хвіліну не заснуўшы.

**Але Госпад Бог свайго паломніка бароніць.**

Раніцай высеўшы з карабля, а рэчы ў барку, якая была па іх прыехала, паклаўшы і ў Сіцыю выслаўшы, патрону паводле ўмовы заплаціўшы, так што задаволены застаўся, ды чэлядзі карабельнай дарункамі аддзячыўшы, селі мы на ней і паехалі ў Сіцыю; а па дарозе зайшоў я ў адзін кляштар грэцкі Найсвяцейшае Дзевы, дзе людзі вялікае набажэнства спраўляюць, і там Госпаду Богу падзякаваў, што шчасліва мяне праз мора перанёс. Каля паўдня прыехаў я ў Сіцыю, дзе рэктар з вялікім почтам шляхты выехаў мне насустрач і правёў мяне ў палац шляхціча аднаго венецкага дому Карнэліяў, а там прытулак мне зручны даўшы, вярнуўся ў свой палац. Бо Сіцыя мурам не абнесеная, каля двухсот дамоў мае, палац таксама рэктараў досыць цесны, і фартэцы ніякай няма, бо пад час вайны ўсе ў бяспечнейшыя месцы выязджаюць; тут

рэктар, бо павет той вельмі вялікі, толькі дзеля судоў звычайна жыве.

Раніцай прыехаў да мяне рэктар і праводзіў мяне ў царкву, пры якой быў таксама невялічкі кляштар закону Св. Аўгустына, дзе выслухалі мы Св. імшу. Па абедзе наведаў я яго ў палацы,

Адлылыццё маракоў.

дзе ён на той час спраўляў суды. Было адтуль відаць далёка ў моры, і бачылі мы «Сагіцыю» нашу, якая ніяк не магла пераплыць на другі бок выспы ў бок Барбарыі дзеля супраціўнага ветру, мора ж тут прасторнае і бяспечна па ім плаваць, але яна блізка ад Архіпелага ішла, дык зноў буры яе апанавалі, загнаўшы аж да Карцыры.

Пішу гэты трэці ліст адсюль да цябе, таму што баюся, каб мне тут на Крыце дзеля бураў і непагадзі даўжэй за спадзяванне і патрэбу маю жыць не давялося. Пасняшаюся, аднак, у Кандыю, а калі пабачу што цікавага, не праміну табе напісаць. Дадзена ў Сіцыі, года Гасподняга 1583, 25 кастрычніка.

## ЛІСТ ЧАЦВЁРТЫ

Рэктар сіцыйскі, багата шляхты запрасіўшы, зладзіў у мой гонар банкет у палацы сваім дастаткам вялікім, а пасля гулялі мы ўдвох. Калі ж праміналі мы нейкую царкоўку грэцкую, па-

Банкет.

бачылі пахавальную цырымонію гэтага краю, не вельмі ад даўнейшых паганскіх адрозную. Хавала жанчына мужа свайго, дык падрала сабе твар, валасы выдзірала, адзенне на грудзях ірвала, галавою аб мур білася, пакуль кроў не палі-

лася. Да таго яшчэ наняла мужчынаў і жанчын, якія, цела да магілы несучы, галасілі, плакалі, рукі сабе ламалі; відовішча вельмі агіднае і брыдкае, і звычай нехрысціянскі. Увечары развітаўся я з рэктарам, які даў мне пару страдыётаў, каб праводзілі мяне, і абвясціў тамтэйшай шляхце, кудою я меўся ехаць, каб мяне паўсюль прымалі; і праўда, вялікую шчырасць і гасціннасць да мяне выяўлялі, нават без таго абвяшчэння.

Раніцаю, выслухаўшы Святую імшу і прыняўшы Найсвяцейшае таемства, яшчэ на досвітку выехаў я на абед у Турлоту, палац аднаго шляхціча, пасля на ноч у Кавузу, праз даліну ўрадлівую і прыгожую, дзе шляхціч венецкі вырасціў кіпарысавы гай, прыгожаю чарадою дрэвы пасаджаныя там стаяць.

Прыехаў я ў Істрону, прыгожы і дагледжаны маёнтак нейкага шляхціча. Пасля праз Памерыяк, вёску вельмі людную, ехалі мы, адтуль жа, як быў ужо вечар, завітаў я ў кляштар Св. Антонія de Sumete de Cares, закону Св. Францішка. Вельмі ўдзячна законнікі нас тут прынялі, а як з міласціны жывуць, дык пладамі нас частавалі. Справа, недалёка ад гасцінца, бачылі мы Дырапетру, даўнімі часамі званую Хірапея; тамсама справа, над берагам морскім (не маглі мы добра бачыць) ёсць немалая фартэца венецкая, Спіна Лонга называная, на скале стаіць, адусюль морам абкружаная.

**Спіна Лонга.**

Па абедзе выехаў я з кляштара на ноч у Маглу, вёску шляхціча аднаго, дзе ёсць палац невялікі. Сюды князь кандыйскі родзіча свайго з сакратаром і дворам людным выслаў да мяне,

**Князь кандыйскі.**

каб мяне прывіталі і прасілі мяне ехаць проста ў палац.

Раніцаю гадзіны за чатыры да світання ўстаўшы, па надта цяжкай скалістай дарозе ледзьве пад поўдзень прыбылі мы ў Кандыю і адразу пайшлі ў кляштар Св. Францішка Госпаду Богу падзякаваць і там спыніцца, бо і першаю дарогаю ў Кандыі спыняўся я ў кляштары. Але калі прыйшоў я да князя на абед, ні ў якім разе не хацеў ён, каб я дзе ў іншым месцы, а не ў палацы ягоным спыніўся; хоць мне і цяжка было, бо хацеў бы я дзеля пэўных прычын у кляштары спыніцца, аднак ён прасіў і тлумачыў, што з вялікай няласкаю рэспубліка Венецкая прыняла б ад яго гэткую вестку; таму рад не рад, мусіў я цэлыя пяць тыдняў гасцяваць у яго, перш чым выехаў у Кандыю.

Пра размяшчэнне места Кандыі і абарону ягоную, надта вялікую, гарматаў бо мае досыць надзвычай спраўных, іншыя ўжо пісалі, дык я гэта абміну. Астатнія рэчы першаю дарогаю каротка я апісаў.

## Лістапад

Сёмага дня лістапада прыплыла з Карцыры дванаццаць галер венецкіх, сем гвардыі, якая вартуе каля Крыта (адвозілі кавалерыю з Мальты, якую былі венеты захапілі), а пяць новых, якія яны арцылямі называюць, і стаяць яны ў арсенале або пры цэкаўзе, і толькі пад час вайны або якой патрэбы іх выпраўляюць. Бо галеры нідзе не робяць, толькі ў Венецыі, а адтуль іх пасля рассылаюць, куды патрэба. Увесь гэты

Галеры толькі ў Венецыі робяць.

час аглядаў я места, быў таксама і ў замку, што ў порце стаіць, невялікі ён, але моцны, і амаль пад самы замак гэты ўсе судзіны падыходзяць, гармат вялікіх у ім багата.

Шляхта ж, адно тыя, што на ўрадах, часта мяне да сябе запрашалі і з вялікай шчодрасцю і дастаткам заўсёды частавалі. Меліся мне былі даць тут пару галер, якія б мяне ў Валошчыну завезлі, на тое ліст ад рэспублікі Венецкае да галоўнага ўрадоўца таго места меў, і часткова справа гэтая была ўжо вырашаная; але капітан над галерамі Піліп Паскуаліга з дня на дзень адкладаў, нарэшце пад прымусам мандату рэспублікі даў мне, але толькі адну, Яна Дыеда. Аднак і той, маючы брата кашталяна ў Спіна Лонга, які аліўным гандлем займаўся, дзеля той сваёй алівы яшчэ затрымаў выезд, так што я пазней мусіў ехаць і на іншых галерах, як будзе сказана ніжэй.

Магіла Юпітэрава.

Быў я на гары вельмі высокай над местам Кандыяй, дзе ёсць кляштар невялікі грэцкі, не даехаў я, аднак, да яго, бо ўжо вельмі позна было. Там, як баяць паэты, ёсць магіла Юпітэрава, а некаторыя пішуць, што і надпіс надмагільны нейкімі старымі грэцкімі літарамі, якіх дзеля даўнасці ўжо і прачытаць нельга, іншых жа і не пазнаць. Георг Цэдрэн у гісторыі згадвае, што быў там такі надпіс:

HIC SITUS EST PICUS QUI ET IUPPITER MORTUUS.

Тут ляжыць Пікус ці бо Юпітэр памерлы.

## Снежань

Раніцаю чацвёртага дня снежня выехаў я з Кандыі, Святую імшу выслухаўшы, адкуль радных і шляхты колькі дзесяткаў конных мяне праводзілі. На поўдзень прыбыў я ў Тэліжу, на ноч у Камарыёту, абедзве мясціны тыя шляхце кандыйскай належаць. Назаўтра раніцаю ў Дафнэады, а на ноч у Рэтым прыбылі мы, дзе радныя, шляхта і капітан з пяццюдзесяццю конямі выехалі насустрач мне. Бо як там фартэца вялікая, дык венеты нямала людзей там трымаюць; паехаў я адразу ў замак, дзе быў рэктарам Анджэла Барочы, вялікую ён гасціннасць і прыязнасць мне выказаў і з усіх гармат, што ў тым замку вялікім былі, загадаў стрэліць. Места туркамі спаленае ў мінулыя войны, замак стаіць на скале, што ў мора заходзіць, і здалёк здаецца, нібы ён на нейкай выспе; адно што месца меншае, а размяшчэннем вельмі падобны да турэцкага, які ў Сірыі Фінікійскай стаіць.

Фартэца.

Назаўтра раніцаю пайшоў я з рэктарам павітаць біскупа, які зваўся Юлі Карара, і, выслухаўшы Святой імшы, вярнуліся мы ў замак, а з намі і біскуп. Па абедзе вельмі цяжкай дарогаю ўжо на самым змярканні прыехалі мы ў Пішкап, а там палац і вёска таго біскупа, і на загад ягоны прымалі нас там цэлую ноч.

Выехаўшы раніцаю і пакінуўшы за сабою з правага боку гару другую Дырапетру (перад тым званую Іерапетра), дзе шляхта дзеля разбойнікаў морскіх трымае жаўнераў, прыбылі мы за тры гадзіны перад заходам сонца ў кляштар грэцкі, называны Св. Яна de Patina. Бо ёсць

выспа ў Архіпелагу, якая завецца Патмос, дзе Св. Ян Евангеліст Аб'яўленне сваё пісаў. Шмат ёсць кляштараў у Грэцыі таго самага закону, а ўсюды называюцца яны Св. Яна de Patina. Недалёка ад таго кляштара (бадай што за польскую мілю) відаць муры досыць яшчэ цэлыя, з каменю квадратнага, на гары высокай, праз якую я ехаў, з таго відаць, што места нейкае вялікае там некалі было. Таксама недалёка ад кляштара таго ёсць цыстэрны, вялікім коштам у зямлі вымураваныя, адкуль ваду ў тым месце бралі; і дзіўна, чаму яно на гары закладзенае было, дзе вады быць не магло, каб так далёка па яе хадзіць, вада ж тая ад дажджу бывала, бо іншай тут нідзе няма; і ўся выспа тая тольркі дзве ма́е рэчкі, па якіх толькі ў чаўне, дый тое невялікім, ехаць можна, а калі дзе ёсць крыніца, дык малая і вады скупа дае.

*Выспа Патмос, дзе жыў Св. Ян Евангеліст на выгнанні.*

Раніцаю, за чатыры гадзіны перад світаннем выехаўшы, прыбыў я ў Канэю (старыя называлі яе Цыдоніяй), да таго яшчэ, як места адчынілі; так што я паўтары гадзіны чакаць мусіў, што я дзеля таго ўчыніў, каб мне насустрач не выязджалі. Адразу ж як адчынілі, паехаў я ў кляштар Св. Мікалая закону Св. Дамініка. Бо капітан над жаўнерамі Рафал Разбоні вельмі прасіў мяне, каб я ў ягоным палацы спыніўся; але ж я дзеля таго і з Кандыі з'ехаў, каб даўжэй у палацы княскім не жыць і свабаднейшым быць, а не тымі цырымоніямі забаўляцца, якія мне тая шляхта з асаблівае гасціннасці сваёй наладжвала, то таму захацеў я спыніцца ў кляштары. Дый пісаў я з Кандыі законнікам, каб мяне ў сябе прынялі, што яны ахвотна ўчынілі,

*Цыдонія, або Канэя.*

бо мелі для гасцей пакоі розныя мураваныя, якія паводле стану кожнаму даюць, калі надарыцца патрэба; а заездаў у Грэцыі няма, тут сабе прытулак або праз ласку дзе шукаць трэба, або за грошы. Адразу ж прыйшоў павітаць мяне рэктар Ян Дамінік Чыконія з рáднымі, з Маркам Антоніем Кантарынам і з іншымі з дому і роду Лаўрэданаў. Пасля, разгасціўшыся, аглядаў я места часцей, бо пражыў там дзевяць тыдняў. Места тое вельмі добра абароненае, мае порт, у які, аднак, вялікія загружаныя караблі не ўваходзяць дзеля скал; але за мілю нашую ад яго выспа ёсць невялікая, высокая (мае фартэцу Турлурэс), каля якой бяспечна спыняюцца. Шмат хто пра выспу тую піша, асабліва Пліній, што мела яна некалі сто местаў; я ж, праездам толькі на ёй будучы, не хачу нічога такога сцвярджаць; з частых, аднак, руінаў відаць добра, што было тут местаў некалі вельмі багата, і падобна, што Пліній пісаў праўду.

Здарыўся тут выпадак адзін дзіўны. Убачылі здалёк карабель (якія тут дзеля цеснага мора і водных скал не ходзяць), а ён проста да таго порта з вельмі добрым ветрам ляціць, і заўважылі, што караблю мясціны гэтыя незнаёмыя, што ён блукае тут; і ўжо меліся дзеля перасцярогі стрэліць з гарматы, але тым часам ён спыніўся ў порце цэлы і здаровы, на вялікі ўсім страх і подзіў. Было на ім адзінаццаць чалавек, якія не ведалі, куды прыплылі. Казалі, што яны маракі сіцылійскія і што калі з Сіракузаў за мыс дзеля драўніны заехалі, як яны компаса не мелі, вецер іх панёс і па моры тры тыдні шпурляў невядома куды, яны ўжо восем дзён хлеба не

**Карабель аблудны.**

**Адкуль, чый.**

елі; пабачыўшы тую выспу, да яе скіраваліся (бледныя, напалову ўжо мёртвыя), нават калі б і на турэцкую былі натрапілі, выбралі б лепей у няволі, чым ад голаду памерці. Купіў той карабель у іх адзін гандляр за семсот шкудаў, які яны (не маючы чаго есці, і нікога знаёмага ў тым краі не маючы) прадаць мусілі. Ледзьве яго гандляр з порта выцягнуў, дзеля камянёў пад вадою і скал там схаваных, куды яны былі нейкім цудам бяспечна і лёгка зайшлі. Калі хто порт той пабачыць, наўрад ці здасца яму тое падобным да праўды. Пасля тры маракі з таго карабля селі на тую галеру, якою і я выправіўся.

Прыплыў карамужан з выспы Міло, а ў ім два шляхцічы польскія, Марцін Любянецкі і Пятро Бранеўскі, якія, баронячыся ад небяспекі (бо таго часу Якуба Падлядоўскага забілі туркі), выправіліся сюды з Канстантынопаля, зусім не чакаючы, што мяне тут заспеюць. А так, каб зручнейшую і лягчэйшую мецъ дарогу, узялі з сабою пашпарт, які мне Амурат Трэці, імператар турэцкі, пасылаў. Бо ж яшчэ ў Ерусалім едучы, з Кандыі пісаў я быў каралю Сцяпану, каб прасіў пашпарта турэцкага мне, бо хацеў я па зямлі той з Сірыі выправіцца ў Канстантынопаль. І хоць быць там не вельмі мне хацелася, але часткова дзеля прыкрага і нездаровага для мяне плавання па моры, а часткова таму, што дзеля празмернае спёкі і дзеля жаўнераў, якія густа ў Персію на вайну ехалі, у Егіпет ехаць не збіраўся, вырашыў я быў тое места агледзець. Вось жа, як кароль мяне пільна адрэкамендаваў, то і выдалі мне пашпарт, і прынеслі яго памянёныя палякі, а ў ім гэтак напісана.

Падлядоўскі.

## СУЛТАН АМУРАТ ІМПЕРАТАР

Шаноўным і Пасады Кадыйскае годным, па дарозе з Ерусаліма ў Канстантынопаль усім, дзе толькі ні жывуць, кады ўсялякай шчаслівасці зычачы і разам з тым Мандат Наш пасылаючы, абвяшчаем: што гэтым часам з Дзяржавы Караля Польскага нейкі іменем Пётра Бранеўскі паляк перад высокасць Маестату Нашага прыйшоўшы сказаў, што Княства Літоўскага Найвышэйшы Маршалак Мікалай Крыштоф Радзівіл, высокашаноўны Пан, вяртаючыся з Святога Ерусаліма з дванаццаццю Асобамі, Канстантынопаль наведаць задумаў і пастанавіў; а так, каб паўсюль на дарозе, у заездах і месцах, куды б ён заехаў і дзе б затрымацца хацеў, сам з чэляддзю, з конямі і рэчамі, цяжкасцяў і перашкодаў ніякіх не мець, у нас гэткага Імператарскага Ліста для яго прасіў. Таму загадаў я, каб калі ў якое б там ні было Кадыяту месца з тым Лістом Маестату Нашага прыбудзе, найперш самому Ягамосці, чэлядзі, коням, рэчам і патрэбам усялякім у дарозе, заездах, калі дзе есці або жыць будзе, ніякіх клопатаў і цяжкасцяў не чынілі, і каб вы таго пільнавалі і захоўвалі. А калі хацець будзе на свае грошы рэчы патрэбныя і да харчоў прыналежныя купляць (каб толькі чаго супраць закону нашага не было), таксама каб ні ад кога перашкоды ніякае не меў, пільна прасачыце. А тое ведаючы, калі гэты Ліст Наш будзе вам паказаны, каб вы яму поўную веру далі. Дадзена з Канстантынопаля, днямі апошнімі месяца Рамазана, года Гасподняга 1583.

*Пашпарт.*

*Глядзі, як шануюць у Ерусаліме.*

*А нашага верасня, днямі апошнімі.*

Тытул на тым лісце быў такі: «Гэты ліст усім кады, што жывуць паўсюль па дарозе да Канстантынопаля з Ерусаліма Святога».

А як пад той час Казакі Нізавыя Тэхінію збурылі, места турэцкае гандлярствам слаўнае, і паміж туркамі былі пагалоскі пра вайну з каралём польскім; дык хоць такі пашпарт мне быў дадзены, аднак там сакратар адзін, тым самым шляхцічам нашым польскім аддаючы яго, сказаў па-лацінску (як яны самі мне апавядалі): «Eatis, quia non curamus vos, sed principes vestros. Ідзіце, бо мы не аб вас, а аб начальніках вашых клопат маем». І выправілі адразу чатырох чаўшаў, аднаго ў Алеп і Трыполь, другога ў Дамашак і Ерусалім, трэцяга ў Каір, чацвёртага ў Александрыю (куды ўжо была адна галера з дзвюма лодкамі вельмі хуткімі ў чацвер прыплыла, а я быў у нядзелю паехаў) з гэткім мандатам: «Ёсць нейкія паломнікі, якія ад імператара пашпарт маюць, то ж вы, на пашпарт той не зважаючы, схапіце іх і пільна ў вязніцы трымайце, ды як найхутчэй у Канстантынопаль павядамце». А таго ж часу, як я меўся з Каіра ў Александрыю выехаць, здарыўся смутны выпадак, з якога кожны дзівосную апеку Божую нада мною пабачыць.

*Казакі сваволілі.*

*Шукалі таго, каго Госпад Бог праводзіў.*

Пяцёра шляхцічаў, атрымаўшы ў імператара турэцкага пашпарт, за стараннем Брэйнэра, імператарскага легата (памёрлага), з Канстантынопаля на Род галеонам турэцкім прыплылі; адтуль, сеўшы на другі галеон, які былі мальтыйцы захапілі, спачатку ў Александрыю, а пасля ў Каір прыбылі, дзе я з імі часта бачыўся і бываў. Зваліся яны так: Панкрац Фрэйндт, Георг

*Смутны выпадак.*

Мэнцэн, Вольфганг Аўрбах, Бэрнард Варкоц, які служыў каралю Стэфану, а пяты быў паляк, Ян Кабыльніцкі. Тыя, як я ў Александрыю ад'ехаў, выправіліся былі на гару Сінай, і разам з імі Абрагам Баро з Дона, да таго часу таварыш мой у супольным падарожжы, які мяне (вярнуўшыся) пасля знайшоў у Александрыі. Але тыя пяцёра з Каіра ў Ерусалім паехалі, і калі зямлю Філістынскую праязджалі, натрапілі на арабаў, якія іх (бо ў караване толькі трыццаць чалавек было) абрабавалі. Прыехалі яны, аднак, у Ерусалім, а калі адтуль у Дамашак ішлі, у самарыйскім месце Захар (вышэй пра яго гаварылася) спаткаў іх той чаўш, які ў Каір быў пасланы. Той, убачыўшы людзей чужых, падумаў, што на мяне з чэляддзю маёю натрапіў, і паводле мандату імператарскага затрымаў іх; а калі паказалі яму пашпарт, дык яшчэ больш запэўніўся ў сваім меркаванні, што мяне напаткаў. І там ім імператарскі ліст да кады паказаў, дзе пісалася, каб іх, хоць бы і пашпарт паказалі, схапіў і ў Канстантынопаль паведаміў. А так іх разам усіх ланцугамі жалезнымі скулі, ды гэтак жорстка, што калі адзін з іх да зямлі схіляўся, дык і іншыя за ім мусілі, а пашпарт іхны той самы чаўш у Канстантынопаль назад завёз. Найперш яго, аднак, у Дамашку прачыталі, і калі пабачылі з яго, што гэта не я (пра што таксама яны некаторым сваім гандлярам знаёмым былі паведамілі), паслалі адтуль з Дамашка чаўша, каб іх з вязення выпусцілі, у якім яны няшчасныя два тыдні сядзелі. А так прызнаю я невыказную ласку Госпада Бога майго, што я (хоць мяне да таго кароль Стэфан пільна намаўляў)

у Канстантынопаль не паехаў; бо гэтак раззлаваныя былі туркі дзеля казакаў Нізоўцаў, за што, аднак, Якуб Падлядоўскі крывёю сваёй заплаціў, ні ў чым не будучы вінаваты. Вельмі мяне за тое пасля кароль Стэфан у Горадне хваліў, бо іначай не ведаю, ці застаўся б я жывы.

Відаць, як яго Госпад Бог бараніў.

Праехаўшы паўтары мілі сухазем'ем і паўмілі морам, увайшлі мы ў адну фартэцу венецкую, у той дзяржаве наймацней абароненую, стаіць яна на выспе Суда, якую я перад тым здалёк з кляштара Св. Яна бачыў, калі там, едучы ў Цыдонію, начаваў. Фартэца тая пяць вежаў мае добра ўмацаваных, гарматамі і жаўнерамі добра заспасобленая; порт мае вельмі пасторны, які дзве тысячы судзін прыняць можа, а ў іншыя, што праплываць будуць, з гармат біць, калі была б патрэба. Быў са мною разам радны Марк Антоні Кантарэн. Кашталян гэтае мясціны Ян Буон абедам нас пачаставаў і, што было вартага пабачыць, з вялікаю ахвотай паказаў. Пад вечар вярнуліся мы ў Цыдонію.

## ГОД ГАСПОДНІ 1584.

### Студзень

Раніцаю ў Цыдоніі з вежы высокай або з вартоўні (што над морам стаіць) паведамілі, што ідуць дзве галеры да места Кандыі. А як ужо даўно было вядома, што меўся ў Кандыю прыбыць Латын Урсін, якога рэспубліка Венецкая

Латын Урсін.

на тую выспу паслала, каб ён агледзеў старыя фартэцы, ці не трэба там што направіць, і, дзе новыя меліся быць збудаваныя, месцы прызначыў; а чалавек гэта быў справядлівы, дасведчаны ў справах рэспублікі Венецкай і ў рэчах рыцарскіх; і таму гэтак спадзяваліся, што гэта ён на галерах тых плыве, а праўда, так і сталася. Бо адразу прыехаўшы ў места Кандыю, колькі галераў выслаў ён у Канэю (ужо пра іх гаварылася, што іх сем у Кандыі дзеля варты на моры), каб там недалёка ад места стаялі, у месцы, што звалася Грабус; якое Св. Лука ў Апостальскіх дзеях Шчаслівым портам Крыцкім называе (з боку вятроў Афрыка і Кора); бо вельмі ён асаблівы, і лёгкі б доступ туркі да яго мелі, дзеля чаго яшчэ пры мне каля яго фартэцу новую змуравалі і надзвычай добра заспасобілі. Увесь гэты месяц быў я ў кепскім здароўі, бо амаль цэлыя сем тыдняў дрэнна пачуваўся, а пяць тыдняў Пагарачка няспынная з кашлем мяне мучыла. Пакуль я тут быў, скончылі будаваць арсенал на

Арсенал цыдонскі.

дваццаць або крыху меней галер. А як цэглы ў гэтым краі не ўжываюць дый няма яе, дык рабілі скляпенне з квадратнага каменю. То ж як толькі з вапнаю было і наверсе не патынкаванае, каб гэтак вада магла лягчэй сцякаць (бо тут скляпенне не накрываюць ніякім дахам), а найбольш дзеля падмуркаў дрэнных, бо нядбала змураваных; як толькі дождж паліў, абваліліся два скляпенні ўночы і дзве найлепшыя і найгатоўшыя галеры разламалі. Нямала гэта ўрадоўцаў тутэйшых, дзеля блізкага з туркамі суседства, занепакоіла, бо яшчэ на той час у іх порце колькі карамужанаў было спынілася; аднак жа

з дзіўнай хуткасцю і падмуркі замацавалі, і скляпенні зноў наладзілі.

Прыплылі тыя дзве галеры на Суду, якія Латына Урсіна везлі. А як яны ўжо ў Венецыю ішлі, то ж бачачы, што той шляхціч, чыя галера мне прызначаная была, не хутка яшчэ з сваёю аліваю выбіраўся, паслаў я слугу Пятра Быліну да Лорэнца Прыўла, старшага над адной з тых галер (венеты гэтую пасаду называюць супракомітам) добра мне знаёмага, асабліва ж таму, што меў я прыязнь з Францішкам, братам ягоным, просячы, каб на яго галеры мог я на Карцыру заехаць, што ён ахвотна дазволіў; бо венеты лічаць сабе за славу, калі на іхніх галерах хто высакародны, а асабліва чужаземец, едзе, дый сама рэспубліка прыхільна да гэтага ставіцца і дзякуе ім. Паспяшаўся ён выехаць у Канэю і дня трыццатага студзеня прыплыў з таварышам сваім з роду Віенэрыя, які над другой галераю начальнік быў. Найперш, аднак, да мяне прыйшоў быў сухазем'ем той самы Лорэнц, паслугі свае вялікай ахвярнасцю прапануючы і, каб я на яго галеру сеў, пільна просячы.

## Люты

I разумна.

Даўні звычай ёсць у венетаў, і захоўваюць яго пільна, каб адтуль адна галера ніколі не выходзіла, але каб з сабою як найменей яшчэ адну мела; а тое з увагі на якую небяспеку, бо вялікім працягам берага турэцкага мусяць ехаць. Вось жа калі тая трэцяя галера Дыедонава, якая мне была прызначаная, да тых дзвюх прылуча-

ная, ніяк не выязджала (бо затрымліваўся Дыедон), Прыўл не хацеў яе болей чакаць. А так дня чацвёртага лютага, развітаўшыся з рэктарам і іншымі знаёмымі, крыху перад вечарам сеў я на галеру Прыўлаву. І тады а трэцяй гадзіне ўночы паведамілі мне навіну з Суды, што Дыедонава галера прыйшла, якую (бо за тры мілі толькі была ад Канэі) дзве нашыя, хоць ужо меліся плыць, мусілі чакаць.

А так раніцаю прыплыла, і адразу Дыедон з кашталянам, братам сваім, прыехаў да мяне, просячы, каб я на ягоную галеру сеў, бо начальнікамі кандыйскімі была яна даўно мне прызначаная. Адказаў я ім, што калі б яны былі мне тую ахвоту прыяцельскую тады выказалі, калі ім тое ўрад даручыў, то пэўна, што я б таму не пярэчыў; але як я дзеля ўласных іхніх праў мусіў на выспе цэлую зіму прабавіць, а цяпер ужо на іншую добрага прыяцеля майго галеру сеў, дык за добрую волю падзякаваў ім, сказаўшы, што ўжо ў Імя Госпадняе я ў гэтай паеду. Прасілі, каб я гэтага не рабіў; дык адказаў я, што яны самі ў тым вінаватыя, а я іначай не магу, і з тым яны адышлі.

Таго ж дня, калі тая галера нагружалася харчамі, як звычайна, не маглі мы выехаць, а тады яшчэ і вецер моцны Барэй падзьмуў увечары, так што ніякім чынам ехаць мы не маглі; а ўдзень ён яшчэ мацней узняўся. І, ведаючы, што звычайна ён чатыры дні трывае, засталіся мы, а я сёмага дня таго ж месяца зноў у кляштар вярнуўся, дзе, ветру чакаючы, аж да дзесятага дня жыў, а тады, а другой гадзіне ўначы навячэраўшы і развітаўшыся са знаёмымі, сеў зноў на

галеру. А пятай рушылі мы з порта, а раніцаю ўбачылі выспу венецкую Чэрыго і так часткова на вёслах, часткова з ветрам прыехалі мы туды а васемнаццатай гадзіне пад замак, нібы маленькую фартэцу на высокай гары, дзе жаўнеры таксама венецкія. Да Чэрыго і Канэі дваццаць міляў, у палове дарогі ёсць выспа маленькая пустая, Чэчэрыго. Маглі б мы яшчэ і далей плыць, але ў Дыедонавай галеры раскалолася была жэрдка, на якой ветразі вісяць, дык мы спыніліся і мусілі там заначаваць. Запрашаў мяне вельмі кашталян у замак, але як я быў хворы, дык застаўся на беразе дзеля цудоўнай пагулянкі. Тым часам падзьмуў супраціўны вецер, а порт, дзе мы стаялі, быў толькі на некалькі галер дый тое небяспечны, таму мусілі мы адплыць назад дзве мілі нашыя да бяспечнейшага на той самай выспе, хоць і пустога, які называюць портам Св. Мікалая; дзе ёсць таксама і царкоўка таго Святога біскупа невялічкая грэцкая, над якою ёсць на гары высокай (як з руін відаць вельмі вялікіх) палац Алены Грэцкай, пра якую апавядаюць, што жыла там, але адкуль там магла быць вада, невядома.

Цытэрэя.

Алена, жонка Менелаева. Заняпад Троі.

На другім баку выспы, пры беразе морскім ёсць невялічкая, але досыць цэлая святыня Венеры, з якой Парыс тую Венеру выкраў, як баяць паэты.

Дзе выкралі.

Калі мы былі пад замкам у тым самым порце, прыйшло да супракоміта колькі чалавек, просячы, каб ён іх на сваю галеру ўзяў, бо іх карабель, з Неграпонту плывучы, з вялікаю шкодаю разбіўся. Дазволіў ён ім, але так, каб самі толькі без рэчаў (якіх паспелі трохі ўрата-

ваць) селі (дзеля галеры, каб не перагрузілася, бо да трохсот чалавек мела).

Той самы вецер трымаў нас там у порце. А тым часам па абедзе прынеслі навіну, што тры галеры з Барбарыі вакол тае выспы бадзяюцца, так што былі мы гатовыя з імі спаткацца, але крыху пазней павярнулі яны за мыс да Пелапанэса.

Выйшлі мы з порта а семнаццатай, а па заходзе сонца прыплылі ў іншы дзеля мноства перапёлак, якіх там ловяць, званага, ад Чэрыго дванаццаць міляў; і праўда, назаўтра, калі мы там дзеля ветру стаяць мусілі, нанеслі іх нам сяляне вельмі багата разам з іншаю ежаю. Тыя сяляне збольшага між гор жывуць і разбоем прабаўляюцца, не заўсёды даніну турэцкую плоцяць, асцярожна трэба з імі трымацца ў размовах; і сапраўды, гарматы заўсёды бываюць супраць іх гатовыя, калі б яны чаго благога замыслілі, і толькі такую гатовасць справіўшы, да іх на бераг выходзіць можна, што таксама і мы былі ўчынілі. Кожны з іх мае панцыр на сабе і лук у руках. Увечары пасварыліся яны між сабою і стралялі адзін у аднаго з лукаў досыць спрытна, на што і мы глядзелі. Называюць валохі той порт Бракo дэ Майна, бо гарамі абкружаны, да скрыўленае рукі падобны. Невялікі, што праўда, бо толькі шэсць або сем галер прыняць можа, але вельмі бяспечны; была тут некалі і фартэца турэцкая, якую пасля замірэння з венетамі пакінулі туркі. Бо як галеры венецкія мусяць туды заходзіць, дык каб туркі чаго не ўчынілі, запісана было ва ўмовах, і дазволіў імператар, каб яе пакінулі туркі пустою.

Глядзі на тых сялянаў.

Раніцаю выехаўшы, спыніліся мы недалёка ў порце, які Старым портам называецца, аднак прамінулі мыс Матапан. А так паведаміла нам варта, што ідзе проста на нас шэсць галеонаў, і зразумелі мы, што гэта разбойнікі з Барбарыі. Але пасля ўбачылі, што былі гэта вялікія баркі хрысціянаў рыбакоў, якія ад Св. Маўра да Архіпелага плылі; было колькі туркаў сярод іх, але дзеля замірэння, якое з імі маюць, пусцілі іх вольна.

З таго порта толькі а васемнаццатай гадзіне дзеля ветру вырушылі мы, але адразу ж узняўся супраціўны, дык мусілі мы вярнуцца амаль у адваротны бок, у порт, што называўся Вітулі, куды толькі а трэцяй уночы прыплылі мы і заспелі там невялікую судзіну венецкую, што плыла ў Кандыю. Перасцераглі нас адразу маракі, каб мы ў тым месцы не спыняліся, калі ўжо былі катвігі кінутыя, а тое дзеля ветру, калі раптам узнімецца, і дзеля блізкасці берага; бо пад вечар бачылі мы, як сяляне збіраюцца невядома нашто, але тут трэба было быць асцярожнымі. Два тыя порты, хоць і пустыя, маюць, аднак, навокал усюды вельмі шмат вёсак. Калі б мы былі проста ехалі, то пэўна прайшлі б ужо міляў трыццаць пяць, але, заходзячы ў тыя порты, праехалі добрых пяцьдзесят і болей, і досыць небяспечна.

**Порт Вітулі.**

Не без цяжкасцяў пераплылі мы мора Каронскае, бо вецер быў супраціўны, і спыніліся мы далей ад замка Карон, каб у нас з гармат не стралялі. А сёмай уночы паплылі мы далей і, мінуўшы выспу Св. Венэдычы, да другой, Сапіенцыя называнай, плылі дзесяць міляў. Порт

**Мора Каронскае.**

**Порт Мудрасці.**

там і прыгожы, і бяспечны, шмат галераў мае; аднак не венецкі, бо і туркі дзеля блізкасці Метоны спыняюцца там часта.

Раніцаю быў вецер супраціўны, таму вырушылі мы толькі а васемнаццатай гадзіне, а як злева не маглі мы Метону аб'ехаць, каб па нас не стралялі, дык справа вакол выспы паехалі, дзе, аднак, туркі ў нас з трох гармат стрэлілі, але ж мы задалёка стаялі, а ім нашыя таксама з гармат адказалі на знак прыязні. Прамінулі мы пасля фартэцу турэцкую досыць добрую Наварын, што на гары стаіць, недалёка ад яе места, але сам замак над портам, дзе Ахіялі з васемнаццаццю галерамі добра заспасобленымі чакаў сем тых венецкіх, пра якія пісалася.

Метона.

Адвячоркам, праплыўшы дванаццаць міляў, падышлі мы да выспы Прадоны пустой, дзе безліч дзікоў; а вырушыўшы апоўначы з ветрам сірока або эўрам вялікім, праз мора Аркадыйскае праехаўшы, а чатырнаццатай гадзіне спыніліся мы каля Зацынта. Там, як толькі кінулі мы катвігу, гандляр Марк Сэкуры, добра мне знаёмы, прынёс навіну, што брата майго Юрыя Радзівіла Рыгор XIII, Святы Айцец, кардыналам учыніў. Там жа, калі ссеў я з карабля, надта шмат іх бегла мяне павітаць, а разам з тым (як звычай патрабуе) віншавалі з новым шчасцем майго роду. Узняўся тады вялікі вецер той самы, і калі ўсё болей узмацняўся і небяспечна было стаяць на катвігах, бо тут толькі сарсітар або становішча, а не порт, дык пасля, як харчоў накупілі, перакуліўся адзін фрэгат, і ледзьве людзі ўратаваліся. Патануў, аднак, слуга мой немец, якога я быў у Кандыі ўзяў, чалавек ма-

лады і вельмі пабожны, які часта казаў, што, прыехаўшы ў Валошчыну, адразу ўступіць у таварыства Ісусава. І так, уцякаючы ад небяспекі, чатыры мілі пад ветразем меншым (дзеля моцнага ветру), званым магістра, які галеры ўжываюць у гэткіх выпадках, заехалі мы за скалу Сківарь, дзе схаваліся мы ад ветру бурлівага і дажджу.

Калі мы пад Зацынтам былі, знайшлі там карабель адзін разбіты два тыдні перад тым, які быў прыплыўшы з гвалтоўным ветрам, дзе караблі становяцца, кінуў пяць катвігаў, аднак яны яго не ўтрымалі, рылі зямлю, а ён тым часам патроху сунуўся, пакуль нарэшце не разбіўся аб край скалы пад кляштарам Св. Іллі. Быў гэта карабель Георга Эма, які быў консулам у Егіпце да венетаў, шляхціч, меў я з ім добрае знаёмства. Аблічвалі шкоду на пяць разоў па сто тысяч дукатаў у золаце, бо вялікія і дарагія меў тавары, што з Сірыі ішлі: людзей загінула трыццаць сем, а адзінаццаць выплыла. Бачыў я той карабель у Трыполі, як ён ішоў на Кіпр, і там меўся ветру добрага чакаць. А як спадзяваўся я, едучы з Александрыі, спыніцца на Кіпры, бо лёгка туды вятры заносяць, асабліва ж у тым часе, калі я выехаў; быў намер мой, пра што я з тым Эмам раіўся, і вырашыў быў я, што калі б там карабель ягоны заспеў, то ж, як быў ён новы, моцны і добра заспасоблены, меўся б я на ім у Валошчыну ехаць. Дзіўная рэч, што нават найменшых рэчаў не здолелі ўратаваць; бо і ўначы разбіўся, і што мора на бераг выкінула, тое сяляне грэцкія пакралі, а хто жывы прыйшоў, таго забілі; так што нават рэктар мусіў

**Другое сумнае здарэнне.**

**А Госпад Бог іначай.**

з'ехаць з замка, такое бо разбойства і рабункі былі. Другі ж карабель, Руджына, меўся ўжо разбіцца, бо яго таксама катвігі ўтрымаць не маглі, і таму, баючыся таго, гарматы ўсе навялі былі на бераг на тых сялянаў, хочучы іх пабіць, каб пасля, калі каго шчасце на бераг вынесе, яны не пазабівалі, аднак жа, калі быў ён ужо блізка да скалы, вецер сціх.

*Шчаслівая перамога за часы Святога Айца Пія V.*

За чатыры гадзіны перад світаннем плылі мы морам Карынтыйскім (дзе армада хрысціянская слаўнаю той перамогаю з Божаю дапамогай пад Наўпактам туркаў разбіла, года Гасподняга 1571, сёмага дня кастрычніка) і спыніліся ў порце Віскарда на выспе Цэфаланіі, і там дзеля ветру супраціўнага чакалі мы чатыры дні. Ёсць там порт для чатырнаццаці галер, пусты, але відаць, што тут было некалі места вялікае і звалася яно Пэтылія (радзіма Хілона філосафа), з квадратнага каменю мураванае. Відаць тут таксама дамы нейкія нізкія, як уваход у склеп, толькі што ідуць угору, а не на дол; чалавек можа там у каморках ляжаць, але не стаяць, бо такая нізкая пабудова; ніхто ўведаць, ані ўгадаць не можа, што тут было. Насупраць за паўмілі таксама выспа, што называецца Старая Цэфаланія, таксама венецкая, ёсць на ёй колькі вёсак.

*Хілон філосаф.*

Паміж тымі дзвюма выспамі, амаль пасярэдзіне, ёсць малая выспачка скалістая, пад якою мы праехалі, пустая, круглая, на стрэл лучны ўдоўжкі і ўшыркі. Сцвярджаюць, што там была гімназія або школа грэцкая, дзе філосафы, аддаліўшыся ад грамадства і забаваў, практыкаваліся ў сваіх навуках, каб ім ніхто не перашкад-

*Які там клопат быў пра мудрасць чалавечую.*

жаў. Тыя, хто гісторыкаў чытае, хай паглядзяць, як тое было. Ад Скіvary да таго порта Віскарды каля дваццаці міляў.

Гадзіны за чатыры да світання плыў я морам Албанскім, валохі называюць яго Golfo de Preusa, або S. Maurae, а пакінуўшы з левага боку выспу Пароні вялікую (кажуць, чатыры вёскі венецкія на ёй), прыехалі мы каля дваццаць трэцяе гадзіны на Карцыру, праплыўшы каля дваццаці дзвюх міляў; я выйшаў адразу і заначаваў у заездзе. Назаўтра ж, калі хацеў я спыніцваў ў кляштары Св. Францішка, паслалі па мяне тамтэйшыя начальнікі (бо мелі да князя венецкага лісты пра мяне), запрашаючы мяне ў палац аднаго шляхціча, які яны мне падрыхтавалі і прыаздобілі, дзе я мусіў спыніцца. Прыйшлі пасля прывітаць Андрэй Наўагер, старшы, якога там называюць байлам, другі правізар Бенядыкт Эрыдзо з раднымі; ды яшчэ прынеслі ў крэсле Захарыя Саламонэ, бо падагрык быў і рэдка ўжо хадзіў, дый тады яго вадзілі, а быў ён на той час правізарам армады морскай; усе мне вялікую прыязнасць выказвалі.

*Мора Албанскае.*

*Карцыра.*

Быў я з усім урадам тутэйшым у царкве (ёсць там арцыбіскупства) у старым замку, які мы пасля агледалі.

Быў я і ў Новым замку, які, бо слаўны і добра ўмацаваны, усе ведаюць; дый сапраўды слушна ён ключом ад мора Адрыятычнага можа быць названы. Наведаў я і асобна кожнага з урадоўцаў. А калі я тут стаяў, здарыўся выпадак, што Ахіялеў карабель, ідучы з Трыполя Барбарыйскага і трыста маўраў і маўрак на продаж везучы, ветрам на пяскі албанскія загнаны

*Слаўны замак.*

ўгрузнуў, так што і вярнуцца не мог. Тады сенат венецкі, бо туркаў без прычыны не дражніць дый Ахіялі шанаваць прывык, вырашыў яго ўратаваць, і пасланы быў Захары ў Бастыю, места турэцкае, за паўтары мілі ад Карцыры, каб тамтэйшаму кады карабель, галерамі венецкімі выцягнуты, аддаць.

А як карабель той харчоў не меў, дык распрадалі маўраў абедзвюх плоцяў, аднаго чалавека за дваццаць шкудаў аддаючы, і купіў іх той самы Захары дванаццаць, якому пасля ў Гідрунце адразу па сто (і болей) плацілі. А так зноў за прычынаю Ахіялі дзве галеры мне тольькі праз восем дзён пасля прыезду былі аддадзеныя, адна Яна Ланга, на якую я сам сеў, другая таго Віенэрыя, які з намі разам быў у Кандыі.

Танней у Каіры і Александрыі.

## Сакавік

Ездзіў я ў кляштар грэцкі Дзевы Марыі, за мілю ад Карцыры, які хоць і стары, але слаўны і прыгожа пабудаваны. Быў я ў царкве грэцкай св. Сурыда, дзе таксама ёсць цела таго святога, якое з вялікімі цырымоніямі грэкі паказваюць. За той час агледзеў я ўсё, што было вартае ўвагі, а слугу свайго з рэчамі і з тымі звярамі заморскімі выправіў у Венецыю з трыма галерамі, якія на той час адыходзілі. Сам я назаўтра, трэцяга дня сакавіка, а дванаццатай гадзіне, сеў на галеру, а ветру не было, дык на вёслах ішлі. У палове дарогі прамінулі мы з правага боку затокі морскія (азёрамі называныя), якія венеты ў Эпіры маюць, з чаго, як самі нам апавядалі, за ікру з рыб кефаляў (якую воскам абляпля-

Глядзі.

юць і звычайна называюць батарга) дваццаць тысячаў дукатаў штогоду бяруць. А так а дваццаць трэцяй гадзіне спыніліся мы ў порце (завецца ён Санта Марыя дэ Касэпа) невялікім, ледзьве на тры або чатыры галеры, за чатыры мілі ад Карцыры; а там дзеля ветру супраціўнага ўвесь чацвёрты дзень сакавіка, што была нядзеля, і ўвесь пяты мусілі мы чакаць. На самым беразе ёсць там малая царкоўка грэцкая і пустая. Калі мы тут стаялі, судзіна малая ляцела з Балоны, места турэцкага, на Карцыру, і, спусціўшы свае ветразі (як звычайна, на загад з галеры), паведаміла, што колькі дзён перад тым тры судзіны хуткія (а на іх туркі разбойнікі) вырушылі да Апуліі, якія бачылі мы пасля ў Бары будучы, ды шмат людзей каля берагоў захапілі.

Добрае там гаспадарства.

Раніцаю, як ціха было, прыплылі мы на вёслах да выспы Фана (караля гішпанскага), прыгожая яна і цудоўную даліну мае; і калі ўрабляць яе, была б урадлівая, мае таксама вады прэснай у дастатку, дзеля разбойнікаў, аднак, пустая. Злева пакінулі мы за сабою капец скалісты ў моры, які высока над вадою галаву сваю ўзняў, называюць яго Мальнэр. Ужо мы ад першага порта ад'ехалі дзве мілі, было ціха, амаль без ветру, і трэба нам было ў Валошскую зямлю праз мора Адрыятычнае пераехаць, дзе выспы ніякае няма, а баяліся мы, каб нас пасярод мора ноч не заспела, асабліва ж зважаючы на блізкую перамену надвор'я, дык вырашылі тут аж да другога дня чакаць. Але адвячоркам узняўся моцны вецер, які, гвалтоўна мацнеючы (паміж субсаланам і эўрам, крыху ад усходу ссунуўшы-

Фана.

Небяспека.

ся, дзьмуў, валохі яго левантэ сірока называюць), галерам вельмі пагражаў, і кінулі мы катвігі, бо порта не было, а назад ісці мы таксама не маглі, і так, схаваўшыся за краем выспы, ноч вельмі цёмную хацелі перачакаць аж да дня; але як вецер яшчэ мацней пачаў дзьмуць, дык мы радыя не радыя а дзевятай перад світаннем вырушылі і, не могучы, пад вялікім ветразем (што завецца артэмон), пад меншым, тэрцэролаю, плылі. Вось жа мора нямала бурліла, былі мы ў страшнай небяспецы, і што ноч амаль пасярод мора нас заспела, і хвалі галеры накрывалі, вельмі гэткай судзіне небяспечныя; бо яна і меншую непагадзь ледзьве здолее вытрымаць, якое меншыя судзіны зусім не баяцца. Бо ж галера доўгая, нізкая, плоская, і калі моцныя хвалі, дык яе або разаб'юць, або пераламаюць; і тое нас толькі супакойвала, што нашыя былі і новыя і моцныя. А як гэткім вялікім ходам ішлі, што толькі ля самага верху шчоглы разыходзіліся хвалі, то мусілі мы ўсе пад вагаю на доле сядзець пад лавамі, дзе вёсламі грабуць, бо гэтак вялікія і высокія былі хвалі, што галеры тыя побач адна адной будучы, хоць ужо на дзень бралася, адна адну не бачылі; з чаго не толькі мы, але і самі маракі і нявольнікі, якія болей за дваццаць гадоў на моры плавалі, так спалохаліся былі і занядужалі, што на нашай галеры, апроч дзесяці, не было нікога, каму б мора не пашкодзіла, і ўсе нібы парэзаныя ляжалі; і каб тое даўжэй цягнулася, яны апавядалі, не здолелі б вытрываць болей, а з тым і галера трапіла б у небяспеку. Але з прызвалення Госпадняга, калі а чатырнаццатай развіднела, убачылі мы зямлю

**Галера што такое.**

і зразумелі, што туды, куды меліся ехаць, добра за компасам трапілі, так што перад пятнаццатай гадзінай увайшлі мы ў порт гідрунтыйскі, хоць не вельмі бяспечны. Бо і вятрам адкрыты, і скалы частыя мае пад вадою пры ўваходзе, якіх пабачыць нельга, і ледзь мы на адну не натыкнуліся. А гэтак ад таго, як паднялі мы ветразі і да ўваходу ў порт, дзе мы галеру за пяць гадзін канатамі абвязалі (бо кінуўшы катвігу, адусюль яе канатамі замацоўваюць заўсёды, і называюць яны гэта ормэзар), праплылі мы семнаццаць міляў нашых. Там, на галеры, паснедаўшы, паслаў я ў Гідрунт слугу, каб мне коняў нанялі; але ж там праз судзіну, якая выйшла з Корфа, ужо губернатар караля гішпанскага, што зваўся Матыяс дэ Лагуна, пра мой прыезд ведаў, і паслаў па мяне, запрашаючы ў замак; але я адказаў яму, што зараз жа выпраўляюся далей, толькі ў царкву бернардынскую зайду. Але калі я быў у царкве, ён прыехаў сам, запрашаючы ў замак, а пачуўшы мае рацыі, пагадзіўся з імі, праводзіў мяне з места са сваёю дружынай, даўшы мне дваіх, што са мною ехалі там, дзе была ягоная юрысдыкцыя. Таго ж дня ад'ехалі мы на паўмілі ўправа ў царкву Св. Марыі дэ Карпіньяна, прыгожай і коштам вялікім збудаванай, дзе Госпад Бог вялікія цуды чыніць, і, падзякаваўшы яму, што нас цэлымі на бераг высадзіў, прыехалі мы амаль ужо пад вечар у вёску Калісмэрыю.

*Звычай.*

*Гідрунт.*

*Царква.*

Раніцаю прыбылі мы ў Лецый, дзе віцэ-рэкс, або падкароль, жыве; на той час быў ім Францішак Карафа, які, ведаючы пра мяне, што я ў заездзе спыніўся, прыйшоў сам з мноствам лю-

*Падкароль.*

дзей і са сваёю гвардыяй у мой заезд (што нам таксама не паспрыяла, бо разнеслася вестка, хто ■ такі, і таму напалі на нас бандыты, як неўзабаве сказана будзе), і ўзяў мяне ў палац; але калі я прасіў яго, каб ён пад той час іначай са мною абышоўся, зважаючы і на небяспеку, дазволіў ён нам застацца ў заездзе, і мы адышлі; паслаў ён за намі абед посны адразу (бо пост быў тады велікодны). Па абедзе пайшоў я ў замак і развітаўся з ім, даў ён мне сем гішпанцаў конных, якія мяне да самага Бара праводзілі. Начавалі мы пасля ў вёсцы Чыеліна.

**Астун, места каралевы Боны.**

На абед былі мы ў месце Месыяне, а на ноч у Астуне. Места гэтае стаіць на гары, у прыгожай мясціне і само прыгожае; было гэта места каралевы Боны, якая туды, едучы з Польшчы, заехала была, пад яе гербамі на дзвюх брамах

**Трыумф на яе прыезд.**

напісаныя розныя азнакі радасці, але дзеля даўнасці фарба на іх гіне.

Bonae Sfortiae Aragoniae Reginae, Joannis Galeacy Ducis Insubrum Filiae, ob Regnum Sarmaciae et Imperium in Scythas ad Tanaim et Borysthenem, multis Annis Recto Ordine ex Repul. et Religione Gestum, Astunen. Publice.

На другой браме места з прыезду, таксама над гербамі:

Bonae Sfortiae Sarmatar. Scytarumque cis Tanaim Reginae ab ultimo Septentrione.

Post Annos Triginta Octo Reduci, ob Iura et Iustitiam in urbem Revocatam, Astunenses Publice.

Два вершы пад гербамі:

Aurea Saturni Redierunt Secula Firma.
Scerptra Tenente Manu Nomine Regne Bona.

Дня дзесятага сакавіка прыехалі мы ў Манаполь, адзінаццатага ў вёску Моль, а на ноч у Бар, які належаў той памянёнай каралеве; а там, што было вартага ўвагі, агледзелі мы, асабліва ж магілу Св. Мікалая, мірэйскага біскупа, з Святых костак якога манна цячэ, трошкі яе прывёз я ў Нясвіжскі касцёл. І хоць нікому [illegible] не казаў, хто я такі, аднак жа, як назваўся я дваранінам караля польскага Жыгімонта Аўгуста, паказалі мне цела каралевы Боны, якое цэлае ў закрыстыі ў вялікай царкве ляжыць, у труне аксамітам чорным ахінутае, непахаванае, адна толькі частка верхняй губы крыху сапсавалася. Пасля арцыбіскуп, даведаўшыся пра мяне, паслаў у заезд сваіх слугаў, запрашаючы мяне ў свой палац, але як мяне пры вячэры заспелі, то ж адмовіўся я, дый не прызнаўся я за таго, за каго мяне яму падалі, дзеля заўтрашняга ад'езду ранняга, бо ўжо я і ад губернатара ўзяў праваднікоў, што мяне праводзіць меліся (тых жа, што з Лецыя вярнуўшы назад).

Прыехаў я ў Мальфэту, а на ноч у Барлету, што перад тым звалася Каны.

Тут ад гэтага месца я ўжо апісваць нічога не буду, бо ў Валошчыне і ў гэтым краі шмат людзей ад нас бывае; размяшчэнне местаў, фартэцаў ведаюць усе. Раніцаю ад Барлеты ад'ехаўшы тры мілі, пераехалі мы мост, дзе Ганібал над рымлянамі вялікую і слаўную перамогу меў; былі мы ад таго поля, на якім яны біліся, за дзве мілі злева. Начавалі мы пасля ў Карыджынолі.

У Фоджыю места, адтуль плацяць інтэрас ад караля гішпанскага Ганне, каралеве польскай.

Былі мы ў месце Св. Северына, а на ноч у Сэры, месце Ганзагаў.

У Тэрвімы, пасля на ноч у Гваста прыйшлі, дзе Абруцыяў (перад тым называных Санутэс) межы пачынаюцца.

Адтуль да Сляпога рову, на ноч у Артону, на той час княгіні Пармскай места (Маргарыты Аўстрыйскай).

У Пішкарыю, и адтуль вярнуў я тых дваіх, што ўзяў з сабою з Бара, найболей дзеля таго, што спадзяваліся мы напэўна дзе-небудзь на які загон бандыцкі натрапіць. Бо яны як тыя, хто ловіць злачынцаў (называюць іх барыджэлі дэля кампанья), ведалі добра, што напэўна іх бандыты жывымі б не пакінулі, што яны паўсюль робяць; і вельмі добра, што так сталася, бо, раз'юшыўшыся б на іх, і нас бы не пашкадавалі, як часта там здараецца, аб чым і нас папярэдзілі. А так, як мы ўжо пэўныя былі, што спаткаемся з імі (бо там найвялікшы сплыў усіх нягоднікаў, што разбоем прабаўляюцца), і абмінуць іх ніяк немагчыма, таксама і морам дзеля няспынных вятроў гвалтоўных; і праўда, зіма тая была такая ветраная, што пагаджаліся ўсе на тым, нібыта ўжо пяцьдзесят гадоў такой не было — то ж я іх і адпусціў. Бо ў пратоцы Геркулесавай болей за шэсцьдзесят вялікіх караблёў хрысціянскіх загінула, а за тыя шаснаццаць тыдняў, калі жыў я ў Кандыі, на адным толькі Архіпелагу ці бо на моры Эгейскім як турэцкіх, так і хрысціянскіх карамужанаў дваццаць шэсць, а можа, і болей, разбілася. Вось жа калі я надзею на падарожжа морам страціў, склікаўшы ўвечары людзей маіх, сказаў ім пільна, каб,

калі на нас бандыты нападуць, на адно апавяданне ўсе мы згаварыліся, што нам найболей дапамагло. Бо калі б пабачылі, што мы адзін аднаму пярэчым, дык або адразу б нас забілі, або за вялікія грошы мусіў бы я выкупляцца ў іх з вязніцы, бо так звычайна рабілі, калі гэткае здаралася. Быў таксама адзін валох са мною, нейкі Аляксандр Чэзарыні, бандыт з Рыма, а заехаў быў ён з Латынам Урсінам у Кандыю, дзе пасварыўшыся з адным валохам, баючыся яго, назад вяртаўся на той самай галеры, што і я, і прасіў мяне, каб я з сабой яго ўзяў, на што я пагадзіўся і каня і харчоў яму даў. Дык таго і ўсіх іншых склікаўшы, загадаў я, каб гэтак казалі: «Усе мы таварыства, пана паміж намі ніякага няма, служылі мы венетам у Корфе, а скончыўшы там свае справы, едзем у Венецыю, а адтуль кожны дадому, бо мы з розных краін чужаземцы, немцы, палякі, літвіны». Калі ж пра грошы пытацца будуць, каб паказалі мы, што яны ў скрыні, што мы з сабою мелі, бо хаваць дарэмна, таму што пасля шукаюць, а знайшоўшы забіваюць, калі хто падмане. Раніцаю выехалі мы з Пішкарыі, выслаўшы наперад кухара, каб праз тры мілі нам сняданне згатаваў. Ад'ехаўшы мілю вялікую ад Пішкарыі, пакінулі мы злева за сабою замак на гары, называны Гара Сільван князя Нучэрскага; ёсць там рэчка, якую можна на кані перайсці, Сала, або Саліна, называецца, за стрэл лучны ад яе заезд муравaны з такой самай назваю. Пад'язджаючы да рэчкі, пабачылі мы на тым баку трох бандытаў, якіх лёгка пазнаць, бо кожны з іх мае рушніцу доўгую, а за поясам дзве кароткія, або, прынам-

**Гара Сільван.**

**Гісторыя доўгая і дзіўная пра бандытаў.**

сі, адну, штылет доўгі ды нож некароткі, а пры тым вісіць на плячы барановая шкура, як кайстра, куды кладзе хлеб, сыр, соль ды іншыя харчы. А як нас было шасцёра, бо кухар ад'ехаў, і пяць рушніц мелі мы доўгіх, дык, узяўшы іх, пайшлі мы цераз рэчку. Ледзьве выйшлі мы з вады, як убачылі яшчэ траіх побач з тымі першымі; аднак як нас было гэтулькі ж, былі мы спакойныя. Калі міналі мы першых, павіталіся з намі, а мы з імі таксама, а як агледзеліся мы за рэчкай, аж там каля дзесятка іх павыходзіла, якія, відаць, у хмызняку сядзелі пры дарозе, бо мы іх не бачылі, мінаючы тых другіх траіх. Што на нас не напалі, тая была напэўна прычына, што заезд быў вельмі блізка, справа перад намі мора, а тут поле шырокае; і палічылі мы, што яны або запазніліся на нас напасці, або ім нешта перашкодзіла, бо і сам замак гары Сільван толькі за дзве мілі валошскія адсюль быў. А калі мы іх праміналі, дык расчыніўшы заезд, болей за пяцьдзесят іх з доўгімі і набітымі рушніцамі напала на нас і кожнаму з нас колькі іх рушніцы да бока прыставіла, і павярнулі нас да таго заезда. А як мы, яго мінуўшы, рушніцы ў футаралы пахавалі былі, дык яны колы паспускалі, браму замкнулі, з коней нам ссесці загадалі і ўсю дарэшты зброю пазабіралі. Засталося нас там да дваццаці асобаў ці болей, і кухара майго, што быў там і мяне чакаў, бо хто толькі з Пішкарыі або ў Пішкарыю ехаў, усіх пахапалі дзеля таго, каб нас не папярэдзілі; і як пасля мы даведаліся, высочвалі нас яшчэ ў Гваста і ў Артоне, нарэшце ў Пішкарыі, а і перад тым напэўна сваіх шпегаў за намі ўсюды мелі. Адразу спыталі-

ся, адкуль мы ідзём, куды, што мы за людзі, ці ёсць пан паміж намі, пасля — пра грошы, а паасобна пыталіся, кожнага ўбок адвёўшы; аднак жа мы пра ўсё загадзя дамовіліся. Сказалі таксама ўголас: «Не хавайце грошай, бо як схаваеце, дык тое з вамі ўчынім, што мы з іншымі чыніць звыклі». Тады і другі раз паасобна, учатырох або ўпяцёх каля кожнага стаўшы, дапытваліся і нажы даўгія да бакоў прыстаўлялі і пыталіся, колькі кожны грошай мае. Найперш мой мяшэчак узялі, дзе было шэсць цэкінаў і крыху дробнай манеты, а як і мяшэчак ім спадабаўся, дык адрэзалі яго ад пояса. Мацалі мяне пасля за бакі ўсюды (а меў я на сабе паркалёвую марынатку, у якой я быў з галеры сышоў), аднак знайшлі не ўсё, як высветліцца ніжэй. Сумысля пакінулі мы пры сабе крыху грошай, што мела значыць, нібыта мы — таварыства, і кожны сам сябе корміць. Пасля накінуліся на Абрама Дуніна, якому мяшэчак з адзінаццаццю цэкінамі зрэзалі, а як быў на ім кабат ласіны бавоўнаю вельмі натканы, дык бандыт (якіх было каля васьмідзесяці, бо былі сышліся, пакінуўшы каля дваццацёх на варце) мацаў яго і круціў на ўсе бакі, так што ўсе гузікі яму паабрываў а ўрэшце і кашулю падраў. Пайшлі пасля да Юрыя Коса, які, бо грошы мае выдаваў, меў пры сабе каля трыццаці цэкінаў, што ім вельмі да смаку было, памацаўшы яго трохі, болей нічога не знайшлі. Прыступіліся і да Андрэя Скарульскага і ўзялі ў яго колькі цэкінаў з мяшэчкам, а болей не знайшоўшы, пусцілі. Калі тое забіралі ў нас, паручнік таго старшага, што на гарышчы сядзеў і нам не паказваўся, хлопец малады, па-

**Далейшыя іх дзеянні.**

**Гетман бандытаў.**

дышоў да таго Аляксандра валоха; які, хітрым будучы, усе грошы свае (да пяцідзесяці шкудаў) у парахоўніцу быў паклаў і павесіў яе на шыі; то ж паручнік той зняў яе з шыі і павесіў сабе. Валоху так было шкада, што, не могучы вытрываць, шапнуў яму на вуха: «Ты ўсе мае грошы забраў». Спытаўся бандыт: «Дзе яны?» Адказаў той: «У парахоўніцы». Сказаў тады бандыт: «Маўчы, калі хочаш, каб ты і таварышы твае жывыя засталіся». Дзеля таго забараніў гаварыць, што ўсе іх сабе мог забраць, астатнія грошы нашыя з іншымі падзяліўшы; аднак жа так яму паслужыў, што пакункаў ягоных зусім не чапалі. Пасля загадалі нам скрынку адчыніць, дзе наверсе дзвесце цэкінаў знайшлі; адразу іх падлічылі, а як аднаго не даставала, зноў хацелі лічыць, аднак жа спяшаліся, дык і не лічылі; узялі там і дробнай манеты амаль на дзвесце шкудаў. Пасля ўсё, што знайшлі (а меў я нажы турэцкія, прыгожа ў золата ўштукаваныя, камяні адтуль дарагія і некаторыя рэчы з чыстага золата, прыгожыя і ўмела зробленыя), усё забралі. Часта той паручнік на гарышча хадзіў, бо была драбіна на стайні да таго гетмана над бандытамі, пра нешта там раіліся. А як абыходзіліся з намі жорстка: і шапкі з нас зрывалі, і адзенне пачалі былі, дык той Аляксандр валох пачаў іх праз Бога прасіць, каб яго не забівалі. Я яму паціху сказаў, каб іх аб тым не прасіў, бо калі маюць волю забіць нас, просьба не дапаможа, а калі не маюць, дык хутчэй заб'юць, калі пабачаць, што мы смерці баімося. А ён зноў прасіў, рукі складаючы, на што я сказаў уголас: «Дарэмна іх прасіць, бо яны людзі добрыя хрыс-

*Глядзі.*

*Ведаў бандытаў.*

ціяне, але як патрэба іх гвалтоўная цісне, дык мусяць браць, каб было з чаго жыць, але ж нас напэўна не заб'юць, бо мы ім нічога не вінаватыя». Тады адзін з тых, што вартавалі, абняў мяне і дзякаваў, што я пра іх так добра думаю. І нямала нам гэта дапамагло. Бо калі мне ўжо адзін здымаў плашч, дык той сказаў яму, каб мяне не чапаў, называючы мяне добрым чалавекам. Тым часам узяў паручнік маю парахоўніцу, але пабачыўшы, што затычка малая і што грошы туды ўлезці не маглі, пакінуў яе мне. Падышоў таксама і другі, якому спадабалася была мая каронка або пацеры, што пры поясе віселі, і загадаў іх яму аддаць. Але ж мне іх было вельмі шкада (бо пры іх вялікае грахоў адпушчэнне даў мне быў на тое падарожжа папа Рыгор XIII), а да таго ж былі яны са мною паўсюль у Святых мясцінах, дык прасіў я яго, каб не браў. Ён, аднак, узяў, але, агледзеўшы (былі яны з індыйскага трыснягу), знайшоў на іх навязаны чэрап са слановай косці выразаны і, паглядзеўшы на яго, плюнуў і кінуў, я так думаю, што пра смерць згадаўшы. А як у нас усе грошы забралі, дык прасіў я, каб нам што на харчы пакінулі, і так на загад старшага даў ён мне дзесяць цэкінаў у рукі, сярод якіх была адна манета імператара Валянціна, а яна ляжала ў мяне разам з іншымі старымі манетамі, гэта значыць яны ўсё да кучы перамяшалі, што ў нас забралі. Пасля загадалі нам шпоры паадшпільваць, а прышпіліўшы і сеўшы на коней нашых, з'ехалі прэч. Сваіх коней мелі няшмат, у тых забраўшы, каго раней былі схапілі, а каму каня не дасталася, дык удвух на аднаго селі. Пакінулі нам двух

**Добрая рада.**

**Пацеры.**

худых мулаў і дзве шкапы кульгавыя, што рэчы насілі. Калі выязджалі, сказалі нам, смеючыся, каб мы іх чакалі, бо хочуць на ноч да нас вярнуцца. Падняліся мы пасля на гарышча ў тым заездзе і знайшлі там гаспадара звязанага і слугу ягонага. Бо ўночы хацелі тыя бандыты туды зайсці, але заезд быў зачынены, дык яны, каб іх пусцілі, прыкінуліся ўбогімі і прасілі ўмольна, каб ім адчынілі, бо яны, маўляў, змерзлі; тады гаспадар, падумаўшы, што праўда, пусціў іх, а яны яго са слугою звязалі, і што далей, то болей іх прыбывала. Праз гадзіну ці крыху болей, як яны ад'ехалі, пачалі збягацца навакольныя людзі са зброяю, бо ўжо былі даведаліся, а там такая павіннасць, як толькі пра бандытаў даведаюцца. Прыехаў туды і сам губернатар Карафа з места Сан Анджэла князя Нучэрскага, і так каля тысячы коней сабралася; бачылі, што нас абдзёрлі, а самі ў горы зніклі. Губернатар жа ўзяў нас у места, за мілю вялікую ад таго заезда, і там мы ў ягоным палацы на вячэру і на ноч засталіся. Даведаліся мы пасля, што старшы над тымі бандытамі быў Якуб дэ Монтэ Бранда, славуты разбойнік, неўзабаве пакараны смерцю з чатырнаццаццю таварышамі. Бо папа Рыгор XIII, будучы да мяне заўсёды вельмі ласкавым, напісаў дону Пятру Асуну, падкаралю неапалітанскаму, каб іх шукаў, дзеля чаго і шмат каго іншага схапілі, а пазнавалі іх па рэчах нашых, бо я быў распісаў паўсюль лісты, паведамляючы, што як дзелася. Той Якуб дэ Монтэ Бранда, гетман іхні, баючыся, каб яго не злавілі, са сваімі найстаршымі таварышамі ўжо быў за мора ўцёк, аднак яго ў Далмацыі схапілі.

**Гетман тых бандытаў хто быў.**

**Справядлівасць Божая.**

Назаўтра раіліся мы, што рабіць, бо і грошай не было, і дарогі тымі бандытамі паўсюль абстаўленыя былі. То ж паслаў ■ ў места Чэнта караля гішпанскага, дзе падкароль тае правінцыі быў, па раду і дапамогу; але ён адказаў, што не ведае, як дапамагчы, бо тыдзень перад тым таксама людзей, што ў Неапаль ехалі (болей за трыццаць), абдзёрлі, а семнаццаць з іх забілі, бо ад бандытаў бараніліся, а тых было сто. Вырашылі мы так, што трэба наняць такіх, што або з бандытамі зналіся, або самі бандытамі бывалі і знаёмства з імі мелі, або іх родных і сваякоў, каб нас паўз тыя загоны праводзілі, паведамляючы, што мы тыя абрабаваныя, бо вестка пра тое шырока ўжо разышлася. Так знайшлі мы сабе дваіх, аднаго Францішка, што восем гадоў быў бандытам і добрыя зносіны з імі меў, а другога прасвятара, у якога двое братоў былі бандыты; прабавіўшы дзень у губернатара і пазычыўшы ў яго васемнаццаць шкудаў, якія абяцалі ў Анконе аддаць, назаўтра па абедзе вырушылі мы ў Адрыю. Але ж як мы толькі двух мулаў мелі (на якіх рэчы былі, што ў нас не пазабіралі) і два кані ўбогія, а болей наняць нідзе не маглі, дык часам ідучы пехатою, а часам едучы, напераменну, прыехалі на ноч у Андыю, дзе нас усе бачыць хацелі, дачуўшыся, што з намі здарылася.

Новая Джулія.

У места Джулію Новую прыбылі мы. Там паведамілі нам, што калі тыя бандыты нас разбілі, хацелі былі на места напасці; што яны і робяць, калі шмат іх набіраецца, а напаўшы, б'юць і забіваюць людзей, рабуюць дамы; але ж места тое на гары стаіць, дык здалёк іх убачыўшы, замкнулі яго, і яны ўправа ў бок мора павярну-

лі. А так адразу той Франчэска, што са мною быў, ведаючы, што там маці жыве найгалоўнейшага верхавода бандытаў, барона неапалітанскага, пайшоў да яе, апавядаючы пра наш выпадак, хоць ужо ўсе пра тое ведалі; прасіў ён, каб дала яна нам свайго знаёмага, які б нас праводзіў, дзеля таго, што калі б мы на яго натрапілі, лёгка было б улагодзіць ейным імем лютага чалавека, што яна і зрабіла. А як мы і з іншымі спадзяваліся спаткацца, дык колькі здолелі знайсці знаёмых тых бандытаў, што ў той ваколіцы рабавалі, дык нанялі ўсіх. Так па абедзе, узяўшы пяць чалавек таго таварыства і коней тамсама знайшоўшы, выправіліся мы ў дарогу. Прыкладна за паўмілі ад места ўбачылі мы трох бандытаў на гары, але адзін з тых пяці сказаў, каб мы не хваляваліся, бо то яго знаёмыя; зараз жа злева за адзін кідок каменя паказаў ён нам царкоўку ад дарог пустую і сказаў, што там ёсць пяцьдзесят бандытаў, якія непрыяцеляў сваіх чакаюць, каб з імі біцца. Бо калі два загоны пасварацца, адзін аднаго не прызнаюць і зачапляюць, пры тым кожны сабе гэткае таварыства збірае, а пасля самі сябе знішчаюць, пакуль адзін з іх не пераможа і не застанецца. Адвячоркам прыехалі мы ў Тронт, дзе канчаюцца межы караля гішпанскага, а за ракою пачынаюцца папскія, рака там глыбокая, таму ёсць там паравоз. Думалі мы, што на нас меліся напасці бандыты, бо на гары вельмі высокай над паравозам было іх каля двухсот; пра што казалі тыя, хто нас праводзіў, і сцвярджалі, што гэта быў барон, чыя маці ў Джуліі Новай жыве. Напэўна, казалі, чакае ён іншых бандытаў, бо шмат з кім ва-

**Межы дзяржаваў.**

рагуе, або ведае, што нас абрабавалі (бо яны паўсюль шпегаў маюць), дык таму на нас не нападае. І так мы пераехалі. Але паколькі ад перавозу за паўмілі малыя заезд быў, дзе мы спаць меліся, Францішак, будучы ў той справе добра спрактыкаваны, зразумеў так, што яны чакалі, пакуль мы на начлег станем, каб нас пасля ўначы паціху абабраць. Дапамагло таксама, напэўна, і тое, што ад паўдня дождж ліў няспынна, балота вялікае нарабіўшы, бо там зямля ліпучая, а яны коней не мелі і дагнаць нас не маглі, бо мы вельмі хутка ехалі. Заезд, што праўда, добра ўмацаваны, але ж гаспадару цяжка даверыць, бо звыклі яны з бандытамі рабаваць. Як толькі ўжо зусім сцямнела, так што з гары нас бачыць не маглі, адпусціўшы таго з перавозу, што быў ад маці бандытавай, выправіліся мы ў места Грот, за тры мілі, адтуль, дакуль пяхота не здолела б за намі гнацца. Места тое абмураванае і было ўжо замкнёнае, калі мы а чацвёртай гадзіне ўночы прыехалі, так што мусілі мы спаць на прадмесці.

**Іншыя бандыты з гетманам сваім.**

Раніцаю праехалі пяць міляў да порта Фарманскага, а як у нас коні былі змарыліся і было ўжо бяспечна, дык мусілі мы на ноч застацца.

**Ларэт. Вербная Субота.**

Назаўтра раніцаю прыехалі мы ў Ларэт. Субота Вербная была, і таму кожны набажэнствам займаўся. Таго самага дня прыехаў туды на набажэнства Юлій Ганзага з імператарскага двору, якому служыў адзін паляк; і даведаўшыся, што мы з Ерусаліма ішлі, пытаўся пра Секярэцкую, бо блізкая родзічка яму была, і рады быў таму, што яна да земляў хрысціянскіх дабралася, дзякаваў за навіну. У нядзелю раніцай, пры-

**Ганзага.**

няўшы Найхвалебнейшае таемства ў капліцы вблаславёнае Дзевы, дзе ёй Арханёл добрую вестку паведаміў — а пасля, паабедаўшы, выправіўся ■ наноч у Анкону. А як нам былі патрэбныя грошы дый яшчэ таму губернатару васемнаццаць шкудаў трэба было выслаць і тым, што нас праводзілі, заплаціць, а яшчэ і на дарогу сябе забяспечыць, шукалі мы гандляра якога знаёмага, але не знайшлі; праваднікі нашыя хуткай заплаты патрабавалі, і гаспадыня, бачачы на нас адзенне абшарпанае, а грошай ні знаку, пагражала ўрадам і хацела пасадзіць нас у вязніцу; тады вырашыў я ісці да губернатара (Анкона бо места папскае, а я меў ад Рыгора XIII пашпарт), які́м быў шляхціч з Балоньі, з роду Ламбэртаў. І так, узяўшы дваіх слуг, Абрама Дуніна і Юрыя Коса, пайшоў я да яго і, атрымаўшы публічную аўдыенцыю, расказаў усё, што з намі здарылася, што не навіна, калі хто па свеце ездзіць; а як за тым выпадкам ніводнага знаёмага мы не маем, прасіў я, лісты яму паказаўшы, каб мяне ратаваў і, калі ніяк іначай нельга, каб якому гандляру за мяне паручыўся за дзвесце шкудаў, каб толькі мне да Венецыі даехаць. Бо дзеля патрэб усялякіх, і мінулых і будучых, цяжка было б меншаю сумай абысціся. Губернатар, ліст Св. Айца прачытаўшы і на адзенне нашае падрапанае глянуўшы, не павсрыў, што я быў той, каго ў лісце рэкамендавалі, здавалася яму, што мы хутчэй нейкія гультаі і махляры. Пабачыўшы гэта, казаў я, каб аднаго слугу майго ўзяў у заставу і каб нас пасля пакараў, калі б якое ашуканства выявілася. Але ён так разлютаваўся, што ледзь не загадаў нас з па-

Анкона.

лаца выпхнуць, пра што я пасля ў Рым падрабязна напісаў; і калі яго ў Святую сталіцу выклікалі, адмаўляўся ён, што не верыў, каб я быў той, пра каго ў лісце гаварылася, думаючы, што мы іх здабылі, бо часам такое махлярства здараецца. Але яму на тое адказалі, што ты, ліст такі пабачыўшы, мог іх затрымаць пачціва, паслаць кароткі ліст у Рым і пра ўсё даведацца, і тады, праўды дайшоўшы і паводле загаду іх ушанаваўшы, здабыў бы сабе ад Св. Айца ласку, а калі б усё і інача выявілася, тады б іх як махляроў смерцю пакараў. Вось жа дзеля таго, што так учыніў, і самога яго не шанавалі, і губернатарства ў яго забралі. І так выйшаўшы ад яго без пацехі, не ведаў я, што рабіць, але старанна распытваючы, даведаліся мы пра аднаго гандляра венецкага Квінтыла, і пайшоў я да яго. Хоць мяне бандыты і мацалі, але не знайшлі на шыі маёй, як хацелі, Ягнятка Божага, пры якім было дрэва ад Святога Крыжа, уштукаванае ў золата, былі там і дыяменты, каштавала гэта як найменей дзвесце шкудаў; таксама і крыжык ерусалімскі на шыі я меў (каштаваў сорак чырвоных залатых), а яшчэ і ланцужок залаты, на якім нож вісеў (васемнаццаць дукатаў каштаваў), і яго не заўважылі; да таго ж Андрэй Скарульскі меў пярсцёнак, які ён быў разам з двума партугаламі за халяву схаваў. Вось жа расказаўшы яму, што з намі здарылася, паказаў я яму тое, што засталося, просячы, каб даў за тое сто шкудаў, што ён з радасцю (бо каштавала болей) зрабіў. Але тымі грашыма толькі пазыкі нашыя можна было сплаціць, а выправіўшы тых, што нас праводзі-

**Чаго былі бандыты не заўважылі.**

лі, і заплаціўшы ў заездзе, і за коней, у Ларэце нанятых, на іншае нічога болей бы не засталося. Быў, што праўда, гатовы Юры Кос у Венецыю ехаць па грошы, але тады б іх трэба было як найменей тыдзень чакаць, за той час зноў бы напазычалі, дый гаспадыня ўсё вязніцаю пагражала; дык мусіў я другі раз з гандляром перамовы весці, каб мне якіх сто шкудаў пазычыў, на што не мог ён наважыцца. Бо хоць і бачыў, што мелі мы тое нямногае, што былі ў заставе пакінулі, хоць ён нас і за добрых людзей лічыў, аднак жа (як і сам пасля прызнаўся) не да канца нам давяраў; і тады паказаў я яму лісты ад Св. Айца, ад караля польскага і князя венецкага. То ж калі пабачыў ён, хто я такі, а чуў таксама некалі пра маё прозвішча і род мой, дык пачаў трохі давяраць. Паказаў я яму апроч таго лісты ад найзаможнейшых гандляроў венецкіх, якіх ён добра ведаў, гэтаксама, як і руку іхнюю і пячаткі; а лісты тыя былі пісаныя з Сірыі, Егіпта, Каіра, каб мне там іх фактары дадавалі грошай, колькасць якіх да некалькіх тысячаў цэкінаў даходзіла; і так ён ужо болей давяраў, калі ўбачыў, што і лісты, і імя маё, і апавяданне цалкам былі між сабою ў згодзе. Даў ён мне яшчэ сто шкудаў, і я, людзям тым заплаціўшы, а таксама і ў заездзе разлічыўшыся, наняў воз з чатырма коньмі.

Раніцаю выехаў я на абед у Сенагалію; а далей праз Фана (бо дарога была пасля дажджу гразкая і коні былі змардаваныя, так што мы болей пехатою ішлі) у Пізаўр, дзе, як места было замкнёнае, дык начавалі мы на прадмесці.

Раніцаю ў Каталіку былі, а нанач у Арымін прыйшлі.

Быў Вялікі Чацвер, і таму прынялі мы ў айцоў Бернардынаў Найсвяцейшае таемства (а быў сярод іх адзін, які доўгі час каля Гроба Божага жыў), а далей ехалі мы ў Чэзенагу, а нанач у Равэну. Хацеў я быць на Вялікдзень у Венецыі, і таму ехаў з поштаю да Кіёзы, а калі на другую пошту меўся сесці, спаткаў двух немцаў шляхцічаў, якія ехалі з Кіёзы і папярэдзілі мяне, што бандытаў каля трыццаці на межах ферарскіх і венецкіх невядома каго чакаюць. Валохі таксама адгаворвалі мяне ад такой дарогі, сцвярджаючы, што часта там людзей абдзіраюць. І так павярнуў я налева ў Аргенту, места князя ферарскага, у якое з трэцяю поштай прыбыў і ўехаў у яго а дваццаць другой гадзіне; а як мог я быць у Ферары з другою поштай, дык так і зрабіў і прыехаў раніцаю ў Вялікую Суботу і заставаўся там праз увесь дзень Святы Велікодны.

Правід Божы.

## Красавік

Раніцаю, аддаўшы грэшную малітву Госпаду Богу ў царкве, выправіўся я возам у Франкалін, адтуль баркаю праз раку Пад у мястэчка Ларэт, пасля а дваццаць чацвёртай гадзіне прыбыў я і хацеў заначаваць; але слуга мой у заездзе шмат злодзеяў убачыў, якія яго адтуль ледзь не выштурхнулі, да таго ж мясціна тая не ўмацаваная, дый маракі адгаворвалі, таму я, наняўшы барку, паплыў у Кіёзу і быў там а пятай гадзіне ўночы.

Рака Пад.

У аўторак Велікодны, наведаўшы царкву Найсвяцейшае Божае Маці, дзе Госпад Бог шмат цудаў яўляе, па абедзе выплыў я ў Венецыю; а прамінуўшы порт Маламока, дзе я быў сеў на карабель, калі плыў у Ерусалім, зайшоў я ў кляштар Св. Марыі della Gratia, дзе я прыняў прычасце, плывучы ў тыя краіны; і падзякаваў я Госпаду Богу, што так ласкава нам спадарожнічаў і ў ласцы сваёй Святой шчаслівае вяртанне нам падараваў. Знайшоў я тут прыёра айца Пампея Калумна, што быў тады маім спавядальнікам (чалавек стары і святы), які даў мне і пацеры свае, каб я імі паўсюль да мясцінаў Святых дакранаўся; калі я яму іх аддаў, нямала быў ён тым усцешаны, і прасіў я, каб назаўтра ў кляштары мог я Найсвяцейшае таемства з рук ягоных прыняць, што ён паабяцаў. Пасля прыехалі мы пад Венецыю, дзе ўрад звычайны аглядаў, ці з добрага мы паветра, і, сеўшы з яго дазволам у гандолу, паехаў я ў царкву Гроба Гасподняга, дзе, падзякаваўшы яго Святой міласці за шчаслівае вяртанне, пайшоў у заезд. Знайшоў я тут Міхала Канарскага, якога я быў з Трыполя выслаў з рэчамі маімі. Пятро Быліна толькі на дзесяты дзень пасля мяне з Зары прыехаў. Канарскі пра Секярэцкую, польку, паведаміў, што яна дзеля непагадзі пры Каліопалі ў Апуліі прыстаўшы, з іншымі ссела і невядома куда падзелася; шукаў ён яе (бо я загадаў усяляк пра яе клапаціцца), але не знайшоў, карабель таксама болей чакаць не хацеў.

*Глядзі.* *Венецыя.* *Канарскі.* *Быліна Секярэцкая.*

Але я яшчэ па дарозе ў Венецыю чуў, што яна ў Валошчыне падарожнічае, а ў Польшчу

вяртацца не хоча; бачачы, што яна паміж хрысціянамі, болей я пра яе не думаў.

Пакуль жыў я гэтак у Венецыі, бо ў вельмі слабым здароўі прыехаў і лячыўся ўвесь час; аднак жа, перш чым ад'ехаць, зайшоў я ў палац. Князь хварэў, і таму развітаўся я з сенатарамі і аддаў ім два лісты, якія яны былі мне да двух рэктараў Зацынта і Цэфалоніі далі. Бо я, толькі як назад ехаў, быў на Зацынце: рэктар хварэў, галеры спяшаліся, таму не мог я ліст аддаць. А на Цэфалоніі, там дзе рэктар жыве, мы не былі, бо порт Віскарда, дзе мы чатыры дні стаялі, на другім баку выспы. Паслалі мне пасля ў заезд праз сакратара ліст, у якім князь адказаў каралю Ягамосці на яго рэкамендацыйны ліст аб маёй асобе, калі ехаў я ў Ерусалім.

### Травень

Вена.

Дня трэцяга траўня выправіўся я з Венецыі на радзіму праз Трыдэнт, Энапонт, Галю, пасля праз Дунай у Вену.

Спыніўся я на рубяжы польскім.

### Чэрвень

Горадзен.

Прыехаў я ў Горадзен, дзе, прывітаўшы Ягамосць караля, дзякаваў я яму за старанні, якія чыніў ён сэрцам бацькоўскім у маёй справе. Прабыў я тут дзесяць дзён.

### Ліпень

Года Гаспадняга 1584, дня сёмага ліпеня, прыехаў я ў Нясвіж; а выехаў быў года Гаспадняга 1582, верасня шаснаццатага дня.

Нясвіж.

А ТАК НЯХАЙ БУДЗЕ БЛАСЛАВЕНАЕ
ІМЯ ГАСПОДНЯЕ НАВЕКІ. АМІН.

Гэты чацвёрты ліст пішу да цябе ўжо з дому, куды мяне літасцівы Бог шчасліва сёмага ліпеня вярнуў. Пасля апошняга ліста з Сірыі не мог я табе нічога пісаць, бо спяшаўся на радзіму, але ж у апошнім пасланні маім паведаміў, як з палаца рэктаравага тую Сагіцыю нашу, якая мяне на Крыт прывезла была, бачыў я здалёк. Чуў я ў Корфе, што яе таксама былі туды вятры занеслі і добра яе пашкуматалі.

А тое падарожжа маё я апісаў, наколькі мне дарога цяжкая дазволіла, не звыклым (што яшчэ раз паўтараю) спосабам гісторыкаў, з якімі я ні спрачаюся, ні некаторых баек іхніх ганіць не хачу, хоць інакш мне бачылася, чым я ў іх прачытаў. Не ўсё я ўжо там вельмі пільна агледаў, але, як кажуць, што само ў вочы лезла, тое і запісваў. Тое, пра што толькі чуў, мала я дзе занатоўваў, бо роспаведаў людскіх не меў я намеру запісваць; а хто там бываў, прызнае, што шмат я чаго досыць падрабязна, а ўсё праўдзіва апісаў. Бо тыя, што з роспаведаў людскіх пісалі, шмат у якіх рэчах, як я пераканаўся, наблыталі. Дадам яшчэ і тое, што сапраўды за Божым прызваленнем не вяртаўся я праз Канстантынопаль. Бо хоць і меў я вялікія ад караля Стэфана рэкамендацыі, але ж, як ведаеш, за тым новым

Заканчэнне тых лістоў.

выпадкам, пэўна б,у пастку трапіў; Госпаду Богу майму вечная падзяка і слава няхай будзе, які мяне праз гэтак цяжкую і небяспечную дарогу паломніцтва майго шчасліва аж да самага бацькоўскага парога правёў. Дадзена з Нясвіжа, дзесятага дня ліпеня, года Гасподняга 1584. Прымі ж ты ад мяне ўдзячна тое, што я табе, не гістарычным, але сяброўскім пяром апісаўшы, ахвотна дасылаю.

ГОСПАДУ БОГУ Ў ТРОЙЦЫ АДЗІНАМУ ВЕЧНАЯ СЛАВА:
НАЙСВЯЦЕЙШАЙ МАЦІ БОЖАЙ
І ЎСІМ СВЯТЫМ.

*Пераклаў з польскае*
*Сяргей Шупа*

# Тэадор Білевіч ~ Дзённік, пісаны ў Англіі пра тое, як там вандравалася і жылося

Дня 21 жніўня я шчасліва пакінуў Парыж, накіраваўшыся ў Англію, каб убачыць гэтае каралеўства, якое ў Еўропе абавязкова трэба зведаць. Такім чынам, рушыў я да Кале, французскага горада на мяжы ля мора, адкуль паеду да Англіі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дня 26 спыніўся паесці ў Булоні, горадзе за 7 міль ад начлегу. Гэта партовы горад на высокай гары, у прыгожай мясцовасці, і добра абаронены валамі, мурамі і рвамі, а з другога боку — морам, да якога праз багну цяжка падысці. Папалуднаваўшы там, на паштовых конях ехаў я да Кале 7 міль, куды трапіў а трэцяй гадзіне апоўдні. Гэта горад вялікі і прыгожы, аднак таксама да прыкрасці людны, умацаваны, яшчэ і зараз працягваюць яго ўзмацняць фартыфікацыяй, вялікім коштам на цэлую мілю будуюць цытадэль. Каб трапіць у горад, трэба абмінуць пяць равоў з ма-

гутнымі валамі і мурамі, якія абкружаюць горад. І столькі ж брам з пад'ёмнымі мастамі, ахова на колькі тысяч вояў, бо горад памежны і партовы, з другога ж боку горад амывае мора, ля берагоў якога шмат розных караблёў. Гэта ўжо апошні горад Францыі. Адтуль, сеўшы на невялікі карабель, які адплываў таго ж дня в 8 гадзіне вечара (ходзіць жа ён два разы на тыдні), паплылі мы да Англіі, нацярпеўшыся па дарозе ад сустрэчнага ветра і небяспек, а таксама ад нездароўя. Назаўтра ж увечары прыплылі да берагоў Англіі, да першага на ўзбярэжжы горада, размешчанага на гары, названага Дуўр, дзе высадзіўшыся, заначавалі.

Дня 27, ачуняўшы ад марской хваробы, нанялі карэты і паехалі далей.

Дня 28 раніцой спыніліся пад'есці ў горадзе Кантэрбэры праз 14 англійскіх міль, якія складаюць 7 нашых. Ехалі мы хутка, маючы вельмі добрых і гожых англійскіх коней. Гэты англійскі край вельмі багаты на ўсё: на палі, на раллю, незвычайна ўрадлівую і прыгожую з выгляду. Тут шмат палацаў, прыгожых на вясковы лад. Вельмі гожыя коні, жывёліны неверагоднай велічыні, так што чвэрць цяляці альбо барана ледзь не з вала. Звычайна п'юць піва, і вельмі добрае. У простым народзе строі ў жанчын з высокімі каптурамі па галовах, а ўнізе калматыя, у чаравіках на падэшвах нейкія круглыя жалязякі, каб не псаваць чаравікі аб брук і камяні. У кожнай вёсцы ёсць колькі соцень добра ўзброеных вояў, ёсць яны і ў мястэчках. Край вельмі багаты, звычаямі і ладам жыцця надта падобны да нямецкага. У гэтым каралеўстве ўжо няма ніводнага каталіцкага касцёла, і тыя, хто трымаецца гэтай веры (альбо тутэйшыя, якіх, аднак, вельмі мала, альбо чужаземцы, прыезджыя), павінны тое хаваць.

Начавалі ў гэты дзень у добра дагледжанай вёсцы на адлегласці 26 англійскіх міль.

Дня 29 праехалі 24 мілі да мястэчка ........., дзе пад'елі; на начлег ехалі 12 міль да Лондры, інакш кажучы, Лондана, сталічнага горада Англіі і сталай рэзідэнцыі англійскіх каралёў. Нездарма Лондра бярэ назву ад слова «даўжыня», бо на пяць міль прасціраецца і значна па даўжыні пераўзыходзіць Парыж, праўда, не такая шырокая, аднак відавочна большая за Парыж. Нягоршая яна і прыгажосцю камяніц, палацаў і розных іншых спарудаў; а крам тут таксама вялікая колькасць, бо вельмі гэта багаты край і партовы. Мора амывае горад збоку, і праз увесь горад, вельмі доўгі, цячэ магутная Тама, па якой караблі туды падымаюцца: з-за вялікай колькасці дакладна падлічыць іх немагчыма, таму што безупынна адны прыбываюць, другія адбываюць, але стала знаходзіцца там прыблізна тры альбо чатыры тысячы галоўных караблёў, акрамя розных дробных рачных, так што горад ажно, здаецца, стракаціць ад сцяжкоў і слёмгаў.

Дня 30 хадзіў я да рэзідэнцыі англійскага караля, якая як бы ў прыгарадзе, але і там, каля рэзідэнцыі, месца добра ўпарадкаванае на стары лад. Рэзідэнцыя не вельмі ўражвае звонку, не надта высокая і звонку невялічкая, аднак вельмі далёка цягнецца ўдаўжыню і вакол. Там я сустрэў найзручнейшы і найлепшы парадак аховы, бо заўсёды колькі соцень людзей стаяць на варце, больш за сотню кавалерыстаў — гардукораў (так яны называюцца) заўсёды стаяць з аголенымі рапірамі і мушкетамі ля кожнае брамы па двое, выдатныя ва ўсіх адносінах; грэнадзёраў з сотню з рушніцамі, а ў рушніцаў — нажы, таксама на добрых конях і вельмі гожыя з выгляду; пяхоты адборнай, па-каралеўску апранутай (сукно на іх, як пурпур) — разам тысяча дзвесце чалавек. Яны штодзённа мяняюцца а трэцяй гадзіне апоўдні і прыгожым рытуалам; тыя, што справілі ўжо сваю службу, выязджаюць з палаца: наперадзе едуць радамі грэнадзёры, перад якімі — бубначы ў

аксаміце, адны ў чырвоным, другія ў лімонным, і гэта вельмі суладна. Выехаўшы з палаца, яны радамі стаяць перад брамаю, за імі — кавалерыя, якой папярэднічаюць трубачы ў такой самай вопратцы, што і бубначы. Трубячы, таксама размяшчаюцца сваім парадкам перад брамаю, потым прыязджаюць тыя, што заступаюць на варту, у тым самым парадку і колькасці, і яны становяцца там жа так, што займаюць увесь пляц з вялікай пышнасцю ў прыгожых шыхтах, усе на конях; потым афіцэры тым, што цяпер прыбылі, аддаюць загад змяніць тых вартавых, а тыя, што ўжо вызваліліся, варту разводзяць, потым новыя заступаюць на іхняе месца і едуць сваім парадкам да палаца, а вольныя пасля сваёй варты вяртаюцца ў горад. Пяхота тым жа самым парадкам з харугвамі змяняецца раніцай а восьмае гадзіне. Гэтая вялікая і пышная цырымонія пакідае велічнае ўражанне.

Дня 31 быў у каралеўскім звярынцы, які побач з палацам, там шмат розных звяроў і птушак, між іншым колькі тысяч розных заморскіх качак розных відаў, дзіўных, велічынёю з лебедзя, а яшчэ гусі, якія ў дрэвах нараджаюцца, бо ў спарахнелым дрэве ёсць нейкія чэрві, з якіх потым выводзяцца гусі. Гэта не казка, бо пра гэта пішуць розныя аўтары. Тыя птушкі вельмі прыгожыя і дзіўныя. Там я яшчэ бачыў белых, як снег, варон і колькі галак, таксама бялюткіх альбо стракатых, нібы сарокі. У гэтым звярынцы ёсць дарунак маскоўскага пасла — сава, якую ён падараваў англійскаму каралю ад свайго цара; тая сава лічыцца праз сваю велічыню рэдкасцю. Смеху варта, што яе так далёка праз увесь свет везлі.

Дня 1 верасня раніцай быў на вежы, якая ўзвышаецца над усім горадам; яна змураваная з прыгожага апрацаванага каменя, а прызначаная дзеля агляду панарамы горада. Калі я туды падняўся, дык надта вартая подзіву адкрылася велічная карціна горада, які няможна параўнаць з ні-

водным іншым, бо нашмат большы ён за Парыж, і да таго ж надзвычай шчыльна забудаваны і ў найпрыгажэйшым парадку ўвесь чырвоны і раўнюсенькі; увышыню ўзносяцца вежы і касцёлы, зверху адкрываецца надзвычайна прыгожы краявід, а праз горад цячэ Тама, па якой, што качкі, плыве мноства рачных караблёў, і мноства перапраўляецца на іх людзей, адныя — таму, што гэта выгадна, бо з аднога месца ў іншае пешшу трэба ісці мілі з дзве з прычыны вялікай разлегласці горада, а па вадзе можна з выгодамі праехаць і дзе трэба на бераг сысці, прыбыўшы да прызначанага месца; другія ж плаваюць па Таме толькі дзеля адпачынку, ствараючы найпрыгажэйшае відовішча. Недалёка ад гэтае вежы на адной браме бачыў я больш як сто чалавечых галоў, на кіі насажаных; гэта галовы бунтаўшчыкоў, сенатараў і дэпутатаў парламента, якія паўсталі былі супраць караля; потым кароль, перамогшы іх, загадаў адсекчы ім галовы і, пасадзіўшы гэтыя галовы на кіі, выставіць іх на гарадскіх брамах. Гэта брама вялікая і неблагой пабудовы, пастаўленая вялікім коштам пасярэдзіне моста, які ідзе праз Таму. На тым мосце размешчаныя камяніцы і розныя крамы, так што тым, хто ідзе альбо едзе праз горад, ён здаецца не мостам, а ладна брукаванаю вуліцай, якая нічым не адрозніваецца ад іншых вуліц. У гэтым горадзе, як і ўва ўсёй англійскай дзяржаве, людзі вызнаюць веру кальвінскую, няма ніводнага каталіцкага касцёла, толькі адна каплічка ў каралеўскім палацы дзеля самой каралевы, якая каталічка, бо паводле паходжання партугалка. У той каплічцы службу адпраўляюць капеланы каралевы. Яны, пакуль у палацы, носяць адзенне манаскае, а калі трэба выйсці альбо выехаць з каралевай, тады апранаюць свецкую вопратку з зброяй па боку, бо народ закідаў бы іх каменнем, калі б з'явіліся ў сваім манаскім адзенні ў горадзе альбо яшчэ дзе-небудзь.

Горад багаты на розныя заморскія, індыйскія, парту-

гальскія тавары, бо партовы ён ды і ўся Англія абкружаная морам. Горад мае таксама людзей, так добра падрыхтаваных у навігацыі, што і цяпер яшчэ яны адшукваюць у моры вострава, правінцыі і шляхі, пра якія нічога не было чуваць раней. Гэтая дзяржава, багатая як аквітнасцю зямлі, так і партовымі выгодамі, ні ў чым не мае нястачы, таму сукны, і іншыя тканіны, і ўсялякія рэчы самыя лепшыя можна купіць у Англіі. Нават скаціна тут такой велічыні, што бараны будуць з дарослых цялятаў, а чвэрці цялячага мяса роўныя нашым валовым чвэрцям.

Апоўдні быў у палацы (які з ракой) іхняга кальвінскага архібіскупа, які і ў іх таксама прымае каралеўства. Потым паехаў на забавы, дзе брытанцы заганялі мядзведзя і яшчэ буйвалаў, вельмі ярых, так што сабак яны рагамі кідалі, нібы мячыкі, далёка ўгору, аднак рогі ў іх абгорнутыя нечым, каб не маглі пашкодзіць сабакам.

Дня 2 раніцай быў я ў вялікім старажытным касцёле, які пры каталіках быў кафедральны; тут хаваюць усіх англійскіх каралёў яшчэ і дагэтуль. Бачыў эпітафіі ўсіх слаўных на працягу тысячы гадоў каралёў і каралеў, між іншымі Эдуарда, які 560 гадоў таму быў першым светаром, пра яго распавядаюць, што лекаваў усіх хворых толькі дотыкам і гэтую здольнасць, як кажуць (калі можна верыць), пакінуў усім ажно да цяперашняга, каралям, і гэта называюць царскай хваробай. Усе англійскія каралі лечаць дотыкам толькі ў гэтым касцёле. Наверсе выстаўлены зробленыя з воску постаці слаўных каралёў, зусім як жывыя, у каралеўскіх строях, якія раней насіў кожны з іх, некаторыя ўжо вельмі старыя, так што строі, як зазвычаена, аксамітныя, кармазінавыя, падшытыя гарнастаямі, ад старасці лядачыя і быццам павуцінне, калі да іх дакрануцца; усе гэтыя постаці зберагаюцца з пашанай у замкнёных шафах.

Апоўдні быў у замку, вельмі добра ўмацаваным, які месціцца недалёка ад мора. Там зберагаюцца ўсе скарбы каралеўства; мяне ж асабліва прывабіла між іншым каралеўская карона вялікай і неацэннай вартасці, бо зверху ў яе, як звычайна на каронах, смарагд небывалае прыгажосці і велічынёю з вялікае галубінае яйка і нават большы, толькі трохі меншы за курынае; ён каштуе чатырыста тысяч фунтаў срэбрам; там яшчэ выстаўлены скіпетр да той кароны, таксама вялікай вартасці, у яго наверсе аметыст велічынёю з вялікі грэцкі арэх, увесь granёны, надзвычайнай высакароднасці, а яшчэ царскі яблык, вельмі шыкоўны, увесь у дыямантах. На версе самой кароны, гэта значыць на крыжыку, перліна, за якую давалі ў заклад восемдзесят тысяч фунтаў срэбрам і розныя іншыя скарбы і залаты посуд. Ёсць тут яшчэ купель з чыстага золата, з якой каралёў памазуюць на ўладу; вышынёю ж яна на палову чалавечага роста. Калі выйшаў адтуль, разглядаў я ў цэйхгаузе ўсялякую зброю каралёў, якую яны звычайна насілі. Усё гэта вельмі ўражвае. Ля замкавае брамы жывуць пад пільным наглядам розныя жывёліны, менавіта львы незвычайнай велічыні, асабліва два з іх; аднаго называюць каралём праз яго выключныя памеры. Шмат там тыграў і леапардаў. Побач з львом бачыў маленькага сабачку, які жыве ў адной з ім клетцы; так іх з Афрыкі і прывезлі разам, і дзіўна, што гэткі жорсткі звер, які ўсё жывое, што трапляе да яго, адразу ж разрывае на кавалкі, а таго сабачку заўсёды шкадуе і, нават згаладаўшы, яго не чапае.

Дня 3 хадзіў па горадзе, прыглядаючыся да крам, у якіх багата розных заморскіх, партугальскіх ды індыйскіх тавараў, так што, здаецца, кожны тут можа знайсці сабе ўсё, што толькі захоча.

Дня 4, паколькі была нядзеля, бачыў каралеўскую сям'ю. Кароль маліўся сціпла, без вялікага почату, у сваёй

капліцы ў палацы, а каралева — у сваёй слухала каталіцкую імшу, бо яна партугалка. Яе капліца таксама ў палацы. З каралём быў князь Мінстэрскі, генералісімус англійскага войска, каралеўскі сын, аднак не ад законнага шлюбу,— ад наложніцы, хоць і высокага роду; а ад каралевы кароль не мае нашчадкаў. Ён мае і шмат іншых сыноў, і ўсіх ад наложніц, якіх у яго больш дзесятка; і з наложніцамі жыве ён адкрыта.

Апоўдні быў у каралеўскім звярынцы, куды людзі сыходзяцца на праменад; там бачыў мноства людзей шляхетных, сярод іх нямала дам, якія ў Англіі больш прыгожыя і белыя тварам, чым у іншых краях; строі іхнія ні ў чым не саступаюць уборам дам з іншых краінаў, бо ўсе віды тканінаў і аздобаў маюць у дастатку ў сваёй краіне, так што не яны, а суседнія краіны купляюць у іх тавары, патрэбныя на выраб адзення.

Дня 5 аддаў сваю скрыню з некаторымі рэчамі гданьскаму купцу, каб проста праз мора (бо ехаў той на караблі) адвёз яе ў Гданьск.

У той самы дзень апоўдні быў на рынку, дзе ўсё можна пільна разглядзець; на рынку стаяць будкі, у якіх размаітымі таварамі гандлююць. У пэўны час сюды з'язджаюцца з усіх краёў розныя людзі, якія гэтаю справай зарабляюць на жыццё. Найперш бачыў там слана, незвычайна вялікіх памераў жывёліну, якая так добра навучаная розным штукам, якія носам вырабляе, што здаецца, чалавек рукою не мог бы лепей зрабіць; нос гэты слон мае даўгі — на чатыры альбо пяць локцяў даўжыні, і падобны да вужа; гэтым носам ён кіруе як захоча. Спачатку, узняўшы з зямлі мушкет, робіць розныя фіглі, быццам вымуштраваны жаўнер, потым гэтым носам так нясе харугву, што здаецца, ніводзін чалавек не здолеў бы зрабіць лепей, а потым аддае яе з вялікай цырымоніяй і паклонам чалавеку, які да яго прыстаўлены. Потым паднімае з зямлі мушкет з запаленым

кнотам, пакладзены там раней, і страляе, а пасля зноў кладзе. Потым на слана ставяць зроблены з дрэва кшталт замка з гарматкамі, а ўнутры замка людзі, якія страляюць з гэтых гарматак, а тая жывёліна застаецца нерухомая, быццам ніякага цяжару на ёй і не было. У іншым месцы там бачыў я шмат розных ад прыроды дзіўных рэчаў. Па-першае, нейкая заморская птушка, у якой пер'е накшталт поўсці, чорная галава, як у індыка, толькі большая, ногі накшталт страусавых, а на галаве мае нешта падобнае да грэбня, як бы нейкі рог; яна бохан хлеба, нават самы вялікі, глынае адразу. Там жа ёсць і конь з шасцю нагамі; карова, у якой ля шыі нібыта цяля вісіць, у якога восем рогаў накшталт барановых і сем даўгіх казіных, а астатнія карацейшыя, падобныя на вялікія пальцы, сапраўдныя, з пазногцямі, аднак гэта рогі. Ёсць баран, які сам быццам вялізны сабака з чырвонаю поўсцю, толькі на хрыбціне і пад шыяй яна даўжэйшая, а ногі і галава ў яго як у барана. Бачыў я ўсё гэта, а яшчэ нежывыя дзівы прыроды: па-першае, адно дзіця без ног і без рук, адно толькі тулава, з жыватом і галавою, нарадзілася і жыло яно тры гады, а цяпер яно анатамаванае і тут выстаўленае. Ёсць там яшчэ блізняты, такія маленькія, як кураняткі, але з усімі прыроднымі адзнакамі чалавека, відаць, што абое былі хлопчыкі; яшчэ ёсць цяля, у якога галава нашмат большая, чым яно само; выстаўленыя тут і розныя іншыя дзівы прыроды, як сярод рыб, так і сярод звяроў. Бачыў я і розных марскіх катоў, дзіўных, не падобных да тых, якія звычайна жывуць у нашых краях. Адзін, вялізны, як сабака, меў дзіўную галаву без поўсці, толькі з агіднаю рыжаю барадой, як у чалавека. Гэты кот заўсёды ходзіць у адзенні, нібыта юнак. Ён вырабляў розныя штукі на вяроўцы, як у нас жыды, што на вяроўках паказваюць розныя фіглі; гэты кот паліў тытунь, як чалавек, пускаючы дым праз нос і праз рот; на той самай вяроўцы быў другі кот гэткай

самай велічыні, толькі афрыканскі, з незвычайна касматаю і доўгаю поўсцю, з галавою, як у чалавека, голаю, толькі чарнюсенькай, быццам у мурына. Гэты кот вырабляў розныя фіглі і на вяроўцы, і на зямлі.

У іншых клетках таксама жывуць розныя грозныя звеy, напрыклад, тыгры; юнакі забаўлялі там людзей рознымі камедыямі і жартамі, між іншым, таньчылі на вяроўцы, як у балеце, падскокі вельмі дзіўныя рабілі, так што, калі б гэтага не пабачыў на свае вочы, наўрад ці мог бы паверыць у нешта падобнае, бо хлопец на вяроўцы падскокваў на два локці ўгору, робячы розныя фігуры, і не толькі не падаў, а нават не адхіляўся ўбок; на адно калена ўкленчыўшы, другую нагу не згінаючы, пераварочваўся, і ўсё гэта рабілася лёгка і хутка. Аднак гэта не так здзівіла, як тое, што дзяўчынка, гадоў прыкладна на пяць, вырабляла на вяроўцы ўсе гэтыя штукі і надзвычай добра выконвала розныя фігуры, з вялікай адвагаю і смеласцю, а потым на зямлі ўсё з вялікай хуткасцю зноў паўтарала, што мусіла абудзіць ува ўсіх вялізнае здзіўленне. І шмат розных іншых бачыў я там незвычайных рэчаў, але ўсе іх апісаць не выпадае праз недахоп часу, а хто цікавіцца, трэба, каб усё пабачыў на ўласныя вочы дзеля задавальнення пачуццяў.

Дня 6 у карэце рушыў я з Лондана, накіраваўшыся ў Галандыю, у Амстэрдам. У гэты дзень спыніліся паесці ў мястэчку Брэнтвуд, праз 19 англійскіх міль, а заначавалі таксама ў мястэчку, Уайтхэм, праз 18 англійскіх міль Увесь час ехалі паўз вёскі.

Дня 7 паелі ў вёсцы Кольчестэр, праз 12 англійскіх міль, адтуль 14 міль ехалі на начлег да Харвіча, горада добра ўмацаванага і змешчанага ў прыгожай мясціне. Ля мора мяжа англійскае дзяржавы канчаецца. Па дарозе мы мелі трохі клопатаў з англійскімі службоўцамі, бо не знойдзеш у свеце людзей больш зухаватых, чым англічане.

У той самы вечар а дзевятай гадзіне селі мы на карабель, каб праз мора дабрацца да Галандыі; па моры чатыры дні і ночы ганяў нас моцны сустрэчны вецер, былі ў вялікай небяспецы, шукаючы надзеі на паратунак у тым, каб стаць дзе на якар, пакутуючы ад розных знямогаў; знаходзячыся за чатыры мілі ад берага, усю ноч і паўтара дня не маглі мы пристаць.

Аднак 1 дня прысталі да берага да галандскага горада Брэль, вельмі добра ўмацаванага, бо таксама стаіць на мяжы Галандыі каля мора.

*Пераклала са старапольскае*
*Ларыса Чарнышова*

# КАМЕНТАРЫІ

## ЖЫЦІЕ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Адзін з першых помнікаў арыгінальнае жыційнае літаратуры, жыціе полацкай князёўны-асветніцы святой найпадобнейшай Еўфрасінні (каля 1105—1167 гг.) належыць да выдатнейшых узораў айчыннае літаратуры. Напісаная ў канцы XII ст., гэтая аповесць дайшла да нашага часу толькі ў пераробках XVI — XVIII стст., якія былі вынікам уплыву розных літаратурных стыляў, напрамкаў і школ. Усе спісы жыція, а іх больш 100, можна падзяліць на шэсць рэдакцый: Зборнікаў, Ступеннай кнігі, Макар'еўскіх Вялікіх Чэцця Міней, дзве Пролагавыя і рэдакцыю «Кнігі жыцій святых» Дзімітрыя Растоўскага, створаных у розныя літаратурныя эпохі; кожнай з іх уласцівыя свае прыкметы стылю, мовы і інш. Жыціе Еўфрасінні Полацкай насычана пабытавымі рэаліямі і яркімі мастацкімі дэталямі, у мове твора бачныя элементы беларускага ізводу; гэта дае права лічыць, што месцам стварэння аповесці быў адзін з полацкіх манастыроў. Аўтарам жа твора быў, верагодна, чалавек, блізкі да кола «слугі» Міхаіла — настолькі падрабязна апісаныя абодва падарожжы апошняга ў Святую зямлю.

Жыціе полацкай князёўны напісанае ў поўнай адпаведнасці з агіяграфічнымі традыцыямі Сярэднявечча. Невядомы аўтар яўна наследаваў жыцію Еўфрасінні Александрыйскай: пераймаў асаблівасці стылю, «запазычваў» цэлыя пасажы, нават калі гэта не зусім стасавалася са зместам аповесці. Зрэшты, і сама полацкая князёўна, магчыма, свядома наследавала жыццю тэзайменнай падзвіжніцы. Нягледзячы на выкананне патрабаванняў канону, аўтар жыція Еўфрасінні Полацкай здолеў намаляваць яркі і надзвычай прывабны партрэт князёўны-асветніцы, князёўны-міратворыцы, фундатаркі і аматаркі кніжнай справы, якая «асвятліла зямлю Полацкую».

Згодна з жыційным канонам аўтар жыція апавядаў толькі пра «кульмінацыйныя» моманты жыцця святой, таму фактаграфічную аснову твора

можна ўзнавіць толькі дзякуючы наяўнасці ў аповесці персанажаў, імёны якіх вядомыя нам з летапісаў, хронік ці іншых крыніц: Рамана і Барыса Усяславічаў, Мануіла Комніна і інш. Напраўду ж, рэальная біяграфія Еўфрасінні поўная «белых плямаў», толькі зрэдку расквечаных «біяграфічнымі гіпотэзамі». Так, толькі кіруючыся логікай можна рабіць больш ці менш верагодныя дапушчэнні аб тым, як, скажам, звалі бацькоў гераіні: Георгій-Святаслаў (?) і Сафія (?). Не надта шмат ведаем мы пра грамадскую дзейнасць дальнабачнай і мудрай князёўны-ігуменні: напрыклад, можна толькі здагадвацца пра тое, ці не выпадкова час паломніцтва яе супаў з перыядам абвастрэння барацьбы паміж Ізяславічамі і Яраславічамі, ад якой у свой час пацярпеў бацька Еўфрасінні, сасланы на 10 гадоў у Візантыю на службу да Іаана Комніна. Са сведчанняў аўтара жыція мы даведваемся, што дыдактычная пропаведзь ігуменні была прасякнутая эсхаталагічным пафасам — роздумам пра канечныя лёсы свету і чалавека, пра канец свету і Страшны суд і г. д., але разам з тым аж дагэтуль вядуцца спрэчкі пра час нараджэння Прадславы, год яе смерці.

Дзейнасць Еўфрасінні Полацкай — значны этап культурнага развіцця Полацкай Русі; памяць пра асветніцу надоўга захавалася ў яе сучаснікаў і нашчадкаў. Шанаванне князёўны-ігуменні пачалося, пэўна, адразу пасля яе смерці. Прынамсі, ужо ў канцы XII ст. была напісаная служба святой Еўфрасінні Полацкай, сціхіра з якой захавалася ў сціхірары XII ст. (ДПБ, ОЛДП № 96). Дзень яе памяці адзначаецца Царквой 23 мая.

Тэкст жыція публікуецца па спісе першага варыянта рэдакцыі Зборнікаў, найбольш блізкім да гіпатэтычнага архітыпу твора, які знаходзіцца ў рукапісным зборніку XVI ст. Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна, г. Масква, Ф. 113, № 632, арк. 206—225 адв.

С. 26. *Благословен Господь Бог Израилев...*несть Бог мертвых, но живых.— Пар.: Вых. 3:6; Мф. 22:31—32; Мк. 12:26.

*...якоже Соломон в притчах глаголет...*— Саламон, трэці цар Ізраіля, аўтар трох кніг Бібліі; далей цытуецца кніга Прамудрасці Саламона, 5:15.

*Не заморит Господь гладом душа праведных.*— Ін. 4:14.

*Бысть князь в граде Полотсце именем Всеслав...*— гаворка ідзе пра Усяслава Брачыславіча Чарадзея (1044—1101 гг.)

*...сыновы многы.*— Усяслаў меў сем сыноў: Рагвалода (памёр у 1129 г.), Рамана (памёр у 1116 г.), Барыса (памёр у 1128 г.), Глеба (памёр у 1119 г.), Давіда, Расціслава і Святаслава. Хроснае імя Георгій належала аднаму з двух апошніх, верагодна, Святаславу.

С. 27. *...и молитвы плод...* — гэты пасаж, праўдападобна, запазычаны з жыцця Еўфрасінні Александрыйскай, бацькі якой атрымалі дзіця пасля малітвы да Бога.

*И пришедши ей в возраст 12 лет...* — дванаццацігадовы ўзрост быў мяжой паўналецця, і бацька Прадславы-Еўфрасінні адразу ж згаджаецца на дынастычны шлюб сваёй дачкі.

С 28. *...и яко пара водная погыбает.* — Пар.; Іак. 4:14.

*...бяше княини Романоваа игуменьею.* — Маецца на ўвазе ўдава Рамана Усяславіча, якая ў іншых спісах жыцця называецца проста чарнарызіцай.

*Око не виде, ни ухо слыша...* — пар.: Пс. 113:12.

С. 29. *...преже тебе бывшим женам Февронии и Еупраксии...* — гаворка ідзе пра найпадобнейшую пакутніцу Фяўронню (памерла каля 304 г.) і Еўпраксію Тавенскую (памерла ў 393 г.).

*...яко доблий храбор...* — пар.: І Цім. 1:18. І Цім. 2:3.

*...епископа сущаго тогда, нарицаемаго Илью...* — епіскап Ілья кіраваў Полацкім пасадам у 1120—1129 гг.

*...стол святое Софеи...* — Полацкі Сафійскі кафедральны сабор, пабудаваны між 1044—1066 гг. Полацкая епіскапія была заснаваная ў 992.

С. 30. *...метохия Святой Софии...* — месца, дзе раней стаяла Сафійская царква.

*Готово сердце мое, Боже, готово сердце мое.* — Пс. 57:8.

*...привергохся от ютробы матере моея.* — Пар.: Гал. 1:15; Дзеі, 14:8.

С. *...плодящи ово 30, ово 60 или 100.* — Мк. 4:8.

С. 31. *...князя Бориса, стрыя ея...* — Барыс Усяславіч, старэйшы брат Святаслава-Георгія.

С. 32. *Не носите с собою ничесоже, токмо жезл.* — Мк. 6:8.

*...пусти ко мне сестру мою Городиславу...* — нічога болей пра малодшую сястру Еўфрасінні невядома.

С. 33. *...княжна Борисовна именем Звенислава.* — Звеніслава (Еўпраксія) Барысаўна, дачка Барыса Усяславіча, прыйшла ў манастыр да Еўфрасінні, верагодна, хутка пасля смерці бацькі ў 1128 г.

*...поклонити главу свою под иго Христово.* — Пар.: Мф. 11:30.

С. 34. *Вышний не в рукотвореных церквах живет.* — Пар. : Дзеі 7:47 49; Дзеі 17:24.

*...сътвори я овца двора Твоего...* — надзвычай распаўсюджаная ў сярэднявечнай традыцыі алегорыя, што бярэ пачатак з раннехрысціянскіх

часоў: Хрыстос — добры пастыр, а вернікі — Яго статак (пар.: Ін. 10:2; Ін. 10:12).

*Се собрах вы, яко кокош птенца под креле свои...*— Мф. 23:57; Лк. 13:34.

С. 35. *...и лопата на гумне лежит... предани будете огню негасимому.*— Мф. 3:12.

*...створитеся пшеница чиста...* на трапезу Хрыстову.— Перафразуючы евангельскі вобраз, аўтар жыція стварае вобраз «адваротнай» еўхарысты.

*...к цареви, нарицаемому именем Мануилу и к патрияху Луце...*— маюцца на ўвазе візантыйскі імператар Мануіл Комнін (каля 1123—1180, імператар з 1140 г.) і патрыярх (1156—1169 гг.) Лука Хрысаверг.

*...еуаггалист Лука написа 3 иконы...*— сярэднявечная легенда, падтрыманая аўтарытэтам Іаана Дамаскіна, Сімяона Метафраста, Нікіфара Каліста, прыпісвала аўтару трэцяга евангелля і Апостальскіх дзеяў, вучню апостала Паўла, «лекару любаснаму» Луцэ і іканаграфічную дзейнасць.

*...а третью в Ефесе.*— Эфес быў галоўным горадам Рымскай правінцыі Асіі.

*...и, благословив, даст ю слузе...*—гэты пасаж, магчыма, сведчыць, што Лука багаславіў і аддаў толькі копію абраза Адзігітры.

С. 36. *...устави по вся вторникы носити ю...*—паводле звычаю, па гарадскіх цэрквах насілі абраз Царградскай Адзігітры; верагодна, Еўфрасіння атрымала копію іменна гэтага абраза.

*...учаше сестры своя...а множае разумети...*— тут выкладзены своеасаблівы «маральны кодэкс», часткова запазычаны з Павучання Васілія Кесарыйскага, якое ўвайшло ў склад «Ізборніка» 1076 г.

С. 37. *...Кироанну и Ольгу...*— імя першай пляменніцы Еўфрасінні ў розных спісах чытаецца па-рознаму (Кірыанна, Кіра Іаанна і г. д.). Такая блытаніна звязаная, магчыма, з аналогіяй імёнаў святых бяссрэбранікаў Кіра і Іаана (памерлі ў 412 г.).

*...призва епископа...Дионисия...*— епіскап Дыянісій (памёр у 1182 ці 1183 г.) кіраваў Полацкім пасадам, паводле некаторых звестак, пачынаючы з 1167 г.

*...брата своего Давида...*— пра малодшага брата Еўфрасінні больш ніякіх звестак няма.

С. 38. *...грете ю царь, идый на Угры.*— Свой апошні паход супраць венграў Мануіл Комнін пачаў у першых чыслах красавіка 1167 г.; сустрэ-

ча Еўфрасінні з ім адбылася, такім чынам, прыблізна за паўтара месяца да смерці святой.

*...посла ю в Царьград.*— Мэта гэтай місіі дакладна невядома.

*...великую церковь святыя Софии...*— найбольш значны помнік візантыйскага дойлідства (532—537 гг.), храм Айя-Сафія ў Стамбуле.

*...посла слугу своего Михаила тогда сущему патриярху...*— пад час паломніцтва Еўфрасінні Іерусалімам кіравалі рымска-каталіцкія цары, таму просьба князёўны адносілася, верагодна, да цара Амальрыха I (1162—1173 гг.), жонка якога прыходзілася пляменніцаю Мануілу Комніну.

*...врата Христова.*— Верагодна, гаворка ідзе пра «Залатую браму» ва ўсходняй частцы Іерусаліма, праз якую ўваходзіў у горад Хрыстос пад час вербнай нядзелі.

С. 39. *Рекл еси: Просите и приимете.*— Мф. 7:7.

*...вышний град Твой Иерусалим...*— рай (пар.: Яўр. 12:22; Адкр. 21:2).

*...вступих бо ногама своими на змиевую его главу...*— пар.: Быц. 3:15.

С. 40 *...пасла в лавру Святаго Савы...*— старажытны (IV ст.) манастыр св. Савы непадалёку Іерусаліма быў мужчынскі; жаданне Еўфрасінні быць пахаванаю ў ім, магчыма, узнікла як перайманне жыція Еўфрасінні Александрыйскай, якая жыла пад выглядам манаха ў мужчынскім манастыры.

*...манастырь святыя Богородица Феодосиев опщий...*— старажытны (IV ст.) Феадосіеў манастыр якраз паміж Іерусалімам і манастыром святога Савы.

*...мати святаго Савы и мати святаго Феодосиа, и мати святую безмездникy Козмы и Дамияна именем Феодотия...*— пералічваюцца імёны раннехрысціянскіх святых.

*...спряташа тело ея честно.*— Паведамленне аб пахаванні цела Еўфрасінні ёсць толькі ў гэтым рукапісе.

*...нагим одение, больным посещение...*— пар.: Мф. 25:36.

*...попаривши от запада до въстока...*— у гэтым пасажы нам бачыцца алюзія на нейкую невядомую крыніцу.

*...Селунь о святом Димитрии...*— гаворка ідзе пра св. пакутніка Дзімітрыя Салунскага (памёр каля 306 г.).

*...мученикома Борисом и Глебом...*— першыя рускія святыя Барыс і Глеб Уладзіміравічы, забітыя Святаполкам у 1015 г.

## СЛОВА ПРА МАНАХА МАРЦІНА

«Слова пра манаха Марціна» — гэта па сваёй сутнасці «памятны запіс», адзін з найбольш ранніх помнікаў усходнеславянскай агіяграфіі, напісаны, у сілу жанравай прыналежнасці да пролагавага тыпу жыцій, бясхітрасна і натуральна, без рытарычных аздобаў. Апрача гісторыі пра ўчыненае святымі Вышгародскімі пакутнікамі Барысам і Глебам дзіва, аповяд пра якое займае большую частку твора, аўтар «Слова» не дае амаль ніякіх канкрэтных звестак пра асобу свайго героя; толькі паводле ўскосных паведамленняў можна прыблізна акрэсліць час яго жыцця: першая палова XII ст. Такім чынам, Марцін быў, пэўна, старэйшы сучаснік рускага Залатавуста Кірыла і полацкай князёўны-манашкі Еўфрасінні, аднак жыццё яго не мела якога-небудзь грамадска-асветніцкага характару. Уласна, «Слова» належыць да цыкла апавяданняў пра «многоболезных», і таму апісанне хваробы пакорлівага манаха ці, дакладней, пакутаў ад хваробы і немачы займае немалое месца ў тэксце.

Аўтар апавядання выяўляе добрае веданне нядаўняй для яго гісторыі тураўскай епархіі і тапаграфіі горада, і гэта дае мажлівасць меркаваць, што месцам стварэння помніка быў Тураў (магчыма, які-небудзь тураўскі манастыр).

Лапідарны ж стыль твора, адсутнасць рытарычных прыўкрасаў і іншых, стылёвых або фактычных, рэдакцый прыводзіць да думкі, што «Слова» не пацярпела пераробкі ў больш познія часы.

Памяць найпадобнейшага Марціна святкуецца 27 чэрвеня.

«Слова пра манаха Марціна» захавалася ў Пролагах, пачынаючы з XV ст. Тут яно публікуецца па спісе XVI ст. Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына, г. Санкт-Пецярбург (ДПБ), збор ОЛДП, F. 474, арк. 177—177 адв.

С. 58. *...епископом Туровским — Семеону, Игнатию, Иакиму.*— Пералічаны імёны епіскапаў, якія кіравалі тураўскім пасадам у 1144—1146 гг.

*...епископ Георгий...* — быў епіскапам у 1146 — каля 1169 г.

*...манастыри у святаго мученика...*— маюцца на ўвазе князі Барыс і Глеб, забітыя тураўскім князем Святаполкам у барацьбе за ўладу ў 1015 г. Кананізаваныя ў 1020 г.

С. 59. *Глаголаста: Ярославли.*— Барыс і Глеб, верагодна, называюць сябе слугамі свайго брата Яраслава Уладзіміравіча (978—1054), які ад-

помсціў Святаполку за забойства пакутнікаў, у 1019 г. заняў кіеўскі вялікакняскі пасад і быў ініцыятарам кананізацыі сваіх братоў.

*...Георгиевича Ярослава слуги беста.*— Маецца на ўвазе, верагодна, пінскі князь Яраслаў Юр'евіч (згадваецца ў Іпацьеўскім летапісу пад 1184 г.).

ЖЫЦІЕ КІРЫЛА ТУРАЎСКАГА

Пролагавае жыціе-«памяць» тураўскага епіскапа Кірыла (не пазней 1130 — пасля 1184 гг.) было створанае, відаць, неўзабаве пасля яго смерці, хоць архімандрыт Леанід і адносіць час напісання твора да часу жыцця цверскага епіскапа Сімяона (памёр у 1289 г.). Да нашага часу захавалася яно ў спісах, начынаючы з XVI ст. (М. Нікольскі ў 1907 г. апублікаваў спіс XIV—XV стст.).

Твор гэты напісаны ў адпаведнасці з агульнаагіяграфічнымі традыцыямі Сярэднявечча, хоць у ім і адсутнічае звычайны рытарычны ўступ. Вобраз Кірыла падаецца ў поўнай адпаведнасці з уяўленнем пра ідэальнага героя-святога: сын багатых бацькоў, начытаны з дзяцінства ў Свяшчэнным Пісанні, ён адмаўляецца ад багацця і становіцца пакорлівым манахам. Прагнучы адзіноты для болей адданага служэння Богу, ён робіцца стылітам (стоўпнікам), наследуючы жыццю палесцінскіх затворнікаў.

Заключная частка жыція ўяўляе сабою звычайнае ўсхваленне «другога Залатавуста, што праззяў больш за ўсіх на Русі» — невялікі па аб'ёме перыяд, у якім нібы рэфрэнам гучыць традыцыйнае «Радуйся!». У заключэнні змешчаны таксама і невялікі малітоўны заклік з просьбаю маліцца аб вызваленні ад паганаў — бязбожных агаранаў, пад якімі разумеюцца, мабыць, полаўцы (а не татары, як лічаць даследчыкі, якія адносяць час напісання твора да XIII ці нават XIV стст.).

Жыціе Кірыла поўнае гістарычных рэалій: з яго мы даведваемся аб ягоным жыцці і грамадска-літаратурнай дзейнасці, подзвігах дабрачынння, змаганні з ерассю і пастырскай дзейнасці, поглядах на прызначэнне манаства і правілах манаскага жыцця.

Памяць святога адзначаецца 28 красавіка.

Твор публікуецца па спісе XVI ст. ДПБ, ОЛДП, F. 212, арк. 299—300 адв.

С. 62. *...в столп вшед затворися...*— стоўпніцтва было адным з найцяжэйшых подзвігаў затворніцтва, калі манах-стыліт жыў у келлі, збудаванай на вяршыні слупа, каб аддаліцца ад «грэшнай» зямлі нават фізічна. Кірыл, аднак, жыў не на слупе (з-за кліматычных умоваў), а ў слупе — слупападобнай келлі-піргасе.

*...поставлен бысть епископом граду Турову, еже есть блиэ Киева...*— гэта здарылася, відаць, пасля смерці епіскапа Георгія ў 1169 г. У гэты час Кірылу магло быць не менш за 40 гадоў, адсюль — прыблізны год ягонага нараджэння — 1130. Удакладненне ж геаграфічнага знаходжання горада («поблізу Кіева») — звычайны рытарычны прыём: этыкетная «прывязка» сталіцы ўдзельнага княства да горада вялікакняскага стала.

*...Федорца же еретика...*— што ўяўляла сабою ерась Фядоркі (памёр у 1169 г.) дакладна невядома. Вядомы ж епіскап Фёдар тым, што ў 60-я гады ён, падтрыманы апякунствам уладзімірскага князя Андрэя Багалюбскага, без дазволу кіеўскага мітрапаліта заняў растоўскую епіскапскую кафедру.

С. 63. *Андрею же, Боголюбскому князю, многа послания написа...*— факт перапіскі Кірыла з Андрэем Багалюбскім (каля 1111—1174) не павінен здзіўляць, тым больш што яны маглі быць знаёмы асабіста: у 1151 г. Андрэй атрымаў Тураў ад бацькі, Юрыя Даўгарукага. Далей у тэксце пералічваюцца творы, напісаныя Кірылам; усяго ж яму належыць тры каноны, восем «словаў», адна прыповесць, вялікая колькасць малітваў на кожны дзень тыдня і павучэнняў.

*...другий Златоуст...*— Кірыл параўноўваецца з візантыйскім царкоўным дзеячам, канстанцінопальскім епіскапам Іаанам (каля 350—407 гг.), празваным сучаснікамі Хрызастомам (Залатавустам), які на Русі быў ідэалам прапаведніка.

*...от безбожных Агарян...*— агаранамі, г. зн. нашчадкамі Агары гл.: Быц. 16—21 называліся цюркскія народы.

## ЖЫЦІЕ АЎРААМІЯ СМАЛЕНСКАГА

Па сваіх літаратурных якасцях, асаблівасцях кампазіцыі і аўтарскай мовы жыціе Аўраамія, смаленскага архімандрыта-прапаведніка — відавочны працяг таго тыпу агіяграфічных твораў, якія складаліся ў XI—XII стст. Аўтар жыція, вучань і паслядоўнік Аўраамія Яфрэм спрабуе пераймаць стыль і кампазіцыйна-вобразную сістэму Нестара, аўтара жыція

Феадосія Пячэрскага. Сам жа Аўраамій, паводле сведчання Яфрэма, наследаваў жыццю Аўраамія Затворніка (памёр каля 360 г.), апісанага Яфрэмам Сірыным.

Жыціе Аўраамія,створанае, відаць, у хуткім часе пасля смерці святога (памёр жа ён не пазней за 1219 г.), і адносіцца ўжо да мангольскай эпохі. Аб гэтым красамоўна сведчыць малітва аўтара да Багародзіцы («зніхі. Аб гэтым красамоўна сведчыць малітва аўтара да Багародзіцы («знішчы народы ізмаільцянаў»). Першае ж нашэсце манголаў на Смаленск адбылося ў 1238 г., і прыблізна гэтым часам належыць датаваць стварэнне жыція.

Твор гэты напісаны ў поўнай адпаведнасці з хрысціянскай традыцыяй, ён цалкам пазбаўлены элементаў народных вераванняў, паэтычных паданняў і мае гісторыка-інфармацыйны характар. Урэшце, як і ў любым іншым агіяграфічным творы, напісаным у адпаведнасці з патрабаваннямі жанру, у жыціі Аўрамія цяжка знайсці дакладныя даты, фактычныя звесткі. Скажам, меркаваць пра год нараджэння святога можна толькі па ўскосных звестках: у тэксце згадваецца чарнарызіца (эпізод нараджэння героя), а першы жаночы манастыр у Смаленску быў заснаваны каля 1146 г.; такім чынам, Аўраамій нарадзіўся не раней гэтага часу. Пачатак жа дзейнасці святога адносіцца да часу княжання Мсціслава Раманавіча (кіраваў Смаленскам у 1197—1214 гг.).

Жыціе Аўраамія — яркае, праўдзівае апавяданне пра надзвычай адукаванага і пабожнага манаха, выдатнага прамоўцу, чыя пропаведзь насіла эсхаталагічны характар, звычайны для ўсходняга славянства. У творы апавядаецца пра ганенні на Аўраамія з боку мясцовага духавенства, якое зайздросціла яго папулярнасці і любові народа, што надоўга захаваў памяць аб сваім духоўным настаўніку (таму і Яфрэм заўжды суправаджае апавяданне заўвагамі: гэта шмат хто ведае, гэтаму шмат сведкаў). Аўтар хоча паведаміць ужо наступнаму пакаленню праўдзівую гісторыю жыцця настаўніка, паказаць яго ворагаў і сяброў, а можа, і высветліць непаразуменні, якія ўзнікалі ў народнай памяці з некаторымі фактамі жыцця і дзейнасці святога.

Жыціе — не простае, сухое апавяданне; немалую ролю ў ім адыгрывае аўтарскі элемент. Пісьменнік з павагаю ставіцца да сваёй працы і сваёй асобы і нават называе ўласнае імя — з'ява надзвычай рэдкая ў літаратуры славянскага Сярэднявечча, большай часткаю ананімнай. У жыціі Яфрэм разважае, аздабляе твор рытарычнымі канструкцыямі, праводзіць аналогіі з жыціямі святых Савы і Іаана Залатавуснага, згадвае прыпавесці з «Залатога Ланцуга», не кажучы ўжо пра шматлікія запазычанні

са Свяшчэннага пісання. Згодна з жыційным канонам, Яфрэм пачынае твор красамоўнай прадмовай з кароткім выкладам новазапаветнай гісторыі і заканчвае яго заключэннем з пахвалою святому, якая ўяўляе сабой шэраг доўгіх красамоўных перыядаў. Багаслоўская ж гістарычная малітва, з якой пачынаецца ўступ, складзеная на ўзор прадмовы да Нестаравага жыція Феадосія і заканчваецца цытатай з яго.

Дзень святых Аўраамія Смаленскага і ягонага вучня Яфрэма Царква адзначае 23 жніўня.

Тэкст жыція публікуецца па выданні: Редков Н. Преподобный Авраамий Смоленский и его Житие, составленное учеником его Ефремом: Опыт историко-литературного исследования.— Смоленск, 1909. Кніга Рэдкава — найбольш сур'ёзны послед жыція Аўраамія; апрача таго, у ёй публікуецца тэкст помніка па некалькіх спісах.

С. 67. *Се Аз с вами есть по вся дни до скончания века.*— Мф. 28:20.

*...рече Господь пророком, яко «от утробы матерня возвах тя».*— Іс. 49:1.

С. 68. *...отверзи устне мои на исповедание устень Твоих...*— пар.: Іс. 51:16; 59:21.

*...моляста Бога подати отроча...*— надзвычай распаўсюджаны ў агіяграфічнай літаратуры матыў прашэння няплодных бацькоў дзіцяці ў Бога, у дадзеным выпадку трансфармаваны.

*...якоже прежде Самоила Анне подаст.*— Пар.: І Цар. 1—2.

*...одежду имущи белу, яко подобие снегу белеющу...*— пар.: Мф. 28:3; Мк. 9:3.

С. 69. *...яко в той час отроча оживе в моей утробе...*— пар.: Лк. 1:41.

*...во осмый день принесоста й к святителю Божию...*— пар.: Лк. 2:21.

*...сему же на игры со имени не исходити...*— тыповая для агіяграфіі «біяграфічная гіпотэза», апісанне паводзін «ідэальнага» святога.

*...тема же отшедшима жития сего к Богу; он же повелику обрадовався...*— Аўраамій узрадаваўся смерці бацькоў, бо яны скончылі поўнае смутку жыццё на зямлі і трапілі ў рай — да Бога.

*...остависта богатство, убогим раздаде...*— вельмі пашыраны ў жыціях матыў жабракалюбства і шчодрасці.

*Аще кто не возмет креста своего...несть Мне достоин.*— Мф. 10:36.

С. 70. *...на юродство ся преложи...*— Яфрэм коратка гаворыць пра першы духоўны подзвіг настаўніка — юродства, калі падзвіжнік свядома ўчыняе так, каб выклікаць агіду да сябе.

*...и в кое время прийти.*— Магчыма, гэтая фраза — алюзія на вядомую евангельскую прыпавесць (Мф. 20:1—6).

*...великого мню Антония... Илариона, бывшаго ученика его...чюдотворца Евфимиа...Савву и Феодосия архимандрита...*— Яфрэм пералічвае тут імёны старажытных святых: Антонія Вялікага (памёр у 356 г.), Іларыёна Вялікага (памёр у 371—372 г.), Яўфімія Вялікага (памёр у 356 г.), Савы Асвячонага (памёр у 532 г.), Феадосія Вялікага (памёр у 529 г.).

*...поучение преподобнаго Ефрема...*— гаворка ідзе пра сірыйскага багаслова, пісьменніка, паэта і прапаведніка Яфрэма Сірына (памёр у 373 г.), аўтара жыція Іаана Залатавуста.

*...и Феодосия Печерскаго...*— аўтар гаворыць пра аднаго з заснавальнікаў Кіева-Пячэрскага Свята-Успенскага манастыра — манаха Феадосія (памёр у 1074 г.).

*...кормим словом Божиим.*— Пар.: Лк. 4:4.

*...ово своею рукою, ово многими писцы...*— сведчанне наяўнасці ў Сяліпічынскім манастыры скрыпторыя.

*...а инии от зверей снедени будут.*— Папулярны сярод сярэднявечных кніжнікаў вобраз «паствы», запазычаны з Біблії (гл., напр.: Іез. 34:8).

С. 71. *...послушание имея ко всей братии...*— выкананне аднаго з асноўных прынцыпаў манаства: пакоры.

С. 72. *...князя Мстислава Смоленскаго.*— Мсціслаў Раманавіч (Стары) княжыў у Смаленску ў 1197—1214 гг., пасля чаго сеў на Кіеўскі стол і загінуў у бітве пры Калцы ў 1224 г.

*...яко несть лепо светилнику во тме сияти и укрытися граду выше горы сущу.*— Перыфраза Мф. 5:14—15.

С. 73. *Написа же две иконе...*— адзіная звестка пра іканаграфічную дзейнасць Аўраамія. З апісання абраных сюжэтаў, як і з самога вучэння Аўраамія вынікае, што ў пропаведзі і светапоглядзе архімандрыта найбольшае месца займалі эсхаталагічныя матывы.

С. 74. *...многих ради зазираний, якоже бывают места же избирающих...*— сведчанне пра звычай займаць месца, бліжэйшае да князя, згодна са статусам прысутнага і пра спрэчкі, што ўзнікалі з гэтай нагоды.

*...приношение от Господа преданную апостолам на вечери...*— маецца на ўвазе еўхарыстыя (пар.: Мф. 26; Мк. 14; Лк. 22).

*Образ же и подобие на великаго Василия...*— Аўраамій быў падобны, згодна са сведчаннем Яфрэма, на іканаграфічны вобраз Васілія Вялікага (памёр у 379 г.), архіепіскапа Кесарыі Кападокійскай, аднаго з «айцоў

Царквы». Увогуле ж, гэта першая, бадай, спроба партрэта ў айчыннай агіяграфіі.

С. 75. *...Рабе ленивый и лукавый...взял с лихвою.*— Мф. 25:26—27.

*...яко являшеся ему...с одра его смещуще...*— распаўсюджаны матыў спакушэння і застрашэння святога сатаной.

*...яко ни на свиниях имать власти...*— пар.: Мф. 8:32.

С. 76. *...вшед сатана в сердца июдеов...*— Лк. 22:3.

*...глубинныя книги почитает.*— Месца, якое выклікае найбольшыя спрэчкі і гіпотэзы. Адны лічаць «глыбіннымі» (ці «галубінымі») кнігамі адрочаныя народныя вершы, прасякнутыя пантэістычным светапоглядам, другія бачаць у іх касмалагічныя творы багумільскае літаратуры, трэція атаясамліваюць іх са згаданымі Клімянтам Смаляцічам «гулнымі словесамі» — чарадзейнымі кнігамі, якія, на думку ворагаў Аўраамія, і давалі яму магчымасць уплываць на народ (таму яны і патрабавалі спалення Аўраамія як ведзьмака).

С. 77. *...на мори ветру повеле умолкнути.*— Гл.: Мф. 8:26; Мк. 4:37; Лк. 8:22—24.

*...преподобному Луце Прусину...*— іншых звестак пра яго не маем.

*...стоящу ему на молитве в 9 час...*— каля трох гадзін дня. Тут бачым сімволіку лічбаў: а дзевятай гадзіне быў крыжаваны Ісус (гл.: Мф. 26:46).

*...и ина два ученик его...*— з гэтых словаў вынікае, што ў лік гэтых двух вучняў сам Яфрэм не ўваходзіў.

С. 78. *...блаженному Лазорю, иереом сущу и по Игнатии епископом бывшу...*— паводле некаторых звестак епіскап Ігнацій займаў Смаленскую кафедру ў перыяд пасля 1197 г. і не пазней за 1219 г. , бо ў тым годзе пасад ужо пакінуў епіскап Лазар, яго паслядоўнік, што бачна з паслання Сімяона да Палікарпа («...хощет поставити епископом... Смоленску на Лазарево место»).

С. 79. *...не осуждайте их, да не сами приимете горкий суд.*— Пар.: Мф. 7:1.

*За всяк празден глагол воздати есть слово в день судный.*— Мф. 12:36.

*Что осуждаете чужаго раба... силен жа Господь воставити и́.*— Рым. 14:4.

*...кождо за ся воздати слово имат в день судный.*— Рым. 14:12.

С. 80. *Пишет бо в Златых Чепех...*— «Златая Чепь» — зборнік адносна ўстойлівага складу, распаўсюджаны ва ўсходне- і паўднёваславянскім

пісьменстве; пратэтыпам мае візантыйскія экзэгетычныя (тлумачальныя) зборнікі з аналагічнаю назвай. Змяшчалі ўрыўкі з хранографаў, пацерыкоў, пастановы царкоўных сабораў і г. д.; былі своеасабліваю хрэстаматыяй энцыклапедычнага характару.

*Смущаяй вас, той приимет суд кто любо буди.*— Гал. 5:10.

*...повесть некоего отца духовна к сыну духовну...*— цытуецца «Аскетычнае слова» Стафана Фіванскага.

С. 81. *Аз есмь с вами и никтоже на ны.*— Пар.: Рым. 8:31.

*Бывшу же бездождию велику во граде.*— Акадэмік Б. Рыбакоў датуе гэтую засуху 1218—1230 гг., але гэта малаверагодна.

С. 83. *...во имя святаго Игнатия...*— маецца на ўвазе, як будзе бачна далей, свяшчэннапакутнік Ігнацій Баганосца (памёр у 107 г.).

*...перваго от старейшых протопопа именем Георгия...*— іншых звестак пра яго няма.

С. 84. *Возведе человеки на главы наши...изведе ны в покой.*— Пс. 65:12.

С. 85. *Возмите иго Мое на себе...бремя Мое легко есть.*— Мф. 11:29—30.

С. 87. *...подвизася лет 50...*— Яфрэм указвае час падзвіжніцтва Аўраамія і не ўказвае ягонага ўзросту, бо ў адпаведнасці з логікай агіёграфа лічыць сапраўдным жыццём толькі служэнне Богу.

*Аз же, грешный и недостойный Ефрем...*— уласная характарыстыка аўтара падаецца ў самазнішчальнай формуле (captatio benevolentiae), звычайнай у сярэднявечнай літаратуры.

С. 88. *Их же ни весь мир имать...в пещерах земных Господа ради.*— Яўр. 11:37—38.

С. 89. *...да не рекут языцы: Где есть Бог их?* — Пс. 78:10; 113:10; Іаіль 2:17.

*...всяко дыхание хвалит Тебе...*— Пс. 150:6.

С. 90. *...яко блуднаго сына и блудницу и разбойника...*— алюзіі на евангельскія сюжэты: Мк. 15:11; Ін. 8:11; Лк. 23:43.

*...апостоли, пророци и мученицы и святители, преподобнии и праведнии...*— Яфрэмам падаецца іерархія «нябесных чыноў» у адпаведнасці з іх статусам.

## ЖЫЦІЕ МЕРКУРЫЯ, ПАКУТНІКА СМАЛЕНСКАГА

Аповесць пра смаленскага пакутніка Меркурыя (якога трэба адрозніваць ад тэзайменнага епіскапа смаленскага, які жыў у той самы час і пахаваны ў Бліжніх пячорах Кіеўскай Лаўры) — адзін з твораў старажытнарускай літаратуры, якія склалі цыкл, прысвечаны нашэсцю Батыя. Напісаны прыблізна ў адзін час з жыціем Аўраамія — у XIII ст. (пасля 1237 г.), гэты твор дайшоў да нашага часу больш як у 80 спісах XVI — XVIII стст. розных рэдакцый (Мінейнай, Хранаграфічнай, Жулеўскай, або Народнай, Пролагавай — паводле адной з класіфікацый), якія розняцца між сабою не толькі і не столькі стылем, але і наяўнасцю фактычнага матэрыялу, тых ці іншых мастацкіх дэталяў, цэлых раздзелаў...

Паводле сваёй паэтычнай структуры Аповесць пра Меркурыя адносіцца да легендарна-гістарычных твораў, звязаных з дзівамі ад цудадзейных абразоў, а таксама з аповесцямі пра абезгалоўленых. У гэтым творы даследчыкі бачылі і больш раннюю міфалагічную традыцыю народных эпічных сказанняў аб маладым сонцы, якое ў асобе прыгожага воя перамагае агіднага волата цемры. Такое змяшанне і ўзаемная трансфармацыя хрысціянскай і дахрысціянскай традыцый і стварыла надзвычай своеасаблівую тканіну аповесці.

Аповесць пра смаленскага пакутніка Меркурыя нагадвае жыціе паводле сваёй трохчленнай структуры: уступ — апавяданне пра подзвіг — пасмяротныя цуды, аднак жа ў ёй ёсць і летапісныя канструкцыі («В лето 6745. Бысть нахождение...»), што дазваляе ўбачыць сувязь гэтага жыція з летапіснаю Аповесцю пра нашэсце Батыева. Згодна з жыційнай традыцыяй у творы выпісаны вобраз «ідэальнага» святога, беззаганнага рыцара Дзевы-Маці (у некаторых рэдакцыях падкрэсліваецца, што Меркурый прыехаў на службу з Рыма, дзе якраз і быў пашыраны культ Багародзіцы).

Памяць святога пакутніка Меркурыя Смаленскага шануецца 24 лістапада, разам з памяццю Меркурыя Кесарыйскага (III ст.); у жыццях гэтых святых можна прасачыць мноства паралеляў.

Аповесць публікуецца па спісе зборніка ДПБ, Пагод. № 653, арк. 267—280.

С. 118. *...святому мученику Меркурию...* — В. Ластоўскі бачыць у імені Меркурыя, як і ў імені Ільі Мурамца, кансанантыўную аснову -МР- і лічыць, што абодва гэтыя імені «маскуюць сабой з падобнай жа асновай

паганскае імя ці эпітэт бога Грамавіка» (нагадаем, што Ілья Мурамец, герой рускіх былін, кананізаваны Царквой). Гэта, аднак, малаверагодна.

С. 119. *...яко праведник и по смерти жив есть...* — Прам. 5:15.

С. 120. *...Тогда бо восплакася земля...* — тут бачыцца водгалас дахрысціянскага культу зямлі, яе ўвасаблення, што мае аналогіі, напрыклад, у антычнай грэчаскай літаратуры (пар.: «маці сырая зямля» ў Эсхілавай «Арэстэі»). У дадзеным выпадку бачым, што водгулле хтанічнага культу, культу зямлі, суседнічае з хрысціянскай традыцыяй: «Прогнавшей Господа своего и моего Творца — Христа Бога».

С. 121. *...зловернага царя Батыя...* — Батый (Бату) (1208—1255) — мангольскі хан, унук Чынгісхана, з 1243 г. хан Залатой Арды.

*...великий князь Михаил Черниговский блаженноименитый и Феодор, болярин его.* — У 1246 г. у Ардае па загадзе Батыя былі забітыя чарнігаўскі князь Міхаіл Усеваладавіч (нарадзіўся ў 80—90 гг. XII ст.) і баярын Фёдар, які суправаджаў князя ў яго паездцы па ярлык на Чарнігаўскае княжэнне. Загінуўшыя за адмову адцурацца ад хрысціянства, яны былі кананізаваныя.

С. 123. *...призвах тя...от римских пауух.* — У тэкстах некаторых, верагодна, больш ранніх, рэдакцый не гаворыцца пра рымскае ці нямецкае паходжанне героя.

*...тако реченный Долгий мост...* — аўтар выяўляе веданне тапаграфіі горада, што дае ўпэўненасць у смаленскім паходжанні помніка.

С. 124. *...другаго Меркурия мученика...* — маецца на ўвазе Меркурый Кесарыйскі, пра подзвіг якога апавядаецца ніжэй у жыціі.

*...законопреступника царя Иулияна...* — гаворка ідзе пра Юліана Адступніка (331—363), рымскага імператара з 361 г. Атрымаўшы хрысціянскае выхаванне, ён аб'явіў сябе прыхільнікам паганства і выдаў шэраг эдыктаў супраць хрысціян.

*...вшед в полк злобожных варвар...* — у гэтай рэдакцыі аповесці прапушчаны эпізод са з'яўленнем цудоўнага каня, на якім і паехаў у бітву Меркурый. Вобраз каня — адзін з элементаў хтанічнага культу (пар. конь Арыон грэчаскай міфалогіі, конь Одзіна, Сіўка-Бурка славянскага фальклору).

С. 125. *...един варвар лют или сын того исполина...* — паводле іншых рэдакцый помніка Меркурый пасля сваёй перамогі сустрэў прыгожага юнака (ангела?), аддаў яму сваю зброю і быў сцяты ім, як было прадказана яму ад абраза Багародзіцы.

*...побеже от Долгаго мосту...*— у іншых рэдакцыях апавядаецца пра забойства Батыя царом Стафанам «в Униграх».

С. 126. *Гражане же стекошася на сие чудо...*— тут прапушчаны эпізод, дзе гаворыцца пра дзяўчыну, што ішла па ваду, якая стала насміхацца, пабачыўшы абезгалоўленага Меркурыя.

*Святого же Меркурыя тело...положиша во церкви...*— у тэкстах іншых рэдакцый гаворыцца, што Меркурый быў пахаваны самою Багародзіцай ■ архангеламі Міхаілам і Гаўрыілам.

## ЖЫЦІЕ ЛІТОЎСКІХ ПАКУТНІКАЎ

Жыціе віленскіх (літоўскіх) пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўстафія мае вельмі неардынарную гісторыю стварэння. Упершыню напісанае на грэчаскай мове (магчыма, у сувязі з перанясеннем часткі мошчаў у Канстанцінопаль і кананізацыі пакутнікаў патрыярхам Філафеем у 1374 г.), яно было ўнесенае ў грэчаскі Сціпны Сінаксар, адкуль перайшло ў некаторыя спісы паўднёваславянскага Сціпнога Сінаксара не пазней XV ст. Ужо адтуль, відаць, праз пасрэдніцтва Балгарыі, яно прыйшло на Русь, спачатку ў нязменным выглядзе. Ад гэтага паўднёваславянскага тэксту паходзіць і Макар'еўская рэдакцыя XVII ст.; першапачатковы тэкст у ёй сапсаваны, жыціе скарочана і ўвогуле носіць прыкметы Макар'еўскай агіяграфічнай школы.

Незвычайная і сама гісторыя пакутніцтва Кругляца, Няжылы і Кумаца (некаторыя даследчыкі бачаць у гэтых імёнах назвы прыдворных пасад), дакладней, яе прадпасылкі. Пацярпелі яны ў 1346—1347 гг.— у час княжання Альгерда Гедымінавіча, які вядомы сваімі даволі паблажлівымі адносінамі да іншых веравызнанняў: ён меў, напрыклад, дзвюх, адну за адной, жонак-хрысціянак, дазволіў хрысціць сваіх сыноў, а неўзабаве пасля смерці пакутнікаў сам прыняў хрысціянства і, здаецца, перад смерцю пастрыгся ў манахі. Але ж у першыя гады свайго ■лікага княжання Альгерду даводзілася ісці на ахвяры — чужымі жыццямі. Такім чынам, віленскія пакутнікі і сталі ахвярамі не столькі Альгерда, колькі таго палітычнага становішча, якое было ў княстве. Адзначым, што, паводле некаторых рэдакцый жыція, Альгерд рабіў усё ад яго залежнае, каб уратаваць ад пакуты сваіх прыдворных,і быў проста вымушаны даць сваю згоду.

Кананізаваныя віленскія пакутнікі былі прыблізна ў 1354 г., але не пазней 1374 г., ці, паводле іншых звестак, 14 красавіка 1364 г., калі іх

мошчы былі перанесены ў царкву Святога Духа мітрапалітам Аляксеем.

Памяць іх шануецца 14 красавіка — агульная, а таксама: Антонія — 14 студзеня, Іаана — 23 красавіка, Яўстафія — 13 снежня.

Жыціе публікуецца па спісе XVI ст. ДПБ, ОЛДП Q778, арк. 319—324.

С. 135. *...священнику некоему достоинством, именем Нестору...* — іншых звестак пра яго не маем.

*Служаще князю Литовскому...* — маецца на ўвазе Альгерд Гедымінавіч, вялікі князь літоўскі (1345—1377 гг.).

*...иным подобитися, главы же стригомым и брадам.* — Хрысціяне, у адрозненне ад паганаў, насілі бароды і доўгія валасы.

С. 136. *...предлежащих мяс трапезе вкусити...* — у некаторых тэкстах падкрэсліваецца, што гэта было ахвярнае мяса.

## ХАДЖЭННЕ ІГНАЦІЯ СМАЛЯНІНА Ў ЦАРГРАД

Ігнацій Смалянін вядомы сучаснаму чытачу найперш як аўтар дзённіка-«хаджэння» ў Царград; гэтае паломніцтва ён здзейсніў у 1389—1393 гг. у складзе асобаў, якія суправаджалі мітрапаліта Пімена. Свае дарожныя нататкі Ігнацій рабіў па загадзе смаленскага епіскапа Міхаіла.

Пра асобу Ігнація мы ведаем толькі тое, што сам ён піша пра сябе ў сваім дзённіку (які захаваўся ў 24 спісах XV—XVIII стст.), аднак дагэтуль выказваюцца меркаванні, што Ігнацій быў і аўтарам ананімнага хаджэння ў Іерусалім, а таксама і гімнаграфічнага твора «Канон радостен пресвятой Богородице». Ён атаясамліваецца часам і з архімандрытам Ігнаціем, які браў удзел у завяршэнні Троіцкага летапісу.

Існуе дзве рэдакцыі Хаджэння Ігнація Смаляніна, мала аддаленыя адна ад адной па часе свайго стварэння. Першая з іх мае сляды дзённікавых запісаў, адрозніваецца простым і стрыманым дзелавым стылем; другая ж, летапісная, рэдакцыя (у якой няма эпізодаў пра «Печнае дзейства» і дварцовы пераварот, пра які недарэчна было б згадваць у часы Іаана Грознага) напісана болей эмацыянальна. Суадносіны гэтых рэдакцый паказваюць, што хаджэнне Ігнація неаднаразова перапісвалася і дапаўнялася ім самім або пазнейшымі рэдактарамі.

Чалавек назіральны і разумны, Ігнацій падрабязна апісвае не толькі тыя мясціны і помнікі культуры, якія траплялія на яго ным шляху. Ён распавядае і пра сутычкі між мітрапалітам Піменам і князем Дзімітрыем

Іванавічам (Данскім), і пра ўрачыстую сустрэчу Пімена Алегам Іванавічам Разанскім (а гэта ж адлюстроўвала асноўныя праблемы часу адразу пасля Кулікоўскай бітвы). Не абмінае Ігнацій увагаю і дынастычную барацьбу ў Візантыі; ён падрабязна, у дэталях апісвае чын вянчання на царства, выяўляючы сябе падарожнікам дасціпным і цікаўным.

Хаджэнне Ігнація Смаляніна ў Царград (першай рэдакцыі) публікуецца па спісе XV ст. Бібліятэкі Акадэміі навук Расіі, г. Санкт-Пецярбург 16.8. 13, арк. 90—105 адв

С. 144. *В неделю Фомину...* — першая нядзеля пасля Вялікадня.

*...три стругы да насад...* — стругам называлася парусна- веслярнае судна з завостранымі канцамі (да 45 метраў даўжынёю); насадам — судна з нарошчанымі бартамі.

*В неделю же святых Мироносиц...* — трэцяя нядзеля пасля Вялікадня.

*...Мечю и Сосну...* — рэкі, прытокі Дняпра.

*...устьа Воронажа...* — Варонеж — прыток Дона.

*...на святаго Николы...* — маецца на ўвазе свята перанясення мошчаў Нікалая Мірлікійскага (9 мая 1087 г.).

*...в неделю же Самаряныни...* — пятая нядзеля пасля Вялікадня.

*...реку Медведицю...* — прыток Дона.

С. 145. *...канун Възнесения Христова...* — 14 мая.

*Неделю святых отец...* — сёмая нядзеля пасля Вялікадня.

С. *...под Оваком...* — г. Азоў, які ў той час належыў генуэзцам.

*...в сандалцех...* — род судна, шаланда.

*...фрязи...нашего святителя митрополита имше и сковаша...* — у 1379 г. Пімен выпрашыў стаць мітрапалітам замест памерлага ў дарозе каломенскага святара Дзімітрыя Іванавіча, і дзеля дасягнення мэты пазычыў (і не паспеў аддаць) у генуэзскіх гандляроў вялікія грошы; цяпер жа ён быў схоплены крэдыторамі і, як вынікае з далейшага апавядання, мусіў заплаціць доўг.

*...Озачьского моря...* — Азоўскага мора.

*...Кафинский лимен и Сурож.* — Керчанскі праліў і Судак.

С. 146. *...к Петрову дни...* — маецца на ўвазе першы дзень Пятровага посту (за першай нядзеляй пасля Пяцідзесятніцы).

*...святаго Феодора Тирина...* — гаворка ідзе пра пакутніка Феодара Цірона (памёр каля 306 г.).

*...на Рождество Иоана Предтечи...* — 24 чэрвеня.

*...вести о Амарате...* — маецца на ўвазе турэцкі султан Мурад I

(1359—1389 гг.), забіты Мілашам Абілічам; у 1389 г. ён ішоў вайною на аб'яднаныя сілы сербаў, албанцаў і валахаў і разбіў іх на Косавым полі.

*...Сергий Азаков...* — архімандрыт Спаскага манастыра ў Маскве.

*...праздник святых апостол...* — гаворка ідзе або пра свята Пятра і Паўла (29 чэрвеня), або пра сабор 12 апосталаў (30 чэрвеня).

*...Марии Египетской...* — найпадобнейшая Марыя Егіпецкая (памерла ў 522 г.).

*...святаго Арсениа патриарха...* — пра якога святога ідзе гаворка — няясна.

С. 147. *...именуется Подромио.* — Маецца на ўвазе іпадром.

*...святаго Иоана Продромио...* — Іаана Прадцечы (Хрысціцеля).

*...шедше в Лахерьну...* — Іпахернская царква была дамовай царквой візантыйскіх імператараў.

*...великого Коньстянтина и Феодосиа Малого...* — Канстанцін І Вялікі (каля 285—337 гг.) — рымскі імператар з 306 г.; Феадосій І (каля 346—395 гг.) — рымскі імператар з 378 г.

*...святой Спиридон и Полиект...* — святы цудатворца Спірыдон, епіскап Трыміфунцкі (памёр каля 348 г.) і святы пакутнік Паліеўкт (памёр у 259 г.) ці іншы Паліеўкт (V ст.).

*...святаго Григория Богослова...* — Грыгорый Назіянзін (каля 330 — каля 390 гг.) —грэчаскі паэт і празаік, царкоўны дзеяч і філосаф, адзін з айцоў Царквы, епіскап горада Назіянза ў Малой Азіі.

С. 148. *...главы святых Сергеа и Вакха и Якова Перьскаго...* — пакутнікі Сергій і Вакх (290—303 гг.), свяшчэннапакутнік Іакаў прэсвітэр (памёр каля 345 г.).

*...прииде Михаил владыка...* — гаворка ідзе пра смаленскага епіскапа Міхаіла.

*...Иоана Постника...* — найпадобнейшы Іаан (памёр каля 590 г.).

*...священномученика Григория...* — епіскап Грыгорый, які асвятліў Вялікую Арменію (памёр каля 335 г.).

*...святый Аверкие в теле...* — мошчы роўнаапостальнага цудатворцы Аверкія, епіскапа Іерапольскага (памёр каля 167 г.).

*...мощи святаго Стефана...* — пра першапакутніка Стафана гл.: Дзеі 6—8.

*...ходихом в Певлепто...* — манастыр Перыўлепты (Траяндафіліца), створаны ў 1031 г.

*...лоб Стефана Новаго...* — найпадобнейшы пакутнік Стафан Новы (памёр у 767 г.).

С. 149. *...митрополита Киприана...* — Кіпрыян, балгарын паходжаннем (каля 1336—1406 гг.), рускі мітрапаліт у 1381—1382 гг, і з 1390 г., ініцыятар складання Троіцкага летапісу, аўтар жыція Пятра, многіх пасланняў.

*...к Белуграду...* — Белгарад-Днястроўскі, былы г. Акерман.

*...пророка Даниила...* — святы прарок, пра якога апавядаецца ў біблейскай кнізе Данііла.

*...писание Луки евангелиста...* — Лука, аўтар аднаго з Евангелляў і Дзеяў апостальскіх.

*...како рядят в пещь святых 3-ю отрок...* — так званае «печнае дзейства» — царкоўны спектакль-міракль, што паказваў легенду аб Божым заступніцтве над трыма юнакамі, якіх хацеў спаліць за іх веру цар Навуходаносар (гл.: Дан. 3).

*...мощи святыя Анастасия й главу святаго Игнатия Богоноснаго...* — якая святая Анастасія маецца на ўвазе — няясна. Ігнацій Баганосца — свяшчэннапакутнік (памёр у 107 г.).

*...Андроников сын Калоан нача искати в Цариграде царства...* — дынастычная барацьба за візантыйскі імператарскі пасад. Калаян (Іаан) Андронікавіч скінуў у 1391 г. свайго дзеда Іаана V Палеалога, а пасля сам быў скінуты сваім дзядзем Мануілам II Палеалогам.

С. 150. *...от Лимноса на катаргах...* — Лімнас — востраў у Эгейскім моры. Катарга — галера (тып судна).

С. 151. *...святым Антонием патриархом...* — Антоній IV, канстанцінопальскі патрыярх.

С. 152. *...фелонец мал...* — фелонь — верхняе адзенне без рукавоў.

## ПЭРЭГРЫНАЦЫЯ МІКАЛАЯ КРЫШТАФА РАДЗІВІЛА

Аўтарам знакамітай «Пэрэгрынацыі...» быў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка (1549—1616) — сын лідэра беларускай Рэфармацыі, князя Мікалая Радзівіла Чорнага (1612—1665). Ён выхоўваўся ў кальвінскім духу, у асяроддзі адукаваных пратэстанцкіх літаратараў Дж. Бландрата, Ф. Станкара, Я. Тэнанда, Дж. Шомана і інш., запрошаных у Нясвіж для працы над перакладам біблейных тэкстаў, якія пазней былі надрукаваныя ў вядомай Берасцейскай Бібліі 1563 г. М. К. Радзівіл Сіротка (гэтую мянушку даў яму вялікі князь Жыгімонт Аўгуст) атрымаў бліскучую адукацыю спачатку ў бацькоўскім доме, а затым у славутым Ляйпцыгскім

універсітэце. Пасля заканчэння універсітэта юнак доўгі час вандраваў, наведаў ледзьве не ўсе краіны Заходняй Еўропы.

У 18-гадовым веку М. К. Радзівіл паступіў на дзяржаўную службу. Вялікі князь Жыгімонт Аўгуст ля 1567 г. прызначыў яго надворным маршалкам.

Пад час Полацка-Інфлянцкай вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўшчынай М. К. Радзівіл удзельнічаў у аблозе Улы (1569) і вызваленні Полацка (1579) ад маскоўскіх захопнікаў. У момант штурму Полацкага замка быў цяжка паранены ў нагу.

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, М. К. Радзівіл меў някепскія здольнасці дыпламата. У 1573 годзе ён узначальваў пасольства ў Парыж да Генрыха Валуа, якому перадаў запрашэнне нашых радных паноў на вялікакняскі прастол.

У сталым веку М. К. Радзівіл займаў найгалоўнейшыя пасады ва ўрадзе Вялікага княства — троцкага ваяводы (з 1590 г.) і віленскага ваяводы (з 1604 г.).

Напрыканцы 60-х гадоў XVI ст. М. К. Радзівіл пад уплывам Скаргі, Камендонія і Гозія прыняў каталіцкае веравызнанне. Неўзабаве пасля гэтага князь перадаў славутую Нясвіжскую друкарню свайго бацькі віленскім езуітам.

Падарожжу ў Ерусалім, здзейсненаму ў 1582—1584 гадах, М. К. Радзівіл прысвяціў сваю «Пэрэгрынацыю...», якая ўпершыню выйшла ў свет на лаціне ў 1601 г. у Бруксбергу («Hierosolymitana peregrinatio ill. p. Nicolai Christophori Radziwili, ducis in Olyka, epistolis comprehensa»).

Пазней «Пэрэгрынацыя...» двойчы перавыдавалася на лаціне, у 1610 і 1753 гадах. На польскай мове вядома восем выданняў «Пэрэгрынацыі...» (Кракаў, 1607, 1609, 1611, 1617, 1628, 1683, 1745; Вроцлаў, 1847).

У першай палове XVII ст. з 4-га польскага выдання 1617 г. з'явіўся пераклад «Пэрэгрынацыі...» на расейскую мову. На абшарах Маскові твор доўгі час распаўсюджваўся ў рукапісах. Захавалася шэсць яго спісаў. У 1879 г. паводле аднаго са старажытных маскоўскіх арыгіналаў «Пэрэгрынацыю...» М. К. Радзівіла апублікаваў П. А. Гільтэрбрандт («Похождение в Землю Святую князя Радивила Сиротки: 1582—1584». Спб, 1879).

Пераклад на сучасную беларускую мову, які друкуецца ў гэтай кнізе, зроблены паводле выдання: Mikolaja Krzysztofa Radziwila Pi-

elgrzymka do Ziemi Świętej. Tłómaczona przez X. Andrzeja Wargockiego. Wrocław, 1847*.

С. 166. *Альфонс, кароль Арагонскі* — Альфонс V Вялікі або Велікадушны (1396—1458), кароль Арагона і Сіцыліі (1416—1458), упершыню прыняў тытул «караля абедзвюх Сіцылій», апякун навукаў і мастацтваў, усталяваўшы пышны двор у Неапалі, значна спрычыніўся да развіцця італьянскага гуманізму.

С. 167. *Крыт* — востраў у Міжземным моры, у 1204 годзе заваяваны крыжакамі, якія прадалі яго Венецыі. Пад час падарожжа М. К. Радзівіла належаў Венецыянскай рэспубліцы.

*...ад Караля Я. М. ...* — Сцяпан Баторы (1533—1586), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1576—1586), меў рэзідэнцыю ў Горадні.

*Канстантынопаль* — (цяпер Стамбул) — у 1453—1923 гадах сталіца Асманскай імперыі, сядзіба турэцкага султана.

*Алеп* (цяпер Халеб (Алепа) — горад на паўночным захадзе Сірыі, у 1516—1918 сталіца правінцыі ў Асманскай імперыі.

*Чаўш* (тур. çavus) — у Асманскай імперыі — ніжэйшы прыдворны службовец, целаахоўнік, кур'ер.

*Янычары* (тур. yeniçeri — новае войска) — рэгулярная пяхота ў турэцкім войску ў XVI — XIX стагоддзях, наёмны корпус, які складаўся з дзяцей хрысціянаў, адабраных ад бацькоў і выхаваных мусульманамі. Дзякуючы рашучасці і адданасці янычараў Асманскай імперыі ўдалося пашырыць свае валоданні на шырокіх абсягах Азіі, Афрыкі і Еўропы.

*Турэцкая брама* (або Асманская порта) — афіцыйная назва турэцкага імператарскага двара.

С. 170. *...у цяпліцах Яварайскіх...* — курорт Явараў (цяпер Львоўская вобласць), з славутымі мінеральнымі крыніцамі.

*...вайна ... Літоўская за Інфлянты...* — адна з кампаніяў Лівонскай вайны (1558—1583). У 1576—1577 гадах расейскае войска заняло амаль усё Задзвінне.

*...князь маскоўскі...* — Іван IV Жахлівы.

*...кароль Сцяпан пад Гданьскам стаяў...* — у красавіку — жніўні 1577 года Сцяпан Баторы з войскам аблажыў Данцыг, жыхары якога не прызналі ягонага выбрання каралём Рэчы Паспалітае.

*Рыгор XIII* — Уго Буонкампаны (1502—1585), 224-ты папа рымскі

---

* Прадмова да каментарыя Івана Саверчанкі.

(1572—1585), актыўны дзеяч Контррэфармацыі, ініцыятар «направы» Юліянскага календара — у 1582 годзе ўвёў новы, паводле яго названы, Грэгарыянскі каляндар.

*Палестына* — у 1516—1918 гадах належала Асманскай імперыі.

С. 171. *...вайна Маскоўская...* — пад час чарговай ваеннай кампаніі ў 1579 годзе войска пад кіраўніцтвам караля Сцяпана вярнула заняты расейцамі Полацак.

*Пайгак* — цяжкая агнявая зброя.

*Венецыя* — порт у паўночнай Італіі, у VIII — XVIII стагоддзях — цэнтр магутнай Венецыянскай Рэспублікі.

С. 172. *...пад Псковам...* — у верасні — студні 1581 года войска караля Сцяпана стаяла аблогай пад Псковам.

С. 173. *...направа календара...* — па кансультацыях з экспертамі папа Рыгор XIII булаю ад 24 лютага 1582 года «адмяніў» 10 дзён — пасля 4 кастрычніка 1582 года наступным днём было 15 кастрычніка.

*Ламбардыя* — правінцыя ў Італіі (з сталіцай у Мілане), у 1535—1714 гадах належала Іспанскаму каралеўству.

С. 174. *Верона* — горад на паўночным усходзе Італіі, ад 1405 года належаў Венецыі.

*Мікалай дэ Понтэ* — дож Венецыі (1578—1585).

*Пракуратар Святой Зямлі* — упаўнаважаны каталіцкіх уладаў у Палестыне.

*Гвардыян* (іт. guardiano) — прыор каталіцкага кляштара.

*Галеон* (іт. galeone) — чатырохмачтавая галера, іспанскі гандлёвы карабель, на якіх вывозілі золата з Амерыкі.

*Патрон* (іт. patrono] — капітан гандлёвага флоту.

*Істрыя* — паўвостраў на Адрыятычным узбярэжжы.

*Кіпр* — востраў у Міжземным моры, ад 1489 года належаў Венецыі, у 1571 годзе заваяваны туркамі.

*Александрыя* — порт у Егіпце на Міжземным моры ў дэльце Ніла.

*Егіпет* — быў далучаны да Асманскае імперыі ў 1517 годзе, стаўшыся яе правінцыяй.

*Рагуза* (цяпер Дуброўнік, Харватыя) — горад у Далмацыі, ад 1526 года быў пад адміністрацыяй Асманскае імперыі, захоўваючы пры гэтым поўную незалежнасць.

*Карцыра* (цяпер Керкіра,або Корфу, Грэцыя) — востраў у Іянічным моры, у XVI стагоддзі належаў Венецыі.

С. 179. *Маламока* — порт пры выхадзе з Венецыянскай затокі ў Адрыятычнае мора.

*Затока Тэргестынская* — Трыесцкая затока ў Адрыятычным моры (лац. Tergeste Трыест).

*Парэнцый* (цяпер Порэч, Харватыя) — горад на паўвостраве Істрыя на Адрыятычным моры.

*Далмацыя* — гістарычная вобласць. Адрыятычнае ўзбярэжжа Харватыі, у 1420—1797 гадах належала Венецыі (апроч Рагузы).

*Зара* (цяпер Задар, Харватыя) — горад у Далмацыі, у 1409—1797 гадах належаў Венецыі.

С. 180. *Барка* (іт. barca) — лодка, шлюпка.

*Прэтар* (іт. pretore) — міравы суддзя.

С. 181. *Дзень Святога Марка* — 25 красавіка.

*Св. Сымеон, трымаў Хрыста на руках сваіх* — гл. Лука 2.25—34.

*Балёна* (цяпер Влёра, Албанія) — порт у паўднёвай Адрыятыцы, у XV стагоддзі нейкі час кантраляваўся Венецыяй.

*Цэфалонія* (цяпер Кефалінія, Грэцыя) — востраў у Іянічным моры, у XVI стагоддзі належаў Венецыі.

*Зацынт* (цяпер Закінф, Грэцыя) — востраў у Іянічным моры, у XVI стагоддзі належаў Венецыі.

С. 182. *Аркадыя* — гістарычная вобласць у цэнтры паўвострава Пелапанэс, якая належала Асманскай імперыі.

*Страфады* — астравы ў Іянічным моры насупраць затокі Кіпарысіякос у Грэцыі.

*Калаеры* (грэч. καλογεροσ) — праваслаўныя манахі.

*Выспа Сапіенцыя* (цяпер Сапьендза, Грэцыя) — востраў у Іянічным моры, недалёка ад мыса Акрытас.

С. 183. *Гара Мэтапаін* — мыс Тэнарон (Матапас) на поўдні Пелапанэса.

*Цытэрэя* (цяпер Кітыра, Грэцыя) — востраў пры паўднёвым узбярэжжы Пелапанэса, у XVI стагоддзі належаў Турцыі.

*Манлійская гара* — мыс Малея на поўдні Пелапанэса.

*Кандыя* (цяпер Іракліён, Грэцыя) — галоўны горад Крыта, заснаваны арабамі ў IX стагоддзі, у 1204—1669 гадах належаў Венецыі; радзіма іспанскага мастака Эль Грэка (1541—1614).

С. 184. *Гартына* — старажытны горад на Крыце, разбураны арабамі ў IX стагоддзі. Руіны, якія Радзівіл ідэнтыфікуе як Гартыну, відавочна,

належаць іншаму даўно знікламу гораду — Кносу, славутаму сваім Лабірынтам.

*...якое цар Таўрус...* — Зеўс, закаханы ў Еўропу, дачку Агенора, легендарнага цара фінікійскага, ператварыўся ў быка (лац. taurus), выкраў яе і перавёз на Крыт.

С. 185. *Святы Ціт* — (I стагоддзе) грэк, паплечнік Св. Паўла ў яго падарожжах, адрасат аднаго з Саборных пасланняў, біскуп Крыта.

*Выспа Стандыя* (цяпер Дыя, Грэцыя) — выспа ў Крыцкім моры, насупраць порта Іракліён.

*Карпаты і Род* (цяпер Карпатас і Родас, Грэцыя) — астравы ў Эгейскім моры, у 1522—1912 гадах належалі Асманскай імперыі.

*Мора Ліцыйскае, мора Памфілійскае* — часткі Міжземнага мора паміж астравамі Родас і Кіпр, прылежныя да Лікіі і Памфіліі — гістарычных абласцей у Малой Азіі.

*Паф* (цяпер Пафас, Кіпр) — порт на паўднёвым усходзе Кіпра, у старажытнасці месца культу багіні Афрадыты.

*Леміс* — (цяпер Лімасол, Кіпр) порт на поўдні Кіпра.

С. 186. *...князя фларэнцкага...* — Франчэска дэ Медычы (1541—1587), вялікі князь тасканскі (1574—1587).

*Маслочнік* — наркаман.

*Майдын* (ар. miyyidi, мн. л. mayadi) — дробная манета.

*Маслок* — наркотык.

С. 187. *Лерніка* (цяпер Ларнака, Кіпр) — порт у Кіпры.

*Турэцкая вайна* — вайна за Кіпр паміж Венецыянскай рэспублікай і Асманскай імперыяй у 1570—1571 гадах, якая скончылася перамогаю туркаў.

*Кады* (ар. dâdi) — мясцовы ўрадовец, які выконвае цывільную, судовую і рэлігійную ўладу.

С. 188. *Нікозія* — горад, цяперашняя сталіца Кіпра.

*Міля валошская* — 1472 м.

С. 189. *Яфа* (цяпер Яфо, Ізраіль) — порт у Палестыне, біблейная Ёпія (гл. Ёна 1.3, Іс. Нав. 19.46, 2Пар. 2.15, Эзра 3.7, Дзеі 9.36,38,42,43, 10.5,8,23,32,11. 5,13).

*Цэзарэя* (цяпер Кесар'я, Ізраіль) — або Цэзарэя Палестынская, пор у Палестыне, заснаваны Ірадам Вялікім, разбураны мусульманамі ў 1265 годзе, біблейная Кесарыя (гл. Дзеі 8.40, 9.30, 10.1, 24, 11.11, 12.19, 18.22, 21.8, 16, 23.23,33, 25.1, 4,6, 13).

*Мыс Кармэль* — мыс у Палестыне, на ім цяперашні горад Хайфа.

*Пталемаіда* — (цяпер Ако, Ізраіль) — або Пталемаіда Фінікійская, порт у паўночнай Палестыне. Біблейная Ако (гл. Суд. 1.31) і Пталемаіда (гл. Дзеі 21.7).

*Сарэпта Сідонская* (цяпер Ас-Сарафанд, Ліван) — порт у Фінікіі паміж Тырам і Сідонам (гл. 3Цар 17.9, 10, Аўд 1.20, Лука 4.26).

*Міля польская* — 7146 м.

*Цэзарэя Кападоцкая* (цяпер Кайсэры, Турцыя) — горад у Малой Азіі, сталіца Кападокіі, радзіма Васіля Вялікага. У тэксце, відавочна, маецца на ўвазе Цэзарэя Філіпава (цяпер Баніяс, Сірыя) — горад ля вытокаў Іярдана, біблейная Кесарыя Філіпава (гл. Мацв. 16.13, Марк 8.27).

*Берыт* (цяпер Бейрут, Ліван) — старадаўні фінікійскі порт. Паводле легенды, Св. Юры забіў тут смока, якому мелася быць ахвяраваная тутэйшая прынцэса.

*Друзіяне* — рэлігійная секта, якая ўзнікла з мусульманскага руху ісмаілітаў, дактрына якой улучыла ў сябе элементы месіянізму, гнастыцызму і неаплатанізму, друзы вераць у перасяленне душаў. Выгнаныя артадаксальнымі мусульманамі з Егіпта, знайшлі прытулак у Сірыі і Ліване (1017 год — пачатак летазлічэння ў друзаў).

*Сарацыны* — імя, якім еўрапейцы ў сярэднявеччы называлі мусульманаў Усходу, Магрыбу і Іспаніі.

С. 190. *Карвасэры* (тур. kervansaray) — караван-сарай, заезд.

*Саліман, імператар турэцкі* — Сюлейман I Велікапышны (1494—1566), султан Асманскай імперыі (1520—1566), за часы панавання якога імперыя зазнала найбагацейшы перыяд сваёй гісторыі, значна пашырыўшы свае валоданні. Рэфармаваў дзяржаўнае заканадаўства, апекаваўся навукамі і мастацтвамі.

*Санджак* (тур. sancak сцяг) — адміністрацыйная адзінка ў Асманскай імперыі, кіраўнік такой адзінкі.

*Паша* (тур. paşa) — найвышэйшы ўрадавы тытул у Асманскай імперыі.

*Персідская вайна* — вайна Асманскай імперыі з персідскім шахам Абасам I дынастыі Сафавідаў, які імкнуўся пашырыць сваю імперыю, заснаваную на містычнай ідэі шыіцкае Персіі ў супрацьстаянні суніцкай Турцыі.

С. 191. *Дамашак* (цяпер Дамаск, Сірыя) — горад у Сірыі, у 1516—1918 гадах буйны цэнтр Асманскай імперыі (У Бібліі — гл. Быц. 14.15, 15.2, 2Цар. 8.6, 3Цар. 11.24, 4Цар. 16.9, Іс. 7.4,8, 8.4, 10.9, Дзеі 9.2, 3.8,10, 19.22,27, 22.5,6,10, 11, 26.12, 20, 2Кар. 11.32, Гал. 1.17).

*Арабы мараніты* (назва — ад імя манаха Марона (V ст.), заснавальніка секты) — каталікі ўсходняга абраду Сірыі і Лівана, якія захавалі сірыйскую латургію і ўтвараюць адну з уніяцкіх цэркваў. Ад XIII стагоддзя падпарадкоўваюцца папу рымскаму.

С. 192. *Мадрэў* — лістоўніца.

*Баальбэк* — горад ва ўсходнім Ліване, дзе захаваліся руіны рымскіх святыняў I — III стагоддзяў, якія Радзівіл называе палацам Саламона.

*Цэлесірыя* — даліна (цяпер Бекаа) паміж горнымі масівамі Ліван і Антыліван.

С. 193. *Галілея* — гістарычная вобласць у паўночнай Палестыне.

*Гара Табор* — гара за 9 км на ўсход ад Назарэта. (У Бібліі — гл. Іс. Нав. 19.22, Суд. 4.6, 8.18, Пс. 88.13, Ер. 46.18, Ос. 5.1.)

*Пётра Бэлоній Цэнаман* — П'ер Бэлон (1517—1564), французскі падарожнік, які аб'ехаў Еўропу, вялікую частку Азіі і Паўночную Афрыку. У 1547—1548 гадах наведаў Грэцыю, Сірыю, Палестыну. Свае назіранні апісаў у кнізе «Les observations de plusieurs singularités et choses mémorables, trouvées en Grèce, Asie etc.» («Назіранні над шматлікімі дзівосамі і памятнымі рэчамі, знойдзенымі ў Грэцыі, Азіі і г. д.»), выдадзенай у Парыжы ў 1553 годзе.

С. 194. *Нукер* (тур. nuker) — целаахоўнік.

*Тыкей* (ар. takiyya) — заезд, гасцявы прытулак.

С. 195. *...на якой ... Каін забіў Авеля...* — гл. Быц. 4.8.

С. 196. *Сем-братоў-заснулых* — сем маладых хрысціянаў, якія за часы імператара Дэцыя (III ст.) былі замураваныя ў пячоры ў Эфесе (Малая Азія), дзе заснулі і праз два стагоддзі прачнуліся (гл. Каран, Сура 18).

С. 197. *Цэкін* (іт. zecchino) — старадаўняя венецыянская залатая манета, якая хадзіла ў Італіі і на Усходзе.

С. 198. *Дом Юдаў* — нейкага Юды,жыхара Дамаска, гл. Дзеі 9.11.

*...крыніца, у якой Св. Паўла хрысцілі...* — гл. Дзеі 9.18.

*...дзе Св. Паўла спусцілі ў кашы...* — гл. Дзеі 9.25.

*Дом Ананіяў* — гл. Дзеі 9.10.

С. 199. *Машкарнікі* — убраныя ў маскі.

С. 200. *маўза* (ар. mawza) — банан.

*Св. Еранім* — у 382—406 гадах пераклаў Біблію на лацінскую мову. Пераклад гэты, званы Вульгатай, прызнаны афіцыйным біблейным тэкстам Каталіцкае царквы.

С. 201. *...дзе Св. Апостал Паўла навярнуўся...* — гл. Дзеі 9.3—8.

*Св. Алена* — маці рымскага імператара Канстанціна Вялікага, каля 326 года наведала Палестыну. З яе імем традыцыйна звязваюць пабудову шматлікіх цэркваў і культавых будынкаў у Палестыне, узведзеных у IV — VII стагоддзях.

С. 205. *Сінай* — паўвостраў паміж затокамі Суэц і Акаба.

*...санджака Газанскага...* — Газа — порт у Палестыне (у Бібліі — гл. Быц. 10.19, Іс. Нав. 11.42, Суд. 1.18, 16.1,21, 1Цар. 6.17, 3Цар. 4.24, Ер. 25.20, Ам. 1.6,7, Саф. 2.4, Зах. 9.5, Дзеі 8.26 і інш.).

*Танаітэра* (цяпер Кунэйтра, Сірыя) — горад у паўднёва-заходняй Сірыі.

С. 206. *...мост Якуба патрыярха...* — мост праз Іярдан, за 15 км на поўнач ад Тыверыядскага возера, збудаваны каля 1300 года.

*Ярдан* (цяпер Іярдан) — галоўная рака Палестыны, цячэ з гораў Антылівана і ўпадае ў Мёртвае мора.

*Генісарэт* — Галілейскае мора, Тыверыядскае возера — возера на ізраільска-сірыйскім памежжы, вакол яго шмат мясцінаў, звязаных з дзейнасцю Ісуса Хрыста.

*Харазін* — горад на поўнач ад Тыверыядскага возера (гл. Мацв. 11.21, Лука 10.13).

С. 207. *Мельхіседэк* — гл. Быц. 14.18.

*Машэя* (іт. moschea) — мячэць.

С. 208. *Бэтсаіда* — горад на беразе Тыверыядскага возера (гл. Ян 1.44, Мацв. 11.21, Марк 6.45, 8.22, Лука 9.10, 10.13).

*...дзе Госпад наш перамяніўся...* — гл. Мацв. 17.1 і далей, Марк 9.1 і далей, Лука 9.28 і далей, 2Пят. 1.16 і далей.

*Места Сэфэр* — Сэфэрыя, Сэфорыс, горад у Галілеі за 6 км за паўночны захад ад Назарэта, традыцыйна лічыцца месцам нараджэння Марыі.

*Царыца Эстэр* нарадзілася ў дыяспары.

*...замак Махеронт, які грэкі называюць Сэбастэ, дзе Св. Ян Хрысціцель быў сцяты...* — Сэбастыя (цяпер Сабастыя, Заходні бераг Іярдана, колішняя Самарыя, сталіца Ізраільскага царства), дзе пабудаваў свой палац Ірад Вялікі і дзе быў пакараны Ян Хрысціцель, знаходзіцца значна далей на поўдзень — недалёка ад цяперашняга Наблуса.

С. 209. *Зынін* (цяпер Джанін, Заходні бераг Іярдана) — горад па дарозе з Назарэта ў Ерусалім. Біблійны Эн-Ганнім (гл. Іс.Нав. 15.34, 19.21, 21.29).

*Мушкатэля* (іт. moscatello) — гатунак вінаграднага віна.

С. 210. *Сіхар* (цяпер Наблус, Заходні бераг Іярдана) — старажытны

горад у Самарыі, пазней называны Флавія Нэапаліс (адкуль сённяшняе Наблус), біблійныя Сіхем і Сіхар (гл. Быц. 12.6, 33.18, 34.2, 48.22, Іс.Нав. 20.7, 21.20,21, 24.32, Суд. 9.7, Пс. 59.8, 3Цар. 12. 25, Ер. 41.5, Ос. 6.9, Ян 4.5, Дзеі 7.16).

*Самарыя* — горад і гістарычная вобласць у сярэдняй Палестыне.

*Мамелюк* — коннік імператарскай гвардыі ў Асманскай імперыі.

*Самарытанін* — жыхары Самарыі — асобная этнічная і рэлігійная група. У аснове веравызнання — Пяцікніжжа Майсеева.

*...горы Гарызім і Гэбал...* — горы, між якімі стаіць цяперашні Наблус. Гл. Друг. 11.29, 27.12, Іс.Нав. 8.33.

С. 211. *...калодзеж, пры якім Госпад наш з самарытанкаю гаварыў...* — гл. Ян 4.1—30.

*Ерыхон* (цяпер Арыха, Заходні бераг Іярдана) — старажытны горад, першы здабыты гэбраямі ў заваёве Абяцанай Зямлі. (Гл. Ліч. 22.1, 26.3, Друг. 34.1,3, Іс.Нав. 4.13, 6.24,26, 18.21, 3Цар. 16.34, 4Цар. 2, Мацв. 20.30, Лука 19, Гэб. 11.30.)

*Дактылі* (лац. dactylus — ▪ грэцкай) — фінікі.

С. 212. *...замак Саулаў Габаа...* (цяпер Тэль-эль-Фуль, Заходні бераг Іярдана) — горад на поўнач ад Ерусаліма, у якім пэўны час жыў цар Саул (Гіва — гл. Суд. 19.14,20, 1Цар. 10.26, 11.4, 13.2,14, Іс. 10.29).

С. 213. *Брама Рыбная* — брама ў паўночным муры Ерусаліма. Гл. 2Пар. 33.14, Неем. 3.3, 12.39.

*Брама Дамашская* — брама на поўначы Ерусаліма.

С. 214. *Ляік* — міранін.

*...мясціны Сольныя на Кіпры...* — відаць, Саламіна, старадаўні горад на Кіпры на паўночны ўсход ад Фамагусты, руіны элілістычнай і раманскай эпохі.

*Фамаўгуста* (цяпер Фамагуста) — горад на Кіпры.

*Нешпар* — вячэрняя багаслужба.

С. 215. *...слуп, пры якім Госпада нашага бічавалі...* — гл. Мацв. 27.26, Марк 15.15, Ян 19.1.

*Поўная прошча* — поўны адпуст грахоў.

*Язэп з Арыматэі* — Мацв. 27.57, Марк 15.43, Лука 23.50, Ян 19.38.

*Прошча* — адпуст грахоў.

*Св. Лонгін, які Госпаду Ісусу бок дзідаю прабіў* — гл. Ян 19.34.

*...жаўнеры за адзенне Госпаднее жэрабя кідалі...* — гл. Мацв. 27.35, Марк 15.24, Лука 23.34, Ян 19.23.

С. 216. *Сірыя Фініцкая* — старажытная Фінікія, якая за часы Хрыста належала да рымскай правінцыі Сірыі.

*...абісінцы, або мурыны...* — эфіопы, хрысціяне-монафізіты.

С. 217. *Ян Прэсвітэр, або цар Папіян* — у часы Крыжовых паходаў — легендарны ўладар краінаў Усходу, якія ляжаць за Арменіяй і Персіяй. Пазней партугальскія падарожнікі сталі называць так эфіопскіх негусаў (імператараў), адкуль краіна Яна Прэсвітэра — Абісінія (Эфіопія).

С. 218. *...геаргіяне, што пры моры Эўксінскім жывуць...* — грузіны.

*Пяцігорцы* — татары пяцігорскай арды.

*...Господа... масцямі пахучымі памазаў...* — гл. Ян 19.40.

С. 219. *...камень... на якім анёл сядзеў...* — гл. Мацв. 28.2.

*Копты, або халдэі* — егіпецкія хрысціяне-монафізіты.

*Марыя Магдаліна, калі гаварыла з ім* — гл. Ян 20.14—17.

С. 220. *Гадзіны* — малітвы ў пэўныя гадзіны.

С. 221. *Сірыяне, або якубіты* — паслядоўнікі сірыйскай монафізіцкай царквы, заснаванай у VI стагоддзі Якубам Барадаем.

*Бальдвін кароль* — Бадуэн I (1058—1118), першы кароль крыжацкага Ерусалімскага каралеўства (1100—1118).

*Годфрыд Булоній* — Годфруа дэ Бульён (1061—1100), брат Бадуэна I, адзін з палкаводцаў першага крыжовага паходу (1096—1099).

*Адрыхом* — К. фон Адрыхум (1533—1585), у 1584 годзе выдаў працу «Ierusalem, sicut Christi tempore floruit, et suburbanorum, insigniorumque historiarum eius brevis descriptio» («Ерусалім, як ён за Хрыстовых часоў квітнеў, а таксама прадмесцяў і гістарычных памятак ягоных кароткае апісанне»).

С. 223. *Рэфекторый* — агульная ядальня ў кляштары.

С. 224. *Анна біскуп* — гл. Ян 18.13.

*Брама Давідава, або брама Сіёнская* — брама ў паўднёвым муры Ерусаліма, дарога праз якую вядзе да гары Сіён.

*Сіён* — назва старажытнай цытадэлі ў Ерусаліме, здабытай Давідам. Імя гэтае перайшло пасля на гару Святыні, на ўвесь Ерусалім, а ў хрысціянаў нават і на Ерусалім нябесны.

*Дом Каяфаў* — адразу за Давідавай брамай. Гл. Мацв. 26.57, Ян 18.13.

*...тыя жанчыны Святыя казалі: хто нам камень адваліць...* — гл. Марк 16.3.

*...Святы Пётра пры агні выракся Господа...* — гл. Мацв. 26.69-75, Марк 14.66-72, Лука 22.55-62, Ян 18.25-27.

*Святая Вячэрня* — пакой, дзе адбылася Апошняя Вячэра Хрыста з апосталамі.

С. 226. *Брама Святога Сцяпана* — брама ва ўсходнім муры Ерусаліма.

*...Сад, дзе Госпада схапілі...* — пры вёсцы Гефсіманія, гл. Мацв. 26.47-56, Марк 14.43-50, Лука 22.47-54, Ян 18.1-12.

*Даліна Ясафатава* — даліна на ўсход ад Ерусаліма, у якой цячэ паток Кедрон, паміж Ерусалімам і Аліўнай гарой (гл. Іаіль 3.2,12, 2Пар. 20.26).

*Гара Аліўная* — гара на ўсход ад Ерусаліма (гл. 2Цар. 15.30, 4Цар. 23.13, Зах. 14.4, Мацв. 21.1, 24.3, Марк 11.1, 13.3, 14.26, Лука 19.29,37, 21.37, 22.39, Ян 8.1, Дзеі 1.12).

*Гефсіманія* — вёска на заходнім схіле Аліўнай гары (гл. Мацв. 26.36, Марк 14.32).

С. 227. *...дзе знямoжаных сном Госпад чуйнаваць заклікаў...* — Мацв. 36.46, Марк 14.32-42, Лука 22.39-46.

*...дзе Юда Госпада пацалаваў...* — гл. Мацв. 26.49, Марк. 14.45, Лука 22.47.

С. 228. *Магіла Найсвяцейшае Дзевы* — на заходнім схіле Аліўнай гары, на поўнач ад Гефсіманіі.

*Кедрон* (цяпер Нахаль Кідрон) — паток на ўсход ад Ерусаліма.

*Камень медыяланскі* — у гатычнай міланскай катэдры, якую пачалі будаваць у 1386 годзе.

С. 229. *Крыніца Смокава* — Эн-Рогель, крыніца на паўднёвы ўсход ад Ерусаліма (гл. Іс.Нав. 15.7, 18.16, 2Цар. 17.17, 3Цар. 1.9).

*...дзе ... прарок Ісая напалам пілою быў перарэзаны...* — гл. Гэбр. 11.37.

С. 230. *...поле Акелдама...* — на поўдзень ад Ерусаліма, гл. Мацв. 27.7-8, Дзеі 1.19.

*Смеццевая брама* — Гнойная брама, брама ў паўднёвым муры Ерусаліма (гл. Неем. 2.13, 3.13,14, 12.31).

С. 231. *...рыцары Гроба Гасподняга...* — Ордэн рыцараў Гроба Гасподняга заснаваў у 1496 годзе папа Аляксандр VI.

*Селім першы* — Селім I (1467—1520), асманскі султан (1512—1520). За часамі яго панавання да імперыі былі далучаныя Курдыстан, Верхняя Месапатамія, Сірыя і Егіпет.

С. 238. *Бэтанія* (цяпер Эль-Айзарыя, Заходні бераг Іярдана) — вёска за 5 км ад Ерусаліма па дарозе ў Ерыхон (гл. Мацв. 21.17, 26.6, Марк 11.1,11,12, 14.3, Лука 19.29, 24.50, Ян 11.1-46, 12.1).

С. 239. *...камень размовы, на якім Госпад... з Магдалінай пра смерць Лазараву гаварыў...* — Гл. Ян 11.20-27.

С. 240. *Вёска Бэтсагія* — вёска каля Бэтаніі (гл. Мацв. 21.1, Марк 11.1, Лука 19.29).

С. 242. *...дзе... Найсвяцейшая Дзева Хрыста... Богу ахвяравала...* — гл. Лука 2.21-39.

*Залатая брама* — брама ва ўсходнім муры Ерусаліма.

*...месца каменавання ... Св. Сцяпана* — гл. Дзеі 7.55-60.

*Брама Яфрэмава* — гл. 4Цар. 14.13, Зах. 14.10.

*Быдлячая купальня* — купальня Бэтэсда каля Авечае брамы (гл. Ян 5.2).

С. 243. *Пілат ... сказаў: Вось чалавек.*— гл. Ян 19.5.

С. 245. *Палац Ірадаў* — збудаваны Ірадам Вялікім у І стагоддаі да н. э., рэзыдэнцыя рымскіх намеснікаў.

*Сымон Кіранеец* — гл. Мацв. 27.32.

*...багатага любаярніка, які Лазара міласэрнасцю надарыць не схацеў...* — гл. Лука 16.19.

*Гара Кальварыя* — Галгота, месца ўкрыжавання Хрыста (гл. Мацв. 27.33, Марк 15.22, Ян 19.17,20,41, Гэбр. 13.12).

*...калі Госпад казаў да іх: «Дочкі Ерусалімскія...»* — гл. Лука 23.28.

С. 247. *Макабеі* — іудзейскі род, які ўзначаліў у ІІ ст. да н. э. вызвольную барацьбу гэбраяў супраць Сірыйскага панавання.

С. 248. *Дом Злое Рады* — на поўдзень ад Ерусаліма, за далінай Хіном.

С. 249. *...дом... што Прароку Абакуму належаў, які... Анёлам быў узяты і ў Халдэю занесены...* — гл. Дан. 6.16-24.

*...дзе Рахіль Веніяміна нарадзіла...* — гл. Быц. 35.16.

*Магіла Рахілі* — па дарозе з Ерусаліма ў Бэтлеем (гл. Быц. 35.19).

С. 252. *Немаўляткі, Ірадам забітыя* — гл. Мацв. 2.16—18.

*...дзе патрыярх Якуб пасвіў свой статак...* — гл. Быц. 29 і 30.

*...дзе ў сне Анёл Язэпа намовіў...* — гл. Мацв. 2.13.

С. 253. Гара Энгады — на беразе Мёртвага мора, славутая бальсанам, пальмамі і вінаграднікамі (гл. Песня Песняў 1.13).

*Лот, уцякаючы з Садома* — гл. Быц. 19.

С. 254. *Магілы Патрыярхаў* — у пячоры Махпела каля Хэброна.

*...дзе Абрагам трох Анёлаў бачыў...* — гл. Быц. 18.

*...дзе Ісак абрэзаны быў...* — гл. Быц. 21.4.

*Хэброн* (цяпер Эль-Халіль, Заходні бераг Іярдана) — старажытны

горад у горнай Іудзеі, рэзыдэнцыя Давіда ў часе яго царавання над Іудзеяй.

С. 256. *Цэрацыя, сіліква сірыйская* — дрэва з саладжавымі струкамі (Ceratonia siliqua L.), якімі, паводле падання, жывіўся Ян Хрысціцель, адкуль назва Хлеб Св. Яна (гл. Лука 15.16).

*Места Юдзіна* — адаін з морадоў калена Юдзінага, паводле некаторых меркаванняў, на месцы цяперашняга паселішча Байт-Сахур (ар. Дом Захарыі), гл. Лука 1.39.

*...дзе Найсвяцейшая Дзева Альжбету наведвала...* — гл. Лука 1.39-56.

*Магніфікат* — гл. Лука 1.46.

С. 257. *Гара Гіён* — гл. 3Цар. 1.33,38,45, Сір. 24.29.

*Субаша* — або падпаша, намеснік пашы.

*Мёртвае мора* — называлася таксама Салонае мора (гл. Быц. 14.3, Ліч. 34.3,12, Друг. 3.17), Мора Раўніны (гл. Іс. Нав. 3.16, Друг. 3.17, 4.49), Мора Пустэльні (гл. 4Цар. 14.25), Усходняе мора (гл. Іаіль 2.20, Зах. 14.8, Ез. 47.18). Грэкі і рымляне называлі яго Асфальтавае возера. Найбольшае возера Палестыны, 430 м ніжэй за ўзровень Міжземнага мора.

*Літостратас* — гл. Ян 19.13.

С. 259. *...пасля смерці Караля Аўгуста...*— Жыгімонт Аўгуст (1520—1572), вялікі князь літоўскі (1529—1572) і кароль польскі (1530—1572). Валерыян Пратасэвіч (1504—1579), біскуп віленскі ад 1556 года.

С. 260. *Селім* II — Селім II (1524—1574), асманскі султан (1566—1574). Панаваў нядбала дзеля разгулу і п'янства. Пры ім быў заваяваны Кіпр (1570).

*Гавур* (тур. gâvur) — пагардлівае слова, якім называліся немусульмане.

С. 261. *...агонь з неба пяць местаў спаліў...*— гл. Быц. 19.

*Георгі Цэдрэн* — візантыйскі летапісец, манах, які жыў на пераломе XI і XII стагоддзяў. Аўтар кампіляцыі «Усеагульная гісторыя ад стварэння свету да 1057 года».

С. 263. *...дзе Госпада Нашага Св. Ян хрысціў...* — гл. Мацв. 3.13-17, Марк 1.9-11. Лука 3.21-22.

С. 265. *...дом тае распусніцы Раау...* — гл. Іс.Нав. 2.1 і далей, 6.16 і далей.

*...жытло Захеева...* — гл. Лука 19.1-10.

С. 266. *...крыніцы, ваду ў якой Елісей соллю аздаравіў...* — гл. 4Цар. 2.19-22.

*...гара Квадрантэна, дзе Госпада Нашага сатана спакушаў...* — гара Сарака Дзён (гл. Мацв. 4.1-11, Лука 4.1-13).

С. 270. *...дзе... Госпад умыў Апосталам ногі...* — гл. Ян 13.1-20.

*...магіла Давідава* — на гары Сіён.

С. 272. *...дзе... Госпада Нашага ў белыя шаты выстраілі...* — гл. Лука 23.11.

С. 273. *Ірад Аскалонік* — Ірад Вялікі (73—4), цар іудзейскі (40—4), вызначаўся незвычайнай жорсткасцю. Нарадзіўся ў Аскалоне.

*Ірад Антыпа* — Ірад Антыпа (4 да н. э.— 39), тэтрарх (чацвераўладнік) Галілеі і Перэі, сын Ірада Вялікага.

*Гара Марыят* — адзін з узгоркаў Ерусаліма, на ім стаяла Святыня Саламонава.

С. 276. *Пастар новага Евангелля* — пратэстанцкі святар.

С. 279. *Імператар Рымскі* — Рудольф II Габсбург (1552—1612), імператар Святой Рымскай імперыі германскага народа (1576—1612).

С. 282. *Кафеі* — копты.

С. 287. *Магіла Самуіла прарока* — у Раме (цяпер Рамот, Заходні бераг Іярдана). Гл. 1Цар. 25.1.

*Мястэчка Эмаус* (цяпер Эль-Кубайба, Заходні бераг Іярдана) — мясцовасць за 10 км на поўнач ад Ерусаліма (гл. Лука 24.13 і далей).

С. 288. *...даліна Дуба, дзе Давід Галіяфа забіў...*— гл. 1Цар. 17. Месца бітвы Давіда з Галіяфам знаходзіцца ў іншым месцы.

С. 289. *Рама* (паводле апісання — цяперашні Рамаллах) — горад на поўнач ад Ерусаліма. Дакладная ідэнтыфікацыя біблійнае Рамы спрэчная.

С. 290. *Нікадым* — гл. Ян 3.1, 7.50, 19.39.

*Лука* — горад у Італіі (Таскана).

С. 291. *...Апостал Св. Павел Табіту памёрлую ўваскрасіў...*— гл. Дзеі 9.36.

*...ротмістр Карнэль з Цэзарэі...* — гл. Дзеі 10.1-8.

*Ліда* (цяпер Лод, Ізраіль) — горад па дарозе з Ерусаліма ў Яфу (гл. 1Пар. 8.12, Езд. 2.33, Дзеі 9.32).

*Каір* — горад, заснаваны ў 969 годзе на поўдні ад дэльты Ніла, на правым яго беразе і астравах. У 1517 годзе заваяваны Асманскай імперыяй, якая валодала ім да Напалеонавых экспедыцыяў 1798—1801 гадоў.

*Даміята* (цяпер Дум'ят, Егіпет) — горад на ўсходзе дэльты Ніла.

С. 294. *Сідон, Тыр* — старадаўнія фінікійскія гарады ў цяперашнім Ліване.

1173), рабін і падарожнік, наведаў і апісаў «усіх гэбраяў Майсеевай веры, раскіданых па зямной паверхні».

*Міцраім* — гэбрайская назва Егіпта.

С. 335. *Кандызаты* (ням. Kandis ад ар. qandî) — глазураваныя цукрам яблыкі, вішні ды іншыя плады.

*Канфекты* (ням. Konfekt) — цукеркі.

С. 336. *машкара* (іт. maschera) — маска.

*...зямля Гесэн, якую фараон быў даў Якубу патрыярху...* — частка Егіпта, дзе жылі Якуб і яго нашчадкі (гл. Быц. 45.10, 47.1, 27, Вых. 8.22, 9.26).

С. 337. *Хіна* — Кітай.

*Назарэя* — паводле падання, Марыя з дзіцем жыла ў Матарэі (цяпер Эль-Матарыя, Егіпет), горад на паўночны ўсход ад Каіра.

С. 345. *Арабія* — Аравійскі паўвостраў.

*Мека* — рэлігійная сталіца ісламу (Саудаўская Аравія).

*Суэс* — (цяпер Суэц) горад у Егіпце пры Чырвоным моры. Ведамы ад X стагоддзя.

*Султан Гавур* — Кафур, уладар Егіпта (памёр у 968 годзе).

*Арамэля* — медрэсэ султана Хасана, збудаванае ў сярэдзіне XIV стагоддзя.

С. 346. *Гямаласар* — Аль-Азхар (ар. gâm ul-azhâr), мячэць і універсітэт у Каіры, заснаваныя ў 973 годзе.

С. 347. *Зуэля* — мячэць каля брамы Зуэля (ар. Bâb az-Zuwayla).

*Султан Кампсон, або Тамбэй* — Кансух (1440—1516), егіпецкі султан, саюзнік Персіі ў змаганні з Асманскай імперыяй. Пераможаны Селімам I, загінуў каля Алепа (Сірыя).

*Сарафія* — мячэць Аль-Ашраф у Каіры, збудаваная ў першай палове XV стагоддзя.

*Якуб, кароль кіпрыйскі* — кароль крыжацкага Кіпрскага каралеўства. Кіпр быў анэксаваны егіпецкімі мамелюкамі ў 1424—1426 гадах.

*Асан султан* — султан Егіпта ў сярэдзіне XIV стагоддзя.

С. 349. *Sit fides penes illos* (лац.) — хай яны адказваюць за праўдзівасць.

*Марасэн* — мячэць, маўзалей і шпіталь, збудаваныя ў 1284—1285 гадах на загад султана Калауна.

*Гямалісон* — магчыма, адна з найбольшых каірскіх мячэцяў — Аль-Мардані, збудаваная ў першай палове XIV стагоддзя.

*Гямахішон* — магчыма, мячэць Ібн-Тулуна, збудаваная ў 879 годзе.

С. 351. *Дэрвіж* (цяпер Трэвіза, Італія) — горад на поўначы Італіі.

*In foro Julii* — у гістарычнай вобласці Фрыулі (лац. Forum Iulii).

С. 355. *Каразіва* (іт. corrosivo) — едкае рэчыва, пратрава.

С. 359. *Стары Каір* — Фустат, заснаваны ў 639 годзе.

С. 360. *...што аднолькавую з абісінцамі веру маюць...* — копты, як і абісінцы — хрысціяне-монафізіты.

С. 361. *Вялікі пост турэцкі* — святы месяц рамазан.

С. 364. *Пампеева калона* — калона Пампея, або Дыяклетыяна, антычны помнік у Александрыі.

С. 366. *Выспа Фар* — на востраве Фар каля 280 года да н. э. быў збудаваны Александрыйскі маяк — адно з сямі цудаў свету (у 1302 годзе разбураны землятрусам).

С. 367. *Імператар Амурат* — Мурат III (1546—1595), асманскі султан (1574—1595).

С. 368. *Шкуд (іт.* scudo) — старадаўняя манета.

С. 370. *...слуп высокі чатырохкантовы...* — абеліск, накшталт таго, што быў прывезены ў 1831 годзе з Луксора ў Парыж і пастаўлены на пляцы Згоды.

С. 371. *...вязніцу, у якой Св. Катарына сядзела...* — Св. Катарына — дзяўчына, якая выйграла дыспут з паганскімі філосафамі і была знявоʼленая.

*Св. Марк Евангеліст* — быў пакутна забіты ў Егіпце. Патрон Венецыі, куды ягонае цела было перавезенае ў IX стагоддзі.

С. 373. *Марэотыс, або Арэпотэн* — лагуна на егіпецкім узбярэжжы, аддзеленая ад Міжземнага мора касою, на якой стаіць Александрыя.

С. 374. *...стары порт, які Антоні ад новага аддзяліў...* — старая Александрыя была злучаная з востравам Фар штучнай грэбляй, якая дзяліла порт на дзве часткі.

С. 376. *Гішпанцы* — Іспанія за часы караля Філіпа II (1556—1598) ваявала з Асманскай імперыяй.

*...фларэнційскія...* — Фларэнцыя ў апісваныя часы была саюзніцай Іспаніі.

*...караблі Св. Сцяпана...* — рыцарскі ордэн Св. Сцяпана быў створаны ў XVI стагоддзі для барацьбы з піратамі.

С. 377. *Цэкайз* (ням. Zeughaus) — памяшканне, дзе захоўвалася зброя і амуніцыя.

*Гэльвэцыя* (лац. Helvetia) — Швейцарыя.

С. 378. *першы год пантыфікату папы Пія Пятага* — 1556.

С. 380. *Лямпарт* — леапард.

С. 382. *...птушка, якую Бог гэбраям у пустэльні даў...* — гл. Вых. 16.13.

С. 385. *Сагіцыя* (іт. sagitta) — страла.

*Масылія* (цяпер Марсэль) — порт на поўдні Францыі.

С. 386. *Каналіміёні (згадвае пра яго і Св. Лука)* (цяпер Калі-Лімэнэс, Грэцыя) — порт на поўдні Крыта (Добрыя Прыстані, гл. Дзеі 27.8).

С. 387. *Архіпелаг* — Эгейскае мора.

*Св. Герман* — агні Св. Германа (Св. Эльма) аптычная з'ява, звязаная з атмасфернай электрычнасцю.

Ст. 388. *Трынкет* (іт. trincchetto) — ветразь на фок-мачце.

*Выспа Кас* (цяпер Касас, Грэцыя) — востраў паміж Карпатасам і Крытам.

С. 389. *...дзе... нарадзілася і гадавалася Мінерва...* — магчыма, Радзівіл меў на ўвазе Венеру, якая нарадзілася з марскога шумавіння на берагах Кіпра.

С. 390. *Мыс Саламонаў* — на паўночна-ўсходнім беразе Крыта (гл. Дзеі 27.7).

*Сіцыя* (цяпер Сітыя, Грэцыя) — мясцовасць на ўсходзе Крыта.

С. 391. *Армуз* — востраў і порт на ім у Армузскай пратоцы, якая злучае Персідскую затоку з Аманскай. Ад 1512 года пад кантролем Партугаліі.

*Гоя* — партугальская калонія ў Заходняй Індыі (1510—1962), сталіца партугальскіх валоданняў Усходу.

*...пасуху перайшлі...* — гл. Вых. 14.

С. 392. *кароль гішпанскі* — Філіп II (1527—1598), кароль іспанскі (1556—1598).

*Неграпонт* — Чорнае мора.

*...з тым народам туркі ў прыязні жывуць...* — Францыя выступала ў саюзе з Турцыяй супраць Іспаніі.

С. 393. *Корф* — востраў Керкіра.

*Наварыя* — порт на паўночным захадзе паўвострава Пелапанэс.

С. 399. *Кампастэла* — горад у Галісіі (Іспанія), дзе, паводле легенды, пахаваны адзін з апосталаў, Св. Якуб-старэйшы. Месца паломніцтва католікоў.

С. 400. *Страдыёты* (гр. στρατιωτης) — воін, жаўнер.

С. 406. *Рэтым* (цяпер Рэтымнон, Грэцыя) — горад на паўночным беразе Крыта.

С. 407. *Патмос* — востраў у Эгейскім моры, дзе Ян евангеліст напісаў Апакаліпсіс.

*Канэя* (цяпер Ханья, Грэцыя) — порт на Крыце.

С. 409. *Выспа Міло* — востраў Мілос у Эгейскім моры, дзе ў 1820 годзе была знойдзеная славутая статуя Венеры.

С. 411. *Казакі Нізавыя* — казакі Запарожскае Сечы.

С. 419. *Мора Каронскае* — цяпер затока Месініякос у Іянічным моры.

*Карон* — горад на поўдні паўвострава Пелапанэс.

С. 420. *Метона* (цяпер Метоні, Грэцыя) — горад на паўднёвым захадзе паўвострава Пелапанэс.

*Мора Аркадыйскае* — цяпер затока Кіпарысіякос у Іянічным моры.

*...Юрыя Радзівіла Рыгор XIII... кардыналам учыніў* — малодшы брат Мікалая Крыштафа Радзівіла Юры (1556—1600) быў прызначаны кардыналам у 1583 годзе.

С. 421. *Магістра* (іт. maestra) — прамы ветразь на грот-мачце.

С. 422. *Мора Карынтыйскае* — Карынфская затока ў Іянічным моры.

*...дзе армада хрысціянская... туркаў разбіла* — маецца на ўвазе бітва пад Лепантам (1571), калі хрысціянскі флот Святой Лігі (Іспанія, Венецыя, Святы Пасад) разбіў турэцкі флот Алі-пашы. Гэтая перамога, хоць і не мела ніякіх практычных вынікаў, паклала канец легендзе аб непераможнасці турэцкага флоту.

*Наўпакт* (цяпер Нафпактас, іт. Lepante) — горад у Грэцыі над Карынфскай затокай.

*Віскарда* (цяпер Фіскардан, Грэцыя) — мясцовасць на поўначы вострава Кефалінія.

*Пэтылія (радзіма Хілона філосафа)* — Хілон — адзін з сямі вялікіх грэцкіх мудрацоў (VI стагоддзя да н. э.).

С. 423. *Мора Албанскае* — затока ў Іянічным моры.

С. 424. *Гідрунт* (цяпер Атранта, Італія) — горад у Апуліі, на беразе Іянічнага мора.

С. 425 *Батарга* (іт. bottarga) — паюсная ікра.

*Апулія* — гістарычная вобласць у Італіі, ад XII стагоддзя належала Неапальскаму каралеўству.

*Бар* (цяпер Бары) — порт у Апуліі.

*Выспа Фана (караля гішпанскага).*

Ст. 426. *Артэмон* (іт. artimone) — бізань.

*Тэрцэрола* (іт. terzaruolo) — рыф у ветразя.

С. 427. *Ормэзар* (іт. ormeggiare) — швартаваць.

С. 295. *Панорм* — магчыма, Палерма, горад на востраве Сіцылія.

С. 298. *Лістра і Дэрвія* — гарады ў Лікаоніі (Малая Азія). Гл. Дзеі 14.6, 20, 16.1.

С. 302. *Шкоты* — вулічныя гандляры, латочнікі.

С. 304. *Джэрма* (ар. jerm) — лодка, барка.

С. 306. *Мыс Феліс* (цяпер Гата) — мыс на паўднёвым беразе Кіпра.

С. 308. *Банацыя* (іт. bonaccia) — штыль.

С. 309. *Карамужаны* — невялікія судзіны.

С. 310. *Пэлюзій* (цяпер Тэль-Фарама) — порт у Егіпце на самым усходнім рукаве дэльты Ніла.

*Брама Пэлюзійская* — усходняе рукаво Ніла.

С. 311. *Сэрбін* (цяпер Шырбін) — горад на рукаве Дум'ят дэльты Ніла.

С. 313. *Александрыя* — горад на захадзе дэльты Ніла, заснаваны Аляксандрам Вялікім у 332—331 гадах, адзін з найбуйнейшых культурных асяродкаў антычнасці і эпохі элінізму ў Міжземнамор'і.

С. 315. *Булгах* (цяпер Булак) — горад на Ніле, цяпер адно з прадмесцяў Каіра.

*Кінацэфал* (гр. κυνοκεφαλος) — сабакагаловая малпа.

*Барбарыя* — зямля бербераў у Паўночнай Афрыцы.

*Расэт* (цяпер Рашыд) — горад у Егіпце на захадзе дэльты Ніла.

С. 316. *Холм, места рускае* — горад у Валыні (Чырвонай Русі), цяпер — цэнтр ваяводства ў Польшчы.

С. 318. *...перш чым дзяржава тая перайшла ў бязбожныя рукі сарацынаў...* — Фустат (Стары Каір) быў закладзены ў 639 годзе арабскім заваёўнікам Амрам (поўнасцю Егіпет быў заваяваны арабамі ў 642 годзе), таму хрысціянскіх пабудоваў дамусульманскага часу ў ім быць не магло.

С. 324. *Мульхіяс... што значыць мера* — мерня паводдзяў на Ніле на востраве Мік'я, збудаваная ў 716 годзе.

С. 327. на Св. Андрэя — 30 лістапада.

С. 328. *Мемфіс* — старажытны горад у Егіпце, заснаваны ў III тысячагоддзі да н. э. на левым беразе Ніла на паўднёвы захад ад Каіра. Пасля заснавання Александрыі ў 332—331 гадах страціў значэнне.

*...семнаццаць пірамідаў ацалела...* — ацалела сем пірамідаў з XXVIII — XVI стагоддзяў да н. э. Найбольшыя з іх — Хеопса (вышыня 146,5 м), Хэфрэна (143,5 м) і Мікерына (66,5 м).

С. 332. *Гэбрай Бэньямін* — Бэньямін з Тудэлы (Іспанія, памёр у

*Лецый* (цяпер Лечэ) — горад у Апуліі.

*Віцэ-рэкс* — намеснік іспанскага караля, адміністратар Каралеўства Абедзвюх Сіцыліяў, якое належала іспанскай кароне.

С. 428. *Месыян* (цяпер Мэзанье) — горад у Апуліі.

*Астуна* (цяпер Астуні) — горад у Апуліі.

С. 428. *...места каралевы Боны...* — Бона Сфорца (1494—1557), другая жонка вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога, у 1556 годзе вярнулася ў Італію, дзе і памерла.

С. 429. *Манаполь* (цяпер Манаполі) — горад у Апуліі.

*Моль* (цяпер Мола ды Бары) — горад у Апуліі.

*...магілу Св. Мікалая мірэйскага біскупа...* — Св. Мікалай, біскуп мірлікійскі, у дзіцячай міфалогіі паўночных краінаў — калядны дзед.

*Мальфэта, Барлета* — гарады ў Апуліі.

*...дзе Ганібал над рымлянамі...: перамогу меў...* — пад час другой Пунічнай вайны ў 216 г. да н. э. у Канах каля Барлеты Ганібал перамог рымскую армію.

*Фоджыя* (цяпер Фоджа) — горад у Апуліі.

*Ганна, каралева польская* — Ганна Ягелонка (1523—1596), каралева польская (1575—1596), дачка Жыгімонта I і Боны, жонка Сцяпана Баторыя ад 1576 года.

С. 430. *Места Св. Северына* (цяпер Сан-Сэвэра) — горад у Апуліі.

*Сэра, места Ганзагаў* (цяпер Сэракапрыёла) — горад у Апуліі. Ганзагі — уплывовы італьянскі род, уладары Мантуі.

*Тэрвімы* (цяпер Тэрмолі) — горад у вобласці Молізэ ў цэнтральнай Італіі.

*Гваста* (цяпер Васта) — горад у Абруцы.

*Абруцыі* — Абруцы, гістарычная вобласць у цэнтральнай Італіі.

*Сляпы роў* (цяпер Фосачэзія) — горад у Абруцы.

*Артона* — горад у Абруцы.

*Княгіня Пармская Маргарыта Аўстрыйская* — Маргарыта Пармская (1522—1586), генерал-губернатар Нідэрландаў (1559—1567). Пасля палітычных закалотаў выехала ў Італію.

*Пішкарыя* (цяпер Пескара) — цэнтр Абруцы.

С. 431. *Гара Сільван* (цяпер Монтэсільвана) — мясцовасць у Абруцы.

С. 436. *Сан Анджэла* — мясцовасць у Абруцы.

*Падкароль неапалітанскі* — віцэ-рэкс.

С. 437. *Анкона* — порт у цэнтральнай Італіі у вобласці Марке.

*Адрыя* (цяпер Атры) — горад у Абруцы.

*Джулія Новая* (цяпер Джуліянова) — горад у Абруцы.

С. 438. *...дзе канчаюцца межы караля гішпанскага...* — рака Тронта аддзяляе тэрыторыю Каралеўства Абедзвюх Сіцыліяў ад Папскай вобласці.

С. 439. *Грот* (цяпер Гротамарэ) — горад у Марке.

*Порт Фармансκі* (цяпер Фэрма) — горад у Марке.

*Ларэт* (цяпер Ларэта) — горад у Марке.

С 442. *Фактар* (іт. fattore) — агент, упаўнаважаная асоба.

*Сенагалія* (цяпер Сенігалія) — горад у Марке.

*Фана* (цяпер Фана) — горад у Марке.

*Пізаўр* (цяпер Пезара) — горад у Марке.

С. 443. *Католіка* — горад у вобласці Эмілья-Раманья.

*Арымін* (цяпер Рыміні) — горад у Эмільі-Раманьі.

*Чэзенага* (цяпер Чэзенатыка) — мясцовасць у Эмільі-Раманьі.

*Равэна* — горад у Эмільі-Раманьі.

*Кіёза* (цяпер К'ёджа) — горад у вобласці Венецыі.

*Аргента* (цяпер Арджэнта) — горад у Эмільі-Раманьі.

*Ферара* — горад у Эмільі, у 1240—1597 у валоданні роду Эстэ.

*Рака Пад* (цяпер По) — рака ў паўночнай Італіі.

С. 444. *Каліопаль* (цяпер Галіполі) — порт у Апуліі.

С. 445. *Трыдэнт* (цяпер Трэнта) — горад на рацэ Адыджэ (Італія).

*Энапонт* (цяпер Інсбрук) — горад у Аўстрыі.

*Галя* (цяпер Зольбад-Галь) — горад на рацэ Ін у Аўстрыі.

## ТЭАДОР БІЛЕВІЧ

### ДЗЁННІК, ПІСАНЫ Ў АНГЛІІ ПРА ТОЕ, ЯК ТАМ ВАНДРАВАЛАСЯ І ЖЫЛОСЯ

Тэадор Білевіч — імя новае для сучаснага чытача. І не толькі таму, што мы слаба ведаем айчынную гісторыю. Прычынілася да гэтага і асоба самога аўтара «Дзённіка». Ён не належаў да тых, каму выпала ўславіць сваё імя выключнымі ўчынкамі альбо творчасцю. Тэадор Білевіч быў сціплы прадстаўнік сваёй культуры, культуры контррэфармацыі і барока, якая, між іншым, яшчэ трымалася сярэднявечных ідэалаў ананімнасці, хоць зазнала і рэнесансны смак індывідуалізму. Таму і Тэадор Білевіч не цураецца падрабязнай дзённікавай працы, фіксавання ўласных уражанняў і разважанняў, але разам з тым яму не прыходзіць на думку ідэя

неабходнасці выдання сваёй працы, прынамсі, ён пра гэта не кажа адкрыта. Але з біяграфіі Білевіча мы ведаем, што ён ужо зведаў радасць і асалоду друкавання ўласных твораў — у 1675 годзе ў Вільні ў друкарні Віленскай акадэміі выйшла яго філасофская дысертацыя «Філасофія ў трох частках: рацыянальная, натуральная і маральная».

Тым не менш, ніякіх спробаў надрукаваць свой «Дзённік» Білевіч, здаецца, не зрабіў. Мо гэта можна часткова растлумачыць і тым, што час быў надта ж неспрыяльны для ўсялякіх мастацтваў: Вялікае княства Літоўскае ў той час, калі Тэадор Білевіч зрабіў крок на арэну культурна-грамадскай дзейнасці, залечвала раны ад шматгадовых войнаў з Расіяй і Швецыяй. А войнам, як звычайна, спадарожнічаюць хваробы, пошасці, голад. Менавіта ў сярэдзіне і ў другой палове XVII стагоддзя, калі жыў Тэадор Білевіч, Беларусь страціла больш паловы свайго насельніцтва. Якая ўжо тут літаратура, калі пытанне стаяла так: выжыць альбо не. Гэтыя часы адлюстраваныя славутым польскім пісьменнікам Генрыкам Сянкевічам у рамане «Патоп», адкуль мы шмат можам даведацца і пра старажытны род Білевічаў, з якога паходзіў аўтар «Дзённіка». Сянкевіч узяў сабе жонку з роду Білевічаў, і такім чынам да яго трапіў архіў гэтага роду. Фамільны архіў і стаўся крыніцаю рамана, а адзін з Білевічаў зрабіўся яго галоўным героем. Так што больш поўныя звесткі пра час і сям'ю Тэадора Білевіча можна атрымаць, звярнуўшыся да гістарычнай панарамы Сянкевіча.

Як тыповы прадстаўнік свайго класа і свайго часу, Тэадор Білевіч атрымаў вышэйшую адукацыю ў Віленскай акадэміі на філасофскім факультэце. Яго даволі арыгінальная дысертацыя, якую мы ўжо згадвалі, сведчыць, што ён быў адным з самых вартых студэнтаў. За тры гады навучання (1672—1675) Білевіч добра зарыентаваўся, што з тых навук, якія выкладаліся на факультэце філасофіі, найбольш патрэбна яму дзеля далейшай грамадскай дзейнасці. Ён выбраў этыку, эканоміку і палітыку, якія складалі курс маральнай філасофіі. Таму ў сваёй дысертацыі ён найбольш падрабязна разглядаў менавіта такога роду пытанні, у пэўным сэнсе ідучы нават супраць традыцыі універсітэцкай навукі таго часу, якая захаплялася праблемамі логікі і фізікі. Карысць маральнай філасофіі Білевіч бачыў у тым, што «занятак ёю выхоўвае людзей не толькі адукаваных, але таксама добрасумленных, дабрачынных і адданых справе служэння Айчыне».

Паспяхова скончыўшы акадэмію, Білевіч, як было зазвычаена сярод дастаткова заможнай моладзі, выправіўся ў падарожжа. Падарожжы па

развітых краінах Заходняй Еўропы ўспрымаліся як працяг выхавання — тэарэтычныя веды дапаўняліся практычным досведам, што павінна было стаць своеасабліваю падрыхтоўкай да грамадска-палітычнай дзейнасці. Пра даволі высокае грамадскае становішча роду Білевічаў, а значыць, і яго прадстаўніка Тэадора, сведчыць тое, што ў гэтым падарожжы бралі ўдзел такія асобы, як сястра караля Яна III Сабескага Кацярына Сабеская (у той час ужо прыналежная да іншай магнацкай фаміліі — Радзівілаў, бо з ёй ажаніўся падканцлер і польны гетман Вялікага княства Літоўскага Міхал Казімір Радзівіл).

Выехаўшы разам з Радзівіламі ў канцы лета 1677 года з Вялікага княства Літоўскага, Білевіч вандраваў з імі па Германіі, Чэхіі, Італіі. У Венецыі іх шляхі разышліся, і далей Білевіч паехаў ужо адзін — у Францыю, а потым у Англію, Галандыю і назад дадому. Увесь год, які заняло падарожжа, ён вёў запісы, што і склалі «Дзённік». Напісаны ён быў па-польску са значнай часткаю лацінскіх выразаў, таму яго можна аднесці да твораў макаранічнага стылю, папулярнага ў Еўропе ў той час, калі ўжо пачалі развівацца літаратуры на нацыянальных мовах, але яшчэ моцна нагадвала пра сябе школьная і універсітэцкая лацінская навука. Дарэчы, трэба згадаць, што і дысертацыя Білевіча была, зразумела, напісана на лаціне, бо гэтая мова ў XVII стагоддзі па-ранейшаму заставалася моваю навукі і філасофіі.

Большая частка «Дзённіка» засталася ў рукапісу і зберагаецца цяпер у адной з бібліятэк Польшчы (Biblioteka Raczyńskich. Rps. sygn II. H. d. 24 kart. 98). Меншая частка, якая датычыць падарожжа па Англіі, была надрукаваная ў Познані ў 1929 годзе (стар. 83—98 арыгінала). З гэтага выдання (T. Billewicz. Diariusz czyniony w Angljej jako się pieregrynowalo i mieszkalo. (1678) Poznań. 1929) і зроблены пераклад.

С. 450 *...Мора амывае горад з боку...* — тут Білевіч памыляецца; Лондан стаіць далёка ад мора.

*...цячэ магутная Тама...* — Тэмза.

*...кавалерыстаў-гардукораў...* — ад французск. gardes du corps — гвардзейцы.

С. 452. *...веру кальвінскую...* — англіканскую.

*...бо яна партугалка...* — Кацярына, дачка партугальскага караля Яна IV.

## ЗМЕСТ

Кніга жыцій і хаджэнняў: Пер. са старажытнарус., старабеларус. і польск. / Уклад., прадм. і каментарыі А. Мельнікава.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 503 с., [16] л. іл.— (Літаратурныя помнікі Беларусі).

Ж 94

ISBN 5-340-00760-X.

Упершыню на беларускай мове друкуюцца выдатныя помнікі старажытнабеларускай літаратуры, якія належаць да жанраў жыцій і хаджэнняў. У кнігу ўвайшлі жыціі святых Еўфрасініі Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўраамія Смаленскага, «Падарожжа Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю» і іншыя творы, вядомыя раней толькі вузкаму колу вучоных.

К $\frac{4702120101-009}{М 302(03)-94}$ 118—92

ББК 84Бел7

Літаратурна-мастацкае выданне

**КНІГА ЖЫЦІЙ І ХАДЖЭННЯЎ**

*Укладальнік Мельнікаў Аляксей Анатольевіч*

Рэдактар *У. А. Арлоў*. Мастак *В. К. Латышаў*. Мастацкі рэдактар *В. А. Губараў*. Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*. Карэктар *Л. Т. Калюжная*.

ІБ № 3553

Здадзена ў набор 21.10.91. Падп. да друку 10.09.93. Фармат $70\times108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афс. друк. Ум. друк. арк. 21,70+1,40 укл. Ум. фарб.-адб. 26,95. Ул.-выд. арк. 21,55. Тыраж 13 100 экз. Зак. 1768.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.